# Андрэй Макаёнак



## ЗБОР ТВОРАЎ У ПЯЦІ ТАМАХ

# Андрэй Макаёнак



ТОМ
ДРУГІ
●
П'ЕСЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

# ТАБЛЕТКУ ПАД ЯЗЫК

**КАМЕДЫЯ-РЭПАРТАЖ
У ДЗВЮХ ЧАСТКАХ,
ТРОХ КАРЦІНАХ**

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Уладзімір Андрэевіч Каравай — старшыня калгаса «Маяк».

Дзед Цыбулька — калгаснік-пенсіянер, састарэлы вундэркінд.

Юрка — яго ўнук, студэнт-завочнік, правая рука ў старшыні. Шукае сябе.

Аксана Смятанкіна — маці-адзіночка.

Тамара — яе дачка. З павышаным пачуццём уласнай годнасці. Гордая прынцэса.

Іван Швед — хлопец во!

Лідзія Сямёнаўна — настаўніца. Інтэлігентная.

Васіль — яе сын, студэнт-дыпломнік. Энтузіяст.

Святлана — сакратар-машыністка. Можа быць і пакорлівай.

Канцавы — брыгадзір-аграном. Таксама з пароды энтузіястаў.

Вера Невядомая — бібліятэкар. Знайшла сябе.

Ломцеў — прадстаўнік зверху. Вітаецца і развітваецца з усімі, абавязкова падаючы руку.

Крандзялёў — пенсіянер. Старшыня групы народнага кантролю. Не адзін раз падкаваны. Таму — пільны.

Скаромны — раённы нарыхтоўшчык на камісійных пачатках. З адбіткам прафесіі на твары.

Паляныця — таксама нарыхтоўшчык, з Украіны. Даверлівая душа.

Сяброўка Святланы — больш закаханая за яе.

Сяброўка Тамары — зайздросціць Тамары.

Час і месца дзеі — сучасная вёска.

Архітрудная справа — любіць чалавека.
*У. І. Ленін*

## УВЕРЦЮРА

Хай будзе песня. Хай дзяўчаты яе спяваюць. Задушэўна. Мякка.

Люблю мой край, старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасце,
Слязу нядолі праліла.

Кожны раз, калі я пачую гэтую песню, перада мною ўзнікае, як дзівосны міраж, як дзіцячая казка, вобраз майго роднага сяла, і сэрца пачынае шчымець радасцю жаданай сустрэчы... І няважна — даўно я там быў ці толькі ўчора адтуль.

Не, не забыць мне яго ніколі. Там — радзіма. У душы яна. У памяці. У снах неспакойных. У пастаянным чаканні няясна чаго, у спадзяванні на нешта харошае, радаснае. Нібы вясну чакаю з цёплым ветрыкам і дожджыкам. А можа, першых усходаў, якія потым гіпнатычна вабяць твае вочы, твой пагляд, аж пакуль бледненькія расточкі падымуцца сцябялькамі, а з іх ускалышуцца буйныя каласы — надзея і радасць сялянская.

Стаю я каля станка, ці ў самадзейным заводскім ансамблі народнай песні і танца, альбо сяджу на рыбалцы пад горадам на беразе рукадзельнага мора, я заўсёды адчуваю сувязь, не, не проста сувязь, а роднасць, жывую пупавіну адчуваю, і ад таго так хораша на душы, так спакойна. І наліваецца ў цябе вялікая сіла, і адчуваеш яе кожнаю жылкаю перад высокім небам і ўсім сусветам.

А некалі ўцёк у горад. Са скандалам уцёк. Збег. Вось як яно. Тады горад для мяне быў цудам, казкай, дзівосным міражом і вялікай надзеяй.

Усё збылося. Вось як цяпер: ява — становіцца казкаю, а казка, міраж — яваю.

Прыплюшчыш іншы раз вочы, і перад табою ўзнаўляюцца некалі бачаныя ці міжволі падслуханыя вячэрнія сельскія маленькія інтэрмедыі. Яркія. Сакавітыя...

Вось яны.

Вясна.

Вечар.

Месячык. У нас яшчэ яго маладзіком завуць.

Зорак — поўны кош.

А гукаў!..

Здаецца, усе млеюць ад нейкіх салодкіх пакут жадання: і звонкія цвыркуны, і галасістыя лягушкі, і камары з далікатнымі скрыпкамі. А то раптам, спрасоння ці ад нуды, лянiва завые сабака ці цяжка-цяжка ўздыхне сумная, журботная карова.
А ля самых гародаў плешчацца ў цемені вясенняя паводка. І гракі... Грачыны грай!..
Здараецца і так: раптам на ўсё сяло неспадзявана разносіцца сакавіты, звонкі, галасісты жаночы кліч:
— За-а-ха-а-р! Вячэраць ідзі! А то бульба пераварылася на кісель!.. Дзе ён згінуў?!.
І зноў цішыня, да краёў напоўненая гукамі... А пад кустом яшчэ не расцвіўшага бэзу, на лавачцы — сваё жыццё. У цемені, хоць і прыглядзішся, не ўбачыш (а прыглядацца і не трэба, каб не ўспудзіць), але паўшэпт іх чуваць за вярсту.

Голас дзяўчыны. Руку!.. Руку, руку, Пецят!.. Руку, руку!.. Не трэба так, Пецят!.. Не трэба!.. Не трэба, не трэба, не трэба!.. Ну, што ты робіш, Пецят? Нехарашо так, Пецят!.. Нехарашо, нехарашо... Пецят!.. Блузку!.. Неха... Ой!.. Пе-е-ецят-я!..

Голас хлопца. Ну, во і ўсё!.. І ўсё!.. Любая ты мая! Як хараша!.. Як хараша!..

Голас дзяўчыны. І ўсё-такі нядобра так! Нядобра!

Голас хлопца. Ух ты, малінка мая!..

Голас дзяўчыны. Вот адслужыш у арміі, а сюды ўжо і не вернешся... І малінка табе не трэба будзе...

Голас хлопца. Ну што ты кажаш?! Ну што ты кажаш?

Голас дзяўчыны. Яшчэ два дні, і канчаецца твой водпуск...

Голас хлопца. Ах, канчаецца, канчаецца! Толькі два дзянёчкі!..

Голас дзяўчыны. Я буду чакаць цябе, Пецят! Я буду чакаць. Чуеш? Ты верыш мне, Пецят? Верыш?

Голас хлопца. Ну, канечне, веру, ягадка ты мая! Веру!..

Голас дзяўчыны. Надзька Наталліна таксама чакала... Два гады чакала... Грышку. А ён дэмабілізаваўся — і ў Полацк! На нафтаперагонны...

Голас хлопца. Дык то ж — Грышка! Я ж — не Грышка...

З цемры выходзіць старшыня калгаса Уладзімір Андрэевіч Каравай і студэнт-дыпломнік Васіль. Яны, пэўна міжвольна, падслухалі размову хлопца і дзяўчыны.

Каравай. Вот ёй — веру! А яму — не!

В а с і л ь. Думаеце, цяпер усе хлопцы хлусы? Падманшчыкі?

К а р а в а й. Можа, і не ўсе, а ён — маніць. Не вернецца. Мо і цябе чакае тут каторая, а я затрымліваю? А?

В а с і л ь. Ды не! Што вы! *(Глянуўшы на гадзіннік.)* Пакуль не...

Салаўі спаборнічаюць з лягушкамі ў майстэрстве. Каравай і Васіль заслухаліся.

К а р а в а й. Як стараюцца, спаборнічаюць. А? *(Слухае.)* Дык што, дыпломная работа гатова? Закончана?

В а с і л ь. Яшчэ раз перачытаць і на машынку можна.

К а р а в а й. Аддай нашай Святлане. Я загадаю ёй. Яна граматная машыністка...

В а с і л ь. Я сам... Не трэба загадваць...

К а р а в а й. Ну, глядзі, яна ў нас капрызная... Можа, дапамога якая трэба, дык... вазьмі аванс, а там разлічымся.

В а с і л ь. Закабаліць хочаце?.. Даўжком?

К а р а в а й. Не даўжком, а абавязкам. Грамадзянскім! Ты павінен...

В а с і л ь. Не трэба, як на мітынгу, Уладзімір Андрэевіч. Можна прасцей. Я ўжо здагадаўся, што як спецыяліст я вам вельмі патрэбны. А што далей?

К а р а в а й. Ну, што ж, давай па-дзелавому. Я к табе прыгледзеўся, думаю, з цябе людзі будуць, калі... Дык вось, заканчвай і абараняй свой дыплом і гайда сюды, у наш «Маяк». Напраўленне я арганізую праз міністэрства. Даю табе пасаду — галоўнага інжынера. Аклад — восемдзесят працэнтаў майго — дзвесце сорак. Ніякі завод, ніякае канструктарскае бюро такога акладу табе не дасць. А мы даём, таму што — зарэз. Галава варыць, справу сваю любіш, толк будзе. За дзвесце сорак.

В а с і л ь. Камерцыя? Купляем мазгі? Адпавядае часу. А вы — бізнесмен. Наш, савецкі, вядома. Гэта нават цікава. З вамі будзе весела.

К а р а в а й *(пасміхаецца).* Бачу — нам з табой не размінуцца.

В а с і л ь. А чаму і вы так думаеце пра наша пакаленне? Вот і пра мяне. Быццам нас можна прыманіць толькі доўгім рублём. Ці толькі руб нам трэба?

К а р а в а й. Чаму руб? Руб — не дзеля рубля, а... матацыкл, «Запарожац», магнітафон, транзістар, гітара... Такія рэчы... У наш цывілізаваны век... *(З іроніяй.)* Яны патрэбныя і нават неабходныя.

Васіль. І ўсё? І толькі? Не-е, Уладзімір Андрэевіч! Не! Работу мне па душы. Каб душа гарэла. Каб душа кіпела! Не службу за рубель, а дзела! І такое дзела, каб разгон быў, каб прастор быў марам маім! Каб ні ранкам, ні вечарам спакою не было, каб дух займала, каб дня не хапала, каб папрасіў суткі падоўжыць! А вы адразу ў руку сунеце. *(Пасміхаючыся.)* Скажыце, вы хабар давалі? Вашы восемьдзесят працэнтаў на хабар падобны.

Каравай. О-о! Ды ты — сукаваты! Значыцца, счэпімся. Значыцца — не размінёмся! Ух ты які! Ды табе такі прастор тут будзе, такі разгон, што!.. *(Па сакрэту.)* І на маё жыццё хопіць і на тваё. Друг мой рабінавы!

Васіль. Толькі вот мама...

Каравай. Што — мама?

Васіль. Не хоча, каб я тут заставаўся.

Каравай. Мама? Твая? Але чаму не хоча?

Васіль. Ну... як тут расказаць?.. Вы лепей самі пагаварыце з ёй.

Каравай. Быць таго не можа. Я заўтра ж прыеду да яе.

Васіль. Яна сама да вас прыйдзе. Збіралася.

Каравай. Не можа быць, каб і Лідзія Сямёнаўна...

Непадалёк выбух смеху.
Рагочуць хлопцы. Смяюцца молада, залівіста, задорна.
Васіль насцярожыўся, навастрыў вушы.

Вот паслухай. Я зараз адпушчу цябе. Ты паслухай!..

Каравай адводзіць Васіля.
Нібы дзве птушкі, успуджаныя стрэлам, выбягаюць дзве дзяўчыны — Тамара і яе сяброўка.
А хлопцы там рагочуць.

Тамара. Гэта яны з мяне, з мяне, так?.. З мяне смяюцца?.. А? З мяне? Так? А?..

Гэта пытае пакрыўджаная годнасць Тамары, яе дзявочы гонар.

Сяброўка. У-у, жарабкі!.. Ім палец пакажы, яны суткі ржаць будуць. *(У той бок, дзе рагочуць хлопцы.)* Соль вам у вочы!!! Соль!!! Со-оль!!!

Тамара. Але ж гэта няпраўда, няпраўда, няпраўда! Не было таго! Не было, не было, не было!!!

Сяброўка. Ну і плюнь! Ну і плюнь! Плюнь і разатры! У-у, жарабкі рыжыя! *(Перадражнівае.)* Гы-гы-гы... Го-го-го... Каб ты падавіўся языком сваім! Цьфу! Бугаі-і-і! Кныры-ы! Жарабкі-і-і! Аслы-ы! *(Да Тамары з вялікай цікавасцю.)* А калі і было, дык няўжо гэта... А?

Тамара адмахнулася і пабегла.
Сяброўка, пагразіўшы хлопцам кулаком, таксама бяжыць за Тамарай.

Спачатку ціха ўзнікае недзе песня, а потым гучыць званчэй і званчэй. «Зорку Венеру» пяюць. І не вельмі ясна — дзяўчаты яе спяваюць ці трапіўся такі шчыры транзістар.

Уваходзяць дзве дзяўчыны. Не, спачатку чуваць іх галасы, а потым ужо паказваюцца Святлана з дзяўчынаю. Размаўляюць яны нетаропка, з паўзамі.

Святлана. Зноў позніцца!.. Ну, добра ж... Я ж яму!..

Дзяўчына. Не злуйся на яго. Васіль такі хлопец... Такі!..

Святлана. Ну які ён такі?

Дзяўчына. Ён так цябе любіць!.. Ён любіць цябе так, што зайздрасць бярэ... Аж млосна робіцца...

Святлана. А ты адкуль ведаеш?

Дзяўчына. А хто гэтага не ведае? Усё сяло ведае.

Святлана. Адна я толькі не знаю...

Дзяўчына. Не гаварыў?

Святлана. Не гаварыў.

Дзяўчына. Васіль у калгас вяртаецца, каб толькі каля цябе быць. З дыпломам. Інжынер. Падумаць толькі — та-ка-я любоў!..

Святлана. Уладзімір Андрэевіч яго ахмурыў. А я і ў горад паехала б!..

Дзяўчына. Ты можаш накінуць на яго павадок, і ён, як пакорлівае цялятка, пойдзе за табой, куды павядзеш. І ўпірацца не будзе. *(Уздыхнула.)* Шчаслівая ты...

Святлана. Не, любка мая, не. А яго маці — не любіць мяне.

Дзяўчына. Маці? Настаўніца? Яна баіцца цябе. Лідзія Сямёнаўна кажа, што ты з Васіля вяроўкі будзеш віць. Шкадуе яго. А цябе — баіцца!

Святлана. Ну і хай!.. Буду віць вяроўкі з яго!.. Ды такія мякенькія вяровачкі будуць!.. Ёй на злосць.

Дзяўчына *(прыслухалася)*. Ціха... Нехта ідзе. Ці не Вася?

Нехта набліжаецца з цемнаты. Ён на хаду пакручвае рэгулятар транзістара. Вылавіўшы песню «Ой, рэчанька, рэчанька, чаму ж ты няпоўная», спыняецца.

Святлана. Васіль, ты? Васілёк, ідзі сюды, я з цябе вяровачку буду віць.

Падыходзіць дзед Цыбулька.

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. Ну-ну, давай! Каторая тут хоча вяровачкі віць.

Д з я ў ч ы н а. Ой, ды гэта ж дзед Цыбулька!

С в я т л а н а. Ды яшчэ з транзістарам. Во гэта кавалер!

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. А што? Вот выйшаў унука падмяніць, Юрку. Пакуль ён там з кніжкамі, завочнік жа, дык я тут каля яго дзеўкі пакручуся. Каб не сумавала. І транзістар у яго адабраў. А то ўключа — і глядзіць у кнігу, а бача — фігу! Аб чым яшчэ дзяды прымяніцельна к нам гаварылі: не хачу, маўляў, вучыцца, а хачу жаніцца! А мы цяпер перад вамі фармуліруем так: кніжка ў сумцы, а цыцка на думцы!

С в я т л а н а. А ты, дзядуся, вясёлы! Пабудзь з намі за кавалера.

Д з я ў ч ы н а. А то ходзім як непрыкаяныя.

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. Ах вы, ластавачкі! Ах вы, сінічкі-перапёлачкі! Вярнуць бы мне маладосць... О-о-о!.. Як бы я вас прыкаяў! *(Ушчыкнуў дзяўчат, і тыя аж завіскаталі.)* Во, здаецца, Васіль ваш з'явіўся. Ну, я пайду, не буду вам тут... А то яшчэ скандаліць пачне. Прыраўнуе...

Д з е д  Ц ы б у л ь к а выходзіць.
Да дзяўчат падыходзіць В а с і л ь. Моўчкі спыняецца перад Святланай. Абое любуюцца адно другім.

С в я т л а н а. Ах, як ад цябе па-ахне!..

В а с і л ь. Бензінам?

С в я т л а н а. Ага.

В а с і л ь. Ты любіш, як пахне бензін?

С в я т л а н а. Вельмі!

В а с і л ь. Дзівачка ты.

С в я т л а н а. Бензін жа табой пахне.

Святланіна сяброўка зразумела — наколькі яна тут лішняя. Безнадзейна закаханая, яна адчула сябе адзінокай сіратой, заспявала сумную старую песню.

Д з я ў ч ы н а. Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы...

Ну, бывайце! Пайду і я.

Д з я ў ч ы н а пайшла.
Стала яшчэ цямней.
Недзе чуваць пераборы гітары.

Святлана (*заканчвае песню*).

Цямнее край зубчасты бору...
І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага узору,
Цвяток радзімы васілька...

І раптам залівіста, молада прапеў певень... Першыя пеўні... І пайшлі спаборнічаць, як на алімпійскіх гульнях.

Зусім пагасла святло.

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

А пеўні гарланяць. Будзяць сонца. І сонейка ўзыходзіць. Яснае. Ласкавае. Усё навокал нібы намалявана яркімі-яркімі фарбамі. Нібы не сонца асвяціла ўсё, а папрацавалі японскія дэкаратары. Аж вочы хочацца зажмурыць.

Праўленне калгаса. Ганак.

Паціху адчыняюцца дзверы, і паказваецца галава дзеда Цыбулькі. Ён зладзейкавата азіраецца па баках і тады ўжо выходзіць на ганак з венікам і вядром.

Дзед Цыбулька. Дыялектыка!.. Не прапелі б пеўні, і сонейка не прачнулася б...

Дзед Цыбулька пачаў падмятаць ганак, але, заўважыўшы некага, хавае за спіну венік і вядро.

Да праўлення спяшаецца Аксана. Яна нейкая ўзбуджаная. То спыніцца, кіне некаму ззаду праклён-лаянку, то зноў ірванецца к праўленню. Яна нібы агрызаецца, нібы адбрэхваецца.

Аксана. Каб табе пуста было! Каб на табе ліха ездзіла! Каб табе ядры ў жорнах паціскала, як ты ціскаў яе! (*Лямантуе.*) А бо-о-ожачкі! А людзі добрыя! А што ж ета тако-ое? Каб табе каўбух так парвала, як ты... Злыдзень! Абармот! Цьфу табе ў вочы! Как табе іх пятакамі закрылі!

Дзед Цыбулька. Каму ета ты столькі ласкавых слоў нагаварыла?

Аксана. Старшыні няма яшчэ? Добрай раніцы!

Дзед Цыбулька. Добрай раніцы! Не, яшчэ няма.

Аксана. Ну так, ну так. Рана яшчэ. (*Нервова паціраe рукі, нібы ім зябка, потым уважліва глядзіць дзеду ў вочы, ківае галавой і пытае, а ў голасе — адчай.*) Ну, ці

не чуў ты? А? Гэта ж трэба? А? Гэта ж трэба, каб на маё гора ды такое ліха звалілася?!

Дзед Цыбулька прыкідваецца, быццам нічога не ведае.

Дзед Цыбулька. А што такое? Аксанка! Ай што нядобрае прыключылася?

Аксана *(са стогнам)*. А-ай, не пытай, дзед!..

Аксана намерылася была прайсці, ды прыпынілася.

А ты не саромейся, не саромейся, дзед, вымятаць за бабу смецце!.. *(На выхадзе.)* О-ой, а які ж сорам на маю галаву!..

Аксана выходзіць.

Дзед Цыбулька *(услед)*. Па ўсім відаць — толькі што дачулася пра сваю дачку. Яно заўсёды так: маці апошняй даведваецца. Ды і то — а каму прыемна расказваць пра такое маці?

Дзед Цыбулька хуценька праціраe дзвярную ручку, падмятае ганак. Ён спяшаецца, не хоча, каб яго засталі за такім заняткам. Падыходзіць мажны хлопец — Іван Швед, пасміхаючыся, ён назірае за дзедам. Стары, падмятаючы, нібы спіной адчуў, што за ім падглядаюць, прыслухаўся, выпрастаўся, махнуў яшчэ пару разоў венікам і тады павярнуўся.

Іван. Што? Замятаеш сляды, дзед?

Дзед Цыбулька. Якія такія сляды?

Іван. Да-а, брат, твая баба навучыць цябе і мышэй лавіць. Сама нябось спіць, а цябе — ні свет ні зара — падмятаць выгнала. Не твае гэта функцыі!

Дзед Цыбулька. Ды не спіць яна. Трэці дзень дома няма. Да сястры ў госці пайшла дый загасцявала.

Іван. А можа, да кума? Вот як яно — на маладой жаніцца. Пад старасць.

Дзед Цыбулька. А ты чаго брындаеш да раніцы? Ныкаеш, нюхаеш, як бы дзе якую ўдаву ці перастарку палапаць? Абармот!..

Іван. Ну, не крыўдуй! Нельга і пажартаваць?

Дзед Цыбулька. «Пажартаваць»... Малакасос! Чаму ета ты ўспароўся ў такую рань? Ці, можа, дзеўку якую ціскаў, каб мякчэйшаю каму ў жонкі дасталася?

Іван. Ды не, справа ёсць да старшыні! Днём яго не зловіш.

Дзед Цыбулька. А-а-а, справа. Ну то на, занясі смецце і высып у прыбіральню, калі справа...

Іван. А што я вам?..

Дзед Цыбулька. Не пярэч, калі справа!.. А я вады налью ў графін.

Іван выносіць вядро са смеццем, а дзед налівае ваду.

Іван *(вярнуўшыся)*. Ты б самагонкі яму! Для смеху.

Дзед Цыбулька. Не любіць самагонку. Каньякі паважае. Ды і то пры начальстве, якое паважней. А якая такая справа ў цябе?

Іван *(ухіляецца)*. А там... Ат...

Дзед Цыбулька. Ну, не хочаш, як хочаш!.. Я абы так. Ты бачыў, якую тэхніку ўчора прыгналі? Гэта ён наўмысна на вуліцы пакінуў. На агледзіны.

Іван. Для энтузіязму!

Дзед Цыбулька. Для чаго? А-а-а, ну да!.. Слухай, а во тая, з крывым колам, вялікім такім, што ета за машына? І транспарцёр каля яе...

Іван. Каналы паглыбляць.

Дзед Цыбулька. Да-а... Чалавек сто заменіць!

Іван. Сто — не сто, а...

Дзед Цыбулька *(катэгарычна)*. Не! Сто! Не меней!

Іван. Ну, такіх, як ты,— то і трыста!

Дзед Цыбулька *(пакрыўдзіўся)*. Дурак! Мяне ўжо нечага замяняць! Я ўжо замененыI Я — на пенсіі! Як месяц, так трыццаць два цалковыя адвальваюць за будзь здароў! А вот цябе, Іван, яна заменіць, тэхніка ета! Лічы — ужо замяніла. А-а-а? Што-о? Не, скажаш?.. А-а, то-та ж... Куды ты такі перад ёй? Хоць і здаравяка, а перад ёй ты — нуль. Вот так, Ваня! Нуль без палачкі. *(Рашыў падкалоць.)* Слухай, Іван! Ета праўда, ці толькі плявузгаюць — нібы ты Смятанкіну Тамару, Аксанчыну дачку, прыцісну? У саломе. А?

Іван *(рэзка)*. Слухай, стары! Будзеш і ты плявузгаць — падпалю хату. Абяцаю. *(Азірнуўся.)* І ніхто не чуў.

Іван і дзед Цыбулька разглядаюць адзін другога, нібы кожны з іх дзіковінка.

Дзед Цыбулька. А чаго ты, дурыла, уз'ерапеніўся. І спытаць нельга?

Іван. Пра такое нельга! Ясна? Пакуль тваю бараду моль не пабіла!.. Запомні, я да трох лічыць не буду.

Дзед Цыбулька *(мяняе і тон, і тэму)*. Да-а, цесна будзе ў сяле, калі на поле такая тэхніка пойдзе. На

вуліцы цесна. Не аднаго яна выцісне з сяла. Асабліва тых, што каля яе хадзіць не ўмеюць. Калі не спец — пайшоў вон — скажа — і крышка, і аблізніся. Паняў? А? Што? Не? Нашто ты тут? Такі, брат, спосаб работы пачынаецца. Спосаб работы — ён, брат, усё пераверне, усё перайначыць і каго куды трэба прыспасобіць. Тут, браток, адукацыя трэба, дыплом.

І в а н. Спяшаюцца з дыпломамі, аж падаюць. Гразь мясіць вясной ці восенню? Вунь яе колькі — па самыя ноздры.

Д з е д Ц ы б у л ь к а. Во то-та і яно! Там у горадзе што-о? Тратуар! У шчыблецiках! Цыгарэту ў зубы, рукі ў кішэні — і ўсё. Адрабіўшы, канечне, свае восем гадзін і дванаццаць хвілін. Вот якое дзела. А тут — ці гразь, ці пыл. Плюс к таму — ува ўсіх на воку. Абы толькі што якое — і пайшлі плявузгаць, костачкі перамываць. Не? Для сакрэту сяло мала прыспасоблена. Для маралі яно, можа, і к лепшаму, таму што трэба апасацца рабіць што-небудзь такое-етакае.

І в а н *(крычыць са злосцю)*. К чорту! Даволі! Хопіць! Я ў горад падамся! Не прападу. Любую прафесію асвою. А тут...

Д з е д Ц ы б у л ь к а. А-а, значыць, я разгадаў твае дзела да старшыні? Толькі чаго ж ты крычыш? Тут крыкам не возьмеш. Тут падыход трэба мець.

І в а н. Тут не толькі крычаць, тут завыць можна.

Д з е д Ц ы б у л ь к а. Выць можна. Выць, калі ласка, колькі заўгодна, вый. А крычаць — бесталку. А вунь — ён, старшыня. Свёкар.

І в а н. Глядзі, дачуецца, дык будзе табе свёкар.

Падыходзяць і спыняюцца каля ганка К а р а в а й, раённы нарыхтоўшчык С к а р о м н ы, брыгадзір К а н ц а в ы і Ю р к а.

К а р а в а й. Галоўны пастаўшчык ён, яго брыгада. Восенню выкапалі, а вывезці не паспелі: гразь, слякаць, бездараж. *(Брыгадзіру.)* Колькі ў цябе?

К а н ц а в ы. З трыццаці гектараў. Тон пяцьсот бульбы.

К а р а в а й *(папраўляе)*. Пяцьсот семдзесят тры па актах. Хар-р-рошая бульба. Па восем капеек за кіло. Падлічы. Багацце прываліла. Не зявай.

С к а р о м н ы. Лады!

К а р а в а й. Тон дзвесце нашкрабём і ў гэтых брыгадах.

Скаромны. Лады!

Каравай. Здароў, Цыбулька! Ну, баба твая знайшлася?

Дзед Цыбулька. Добрага рання вам, Уладзімір Андрэевіч. Бабы няма, але тут *(паказаў на кантору)* парадак поўны.

Скаромны. Самы строгі параграф дагавора — за тыдзень вывезці і рукі памыць. Чуеце, таварыш старшыня? За тыдзень.

Каравай *(вітаецца з Іванам)*. Здароў... *(Не ўспомніць імя.)*

Іван. Іван я. Іван Швед. Добры дзень! Я да вас...

Каравай. Пачакай, паспееш.

Скаромны. Вам грошы трэба, а мне час дораг. За тэрміны я буду вельмі строгі. Як кажуць: дарагая лыжка к абеду. Тыдзень — максімум. Тыдзень — наша галоўная ўмова.

Каравай. Ты, брат, не даві, не даві! Не націскай! Ты ж павінен зразумець і наша становішча: у нас бяда. Азімыя вымерзлі. Зіма трудная была. Бясснежная. Толькі ў яго брыгадзе сто гектараў ахнула. Перасяваць трэба. Усёк? Ты нас чуеш?

Канцавы. А насенне якое ўгрохалі... Эліту!

Каравай. Душа баліць, а ты... Перасяваць трэба. І вясенні план даць трэба? Трэба. У нас кожная гадзіна спрасавана да нельга. А тут ты за жабры бярэш. Мы і так з натугай, з апошніх сіл... А ты... Адпусці! Хрыстом-богам прашу! Людзей не хапае! *(Просіць.)* Прыбаў пару дзён.

Скаромны. Не! Не магу! Сам магу пагарэць! Не ма-а-гу! Мяне ж вытураць з райспажыўсаюза.

Каравай. Ну, што ж... Ён нас не чуе. Абрыў кабеля... Юрка! Аб'яўляй па калгасу аўрал. Мігам на дыспетчарскую! Перадай па радыё ўсім брыгадзірам... Усёк, у чым справа?

Юрка. Па сігналу «палундра» — «фал ундэр». Што азначае: сцеражыцеся! Падае зверху!

Каравай. Загадай дыспетчару — па радыё кантраляваць кожную гадзіну. Як стыхійнае бедства.

Юрка. А грошы і ёсць стыхійнае бедства.

Юрка выходзіць.

Каравай. Калі іх няма. *(Нарыхтоўшчыку.)* Надбаў яшчэ два дні. Ну?

У кантору праходзіць Святлана.

С в я т л а н а. Добрай раніцы.

Усе дружна вітаюцца. Скаромны затрымаў на ёй позірк.

С к а р о м н ы. Лады! Не, я ў тым сэнсе, што бяда, калі грошай няма. Стыхійная бяда. Сем! Сем, і ніякіх размоў. Самы строгі пункт дагавора.

К а н ц а в ы. Дык вывозіць я павінен сваімі сіламі?

К а р а в а й. Сваімі. Можна зняць двух «Беларусаў».

К а н ц а в ы. Зняць трактары з пасяўной?

К а р а в а й. Грошы трэба. Не валяюцца. Яму не прададзім, то свінням скормім. Анекдот пра нас пусцяць: грашмі свіней кормім.

К а н ц а в ы. Вы ж самі ведаеце, Уладзімір Андрэевіч, колькі ў маёй брыгадзе вокан дошкамі закрыжавана. Яшчэ б тры-чатыры дні... Няма рук.

С к а р о м н ы. Сем! Сем! Людзям таксама сеяць трэба. Людзі таксама есці хочуць. Рабочы клас бульбу любіць. І гарадская інтэлігенцыя.

К а р а в а й. У каго грошы, той і музыку заказвае. Грошы яго. *(Скаромнаму.)* Афармляйце дагавор.

Д з е д Ц ы б у л ь к а *(затрымлівае Скаромнага)*. Паслухайце, каханенькі. А каго карміць будзем гэтай бульбай?

С к а р о м н ы. А гэта — дзяржаўная тайна.

Падыходзіць В а с і л ь з папкай пад пахай.

В а с і л ь. Добры дзень! О, Канцавы! Прывет! Чаму хмуры?

К а н ц а в ы *(узарваўся)*. Разумееш? Чорт вазьмі нашы парадкі! Не могуць прыехаць і забраць. Маё дзела — вырасціць і сабраць. А рэалізацыя не мая справа. Вучым палітэканомію, на пяцёркі экзамены здаём, а на практыцы?.. Даўно пара аддзяліць сферу вытворчасці ад сферы абарачэння. Я спецыяліст. Я аграном! Я ў брыгаду папрасіўся! Каб сеяць! Вырошчваць! Убіраць! А тут на табе!.. У мяне хапае сваіх праблем. Вунь у мінулым годзе — якая пшаніца вырасла? Цэнтнераў па сорак з гектара. А палягла! Не балела душа? Не крыўдна? Во як крыўдна! І цяпер баліць... Чаму палягла? Ад чаго? Во пра што мне думаць — не перадумаць. Каб сёлета не паўтарылася. А вы мне — пагрузка, выгрузка, прадажа, восем капеек... Не мая гэта справа! Не мая! Дый не ваша! Чаму бульба да гэтага часу ляжыць у буртах? А некаму ж яна во як трэба! І нехта зарплату палучае за тое, што павінен быў пры-

ехаць, купіць, пагрузіць, разгрузіць, забяспечыць каго трэба. А? Што? Не?

Дзед Цыбулька. Глядзі ты! Мае пытанні задае! А? Што? Не? Усенародны вапрос паставіў! Баявы певень!

Канцавы. Хто пашле інжынера закручваць гайкі, папаўняць аўтамабільныя камеры, укопваць тэлеграфныя слупы? Смешна? А агранома пе смешна! Не сорамна! Мяне пятнаццаць гадоў вучылі для гэтага? Ну, не крыўдна, Васіль? Скажы!

Дзед Цыбулька. Певень! Чысты певень!

Васіль. Ты не ў мяне пытайся. Ты спытай Уладзіміра Андрэевіча. У яго вопыт. Яму відней.

Старшыня зразумеў, што тлумачыць зараз трэба не Канцавому, а Васілю, але звяртаецца ён да брыгадзіра.

Каравай. Дарагі мой энтузіяст! Ну, твая праўда. Канечне ж, я вінаваты. *(А цяпер хоць і шчыра гаворыць, але цяжка зразумець: блазнуе ён ці сур'ёзна просіць.)* Ну, даруй мне! Ну, прашу, злітуйся! Не судзі строга. Больш так не буду! Толькі апошні раз — гэтыя пяцьсот тон памажы вывезці. А? Ну?

Васіль *(пасміхаецца)*. Хіба толькі, калі апошні...

Каравай. Клянуся! А гайкі... Гайкі сам буду закручваць! Нікому не даручу гэта, не перапаручу.

Скаромны. Лады! Як я разумею — тут напрошваецца матэрыяльная зацікаўленасць. Прынцып. Уладзімір Андрэевіч! Арганізацыю вывазкі бульбы ў яго брыгадзе я бяру на сябе. Лады?

Каравай. Лады! Ідзіце к Святлане і афармляйце.

Скаромны. Лады.

Скаромны, Канцавы і Васіль заходзяць у кантору. Нясмела падыходзіць бліжэй Аксана. Яна вядзе за руку сваю дарослую дачку Тамару. Аксана спынілася перад старшынёй, не ведае, з чаго пачаць.

Каравай *(сабраўся пайсці)*. Ты да мяне, Аксана?

Аксана. Да вас. Бяда ў мяне. Памажыце.

Каравай. Якая такая бяда? Выкладвай. Толькі карацей... У мяне часу няма.

Аксана. Старшыня, родненькі! У мяне такая бяда, што з вока на вока трэба...

Каравай. Можна і з вока на вока. Пойдзем тады ў кабінет. А то дзед ужо патапырыў вушы.

Каравай, Аксана і Тамара заходзяць у кабінет.

Дзед Цыбулька. Зараз яна яму раскажа музыкальную камедыю.

*Занавес.*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

У кабінеце старшыні, як і ўсюды заведзена, выставачны сноп у куце, выставачныя граматы на сцяне, пераходны Чырвоны сцяг на пачэсным месцы. Другія кабінетныя атрыбуты таксама ёсць: тэлефон, сейф. На сцяне чырвонае палотнішча, і на ім адапціраваная прыказка: «Хто рана ўстае, таму і калгас дае». У кабінеце Каравай, Аксана, Тамара.

Каравай. Ну, якое там гора-горкае? Якая бяда з табой прыключылася?

Аксана. Не са мной. З ёй, з дачкой.

Каравай. Захварэла?

Аксана. Горай! Горай за хваробу.

Каравай. Што такое?

Аксана. Швед Іван пагалоску пусціў... Усё сяло гудзе, што ён з ёй... што ён яе... ну... У саломе быццам, каля гумна, калі ўсе абедаць пайшлі.

Каравай. Сярод бела дня?

Аксана. Ды ўжо ж.

Каравай моўчкі ацэньвае сітуацыю.

Каравай. Вось дык задача!..

Раздаецца тэлефонны званок. Старшыня бярэ трубку.

Так. Я. Каравай слухае. Хто? А-а-а... О-о, Павел Васільевіч! Добры дзень! А?.. Дзякую. Пакуль што... Таксама, слава богу, здаровы. Дзякую!.. Не, не, не адмяняецца! Чакаю! Добра. Добра... Калі? Калі ласка! У любы час. Я цяпер пастаянна дома. Ну, вядома! Канечне!.. Ліцэнзія ёсць. Усё ў парадку. Ніякіх парушэнняў не будзе. Чакаю. Паляванне будзе — закачайся. З кім? Калі ласка. Калі вы лічыце, што людзі патрэбныя... І ён? Калі ласка. Хто яшчэ? А-а, ну хай... Ну, што вы пытаеце?.. Можам запрасіць і вашага падначаленага, раённага «дзядзю» з «Сельгастэхнікі». Не трэба дык не трэба. Глядзіце самі. Жду! Усяго добрага! Прывет вашым.

Аксана. Вы ўжо выбачайце, Уладзімір Андрэевіч. У вас важныя справы, а я...

Каравай. Да, дык што ж мы павінны рашыць? А? *(Ацаніўшы спеласць дачкі.)* А няхай цяпер жэніцца, калі публічна прызнаўся, што... А?

Аксана. Дык жа не хоча.

Каравай. Як так не хоча? Разбойнік! Прымусім! Пазаву сюды, прыцісну ў куток, дык захоча.

Аксана. Яна не хоча, дурніца гэта во... Наадрэз.

Каравай. А чаму? *(Да дзяўчыны мякка, шчыра.)* Чаму ўсё-такі?

Тамара *(з гонарам)*. Знайшлі мне жаніха!

Аксана. Хто табе знайшоў? Ты сама знайшла. У саломе быў харош? А цяпер нехарош?

Тамара *(непрыступна)*. Нічога ў саломе не было.

Аксана. Як не было? Як не было? А што ён табе парваў?

Тамара. Ну, парваў, а... усё роўна — не было.

Каравай. А... а... Як жа тады ён...

Тамара *(рэзка, коратка)*. Выкруцілася, і ўсё.

Каравай. Ды я не пра тое. Не было дык не было. Але як жа ён пусціў славу?

Тамара. У клубе.

Аксана. Пазаўчора.

Каравай. Але для чаго? З якой мэтай? Можа, п'яны быў?

Тамара. П'яных у клуб не пускаюць.

Зноў тэлефонны званок.

Каравай. Ведаю, як там не пускаюць...

Каравай бярэ трубку.

Так, так. Я. Прывет. Якія запчасці? Як усякія? А-а, чакай, чакай. На вашу базу прыбылі? Ага. Ну. Дзякую, дзякую... А навошта мне цябе выдаваць? Наадварот, за мной магарыч. Не, не. Гроб-магіла. Добра, заўтра ж мой інжынер будзе ў вас. Падкажы яму. Будзь здароў! *(Кладзе трубку і кліча сакратара-машыністку)*.

Святлана! Святлана! Дзе Юрка?

На парозе паяўляецца дзед Цыбулька.

Дзед Цыбулька. Я за Святлану!..

Святлана адпіхнула дзеда Цыбульку, з'явілася ў дзвярах кабінета, выпхнула Цыбульку за дзверы.

Святлана. Ён тут! Паклікаць?..

Святлана знікае. За сцэнай яе голас.

Юрка! Уладзімір Андрэевіч кліча!..

Юрку кліча і дзед Цыбулька. За сцэнай раздаецца і яго голас.

Голас Дзеда Цыбулькі. Юра! Юрка-а-а!..

На парозе кабінета з'яўляецца Юрка.

Юрка. Слухаю, Уладзімір Андрэевіч!

Каравай. Зараз толькі што званіў грузчык з раённай базы «Сельгастэхніка». Прывезлі вялікі выбар запчастак. Знайдзі інжынера і перадай маё распараджэнне: каб заўтра ранелька быў там. Хай выбера, што трэба. Між іншым, можа прагаварыцца, што... Перад начальнікам «Райсельгастэхнікі» можа прагаварыцца. Зразумеў?

Юрка. Аб чым прагаварыцца?

Каравай. Нібы незнарок... што яго шэф... абласны будзе гасцяваць у мяне ў суботу. На паляванне прыедзе. Не ў лоб, ясна?

Юрка. Ясна. *(Іранізуе.)* Паляванне не ў лоб. *(Хацеў пайсці.)*

Каравай *(помсціць за іронію)*. А што гэта ў цябе ў клубе дзеецца? Распускаеце паскудныя плёткі. А? Клуб ці Бі-бі-сі?

Юрка *(глянуўшы на Тамару, здагадаўся)*. А-а, гэта Іван Швед? Было. Што было, тое было.

Тамара. Нічога не было!

Юрка. Я не пра тое, чаго не было. Не было дык не было... А я пра тое, што было — Іван Швед трапаў-ся? Гэта было? Было!

Каравай. Швед, Швед... А ты хто? Турак? Ці сакратар камсамольскага камітэта?

Юрка. Пакуль што сакратар. Ненадоўга.

Каравай. Не мог яму заткнуць кляп?

Юрка. Не пры мне было. Калі я падышоў, усе ўжо ржалі, як жарабкі.

Каравай. Ну, і як жа цяпер? Ён жа пакрыўдзіў яе, зняславіў.

Юрка. Калі ўзяць спраўку ў доктара, то можна і пад суд. Было ці не было — усё роўна. Ці за паклёп, ці за тое, што было, калі было.

Тамара падняла вочы на Юрку, потым з цікавасцю паглядзела на старшыню, але, сустрэўшыся з позіркамі, зноў схіліла галаву.

Каравай. Ну, значыць, трэба ўзяць спраўку.

Усе чакаюць ад Тамары адказу. Яна маўчыць.

Юрка. Гэта ўжо яе справа. Я пайду. Зараз вам заменім мікрафон.

Юрка выйшаў.
У кабінет уваходзяць Скаромны і дзед Цыбулька.

Скаромны. Уладзімір Андрэевіч! Дагавор гатовы. Мая пячатка на месцы. Подпіс тут жа. Засталося вам падпісаць і далікатна, як пацалунак, прытуліць сваю пячатку. І канцы.

Дзед Цыбулька. І канцы ў ваду?

Каравай *(чытае дагавор)*. Ды гэта ж не кармавая бульба!

Скаромны. Але ж вы хацелі скарміць яе свінням? Так?

Каравай. Та-ак... Значыць, калі мы не ў тэрмін вывезем, то плацім штраф. А з вас ні за што ніякага спросу?

Скаромны. Дагавор тыповы. Не я зацвярджаў яго форму.

Дзед Цыбулька. А хто?

Скаромны. Хутка састарышся, дзед.

Каравай *(не спяшаецца падпісаць дагавор)*. Прадзешавілі? Скажы чэсна: прадзешавілі? А? Аб'ягорыў?

Скаромны. Калі ласка, пакуль не позна, можна парваць.

Дзед Цыбулька. Можна было б капеек па дзесяць за кіло. А? Старшыня? *(Скаромнаму.)* Давай па дзесяць.

Скаромны. Кулацкая ў цябе жылка, дзед.

Дзед Цыбулька. Перад тым як гаварыць мне такія словы, табе варта было б застрахавацца!

Скаромны. Ух ты! Які баявы! Ваяўнічы! Певень!

Дзед Цыбулька. Не за сваё, за народнае! *(Учапіўся за паперку.)* Гані яшчэ дзве капейкі. А не — не дам! *(Паглядзеў на старшыню: ці не сердзіцца. Каравай ледзь прыкметна міргнуў.)* Не прададзім! Чуеш? Гані капейчыну за кіло, і баста! Цяпер вясна — бульба ў цане — і на насенне і на пракорм. Паку-уль маладая падрасце... У цане яна!

Каравай. Вот бачыш? Народ патрабуе. Усяго адну капейку. А можа, перапішаш па дзесяць, як народ просіць?

Скаромны. Во гэты дзед — народ? Смеху варты ваш народ. Падхалім ты, дзед!

Дзед Цыбулька *(узʼерапеніўся)*. Які я табе дзед?! Унук мне знайшоўся! Шэры воўк табе дзед, а дзікая каза — бабка! Ды я загадаў такіх унукаў болей двух месяцаў не насіць! Я табе народны кантроль, а не дзед! А ты... *(Паказаў, што ён сапля.)* Во хто ты!

Каравай. Не грубіянь, Цыбулька! А то абстрыгуць на дзесяць сутак.

Дзед Цыбулька. Мяне? Калі ласка! *(Здымае шапку і паказвае сваю лысую галаву.)* За народную капейку я гатоў не толькі валасы палажыць, але і галаву... яго галаву, канечне!..

Скаромны. Уладзімір Андрэевіч, пры вашай свядомасці... Бульба куды пойдзе? У горад. Каму? Рабочаму класу. Дык з рабочага класа драць? Як гэта зразумець? *(Паказвае на дзеда.)* Яму яшчэ трэба растлумачваць, што такое для дзяржавы стабільныя цэны, а вам...

Дзед Цыбулька. Дэмагог! Якія, якія цэны?

Скаромны. Стабільныя.

Каравай. Пастаянныя. Якія не мяняюцца, цвёрдыя.

Дзед Цыбулька. Стабільныя? Пастаянныя? *(Блазнуе.)* Вот возьмем ды ўсю бульбачку на самагон! Ды на базар! Ды па рублю за паўлітэрку! Во будзе канкурэнцыя для «Экстры». Заробім не па восем капеек за кіло. І наша бульбачка вінаградам стане.

Скаромны. Ты, дзед, не па адрасу тэлеграму пасылаеш. Я цэны не вызначаў. Я ж, брат, і сам ох як гару на каньяку.

Каравай. Да-а! А ведаеш, дзед, ты залез не ў свой агарод. Да, да! Ты вялікую палітыку зачапіў. Не з тваімі зубамі туды...

Старшыня падпісвае дагавор.

Дзед Цыбулька. А чаму ета! А? Я яшчэ не бяззубы. Ета, калі мужык галодны, тады ён думае, размышляе пра кусок хлеба для дзяцей да пра клок сена для кароўкі. А я цяпер сыты! Вот сытаму мужыку самы раз брацца за палітыку. Тым больш — я на пенсіі, значыць, ёсць час падумаць. А па-другое, з пасады мяне не скінеш. Мяне звергнуць ужо нельга! Хоць я і ёсць самадзержац! А крытыка цяпер дазволена і зверху ўніз, і знізу ўверх, і ва ўчарашні дзень, і ў сённяшні. Во яно як!

Каравай. А цяпер ідзі глытні свежага паветра, аратар. Ну і талент!

Дзед выходзіць, нібы гладыятар з арэны.

Скаромны. А з брыгадзірам я сам паладжу. Не ваш клопат.

Скаромны выходзіць.

Паўза.

І зноў у фокусе ўвагі Тамара з яе бядою. Тамара не вытрымлівае паўзы.

Тамара. Не пайду я да доктара! І не буду я браць такую спраўку! *(Цвёрда.)* Не буду!

Аксана. Дык што ж гэта ты? Яго шкадуеш? Ён з табою так...

Тамара. Як? Ён мне нічога не зрабіў. А што языком, дык... *(Велікадушна.)* За гэта ў турму не трэба. Ён проста дурань.

Паўза.

Каравай. Тады ніякай праблемы няма. *(Збіраецца пайсці.)*

Аксана. Старшынька! Родненькі...

На парозе Святлана, а за ёю — Цыбулька.

Святлана. Уладзімір Андрэевіч, к вам настаўніца, Лідзія Сямёнаўна.

Дзед Цыбулька. Лідзія Сямёнаўна к вам.

Каравай *(зацікаўлена)*. Прасі, прасі! *(Раіць Аксане і Тамары.)* Яна чалавек разумны. Можа, яна параіць. А ты, дзед, ідзі, ідзі.

Дзед Цыбулька паслухмяны: тут жа знікае за дзвярыма. Святлана пастаранілася, прапускае Лідзію Сямёнаўну.

Святлана. Калі ласка, Лідзія Сямёнаўна!..

Сама Святлана знікае за дзвярыма.

Настаўніца. Добрай раніцы.

Усе з павагаю вітаюцца з настаўніцай.

Каравай. Добрай раніцы, Лідзія Сямёнаўна! Вы яшчэ не чулі пра іх бяду?

Настаўніца. Чула, чула. Учора і к нам на Новы Хутар даляцела гэта навіна.

Тамара падхапілася, як школьніца, праніклівa глядзіць у вочы настаўніцы.

Тамара. Не было гэтага, Лідзія Сямёнаўна! Чэснае слова, не было!

Настаўніца. Я веру табе, Тамара. Веру. Супакойся.

Каравай. Можа, ён хоча ажаніцца і, каб адпугнуць другіх, пусціў плётку?

Аксана. Спачатку і я так падумала. Гаварыла з ім. Не вельмі ён рвецца. Матрос, кажа, хай на ёй жэніцца.

Каравай. Які матрос?

Тамара. Учора паехаў ён. Адпускнік быў.

Аксана. Зіны Галадзедавай сын.

Тамара. З ім я пайшла танцаваць у той вечар, а не з Іванам. Вот... Ну, вот і... *(Кісла пасміхнулася.)*

Каравай. Та-ак... Без папа не разбярэшся. І што мы павінны рашыць? *(Да Тамары.)* Што? Прынцэса!

Аксана. І розуму не падбяру. *(Ужо нарыхтавалася плакаць.)* І трэба ж на маю галаву? *(Дачцэ.)* Як жа ты цяпер з такою славаю? А? Ты ж ведаеш, як без бацькі гадавацца. У маці, кажуць, пайшла, уся ў маці... А хіба тады ета было? Маіх хлопцаў на вайне пазабівала, жаніхі мае зямельку парадь... На ўсё сяло сем мужыкоў было. *(Скрозь слёзы.)* Не хацела я аставацца без дзіцяці... Сына хацела... А бог цябе паслаў у наказанне. *(Крычыць.)* Не было жаніхоў тады!

Тамара. Іх і цяпер не багата. У горадзе ўсе. Спачатку ў салдаты, а адтуль — у горад.

Аксана. Але ж ты яшчэ і пераборлівая. З такой славай ты цяпер векавухай у дзеўках астанешся. А то і горай... Будуць хлопцы стажыравацца.

Настаўніца. Аксана! Як вам не сорамна?

Каравай. З такой дзяўчынай і так... Ну, разбойнік!

Асцярожненька ўваходзіць дзед Цыбулька. Старшыня глянуў, нібы спытаў: чаго табе?

Дзед Цыбулька. Не, я толькі... вось пошта. «Піянер» — часопіс. А гэта во — з райфа...

Каравай. Дзякую. Ну і... Што яшчэ?

Дзед Цыбулька. Не-е, я пайшоў, пайшоў.

Дзед Цыбулька выходзіць.

Настаўніца. Тамара, а сама ты што надумала?

Тамара. У горад паеду. Характарыстыку толькі трэба харошую і спраўку...

Каравай. І ты ў горад? Ну, браточкі мае, гэта ўжо чорт ведае што!

Настаўніца. Уладзімір Андрэевіч, у дзяўчыны такая слава цяпер... Я веру табе, Тамара, але... я ведаю і нашых людзей. Ведаю іх нецярплівасць да... усяго такога. Пакуль што... Можна так паламаць лёс дзяўчыне...

А к с а н а. Ну, вядома ж. Будуць глядзець як на бракаваную. Калі пасватаецца хто, дык які-небудзь нягеглы. А я ж ведаю цябе, абы за каго не пойдзеш. Дый я не хачу, каб ты абы за каго. Не такая ты, каб абы за каго. Адпусці яе ў горад, старшыня, родненькі. А?

К а р а в а й. Ну і сітуацыя! *(Шкрабе загрывак.)* Толькі запомні: тут ты выкруцілася, а ў горадзе саломы няма, там не выкруцішся.

Т а м а р а. А там і выкручвацца не трэба. Там ніхто і не выкручваецца.

А к с а н а. Я табе дам! Я табе пакажу, кошка ты! Схамянешся, калі пуза на нос палезе.

Т а м а р а. Не крычы, а то людзей збярэш. А як замуж выйду, я сюды вярнуся. Спецыяліста яшчэ прывязу вам... *(Сказала так, нібы паабяцала прывезці агліцкага караля.)*

К а р а в а й *(дзяўчыне)*. Ты ідзі. Мы параімся.

Т а м а р а выйшла.

Падумай і ты, Аксана. Я не дзяржу яе, але... Адпускаць яе з вачэй цяпер... Можа па руках пайсці... без нагляду... Калі праўда, што яна паспытала... Па сабе знаеш.

А к с а н а. Як не знаць... *(Засаромелася.)* Крый нас божа! Дзякуй табе, старшыня, вялікае дзякуй. Не пакідай нас без парады.

К а р а в а й. Так і быць — адпускаю. Толькі такая ўмова: хай гэты тыдзень папрацуе, паможа бульбу адгрузіць. Чула ж, пэўна?

А к с а н а. Уладзімір Андрэевіч! Саромеецца яна... Можа, і праўда — нічога не было, а саромеецца людзей. Хаваецца. Лепей ужо я за яе... у дзве змены. Я ў нітку выцягнуся, а за яе зраблю. А? Родненькі? *(Авансам дзякуе старшыні, нібы ён даў згоду.)* Ай, дзякуй табе, старшыня! Ай, дзякуй!..

К а р а в а й. Ды ты можаш і ў нітку. Добра, ідзі.

А к с а н а. Ну, дзякуй вам, ну спасібачкі!

А к с а н а выходзіць.

К а р а в а й. І смех і грэх з гэтымі бабамі. *(Папраўляецца.)* З мацярамі-адзіночкамі, я хацеў сказаць.

Н а с т а ў н і ц а. Смеху тут мала...

К а р а в а й. Ну, бог з імі, Лідзія Сямёнаўна. Які клопат прывёў вас сюды?

Н а с т а ў н і ц а. Першы клопат — закрываюць маю

школу. Ужо і загад ёсць. Сёлета ў раёне закрываюць сем школ такіх, як наша.

К а р а в а й. Ну вот! А вы просіце адпусціць. Школы закрываем. Малыя вёскі без дзяцей астаюцца. Колькі іх у вас было?

Н а с т а ў н і ц а. У трэцім класе пяцёра, у другім — трое, а ў першым — толькі брыгадзіравы блізняты, двойня.

К а р а в а й. І як жа цяпер вы? Куды вы?

Н а с т а ў н і ц а. Прыйшла прасіць. Перавязіце і мяне.

К а р а в а й *(насцярожыўся)*. І таксама ў горад?

Н а с т а ў н і ц а. Не. Сюды перавязіце мяне, у нашу Любань. У вашай школе буду. Любань — сяло перспектыўнае.

К а р а в а й. Канечне, перспектыўнае. І не шкадуйце таго хутара. А-а, няма чаго там... А я спалохаўся ўжо. Ах, якая вы мудрая! Значыць, і Васіль цяпер з вамі, дома.

Н а с т а ў н і ц а. А вот за сына я прасіць буду. Не трымайце вы яго, не заманьвайце вы яго сюды, Уладзімір Андрэевіч! Ён жа такі ў мяне, калі прывяжацца, дык...

К а р а в а й. Дык гэта ж добра! Тут нам цяпер толькі такія і трэба — энтузіясты. Ён любіць нашу справу.

Н а с т а ў н і ц а. Не толькі ён справу любіць. Ён па маладосці спакусіўся... а можа, нават і закахаўся ў гэтую... вашу... Святлану...

К а р а в а й. І гэта добра! Дзела маладое, самы раз.

Н а с т а ў н і ц а. Баюся я за сына. Не падабаецца яна мне.

К а р а в а й. Святлана?

Н а с т а ў н і ц а. Святлана. Дзяўчынка гэта наравістая, заносчывая, капрызная, ганарыстая.

К а р а в а й. Святлана?

Н а с т а ў н і ц а. Святлана. А сын мой мяккі, добры. Ён пападзе пад каблук. Ды яшчэ пад шпільку.

К а р а в а й. Васіль?

Н а с т а ў н і ц а. Васіль. Яна прыгожая, канечне. А ён прыліпчывы. І яна можа ўсё жыццё яму... Возьме над ім уладу, шкада будзе. А ён... ён многа можа даць людзям. Душа ў яго шчырая, шчодрая.

К а р а в а й. Вы ўжо так размалявалі Святлану нашу... Няпраўда гэта. Яна вельмі чулая... Яе лёгка параніць, але і чужы боль яна к сэрцу прымае. Разумная.

Н а с т а ў н і ц а. Яна ў школе яшчэ была разкаватай і калючай дзяўчынкай. Асабліва да хлопчыкаў.

Каравай. Да мужчын! А чаму? Бацька іх пакінуў, яе і маці, калі ёй было ўсяго тры годзікі. Вот маці і насцярожыла яе з маленства.

Настаўніца. Будзе яна ваду вазіць на ім.

Каравай. Святлана?

Настаўніца. Святлана. Вася мой мяккацелы.

Каравай. Вася?

Настаўніца. Вася. Яго хоць у вуха пакладзі. Мякчэй ваты.

Каравай. Васю? У вуха?

Настаўніца *(шчыра, страсна)*. Уладзімір Андрэевіч! Прашу вас! Не затрымлівайце яго тут!

Каравай. Мяккацелы, кажаце? Не-е. Яму таксама пальцы ў рот не кладзі. Учора ён мяне не толькі стрыг, а... быццам паяльнай лямпай прайшоўся ў мяне па шэрсці.

Настаўніца. Вася? Мой Вася?

Каравай. Вася. Ваш Вася. Мужык з характарам. Я мякіша не браў бы. Хлопец сур'ёзны. І задумка ў яго сур'ёзная. Не перашкодзілі б...

Пастукаўшы ў дзверы, уваходзіць Васіль. У руках у яго стосік паперы і мікрафон.

Васіль. Можна? О, і мама тут?

Каравай *(занадта ветліва)*. Давай, давай. Канечне, можна. Прашу. *(Вызваляе яму сваё крэсла.)* Сядай! Няўжо ўсё гатова?

Васіль. Вот настроім, праверым...

Каравай *(паказаўшы на Васілёвы паперы, нібы хваліцца перад настаўніцай)*. Дыпломная! Друкуем!

Васіль *(у мікрафон)*. Ало! Ало! Першы! Першы! Я чацвёрты. Ало! Прыём! Прыём...

З рэпрадуктара голас нечакана гучны: «Пачапіў старшыні шпоры? Цяпер усе ў мыле будзем...»

Ну, вот і парадак! Калі ласка, вам шпоры. *(Перадае мікрафон.)*

Каравай. Вот і пакладзі такога ў вуха: Ну, добра, а цяпер памажы нам разабрацца ў адным закавырыстым пытанні.

Настаўніца. Прашу вас...

Каравай. Вот маці гаворыць пра разкаваты і калючы характар...

Лідзія Сямёнаўна міргае, махае рукамі, дае знак, каб Уладзімір Андрэевіч не працягваў гаворку пры Васілю.

У мяне гэты характар склаўся невыпадкова. Я дзякую вам за, так сказаць, крытыку і абяцаю пастарацца выправіць мой характар, калі гэта можна ў такім узросце. Я, канечне... здаецца, выблытаўся.

Васіль. Усё ясна, Уладзімір Андрэевіч. Мая мама часам памыляецца. Зрэдку, але здараецца.

Уваходзіць Святлана і дае Васілю яшчэ некалькі аркушаў паперы.

Святлана. Вось яшчэ, Васіль Міхайлавіч.

Васіль. Пачакай! Гэта што такое?!

Святлана. Дзе?

Васіль. Во дзе! *(Размаўляе з дзяўчынай рэзка, нават груба.)* Чорт ведае што! Абракадабра! Бязглуздзіца! Навошта ты пераставіла слова? А?

Святлана *(лагодна)*. Гэта памылка... Я прапусціла спачатку, а потым уставіла пад канец сказа. Мне здалося, што...

Васіль *(рэзка)*. Калі здаецца, то хрысціцца трэба ці свістаць. Свістаць яшчэ не навучылася?

Святлана *(здагадалася, што трэба быць пакорлівай)*. Я папраўлю... Я зараз...

Васіль. Якая неакуратнасць. А вы яшчэ хвалілі яе, Уладзімір Андрэевіч.

Настаўніца. Васіль! Як ты размаўляеш? Перад табой дзяўчына!

Васіль. Калі яна дзяўчына, дык мае права на брак, на памылкі? Яе выхоўваць трэба.

Настаўніца. Хто цябе выхаваў такім... бурбонам? Што за тон?

Святлана *(пакорліва)*. Лідзія Сямёнаўна, гэта я вінавата. Я зараз папраўлю.

Настаўніца. Нават калі памылка, хіба можна так размаўляць з людзьмі?

Святлана *(занадта пакорліва)*. Я яго разумею, Лідзія Сямёнаўна. Я на яго не крыўджуся. Ён жа думаў, ён жа трудзіўся над кожным словам, а я ўзяла і недарэчна пераставіла. Я зараз папраўлю, я перадрукую.

Настаўніца. Што гэта такое, сын мой?

Васіль. Памылкам, мама, патураць нельга! Такое маё правіла.

Каравай *(у захапленні)*. Да-а! Вот ета да-а! *(Схамянуўся.)*

У кабінет прарываюцца дзед Цыбулька і Іван Швед.

Дзед Цыбулька. Сто-оп! Ваня, стоп! Маё дзела галоўнае!

Каравай. Дзед! Выйдзі! Пачакай!

Дзед Цыбулька. Не выйду! Нельга чакаць. Прамядленіе смерці падобна! Мне ніхто ніколі не даруе!

Каравай сваім тоўстым пузам выштурхоўвае дзеда Цыбульку і Івана за дзверы.

Каравай. Пачакай, стары грахаводнік! Пачакай! Што за парадкі?!

Васіль. Гэта сакратарка ў вас такая. Дысцыпліны няма. Не можа навесці парадак у прыёмнай. Распусціла ўсіх.

Каравай *(абараняе Святлану)*. Сёння ў нас дзень адчыненых дзвярэй. Прыёмны дзень.

Настаўніца. Уладзімір Андрэевіч! Які спектакль яны перада мной разыгралі! А? Артысты! Мхатаўцы!

Каравай. Да-а, падман натуральны. З перажываннямі.

Васіль *(падказвае)*. Мама! Але якая пакорлівасць?

Настаўніца. Сапраўдныя таленты!

Васіль. Труднае становішча родзіць таленты.

Настаўніца. А якое ў цябе труднае становішча?

Васіль. Мама, я ведаю, чаго ты хочаш. Але я нікуды адсюль не паеду. Тут я знайшоў сваю мару.

Настаўніца. Бачу.

Васіль. Адну бачыш, а пра другую я табе раскажу. Нікуды я адсюль не паеду, пакуль не пабудуем з Уладзімірам Андрэевічам цуд-фабрыку — жывёлагадоўчы комплекс. Каб адзін чалавек кнопкамі, аўтаматамі тысячу галоў адкормліваў. Каб мяса ўсім дасыта хапіла! Дасыта ўсім!

Святлана. І ён пабудуе! Ён такі, Лідзія Сямёнаўна...

Настаўніца. Та-ак... Ну, што ж... Бачу я, што... Толькі, Святлана, любая мая, глядзі не падмані мяне, нельга мяне падманваць... Васіль — вось такі, які ён цяпер, ён — усё маё жыццё, ён усё... і мне будзе...

Васіль. Ну вот, мама... і сама расстроілася... Ды будзе табе... Ну, хопіць, мама!..

Настаўніца. Выбачайце, Уладзімір Андрэевіч. У вас справы, а я...

Настаўніца выходзіць.

Каравай *(Васілю)*. Праводзь маці!

На парозе з'яўляецца дзед Цыбулька.

Дзед Цыбулька. Я правяду.

Дзед Цыбулька знікае.

Святлана. Выбачайце, я павінна пайсці. У мяне — не тое, што ў вас, у мяне — процьма работы.

Святлана выходзіць.
Старшыня збіраецца пайсці, надзеў шапку.
У кабінет прарываецца Іван Швед. Следам за ім — дзед Цыбулька.

Іван. Таварыш старшыня. Падпішыце паперку, спраўку.

Каравай. Якую спраўку?

Іван. Што я — Іван Швед, што я з'яўляюся...

Каравай. Яшчэ мне адзін Ісус — з'яўляюся... А хто табе сказаў, што ты Іван Швед?

Іван. Як — хто? Усе так завуць.

Каравай. У горад хочаш?

Іван. У горад.

Каравай. Вучыцца?

Іван. Дзе там вучыцца. Працаваць буду.

Каравай. Та-ак. А бульбу хто будзе адгружаць? Не чуў? Ніякі ты не Іван! Не дам табе спраўку.

Іван. Як — не Іван! Я — Іва-ан! Вот нават ён змалку мяне ведае. *(Загадвае.)* Дзед! Скажы старшыні, што я — Іван! *(Працягвае старшыні паперку.)* Падпішы.

Каравай *(не прызнае)*. Не, не Іван. А, дзед? Не Іван жа ён?

Дзед Цыбулька. Як вас паслухаць, дык быццам бы і не Іван...

Іван. Дзед!

Дзед Цыбулька. А як яго паслухаць, то быццам бы і Іван.

Каравай. Ты казкі чытаў, Іван? Ці, можа, бабка расказвала?

Іван. Ну, чытаў. Сам...

Каравай. Помніш, які там Іван? Хоць і дурачок, а вакол пальца абвёў і купца, і генерала, і цара, і нават самога папа.

Іван *(здагадаўся)*. Дык то ж — цара ды папа. А ты ж наш, савецкі. Не магу я цябе вакол пальца — Героя Сацыялістычнай Працы. Адпусці, старшыня, дабром прашу, адпусці.

Дзед Цыбулька. У паніку ўдарыўся, тэхнікі спалохаўся, таму і дэзерціруе.

Іван. Ты ў мяне прыкурыш, чэснае слова — прыкурыш.

Каравай. Не магу. Не магу я цябе адпусціць у горад.

Іван. А чаму? Другіх дык адпусцілі, а мяне...

Каравай. Сорамна такога выпускаць на людзі.

Іван. Чаму сорамна? Каму сорамна?

Каравай. Каму? Мне. Калгасу нашаму. Усёй нашай вёсцы.

Іван. А што я ўжо такі?..

Каравай. Ды ты ніякі. Ну, які ты спец? Ну, хто ты? Ну, што ты можаш у горадзе? Што ты? Токар? Пекар? Слесар? Механік? Што ты ўмееш? Нічога. Толькі... Вынь палец з носа! Зломіш! Толькі і навучыўся за дваццаць пяць гадоў у носе калупаць.

Дзед Цыбулька. Не толькі ў носе. Яго, брат, голай рукой не бяры. Ён у нас яшчэ які спец! Як на што, канечне...

Іван. Ты, дзед, ідзі на печ!

Дзед Цыбулька. Ды што ты? Я ж каб падвысіць цябе... А то, бачыш, як цябе спляжыў старшыня? Расцёр. А? Што? Не?

Каравай. У рабочы клас зацясацца хочаш? Дык жа рабочы клас павінен быць перадавы, вядучы. Разумееш? А які ты перадавы? Які ты вядучы. Ну, паедзеш ты ў горад, і што ты будзеш там рабіць?

Іван. Знайду што.

Каравай. Ну, што? *(Сур'ёзна.)* Ну, што цябе туды цягне?

Іван *(усё яшчэ прыкідваецца)*. Там кожны вечар можна ў цырк хадзіць. Не тое што тут. У тэатр, у оперу. А то — толькі па целевізару ды ў кіно бачыў тых, што танцуюць у «Лебядзіным возеры». А я хачу жывую паглядзець.

Каравай. Паглядзець ці пагладзіць?

Іван *(пасмейваецца)*. А што? Мо і пагладзіць пашэнціць.

Каравай. Вунь яно што! Куды гне. Я думаў, ён едзе ў горад павучыцца чаму-небудзь людскаму, прафесію набыць. А ён — у цырк хадзіць ды балерын гладзіць едзе.

Іван. Ды не толькі гладзіць...

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. Барбос ты, барбос! Табе тут мала?

І в а н. Дзед, не лезь! Не твайго розуму справа. Тут бальшой палітыкі разгавор пачынаецца. Ну, во што, старшыня: паваляў я перад вамі дурака, і хопіць. Не ў цырк і не да балерын я ў горад еду. Вот вы сказалі, што я ніякі. Ніхто! Верна! А чаму? Таму, што я універсал. А што такое універсал, калі па-нашаму сказаць? Пад усе бочкі шпунт. Затычка! Што я ў вас раблю? Усё! Хто куды пашле. А там я стану майстрам адной справы! Адной, але майстрам! А то — дажыўся: во — малаграматны дзед і той папіхае, пасылае смецце выносіць, туркае.

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. Ты і ёсць турак! Гэта я — малаграматны? Ды я адзін прачытаў болей кніг, чым увесь твой род аж да сёмага калена. Ну? Не крыўдна? Ды я са сваім завочнікам, а Юркам, усю палітэканомію асіліў. За гістмат узяўся. Вот? А? Што? Не?

І в а н *(адмахнуўся ад дзеда)*. Так што падпішы, старшыня. Калі ёсць справядлівасць...

К а р а в а й *(перадражнівае)*. «Справядлівасць»... Ты што? Глухі быў? Зараз калгасу кожны чалавек, кожная пара рук во як трэба! Пасяўная ж у разгары!

І в а н. І ў горадзе зараз сезон на рабочую сілу, асабліва на будоўлі. Вам на пасяўную ды ўборачную, а зімой я вам не трэба! Шэсць месяцаў паўбезработны тулнуўся, вуглы падпіраў! Тады не бачылі мяне? Не заўважалі? Цэлы год паддаваўся на вашы ўгаворы. А цяпер даволі! Я вам на прымусовыя работы не асуджаны.

К а р а в а й. Ах, вось ты як! Нам? Каму гэта нам? Сам у горад? А? На каго ж ты маці пакідаеш? Бацьку-інваліда? Хто іх карміць-паіць будзе? А? Гэта ж іх бульбу адгрузіць трэба! Не маю. Гэта ж ім дастанецца лішняя капейчына, а не мне. Дык табе напляваць на інтарэсы бацькі ды маці? Так? Не дам табе спраўку! Не Іван ты! І не прасі! Ідзі грузіць! Чуеш? А не — дык не! Цябе тады наогул няма і не было!

І в а н. Не? Чаму не? Па якому праву? Па якой канстытуцыі? Не хачу я тут! Свабодны я ці не?

К а р а в а й. Паможаш грузіць бульбу — будзе спраўка, а не...

І в а н. Не! Не! Не хачу! Не буду!

К а р а в а й. Ну і ідзі к... Кацiся без спраўкі!..

І в а н. Дзякую, старшыня! Значыць, я — вольны казак? Магу на ўсе чатыры?

Уладзімір Андрэевіч раззлаваўся, ён адыходзіць убок і нешта шукае ў кішэнях.
Дзед Цыбулька накінуўся на Івана.

Дзед Цыбулька. Нехрысць! Абармот! Хіба можна так з чалавекам? Бачыш — ізноў таблетку пад язык падкладае. Пайшоў прэч адсюль!

Іван. Ён сам вінаваты...

Іван выходзіць.
Дзед Цыбулька падыходзіць да старшыні.

Дзед Цыбулька. А ты прысядзь, пасядзі, перадыхні. Дзень толькі пачынаецца, а табе паспелі ўжо таблетку пад язык падкласці. Пасядзі, перавядзі дух. І не бяры блізка да сэрца.

Прыбягае Юрка.

Юрка. Уладзімір Андрэевіч!..

Дзед Цыбулька перапыняе ўнука.

Дзед Цыбулька. Пачакай ты! Паспееш! Не бачыш, чалавеку трудна!..

Дзед Цыбулька адводзіць Юрку ўбок.

Расстроіў яго гэты Швед. Спраўку ў горад хацеў. Перабег ён, гад, дарогу. Прыйдзецца нам з табой пачакаць. Не лезці ж пад гарачую руку з тым жа... *(У залу.)* А вы чаго вушы развесілі? Любуецеся, як чалавеку трудна? Ідзіце, ідзіце, любыя, прагуляйцеся ў фае. Ці ў буфет, там ліманад ёсць і крэндзелі з нашага хлеба. Пакаштуйце, яны салодкія.

*Заслона.*

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Усе ў тых жа позах, што і ў канцы другой дзеі.

Каравай. Ну, што там, Юрка?
Юрка. Зводка надвор'я свежая.
Каравай. Давай.

Ю р к а. Чакаюцца вятры розных напрамкаў.

Паўзачка.

Ад слабага да моцнага. Воблачнасць рэдкая, з праясненнямі. Месцамі, магчыма, будуць кароткачасовыя дажджы.

К а р а в а й. А ў нас?

Ю р к а. Як заўсёды — невядома. Зводку на цвічок?

К а р а в а й. Нібы іх саломай кормяць...

Д з е д Ц ы б у л ь к а. Ах, толькі б тае бяды...

К а р а в а й *(у роздуме)*. І жыць ужо сталі як людзі, і зарабляць... Дык жа не, цягне іх у горад. Чаго ім тут не хапае? Усё ў горад, у горад, у горад...

Д з е д Ц ы б у л ь к а. Каб грыбы былі смачныя, дык ваўкі не бегалі б з лесу авечак хапаць.

К а р а в а й. Што-што?

Д з е д Ц ы б у л ь к а. Гэта я сам сабе. Кажу: у ваўка аскоміна ад белага грыба. Захацелася авечку паспытаць. Апецітней, відаць? А? Што? Не? Не ламай галавы, старшыня. Ім горад трэба. А ты хоць і багаты, а горад не купіш, не прывяжаш у сяло. Во дзе загваздка...

Ю р к а. Уладзімір Андрэевіч! А мой дзед ідэю падае. Толькі, як заўсёды, трэба наадварот рабіць. Іменна! Паехаць у горад і дамовіцца з якім-небудзь буйным заводам і арганізаваць тут, у нас, вялікі цэх па вырабу нейкіх там дэталяў — крышак, шпонак ці яшчэ там чаго. Узімку людзі ў нас свабодныя — даём двайны план, улетку ж... І дома, і замужам. І завод, і калгас! А? Кааперацыя. Сціранне граней паміж горадам і вёскай на аснове вытворчага зліцця, уз'яднання. А? Прывезці горад у вёску! А?

К а р а в а й. Ах ты, тэарэтык дамарошчаны, філосаф самадзейны. Што! *(Падумаўшы.)* А можа, і праўда... варта падумаць? А? А думаць трэба! Як гэта ён казаў, Іван той, Швед? Майстрам адной справы? Гэта што? Вузкая спецыялізацыя, ці што? Не ўсё, значыць, мы ўлічылі. Не ўсё дадумалі.

Д з е д Ц ы б у л ь к а. Канечне! Не ўлічылі, не дадумалі, не дагледзелі, прамахнуліся. Моладзь уцякае, самая сіла бяжыць. Некаторых, канечне, і пасылаць не грэх, каторыя з талентам, як мой Юрка. Ну, а другім нечага там дзелаць. Мы з вамі вінаватыя. Ваша віна большая, а мая меншая.

К а р а в а й. Слухай, стары, надакучыў ты мне. Гудзіш над вухам, як камар. І вочы намазоліў. Што ты пастаянна аціраешся каля мяне? А?

Д з е д  Ц ы б у л ь к а *(пакрыўдзіўся, як дзіця).* Я... Я — народны кантроль. Я член там... Я, можа, як фітанцыд каля цябе. Адганяю ад цябе розныя шкодныя бактэрыі. Я, можа, вока народнае... Глаз прыжмураны. А?

Тэлефонны званок.

К а р а в а й *(у трубку).* Я зараз выйду сам пагляджу.

К а р а в а й азірнуўся на дзеда Цыбульку, пасміхнуўся па-добраму і выйшаў. З папрокам глянуўшы на дзеда, выходзіць і Ю р к а.

Д з е д  Ц ы б у л ь к а *(правёўшы вачыма старшыню).* А ён разгневаўся. Я перад ім і так і гэтак, а ён усё-такі ўбрыкнуў. Ну, канечне, і яго шкада — дум у яго хапае — галава пухне. Самая сіла бяжыць. А чаму ёй не бегчы? Спрадвеку мужык пад каўпаком быў... пад каўпаком ідыятызму дзеравенскага жыцця. А тут раптам і радыё, і кіно, і целевізар, і экскурсіі розныя такі свет адкрылі, што... Я нават не падазраваў, што ён такі агромністы, розны і забаўны. І чорненькія, і жоўценькія, і ў палосачку... Ды тут, каб не старасць, і сам падкасаў бы штаны і пайшоў бы... Проста так — для цікавасці. А? Што? Не? Прайшоў бы Кіргізію, Казахстан, Украіну, Малдавію. А што? Абавязкова любіць толькі свой катух? Чулан? А я вот люблю ўсю Беларусь, а не толькі той хутар, дзе нарадзіўся. Дый, чэсна прызнацца, я свой хутар саўсім і не люблю. Адарваў ён мяне ад вялікага жыцця. У маладосці адарваў. Прывязаў да плятня, да каровінага хваста. У песні як пяецца? «Широка страна моя родная!» Вот з песняй гэтай і пайшоў бы. Але і з другога канца паглядзець — а хто ж будзе хлебам карміць?.. Вось у чым пытанне — «Быць альбо не быць?».

У кабінет урываецца К р а н д з я л ё ў нібы ашпараны. Следам заходзіць К а р а в а й. Крандзялёў выпраўджвае за дзверы дзеда. Цыбулька затрымліваецца.

К р а н д з я л ё ў. Сустрэў Шведа Івана... з чамаданам.

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. Ну і што? Пайшоў балерын гладзіць. У цырк.

К а р а в а й. Пажадаў яму шчаслівай дарогі?

К р а н д з я л ё ў. Таварыш Каравай! Вы што думаеце, калгас — ваша вотчына? Што хачу, тое і варачу? Ці вам наплявацъ?

Д з е д  Ц ы б у л ь к а, напяваючы матыў танца маленькіх лебедзяў, выходзіць.

К а р а в а й. Што такое, таварыш Крандзялёў? Што здарылася? Зноў які-небудзь промах у мяне ці скрыўленне?

К р а н д з я л ё ў. Не промах, а лінія! На якой падставе вы разбазарваеце кадры? Вы распускаеце людзей направа і налева! Па гарадах! Разбрыліся! Гэта як назваць? Што гэта? Палітычная блізарукасць? Ці падрыў калгаснай эканомікі? Я ў вас пытаю!

К а р а в а й *(строга)*. Спакойна! Спакойна! Ты на каго крычыш? За што? Па якому праву?

К р а н д з я л ё ў *(заводзіцца)*. Я — старшыня групы народнага кантролю! На грамадскіх пачатках! Я хварэю за калгас! І нясу адказнасць! Я не павінен праходзіць міма...

К а р а в а й. Спакойна! Нервы трэба берагчы. Спатрэбяцца для сямейнага шчасця. Ты — пенсіянер. А пенсія — гэта заслужаны адпачынак. А ты... без перадыху, без адпачынку ўсё жыццё. Берагчы трэба сябе. А ты ўсё — амбразуры закрываеш.

Тэлефонны званок. Каравай здымае трубку.

К а р а в а й. Так, я. Колькі тон? А колькі галоў? Хто павязе на мясакамбінат? Я не магу. Пара ўжо і самім прывучацца. А як вы думалі? Вот ты і паедзеш... А ты не давай занізіць укормленасць. На гэтым можам страціць да сарака працэнтаў. Ты вот што... Слухай і на вус матай. Дырэктар, Міхаіл Міхалыч — заядлы рыбак. Ты зайдзі ка мне дахаты і вазьмі ў Еўдакіі Васільеўны каробачку з японскімі блёснамі і ляскамі. Жонка ведае, на шафе. Прыедзеш на мясакамбінат, не лезь, не спяшайся здаваць кароў, там цяпер чарга чорт ведае якая. А проста да самога дырэктара. Перадай ад мяне прывет і каробачку. Каробачку на стол. Ясна? Скажы: прасіў перадаць. Скажы, сам хацеў, ды... ну скажы: грыпуе. Перадай, што на рыбалку запрашаю, як толькі вада сыдзе з поймы. Ты сам не рыбак? Не, не, не трэба прыкідвацца — адразу раскусіць. Тут — чэсна трэба. А потым пахваліся, якой укормленасці каровы, запрасі палюбавацца — што ты прывёз на здачу. Ясна? Паплач, што вялікая чарга. Усёк? Зайдзі да жонкі. Еўдакія Васільеўна ведае дзе. На шафе.

Каравай паклаў трубку і нібы засаромеўся. Апраўдваецца.

А што? Прыходзіцца вось так... Здачу хлеба адрэгуліравалі. А вот мяса, фрукты, гародніну... Занізяць укормленасць

ці гатунак або прыпішуць нестандартнасць і — кукарэкай. Траціш трыццаць, а то і сорак працэнтаў... Разбой! І машыны могуць прастаяць каля варот мясакамбіната суткі. На льнозаводзе таксама. Вот і даводзіцца ў запас... Блёсны заказаць з Японіі. І разумею, а нічога не зробіш, абставіны пікантныя... *(Крандзялёву.)* Ну што ты там запісваеш? Эх ты!..

Паўза.

Дык якую такую лінію ты заўважыў? Што я скрывіў?

Крандзялёў. Уцечка кадраў назіраецца. На нашых вачах калгас бяднее на рабочую сілу. А ты палец аб палец не ўдарыў. Тут жа плаціну трэба, дамбу трэба, але затрымаць тых, што ў горад бягуць.

Каравай. Плаціну? На людзей?

Крандзялёў. Так, плаціну! Так, на людзей!

Каравай. Гэта як? Па ўзору кітайскай сцяны?

Крандзялёў. Не жартуй!

Каравай. Не, ужо лепей сеці раскінуць... па ўсіх дарогах і сцежках. Сеці дзешавей. Сілкі! Во!

Крандзялёў. Дурачком мяне лічыш? Вот як прызавуць цябе «на кавёр» — на бюро райкома... А я не змоўчу, скажу, што папярэджваў, загадзя сігналіў, своечасова.

Каравай. А ведаеш, ад чаго бягуць кадры? Не ведаеш? Ад цябе. Надакучыў ты ім, абрыд. Ну, проста да ташнаты. Мне адзін прызнаўся на развітанне. Такі шчыры ўцякач папаўся.

Крандзялёў *(крычыць)*. Дэзерціры! Перабежчыкі! Летуны!

Каравай. А чаму перабежчыкі? Яны што? Да ворага бягуць? Не. Здаецца, імкнуцца яны ў перадавы клас. У рабочы клас. Бліжэй да культуры, у горад, у навуку. А ты абзываеш іх. Табе вот не знайшлося месца ў горадзе, ты і сквернасловіш. А дарма!

Зноў урываецца дзед Цыбулька. На гэты раз ён прыкрываецца, нібы шчытом, Паляныцяй. Вядзе яго перад сабой, узяўшы за бакі. Выкрыквае то цераз адно плячо, то цераз другое.

Дзед Цыбулька. Не магу ждаць! Мы гарым! Старшыня! Я павінен крычаць! Я буду крычаць ка-ра-вул!!! Рабуюць! Гарым! Лавіце!

Крандзялёў. Што гарыць? Дзе?

Каравай. Ну, што з ім рабіць? Зноў спектакль?

Дзед Цыбулька. Не спектакль! Грабеж! Чэпэ! Разбой!

Каравай. Ты хочаш, каб я дружыннікаў пазваў? Так? Гэтага?

Дзед Цыбулька. Хоць міліцыю! Хоць пракурора зараз жа! Толькі не на мяне, а на яго! Лавіце! Пасылай пагоню! Ён жа абрабаваў! Яго, цябе, мяне, усіх нас! А я ж гаварыў... *(Нібы цераз плот брэша.)* Машэннік!!! Злодзей! Чычыкаў! Хлестакоў! А мы? А мы чаго стаім! Вароны! Разявакі! Ты чаго стаіш? Чаго стаіш, старшыня? Ён жа агра-абі-іў!

Каравай. Хто? Каго? Дзе? Калі?

Дзед Цыбулька. Вот — яго. Дарагога брата нашага ўкраінскага. Вот, да ніткі абабраў. Па пятнаццаць капеек за кілаграм! А? Што? Не? *(Да Паляныцi.)* Чаго ж ты маўчыш? А? Табе рыдаць трэба! Ну! Хныкай! Плач! Слязу, слязу давай!

Каравай *(да Паляныцi)*. Што такое! Што з вамі здарылася? Хто вы?

Паляныця. Паляныця я. Упаўнаважаны па нарыхтоўцы картоплі. Спецыяльны. З Украіны я.

Дзед Цыбулька. Вот! Чуў! Дагавор падпісаў з нашым раённым нарыхтоўшчыкам Скаромным. Ну, Уладзімір Андрэевіч, бяры таблетку пад язык. Па пятнаццаць капеек! За кіло! А? У нас купляе, а яму прадае. *(Крычыць.)* Ка-ра-вул! Людзі-і!

Каравай. Гэта што? Праўда?

Паляныця. Па пятнаццаць капеек. Умову падпісалы. А вам ён колькі дае?

Дзед Цыбулька *(забягае наперад)*. Вот чаго не знаю, таго не знаю. *(Падміргвае старшыні.)* Знаю, што таргаваўся са старшынёй. Капеек па дванаццаць, відаць? А? Што? Не? Мала? Ці па трынаццаць?

Паляныця. Так мы, можэ, без яго? Самі? Калі па дванаццаць.

Каравай Па дванаццаць?

Паляныця. Даю па дванаццаць!

Каравай. У таго мы прасілі па дзесяць. З цябе возьмем тое ж. Толькі ўмова — транспарт твой.

Паляныця. Даю па дзесяць. І мой магарыч! Даю і транспарт. Сёння ж выклікаю аўтакалону.

Дзед Цыбулька. Бачыш, як па справядлівасці? А той? Гэта ж трэба, каб етак? А? Проста-запраста роднага брата грабіць, друга дарагога... Які круцель, махляр, ашуканец! А? Што? Не?

Каравай. Ну, дзед! Ну, проста герой! Хадзі сюды!

Дай я цябе абніму! Сапраўдны герой! Недарма цябе ў грамадзянскую імянной шабляй узнагародзілі! Была б у мяне, падарыў бы табе яшчэ адну. *(Загадвае.)* Дзед! Немадкладна! Зараз жа! Мабілізуй свайго Юрку, бярыце машыну, усё пастаўце на ногі, але жуліка таго знайсці, дагнаць, вылавіць і жывога ці мёртвага... Звяжыце, калі не хоча дабром, у мяшок яго і сюды, ка мне! Ясна?

Дзед Цыбулька. Ёсць! Будзе вылаўлен! *(Камандуе.)* Юрка-а! За мно-ой!

Дзед Цыбулька выходзіць.

Каравай. Таварыш Паляныця! Мы зараз перааформім умову! Хай будзе па-вашаму. *(Прачыніўшы дзверы.)* Ідзі дыктуй, таварыш Паляныця! Святлана! Усё ў бачок і зараз жа аформі з таварышам дагавор. На бульбу. Па дзесяць капеек за кілаграм. На семсот тысяч кілаграмаў... Семсот тон!..

Голас Святланы. А як жа той?.. Дагавор на тую самую бульбу?

Каравай. Ніякага дагавора не было! Ты не бачыла! Ясна?

Каравай галантна праводзіць Паляныцю да Святланы.

Крандзялёў. Нічога, абсалютна нічога не зразумеў...

Каравай. Таму я і не пярэчыў, калі цябе ў рэвізійную камісію выбіралі.

Уваходзіць Святлана.

Святлана *(крыху спуджаная)*. Уладзімір Андрэевіч! Ломцеў! З міністэрства. А там дзяўчына гэтая сядзіць. Ціхая такая, насцярожаная, як звярок. Ніяк не прарвецца.

Каравай. Давай, давай Ломцева!

Каравай ідзе да дзвярэй сустракаць Ломцева.
Святлана выходзіць і тут жа прапускае ў кабінет высокага госця. Той уваходзіць важна, але з усмешкай на твары і з працягнутай рукой для прывітання.

Ломцеў. Добры дзень, таварыш Каравай! Добры дзень!

Каравай. Павел Пятровіч! Якім ветрам? Таварыш Ломцеў! Рады, вельмі рады вас бачыць! Вітаю! Вітаю!

Але гэтую ідылічную сцэну сустрэчы начальства парушае дзяўчына, якая ўвайшла следам за Ломцевым. Гэта Вера. Ці не рана-

вата яшчэ называць яе дзяўчынай? Больш падыходзіць — падростак. Але падростак баявы.

Вера. Не ўжо, таварыш Ломцеў! Вы пачакайце! Пачакайце! Столькі, колькі і я! А я тут з самага ранку. Пасля мяне — калі ласка. *(Да старшыні.)* Што гэта за парадкі ў вас? Хто панахабней, той і прэцца к вам. А элементарна культурны чалавек — сядзі і чакай?

Крандзялёў. А ты хто такая? Журналіст? Карэспандэнт?

Вера. Не ты, а вы!

Ломцеў *(уступчыва)*. Калі ласка, калі ласка. Я проста не заўважыў вас.

Каравай. Гэта таварыш з міністэрства...

Вера. І я таксама з міністэрства!..

Паўзачка.

Да-да!.. Вот, калі ласка, напраўленне. З Міністэрства культуры. *(Ломцеву.)* Людзей трэба заўважаць. Хіба вас у школе не вучылі: перш чым зайсці, трэба спытаць дазволу, пастукацца?

Мужчыны засмяяліся. Крандзялёў са спазненнем.

Каравай. Глядзі! Такая сінічка, а клюецца!..

Вера. Я не сінічка, а бібліятэкар! Мяне накіравалі к вам. Не к вам асабіста, а ў калгас.

Каравай. А ці надоўга?

Крандзялёў. Так-так! А калі назад?

Вера. Я назаўсёды сюды!

Каравай. Ды ну? А ты што, сама? Сваёй ахвотай?

Вера. Сама, па сваёй ахвоце. А што?

Каравай. Дзіва! Проста дзіва!

Крандзялёў. А ты...

Вера *(перапыняе)*. Не ты, а вы!

Крандзялёў. А вы... часам... не з дэфектам якімнебудзь?

Вера. А ў вашым сяле што? Усе дэфектыўныя? *(Разглядае Крандзялёва, нібы шукаючы ў ім дэфект.)*

Каравай. Якая калючая! Проста дзіва! Звычайна такія ў горад ірвуцца, а ты...

Вера. Дык гэта звычайныя. А я — незвычайная. Як вы. Толькі зорачкі няма. Шкада, што і не будзе.

Ломцеў. Чаму? Ты... вы яшчэ маладая.

Вера. Бібліятэкарам не даюць.

Каравай. Значыць, назаўсёды?

В е р а. Назаўсёды.

К а р а в а й. Сур'ёзна?

В е р а. Сур'ёзна. Я заўсёды сур'ёзная.

К а р а в а й. Ну, малайчына, малайчына! Дзела будзе! І толк будзе! Значыць — ты назаўсёды, да нас? А вот ён, таварыш Ломцеў, не назаўсёды і, як я дагадаўся, на кароткі час. Вялікае начальства надоўга не прыязджае. Дык вось, нам з табой будзе час, часу нам хопіць і пагаманіць, і паскандаліць. Так што прашу ціхенька пасядзець, а мы выяснім — з чым да мяне начальства завітала. Так? Ты ж не спяшаешся?

В е р а. Я не спяшаюся, канечне... Магу пачакаць і яшчэ.

Л о м ц е ў. Дык вось, таварыш Каравай, я прыехаў з адказным даручэннем, з парадай, просьбай, рэкамендацыяй. Як хочаш лічы.

К а р а в а й *(уздыхнуў)*. Просьба начальства — стражэй загаду, вось так, дочка.

Л о м ц е ў *(пасміхнуўшыся)*. Ты ж ведаеш, што шэф наш — заўзяты энтузіяст сенажу. Ён хоча пераканаць усіх, што вырашыць кармавую праблему можа толькі сянаж.

К а р а в а й. Дык жа ў мяне быў сянаж. *(Апраўдваецца.)* Чэснае слова, быў!

Л о м ц е ў. І дакладвалі, што добры. Правільна?

К а р а в а й. Так... Нібыта добры...

Л о м ц е ў. Дык вось, у гэтым сезоне трэба падрыхтавацца і закласці столькі сенажу і так арганізаваць справу, каб да вас у «Маяк» можна было вазіць прадстаўнікоў калгасаў і саўгасаў для перадачы вопыту. Правядзём у вас семінары кіраўнікоў абласных арганізацый, раённых. Карацей кажучы, вы будзеце ўвесь час у фокусе. На вашым прыкладзе будзем вучыць людзей.

К а р а в а й. За што ж на мяне такое, таварыш Ломцеў?

Л о м ц е ў *(жартуе)*. Ініцыятыва саманаказуема — сказаў адзін жартаўнік. Чуў? *(Сур'ёзна.)* Даручаюць табе вялікую, важную справу.

К а р а в а й. Не мела баба клопату — купіла парася.

К р а н д з я л ё ў. Якое тут можа быць парася? Ёсць ганаровае заданне, пачэснае. Значыць — трэба. А калі трэба, то — будзе! *(Па-салдацку.)* Будзе зроблена, таварыш Ломцеў

Л о м ц е ў. Тысячы тры тон здужаеце?

Каравай. А чаму тры? Іменна — тры?

Ломцеў. Меней нельга. Меней — не той эфект.

Каравай. Тут падумаць трэба.

Крандзялёў. Што значыць — падумаць? Нечага думаць! Калі ёсць непасрэднае ўказанне.

Ломцеў *(просіць)*. Каравай! Нам трэба сянаж! Разумееш?.. Нам! Трэба... Каб і арганізаванасць, і размах, і якасць. Разумееце, таварыш Каравай? Трэба! Калі ёсць якія-небудзь цяжкасці ці вузкія месцы — устранім. Калі ў чым патрэба — дапаможам.

Каравай *(падхапіў ідэю)*. Ой, патрэба! Яшчэ якая патрэба! Тут і думаць няма чаго. Цэмент, арматурнае жалеза, машыны, запчасткі, поліэтыленавая плёнка, ветравое шкло для «Волгі», чатырыста крэсел.

Ломцеў. Сянаж і ветравое шкло? Сянаж і крэслы? Для каго?

Каравай. І яшчэ! Шыфер для кароўніка, кінаапаратура для шырокаэкраннага, асфальт на тры кіламетры, дзесятак добрых жаночых шарсцяных касцюмаў для прэміравання.

Ломцеў. Ну-у, вы ўжо загнулі!..

Каравай. А як жа! Калі начальства просіць, то і ў яго можна выпрасіць. Я за грошы. Не за прыгожыя вочы. Да, яшчэ: «ГАЗ-69» для інжынера. Мінутачку. *(Па тэлефоне.)* Слухай, гэта я. Ёсць магчымасць выпрасіць тое-сёе ў начальства... Што-небудзь вельмі дэфіцытнае... Так, багатае. Высокае, значыць, багатае. Стоп, стоп. Хопіць. *(Паклаў трубку.)* Яшчэ, таварыш Ломцеў, лятучку... для рамонту ў полі.

Вера. А для бібліятэкі што?

Каравай. А што б ты хацела? Дзе твая заяўка?

Вера. Кнігі! Многа кніг! Я ведаю, чаго ў вас няма. Такіх кніг і ў горадзе не дастаць, а ў сяле і падаўна. Вот, я гэты спіс даўно састаўляю. Вот.

Ломцеў. Ну і народ! Вот народ! Не губляецца!

Крандзялёў. Пакажы твой спіс... ваш спіс.

Ломцеў. Цікава, цікава...

Каравай *(да Крандзялёва)*. А табе што?

Крандзялёў. Мне? Мне плакаты — для нагляднай агітацыі.

Ломцеў. Плакаты будуць!

Усе раптам зацікавіліся спісам кніг, згрудзіліся над ім.

Каравай. Так-так... Чытаў... Так... Чынгіс Айтма-

таў... Шамякін... Так... Гэта яшчэ нічога... Так... А гэтага я не чытаў.

Л о м ц е ў. І я не чытаў.

К р а н д з я л ё ў. Таксама не чытаў. І гэта я не чытаў...

Л о м ц е ў. Таксама. А гэта?.. А Вазнясенскага, вы думаеце, тут зразумеюць?

В е р а. Зразумеюць.

Л о м ц е ў. Калі нават я... Іншы раз усёй сям'ёй галовы ламаем.

В е р а. А ён піша для дагадлівых.

К р а н д з я л ё ў. Нам такая літаратура не трэба.

В е р а *(пакрыўдзілася)*. Вам? Вам — так! Вам ніякая літаратура не трэба. Вам даволі паўлітэркі і даміно. А вот вы для літаратуры вельмі патрэбны. Як прататып.

К р а н д з я л ё ў. Но-но! Толькі без тыпаў!

В е р а *(папраўляецца)*. Ну, як правобраз.

К р а н д з я л ё ў. То-та ж. Дачакаешся ад іх правобраза.

К а р а в а й. Як цябе завуць хоць?

В е р а. Вера. А што?

К а р а в а й. Вось ты прыехала сюды. А як бацькі твае паглядзяць на гэта? Што яны сказалі?

В е р а. Яны нічога не сказалі.

К а р а в а й. А ты з імі хоць пагаварыла? Параілася?

В е р а. Не.

К а р а в а й. Як так — не? А раптам яны запярэчаць?

В е р а. Яны не будуць пярэчыць.

К а р а в а й. Дзе яны жывуць? У горадзе?

В е р а. Не.

К а р а в а й. У калгасе?

В е р а. Не.

К р а н д з я л ё ў. Дык што яны? На Месяц забраліся?

В е р а. Я сама... У мяне няма бацькоў. Я — дзетдомаўка.

Паўза.

К а р а в а й. Ну, добра, Вера, будзеш у мяне за дачку. Добра?

В е р а. Дзякую. Але... я сама. Я сама!

К а р а в а й *(праз паўзу)*. Ну, канечне, сама. Малайчына! *(У тэлефонную трубку.)* Кватэру. Дуся? Гэта я. Слухай, Дуся, зараз прыйдзе да цябе дзяўчына, Вера... дзяўчына, яе завуць Верай. Прымі яе на ўзроўні... Так, на

самым высокім... як мы прымалі першага... Яна будзе жыць у нас. Усё. Да-а, яна вельмі вялікі начальнік! *(Паклаў трубку.)* Ну, Вера, ідзі дамоў, там цябе чакаюць.

В е р а. Дзякую, таварыш старшыня, але я сама хачу... Я самастойна жыць хачу.

За дзвярыма крыкі, шум, валтузня. Нарэшце дзверы расчыняюцца, і ў кабінет літаральна ўвальваюцца нарыхтоўшчык С к а р о м н ы і Ю р к а. Яны прывялі звязанага д з е д а Ц ы б у л ь к у.

С к а р о м н ы. Гэта чорт ведае што такое! Гэта нахабства! Стары хуліган! Уладзімір Андрэевіч! Ён — хуліган! Я звязаў яго.

Д з е д Ц ы б у л ь к а. Ну, вот і ўсё! І ўсё, мілок. Вот дзівак! Вот і ўсё.

С к а р о м н ы *(старшыні)*. Што тут у вас творыцца? Чорт ведае што такое!

Д з е д Ц ы б у л ь к а. Чорт ведае і яшчэ адзін чалавек — я. Я таксама ведаю.

К а р а в а й. Ціха!! Зараз разбяромся! *(Да Веры.)* А як жа іначай? Самастойна і толькі самастойна. А пакуль пагасцюеш у мяне. Ну, ідзі, ідзі, дочка. А прозвішча ў цябе якое?

В е р а. Невядомая. Вера Мікалаеўна Невядомая. Перад вамі накіраванне аддзела культуры...

К а р а в а й. І прозвішча такое... рэдкае, незвычайнае, як сама. Ідзі!

В е р а. А я ж не ведаю вашага дома.

К а р а в а й. Ах ты, ластавачка! Сама! Самастойна! *(Раіць.)* А ты ў павадыры вазьмі язык.

В е р а *(шчыра, душэўна)*. Дзякую.

В е р а выходзіць.

К а р а в а й. Таварыш Крандзялёў! Праводзь таварыша Ломцева ў нашу гасцініцу, уладкуй. *(Ломцеву.)* Там і наша сталовая. Падмацуйцеся. За гасцініцу і сталовую нам не сорамна. А потым сюды, будзем вырашаць справы.

К р а н д з я л ё ў. Гасцініца тут недалёка...

К р а н д з я л ё ў жэстам запрашае Л о м ц е в а, і яны выходзяць. Старшыня, пераміргнуўшыся з дзедам, развязвае старога.

Д з е д Ц ы б у л ь к а. Вот ён, наш ненаглядны! Мяне зламіў і да вас прывёў... Хе-хе... З яго карцінкі малявацъ... І тымі карцінамі цукерачкі абгортваць.

Уваходзіць П а л я н ы ц я. Убачыў Скаромнага і ўзрадаваўся.

П а л я н ы ц я. О-о, каго я бачу! Здаравенькі булы!

С к а р о м н ы. Прывет, прывет! А чаму вы тут? У вас жа ўсё ў акураце. Усё гатова. Вам не трэба было турбавацца. Я — чалавек слова.

К а р а в а й. Ды ён і не турбуецца. А вот мы... Памылачка ў нас выйшла. Не тую пячатку прытуліў я на дагавор. Паглядзі сам. Вынь з партфеля, паглядзі. І як гэта я пераблытаў? Склероз!

С к а р о м н ы. Як гэта не тую?

К а р а в а й. Пераблытаў і ціскануў табе пячатку касы ўзаемадапамогі. Вот пацікаўся сам. Незаконная яна на тваім дагаворы.

Скаромны ўжо кляцнуў замком партфеля, ды тут жа схамянуўся. Ён, напэўна, здагадаўся, што тут хочуць выманіць у яго дагавор. Закрыў партфель і схаваў яго за спіну.

С к а р о м н ы. Законная пячатка і гэта. Я давяраю і такой. Пячатка ўзаемадапамогі мае глыбокі сэнс. Я не фармаліст.

К а р а в а й. Тады ўсё яшчэ прасцей, калі не фармаліст. Вярні наш дагавор, і мы — зад аб зад і разыдземся. Без шуму-гаму.

Д з е д Ц ы б у л ь к а. І хто далей адскоча.

П а л я н ы ц я. І мой дагавор таксама.

С к а р о м н ы. Што гэта вы? Уладзімір Андрэевіч! Я вас лічыў сур'ёзным чалавекам...

Д з е д Ц ы б у л ь к а. А дарэмна! Пралічыўся! Во як! Пралічыўся!

Юрка штурхнуў дзеда Цыбульку пад бок. Дзед Цыбулька схамянуўся.

Не, я к таму, што Уладзімір Андрэевіч і ёсць у нас самы сур'ёзны мужчына. Варон не ловіць.

К а р а в а й. Начхаць мне на тое, кім ты мяне палічыш. Кладзі назад дагавор, жулік! Ну! Чуеш?!

Дзед Цыбулька падкраўся і выхапіў у Скаромнага партфель, хацеў перадаць яго старшыні, але нарыхтоўшчык дагнаў дзеда, наваліўся на яго, паваліў і адабраў свой партфель.

С к а р о м н ы. Аддай! Аддай! Ах ты, старая апенька! Ды ты ведаеш... Ды я цябе... Ах ты... Ну-у, не-е! Не на таго напалі!

Д з е д Ц ы б у л ь к а. Юрка! Трымай дзверы! А ты, Паляныця, не пускай да акна.

Каравай *(Скаромнаму).* Але і ты не на тых натрапіў. Вярні па-добраму! Аддай сам! Аддай, а то згубіш!

Скаромны. Са-ам? Ну-ну, не! Кармільца свайго аддаць? Ахламона шукаеце? У судзе аддам! Пасля таго як няўстойку адсуджу.

Дзед Цыбулька. Вот як шарахну між вачэй — тут табе і будзе няўстойка твая!

Скаромны. Што-о? Пагражаць? Я да пракурора пайду! Я...

Паляныця. Ну, дывысь! Він шчэ й крычыць!

Юрка. Лепшы спосаб абароны — нападзенне.

Паляныця. Будзь сазнацельны! Аддай сам!

Скаромны. Не буду сазнацельны! Ні за што не аддам сам! Хоць на крыжы разапніце. І прашу! Я патрабую выпусціць адсюль мяне на волю! Рукі прэч ад мяне! Дайце свабоду!

Дзед Цыбулька, Юрка, старшыня і Паляныця акружаюць Скаромнага.

Каравай. Дык ты з яго па пятнаццаць капеек дзярэш? А?

Дзед Цыбулька. А нам, жмот, капейку накінуць не захацеў? Казалуп!

Скаромны *(паспешліва).* Накіну. Капейку накіну.

Дзед Цыбулька. Не-е! Цяпер мы самі з вусамі!

Скаромны. Дзве! Даю дзве! Дзве накіну!

Каравай. Для гэтага трэба другі дагавор. Вярні стары.

Скаромны. Падпішам новы, аддам стары.

Скаромны апынуўся ўжо ў цесным кальцы акружэння. Ён вымушаны падняць партфель над галавой. Юрка падстаўляе крэсла, каб дастаць партфель, але Скаромны спіхвае яго з крэсла і сам спрытна ўскоквае на яго.

Каравай. Вярні спачатку стары!

Скаромны. Пашукайце дурнейшага!

Дзед Цыбулька. Юрка! Выбівай з-пад ног крэсла!!!

І калі Юрка і Паляныця намерыліся перакуліць крэсла, на якім узвышаецца Скаромны, той пераскочыў на пісьмовы стол. Гэта выклікала новы прыліў энтузіязму ў атакуючых. Скаромны, парушаючы элементарныя нормы прыстойнасці, адбрыкваецца. А калі зразумеў, што ратунку няма, што яго вот-вот сцягнуць са стала, ён, ратуючы партфель, тыграм скочыў на люстру, што вісіць над сталом. Трымаючы ў зубах партфель, ён рукамі ўчапіўся ў крыжавіну люстры. Гэта на нейкі час азадачыла нападаючых. Але мнага-

вопытны дзед, сагнуўшы Юрку, узбіраецца яму на спіну і адтуль хапаецца за ногі Скаромнага. Павісае. Раскалыхваецца. Штаны павольна спаўзаюць са сцёгнаў нарыхтоўшчыка. Дзед падае з трафеем у руках.

Каравай. Хай павісіць, а мы адпачнём.

Дзед Цыбулька. Ну-ну, прасыхай, прасыхай, мілок.

Скаромны. Я вас па судах зацягаю! Я вас «на кавёр» пастаўлю перад бюро райкома! Я ўвесь свет падніму на ногі. Гэта грабеж! Гэта разбой!

Паляныця. Ну і птах! А? Салавей і роза. Дывісь!

Скаромны. Рабочы клас вас не зразумее! Асудзіць! Закляймуе!

Каравай. Ён хацеў накарміць рабочы клас! А? Гад паласаты! З каго скуру дзярэш? Жулік! Махляр! Спекулянт!

Дзед Цыбулька. З роднага брата-ўкраінца?! А? Што? Не? Скідай партфель! Не дам у крыўду дружбу народаў!

Скаромны. Буду сядзець, аж пакуль людзі не збягуцца. Будуць жывыя сведкі.

Каравай. Ану, Юрка! Уключай электрыку! Падагрэем яго трохі — і сам адваліцца, як пераспелая груша.

Дзед Цыбулька. Пачакай, унучак. *(Палохае Скаромнага.)* А што, як ударыць яго токам? Счарнее, як сліва. *(Скаромнаму.)* Ну? Пакуль дабром просім — скідай партфель!

Скаромны. Працэнцікі вам трэба? Прэміяльныя адхапіць за рэалізацыю прадукцыі. За прэміяльныя вы гатовы на неба мяне адправіць? Душагубы! Во да чаго даводзіць матэрыяльная зацікаўленасць! А ідэі! Дзе вашы гуманныя ідэі? Дзе ваш рамантызм? Што такое для вас чалавек, які гучыць горда?

Дзед Цыбулька. Маўчы, казалуп! Юрка! Уключай! А ты, Украіна, адлічвай! Давай касмічны адсчот.

Паляныця. Дзесяць... дэв'ять... вісім... сім... шэсць... п'ять... чотыры... тры... два...

Скаромны. Стоп! Плюс электрыфікацыя...

Скаромны скідае партфель.

Каравай. Плакалі твае камісійныя...

Дзед Цыбулька падхапіў партфель і падносіць яго старшыні, як баявы трафей. Уладзімір Андрэевіч вымае з яго тыповы дагавор. Скаромны «прылуніўся» на стол, а адтуль на падлогу.

Паляныця. Давайце і мой.

Каравай. Во ён, бяры.

Дзед Цыбулька. Нялёгкая задача — адабраць у чалавека партфель, які яго корміць дасыта. Адно слова — партфель!

Юрка. Корміць, і поіць, і на пачэснае месца садзіць.

Паляныця *(саромеючыся, апраўдваецца)*. Тры дні паїў мяне. Да людзей не пускаў. Пілы, пісні співалы... українські... народні... Тосты за дружбу говорылы. Цілувалыся. Цьфу! От об'їхаў! От обвёў! Напуваў по самі ноздры...

Каравай. Каньяком?

Паляныця. Каньяком.

Каравай. І машыністка была?

Паляныця. Эге ж, була. Ух, яка сцерва! Була, не таюсь.

Каравай. Яго метад.

Скаромны. А ножкі? А ножкі якія? А міні-юбка?

Паляныця. Дагавор праштампавалі, і він счэз. А ота чартоўка ні кроку від мэнэ. Як прыклееная. А мне бульба трэба, картопля трэба. Нашы дзвоняць. Адарваўся я ад той гадаўкі ды і ў райком. Прашу. А сакратар мэнэ до вас. У нёго, кажэ, всэ е, і картопля, і, калі захочаш, птушынае малако.

Каравай. Сёлета няма. Даільны апарат сапсуўся. А рукамі, сам ведаеш... якое там вымя ў сініцы.

Юрка *(палюбаваўшыся на Скаромнага)*. «Вороне где-то бог послал кусочек сыру...»

Скаромны. Такой рэквізіцыі мой род не помніць...

Каравай. Я думаю — адным росчыркам пяра адабраць сорак дзевяць тысяч. А? *(Перакрэсліў свой дагавор.)*

Скаромны. А я ўсё-такі да пракурора схаджу.

Каравай. Не раю. А то я вазьму вось гэтыя два экземпляры — яго і мой, ды ў райком. А там лепей ведаюць, куды і каму паслаць — пракурору ці суддзі, ацаніўшы твае старанні па ўмацаванню эканомікі калгасаў свайго ж раёна.

Скаромны. Вось табе і на! Ужо адразу і ў райком. Што, мы самі не разбяромся? Райкому і без нас хапае спраў.

Юрка. А можа, дружыннікам кліч клікнуць. А? Хай палюбуюцца, пратакол напішуць. Наглядная карцінка будзе для райкома.

Скаромны. Ты яшчэ тэлевізійную студыю сюды прывязі!

Каравай. А я ж раіў табе мірна рашыць: зад аб зад і разысціся.

Скаромны. Ну, добра, згодны! Зад аб зад! Яшчэ не позна.

Каравай хавае ў сейф дагаворы.

Каравай. Хацеў мяне аб'ягорыць! А?

Дзед Цыбулька. Ну, да! Колькі іх такіх на фунт сушаных трэба? Каб аб'ягорыць нас.

Каравай *(да Паляныцы)*. Дык што, дружа, ты цяпер зразумеў, што такое дружба народаў? Гэта — калі я — беларус, ды ён... Дзед, ты беларус?

Дзед Цыбулька. Нібыта. Можа, прабабку і дагнаў які полавец, але пры перапісі лічуся беларусам.

Каравай *(працягвае)*. Ды ён — беларус, дружна ідзём біць свайго ж... Ты, Скаромны, якой нацыі? Беларус?

Скаромны. Чыстакроўны.

Каравай. Ідзём біць чыстакроўнага беларуса за тое, што ён пакрыўдзіў брата-ўкраінца, хацеў ашукаць яго.

Скаромны. Дык вы яшчэ і біць збіраецеся?

Каравай. Не, цяпер толькі гладзіць.

Паляныця. А цяпер, таварыш Каравай, давайце падпішам наш дагавор, які ўжо без ашуканства.

Каравай. Давай! *(Падпісваюць.)* І сёння ж пачынаем адгрузку.

Дзед Цыбулька. Уладзімір Андрэевіч, а цяпер выслухай маю рэляцыю. Заслугі мае перад калгасным рухам сёння ты сам убачыў: выяўленне, пошук і прывод гэтага хапуна і новага купца — раз! Ад гэтага чакаецца вялікі прыбытак і павелічэнне абароцістага капіталу — два! Што мне за гэта паложана? Ты павінен прадставіць мяне да ўзнагароды. Можа, і не спецыяльна, а пры выпадку. Ты мяне ўключы ў спісак. А то — усе ўзнагароджаны за мірны труд, а я ўсё з шабляй хаджу за грамадзянскую вайну. Я адзін на ўвесь калгас без медаля, без ордэна. Дзіковінка, скора на экскурсію сюды будуць прыязджаць, каб на мяне падзівіцца. А? Што? Не?

Скаромны. Аддай штаны!

Дзед Цыбулька. Гэта не штаны, а баявы трафей. Гэта як варожы палкавы сцяг. Ну, старшыня? А? Я актыўна дзейнічаў, як твая правая рука. «Знак Пашаны», думаю, што заслужыў. А? Што? Не?

Ю р к а. Узнагароду не просяць, дзед, а палучаюць.

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. Улічы, старшыня, што ўзнагарода ўзвышае не столькі таго, хто яе атрымлівае, колькі таго, хто яе выдае.

К а р а в а й. Ды ты — філосаф! Гэта што? Школа завочніка? Юркава навука?

Ю р к а. Самастойны ўрок. Мой дзед — вундэркінд.

У кабінет заходзяць Л о м ц е ў і К р а н д з я л ё ў. Яны, безумоўна, здзівіліся, убачыўшы ў афіцыяльным памяшканні чалавека з вялікім партфелем ды без штаноў.

Л о м ц е ў. Што гэта ў вас? Чаму ён у такой форме?

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. Гэта мы мерылі — у каго даўжэй штаны.

К а р а в а й. А цяпер надзенем. Дзед, памажы яму, а то ён дзве нагі ў адну калашыну сунуў.

С к а р о м н ы *(далікатна)*. Дзякую, дзякую. Ну, Уладзімір Андрэевіч, бывайце, усяго добрага, да пабачэння, не памінайце ліхам. Бывайце здаровы.

П а л я н ы ц я. Здаравенькі булы!

С к а р о м н ы выходзіць з кабінета. Следам за ім пакідае кабінет і П а л я н ы ц я.

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. Ну, унучак, настаў і твой час... Самая мінута падкаціцца да старшыні. Прасі.

Ю р к а. Уладзімір Андрэевіч! А цяпер рашайце і маю справу, маю просьбу...

К а р а в а й. Выбачайце, таварыш Ломцеў, я зараз яго адпушчу, а потым возьмемся за справу. *(Да Юркі.)* Дык якая ў цябе просьба? *(Да Ломцева.)* Малайчына хлопец! Апроч таго, што ён мая правая рука, мой шафёр, ад'ютант, саветнік і дамарошчаны філосаф-завочнік, ён яшчэ... сёння проста подзвіг адмачыў. Каб не ён...

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. І не я!

К а р а в а й. І не ён. Каса калгаса не далічылася б чатырнаццаці тысяч.

Л о м ц е ў. О-о-о! Ай да малайчына!

К а р а в а й. Давай тваю просьбу.

Ю р к а. У горад мне трэба. Адпусціце мяне ў горад.

К а р а в а й. Калі ласка. Хоць на тры дні. Яшчэ і камандзіроўку выпішу.

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. Кладзі пад язык таблетку, старшыня!

Ю р к а. Не, мне не на тры дні!.. Мяне назаўсёды адпусціце.

Каравай. Як — назаўсёды? А я? Без цябе я, як без рук.

Крандзялёў. Ты што? Дысцыпліны не ведаеш? Ты ж — сакратар камсамольскага камітэта. Вот вам — пахвалілі яго — малайчына, удалец. А ён — дэзерцір! Лятун! Перабежчык!

Дзед Цыбулька. Но-но! Ты лягчэй! Гэта мой унук!

Каравай *(Юрку)*. Значыцца, і ты?

Юрка. І я.

Каравай. Вось як! *(Дзеду.)* А можа, і ты? Зматваеце вудачкі? Уцякаеце? А тут усё хоць пропадам прападай? А? Адпускаю і цябе! Чаго сядзіш?

Дзед Цыбулька. А мне і тут хо-о-ораша! А каб быў маладзейшы, то...

Крандзялёў. Ты і маладзейшы быў... кулацкім падпявалам. А цяпер і ўнука выгадаваў па сваёй мерцы. Не так?

Дзед Цыбулька. А ты на каго ета крычыш? Ты што? Зноў за сваё? Зноў за старое? А? А ты чаму абзываеш мяне і ўнука майго ўсякімі такімі рознымі словамі? Мы за народны інтарэс толькі што подзвіг адмачылі! Можна сказаць, усенародна перад старшынёй нашым даказалі сваю прыхільнасць і адданасць! А ты?!

Каравай. Стоп! Стоп-стоп, дзед!

Дзед Цыбулька. Не, не стоп! А чаму яму не паехаць у горад! А для чаго ён абавязкова павінен кіснуць тут? Ты ведаеш, якая ў яго галава? Якая светлая? Якая гасударсцвенная! Ты чуў калі-небудзь ад яго глупства якое? А? Не? А мала гаворыць? Маўчыць? Таму што разумны! Ву-умны! Ды ён міністрам можа стаць, калі... толькі... разгон яму даць і дыстанцыю з перспектывай! А тут? Якая тут дыстанцыя? Да чаго ён дарасце? Кім стане? Ну-у, не-е! Ён паедзе ў горад! З яго галавой... Ён праб'е сабе дарогу такую, што... Як у песні: «Грудью проложим себе!»

Ломцеў *(спакойна)*. Вот вы, таварыш...

Дзед Цыбулька. Таварыш Цыбулька я.

Ломцеў. Таварыш Цыбулька, растлумачце мне, калі ласка, чаму іменна ў горад? А што будзе, калі ўсе захочуць стаць міністрамі?

Дзед Цыбулька. А што? Хіба і вы меціце ў міністры?

Ломцеў. Я? Чаму я? Я — не. Я не хачу.

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. Ну вот: вы — не, і я — не. Значыць, ужо не ўсе туды мецяць. Мая баба таксама туды не меціць. Вот я добра ведаю, што і Уладзімір Андрэевіч адчувае сябе на сваім месцы.

К р а н д з я л ё ў. А чаму і яму, маладому чалавеку, не атабарыцца тут? На пастаянна? Навошта ты патураеш усім сваім унукам, каторыя ў горад ірвуцца? Усіх туды выправіў?

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. Не, не ўсіх. Пецька вяртаецца з арміі? Вяртаецца. Значыць, не ўсіх! Ён будзе карміць усіх сваіх, што ў горадзе! Ясна?

К р а н д з я л ё ў. Аднаго вярнуў, а семярых адправіў?

Ю р к а. Вы што? Забыліся, што рэвалюцыя даўно замацавала права на свабоду, роўнасць і брацтва? І не вам, таварыш Крандзялёў, адмяняць гэта права!

К р а н д з я л ё ў. Чулі? Чуў, таварыш Ломцеў? А? Фармуліровачка? А? Шчасце тваё, што...

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. Што, мінуўся той час?

Л о м ц е ў. Да... Нездаровая тэндэнцыя... І не зусім зразумелая.

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. А ўсё-такі, таварышок, а як вы сабе ўсё гэта талкуеце?

Л о м ц е ў. Я?

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. Так, вы.

Л о м ц е ў *(паблажліва)*. Такая тэндэнцыя, такая сацыяльная з'ява, як інтэнсіўная міграцыя сельскай моладзі ў горад... Ты разумееш, што такое міграцыя?

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. Ну, ну, давай, давай, разбяромся.

Л о м ц е ў. Дык вось, такая нездаровая з'ява назіраецца, на жаль, не толькі ў вас, але і ў іншых раёнах.

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. А чаму гэта урбанізацыя ўжо стала і нездаровай, і на жаль?

Л о м ц е ў *(здзівіўся)*. Ух ты! А ён — эрудзіт!

Д з е д  Ц ы б у л ь к а. Зараз разбяромся, хто ерундзіт. А я лічу, што натуральная з'ява. Натуральная, і ўсё! Здаровая ці не вельмі здаровая, на жаль ці не на жаль, а яна ёсць. Ёсць, і ўсё тут! Тут хоць закукарэкай, а не адменіш, і ўсё. Юрка! Ану-тка растлумач ты яму, як мне ўчора. Крой!

Ю р к а. У дзіцячым садзіку даўно ведаюць, што навукова-тэхнічная рэвалюцыя захапіла і сельскагаспадарчую сферу дзейнасці чалавека. Бачылі, колькі новай тэхнікі

толькі ўчора прыбыло ў наш калгас? Пачынаецца новы спосаб вытворчасці. Ка-му-ні-стыч-ны!

Дзед Цыбулька. Во-во! Во! Новы спосаб работы! Як у Карла Маркса. Вот я хутка асілю яго «Капітал», тады я вам сам буду даваць прыкурыць. Тэарэтычна прыкурыць. Ну-ну, Юрка, далей!

Юрка. А новы спосаб вытворчасці нараджае і новыя з'явы, і новыя зрухі і ў палітыцы, і ў эканоміцы, і ў сацыяльнай сферы. Ён, спосаб вытворчасці, дыктуе заканамернасці і ў пераразмеркаванні вытворчых сіл грамадства. Вось дзе корань міграцыі. Натуральна? Так! На жаль? Не! Эканамічная заканамернасць.

Дзед Цыбулька. Як чотка! Як ясна! Малайчына! Светлая галава! І дамарошчаны! Ён у мяне завочнік! Тры курсы агораў. А вот чацвёрты і пяты... паедзе туды. На вочны! Кропка! Я сказаў!

Юрка. Вот для прыкладу... Што б вы сказалі пра абутковую фабрыку, якая сама зношвала б сорак працэнтаў сваіх вырабаў: чаравікаў, пантофляў? А? Смешна? Ды вы адразу распарадзіліся б закрыць такую фабрыку. А наша фабрыка — сяло — з'ядае сорак працэнтаў сваёй прадукцыі. Гэта нармальна? Не! Трэба круціць, вярцець мазгамі, павышаць прадукцыйнасць працы, а не трымаць за полы лішняга чалавека. Не выгадна гэта, не па-сучаснаму.

Ломцеў. Ну, брат, і тэарэтыкі тут у вас, Уладзімір Андрэевіч. Не чакаў! Проста — дзіва! Можа, і ўсюды так? Можа, я адстаў?

Дзед Цыбулька. Адстаў, адстаў. Не сумнявайся. Вот яна, навукова-тэхнічная рэвалюцыя... *(Выцягнуў з кішэні невялічкі радыёпрыёмнік.)* Транзістр. Самая найнавейшая сусветная навіна, яна тут, у мяне на далоні. Не той цяпер мужык пайшоў. Хопіць сёрбаць лапцем боршч! Спосаб работы — гэта табе не фунт ізюму!

Крандзялёў. Ты во што, ты тут не закручвай дагмацізьму. Нахапаўся цытат і скандзіруеш тут, як той кітаец. А тут усё ясна як божы дзень. Параслі яны, моладзь наша, зямлю паважаць, цаніць яе, любіць. А ты, стары чалавек, патураеш ім. Вот!

Ломцеў. Што верна, то верна. Утрацілі паэзію сельскай працы. А раней песні якія былі!.. Задушэўныя, пявучыя, аж сэрца шчымела... *(Напявае.)* «Меж высоких хлебов затерялося небогатое наше село...»

Дзед Цыбулька. Так-так-так-так...

Крандзялёў. А цяпер што? Чы-кі-бры-кі-вы-каб-

лу-кі. *(Перадражнівае нечы гартанны дзікі крык.)* Э-э-э-а-а-а — у-у-у-і-і-і! Цьфу. Падзічэлі! Ад рук адбіліся! Няма на іх цвёрдай рукі! Вот! Зямлю не любяць — тут корань зла! Не любяць яны зямлю!

Дзед Цыбулька *(спакойна пакуль што)*. А навошта яе любіць? Зямля, яна і ёсць зямля. Вот ты яе любіш, а не носіш за пазухай ці ў кішэні, у партманецiку. Вот калі капейчыну любіш, дык і дрыжыш над ёй, у цяплейшае месцейка яе, у кішэньку, што каля сэрцайка. Рублёўку любіш — і ідаць усім. А зямля... Чаму ж ты яе, калі ты любіш зямельку, чаму ж ты яе, ідучы ў хату, абмятаеш венічкам, абшкрабаеш трэсачкай са сваіх ботаў! А ты б яе, любую, узяў ды ў хату, ды на пачэснае месца — ды на стол яе, дарагую-залатую. А? Што? Не? Дык жа не! Да парога твая любоў. І правільна! Падзол, суглінак любіць ці пясок? Смешна, канечне. Можа, загадаеш яшчэ барану нам палюбіць, капаніцу ці другія сродкі вытворчасці?

Крандзялёў *(крайне абураны)*. Як гэта — падзол? Зямля наша толькі падзол? Ах ты, контра! Ды ты знаеш, што за гэтую зямлю людзі якія палажылі свае галовы! Нарадавольцы! На вісельнях паміралі. На эшафотах! Гнілі на царскіх катаргах! У рэвалюцыю колькі бальшавікоў расстраляна белагвардзейцамі, пасечана шашкамі, спалена ў паравозных топках?! Вольніца Сценькі Разіна чацвяртована на лобным месцы! Паўстанцы Булавіна, Кастуся Каліноўскага гарачай крывёю заплацілі за зямлю! Емяльян Пугачоў падняў цьму-цьмушчую мужыкоў на сялянскую вайну! Дык ты яшчэ пытаешся, за што яе любіць, зямлю, абмытую такой кроўю народа? А?

Дзед Цыбулька. А-а, дык во куды ты павярнуў? Значыць, я контра? А ты Сценьку Разіну і Пугачову — найпершы друг? Тады трэба даваць здачу. І расталкаваць табе, калі ты можаш хоць што-небудзь зразумець. Першае што. Калі я стаў законным пенсіянерам, поўнасцю забяспечаным на пражытак, я апынуўся як бы без канкрэтнага дзела. А ета што-о? Для селяніна што? Скажу я вам: эх, і трудная ета работа — сядзець без дзела. Як у прэзідыуме. Вось тады і задумаўся... Перадумаў усё жыццё, і сваё ўласнае, і дзеда, і прадзеда, а такжа і ўнукаў, і праўнукаў сваіх, якія ёсць і якія будуць. Раз ты зачапіў былое, то я табе абратна — раскрыю былое і думы. Ты патрывожыў светлыя галовы Сценькі Разіна і Пугачова, карадавольцаў, герояў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Не-е, брат, не тваім кацялком, не тваім чыгунком пераварыць іх светлыя

мечтанія і надзеі. Ета дзела мудрае, тонкае і хітрае. Ета табе не толькі абы-што пра ета самае, а яно бог ведае што! І калі на тое пайшло, калі хочаш у сутнасці разабрацца, дык не таму бывала ад таго, а зусім наадварот — ад таго і бывала, таму, што... вабчэ і ў часнасці... Паняў? Не-е, не раскумекаць табе ета. А таму возьмем канкрэтна і проста па буквару. Вот ты папракаеш майго ўнука і мяне, што мы не любім зямлю. О-о, як мы яе любілі!!! А яна, ета зямля, за любоў за нашу мяне, бацьку майго, дзеда і прадзеда векавечна, стагоддзямі, тысячагоддзямі без жалю гарбаціла, гнула дадолу, цягнула за каршэнь у гразь, у багну, у балота! Гэтая зямля за тысячы гадоў наскрозь прамокла людскім потам, набракла горкімі мужычымі слязьмі. Ступі на яе, і яна чвякае. Векавечна я стаяў перад ёй на каленях, па крупінцы перацёр яе ўсю пальцамі, біў зямныя паклоны, рыдаючы, чытаў перад ёй малітву, прасіў яе і ласкаю і ў гневе, каб пракарміла, каб пашкадавала дзяцей. Ад зоркі да зоркі, ад цямна да цямна крукам гнуў спіну, не паднімаючы вачэй к небу, к жаваранку — прыгажосці. І так вякамі. Да самага канца! Аж пакуль і самога не пакладуць у сырую зямельку. Так яна плаціла нам за любоў! А чаму ж тады я — неўміручы, бессмяротны мужык — пайшоў за Пугачовым, за Разіным, за Леніным, за Чапаевым? Ды яшчэ з песняй «За зямлю, за волю, за лепшую долю»? Чаму? Сказаць, хто прывёў мяне ў дружыны, у іх атрады, у іх палкі? *(Са здзекам.)* Думаеш — любоў да зямлі? Не-е-е!!! Голад! Крыўда! Яны вялі мяне туды! Зямля... Яе хапала і тады, пры панах. Рабі і любі яе, зямлю ету, колькі хочаш, хоць цалуй яе, хоць ліжы. Толькі плады працы тваёй даставаліся чорту лысаму: пану-дармаеду, купцу, цару-бацюшку, папу, чыноўніку, жандару, а не таму, хто рукі мазоліў. Сам аставаўся галодным, дзеткі пухлі з галадухі ад бясхлебіцы. Не крыўдна? Не балела душа? Да слёз крывавых крыўдна было! Вот так, да ўдушша!.. Вось гэта крыўда, галодныя дзеці і надзея на вольны труд гналі мяне на смяротны бой. О-о-о-о, ета зямля!.. Вот паспрабуй — прапануй любому калгасніку зараз дзесяць, пятнаццаць дзесяцін зямлі. Думаеш, возьме? Нават задарма, за так. Не-е! Дудкі! Зразумеў мужык — не ў зямлі шчасце! Во-о-о! Другі час цяпер. Спосаб жыцця другі. І цэнім мы цяпер іншае — лад, лад наш! І самі цяпер іншыя — з гонарам. І не ў тым дзела — любіць не любіць. Яе panімаць трэба, знаць! Ну, канечне, што ёй трэба — трэба. Угнаенне там, хімікаты,

гербіцыды... І не пальчыкамі песціць яе, перацірапь, не капанічкай, а трактарамі, бульдозерамі, канавакапальнікамі, баронамі, сеялкамі і браць, браць ад яе ў два, тры, у пяць разоў болей як раней. Э-эх, зямля, зямелька... А вот прыгажосць, што на ёй расце — любіць трэба. *(Смакуе кожнае слова.)* Хлеб! Яблыка! Вішня! Кроп. Клевярок. Жаваранак. Траўка лугавая. Ах, як пахне! Арамат які! А там — ква-ква... Ці салоўка... з пералівамі.... І людзі... Людзі, людзі, людзі. Шчаслівыя! З песнямі! Вот за ета можна і жыццё аддаць! Толькі б дзецям і ўнукам вольна дыхаць, вольна жыць і вольна працаваць... Так што, унучак, перад табой — воля!

К а р а в а й. Во, брат! Колькі год поруч з табой, не адзін пуд солі разам з'елі, а не знаў, што ты жывеш з гэткім размахам! А? Дзед які? А? Толькі, як дамарошчаны філосаф, павінен адрозніваць паняцці: адно дзела — зямля — звычайнае поле, зямля — сродак вытворчасці, і другое дзела зямля — сімвал Радзімы.

Д з е д Ц ы б у л ь к а. Вядома! *(Юрку, строга.)* Радзіма — гэта святое! Самае святое!

Ю р к а. Вы не крыўдуйце на мяне, Уладзімір Андрэевіч. Але прыйшоў мой час шукаць сябе, шукаць сваё месца. Вот вы знайшлі сваё прызванне, і я вам зайздрошчу. Я ж не мяккае месца шукаю, а сваё. Каб ад мяне максімум карысці было. Гэта ж ваша правіла. Не трэба на мяне крыўдаваць.

К а р а в а й. Я не крыўдую. Ты толькі выбраў час непадхадзяшчы. А так... што ж... Шукай. Шукай сваё месца ў жыцці, пакуль малады. Вунь Верка сюды прыехала шукаць, Васіль і Канцавы — брыгадзір наш, тут знайшлі. Трактарысты — жалезная гвардыя мая — таксама тут. А дзед твой таму і бунтуе, што і сёння яшчэ шукае сябе, хоць век свой пражыў ужо... Таму і за цябе ваюе так — сваю мару табе перадаць хоча. Я яго разумею... Ну і ты шукай сваё прызванне. Шукай. Толькі... Дзе б ты ні быў, куды б ты ні паехаў, у якое крэсла ні сеў бы, не забывай нас, помні наша сяло, дзеда свайго, яго вялікую светлую мару. Не адрывайся. А пра мяне ты верна падмеціў — прызванне сваё я знайшоў тут. Усе радасці мае і нягоды, усе пачаткі і канцы мае тут. Ты не глядзі на таблетку, я доўга яшчэ буду жыць. У чым асаблівасць нашай сялянскай душы? У чым сакрэт нашай цярплівасці, жывучасці, неўміручасці? У тым, што мужык, селянін вечна чакае і надзеецца. Пасее азімае і чакае — а ці ўзыдзе, а ці выпа-

дзе снег, ці пакрые пасевы ад марозу? Вясной — ледзь снег з поля — ён сам у поле. Ці не вымерзла, ці не вымакла. Пасее яравое — і зноў жа — а як узышло. А потым чакае з надзеяй — а як закаласуе, а як закрасуе, а як наліваецца. Радзілася цялушачка, і зноў жа з надзеяй чакае, калі яна стане кароўкай. Пасадзіць дубчык і чакае — калі ж вырасце яблынька ці груша. Чакае дожджыка, чакае сонейка. Чакае вясны, чакае жніва. Сёння зробіць, а вынікі не тут жа на далоні, а трэба чакаць. Вот і няма калі паміраць мужыку — не ўсё даведзена да канца. А канца таго і быць не можа. Вось чаму даўгавечны мужык. Чаканне і надзея — яго цалебныя лекі, самыя лепшыя таблеткі. А прыйдзе час перабрацца туды, на горку, пад бярозу, дык і там буду чакаць, адтуль буду любавацца — а як узышло, а як каласуе, красуе, наліваецца жыццё наша... ваша! Вось якое яно, хлопча, прызванне наша. І ўсе гэтыя чаканні і надзеі не толькі для сябе, а каб людзям, ча-лавеку гасцінец паднесці — хлеб!

І зноў узнікае недзе песня:

Люблю наш край, старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла...

*Канец.*

*1972*

# КАШМАР

**НЕБЯСПЕЧНАЯ КАМЕДЫЯ У ТРОХ ДЗЕЯХ**

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Стары — ён жа і прэзідэнт.
Старая — маці.
Дачка — яна ж актрыса.
Сын — ён жа віцэ-прэзідэнт.
Нэла — яна ж сакратар прэзідэнта.
Дружок — ён жа памочнік прэзідэнта.
Гаспадар — галава ваенна-прамысловага комплексу.
Ваенны міністр.
Міністр фінансаў.
Міністр па шпіянажу.
Раб.
Тэлерэпарцёр.
І шайка міністраў у масоўцы.

Не саграшыш — не пакаесш.
*Бабуля сказала*

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

## ЯВА

Ява — не сон, але і наяве часам такое бывае, што і ў сне не прысніш.

Прастор такі, што па лініі гарызонта відно — Зямля наша ўсё-такі круглая. І вось на гэтай самай акругласці, недзе далёка-далёка, віднеецца сілуэт паселішча — сялібы людскія на зямлі запаветнай. Лета. Луг. Стажкі. Зелень. Ціша. Спакой. І над усім гэтым — блакіт. Прыгажосць казачная. Пташкі шчабечуць, верабейкі чырыкаюць, конікі стракочуць, звіняць камарыкі, гудуць пчолкі, і чмель завяршае свой палёт. Калі адным словам, то — рай. Недзе кукуе зязюля.

А тут — гора. Тамленне духу.

Богападобны біблейскі старац ледзь перасоўвае ногі. Пакутуе старча. Проста млее. Стары ў белай ільняной доўгай сарочцы навыпуск. Парусінавыя штаны памятыя. Босы. Брыдзе і валачэ за сабой найсучаснейшы транзістар. Многаканальны.

Якое ж гора няўцешнае ў цябе, чалавеча? Якая ж бяда напаткала цябе? Ад чаго на твары тваім такія мукі адбіліся? Чаму ж ты слязамі так заліваешся? І маўчыш. Ціха, бязгучна плачаш, нібы гора тваё сусветнае, нібы бяда твая непапраўная, нібы боль у цябе не толькі твой, а ўсяго твайго роду-племені. Ты крыкні, стары, крыкні! Вызвалі душу, аблегчы яе крыкам. Ну, паспрабуй выплеснуць са словамі тую горыч, што накапілася ў цябе на сэрцы. Ну! Не даюцца яму словы. Нібы зблыталіся яны і захраслі ў горле клубком, камком, і ні пракаўтнуць яго, ні выкашляць. Ну, вытры слязу, стары. Пракашляйся. Скажы хоць што-небудзь. Стары адкашляўся, нібы папярхнуўся, а потым, не раскрываючы вуснаў, працягла, ціха і жаласліва, нібы ў муках, прастагнаў.

Стары. О-о-о-й-і... Што ж ты нарабіў, сынок? Якую ж ганьбу ты наклікаў на ўсю фамілію нашу? Роду нашаму прынёс *(аж захліпнуўся)* такую славу! Ды дзед жа твой за такое тапаром бы цябе засек. Пры людзях бы засек. А братам тваім як? А сёстрам? А маці тваёй цяпер як у вочы людзям глядзець? А мне куды вочы... куды іх схаваць?

Набліжаецца жанчына. Яна ступае асцярожна, нібы баіцца ўспугнуць Старога, нібы апасаецца, што ён знікне, збяжыць. На

твары ў яе шчырая спагада, душэўнае разуменне вялікага гора гэтага чалавека. Ну вядома, яна — жонка Старога. Чулая. Добрая.

Старая *(ціха, асцярожна, далікатна)*. Як жа ты мучышся, родны мой! Як жа цябе скруціла! Куды ж ты? Пастой! Чаму ж ты кідаеш мяне? Я ж усю ноч шукала цябе. Я ж усё сяло на ногі падняла. Я ж падумала ўжо, што ты і рукі налажыў на сябе. А ты во дзе... Ну пастой! Ну пачакай! Хадзі пагаворым з табой... *(Яна выставіла рукі, нібы голуба запрашае сесці на далоні.)*

Стары дзікавата спыніўся. Стаіць, схіліўшы галаву, утуліўшы яе ў плечы, адвярнуўшы твар ад жонкі.

Стары. Што тут скажаш? Што тут гаварыць?

Старая. А мы ўсім сялом цябе шукалі. Рэчку ўсю, усе віры перагледзелі, перашчупалі, перамацалі. А ты тут. *(Раптам хваліцца, як маладайка.)* Я ведала, што ты тут. Душа чула, што ты каля сваіх каровак, на лузе. А дзе ж ты быў? Калі мы аукалі тут, ты дзе быў?

Стары. Ад людзей хаваўся... Вунь там, у стозе.

Старая. А я думала, што і сама памру. Калі не знайду — памру. І знайшла ўсё-ткі. *(Падыходзіць, быццам падплывае да Старога.)*

Стары абдымае жонку. Абое заліваюцца слязамі. Паціху ўсхліпваюць. І раптам Стары, расчулены жаночаю ласкай і жаласцю, завыў, ды так шчыра, з такім натуральным пераходам ад рэчататыву да песні, нібы ў гэтую песню ён і пераліваў свой душэўны боль.

Стары. Гора... Гора якое... «Гора горкае па свету шлялася і на нас незнарок набрыло...»

Старая *(ашаломленая)*. Што з табою? Не трэба так, не трэба! Ну што з табою? Ты ж на вяселлях ніколі не спяваў, на хрысцінах ніколі. А тут... А? Што з табой?

Стары. Во-от... А тут... запеў...

Старая. Ну колькі ён там таго ўзяў?

Стары. Не ў том дзела — колькі, а ў том, што ўзя-яў! Дзед мой, прадзед мой наказвалі... Бацька мой, паміраючы, завяшчаў як вока берагчы чэсць роду свайго, добрую славу, каб даражылі павагай людской. Калі, хто з нашага роду на чужое пакваліўся? Было такое?

Старая. Не, не было.

Стары. Нават калі згублена каля нашага двара...

Старая. То гэта не згублена.

Стары. Хто, калі ўсумніўся ў нашай чэснасці?

Старая. І такога не было.

Стары. Не магло быць.

Старая. Не магло, не магло.

Стары. Во-о, рэпута-ацыя! А тут? Каб мой сын ды ўдаву пакрыўдзіў, дзяцей-сірат?! Ды не адну, а дзвюх!

Старая. Можа, нічога і не было, можа, яны напрасліну ўзвялі, можа, самі аблічыліся.

Стары. Не затуляй яго! Рэвізію прыслаў пракуро-ор! Следствіе, допыты вядуць. Пра майго сына!

Старая. Ну во — і пачакай. Хай рэвізія. Хай дапросяць. А там і выявіцца, што ён нічога... што ён невінаваты.

Стары. Выявіцца? А пляма? А падазрэнне? А?

Старая. Вунь карова нешта... галавой матляе. Заблыталася, ці што? Ідзі-тка паглядзі. Галаву задзірае, нібы пець збіраецца.

Стары пайшоў да каровы.

Гора ты маё векавечнае. Са злодзеем, кажуць, нядобра жыць, вечна пад страхам, вечна ў трывозе. Але ж і з маім ой як не соладка. Гэтая ягоная чэснасць у пячонках у мяне сядзіць і ў дзяцей. І сяло ўсё на дыбачках перад ім. Вот вазьмі і намаж яму мёдам па губах, дык калі не сваім — нізашто не абліжа. Вытра, а не аблізне.

Вяртаецца Стары.

Стары. Пысай ткнулася ў правадок пад токам. Во і круціць цяпер рагамі.

Старая. Здорава б'е? Балюча?

Стары. Паспрабуй сама, тады і пытацца не трэба.

Раптам недзе ў небе выбух і грукат звышгукавога рэактыўнага самалёта. Стары і жонка, задраўшы галовы, сочаць за самалётам.

Старая. Цьфу на цябе, перапалохаў.

Стары. У людзей дзеці — арлы, сокалы! А мой сын?

Старая. Не наракай! Не гняві бога! Мае дзеці, ты глядзі ў мяне. Я за іх... Старэйшая дачка — доктарка. Якаў — канструктар на спытацельнай станцыі. Мікола — аграном. Пятро — суддзёй у сталіцы. Анюта — па рыбах спецыяліст. Соня і Клава з Дошкі гонару не злазяць. А Жорка, а Міля?

Стары *(крычыць)*. А гэты? А? Жан? Не Іван, а Жан! Імя сабе падмяніў. Не як людзі, як бобік. Не ў поле, не к станку, не на трактар пайшоў. А лёгкага хлеба шукае. Вучыцца лень. Працаваць лень, а жыць раскошна хоча. Хто ён? Адкуль ён? Таргаш? Бізнесмен?

Старая. Не выдумляй. Ну хай хоць адзін паспрабуе...

С т а р ы. Што паспрабуе? Аблічваць? Ашукваць? Удаву з чатырма дзяцьмі аблічыў на сорак дзве капейкі! А? Што? А гэту, храменькую, і так богам пакрыўджаную, аблічыў на семнаццаць капеек. А? Чыя ў яго фамілія? У гэтага твайго Жана? Дзе ў яго сорам? Ім хіба дарма дастаецца гэта капейка? Яны трудом прыдбалі яе. А тут — на табе — знайшоўся спец-купец... Машэннік! Дзялок! У Амерыку яго, ядры яго за нагу! Во там хай! А тут... Няма яму месца тут!

С т а р а я. Вот ужо ўбачыў грэх...

С т а р ы. Так, грэх! Зганьбіць род! Прадаць за сорак дзве капейкі?! Размяняць фамілію на семнаццаць дробных манетак?!

У небе зноў гуркоча самалёт.

Вунь бы яму дзе! Там не разменіш. Там увесь на віду.

С т а р а я. А што ўжо там асаблівае? Падумаеш, лётае. Дым пускае ды гуркоча, аж галава баліць. Бачыш, шлейф які? Паветра чыстае смуродзіць і пташак распужаў — вунь прыціхлі, прысмірэлі. А дыму колькі!..

С т а р ы. Да, дыму ён трохі лішку... Карбюратар, відаць... *(Крычыць у неба.)* Карбюратар, карбюратар папраў! Не пачуе. Хоць бы назад азірнуўся. Таксама, відаць, пражыгацель, ліхач, абы пакрасавацца. Палавіна гаручага не згарае, а ён... Транжыр! Пражыгацель!

С т а р а я. Ну во, а ты на свайго ўз'еўся за сорак дзве капейкі, за семнаццаць. А там, можа, цэлая бочка бензіну ў трубу вылятае. А наш... Ну што ён там ужо...

С т а р ы *(узрываецца)*. Прынцыпы! Прынцып які? Людзей абдзіраць? Так можна і да разбою! Да грабяжу!

С т а р а я. Ну ціха ты, ціха. Ну вярну я ім і сорак дзве капейкі, і семнаццаць. Вярну.

С т а р ы. А ганьбу куды? А сорам куды? А чэсць роду? А людскую павагу? Купіш? Выйграеш у латарэю? А? Імя! Імя добрае як адмыеш? У сціральную машыну не сунеш.

С т а р а я. Можа, памыліўся, можа, і сам таго не хацеў хлопец. А ты... Жыўцом яго з'есці хочаш.

С т а р ы. Хай не памыляецца! Яго вучылі. Дзесяць класаў скончыў. У арміі адслужыў. У ракетных войсках. Мог і там памыліцца? Не мае ён права памыляцца.

С т а р а я. Ну што тыя дзесяць класаў? Вунь з большай адукацыяй і то памыляюцца.

С т а р ы. Хто? Дзе?

Старая. У Дзяржплане.
Стары. Не можа быць! Не паўтарай паклёп.
Старая. Ну то, можа, у Міністэрстве фінансаў...
Стары. Тым больш! Там-то ўжо ўмеюць лічыць.
Старая. Ды ты што? Не чуў хіба? Люся, ну гэта — парыкмахершы нашай дачка, універсітэт амаль што скончыла, цяпер *(нібы прабачэння просіць)*, далібог, у Дзяржплане працуе, машыністкай. Коску не там паставіла, і на мільён памылка выйшла. А то — сорак дзве капейкі, і ты... А бо-ожачкі!..
Стары. Дык жа не з бюджэту ўдавы!
Старая. А мільёны збіраюць з усіх: удава ты ці не ўдава.

Здалёку крычыць, нясе радасную навіну дзяўчынка. Крычыць звонка, на ўвесь луг, радасная, усхваляваная малодшая дачка.

Дачка. Ма-а-ма! Та-а-та! Растра-а-ата-а! *(Яна, нібы віхор, кружыць васьмёркі вакол бацькі і маці.)* Ра-астра-а-ата-а!
Старая. Якая растрата? Дзе растрата? Што ты пляцеш?
Дачка. У нашага Жана! Растрата! Во! У нашага Вані. Тата, радуйся — у Вані растрата! *(Крычыць усяму свету: лугу, лесу, небу, птушкам, бацьку, маці.)* Ра-астра-ата-а!!
Старая. Ціха ты! Не крычы, дурненькая.
Стары. Толкам кажы, якая растрата?
Дачка. Якія ж непанятлівыя ў мяне продкі! Рэвізія выявіла недастачу. У Вані не хапае грошай.
Старая. Недастача, кажаш?
Стары *(нібы яго ўкалолі)*. Як так — не хапае?!
Дачка. А вось так — няма, і ўсё. *(Абтрэсла далоні.)* Дзвесце сорак два рублі і семнаццаць капеек.
Стары. Як жа недастача, калі ён аблічваў, драў?
Дачка. Ну, значыць, не аблічваў і ні з каго не драў. А наадварот — сам аблічваўся, даваў болей здачы па дабраце.
Стары. Як гэта сам?
Старая. Што ты гародзіш, дурненькая?
Дачка. Ох, якія ж вы някемлівыя! Ну, дасі яму рубель, а ён дасць памаду і яшчэ паўтара рубля здачы.
Стары. Ды ён што? Дурны?
Дачка. Не дурны, а добры. Ну, прыйдзе хто-небудзь купляць паліто, а тут не хапае якіх-небудзь трох капеек.

Дык што? Адпраўляць чалавека дамоў, ганяць за тры капейкі? Тут жа ўсе людзі свае.

Старая *(папракае)*. І пракурору ніхто заявы не напісаў...

Стары. Не было такога!

Дачка. Ты пракурору гэта скажы, дык ён табе растлумачыць: недастача ёсць? Ёсць. Факт? Фа-акт, а не сон у летнюю ноч.

Старая. А чаму ён так рабіў?

Дачка. Я ўжо сказала: таму што добры. Ну чаму бываюць людзі добрыя? Добры, і ўсё. Вот і аблічыўся.

Стары. Гэта ён так сказаў?

Дачка. Не, гэта я сама так дагадваюся. А другога і быць не можа. Вот каб я была прадаўшчыцай, я б таксама вот так... Думаеш не? Тата, а ты? Вот каб ты... Як бы ты? А, тата?

Стары *(яго прыціснулі к борту)*. Ты во што... Ты свае домыслы, свае фантазіі... Ты для сачынення на экзаменах прыберажы.

Старая. Якая ж ты ў мяне яшчэ дзівачка. Проста з казкі. *(Старому.)* Ну, во, а ты гаварыў. А ты выў, скуголіў. Бачыш, якія дзеці ў цябе? *(Абняла дачку, прыгалубіла.)* Любая мая! Сардэчная! *(З гонарам.)* Парода такая!

Паўза.

Дачка выкаўзнулася з абдымкаў маці, узяла бацькаў транзістар, уключыла яго. Чуваць прыемны святочны жаночы голас. Дыктар амаль весела расказвае аб апошніх падзеях на нашай планеце.

Радыё. ...Трыста дзесяць танкаў і шэсцьдзесят самалётаў, а праціўнік страціў дзвесце сорак два танкі і дзевяноста самалётаў. Такія вялікія страты напамінаюць Сталінградскую бітву. Аднак, як паведамляе агенцтва Франс Прэс, вялікія дзяржавы папаўняюць гэтыя страты за кошт узбраенняў еўрапейскіх ваенных баз.

Старая. Зноў ваююць.

Радыё. А цяпер аб спорце...

Стары. Чым яны там думаюць? «Аб спорце, аб спорце»... *(Выключае.)*

У небе дабрадушна гуркоча самалёт сельскагаспадарчай авіяцыі.

Старая. Дзевяноста самалётаў збілі... з людзьмі, мабыць. Во такіх машын? А?

Дачка. Не, мама. Гэта машына толькі з букашкамі ваюе, з насякомымі. А там... Адзін «Фантом» шэсць мільё-

наў каштуе. За такі самалёт можна пабудаваць дом на паўтары тысячы кватэр.

Старая. Ай-яй-яй! Шэсць мільёнаў. *(Старому.)* Во! А ты наваліўся на сына за семнаццаць капеек.

Дачка. А што горш і што лепш — калі б лішкі былі ці во так — недастача. Лішкі — значыць, ашукваў, аблічваў. А ў яго недастача. Сваімі даплачвае. Гэта нават высакародна.

Стары. Не ў яго! У нас, у кааператыве! Дзяржаўны ён злачынца! Злодзей! І ўсё яго высакародства тут. Злодзей.

Старая. Ціпун табе на язык! Пабойся бога!

Дачка. Мама, бога баяцца не трэба. Трэба баяцца пракурора.

Старая. Ой, дачушка, раскажы ты толкам, што рэвізія сказала? Не здагадкі твае, а яны што сказалі?

Дачка. Сказалі, што ён сёння ж павінен пагасіць недастачу. А калі не, то — пад суд, у турму запішуць.

Старая. Ай-ёй-яёй... А божа мой, божа...

Стары. Хай зараз жа верне чужыя грошы!

Дачка. Як жа ён верне, калі ў яго ні капейкі?

Стары. А зарплата яго дзе? Мне ён не даваў. Можа, табе?

Старая. І мне не.

Дачка. Якая зарплата? Во яна дзе *(паказвае на сваё плацце)*. Ды яшчэ боцікі.

Старая. А як жа ён цяпер?

Стары. А вельмі нават проста: у турму. Хай сам ідзе туды, запісваецца і садзіцца чын чынам. А як вы думалі? Вельмі нават проста. Там даўно яго ждуць. Месца пустуе, хоць турму закрывай. Ждуць і плачуць. *(Ідзе пад стог лажыцца.)*

Дачка. Мама! Ніяк нельга браціка ў турму! Жана — і ў турму?

Старая. Не, не, дачушка, не дапусцім да турмы. Ідзі, заві яго сюды. А я тут старога ўгавару. Ашчадная кніжка ў яго. Усе грошы ў яго. Бяжы хуценька, заві сына і скажы яму, хай як на духу прызнаецца перад бацькам, хай просіць. Без мапы каб. Стой! Рыбка мая, скажы яму, хай боты бацькавы захопіць, хай прынясе. Ноччу, калі шукалі, яго не знайшлі, а боты я знайшла і забрала. А ён босы.

Дачка выпырхнула птушкай-пліскай.

Стары. Ён і так абуў ужо. Прыўсенародна абуў у лапці.

Старая *(какетліва)*. Дзядок мой! Хадзі сюды! Пагаворым. Ну добра, добра, я сама к табе падыду. Ляжы. Ох, і хітрун ты...

Старая ідзе да мужа, прысаджваецца каля яго, любуецца. Раптам абдымае яго і цалуе. Стары вызваляецца з абдымкаў і палахліва азіраецца.

Стары. Сораму ў цябе няма! П'яўка ты!

Старая. Не бойся, не ўкушу. Прысядзь. Радыё вот паслухаем.

Радыё. Сёння ў Маскву з афіцыйным візітам прыбыў кіраўнік дзяржавы астравоў Карыцы і Лаўровага Ліста гаспадзін Джордж Крамін Шры. На аэрадроме прэзідэнт заявіў, што ўзаемаадносіны паміж нашымі дзяржавамі ён абяцае строіць, прытрымліваючыся прынцыпаў роўнасці і неўмяшання ва ўнутраныя справы.

Стары. Хвала богу, супакоіў: хоць умешвацца не будзе.

Старая. Хто прыбыў, хто? Фамілія нейкая...

Стары. Прэзідэнт Дзяржыкарманшырэй з астравоў Карыцы і Лаўровага Ліста. Прыехаў крэдытаў прасіць. У Англіі ў яго не выгарала, дык ён да нас. Пералётам. Тыя дзвесце гадоў грабілі, а цяпер кукіш пад нос. Абяцае нам дазволіць на адной лаўцы пасядзець. Як роўным.

Старая. І ўсё ты ведаеш. Учора старшыня наш пры людзях сказаў, што цябе можна міністрам замежных спраў ставіць ці прэзідэнтам у якую краіну пасадзіць. З павагай сказаў. Кажа: «Што яму рэвізійная камісія? Ён можа ў вялікай дзяржаве парадак навесці». Усё ты знаеш. І праўда, як міністр.

Стары. Пахадзіў бы твой міністр за каровамі штодня з гэтым транзістарам, дык і ён бы знаў паболей. А то — пералёты, абеды-ленчы, сустрэчы-провады ды пасяджэнні... Яму і радыё няма калі паслухаць.

Старая *(лісліва)*. Няма мудрэй за цябе. Няма дабрэй. Мне цябе бог паслаў як узнагароду за нешта.

Стары. Не падлізвайся. Ведаю: лісліўцы — гэта пераадзетыя зладзеі. Грошай не дам.

Старая. І не шкада табе сына? У турму пасадзяць.

Стары. Кот, лізнуўшы раз гарачую скавародку, другі раз лізаць гарачую скавародку не будзе. І халодную таксама. «Не ўкрадзі!»

Старая. Не краў ён! Ой, гора ты маё горкае... Вось як дадуць яму год ці два, ды ты ж не дачакаешся яго, ты ж сам памрэш ад скрухі, ад перажыванняў. Табе ж сэрца пераесць тваё раскаянне. Ты і расінкі ў рот не возьмеш: у цябе адны рэбры ды сухажыллі астануцца. Ты ж сябе даканаеш. Начамі стагнаць будзеш. І мяне раней часу ў дамавіну пакладзеш. *(Плача.)*

Стары. В-о-от... *(Таксама плача.)* Што нарабіў твой сын!..

Паўза.

Недзе непадалёку скуголіць і вые сабака.

Старая. Во і сабака вые — на бяду. Навошта ты яго прывязаў, Дружка?

Стары. Каб не прывёў ды не паказаў, дзе я схаваўся, калі вы аукалі. *(Усхліпвае.)*

Старая. Як жаласліва просіцца. Хоць і сабака, а здаецца — вось-вось загаворыць. Ідзі, адвяжы, скурадзёр! Жаласці ў цябе няма. Дружка — і на ланцуг. Бессардэчны ты!

Стары пайшоў адвязваць сабаку.

Вот і паспрабуй уламаць яго... Стары ўпарты вол.

Радасна віскоча сабака.

Радуецца, што на волю... Кожная скацінка свабодзе рада, не толькі чалавек. А тым больш — сабака.

Вяртаецца Стары.

Стары *(Дружку)*. Ну-ну, ідзі, пабегай, пагаўкай. Ідзі.

Старая. Во-во, сабаку пашкадаваў, а сына ў турму. Сабаку на волю выпусціў, а сына ў ланцугі.

Стары *(крычыць)*. Сам, сам вінаваты! І сабака ў няволі быў цераз яго растрату. Яго равеснікі на трактарах, у шахтах, каля станкоў, а ён — у цянёк, за прылавак, каля канфет, каля памады, паміж трусікаў... Не крану ніводнай капейкі ў ашчаднай касе. Там трудавыя капейкі.

Старая. Там не толькі твае.

Стары. Во то-та і яно! Усе збіралі: у будні — мазалём у полі, а ў выхадныя — па ягадцы, па грыбочку... Колькі разоў нахіліцца трэба па ягаду, па грыбок на той руб? А? Не дам! Не прасі! Саграшыў? Будзь ласкавы — скупі свой грэх.

Старая. Не гарачыся. Можа, і граху ніякага няма. Не аблічваў ён. Самога аблічылі, сам у накладзе.

**С т а р ы.** Значыць, народ вінаваты? Ён праведнік, а народ — грэшнік? У турму яго — народ, у калонію народ?! Так, ці што?

**С т а р а я.** Не юродствуй!.. Малады ён. Ты кініш, а ён, можа, дабро людзям рабіў. Падумай тады, які грэх на душу бярэш? А? Калі ён не сабе, не на цукерачкі, а... А ты... Накінуўся на дзіцё...

**С т а р ы.** Ну, ціха, ты... Не разводзь сырасці.

Паўза.
Стары ўключае транзістар.

**Р а д ы ё.** Учора ва ўрачыстай абстаноўцы закончыў сваю работу ўсесаюзны з'езд, прысвечаны саракагоддзю «Уторчормета». На з'ездзе прысутнічалі ў якасці гасцей прадстаўнікі дваццаці сямі краін. Удзельнікам з'езда ўручаны памятныя юбілейныя медалі.

**С т а р а я.** А што такое «Уторчормет»?

**С т а р ы.** Ну, утыльсыравіна.

**С т а р а я.** А, гэта —каторыя ўсякі хлам збіраюць, тыя з'ехаліся?

**С т а р ы.** Металічны. Металалом...

**С т а р а я** *(задумалася).* А гэта што? Не растрата? А? Чаго маўчыш? Юбілей! Медалі! Госці! Ды яны не сабралі столькі жалеза, колькі патрацілі ім на медалі на юбілейныя.

**С т а р ы.** Гэта не азначае, што сыну твайму дазволена.

Нясмела падыходзіць Д а ч к а. Кашляе, каб звярнуць на сябе ўвагу.

**С т а р а я.** Ну, прывяла?

Дачка маўчыць.

**С т а р ы.** Дзе ён?

Дачка маўчыць.

**С т а р а я.** Дзе Ваня?

**Д а ч к а.** Я, мама, не давяла яго...

**С т а р а я.** Што з ім?

**Д а ч к а.** Не што, а хто...

**С т а р ы.** Арыштавалі?

**Д а ч к а.** Я прывяла яго, ён прыйшоў, але падысці баіцца.

**С т а р ы.** Во — чула? Невінаваты не пабаіцца.

**Д а ч к а.** Тата, а стрэльбы ў цябе няма?

С т а р ы. Шкада, што няма.

Д а ч к а. А тапара ці яшчэ чаго-небудзь цяжкага пад рукой? А? Ён пытаўся. Няма?

С т а р ы *(у гневе)*. Ідзі і вядзі яго сюды!

С т а р а я. Ідзі, дачушка, заві.

Д а ч к а *(на вуха маці)*. Ён жа там не адзін.

С т а р а я. А з кім?

Д а ч к а. З Нэлкай. З нявестай.

С т а р а я. Якая яна яму нявеста? Верціхвостка яна. І рана яму пра жаніцьбу думаць.

Д а ч к а. Гэта вы так лічыце. А ў іх на гэту праблему іншы погляд. Яны без перажыткаў мінулага.

С т а р а я. Я табе... А што ёй тут трэба? Чаго яна прыджгала?

Д а ч к а. Прасіць будзе, каб выручылі Жана. Яна ж такая прыгожая. Адмовіць ёй ніхто не можа.

С т а р а я. Нашага бацьку гэтым не возьмеш. Яшчэ злей будзе.

С т а р ы. Ну, я што сказаў? Няма чаго шаптацца! Марш!

Д а ч к а. Гэта мы ад страху перад табой. Гэта — жэнеўскія перагаворы. Ну ўсё, усё, усё. Я зараз прывяду.

Д а ч к а выпырхнула.
Паўза.
Чакаюць.
Нарэшце з'яўляюцца Д а ч к а і С ы н.
Апусціўшы павінную галаву, Сын маўчыць.

С т а р ы. Глядзіць, нібы вол з-пад ярма.

Д а ч к а. Не з-пад ярма, а з-пад акта рэвізіі.

С т а р ы. Ну? Што маўчыш? Ашчацініўся.

С т а р а я. Як ты на яго, так і ён.

С т а р ы. Прызнавайся, чыстую праўду выкладай: чаму растрата, чаму недастача? Як на судзе.

С т а р а я. Не на судзе, а перад бацькам. *(Улагоджвае Старога.)* Ты не глядзі, што бацька такі сярдзіты з выгляду. Ён добры. Добры ён. І справядлівы. Ён цябе зразумее, як ніхто іншы...

С ы н. Каб жа зразумеў... Не зразумее.

С т а р ы. Усё ясна.

Д а ч к а. Бачыш? Ты яшчэ нічога не сказаў, а ён усё зразумеў.

С т а р ы. Прагуляў? Прапіў? Дзе? Калі? З кім?

С т а р а я. Што ты гародзіш, стары? Апамятайся!

Стары. Адчапіся, старая, не лезь. *(Мякка.)* Дзе ж ты, сынок, патраціў?

Сын. У горадзе... І на падводных крыллях. Да Кіева.

Дачка. Ваня! Мілы Жан! Што ж ты маўчыш?

Стары. З кім? З гарадскімі... з гэтымі самымі? У рэстаранах?

Сын. І ў рэстаранах, і ў...

Дачка. І ў... Ну?

Сын. І ў кафэ. Толькі не з гарадскімі.

Старая. Сынок! Што ты гаворыш? Апамятайся! Прыкусі язык!

Дачка. Мама! Ты сама гаварыла, каб як на духу. Ваня! Ну?

Стары. З кім жа ты, сынок?

Дачка. З Нэлай? Праўда! Ваня?

Сын. З Нэлай.

Дачка. І на таксі?

Сын. І на таксі.

Дачка. Куды?

Сын. У Бабруйск.

Дачка. І да Кіева? На крыллях?

Сын *(удакладняе)*. На падводных.

Дачка. Які ж ты малайчына! Вось гэта рамантыка! Ты, Ваня, Пячорын! Ты — Яўгеній Анегін! Ты ведаеш, хто ты? Ты — мілы друг! *(Упершыню ўсвядоміла ўсю прыгажосць душы брата.)* Ваня! Я думала, што толькі ў дзевятнаццатым стагоддзі людзі маглі...

Старая *(перапыняе дачку)*. Змоўкні! *(Сыну.)* Што ж ты нахляпаў на сябе? Ты ж загубіў сябе.

Сын. Не загубіў.

Дачка. Ах, які кінафільм! Каб мяне хто на крыллях...

Стары. Во — чула? Старая! Чула, пытаю?! Во! Ну, сынок, а яшчэ дзе ты быў? У Парыж не лётаў? Вакол Еўропы васьмёрак не рабіў?

Старая. Ты ўжо ўвесь свет аб'ездзіць хочаш за дзвесце сорак два рублі. Ты ж, сынок, болей нідзе не быў? Праўда?

Сын. Нідзе.

Стары. Скажы, сын, гэта — чэсна?

Сын *(б'е сябе ў грудзі кулаком)*. Чэсна!

Стары *(жонцы)*. Чула, маці? Чэ-эсна!

Старая. Не будзе ж ён бацьку маніць.

Стары *(крычыць)*. Пра што я ў яго пытаюся? Я ў

яго пытаюся: гэта чэсна — траціць чужыя грошы, народныя грошы пускаць на вецер? Гэта чэсна? На распусту!

Сын. Ніякай распусты, бацян.

Стары. Маўчаць! Злодзей! Залез у народную касу. Мазалём зарабіць лень. Ну, вядома, крадзеная кабыла дзешавей за купленую.

Сын. Я вярну тое, што ўзяў.

Дачка. А дзе ты возьмеш?

Сын. У бацькі. Не ў турму ж...

Старая. У бацькі? Цяпер? Дуралей! Цяпер бацька сам цябе завядзе ў турму. За руку і павядзе.

Стары. За руку? Не-е! Шворку на шыю — і пацягну.

Дачка. Тата, ты — феадал, прыгоннік. Жан, ты пазыч грошы. Потым аддасі. Пазыч у яго.

Сын *(бацьку)*. Ты пазыч мне. Я аддам... Потым.

Стары. Не дам. Жулікам, злодзеям не веру. Не ве-ру.

Дачка. Ён не жулік і не злодзей. Ён рамантык.

Старая. Які ён жулік? Нашто пускаеш пра яго такую славу?

Стары. Не жулік, не злодзей? Дык хто ж ён такі? А?

Паўза.
Усе як бы ўпершыню разглядаюць хлопца.

Дачка. Тата, а ты маму на крыллях да Кіева... Мама! Было?

Старая. Не, дачушка, не было.

Дачка. Ну, хоць у Бабруйск, у рэстаран вадзіў? Калі маладымі былі, калі яшчэ нежанатымі, а, тата?

Старая. Было адзін раз... На кірмаш у мястэчка... і то *(пасміхаецца над сабой, над той — маладой)* не тое што цяпер, а босымі...

Стары. Таму што летам!

Старая. Босыя, а быццам на крыллях. І там ён морсам — такой салодзенькай вадзічкай падкрашанай частаваў.

Стары. За свае, не за крадзеныя.

Дачка. І ты яго палюбіла за падкрашаную вадзічку?

Старая. Сур'ёзны ён быў, самастойны і добры. Ён і цяпер добры.

Стары. На добрых ваду возяць. Хопіць! Кончылася дабрата. Не-е! Любіш катацца — вазі саначкі! Во як! Павазі. У турме.

Старая. А мой ты сыночак! А якога ж бацьку табе бог паслаў!

Дачка падзывае некага.

С т а р ы. Цыц, старая! Не патурай!

Падыходзіць Н э л а гэткаю павай.

Д а ч к а. Нэлачка! Прасі і ты.

С т а р ы. А-а, прынцэса!

С т а р а я. Мілая мая, сынок! Пакайцеся, папрасіце вы яго.

С т а р ы. Што, пісаная, і ты тут? Ну? Як? Хораша, нябось, было? Прыемна?

Н э л а. Дзе?

С т а р ы. На падводных крыллях, на таксі...

Н э л а. Ах, яшчэ як хораша, яшчэ як прыемна!..

С т а р ы. Аж ветрык у вушах, са свістам? А?

Н э л а. Са свістам, з ветрыкам, з пырскамі ў твар...

С т а р ы. І з пырскамі?

Н э л а *(не свае словы дэкламуе, а чужыя, але шчыра і натхнёна)*. «Кажись, неведомая сила подхватила тебя на крыло к себе, и сам летишь, и все летит... И только небо над головою, да легкие тучки, да продирающийся месяц одни кажутся недвижны...»

С т а р ы. Гэта ўжо, значыцца, пасля рэстарана, калі месячык над галавой? Любіш быструю язду?

Д а ч к а. «И какой же русский не любит быстрой езды? Его ли душе, стремящейся закружиться, загуляться, сказать иногда: эх, черт побери все!.. его ли душе не любить ее? Ее ли не любить, когда в ней слышится что-то восторженно-чудное...»

С т а р а я. Госпадзі! А ты адкуль гэта ведаеш?

С т а р ы. Ды няўжо і ты туды?

С т а р а я. Божа мой! А цябе хто вазіў? А ты з кім?

Д а ч к а. Я? З Мікалаем... *(чакае рэакцыі)* Васільевічам... *(зноў чакае)* з Гогалем.

С т а р а я. Я табе дам! Я табе дам Гогаля!

С т а р ы. Ну, з Гогалем няхай, з Гогалем можна. *(Нэлі.)* А пасля рэстарана, значыць...

Н э л а. Сюды. Пад стажок. Ваня! Жан! Каторы тут наш?

С ы н. Гэта не тут. Гэта там, над абрывам.

Н э л а. А, гэта там, над абрывам.

Д а ч к а. І цалаваліся... *(У захапленні.)* А, Нэла?

С т а р ы. Значыць, соладка было?

Н э л а. Так соладка, так соладка, што... Эх, стары, стары! Табе ўжо ніколі не паспытаць такога. Калі да гэ-

тага часу не было, то цяпер — празяваў, не паспрабуеш. А мы не празявалі. Вось так, падкрашаная вадзічка. *(Заўважае, што ўсе ашаломлены.)* Ну, чаго рот разявіў? Закрый, а то вераб'і гняздо саўюць.

Старая. А Нэлачка, а бог з табой! А як жа ты з ім? Ён жа цяпер...

Дачка *(у захапленні)*. Вось гэта да-а...

Стары *(нарэшце апамятаўся)*. Не паспытаў, кажаш? Празяваў? Думаеш — позна?

Нэла. Позна.

Стары. Чаму позна?

Нэла. Стары ўжо.

Стары. На што стары?

Нэла. На ўсё стары. На падводныя крыллі, на матацыкл і наогул — нічога ўжо не разумееш.

Стары. Не разумею? Стары? Баба! Дзе ты? Жонка! Ану, скажы, стары я ці не стары яшчэ? Скажы ёй, скажы! *(Рагоча.)*

Старая. Сораму ў цябе няма. Вочы ў цябе пазычоныя. Як табе не сорам? Хваліцца гэтым і перад кім? Яны ж дзеці. Яны, можа, яшчэ нічога не разумеюць...

Стары. Во-от! *(Нэлі.)* Чула? Вы нічога не разумееце!

Дачка. Мы ўсё разумеем! Вы палавы вапрос паднімаеце.

Стары. Што, што, што? Гэта яшчэ што такое?

Дачка. Акселерацыя.

Нэла *(Старому)*. А калі вы разумееце, калі яшчэ не ўсё забылі, то чаму ж вы не хочаце выручыць сына?

Стары *(выстаўляе кукіш)*. А во! Сваёй трудавой капейкай аплаціць яго распусту? П'янкі? Рэстараны? Разгул? Я і сам магу так.

Нэла. Не можаш. Прапусціў свой час. Дый закваска не тая. Ну хто ты цяпер? Дзед? Капілка! Хіба ты жывеш? Ты ж каравуліш, а не жывеш. Каравуліш грошы, каравуліш нас, каравуліш старыя завядзёнкі, годы свае старыя каравуліш, час тармозіш. А годы бягуць, час бяжыць, як рэчка, як вецер. Затрымай вецер! Не затрымаеш і не ўкаравуліш.

Стары. Да-а... Ды ты быццам бы... Слухай, вот ты гуляла, у разгул з ім пайшла, а замуж за яго пойдзеш? Ну чаго маўчыш?

Нэла. Не, не пайду.

Стары. А-а, то-та ж. А чаму?

Нэла. Не вялікае шчасце прыдбаць такога... свёкра.

Старая. Абрыдла! Аддай сыну грошы. Ну, пагуляў хлопец, будзе што ўспомніць.

Дачка. Не так, як ты,— падкрашаную вадзічку ўспамінаеш.

Стары. Э-э, не! Калі на тое пайшло, сам разматаю. Жонка! Старая! Ідзі, збірайся! Махнём з табою на падводных крыллях. У Кіеў. На Байкал! На Піцунду! Ісык-Куль! У Адэсу! На Кубу!

Дачка. Не, не паедзеш. Ты — рацыяналіст. А тут трэба эмоцыі. Ты — фізік.

Старая. Куды я паеду, дурны ты? Правільна яна кажа: фізік ты!

Стары. Не хочаш — не трэба. Яно і верна: у Тулу са сваім самаварам? Я маладую вазьму. Што, не? Вот яе. Нэла, махнём!

Нэла. Цяпер гэта модна. Толькі... *(ацэньвае Старога)* ці надоўга цябе хопіць?

Стары. Дурненькая, а ты паспрабуй.

Старая. Хамло ты, хамло. Самахвал ты, самахвал! Значыць, і цябе той жа чарвяк точыць? Чаго ж ты на сына накінуўся? Ён жа такі, як і ты. Толькі ён малады, яму можна, а ты ўжо стары грыб.

Стары. Ізноў стары? Калі яму можна, значыць, і ўсім можна.

Старая. Што ты гародзіш? У сына бяда. Яго выручаць трэба. Во які факт перад табой, а ты гародзіш бог ведае што.

Стары *(Сыну)*. Ты разумееш, што за тваім фактам следуе? Паразітызм, чужыя грошы, чужая праца, спекуляцыя, эксплуатацыя. Не, больш таго. Сусветныя войны пачынаюцца з твайго факта. Бамбёжкі. Канцлагеры. Лінкоры. Ракеты. Гандаль зброяй. Усёк? Мільярды на абарону ад такіх, як ты. Фармуліруе філасофію факта.

Старая. Звіхнуўся стары. Далібог. А ўсё транзістары гэтыя, каб на іх...

Нэла *(ацэньвае Старога)*. Дэмагог. Званар.

Дачка. Канфуцый.

Паўза.

Сын. Во што, бацька. Хоць і цяжка цябе зразумець, але лічы, што я асазнаў. І таму ты павінен мяне выручыць. Дай грошы.

Стары. А чаму гэта я табе павінен?

Нэла. Сын ён табе ці не сын?

С т а р ы. Сын. Але чаму я павінен?

С т а р а я. Ён жа кроў твая, плоць твая.

С т а р ы. Так — кроў, так — плоць. Але чаму павінен?

Д а ч к а. Таму што чалавек чалавеку — друг, таварыш і брат!

С т а р ы. Бра-ат? А хіба брат брата грабіць? Ён жа кааператыўную касу ачысціў. Таварыш? А чаму ён не пазваў мяне разам прапіваць? Друг? А ён параіўся са мной, з другам, перад тым як ісці на такое?

Н э л а. Ну і люты, бессардэчны ты, дзед.

С т а р ы. Чэсны! Чэ-эсны я! Ты думаеш — лёгка быць чэсным?

С т а р а я. Будзь чэсным, але ж трэба быць бацькам. Радзіцель ты яму ці не радзіцель?

С т а р ы. Радзіцель.

Н э л а. Значыць, абавязан! Павінен, і ўсё! Бацькоўскі доўг.

С т а р ы. Доўг? Ізноў даўгі? Колькі ж можна? Калі ж я выблытаюся з гэтых даўгоў? Усё жыццё ў даўгах? Не! Дудкі! Усё! Хопіць! Даволі! Усе свае даўгі я выплаціў. Усе свае павіннасці я адбыў. Нікому і нічога я больш не павінен. Я ў даўгу толькі перад сабой. Толькі сабе я не выплаціў спаўна за ўсе мае пакуты, за ўсе мае ахвяры, за ўсе мае надзеі і цярплівыя чаканні. А больш я нікому і нічога не вінен. Са ўсімі я расплаціўся чэсна і шчыра. Вось мае даўгі: перад бацькамі маімі я павінен быў за тое, што далі жыццё, паілі, кармілі, гадавалі. За іх дабрату і суровасць. За ўсю іх навуку няхітрую — як працаваць, як з людзьмі жыць, навуку чэсную, чалавечную. І я да апошняй гадзіны іх, да апошняга ўздыху на маіх руках шчыра плаціў ім любоўю, павагай і ласкай. Я павінен быў радзіме за ўсё хараство, за волю, за прастор, за зімы завірушныя, за вёсны жданыя, за ліўні цёплыя. І калі прыйшла вайна, я жыццём сваім заступіўся, кроўю салёнай, ранамі сваімі, болямі нясцерпнымі, вернасцю сваёй выплаціў ёй доўг. Як ні цяжка было, я выгнаў ворага. Перад рабочым перад класам доўг быў брацкі. Карміў яго. Сам часта клаўся спаць галодны, а яго карміў. Потым... Інтэрнацыянальны доўг... Ды і не доўг, а спагада, спачуванне... Кітаю даваў, Інданезіі даваў, Гане, Егіпту, Індыі, Бангладэш, Алжыру, В'етнаму, Сірыі, Анголе, Мазамбіку, ды ўсім, хто прасіў. Самому не хапала шыферу на крышу, а Кубе, а Чылі, а Перу, а на Асуанскую, на Еўфрацкую плаціны цэменту не паскупіўся. Хай ведаюць нашу даб-

рату. Даваў па абавязку чэсці, па абавязку працоўнай салідарнасці. Вот гляну кругом — цяпер усе мне павінны. Не я, а мне! А ты зноў ад мяне патрабуеш. Не просіш, а — «павінен»! Яшчэ і на распусту я табе павінен? Не я, а ты павінен! Не я, а ты перада мной у неаплатным даўгу за цёплы куток, за сытае дзяцінства, за грамату, за жыццё, каторае я табе даў. Жыццё! Самы дарагі дар! З небыцця! З нічога — чалавекам цябе с т в а р ы ў.

Н э л а. А ён яшчэ помніць заалогію.

С т а р ы. За крыўду, за сорам, за слязу сённяшняй ноччу выплаканую... вы — зелень — у даўгу неаплатным. *(І, як канчатковы прыгавор, проста і спакойна.)* Нічога я не павінен. Не дам. Плаці. Сам. А я пайду спаць. Я ўсю ноч не спаў. *(Выходзіць стомлены.)*

Паўза.

Старая мітусіцца, не ведае, куды падацца, ці суцяшаць Сына, ці прыгалубіць Старога.

С ы н. Та-ак... Сустрэчны іск.

Д а ч к а. Вот, Жан, пайшоў ты па воўну, а вярнуўся стрыжаным.

Н э л а. Не дасць ён. Пайду, Ваня, сушыць табе сухары.

С т а р а я. У яго самога сэрца разрываецца. І яго ж пашкадаваць трэба. Не чапайце яго, хай супакоіцца. Гора ты маё горкае.

Сын уключае транзістар. Спачатку чуваць абрыўкі музычных мелодый. Вот сумотна-жаласлівая індыйская, за ёй — шалёная джазавая, потым шчымліва-страсная ўсходняя перарываецца некалькімі акордамі ўрачыстай арганнай. Але гэту абстракцыю настойліва выцясняе рознаязыкі гоман дыктараў і палітычных каментатараў. Галасы ў іх розныя і па тэмбру, і па манеры. То напорысты і таропкі, то далікатны і разважлівы, то задушэўна-даверлівы, то нахабны, з металічным гучаннем. Вось некалькі абрыўкаў з гэтага гоману, з гэтай сумесі праўды і фальшу.

Р а д ы ё. Апроч звычайных відаў зброі ядзерныя арсеналы дзяржаў складаюць больш за шаснаццаць тысяч мегатон — па некалькі тон на кожнага мужчыну, жанчыну і дзіця на нашай планеце...

Дзяржавы нашай планеты кожную гадзіну трацяць па трыццаць мільёнаў долараў на армію і зброю. Трыццаць мільёнаў кожную гадзіну!

Каб ператварыць Сахару ў квітнеючы аазіс, даволі тых сродкаў, якія трацяцца ўсімі краінамі свету на ваенныя патрэбы за адзін толькі месяц.

Сын выключае транзістар.

С т а р а я. Не, не, хай расказвае. Паслухаем, паслухаем. Хай і ён паслухае. Во дзе растратчыкі. А мы — семнаццаць капеек, сорак дзве капейкі. А там во што творыцца. Давай, давай!

Сын зноў уключае транзістар.

Р а д ы ё. Армія стала галоўнай мэтай дзяржавы. Яна стала самамэтай; народы існуюць толькі для таго, каб пастаўляць і карміць салдат.

У выніку разрадкі напружанасці ваенны бюджэт на наступны год ЗША павялічылі на семнаццаць мільярдаў долараў.

І ў той жа час на нашай планеце кожную секунду памірае адзін чалавек ад голаду. З кожным ударам нашага сэрца памірае ад голаду чалавек.

С т а р а я. А ён пайшоў спаць?! Не-е! Я табе не дам спаць. Ідзі і наводзь там парадкі! А то прыстаў як смала. Вунь дзе твая чэснасць трэба. Туды ідзі са сваімі прынцыпамі. Мы тут над кожнай трудавой капейкай дрыжым, а там... *(Рашуча ідзе за стог.)*

А Стары ўсё-такі заснуў. Спіць, бедалага. Стаміўся. І раптам... О цуд! Стары адрываецца ад зямлі і, як ні ў чым ні бывала, павісае ў паветры. На нашых вачах. Ён спіць сабе, нічога не падазраючы, і смачна цмокае. Нібы на воблаку ці на паветранай падушцы спіць, пахрапвае. З'яўляецца С т а р а я. Яна не ўваходзіць, а нібы ўплывае і заўважае дзіва: Стары спіць у паветры. Аслупянела: дык ён яшчэ і фокусы выкідвае. Раззлавалася не на жарт.

Дык ты спіш? На свеце такія беспарадкі, растраты, разбой, а ты спіш? Ты тут за семнаццаць капеек бучу падняў, а там мільярды ў распыл пускаюць: на зброю, на войны, на грабеж. Быццам дзеці малыя — наперагонкі: хто вышэй, хто далей, хто больш, раскідаюцца мільёнамі ды мільярдамі. Калі ты такі чэсны, то ідзі і зараз жа, зараз жа навядзі парадак! Ідзі!

С т а р ы. Куды?

С т а р а я. Прэзідэнтам станавіся!

С т а р ы. Дзе?

С т а р а я. Дзе хочаш. Выбірай сам. Абы ў свеце парадак быў.

С т а р ы. Ды ты ашалела. Як жа я стану прэзідэнтам?

С т а р а я. Станеш, калі я сказала.

С т а р ы. Адумайся, старая! Як жа я стану? Хто мяне паставіць?

С т а р а я. Сам! Сам сябе! Во так, у паветры спаць

сумееў? Сумееш і ў прэзідэнцкае крэсла залезці. І каб парадак! Чуеш? *(Велічава выходзіць.)* За ўсе расходы я ў цябе потым строга спытаю!

Стары праводзіць яе поглядам, потым азіраецца і вельмі здзіўляецца — як гэта ён у паветры вісіць. Задумаўся.

С т а р ы. Д-да-а... Ды яна як быццам праўду сказала. Тут ужо лепей ідзі і станавіся... прэзідэнтам... Калі мая баба сказала, то ўжо ідзі і не азірайся. Не было клопату...

Спускаецца на зямлю. І вось перад намі зямны шар з контурамі мацерыкоў і дзяржаў. Шар круціцца. Стары прыглядаецца, выбірае сабе краіну, дзе стаць уладаром.
Шар паволі круціцца, падстаўляе то адзін бок, то другі. Стары прыглядаецца і к паўночнаму паўшар'ю, і к паўднёваму. Нарэшце царскім жэстам указуе планеце спыніцца.

Астанавіце планету! Я ўзыду!

Так скончылася ява, так пачаўся сон.

Другія ж цары нічога не звяршылі.
*Герадот*

# ДЗЕЯ ДРУГАЯ

## СОН

А вось і кабінет прэзідэнта нейкай дзяржавы. Пэўна ж, саліднай дзяржавы, бо новаспечаны прэзідэнт сам выбіраў сабе краіну, і не такі ўжо ён дзівак, каб выбраць якую-небудзь недаразвітую, наводшыбе, на палітычных задворках краіну.
Дарэчы, кабінет абстаўлены, вядома ж, у адпаведнасці з густам Старога і яго ўяўленнем аб прэзідэнцкім логаве. Аднак ёсць рэчы і прылады не вельмі зразумелыя новаму прэзідэнту. На гэтыя рэчы Стары пазірае насцярожана і з падазронасцю. Але звярніце ўвагу — сноп добрай пшаніцы і сноп кукурузы выстаўлены. І не дзіва! Калі яны стаяць у кабінеце самога старшыні калгаса, то тут — і бог загадаў. Інакш — які ж ён прэзідэнт?
На задняй сцяне вялізная палітычная карта свету. На ёй сацыялістычныя краіны — суцэльная белая пляма. Чамусьці! На карце ўманціраваны маленькія лямпачкі. Пры жаданні іх можна запаліць. Яны загараюцца, як зорачкі. З кожным шчаўчком выключацеля іх становіцца ўсё больш і больш. А калі шчоўкне апошні раз, то белая пляма апынецца ў вогненным абручы.
Вялізны прэзідэнцкі стол. На ім пірамідка тэлефонаў. Ёсць тэлевізар. Сейф. Сіфон. (Калі ён у старшыні калгаса ёсць, то...) Ста-

ры асвойвае кабінет і ўсю яго гаспадарку. Ён як бы прывыкае да ўсяго: да крэсла, да тэлефонаў, да сіфона з газіроўкай, бра і розных другіх свяцільнікаў, да хрусталя і пазалоты. І ўсё гэта на белым фоне. Чамусьці дом такі. Стары ў той жа вопратцы: на ім белая льняная вышытая сарочка і белыя парусінавыя штаны. Ён нават не заўважае неадпаведнасці свайго касцюма гэтаму кабінету і сваёй пасадзе. Каля стала ляжыць сабака. Стары прыглядаецца да яго і раптам радасна пасміхаецца. Ён замілаваны.

Стары. Дружок? І ты тут?

Дружок скідае з сябе сабачую шкуру, і пад ёй аказваецца рэспектабельны малады чалавек.

Дружок. Не мог я сюды аднаго цябе пусціць.

Стары. Та-ак, без цябе я тут як без рук.

Дружок абнюхаў памяшканне, зазірнуў за дзверы.

Дружок. Сеньёр прэзідэнт! Я правільна вас называю?

Стары. Сеньёр? Хай будзе сеньёр. Ці не ўсё роўна?

Закукавала зязюля. І раптам нечакана з'яўляецца старая жанчына, апранутая па-сялянску, яна ў жалобе; размову пачынае паважна, спакойна, па-дамашняму. Рухаецца павольна, паважна.

Маці. Ну во, і дачакалася я, калі ты сядзеш на яго месца. Цяпер улада ў цябе бальша-ая. Многае ты цяпер павінен зрабіць. Звяршыць. Другія ж цары нічога не звяршылі.

Дружок. Хто вы? Адкуль вы? Чаму тут?

Маці. Маці я, сынок, маці.

Дружок. Але хто вас...

Стары. Чакай, Дружок. *(Старой.)* Аблічча тваё нешта мне вельмі знаёмае. Адкуль ты?

Маці. Маці я, маці. А маці — яны ўсе падобныя. Здалёку я. Як дачулася, што ты ўладу такую займеў, у тую ж хвіліну я сюды. Усё баялася — паспець бы, не спазніцца. Ох, бяда — гэтае крэсла тваё. Небяспечнае. Шкада мне цябе. А ты глядзі, кругом тут ворагі твае смяротэльныя. Я чаму так спяшалася да цябе? Бяду сваю расказаць. Мая бяда — няма большай бяды. І мне ўжо ты не паможаш. А вось другіх мацярэй ад такога гора аберагчы пастарайся.

Стары. Ну, калі ты і за другіх, то... давай, гавары.

Маці. Адзінаццаць сыноў я пахавала. Колькі нарадзіла, столькі і пахавала. *(Пільна прыглядаецца да Старога.)* Як першага хавала, а ён у мяне другім быў, дык

думала, і сама лягу ў магілу. А людзі дзівіліся. Адцягнулі ад ямкі. А потым Грышку пахавала. Таксама ўбівалася. А людзі дзівіліся. Потым вайна. Прыйшлі ворагі і — трох сыноў, кожны, як тапалёк,— вывелі і перад усімі расстралялі... як партызанаў. А мяне пакінулі... На дзіва людзям. Каб, значыцца, дзівіліся на маё гора. Плакала, ой як плакала, свету белага не бачыла скрозь слёзы. А потым — няшчасце. І трэба ж — за вайну выжылі, а пасля вайны — дома, на сваім агародзе падарваліся. Пограб хацелі паправіць, а там міна была. Падклаў нехта. Паліцаі, відаць. *(Уздыхнула.)* Дзесятага — Міцю пазалетась пахавала. Людзі ўжо не дзівіліся, вочы адводзілі ад страшнага гора майго. А сёлета Сцяпана. Ну, гэты адпакутаваў, бедненькі. Ад старых ран памёр. Не плакала я. І людзі дзівіліся: чаму не плачу — апошні ж ён. Вось і прыйшла я да вас...

Стары. Няшчасная маці... *(У голасе сляза.)*

Маці *(паверыла слязе)*. Вот пагаворым, пабяседуем дый жыць будзем. А дзе ж ты дзенешся? І яшчэ дзеці ёсць. Хоць і чужыя, а дзеці. І жыць трэба. У мяне больш нікога не засталося, а жыву. На дзіва людзям жыву. І век мне дастаўся такі доўгі. *(Паўза.)* Мілы! Цяпер ты можаш, ты павінен, ты зрабі так, каб... Мне ўжо не паможаш, а зрабі так, каб нікому, ніколі такое не стрэлася. Павер мне, родны, гэта так баліць... так трудна... *(Хоча скрыць слязу.)* Праклятая вайна.

Стары. Добра, маці, пастараюся. Вось гляджу я на цябе — вельмі ўжо знаёмае аблічча. *(Крыўдуе на сваю памяць.)* А не прыпомню...

Маці. Маці я. А маці — усе яны падобныя. Маці я. *(Хоча пайсці.)*

Стары. Дружок! Праўдзі і дарогу пакажы.

Маці. Я сама найду. А ты глядзі: хоць і вялікая небяспека паджыдае цябе, але ты зрабі дабро людзям. Ждуць яны. Спадзяюцца. Не ашукай. *(Выходзіць.)*

Стары. Да-а... Мы часам любім гаварыць: от, каб я быў на яго месцы *(жэст угору)*, дык я б... *(Разглядае сваё месца.)* Ну вось я і на яго месцы. А што — дык? А з чаго пачаць? А што зрабіць? Як выканаць яе просьбу? Ды гэта і не просьба. Гэта ж — кроў з носа, а зрабі!! А як? Ды тут жа такі махавік раскруцілі, што... Як яго спыніць? З каго пачаць? Лёгка сказаць: быў бы я на яго месцы. А... А ці на месцы я? Во дзе галоўнае пытанне. Няўжо... А няўжо яны там не задумваюцца: а ці на месцы? Тайна пы-

та-аю-цца ў сябе. А адказ? Яшчэ большая тайна. Барані бог паказаць няўпэўненасць. «Няўпэўнены — не абганяй!»

Д р у ж о к. Сеньёр прэзідэнт! Усе міністры сабраліся на аўдыенцыю.

С т а р ы. Куды, куды?

Д р у ж о к. К вам, сеньёр прэзідэнт.

С т а р ы. А хто іх зваў?

Д р у ж о к. Я. Яшчэ ўчора вы загадалі склікаць іх, каб пазнаёміцца.

С т а р ы *(успамінае)*. Ды ўчора я сам яшчэ не знаў...

Д р у ж о к. Усё верна. Таму і пазвалі ўсіх на прыём. А дзе вы іх будзеце прымаць? Тут? Ці туды выйдзеце?

С т а р ы. Не, што ты! У калідоры няёмка. Усё-такі міністры, не брыгадзіры. Давай сюды. Калі крэслаў не хопіць, то... могуць і пастаяць.

Д р у ж о к. Ды яны ўсе стаяць будуць. А калі захочаце каторага пасадзіць...

С т а р ы. За што?

Д р у ж о к. Кожны сам ведае — за што. Клікаць?

С т а р ы. Кліч, Дружок.

Дружок ужо каля дзвярэй азірнуўся, агледзеў — ці ў парадку кабінет, і раптам ацаніў касцюм свайго патрона.

Д р у ж о к. Толькі... можа... пераадзецца б вам, сеньёр прэзідэнт.

С т а р ы *(крытычна аглядае сябе)*. Бадай што... Давай, Дружок, што-небудзь да твару. Адпаведна.

Дружок вымае з шафы цыліндр, манокль, сарочку, бабачку, фрак. Стары пераадзяваецца.

Д р у ж о к. Во халера б на іх. Няўжо спёрлі?

С т а р ы. А штаны?

Д р у ж о к. А якраз іх я і шукаю.

Абодва доўга шукаюць штаны ў шафе, у скрынках стала і нават у сейфе.

С т а р ы. Няма?

Д р у ж о к. Няма, сеньёр прэзідэнт.

С т а р ы. Ерундовіна палучаецца. Спецыяльна падкузьмілі?

Д р у ж о к. Тут могуць падвесці пад манастыр.

С т а р ы *(міралюбіва)*. Ну, што ж, няма дык няма. Абыдземся. Не ў штанах шчасце. Я за сталом буду, не

заўважаць. Давай іх сюды. Слухай, а міністры мне дасталіся ўсе старыя?

Дружок. Хочаце памяняць? Вы можаце каго-небудзь скінуць для пострaху. Я іх па кругу пушчу, а вы мне толькі кіўніце — каторага, і я... Пярун ударыць аднаго, а баяцца ўсе.

Стары. Кошку б'юць — нявестцы намёкі даюць. Добра, давай. Ты толькі называй — каторы хто.

Дружок. Ху із ху? Усё роўна ўсіх не запомніце.

Стары. Тады — ваеннага і па фінансах каторы. У першую чаргу з вайной трэба пакончыць.

Дружок. А фотакарэспандэнтаў? Там і з кінахронікі, і з тэлебачання. Іх упусціць?

Стары *(падумаўшы)*. З тэлебачання аднаго ўпусці. Ён і адзін раззвоніць. І фатографа. Хай будзе на памяць. Толькі скажы яму, каб дзве фотакартачкі. Адну сабе, а другую... у клуб. Во смеху будзе. Давай! Паспрабую кіраваць. Хе-хе... тваю дрындушку! Дзяржавай! Я!

Стары садзіцца за стол, напускае на сябе важнасць. Дружок запускае круг. На крузе — міністры. Фатограф і тэлекарэспандэнт стараюцца зафіксаваць гэтую незвычайную аўдыенцыю.

Дружок *(знаёміць прэзідэнта з міністрамі)*. Гэты па пенсіях і па культуры, гэты па мясу і малаку, гэты па шэрсці і па яйках. Па фінансах. *(Старому падабаўся нечым гэты міністр. Яны абмяняліся мілымі ўсмешкамі.)* Гэты па будаўніцтву. Гэты па разбурэнню. Па куплі і продажу. Па шпіянажу. Без партфеля. Сухапутны, марскі, дарожны загінуў у катастрофе. Па замежных справах паехаў у Егіпет. Гэты — ваенны.

Стары. Стоп! Ваенны міністр, ка мне! Па фінансах і шпіянажу пачакайце там. А астатнія могуць ісці на службу. Няма чаго тут на каруселі круціцца. Першае дзела — вайна! Ясна? Галоўнае, чым мы павінны сёння заняцца — вайна. Ідзіце! Да вас потым дабяруся.

Усе шуганулі да выхаду. Іх нібы ветрам здзьмухнула. Тэле- і фотакарэспандэнты здымаюць прэзідэнта ў розных ракурсах і — знізу і зверху. Стары па нявопытнасці падладжваецца, пазіруе.

Дружок. Ну, хопіць! *(Выправаджвае карэспандэнтаў вон.)*

Ваенны міністр. Дазвольце падзякаваць вам, сеньёр прэзідэнт, за асобую ўвагу да нас, да ваенных. «Вайна — першае дзела»!

Стары. І табе, бачу, абрыдла яна? Усім яна астачарцела. Трэба канчаць. Ну, садзіся, паталкуем.

Ваенны міністр. Як — канчаць? Хіба прынялі рашэнне пачынаць ужо тую, другую?

Стары. Якую такую другую? Ды ты што? Ніякіх войнаў! *(Дабрадушна.)* Поўнае замірэнне. Мір! Ясна?

Ваенны міністр. Не, не ясна. Як — мір? Саўсім мір?

Стары. Саўсім і назаўсёды. Зараз жа давай каманду, каб перасталі страляць. *(Злуецца.)* А то азвярэлі проста. Губяць людзей нізашто. Быццам яны казяўкі нейкія. Скажы салдатам: даю вам мір!

Ваенны міністр. Святая Маргарыта! Ды гэта... гэта ж катастрофа!

Стары. Ды ты што? Што гэта з табой?

Ваенны міністр. Сеньёр прэзідэнт! Не, я гэтага не магу. Гэта не мае функцыі. Не мае, і ўсё!

Стары. Ну і дысцыплінка тут у вас! А чые функцыі?

Ваенны міністр. Н-ну, можа... міністра замежных спраў? Гэта яму даручана трапацца пра вечны мір. Хай цяпер на справе паспрабуе.

Стары. А твае функцыі?

Ваенны міністр. Набраць салдат, даць ім афіцэраў, уручыць зброю, даць самалёты, танкі, гаручае, бомбы, снарады, забяспечыць кансервамі, лакатарамі, ракетамі, гранатамі...

Стары. Та-ак. Ну, назбіраў ты ўсяго гэтага, а потым?

Ваенны міністр. А потым задача — знайсці праціўніка і пачаць вайну. Прыдумаць нетарапліваю стратэгію. Нам да перамогі спяшацца не трэба. Наша мэта — не перамога, а вайна.

Стары. Абы вайна? Абы забіваць? Ах, спаймаць тваю маці! Гэта ж — злачынства!

Хапае міністра за вуха, як школьніка некалі, ставіць яго на калені. Шкуматае за вуха.

Ваенны міністр. Вайна? Не. *(Дэкламуе.)* «Яна ўзвышае нашу годнасць чалавечую. У ёй найвышэйшае праяўленне нашай доблесці. Яна ўваскрашае мужнасць у народах, распешчаных мірам, умацоўвае існаванне дзяржаў...» Пусціце, пусціце, болей не буду.

Стары. Гэта чыё ж вучэнне? Мао? З яго цытатніка?

Ваенны міністр. Гэта словы Прудона. Гэта мыслі Гегеля. Пусціце!

Стары. Бандыт твой Прудон, і разбойнік з вялікай дарогі твой Гегель з яго рацыянальнымі зёрнамі.

Ваенны міністр *(выкручваецца)*. Прэстыж вялікай дзяржавы, чэсць нацыі... Усё пад ногі? Вось так?

Дружок дакорліва паціснуў плячыма, што і заўважыў Стары. Дружок дастаў з паліцы кнігу, хуценька перагартаў, знайшоў патрэбную старонку і паказаў прэзідэнту: на, даві і ты цытатамі.

Дружок. Жан Жак Русо.

Стары. Добрыя людзі іншаму вучаць. *(Чытае і грозіць пальцам перад носам міністра.)* «Вайна з'яўляецца ўзаконенай формай грабяжу, зручнай прычынай для вымагацельства грошай на ўтрыманне велізарных пастаянных армій, якія трымаюць народ у паслушэнстве і страху». Во ў чым корань зла!

На парозе паяўляецца дзяўчына — Сакратар. Яна вельмі падобна на Нэлу. Стары заўважыў гэта падабенства.

Сакратар. Уключыце тэлевізар. *(Сама ўключае тэлевізар.)*

Стары. І ты тут?

Сакратар. А дзе я павінна быць, сеньёр прэзідэнт?

Стары. Дзіўна... *(Вельмі ўважліва разглядае дзяўчыну.)*

Сакратар. Вам не падабаецца мой касцюм?

Стары. Магла б і даўжэйшую спаднічку надзець. А то і самой холадна, і яго дрыжыкі бяруць. Бачыш, якія сутаргі ў яго?

Дружок *(усхваляваны)*. Сеньёр прэзідэнт! Вы толькі паслухайце, паглядзіце, што яны па тэлевізары гавораць!

На экране тэлевізара той самы тэлерэпарцёр, што прысутнічаў на прыёме міністраў.

Тэлерэпарцёр *(у экстазе)*. Па адной фразе, па першым слове прэзідэнта мы зразумелі, мы адчулі, і хутка ўвесь свет зразумее, што да ўлады прыйшоў чалавек сільнай волі, чалавек рашучы, чалавек дзеяння. Ён сказаў: «Першае дзела — вайна!» Вайна — першае дзела! Ён не стаў размазваць словы перад сваім кабінетам. Ён пакінуў з сабой толькі ваеннага міністра, а ўсіх бесцырымонна адправіў на службу. Ітак, рыхтуйцеся да рашучага павароту! Вайна — наш галоўны занятак! Раскашэльвайся, народ!

Стары *(аж прысеў)*. Што ён меле?! Што ён нясе?! Ілгун! Хлус! У капэзэ яго! За паклёп! Не дай бог дома гэта пачуюць ці ўбачаць! Чорт ведае што падумаюць. Злавіць яго! Спаймаць і прывесці сюды!

Дружок знікае за дзвярыма. І Сакратар за ім.

Ваенны міністр. Сеньёр прэзідэнт! Уся краіна пачула. Вам цяпер давядзецца лічыцца з грамадскай думкай.

Стары. Ты яшчэ тут? Я табе што загадаў? Ідзі і зараз жа адбівай тэлеграму! Вайне канец! Там кроў ліецца! Там параненыя стогнуць! Гора там горкае па свеце шляецца. Мір давай! Мір! Ідзі і выстаўляй белы флаг!

Ваенны міністр. Капітуляцыя? О Маргарыта! Прэстыж вялікай дзяржавы... Усё пад ногі? Чэсць нацыі!

Стары *(крычыць)*. Белы флаг!!

Ваенны міністр. Няма ў нас гатовых белых флагоў. На гэта трэба новыя расходы. Асігнаванні.

Стары. І каб без валакіты! Пакараў бог народ — наслаў ваявод. Ах ты!.. *(Лупцуе міністра, як нашкодзіўшага ўнука.)*

Ваенны міністр. Вы губіце нацыю. Губіце яе аўтарытэт!

Стары. Не чытаў? «Нацыя, якая вядзе няправедную вайну, ёсць не што іншае, як вялікая шайка грабіцеляў». Белы флаг!!

Ваенны міністр пакідае кабінет, упэўнены, што прэзідэнт з глузду з'ехаў.
Уваходзіць Сакратар з мужчынскімі штанамі.

Сакратар. Надзеньце. Гэтыя вам болей да твару.

Стары. Дык гэта ты схавала мае штаны?

Сакратар. Гэта не вашы. Гэта штаны віцэ-прэзідэнта. Я падышла да яго і сказала: здыміце, калі ласка, свае штаны. Ён таропка зняў, а я яшчэ падумала: як ён вас паважае.

Стары *(смяецца)*. А як жа ён?

Сакратар. А ён здыме ў свайго зама. Той у памочніка. Памочнік у свайго намесніка. І так ніжэй. Праз паўгадзіны мы праз акенца ўбачым без штаноў дворніка. Па праву сілы. *(Дапамагае Старому надзець штаны.)*

Стары *(адагнаў яе)*. Ты не за сваю справу не хапайся! Без сораму! Табе ж замуж ісці, а ты ўжо без пасагу...

С а к р а т а р. Як без пасагу? У мяне ёсць...

С т а р ы. Няма! Лепшы пасаг — сарамлівасць. А ў цябе ўжо ні кроплі сарамлівасці.

С а к р а т а р. Я хацела толькі надзець вам штаны... *(Выходзіць.)*

Уваходзіць Д р у ж о к з в а ж н а й п е р с о н а й.

Д р у ж о к *(дакладвае)*. Міністр фінансаў!

С т а р ы. А-а, заходзь, заходзь, шаноўны. Сядай.

М і н ф і н. Добры дзень, сеньёр прэзідэнт. Віншую вас!

С т а р ы. Здароў, здароў. Дзякую. Ох, як ты мне патрэбны, як цікава мне з табой пагутарыць. Ты ж у нас галоўны касір. Як грошы беражом, дзе іх збіраем, куды складваем, на што расходуем?

М і н ф і н. Я павінен зрабіць сеньёру прэзідэнту афіцыйны даклад?

С т а р ы. Карацей. Даклада не трэба. Давай па-добраму пагаворым. Нам з табою трэба ў ладах быць. Ты мне паказаўся самым разумным.

М і н ф і н. Дзякую.

С т а р ы. Спяшацца не будзем. Пасада ў цябе такая, прафесія такая, што спяшацца нельга. Ваенны, дык той спяшаецца, аж падае. Хоць і пасада такая — небяспечная быццам.

М і н ф і н. А ведаеце, сеньёр прэзідэнт, што гісторыі вядома куды больш абязглаўленых, павешаных ці забітых міністраў фінансаў, чым палкаводцаў, пакараных за прайграныя бітвы.

С т а р ы. Ды ну? Няўжо?

М і н ф і н. Каб не лічыць сваіх, напрыклад, у Францыі з 1315 па 1781 год пакаралі смерцю трыццаць сем міністраў фінансаў.

С т а р ы. Даўненька гэта было, даўненька, брат. І тады, значыць, транжырылі? Хм... *(Няёмкая паўза.)* Ну, вот, выкалачваеш ты грошыкі з падаткаплацельшчыкаў, збіраеш там пошліны розныя. А потым куды іх пускаеш? Грошы тыя?

М і н ф і н. Выдаткую на ўсе тры праграмы вашага ўрада: палітычную, эканамічную і ваенную.

С т а р ы. А ты б — канкрэтна куды?

М і н ф і н. На ўсялякую дапамогу. На абарону недаразвітых, на захаванне слабаразвітых, на стрымліванне вельмі развітых. І натуральна — на вайну, паколькі вы

заявілі, што вайна — наша першае дзела. Тут нашы асноўныя траты.

Стары. І ты мяне так зразумеў? Дзе гэты трапач? Дружок!

Дружок (*паказаўся на парозе*). Сеньёр прэзідэнт?

Стары. Дзе гэты званар з тэлебачання?

Дружок. Ён тут. (*Прапускае ў кабінет тэлерэпарцёра.*)

Стары сярдзіта разглядае гэтага цыніка, нахабніка, а ён яхідна пасміхаецца, ведаючы, што не будзе пакараны.

Стары. Ты чаму салгаў, перакруціў мае словы пра вайну? Хлус!

Тэлерэпарцёр. Я не салгаў і не перакруціў, сеньёр прэзідэнт. Можаце праверыць. Усе вашы словы запісаны на магнітную ленту. Дарэчы, іх не так многа было сказана. (*Уключае магнітафон. Гучаць словы Старога: «Першае дзела — вайна. Ясна? Галоўнае, чым мы павінны сёння заняцца — вайна. Ідзіце! Да вас потым дабяруся».*) Вот — мае доказы.

Стары. Але я хацеў сказаць, што трэба канчаць вайну. Я зусім другое думаў.

Тэлерэпарцёр. Нікому не сакрэт, што нашы палітыкі заўсёды думаюць адно, а гавораць другое.

Стары. Гэта вашы. Але ты хоць бы спытаў, што я меў на ўвазе.

Тэлерэпарцёр. Наша прэса пакуль што не залежная ад дзяржавы. Мы не абавязаны прасіць дазволу. Мы абавязаны аб'ектыўна асвятляць вашы справы і словы, сеньёр прэзідэнт. А адгадваць чужыя думкі мы яшчэ не навучыліся. Я не гадалка.

Стары. Ты — турак. Пайшоў вон!

Тэлерэпарцёр. З першага дня сварыцца з прэсай.

Дружок выpraваджвае тэлерэпарцёра за дзверы.

Мінфін. У нас прэзідэнт ва ўладзе чатыры гады, а журналісты — заўсёды. З імі сварыцца — сабе даражэй.

Стары. Во гэткім трэба зрабіць такое, каб не пладзіліся.

Мінфін (*пераводзіць гаворку*). Дык вы, значыць, мелі на ўвазе вайну... з вайной пакончыць?

Стары. З сённяшняга дня не выдавай грошы гэтым аглаедам на разбой!

М і н ф і н. А як жа закон? Бюджэт зацверджаны парламентам.

С т а р ы. Які ж гэта закон? Які закон? Там жа людзей забіваюць, калечаць! Там жа бамбяць, паляць, рвуць, каб ім кішкі рвала!

М і н ф і н *(уздыхнуўшы)*. І ўсё па закону...

С т а р ы. Бандыцкі закон! Ты вот скажы мне, толькі чэсна, колькі ты выдаў генералам на гэту вайну, на гэту бойню?

М і н ф і н. З азіятамі? За апошнія дзесяць гадоў — сто пяцьдзесят мільярдаў.

С т а р ы. Бог ты мой! А калі б усе гэтыя сродкі ды ўсе гэтыя рабочыя рукі ды пусціць у дзела, у гэтую ж краіну, аддаць гэтаму разняшчаснаму народу?! Братамі сталі б на векі вечныя. Не ворагамі!

М і н ф і н. Але... Гэтая вайна падтрымлівала ў нас эканамічную актыўнасць. Для нашай прамысловасці вайна гэта — замест допінгу.

С т а р ы. Чаго, чаго?

М і н ф і н. Замест... лекаў. Ну... як бы біястымулятар. Жэньшэнь. Пантакрын. Баброва струя.

С т а р ы. Вот я табе пакажу стымулятар! Вот зараз ты ў мяне пусціш баброву струю! І ты такі ж?!

М і н ф і н. Вашаму памочніку здаецца, што вы са мной грубавата размаўляеце.

С т а р ы. Ды ну? Ану! *(Кіўком галавы адсылае Дружка за дзверы.)* Магу і далікатна. Мне ж вельмі важна цябе ў саюзнікі. Разумееш, якая справа... Вот ты гаворыш — мільярды туды, мільярды сюды... А простыя ж людзі, ну, там... тыя, каторыя сваімі рукамі ўсё, усе на свеце багацці ствараюць, дык вось яны лічаць грашамі нават дробязь: пфенігі, су, цэнты, капейкі. Для іх семнаццаць капеек — грошы! Сорак два цэнты — грошы! А вы тут раскідаеце такія сумы. Дык вось, мне далі такі наказ: навесці ў гэтай справе парадак. Разумееш? Вельмі важна, каб ты гэта ўсёк. Усе людзі, увесь народ, як тыя мурашкі поўзаюць, капошацца, трудзяцца, як пчолкі лётаюць, збіраюць па пылінцы, па крупінцы, па кропельцы цягаюць да купы. Раней за сонейка ўстаюць, пазней за сонейка спаць кладуцца і ў сцюжу, і ў спёку, у стэпах, на моры і пад зямелькай здабываюць у поце, у мазалях, у старанні — каб усім хапіла, каб усіх адзець-абуць, накарміць. Усе як пчолкі працуюць, гудуць. А тут — адкуль ні вазьміся — труцень. Ды хап! Ды такі кавалак! А? Ды без со-

раму! І куды? На подлую вайну! Разумееш? На забойства! Наказ маю — спыніць растраты. Не дзела гэта! Памажы. А? Не па-гаспадарску.

Мінфін. Сеньёр прэзідэнт! *(Асцярожнічае.)* Мне ваш курс... Я... таксама за... каб без вайны.

Стары. Дык у чым загвоздка?

Мінфін. У гаспадары.

Стары *(зацікавіўся)*. У якім гаспадары?

Мінфін. Ваеннапрамысловы комплекс цяпер усяму гаспадар, ён уладар. Ён усім указ. Ён — цар, бог! І вярхоўны суддзя.

Стары. Ніякі ён не гаспадар. Цяпер я гаспадар.

Мінфін. Сеньёр прэзідэнт! Вы будзеце падпісваць загады і законы пад яго дыктоўку. Вы — не гаспадар. Ён усяму галава.

Стары. Народ усяму галава. Народ — гаспадар.

Мінфін. Пакуль вы не адбярэце ў яго заводы, капітал, банкі, народ для яго — проста пясок. *(Паўза.)* Не звязвайцеся вы з ім. Гэта небяспечна. Вельмі небяспечна. Вам асабліва.

Стары. Не толькі мне. З ім усяму свету небяспечна.

Мінфін. Так, і ўвесь свет у страху перад ім.

Стары. Значыць, гэты гаспадар і вымушае цябе на шалёныя расходы? Як жа ён умудраецца так?

Мінфін. Не ён адзін. Ён з генераламі. Вот павярніце выключацель на сваёй карце, і вы ўбачыце, колькі ў іх ваенных баз.

Стары. Расію так акружылі?

Мінфін. І яе суседзяў.

Паўза.

Стары. А ў іх базы вы падлічылі?

Мінфін. Іх базы на іх зямлі. Старажытныя базы — Ноўгарад, Пскоў, Кіеў, Смаленск, Яраслаў, Полацк, Цюмень — новая база. Давыд-Гарадок яшчэ.

Стары. Во-от! Самае вернае дзела! Вось там — самыя верныя іх саюзнікі. Іх і ўмацоўваюць. А вы? На чужых землях! У Тайландзе?

Мінфін. І ў розных іншых ненадзейных Турцыях, Грэцыях...

Стары. Такія расходы! Вар'яцкія растраты!

Мінфін. Так было заўсёды. Цэзару ў старажытным Рыме міністр фінансаў выдаваў семдзесят цэнтаў на забойства аднаго салдата праціўніка. Напалеон для гэтай

мэты браў у казне ўжо тры тысячы доляраў. У другой сусветнай вайне на забойства салдата праціўніка расходавалі пяцьдзесят тысяч. А цяпер жывы, незабіты салдат праціўніка каштуе нам штогод па пяцьдзесят тысяч. Жывы! Незабіты! Разарае нас і пасміхаецца.

Стары. Ну-ка, ну-ка, расталкуй. Якім жа гэта чынам?

Мінфін. Замяняем дальнія бамбардзіроўшчыкі. Кожны новы каштуе семдзесят шэсць мільёнаў. А колькі іх? Наша войска ў Еўропе абыходзіцца нам у семнаццаць мільярдаў. Штогод. І ім — генералам — гэтага мала. Кожны год патрабуюць павялічыць асігнаванні.

Стары. Ух, гэтыя генералы! Ух, паймаць бы іх маці! Слухай, а колькі іх у нас?

Мінфін. Генералаў? Ведамасць на жалаванне складае ваенны міністр. У яго трэба запытаць. А я на ўсіх адразу чэк выпісваю.

Стары. Чохам, значыць? Дружок! Дзе ты там?

Дружок *(паяўляецца на парозе)*. Я тут.

Стары. Перадай мой загад міністру па шпіянажу, каб падлічыў, колькі ў якой краіне генералаў, адміралаў, афіцэраў. Усіх асобна. І ў нас колькі? Для параўнання.

Дружок. Яму не патрэбна перадаваць загад. Ён сам ужо ведае. Ён жа вас пастаянна падслухоўвае. Ён зробіць.

Стары. Вось яно як!

Мінфін *(спалохаўшыся, б'е адбой)*. Вы хочаце спыніць вайну? Але ж сапраўды вайна аздараўляе нацыю, асвяжае яе, бадзёрыць. І эканоміку і патрыятызм. Гэта — нектар для прамысловасці!

Стары. Вы, як той язычаскі ідал, хочаце піць нектар абавязкова з чалавечых чарапоў.

Мінфін. На вайне, вядома ж, здараецца, і забіваюць. Але вы запытайце ў жанчыны... Натуральны суддзя мужчыны ёсць жанчына... У вачах жанчыны воін ёсць ідэал мужчыны.

Дружок. Сеньёр прэзідэнт! А вы запытайце ў жанчыны. У прыёмнай якраз дажыдаецца сваёй чаргі маладая актрыса.

Стары. Давай! Давай-давай!

Дружок прыводзіць Актрысу. Стары вельмі здзівіўся: так падобна яна на яго малодшую дачку.

Актрыса. Добры дзень, сеньёр прэзідэнт! *(Не разумее — каторы з іх прэзідэнт. Мінфін паказвае на Старога.)*

**Стары.** Дык гэта ты? *(З падазронасцю.)* А як цябе завуць?

**Актрыса.** Я — актрыса. На афішы я — Сюзана, а дома... Вы хочаце са мной пазнаёміцца?

**Стары.** Ты вот скажы нам. Калі б табе замуж, скажам, ісці ці там палюбіць, пакахаць, ну, адным словам, сэрца сваё палажыць, то каго ты выбрала б: ваеннага ці цывільнага — вучонага, інжынера, пісьменніка, агранома ці там загадчыка базай?

**Актрыса.** Я ўжо выбрала. Ён — асвяцІцель. Але ён вельмі разумны і таленавіты. Ён такі...

**Мінфін.** А чаму не ваеннага? Не афіцэра?

**Актрыса.** Ваеннага? *(Прызадумалася.)* Але ж іх так часта забіваюць і — нават яшчэ горш — калечаць. А з інвалідам...

**Стары.** Чуў? Вот, мілок, ідзі і закрывай для ваенных усе касы. Не па-гаспадарску гэта — раскідацца на іх грашамі. Без маёй запіскі нікому ні манеткі.

**Мінфін.** Помніце гаспадара, сеньёр прэзідэнт! *(Выходзіць.)*

Стары зноў пільна разглядае актрысу.

**Актрыса.** Вы мяне так разглядаеце, сеньёр прэзідэнт, нібы на яхту хочаце запрасіць мяне.

**Стары.** Малая ты яшчэ на такія жартачкі. Ну, чаго завітала? «Актрыса»! Я табе дам — «актрыса».

**Актрыса.** Я... Мяне паслалі... Я ад тэатра. Наш тэатр гарыць, ён гарыць не так, а... ён — банкрут. Разумееце, нешта не тое, не так на свеце. Усюды — футбол, хакей, бокс, грубасць, дзікая сіла, «сілавыя прыёмы»! І туды народ прэ. Ну, ці не дзіўна? Мы хочам несці людзям дабрату, любоў да чалавека. А ў нас... вот... нават на зарплату не хапае. Цэны на ўсё растуць. Такія таленавітыя артысты, а ім хоць з небаскроба скачы. Яны мяне паслалі к вам. Трэба нешта рабіць. Да, вот і ад тэатральнага таварыства яшчэ, ад сусветнага... Разумееце, трэба надрукаваць кнігу аб карыфеях тэатра — аб Станіслаўскім, пра Бертольда Брэхта. А — не хапае шасці тысяч. Па гэтай справе ўжо збіраліся адзін раз на сусветны тэатральны кангрэс. Тры дні выступалі, усё шукалі, дзе б раздабыць грошы. У Маскве гэта было. Але нічога не прыдумалі. На кангрэс толькі патраціліся, а ўсё роўна не знайшлі.

**Стары.** А колькі патрацілі?

**Актрыса.** Паўтара мільёна.

**С т а р ы** *(смяецца)*. І не знайшлі? Шасці тысяч?

**А к т р ы с а**. Да гэтага часу не знайшлі.

С т а р ы. У нас заўсёды так: на якую-небудзь марыянетку мільярды бухаем, а на сваю культуру — жменьку не знойдзем. А туды — ахапкамі, ахапкамі! А на карыфеяў... *(Дружку.)* Там нехта шкрабаецца.

Д р у ж о к *(прынюхаўся к дзвярам)*. Міністр па шпіянажу.

С т а р ы. Упусці.

М і н і с т р п а ш п і я н а ж у ўваходзіць, пільным вокам аглядае кабінет, абнюхвае Дружка, Старога і Актрысу; заўважае шкуру Дружка, грозіць яму пальцам.

М і н і с т р п а ш п і я н а ж у. Я вас слухаю, сеньёр прэзідэнт.

С т а р ы. Ну, давай, чаго там. Заданне выканаў?

М і н і с т р п а ш п і я н а ж у. Гэта немагчыма. Абсалютна. Колькі ў каго генералаў, афіцэраў, адміралаў — гэта такая тайна, такі сакрэт, што... Не-магчыма!

С т а р ы. Слухай, колькі ў цябе шпіёнаў? Там, за рубяжом.

М і н і с т р п а ш п і я н а ж у. Сто сорак тысяч. *(Раптам скумекаў, што выдаў дзяржаўную тайну перад Актрысай і Дружком.)* Можа — трыццаць, можа — сорак, або дзесяць, або пяць.

С т а р ы. Калі ты сваіх падлічыць не можаш, як жа ты генералаў падлічыш?

М і н і с т р п а ш п і я н а ж у. Гэтую лічбу ўсе ўрады трымаюць у такой глухой тайне — перш за ўсё ад свайго народа. А таму і нам цяжка, ох як цяжка, ну, проста немагчыма. Вот я знаю, што рускія знаюць, колькі ў нас генералаў, але яны не знаюць, што мы не знаем — колькі ў іх генералаў.

С т а р ы. А колькі ў нас, ты хоць гэта знаеш?

М і н і с т р п а ш п і я н а ж у. Таксама сакрэт. Вы запытайце ў начальніка штаба. Але ён таксама збрэша. Тайна. Сакрэт.

С т а р ы. Вазьміся ты ды разведай дома, у нас — колькі іх і колькі ім на жалаванне грошай трацім. Ясна?

М і н і с т р п а ш п і я н а ж у. Дык у нас саміх на гэта сродкаў малавата. Каб пра гэта разведаць, трэба падкупіць начальнікаў штабоў. А яны дорага просяць. Вы, сеньёр прэзідэнт, на наша ведамства не скупіцеся. Не хапае. Проста — бяда.

Стары. Ага, скрыпучае кола падмазваюць? Не скрыпі. Не падмажу. Тут во з дзяўчынкай трэба... Вот ёй памагчы варта. Ну, ідзі, любы, ідзі, шпіёнь. Служы!

Міністр па шпіянажу пры выхадзе затрымліваецца і загадвае Актрысе.

Міністр па шпіянажу. Потым да мяне зойдзеш!

Актрыса *(спужалася)*. За што? Што я зрабіла? Я ж нічога...

Стары. Не бойся. Гэта ў сне. Ну, дык як жа нам з табой? А? На культуру, канечне, трэба. Нават вот у калгасе ў нас на самадзейнасць такі куш адвальваюць, а тут... Як жа нам... за кошт ваенных?..

Актрыса. Не ведаю. Падумайце самі. Мы, актрысы, думаць не ўмеем. Мы — адчуваем. Такая наша прырода.

Стары. Та-ак. А мы во што зробім... Дружок! Зараз жа аддай загад: усім генералам, адміралам і палкоўнікам абрэзаць гузікі ад мундзіраў і штаноў. Скласці іх па рангах у каробачкі і здаць. Ясна? Сабраць! Потым мы пералічым і даведаемся па гузіках — колькі іх. Гэта па-першае. А па-другое — у генералаў рукі будуць заняты. Хай у руках штаны носяць. А то — распусцілі рукі, вайну ім падавай. Вось як! *(Актрысе.)* І тваю справу ўладзім: гузікі гэтыя, што ў каробачках, мы прададзім, а на выручаныя грошы і кніжку аб карыфеях надрукуем, і тэатр выручым ад банкруцтва. Не мыццём, дык катаннем.

Актрыса *(радуецца)*. Ай, як складна! Які вы мудры! І ўсё верна! А галоўнае — смешна! Во будзе пацеха: па вуліцы ідуць генералы і ў руках штаны трымаюць... А як ён будзе казыраць, калі яму салдат чэсць аддасць? Во смеху будзе! *(Паказвае генерала без гузікаў.)*

Уваходзіць Сакратар прэзідэнта. Яна перапужаная.

Сакратар. Сеньёр прэзідэнт! Сам! Сам з'явіўся!

Стары. Хто — сам?

Сакратар. Гаспадар!

Актрыса. Ой, я пайду! Я не буду... Сеньёр прэзідэнт, дык вы не забудзьце ўжо... пра гузікі і тэатр. А? *(Выходзіць.)*

Стары. Пра гузікі? Будзь упэўнена — правернем. А чаго вы перапалохаліся? Што ён за звер такі страшны? Ану, падаць яго мне!

Сакратар. Ён жа — гаспадар над усімі... усяго... усіх... Ён усё можа. Як скажа, так і будзе. Ён нават прэзідэнтаў ставіць і скідае.

Стары. Ды ну? Мяне ён не ставіў. Мяне баба мая прызначыла.

Сакратар. Гэта вам так здаецца. Без яго згоды, без яго о'кэй нельга стаць прэзідэнтам.

Стары. Ну і ну. Няўжо ён і на маю бабу ўплывае? А? Ану, падаць сюды цяпкіна-ляпкіна! Мы зараз памераемся сіламі.

Сакратар запрашае Гаспадара. Сустрэліся Стары і Гаспадар, насцярожаныя. Пільна прыглядаюцца адзін да аднаго, вывучаюць. Апісваюць васьмёркі адзін вакол другога. Гаспадар — худзюшчы, зморany, змарнелы, змучаны чалавек сярэдніх год.

Гаспадар *(вельмі карэктны і ветлівы)*. Прыміце мае шчырыя віншаванні, сеньёр прэзідэнт.

Стары. Прымем, прымем. *(Стары прымае на рукі віншаванні, нібы нешта матэрыльнае, і адкладае ўбок.)*

Гаспадар. Прыміце таксама і мае добрыя пажаданні.

Стары. Ну-ну, якія ж гэта пажаданні?

Гаспадар. Пажаданні міру.

Стары. Міру? Дык гэта ж у самую точку! Я ж таксама хачу пакончыць з гэтай вайной. Хачу замірэння.

Гаспадар. Замірэння? Ах, там? З азіятамі?

Стары. Там. Замірэння. Я ўжо і загад даў ваеннаму міністру.

Гаспадар. Ды што вы? Значыць, і дзяржаўны заказ на зброюануліруеце?

Стары. Калі вайны няма — навошта зброя? І ўсякі боезапас.

Гаспадар. Лагічна. І закрываеце мае ваенныя заводы?

Стары. Не толькі твае. Усе. Гэтай зброі панадзелалі столькі, што яе хопіць...

Гаспадар. Сем разоў планету ператрушчыць на парашок.

Стары. Вот то-та.

Гаспадар. Вы ўсё гэта сур'ёзна? З вайной, з заводамі?

Стары. Не сумнявайся. Тут не да жартаў.

Гаспадар. Не да жартаў. О святая інквізіцыя! Сеньёр прэзідэнт! Ды я вас за гэта... *(Набліжаецца да Старога.)*

С т а р ы *(трохі здрэйфіў)*. Ты гэта... Ты кінь! У мяне тут варта ёсць. Эй, Дружок!

Г а с п а д а р. Ды я вас расцалую! Я перад вамі на калені гатоў. Бог мой! Нарэшце! Канцы канцоў!

С т а р ы. Што — нарэшце? Што — канцы? Там жа людзей забіваюць.

Г а с п а д а р. Правільна!

С т а р ы. На тваю зброю столькі сродкаў ухлопалі...

Г а с п а д а р. Правільна!

С т а р ы. А людзі пакутуюць, народ пакутуе, ад голаду мруць, як мухі: кожную секунду — чалавек, кожную секунду памірае з голаду.

Г а с п а д а р. Правільна! І я пакутаваў! Правільна!

С т а р ы. Што правільна?

Г а с п а д а р. Усё правільна! А я што? Не чалавек? Я таксама чалавек! *(Заўважае босыя ногі Старога, сам таксама скідае туфлі.)* Я таксама хачу вольна ўздыхнуць. Я таксама маю права паспаць спакойна. *(Патрабавальна.)* Маю я права на адпачынак? На перадых хоць бы?

С т а р ы. Ты гэта... ты супакойся. Ты прысядзь. Ну, чаму ты так блізка да сэрца бярэш?

Г а с п а д а р. Сеньёр прэзідэнт! Не турбуйцеся! Супакойцеся! Вы думаеце — я звіхнуўся?

С т а р ы. А што — не? Прыбыткі ж вашы... таго... Накрыліся.

Г а с п а д а р. К чарцям прыбыткі! Я дзякую вам за вызваленне! Вы знялі з мяне гару клопатаў. Божа мой! Ну што за жыццё было ў мяне?! Вечна пад страхам. На канкурэнтаў азірайся, а то сажруць і гузікі выплюнуць. Эканамічнага шпіянажу апасайся — выкрадуць сакрэты. Новую тэхналогію не праваронь. З прафсаюзамі дамаўляйся, упрошвай, падкуплівай. А тут — энергетычны крызіс. Арабы такую свінню падклалі! А тут інфляцыя. Дэвальвацыя. Інтэграцыя. А ў выніку? Бяссонныя ночы, вечныя папрокі, перадвыбарныя баталіі, суета сует і тамленне духу. І ніхто не паспачувае. Усе думаюць: мільярдэр! Ён толькі і ведае — паспаў, паеў і ў карцішкі ці там у даміно — казла...

С т а р ы. А тут яшчэ камуністы...

Г а с п а д а р *(скрозь слёзы)*. О-о! У пячонках яны ў мяне сядзяць.

С т а р ы *(выцірае слязу)*. Бедалага. Дык ты што? Усур'ёз згодзен на мір і заводы спыпіць, каторыя зброю вырабляюць?

Андрэй Макаёнак.
1956 год.



Андрэй Макаёнак і Піліп Пестрак
у Яснай Паляне каля «Дрэва бедных».
1954 год.



Гаспадар. Вы не верыце? Дазвольце, з вашага тэлефона я зараз жа аддам распараджэнне. Вот.

Стары *(падсоўвае тэлефон)*. Любы ты мой, калі ласка!

Гаспадар *(у трубку)*. Майго намесніка! Ало! Гэта я. Тэрміновае і важнае распараджэнне. Сеньёр прэзідэнт аб'яўляе мір. Так, мір! Так, усюды! Не толькі ў Азіі. А таму спыніце выраб зброі. Спыніце заводы. Так. Гэта я. Што? Выконваць! *(Спакайней.)* Усе канторскія хай арганізуюць свята з выпадку міру. *(Заботліва, як няня.)* Рабочых адпусціць па дамах. Да дзетак. Да жонак хай ідуць. Хай усе радуюцца з выпадку закрыцця заводаў. Адпачнуць хай. Вы таксама радуйцеся. Як я. Зараз жа выконвайце! Так! Пракантраліраваць і далажыць! Я ў прэзідэнта. Так. Усё. Вот.

Стары. Гэта ты верна. Абавязкова патрэбен кантроль. За імі, за намеснікамі, трэба кантроль. *(Любуецца Гаспадаром.)* Ну які ж ты зубр? Аб дзетках вот клапоцішся. А то пужалі. Вот народ!

Гаспадар. Народу верыць нельга. Народ шэльма. Нагаворыць.

Стары. А ты — буржуй. Пра народ як! Усё-такі ты класавы вораг. Гэта, як радзімая пляма — і непрыгожа, і выразаць страшна.

Гаспадар. Аднак жа змаглі і згаварыцца. Я ж таксама чалавек. Толькі абставінамі... капіталам прыціснуты... да капіталу.

Стары. Сёння ты мудра паступіў. Давай я цябе абдыму.

Абдымкі некалькі залішне зацягнуліся.

Гаспадар. Мяне вы вызвалілі, а сабе клопатаў прыбавілі.

Стары. Нічога. Клопаты — яны як сабаку блохі, карысныя нават. Няма калі думаць пра невясёлую сабачую долю. А якія клопаты?

Гаспадар. Ад кожнай сотні рабочых у нашай краіне на ваеннай вытворчасці занята адзінаццаць чалавек. І вот закрыем мы ваенныя заводы, а іх куды? Застануцца без дзела. Уяўляеце — колькі іх? Адзінаццаць працэнтаў.

Стары. Не, усё-такі ты класавы вораг. Прыбыткі? Так?

Гаспадар. Ды не! Мне іх шкада. Рабочых. Яны прывыклі к заводу. Яны кожную раніцу, кожную раніцу і

вечар ішлі туды натоўпамі, як да кармушкі. Шкада іх вельмі.

С т а р ы. А ты не шкадуй. Я іх пашкадую. Вот вазьму і ўсе мільярды, што на ваеннае дзела ішлі, раздам ім. А яны будуць што-небудзь будаваць — жыллё ці дарогі. І сытыя будуць і давольныя. І кармушка твая не трэба будзе.

Г а с п а д а р. І яшчэ: вот вернуцца салдацікі з вайны, куды вы іх прыстроіце? А іх жа сотні тысяч. У нас і без іх было восем працэнтаў беспрацоўных. Ды цяпер плюс яшчэ адзінаццаць — дзевятнаццаць. Ды салдацікі прыйдуць. Як вы з імі справіцеся? Яны ж там навучыліся страляць. А тут апынуцца без дзела. Чым яны зоймуцца? Што ўмеюць? Грабяжамі. Насіллем. Яны ж там навучыліся забіваць.

С т а р ы. Да-а, аб гэтым я не падумаў.

Г а с п а д а р. О! Пад пагрозай парадак. У краіне і так, я вам скажу, не вельмі спакойна вечарамі ў гарадах. Што? Не?

С т а р ы. Ох, неспакойна, ох, неспакойна. Дружок! Дзе гэта пісьмо мэра горада? Пачытай.

Д р у ж о к *(чытае)*. «Павелічэнне колькасці забітых азіятаў не праходзіць дарма для нашай краіны. Маральны эфект такога, нібы ад нечага рабіць, забойства адзываецца кроўю на вуліцах нашых гарадоў, і мы паступова ператвараемся ў грамадства, дзе жыццё чалавека становіцца ўсё дзешавей... Страх прымушае гараджан сядзець за наглуха запёртымі дзвярамі нашых дамоў і кватэр, а ноччу нашы гарады становяцца арэнай жаху, жудасці...»

С т а р ы. Во што такое ваша вайна.

Г а с п а д а р. Не, гэта ваш мір пагражае краіне такім жахам. Вот вернеце малойчыкаў, якія паспыталі смак крыві...

С т а р ы. Дык, можа, лепей ваяваць? І беспрацоўя не будзе, і страхі адкладзем на потым. А? Не, паймаць тваю маці... А ты ўсё-такі класавы вораг. Шкада табе прыбыткаў. Ну, прызнайся.

Г а с п а д а р *(зразумелі адзін аднаго)*. Не, што вы! Я шчыра аб вашых клопатах...

С т а р ы. Ну, дзякую. *(Зазваніў тэлефон, і Стары здымае трубку.)* Так, я слухаю. Ага, ага... Малайчына. Ужо? Малайцы! *(Гаспадару.)* Табе далажыць хочуць. *(Перадае трубку Гаспадару.)*

Г а с п а д а р. Спынілі? Так, так... Малайцы! А цяпер

перадайце пашым заводам-пастаўшчыкам: сталь нам непатрэбна. Падзякуйце ім. Растлумачце. Дзюралюміній непатрэбен. Селітра таксама. Чыгун, пракат... Так, так. Хай спыняюць. Так. Так. Мір дык мір! Чорт вазьмі! А як жа?! Рабочых да дзетак, да жоначак, па дамах. Хай святкуюць. Так, можна і маніфестацыі. Мір жа ўсё-такі! Так. Памажыце прафсаюзам арганізаваць. І плакаты, плакаты ў чэсць прэзідэнта. Уся слава яму, ён ініцыятар.

Стары. Ну навошта? Гэта ўжо культ асобы.

Гаспадар. Гляджу я на вас і не нарадуюся. Прэзідэнт-міратворац! А? Гучыць? Грандыёзна! Помнік заслужыў! Пры жыцці.

Стары *(скромнічае)*. Ты ўжо скажаш. Даволі. Дый... Помнікі пры жыцці — недаўгавечныя. Не захвальвай.

Гаспадар. Пахвалу часта адхіляюць для таго, каб яшчэ раз пачуць яе.

Стары. Ды не, брат. Калі цыган занадта расхвальвае сваю кабылу, то знай — ён хоча як хутчэй збыць яе з рук. А не таму, што помнік ёй пры жыцці паставіць хоча.

Гаспадар. Шкада толькі, што пасля такіх вось дабракоў, гуманістаў, ліберала́ў прыходзяць смуты, хаос, культурная рэвалюцыя ці фашызм, а то і бог ведае што яшчэ...

Стары. А чаму хаос, смута? Я хіба...

Гаспадар. За спіной даверлівасці — здрада, за дабрадушшам — каварства, за законам пляцецца беззаконне, за злом — помста, як за прэзідэнтам — віцэ-прэзідэнт. Такія мае назіранні...

Стары. Я ж не к хаосу заву, не смуту сею. Я міру хачу!

З'яўляецца Сакратар і ўрачыста аб'яўляе.

Сакратар. Панове! Ленч! Прыйшоў час ленча! *(І прагучала гэта так жа ўрачыста, як «прыйшоў час малітвы».)*

Гаспадар *(радуецца)*. Ох, ленч! Ленч! Яго час прыйшоў!

Стары. Які там яшчэ ленч? Пачакае твой ленч.

Сакратар. Сеньёр прэзідэнт! Накарміць вас другім сняданкам — гэта мой службовы абавязак.

Стары. Які там сняданак, калі мы галоўнай справы не рашылі. Там вайна, а мы — снедаць? Тым больш другі раз.

Гаспадар. Сняданак, другі сняданак і ёсць тая са-

мая галоўная справа, дзеля каторай мы робім усе справы. І вайна, якая там зараз вядзецца, яна таксама дзеля сняданка. Усе войны, якія вяло чалавецтва, ад першай вайны чалавека з мамантам і да апошняй вайны арабаў з яўрэямі, усе войны — дзеля другога сняданка. Сеньёр прэзідэнт! Не будзем парушаць гістарычныя традыцыі. Сняданак — наша першая і галоўная справа. Слава другому сняданку!

Усе партрэты (адзін з іх са свежай жалобнай лентай) папярэдніх прэзідэнта апускаюцца, робяцца столікамі пры буфетных акенцах з талеркамі, бутэлькамі, чаркамі і розным харчам. Гатова да паслуг буфетчыца. Гэта ж, здаецца, Сакратар! Гаспадар падзывае Сакратара прэзідэнта.

Сакратар. Вам я патрэбна, ці...

Гаспадар. Мне трэба прэзідэнт. Было б добра, каб вы перадалі яму маё запрашэнне пабываць у мяне ў гасцях на яхце. Напрыклад, сёння. Але вы павінны перадаць запрашэнне так, каб у яго з'явілася жаданне... каб яму захацелася... пабываць на яхце.

Сакратар. Але ён ужо стары. Ён стары... на яхту.

Гаспадар. І ў старога таксама часам з'яўляецца жаданне на яхту. *(Вымае з кішэні кулончык і кладзе Сакратару ў жменьку.)*

Сакратар. Пастараюся выклікаць у яго жаданне.

Сакратар знікае.
Цяпер сюды сыходзяцца Ваенны міністр, Міністр фінансаў, Міністр па шпіянажу, Віцэ-прэзідэнт. Адны яшчэ жуюць, а другія ўжо калупаюць у зубах.

Мінфін. Як вы яго... І ён паверыў?

Гаспадар. Новы прэзідэнт даверлівы, як дзіця. Наіўны. І таму небяспечны. Каровы бойся спераду, каня ззаду, а яго з усіх бакоў.

Ваенмін. Ён — чырвоны?

Гаспадар. Ён больш чырвоны, чым чырвоны.

Ваенмін. Адкуль ён зваліўся? Які чорт яго прынёс?

Мінфін. Мы не ведаем, хто ён, што ён, ад каго ён.

Міністр па шпіянажу. Ад бога. Бог яго даў, бог яго, калі што, і прыбярэ. Бог, ён усемагутны.

Мінфін. Як жа ён усплыў? Сам?

Гаспадар. Вы яго заслужылі. У дрэнным правіцельстве, як і ў палонцы, наверх усплывае самае... лёгкае.

Мінфін. Значыць, ён не асоба?

Гаспадар. А дзе віцэ-прэзідэнт?

В і ц э - п р э з і д э н т. Я тут. Я заўсёды тут.
Г а с п а д а р. Нейкая непрыкметная... Будзь пад рукой. Чакай.
В і ц э - п р э з і д э н т. І доўга яшчэ чакаць?
Г а с п а д а р. Натоўпы ёсць?
В а е н м і н. Ёсць.
Г а с п а д а р. Лікаванне?
В а е н м і н. Усеагульнае.
Г а с п а д а р. Плакаты? Крыкі? Абурэнне?
В а е н м і н. Бурнае. Гнеўнае.
Г а с п а д а р. Хаос?
М і н ф і н. Натуральны: усё дагары нагамі.
Г а с п а д а р. Магазіны?
М і н ф і н. Апусцелі.
Г а с п а д а р. Цэны?
М і н ф і н. Растуць з кожнай гадзінай. Бескантрольна.
Г а с п а д а р. Тэлебачанне?
М і н і с т р п а ш п і я н а ж у. На месцы.
Г а с п а д а р *(віцэ-прэзідэнту)*. Выйдзі к народу. Для рэкламы. Абяцай рэформы. Падабайся натоўпу. Пацалуй якога-небудзь дзіцёнка. Вытры насавічком слязу. Стукай у грудзі. Ідзі, друг народа. Тачы язык і зубы. Для ўлады яны вострыя трэба.

І ўсе зноў накідваюцца на жратву. Чуваць, як над усёй краінай разносіцца нейкі шэлест, булькание, звон талерак, лязгат нажоў, відэльцаў, хруст, чаўканне. Усе свяшчэннадзействуюць: жуюць, глытаюць, п'юць, улагоджваюць страўнікі, шлункі.

— Джон Ф. Кенэдзі!
— Забіты.
— Сальвадор Альендэ!
— Забіты.
— Муджыбур Рахман!
— Забіты.
— ...?

*Гістарычная хроніка*

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### ВАЗНЯСЕННЕ

На балкончык выходзіць С т а р ы. Доўга прыслухоўваецца.

С т а р ы. Жуюць. Ядуць. Хрусцяць костачкамі. Да-а. Улагоджваюць страўнікі. Прасвятліў ён мяне: усё дзеля

сняданка. А я ўсё жыццё пражыў... перахопіш на хаду, каб падмацавацца, каб лягчэй бегчы, каб касой замахнуцца, каб тапор сілу пачуў, а тут аказваецца — усё наадварот. Усё, што робяць, усе помыслы, нават войны — дзеля сняданка. Усё страўніку. Яго ўлагодзіць. У якім жа гэта каралеўстве?.. Мяса не хапала, знікла з прылаўкаў, не закупілі... І яны караля з'елі. А потым, хе-хе-хе, паймаць іх маці, пастуха сажралі, бачыш ты, кармавую праблему ў каралеўстве не рашыў. Во дзе ён, вораг чалавецтва! Страўнік! Ён — драпежнік! Ён, разбойнік, штурхае на злыя ўчынкі і абжор, і галодных. Ён жа ненасытны, як бяздонне, як агонь, як пажар усё зжырае! А яму мала! Мала! Мала! З'есць ён чалавека! Без астатку з'есць. Самога сябе з'есць, калі яму патакаць.

З'яўляецца Д р у ж о к. Усе партрэты становяцца на свае месцы. Кабінет прымае свой звычайны выгляд.

Усе пакідаюць кабінет. Дружок сустракае прэзідэнта. Стары такcама калупае ў зубах. Поруч тупае каблучкамі С а к р а т а р. Яна адкрыта какетнічае.

С а к р а т а р. Сеньёр прэзідэнт! Вас запрашае ў госці гаспадар. На яхту ў заліў.

С т а р ы. На падводных крыллях, ці што? Да Кіева?

С а к р а т а р. Не, чаму да Кіева! У яго парусная яхта. Ах, якое гэта харство! А на яхце ў яго столькі спакусы... Цуд, рай, Ганконг! Індыя! Махараджа! А напіткі! А музыка! А жанчыны! Стрыптыз!

С т а р ы. Чаго, чаго? Стрыптыз? А гэта што за звер?

С а к р а т а р. Гэта... Ну, як вам расказаць?.. Гэта... Вот... вазьміце і пацягніце за гэты шнурок. Смялей, смялей.

Стары пацягнуў за шнурок, і плацце Сакратара з'ехала ўніз. Дзяўчына стаіць як мама радзіла. Стары атарапеў.

С т а р ы. Божухна! Ды што ж гэта? У які грэх увяла! Бессаромная! Адзенься! *(Крычыць на Дружка.)* А ты чаго вочы вылупіў? Не соромна? Адвярніся, бугай! *(Адвярнуўшыся, Стары памагае дзяўчыне адзецца.)* І брысь, брысь адсюль, акаянная. Сіла ты нячыстая! *(Стары выпіхнуў яе за дзверы.)*

Д р у ж о к. Ну, што? Пацягнуў за шнурок? А? Правакацыя якая?

С т а р ы. Да-а... аскароміўся... *(І самому весела.)* Пацягнуў за шнурок! А? Ну, брат, і сцерва! А хараша-а-а! Бачыў? А? Штучка! *(Апамятаўся.)* Добра яшчэ, што фа-

тографа не было ці гэтага, з тэлебачання. А то... Вот бы кіно ўстроілі. І галоўнае — не апраўдаешся: сам пацягнуў за шнурок. Карцінка была б! «Прэзідэнт забаўляецца». Акно сатыры.

Д р у ж о к. Можа, і знялі. У іх гэта — раз плюнуць.

С т а р ы. Бач ты. Як яна гэта называе? Сервіз?

Д р у ж о к. Стрыптыз. Ну, на яхту пойдзеце? Ве-ельмі цікава.

С т а р ы. Праз цікаўнасць Адама і Евы людзі рай стра́цілі.

Д р у ж о к *(успомніў службу)*. Сеньёр прэзідэнт! Вас ждуць вялікія справы! Ад якіх мір залежыць. Праз тое мір траціць нельга.

С т а р ы *(выглянуўшы ў акно)*. Што за шум там? Што за гам? Натоўп сабраўся... Крыкі... Аб чым там? Братаюцца ці б'юцца?

Д р у ж о к. Лікуюць. Радуюцца. Весяляцца. Мір! Міру рады.

С т а р ы. І праўда, быццам весяляцца... радуюцца. Толькі нешта сярдзіта яны весяляцца. Ці не б'юцца? Вунь адзін пад дзеравам сядзіць, галаву звесіўшы. Не падобна, што яму весела.

Д р у ж о к. Гэта мысліцель. Зараз віцэ-прэзідэнт далажыць. Бачыце, ён там. *(Сакратару за дзверы.)* Пакліч віцэ-прэзідэнта! *(Старому.)* Але ведайце, сеньёр прэзідэнт: ён — чалавек гаспадара. Ён не вам служыць.

С т а р ы. З ім знюхаўся? Я яго нешта не прыпомню...

Д р у ж о к. Зараз ахнеш...

Уваходзіць В і ц э-п р э з і д э н т. Стары аслупянеў: так падобны ён на сына. Стары непрыязна разглядвае яго, а той трымае сябе строга афіцыйна, адчужана, з гонарам.

В і ц э - п р э з і д э н т. Добры дзень!

С т а р ы. А ты як сюды трапіў?

В і ц э - п р э з і д э н т. Па выкліку. На даклад.

С т а р ы. Ты што, прытвараешся?

В і ц э - п р э з і д э н т. Сеньёр прэзідэнт! Я не разумею вас. *(Суха.)* Магу дакладваць?

С т а р ы. Пачакай, Ты гэта... Цябе як завуць?.. Ну, імя.

В і ц э - п р э з і д э н т. Джон.

С т а р ы. Джо-он? Ды ну? Ужо Джон? Не Жан? А? А можа — Ваня? Іван? Ну, чаго маўчыш? Дурня з мяне строіш з гэтай, Іван?

Віцэ-прэзідэнт *(не разумее ігры)*. Я Джон. Джон я!

Стары *(сумняваецца)*. Хм... Вельмі падобны... на майго сына.

Віцэ-прэзідэнт. Прыемна, але... Не зайздрошчу вашаму сыну. Вы, здаецца, таксама не вельмі любіце сваё чада.

Стары *(ацэньвае)*. Саўсім чужы. «Таксама» — кажаш? Табе здаецца, што і твой бацька цябе не любіць? «Таксама»...

Віцэ-прэзідэнт. Мне гэта не здаецца.

Стары *(хоча выведаць)*. Слухай, давай пагаворым, толькі шчыра. Вот у цябе з бацькам як? Што ў цябе з ім? Раскажы пра яго. Хто ён? Які ён? Гэта важна для мяне. І для цябе.

Віцэ-прэзідэнт. Але ў нас больш важныя, дзяржаўныя, справы...

Стары. Можа, гэта — самая важная дзяржаўная справа!

Віцэ-прэзідэнт. Бацька мой... біялагічны бацька — пастыр, поп, прапаведнік дабра і справядлівасці. У яго вялікія духоўныя запасы, але ў яго няма грошай. А сапраўдны бацька, бацька-дабрадзей — Гаспадар. Ён дае мне тое, чаго не хапае ў роднага,— грошы. Вядома, не за духоўную прывязанасць. Ён — у крэдыт. Я малады. А маладосць даецца на кароткі час. Я малады — пакуль. А пакуль я малады, мне трэба зараз, сёння альбо ніколі. Ён гэта ведае.

Стары. А бацька ведае гэта?

Віцэ-прэзідэнт. Ён гэтага не разумее.

Стары. Бог мой! Празяваў. Праваронiў сына. Слухай, ты і праўда — Джон? Не Іван? Ты што, ненавідзіш бацьку свайго? А? У яго няма грошай ці ён не хацеў даць табе?

Віцэ-прэзідэнт. Ён не хацеў іх мець. Ён у золаце бачыць зло. А я бачу жыццё, радасці, свабоду, самастойнасць, незалежнасць, любоў, дружбу — усё! Кожнаму сваё! Кожны жыве сам. Калі чалавек надзявае касцюм, ён прыемнасць адчувае сам. Калі п'е — смачна яму. Калі цалуе — асалоду мае сам, ён для сябе цалуе. Чужыя прыемнасці мне нічога не даюць. Я ж не магу паспытаць, адчуць усё тое... калі не я ляжу з ёй, а нехта другі. Гэта трэба самому, толькі самому. Рэстаран, яхту, машыну, скорасць, палёт, рэўнасць, боль, смутак, радасць...

**Стары.** А хто ж будзе сеяць, жаць, ткаць, шыць, будаваць дамы, рэстараны, яхты, машыны? А калі ўсе захочуць так, як ты, на гатовенькае?

Віцэ-прэзідэнт. А ўсе і хочуць. Усе так хочуць! Але не ўсе могуць. Тут хто зможа. Адны хай будуюць, сеюць, шыюць, а другія...

Стары. Сынок! Куды ж ты? Як жа ты?

Віцэ-прэзідэнт. А вы хіба не так? Пад адзежкай усе мы голенькія. Вот прэзідэнтам вы сталі хіба не для таго, каб адчуць у поўную сілу ўсяго... Ну ўсяго, чаго душа пажадае? Улады над людзьмі, славы, пашаны, увагі, сытасці, любві, гонару, жаночага тамлення. А? Адчуць радасць поўнага размаху крыла!

Стары. Ты на яхце ў яго бываў? У гаспадара?

Віцэ-прэзідэнт. Бываў.

Стары. І гэты... сервіз ён вам... ну, паказваў, выстаўляў?

Віцэ-прэзідэнт. Які сервіз? А, стрыптыз? Было.

Стары. Потым карцінкі ўсякія такія?..

Віцэ-прэзідэнт. Якія карцінкі? Ён у натуры ўсё падае. Вот уваходзіць дзяўчына. Прыгожая. Такая, што... Ну і саўсім без... Святло прытухае. Потым заходзіць мужчына. Здаровы, статны. І таксама — саўсім... І пачынаюць... ну... Дагадаліся?

Стары. На вачах ва ўсіх?

Віцэ-прэзідэнт. Ну, можа, хто і зажмурыцца.

Стары. Ну, а потым? Вы-та што потым?

Віцэ-прэзідэнт. Я? Нічога... Не помню. *(Хоча ўспомніць.)* Не, не помню, што потым.

Стары. Госпадзі! Дык як жа такое можна глядзець?

Віцэ-прэзідэнт. Гэта цікава. Вот я чуў, што Гаспадар сёння запрашае вас на яхту. Вы пабывайце. Гэта цікава. Асабліва ў вашым узросце.

Стары. Во ржаўчына! Во кіслата! Як ён чалавека раз'ядае!

Віцэ-прэзідэнт. Гэта не кіслата. Гэта вам з непрывычкі.

Стары. Вось так гэта і пачынаецца — з семнаццаці капеек. Потым з непрывычкі. Потым з прывычкі. А далей — хоць у лоб страляй — не выб'еш, не адымеш. Не мала таго, потым, каб яхту гэту мець і ўсё такое там, ён гарматы, мінамёты, армады падводных лодак, самалёты, базы будуе... Во яно дзе гнездзіцца, зло! На яхце!

Віцэ-прэзідэнт. У вас разлад з сынам? Даруйце...

Стары. Усіх выхаваў. Спадзяваўся, што і апошні, гледзячы на іх, вырасце такім жа. А — не! Кожнае пакаленне ўсё пачынае нанава. Кожны — асоба, аднаасобнасць! Яму вопыт у спадчыну ў генах не перадаецца. А я на самацёк... Нельга на самацёк. Адзін ён ці адзінаццаты. А гэта што ў цябе?

Віцэ-прэзідэнт. Біблія.

Стары. Біблія? У цябе? А навошта яна?

Віцэ-прэзідэнт. На ўсякі выпадак. Біблія згадзіцца ў жыцці пры ўсякім выпадку.

Стары. Каб схавацца за ёй? Прыкрыць свае страсці? А? Вот калі я, здаецца, спасціг галоўнае. Пад канец, пад старасць. Вялікая тайна зла тоіцца ў імкненні чалавека задаволіць свае страсці. Усе беды ў свеце прараستаюць з аднаго карэньчыка, з аднаго гаршочка, імя якому — эгаізм. Я! Мне! Маё! І дзеля гэтага — напралом, не зважаючы на чужыя стогны, боль... Абы сабе! Абы сам! Страсці! Ух, гэтыя страсці!

*З вуліцы зноў хвалямі даносяцца шум, гул, крыкі, усплёскі апладысментаў, скандзіраванне і лямант.*

Віцэ-прэзідэнт *(паказвае за акно)*. Вось, у іх таксама страсці. Яны хочуць жраць. Вы далі ім мір — яны дзве гадзіны лікавалі. Вы закрылі ваенныя заводы, выкінулі іх на вуліцу — і яны патрабуюць работы, заробку. Яны яшчэ патрабуюць вайны дзеля хлеба.

Стары. Патрабуюць хлеба з кроўю? Не лжы!

Віцэ-прэзідэнт. Яны не грэблівыя.

Стары. Рабочыя вайны не патрабуюць. Ды яны б'юцца! Глядзі! Сценка на сцэнку. Чаго б гэта? Ідзі-тка разузнай, што да чаго. Чаго яны хочуць. І тыя і гэтыя. Ідзі і не затрымлівайся.

Дружок. Тэлевізар, тэлевізар глядзіце!

*У тэлевізары на фоне гоману натоўпу разараецца знаёмы нам* тэлерэпарцёр.

Тэлерэпарцёр. Ганарлівае жаданне прэзідэнта праслыць міратворцам прывядзе краіну да катастрофы, увергне наш народ у бяздонне бедстваў. Вось бліжэйшая перспектыва нацыі: дваццаць працэнтаў беспрацоўных, дарогі забіты няшчаснымі людзьмі, якія шукаюць работы і хлеба. Паміраюць старыя, пакінутыя без нагляду. Пла-

чуць жонкі і мацеры. Плачуць галодныя дзеткі. Кругом грабяжы, разбой, насілле, забойствы. Над усёй краінай стогны, енкі, сум...

Стары. Гад! Значыць — лепей ваяваць? А? Вот стварылі абстановачку: вайна — дрэнна, а мір — яшчэ горш. Вот загналі народ у тупік. Машэннік! Ты скажы, хто давёў да гэтага?! Хто зацвярджаў ваенныя бюджэты! Вашы правіцелі штогод трацяць на армію, на зброю, на ваенныя базы чатырыста мільярдаў!

Дружок. Сеньёр прэзідэнт! Вы крычыце самому сабе, а ён вас абмазаў перад усім светам.

Віцэ-прэзідэнт выходзіць і прыводзіць чалавека з ланцугом у руцэ.

Віцэ-прэзідэнт. Вось ён, раб. Ён супраць вас.

Стары. Ну, ты свабодны. *(Віцэ-прэзідэнт выходзіць. Стары размаўляе з рабом, як з родным братам.)* А гэта што ў цябе? У цябе на руках ланцугі?

Раб. Ды гэта... ад веласіпеда... Гэта на ўсякі выпадак... Калі тыя, што вас акружылі... Ваш палац... *(Устрасянуў ланцугом.)*

Стары. Так, так. Во яно што! А тыя — гэта хто?

Раб. Чырвоныя.

Стары. А ты які?

Раб. Я ніякі. Я токар. Я рабочы.

Стары. На якім заводзе?

Раб. На ваенным.

Стары. І што ж вы там выпускаеце?

Раб. Многа чаго... Рознае... Усякае...

Дружок. Прэзідэнту можна сказаць.

Раб. Прэзідэнт сам павінен знаць. Для арміі ўсякае там...

Стары. Новую бомбу? Нейтронку? І ты сваімі рукамі, з любоўю, акуратненька...

Раб. У нашай справе без любві, без дакладнасці нельга. Тут дзела тонкае. Без душы тут так сапсуць можна... Гэта ж разумееш...

Стары. Навошта яны табе? Браток ты мой, навошта табе?

Раб. Мне? *(Здзіўлены і пакрыўджаны за сваю прафесію.)*

Стары. Ну, суседу там, другім. Мне. Яму вот. Нашто? У суп іх не пакладзеш. Які з іх навар? Для чаго тады?

Р а б. Гаспадару, відаць, навар ёсць. Гаспадар ведае... Ён узяў мяне на працу і загадаў рабіць... Гэта для пускавога механізма.

С т а р ы. Ага, значыць, яны Гаспадару трэба? А потым ён возьме твайго сына, забрые ў салдаты, дасць яму сваю штуковіну і пашле на вайну, разбураць, забіваць, узрываць. Падумай — забіваць!

Р а б. На вайне заўсёды каго-небудзь забіваюць.

С т а р ы. Для чаго? З якой мэтай?

Р а б. Не ведаю. Гэта не ў нас. Гэта далёка. Гэта ў Азіі.

С т а р ы. А ў Азіі што? Не людзі?

Р а б. Азіятаў многа. Перанасяленне там.

С т а р ы *(зразумеў, што брат уліп у паганую кампанію)*. Ды людзі ж там, пустая твая башка! На людзей ты, на такіх, як сам, сын твой, зброю ты сваімі рукамі робіш. Прачніся! Ды зразумей! Навошта ты робіш тое, што табе непатрэбна?

Р а б. Мне плацяць.

С т а р ы. Табе плацяць, каб іншых, такіх, як ты, у ярме трымаць. Зразумеў?

Р а б. Зразумеў. Даўно. Сам. Толькі закрываць наш завод нельга. Нашы хлопцы не зразумеюць. Народ вас не зразумее.

С т а р ы. Такі дурны ваш народ? Брэ-эшаш!

Р а б. Народ наш не дурны, але жыве ён у крэдыт. У нас усё ў крэдыт: кватэра ў крэдыт, аўтамашына ў крэдыт, доктар у крэдыт. Усё жыццё ў крэдыт. І кожны месяц трэба ўзнос рабіць. А страціш работу — страціш і заробак, не ўнясеш крэдыт — і ўсё адбяруць. Усё-ё! Усё страціш! Не-е, крэдытам я прыкаваны пажыццёва. Цяпер паймі і нашага брата, прэзідэнт. У мяне чацвёра дзяцей. І ў іх нічога няма, апроч крэдыту. Я падвешаны.

С т а р ы. Як жа яны цябе аблыталі! Што яны з табой зрабілі?! Сагнулі. Утапталі ў гразь. У-у, паймаць яго мацы! Ды ты ж рабочы! Ты ж — уладыка свету! Усё зроблена тваімі рукамі! І ў цябе нічога няма? Жывеш у доўг? Усё ў цябе не тваё! Усё ў крэдыт! А ты куеш зброю на тых, хто хоча вызваліцца ад іх ярма? Ты сваім ланцугом, сваімі аковамі ідзеш біць сваіх жа! Гатоў на забойства! Дзе ты, божа? Што ж яны могуць зрабіць з чалавекам?! Во ахмурылі! Во спуталі! Во акалпачылі! Слухай! Ачніся! Распраў плечы! Прачніся! Яны трацяць шалёныя грошы на вайну, на тарпеды, на генералаў, на шпіёнаў. На ўсё ў

іх грошы ёсць! Толькі табе няма. На цябе — няма. Чалавекам стань, раб! Сцісні пальцы ў кулак!

Урываюцца Гаспадар, Ваенны міністр, Міністр фінансаў, Міністр па шпіянажу, Сакратар і Віцэ-прэзідэнт і акружаюць Старога.

Гаспадар. Не будзі ліха, пакуль яно спіць! Не будзі!

Ваенмін. Ды ён жа камуніст!

Стары. Беспартыйны я. З блока беспартыйных я.

Гаспадар. Выбірай: залаты трон ці мір?

Стары. Мудроная штука — карыта. Хто не ведае — караблём назаве. А ты тронам. Карыта гэта!

Гаспадар. Лягушка выбірае балота.

Стары. Ды вы што, з глузду з'ехалі?

Гаспадар. Вось і прыйшоў твой канец, міратворац!

Стары шукае сярод прысутных падтрымкі. Раптам заўважае Віцэ-прэзідэнта.

Стары. Сто-оп! І ты? Чаму ты сярод іх?

Гаспадар. На змену табе.

Стары. Э-э-э, дык во яно што! Не-е! Не запужаць вам. Усё! Вайне канец! І грошай вам не дам! Не дам і табе дзвесце сорак два рублі і семнаццаць капеек! Ідзі ў турму! Сам ідзі!

Ваенмін. За дэмагогію яго задушыць мала!

Ваенны міністр першы рынуўся на Старога, і ўсе астатнія скопам навaліліся на яго і пачалі душыць. Ён яшчэ паспеў выкрыкнуць: «...і семнаццаць капеек не дам». І яго задушылі. Дружна. Бязлітасна. Насмерць. Праверылі. Уздыхнулі. Пераглянуліся. Недзе закукавала зязюля.

Гаспадар. Віцэ-прэзідэнт! Вінават, прэзідэнт!

Віцэ-прэзідэнт. Я тут.

Гаспадар. Давай прысягу і бяры ўладу. Дзе святая біблія! Прыйшоў час валявому чалавеку. Прабіў час! Хаос нараджае дэмакратыю, хаос і пахавае яе. Бог з ёю. Дайце арэну мне!

Гаспадар здымае капялюш. Следам і ўсе астатнія. Гаспадар вымае з кішэні насавічок. І ўсе таксама. Выцірае слязу. І яны. Затым Гаспадар кіўнуў пальцам — даў знак запрасіць на грамадзянскую паніхіду ўсіх, хто паблізу. І, калі сабралася такая-сякая колькасць народу, Гаспадар пачаў свой жалобны, шчыры, як заўсёды перад тэлерэпарцёрам, маналог.

Гаспадар. Грамадзяне! Браты і сёстры! Сябры мае! Нашу нацыю спасцігла вялікае гора. Наш народ панёс не-

паправі́мую ўтрату. Ён толькі што страціў свайго вернага абаронцу, палымянага змагара за мір, мудрага дзяржаўнага дзеяча, вялікага гуманіста. Гэты унікальны чалавек да апошняга дыхання стаяў за інтарэсы свайго трудавога народа. Мы смуткуем. Мы плачам над яго прахам. Гэта быў ісцінны самародак. Вельмі дораг быў ён нам, і таму вельмі вялікі наш смутак і гора. Жалоба і смутак агарнулі нашы душы...

Стары даўно ўжо, расплюшчыўшы адно вока, уважліва слухае надгробную прамову аб сабе. Пад канец прамовы ён нават пачухаў нагу аб нагу. Нарэшце ўзарваўся.

Стары. Ах ты, фарысей! Задушыў і смуткуеш? Не-е! Са мной не саўладаеш!

Гаспадар *(спачатку разгубіўся)*. Бог мой! Ды ён ажыў!

Стары. Дурань! Я — бессмяротны! Бессмяротны я!

Гаспадар. Хто? Пытаюся — хто недадушыў? Хто перашкодзіў?

Стары. Мая благаверная. Вы думаеце, што вы мудрэй маёй бабы? Не-е! А гэта з'елі? *(Выстаўляе кукіш.)* Яна недарма паслала мяне к вам у спе. У сне! Я ж вас часта пужаю. Спаць вам не даю. Цераз вас я таксама часта недасыпаю. Але вы мне нічога не можаце зрабіць. Но-но-но! Вот зрабі яшчэ адзін шаг, і я прачнусь. Ураз счэзніце! Ай-яй-яй! Гэта ж кашмар! З вамі ніякі прэзідэнт не зладзіць. Тут сістэму ламаць трэба. «Аўрора» на вас трэба! Не, пара прачнуцца! Настаў час! Спыніце планету, я сыду! Я дамоў хачу!

Нібы ў тумане знікаюць цёмныя фігуры, а Стары, як Саваоф, застаецца ў яркім ззянні.

Закукавала зязюля. Кукуе ўсё бліжэй, званчэй, настойлівей. Адлічвае яна доўгі век людзям ці, можа, выказвае сваю трывогу за іх лёс.

*Канец.*

*1974 г.*

# ПАГАРЭЛЬЦЫ

### ПРАЛОГ І ЭПІЛОГ АДНОЙ ПРЫВАТНАЙ ТРАГІКАМІЧНАЙ ГІСТОРЫІ

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Ухватаў Хведар Паўлавіч.
Рая — яго жонка.
Бусько Антон Сцяпанавіч.
Клёпкін Сілан Данілавіч.
Кудасаў.
Гарык.
Стэла.
Наталля Мікалаеўна.
Алёша. Потым ён — Аляксей Аляксеевіч.

Гледачы з пачуццём гумару — па 77 чалавек на кожнага адмоўнага персанажа ў спектаклі.

## АД АЎТАРА

Кожны з нас па свайму разуменню і добрай волі можа прышпіліць да якой-небудзь жыцейскай былі народную мудрасць: што пасееш, тое і пажнеш. Альбо: як аукнецца, так і адгукнецца. Альбо: не ў свае сані не садзіся. Альбо: не ўсё кату масленіца, бывае і вялікі пост.

А калі задумацца, які сюжэт, якая жыцейская гісторыя лягла ў аснову кожнай з гэтых прыказак?

Есць над чым паразмышляць... Чаму ўсё-ткі народ так часта звяртаецца па сутнасці да адной і той жа думкі? Пэўна, і ў жыцці часта страчаецца такое, пра што сказана ў прыказках.

Людскі маральны вопыт марна не прападае. Ен, канечне, у генах не перадаецца ў спадчыну, а жыве ў традыцыях, у звычаях, у расказах бывалых людзей пра былі і небыліцы. Часта ў казках. Часта ў былінах. А бывае, і ў пратаколах, што ў архівах захаваліся. Калі іх мышы не з'елі. Яны часценька абгрызаюць гісторыю...

Вось і ў мяне чамусьці ўсплыла ў памяці даўняя прыватная гісторыя-быль — смешная, забаўная і адначасова сумная і нават жаласная. І мне падумалася, што яна можа быць і павучальнай, нягледзячы на тое, што здарылася ўсё гэта даўным-даўно. Як кажуць: было, было, дый быллём зарасло. Магчыма, толькі некаторыя дзядулькі ды бабулькі і прыгадаюць тую быль.

А соль той прыгоды вось у чым. Той, хто папіхаў слабога, дагаджаў дужаму, падлізваўся, хлусіў, крывадушнічаў, выгадваў, пагарджаючы інтарэсамі другіх дзеля ўласнай сытасці, каго адольвала фанабэрыя і славалюбства, той сам сабе праграміраваў няўхільную кару — ганьбу і ўніжэнне пад канец жыцця альбо брыдкую памяць пасля смерці. Сорам і боязь падняць вочы — вось што выпадзе на долю ўнуку за брыдкія справы свайго продка. І горка яму будзе ад бяссілля пазбавіцца такой славы і памяці.

Гісторыя гэта пачалася ў той год, калі на наш горад звалілася бяда, няшчасце, стыхія — землетрасенне. Для нас гэта было вялікае і нечаканае гора.

У другіх краінах такое паўтараецца і, кажуць, з яшчэ горшымі вынікамі. Але для нас тады гэта стыхія была жахлівай.

Усю гісторыю расказваць, хутчэй за ўсё, не варта. А вось — з чаго пачалося і чым кончылася — раскажу.

Як аукнулася? І як адгукнулася?

У народных прыказках — у трох словах — сказана багата. І дагадлівы разумее — што і да чаго. «Гром не грымне, мужык не перахрысціцца».

## ПРАЛОГ

Пакой у камунальнай кватэры. У той даўні даваенны перыяд людзі часта жылі ў цеснаце, у камунальных кватэрах з беднай абстаноўкай. Краіна, пераадольваючы шматлікія цяжкасці і нягоды, паднімалася на ногі пасля разрухі. Ніхто нам тады не памагаў, а ворагаў было і за межамі, і ўнутры — процьма. Ох, як яны шкодзілі! А часта і свой жа паслужлівы дурань альбо шкурнік станавіўся горш за ворага. Такія задавалі клопату і сабе і іншым. Ноч канчаецца, а маладая гаспадыня Рая не спіць. З учарашняга вечара яна хвалюецца, перажывае, ахае, мітусіцца па пакоі — месца сабе не знаходзіць. І натуральна: учора не прыйшоў з работы муж. Яна часта зыркае на шырокія дзверы з бронзавай галавой ільва. У пашчы льва — колца. Пад столлю ярка гарыць лямпачка. Над лямпачкай эмаліраваны рэфлектар, які нагадвае талерку, а яшчэ больш — кітайскі саламяны капялюш.

Рая не адна ў пакоі. Яе суцяшае суседка — Наталля Мікалаеўна — пажылая душэўная жанчына.

На двары нешта моцна грымнула, нават шыбы ў вокнах забрынчалі. Рая спалохалася і прытулілася да Наталлі Мікалаеўны.

Наталля Мікалаеўна. Рая! Ну што ты? Нельга ж так!

Рая *(шкадуючы)*. Нешта ўдрузг... На дробныя асколкі... Гэта зноў землетрасенне? Мне страшна.

Наталля Мікалаеўна. Супакойся. У цябе ж малое дзіця. Ты хоць Святланку пашкадуй. Прападзе малако. Што тады?.. Супакойся... Гэта ўсяго толькі навальніца. Толькі гром. Супакойся.

Рая. Ну што вы гаворыце, Наталля Мікалаеўна?! Хутка раніца, а яго няма. Як я магу супакоіцца? Вы ж самі ведаеце, што ў нас у горадзе робіцца. Такая катастрофа. І зноў грыміць.

Наталля Мікалаеўна. Ці мала што магло затрымаць чалавека. Можа, таварыша сустрэў, чарку выпілі, можа, селі ў карты пагуляць.

Рая. Што вы? На руінах у карты. Такога з ім ніколі не бывала. Ён прыходзіў дадому без спазненняў. А тут...

Наталля Мікалаеўна. Я ўпэўнена, што з тваім Фёдарам нічога не здарылася.

Рая. Пасля такой катастрофы ў яго сівыя валасы паявіліся за адны суткі. Гэта што?

Наталля Мікалаеўна. Не ён жа вінаваты ў гэтай катастрофе...

Рая. Вы даруйце, Наталля Мікалаеўна. А што з вашым Віктарам Васільевічам?

Наталля Мікалаеўна. Гэта нейкае непаразуменне. Бачыш — я не вельмі і хвалююся.

Рая. Бачу я, як вы не хвалюецеся. Не сляпая.

Наталля Мікалаеўна *(страсна)*. Я веру — ён жывы, ён цэлы. Ён вернецца. Я ведаю свайго мужа. Ён вернецца — яму ж трэба... Ён пачаў... Перад тым вечарам ён пачаў сур'ёзную работу для журнала. Вот ён тэзісы... Пачатак. *(Дастае чырвоную запісную кніжачку.)* Асталася... Ды не, ён вернецца, ты не сумнявайся, Раечка.

Рая. Ну што вы! Я ж ведаю, што вы добрая і ваш Віктар Васільевіч таксама быў добрым чалавекам. Нават ён не мог перашкодзіць гэтаму землетрасенню, гэтаму катаклізму.

Наталля Мікалаеўна. Ну во, і ты верыш. Дзякую. Будзь упэўнена, за гэта нехта яшчэ адплоціць. Такія жартачкі дарма не праходзяць. Нехта ж павінен быў папярэдзіць! Такі ўрон! Столькі разбураных дамоў!

Рая. Ужо світае, а яго няма. І што мне рабіць?..

Паўза.

Наталля Мікалаеўна. Ну, Рая, мне трэба пайсці ўжо. Позна. А заўтра трэба рана ўставаць. Дык я пайду.

Рая заплакала.

Ну што ты, Рая, Рая?..

Рая *(плача)*. Мне страшна адной...

Наталля Мікалаеўна. Ну, добра, добра, я з табой пабуду. Паплач, паплач. Слёзкі душу абмыюць, і ты супакоішся. Хутка развіднее, узыдзе сонейка. А тады і пойдзем яго шукаць, калі сам не прыйдзе. Хутка Светачка твая ўстане, званочак твой.

Рая. А ў мяне малака зусім няма. Пустыя грудзі...

Наталля Мікалаеўна. А ты кампоту выпі. Я зараз прынясу.

Рая. Не трэба, Наталля Мікалаеўна. Дзякую. У мяне ёсць. Кісель журавінавы ёсць.

Н а т а л л я  М і к а л а е ў н а. Ты і выпі. Ідзі выпі.

Рая выходзіць на кухню і хутка вяртаецца.

Р а я. Наталля Мікалаеўна, няўжо бог такі несправядлівы? Мой жа Федзя быў цішэй вады, ніжэй травы. Ні з кім не сварыўся, нікому дарогу не перайшоў. Ён сам баяўся крытыкі і нікога не крытыкаваў. Былі ўсякія дыскусіі і дыспуты, дык ён жа ўцякаў ад іх. Можа, я не тое кажу пра яго... Але ж якая ад яго шкода? Калі дзе-небудзь галасавалі, ён жа ніколі першы рукі не падымаў. Прыглядаўся — як усе, так і ён. З начальствам ніколі ў дыбкі не станавіўся. Нікому не пярэчыў. Ніякай хулы ад яго не чула. Нават цяпер, калі... Уздыхае і маўчыць. Увесь пасівеў. *(Па сакрэту.)* Нават вошы паявіліся... Ад перажыванняў. За што ж тады?! Калі бог ёсць, ён павінен быць літасцівым.

Н а т а л л я  М і к а л а е ў н а. Ну, вось і супакойся, Раечка, супакойся. Нічога ж не здарылася, а ты адпяваеш.

За занавескай закугакала Света. Рая пайшла да дачкі. Света сціхае.

Н а т а л л я  М і к а л а е ў н а. На касцёр узводзяць ерэтыкаў... А ён... Ну, які ён ерэтык?

Р а я. Ну, няма больш малака, няма, Светачка. *(Выходзіць з-за занавескі.)* Вось і ноч канчаецца. На дварэ пачынае віднець. Дзякуй вам, Наталля Мікалаеўна. Ідзіце дамоў. А то вы пакутуеце ўсю ноч тут, са мной. *(Прыслухоўваецца.)* Нехта хрыпіць...

Н а т а л л я  М і к а л а е ў н а. Табе здалося.

На сцяне прахрыпеў, нібы прачысціў сваё горла, чорны дыск рэпрадуктара. Рая і гэтага спалохалася і зноў прынікла да Наталлі Мікалаеўны. Жанчыны насцярожыліся. З рэпрадуктара палілася мелодыя задорнай песні:

Утро красит нежным светом
Стены древнего Кремля.
Просыпается с рассветом
Вся советская страна...

Р а я. А мы яшчэ не лажыліся...

Н а т а л л я  М і к а л а е ў н а. Якая харошая песня, чыстая такая, задорная. Хораша пачынаць дзень такой песняй.

Р а я. Які харошы ў вас шарф... Мяккі...

Н а т а л л я  М і к а л а е ў н а. Гэта падарунак мужа. *(Разгарнула шарф. На падлогу падае чырвоная кніжачка. Рая паднімае яе.)*

Рая. Прыгожая кніжачка.

Наталля Мікалаеўна. Толькі пачаў. Вот, паслухай. (*Чытае.*) «Некалькі навадзяшчых пытанняў аб сувязях паміж сёння і заўтра. Адыходзячы на спачын, запытай сябе сам. Што ты зрабіў сёння? Падвядзі вынікі справам тваім...»

За акном рэзкі гудок аўтамабіля. І гэты гудок напалохаў Раю.

Рая. Наталля Мікалаеўна, родненькая, не пакідай мяне адну! Мне страшна...

Наталля Мікалаеўна. Ну што ты, Раечка, я з табой. Не бойся, любая, не бойся, рыбка...

Прыцiхлі, прытаіліся. Чакаюць.

Рая. Баюся я, Наталля Мікалаеўна...

Стук у дзверы, громкі, уладны.

Наталля Мікалаеўна. Ідзі адчыні.

Рая. Я не магу ўстаць. Я ўстаць не магу...

Наталля Мікалаеўна кінула на падаконнік шарф і чырвоную кніжачку і пайшла да дзвярэй. Адчыніла дзверы і адступіла. У пакой уваходзіць Хведар Паўлавіч Ухватаў. Сустрэўшы Наталлю Мікалаеўну ў сваёй кватэры, ён ад нечаканасці спыняецца каля парога. Рая і Наталля Мікалаеўна чакаюць яшчэ некага. Але Хведар Паўлавіч рыўком зачыняе дзверы. Рая кідаецца к мужу на шыю.

Наталля Мікалаеўна. Ну, вось... бяры мужа.

Рая. Федзя! Федзечка! Прыйшоў, нарэшце!!!

Ухватаў. Ну, чаго ты? Здурнела? Што такое? Што тут здарылася?

Наталля Мікалаеўна (*радасна*). Ну, вось і ўсё, і ўсё. А ты непакоілася. (*Хведару.*) Яна так непакоілася, так баялася, так перажывала за вас. Усю ноч не спала... (*Заўважае непрыязнасць, халоднасць, нават варожасць Ухватава, і радасць знікае з твару Наталлі Мікалаеўны. Голас становіцца глушэй, цішэй. І сама яна адчувае сябе нібы ў нечым вінаватай.*) А вы, хвала богу, прыйшлі. Я ёй гаварыла... Ну, цяпер я магу пайсці. Спакойнай ночы. Бывайце здаровы. (*І яна пайшла, прыніжаная, ціхая, як бы і сапраўды вінаватая.*)

Рая. Дзякуй вам, Наталля Мікалаеўна. Дзякуй!

Наталля Мікалаеўна. Няма за што. (*Выйшла.*)

Ухватаў (*амаль шэптам*). Чаго яна тут? Што ёй тут трэба?

Рая. Федзя...

Ухватаў (напаўголаса). Чаму ты водзішся з ёю?

Рая. Федзя, ты паслухай...

Ухватаў (ціха). Ты што, маленькая? Не разумееш? Не ведаеш, хто яна?

Рая. Яна душэўны чалавек. Яна добрая жанчына.

Ухватаў. Не заступайся! Дзе яе муж? Хто ён? Па яго віне такая катастрофа ў горадзе. Не дагледзеў. Ты што? Сляпая? Глухая? Не ведаеш, чым гэта пахне? Ты хочаш і сама ўліпнуць, і мяне пад манастыр падвесці?

Рая. Федзя! Хіба можна ўсю віну на яго? Хіба адзін чалавек можа спыніць землетрасенне? (Нясмела, апраўдваючы Наталлю Мікалаеўну.) Я пазвала яе... Я месца сабе не знаходзіла. Я ўсю ноч трэслася як у ліхаманцы. Ты заўсёды акуратна прыходзіў дадому. А тут — усю ноч чакаю, цэлую ноч... Ты ж ведаеш, які цяпер час. У мяне нават малако прапала. Яна... Яна ж... Федзя, яна ж добры чалавек. Яна таксама непакоілася. Так перажывала са мной... за цябе. Я ж думала... што цябе... Ну, што ты маўчыш? Ты ж сам бачыш, што стала з горадам...

Ухватаў. Да-а, катаклізм небывалы.

Рая. І многа людзей загінула?

Ухватаў. Ды якіх! Пакуль не злічылі. І мяне трасанула.

Рая. Ну во!..

Ухватаў. Падкінула! Так што — збірай манаткі. Я ўжо не інструктар...

Рая (апусцілася на стул). Фе-е-едзя!

Ухватаў. Чаго ты? Дурная! Мяне пасадзілі на новую пасаду. Я цяпер гаспадаром горада буду! Часова. Ясна?

Рая. Што ясна, што ясна?.. Ты што?

Ухватаў (усміхаецца). Так, я цяпер — старшыня выканкома замест Бурлакова. Праўда, ЧВА.

Рая. Ён яшчэ ўсміхаецца. Федзя! З гэтым не жартуюць, гэта ўлада! Ты ж нездаровы!

Ухватаў. Вот баба бязглуздая, не верыць. Гэта ўжо — факт.

Рая. А... А... Бурлакоў дзе?

Ухватаў. Няма яго. Няма. Знік. Той жа ноччу. І слядоў няма. Так трасанула! Не адзін ён прапаў.

Рая. І ты пайшоў на яго месца? Ты разумееш, якая гэта пасада. Там і святы цяпер усім не дагодзіць. Усяму народу не дагодзіш. Як ты згадзіўся?

Ухватаў. Яшчэ б не згадзіўся! А што я мог зрабіць?

Мяне паклікалі на пасяджэнне... Я ўсю ноч спрэчкі... У мяне душа з целам развіталася, калі ўнеслі прапанову... Я сказаў: «Я не справулюся... не сумею...»

Р а я. Правільна. А яны?

У х в а т а ў. «Не ўмееш — навучым». Я кажу: «На такую пасаду я яшчэ не падкаваны». А ён...

Р а я. Канечне, не падкаваны. А яны?

У х в а т а ў. А мне: «Падкуём», кажуць.

Р а я. Яны такі падкуюць... Не сумнявайся.

У х в а т а ў. Такі ўчастак работы я магу праваліць.

Р а я. Канечне.

У х в а т а ў. «Не дапусцім, кажуць, не багі гаршкі лепяць!.: Падбярэш надзейныя кадры...»

Р а я. Канечне, гаршкі лепяць не багі. А кадры... Якія кадры? Дзе яны?

У х в а т а ў. Я і кажу: баюся я. Дапушчу нейкую памылку, і мяне... туды...

Р а я. Ну, канечне...

У х в а т а ў. Тады ўстае гэты... Так глянуў на мяне, што я... і кажа: «Яму, панімаеш, аказваюць давер'е, а ён упіраецца, як ішак, панімаеш. Авансам амністыю просіш? Да?»

Р а я. Згаджайся, Федзя, пакуль не позна.

У х в а т а ў. Я і згадзіўся. Тым больш — часова выконваючым абавязкі.

Р а я. Гэта ўжо горш. *(Цмокае.)* Часовая ўлада — горш.

У х в а т а ў. Во як мяне трасанула і падкінула!

Р а я. Уй, падкідыш ты мой няшчасны, бедны!

У х в а т а ў. Цяпер мне толькі правільную лінію нашчупаць. *(Устае, ходзіць па пакоі.)* Правільны арыенцір знайсці... Я — хто? Старшыня вы-ка-наў-чага камітэта. Вы-ка-наў-чага! Во дзе мой корань. Выканаўчы!..

Р а я *(апусцілася ў знямозе на крэсла)*. Прынясі мне кісялю.

У х в а т а ў. Слухаю. *(Прыносіць з кухні кубак кісялю.)* Якія яшчэ будуць дырэктывы?

Р а я *(выпівае кісель)*. Выліжы астаткі, Ухватаў!

У х в а т а ў. Я, можа, памыю?

Р а я. Выліжы і пастаў кубак уверх дном. І табурэт таксама!..

Ухватаў перавярнуў кубак і ставіць табурэт дагары нагамі.

У х в а т а ў. Яшчэ што?

Р а я. А чаму ты зрабіў усё гэта? І не спытаў. Чаму? Ты б хоць падумаў.

У х в а т а ў. І не падумаю думаць. Калі трэба, скажуць. Я ўсё перавярну дагары нагамі, я ўсё перавярну!.. Нават цябе.

Р а я. Ты што? Ашалеў? Вар'ят! Упаду! *(Вызваляецца.)*

У х в а т а ў. Табе можна, а мне падаць нельга. Страшна.

Хведар Паўлавіч заўважае на стуле шарф Наталлі Мікалаеўны. Паказвае пальцам і не можа прамовіць слова.

Гэта яе?

Р а я. Наталлі Мікалаеўны... Я занясу зараз...

У х в а т а ў. І скажы, што мы з ёй і не былі знаёмыя.

Р а я. Не магу я так, Федзя.

У х в а т а ў. Не зможаш — навучым, не схочаш — прымусім.

Р а я *(беражна згортвае шарф і накіроўваецца да дзвярэй)*. Федзя, ты становішся...

У калідоры ляпнулі нечыя дзверы, і па прыступках нехта затупаў.

У х в а т а ў. Стой! Пачакай, а то яшчэ сволач якая заўважыць і возьме на заметачку твае сувязі з гэтай... *(Прачыняе дзверы і праз шчыліну выглядвае ў калідор.)*

Р а я. Федзя! Не трэба так.

У х в а т а ў. Імення так трэба. Толькі так. Цяпер ідзі. Аддай і зараз жа дамоў. *(Выпускае жонку ў калідор, а сам сцеражэ.)* Рая! Не разглагольствуй! Чуеш ты? Ідзі дамоў!

Р а я вяртаецца.

Р а я. Мне сорамна. Мне вельмі сорамна.

У х в а т а ў. Прывыкай.

Р а я. Я так спачуваю Наталлі Мікалаеўне...

У х в а т а ў. Не спачувай, калі не хочаш, каб табе спачувалі. *(Злосна зыркнуў на жонку.)*

Ухватаў перасоўвае цяжкую шафу, каб закрыць дзверы суседкі. Мог падарвацца. І што прыдало яму столькі сілы?

У х в а т а ў. І не смей раскупорыць!

Р а я. Ты закрыў ход да чэсных людзей.

У х в а т а ў. Язык, язык прыкусі.

Р а я. Ой, не справішся ты з людзьмі...

У х в а т а ў. Спраўлюся. Вот падбяру кадры.

Р а я. Дзе тыя кадры? Адкуль ты іх возьмеш? Дзе знойдзеш?

**У х в а т а ў.** Кадры? Яны мяне знойдуць. Кадры самі прыйдуць, а я іх толькі выбіраць буду.

Стук у дзверы.

**Р а я.** Заходзьце, калі ласка!

Уваходзіць К у д а с а ў.

**К у д а с а ў.** Добрай раніцы, Хведар Паўлавіч! Добрай раніцы, Раіса Якаўлеўна!

**У х в а т а ў.** Вось ён — першы кадр. Добрай раніцы.

**К у д а с а ў** *(панюхаў, панюхаў і вынюхаў: радасна).* А ў вас журавінавы кісель! Верна! Прыпраўлены чабарком.

**Р а я** *(здзіўлена).* Верна... Але адкуль вы ведаеце?

**К у д а с а ў.** Мяне прырода надзяліла такім носам, што... за вярсту чую! Ну, Хведар Паўлавіч, віншую вас! І вас, Раіса Якаўлеўна, таксама віншую! Шчыра, шчыра, шчыра віншую вас! І рад! Рад!

**У х в а т а ў.** Ты глядзі! Пранюхаў ужо!

**К у д а с а ў** *(хваліцца).* Хведар Паўлавіч! Усе, нават самыя сакрэтныя, навіны ў горадзе мне першаму становяцца вядомымі. Напрыклад, прапаў Бурлакоў, а я ўжо праз гадзіну ведаў.

**У х в а т а ў.** Ды ты, відаць, за гадзіну перад тым ведаў.

**К у д а с а ў.** Дагадваўся — да. Хе-хе... Жартуеце, Хведар Паўлавіч. А жартачкі ўсё-такі горкія. *(Бядуючы.)* Ах, ах, ах! Якая атмасфера, якая атмасфера! Які катаклізм? Такія страты! *(Давярыцельна.)* Як жа тут можна жыць, як жа тут можна працаваць? Такая няўпэўненасць... *(Чакае адказу.)*

Р а я выходзіць.
Ухватаў доўга ўглядаецца ў вочы Кудасаву.

**У х в а т а ў** *(пагразіў пальцам).* Э-э-э-э! Не, таварыш Кудасаў! У нас вельмі цудоўная атмасфера! У нас можна жыць і можна працаваць! Зафіксіруй! Устаноўку чуў: «Жыць стала лепей, таварышы, жыць стала весялей!.. А калі весела жывецца, то і работа спорыцца».

**К у д а с а ў** *(зразумеў, што паклёўкі не было).* Ясна. Але пасля такой устраскі паявіліся шчэлкі, каб там не завяліся паразіты.

**У х в а т а ў.** Вытруцім паразітаў. Правядзём дэзінфекцыю. А шчыліны заселім вернымі людзьмі, з добрым нюхам.

К у д а с а ў. А цяпер, Хведар Паўлавіч, трэба на галоўныя ўчасткі паставіць верных, надзейных, адданых душой і целам, сваіх людзей.

У х в а т а ў. Я пра гэта і талкую. Размышляю... Вот — думаю...

К у д а с а ў (*прынюхаўся*). Селядзец!

У х в а т а ў. Што селядзец?

К у д а с а ў. Там, на кухні, у Раісы Якаўлеўны. Марынаваны.

У х в а т а ў. Ох, і нюх у цябе!

К у д а с а ў. А якія ў нас галоўныя ўчасткі? Што галоўнае для нашага савецкага чалавека, для нашага народа, для рабочага класа?

У х в а т а ў. Сацыялізм.

К у д а с а ў. Правільна. Сацыялізм. А канкрэтней?

У х в а т а ў. Класавая барацьба.

К у д а с а ў. А яшчэ канкрэтней?

У х в а т а ў. Ну, давай, давай сам. Што?

К у д а с а ў. Тры рэчы. Яда — раз. Хата, кватэра — два! І адзёжа — тры! Вось тут і ключавыя пасады: горгандаль прадуктамі, горгандаль прамтаварамі і горжылупраўленне.

У х в а т а ў. Правільна, гэта тры кіты.

К у д а с а ў (*прынюхаўся*). З цыбулькай іканапляным алеем.

У х в а т а ў (*не зразумеў*). Што — цыбулька?

К у д а с а ў (*паказвае на кухню*). Там, да селядца.

У х в а т а ў. Слухай, Кудасаў, не злоўжывай нюхам.

К у д а с а ў. Звярніце ўвагу, Фёдар Паўлавіч, бюракраты і паразіты ў сістэме гандлю, каб скампраметаваць Савецкую ўладу, там-сям штучна марылі голадам рабочы клас.

У х в а т а ў. Ты хочаш яго накарміць?

К у д а с а ў. Накармлю! О так! Пераканаецеся на ўласным вопыце!

У х в а т а ў. І сам будзеш сыты?

К у д а с а ў. Сыты ці галодны, а скардзіцца не прыйду.

Уваходзіць з кухні Р а я.

Р а я. Федзя, ты, можа, паснедаеш? Ты ж пасля ўчарашняга абеду нічога не еў.

К у д а с а ў. Ёсць прычына нават кульнуць. Так сказаць, успрыснуць новае крэсла, каб не рассохлася.

У х в а т а ў. З гэтага пачынаць? Ну, ведаеш...

Кудасаў. Ну-у, Хведар Паўлавіч! Гэта ж старая народная традыцыя. Народная! А мы хто? І служым каму? Народу. Інакш нас не зразумее народ. Адвернецца — во як!

Ухватаў. Дый зелля гэтага я ў хаце не трымаю...

Кудасаў. Падначаленыя павінны быць прадбачлівымі. Ва ўсім! І нават у гэтым. *(Бярэ свой партфель.)* Вось гэтая папка, яна ж і мамка, зараз выручыць. *(Вымае з партфеля паўлітэрку.)*

Рая *(ставіць на стол снядант).* Федзя! Падгледзіць хто-небудзь...

Кудасаў. А мы павінны быць акуратнымі. *(Зачыняе дзверы на зашчэпку і ў замочную шчыліну затыкае карандашом насавічок.)*

Ухватаў. Лоўка.

Кудасаў. Беражонага і бог беражэ. А паколькі бога рэпрэсіравалі, трэба самім не зяваць.

Рая прыносіць шклянкі і закуску.

Ухватаў *(напаўняе шклянкі).* Ну!..

Кудасаў. Ну, Хведар Паўлавіч...

Ухватаў. Вып'ем...

Кудасаў. За ваша...

Ухватаў *(спахапіўся).* За нашага любімага...

Кудасаў *(таксама ўстаў і гэтак жа ўрачыста)*... роднага...

Ухватаў. ...бацьку і настаўніка...

Кудасаў. ...усіх часоў і народаў... А Раіса Якаўлеўна?

Ухватаў. Рая! Ідзі сюды! *(Налівае і ёй шклянку.)*

Рая *(яна не чула тоста).* Федзя! Не налівай. Я піць не буду. Ты ж ведаеш. Не налівай.

Ухватаў. Што-о? *(Нешта шапнуў ёй.)* Да дна!

Рая *(хапае шклянку. З перапуду выпіла ўсю гарэлку. Папярхнулася.)* Выбачайце, я саўсім не ўмею піць.

Ухватаў. Тады закусвай.

Усе дружна селі, моўчкі жуюць.

Кудасаў. Паміж першай і другой чаркай павінен быць максімальна кароткі перапынак. *(Налівае.)*

Рая *(спалохалася, што прыйдзецца яшчэ раз выпіць).* Ой, я там Светачцы малако паставіла... *(Выходзіць на кухню.)*

Кудасаў *(узнімае шклянку).* Я рад падняць гэтую

чару за ваша прызначэнне! Я рад выпіць гэтую чару за тое, што буду працаваць пад вашым началам! І за тое, каб наш народ быў сыты!

Выпілі.

Ухватаў. А ты гаварыў: атмасфера, сёння, заўтра, няўпэўненасць...

Кудасаў. Я не ў тым сэнсе. А ў тым сэнсе, што... *(стараецца выблытацца)*. Землетрасенне гэта. Руіны... Пажары... Абломкі. Во і няўпэўненасць...

Ухватаў. Абломкі прыбяром, руіны расчысцім і атмасферу адпаведна...

Кудасаў. Во! Ужо лягчэй дыхаць стала.

Ухватаў. Падбяром надзейныя кадры... Кадры рашаюць усё!..

Кудасаў. Правільна! Абавязкова кадры! Вось хоць бы вы... Вас цяпер паднялі... Хіба для вас ёсць што-небудзь даражэй за свой пост? Кім вы былі раней?

Ухватаў. Рабочым. Гліну мясіў на цагельным заводзе. А потым выдзвінулі. А цяпер яшчэ раз выдзвінулі.

Кудасаў. Во! П'ём за выдзвіжэнні і перадзвіжэнні! *(П'юць.)*

Ухватаў *(утаропіўся на Кудасава)*. А ты хто? Твае бацькі да семнаццатага года — хто? І ты кім быў до?

Кудасаў *(папярхнуўся гарэлкай)*. Рыкшам.

Ухватаў. Рыкшам?

Кудасаў. Па сутнасці — рыкшам. І дзед мой, бацька мой, і я. Возчыкамі. На чужых конях. Па сутнасці — на мне ездзілі. Значыць — рыкша. А цяпер я!.. Кім буду?.. У вас?

Ухватаў. Нешта ты спяшаешся да ўлады.

Кудасаў. А як жа не спяшацца? Праваронiць можна. Вы наберыцё з такімі біяграфіямі, што... Мне цяжка будзе цягацца. Я адкрыта: мой дзед цара не забіў, дзекабрыстам не быў. Дзевяцьсот пяты год праспаў на печы. Ён, дурань, аб унуках не клапаціўся. А ў лейтэнанта Шмідта вунь колькі ўнукаў! Праўда, бацька мой у грамадзянскую не падвёў. Не прымкнуў ні да Пятлюры, ні да Балаховіча. Устаяў! І за тое — дзякуй. А мог бы на рэвалюцыйнай хвалі ўзляцець... А цяпер вот і я быў бы на сметніку, каб не класавае чуццё і адданасць.

Ухватаў. Цяпер канечне — пасля перамогі, калі ўлада акрэпла, да яе ўсе ліпнуць, усе хапаюцца, бадзёрымі папутчыкамі шагаюць у ногу. Ды ўлада — не дура, пры-

глядаецца і ад каго трэба — адмяжоўвасцца. Адсякае. Толькі выпадак часам памагае. Толькі на выпадак можаш спадзявацца. На ўстраску!

Кудасаў. І за выпадак, і за ўстраску можна... выпіць. Можна і аддзячыць за выпадак. Дык — хто я? У вас буду?

Ухватаў. Мая правая рука... Бачу — я табе вельмі патрэбны.

Абодва ап'янелі ці ад выпітай гарэлкі, ад узаемных пахвал, ці ад таго, што адчулі слодыч улады.

Кудасаў. Ясна. Цяпер я пагарцую, паезджу!

Ухватаў. На мне?

Кудасаў. Што вы, што вы?! Вы — гістарычная, можна сказаць, фігура. Калі на тое пайшло — хочаце — я вас правязу. А? Сядайце вярхом. Хочаце?

Ухватаў. Яшчэ ўроніш. Не-е! *(Адмахнуўся.)* Не хачу!

Кудасаў. Я — шануючы вас. Э-эх... *(Бярэцца за паўлітэрку.)* «Бродяга Байкал пере-ехал, навстречу родимая ма-ать...» *(Спявае галасіста, чулліва.)*

Рая *(выглядае з кухні)*. Федзя!!!

Ухватаў. Т-сс... Вот, гляджу я, мы, як птушкі. Вельмі падобны на птушак... людзі. Ты бачыў калі-небудзь сініцу ў кармушцы? Як яна там? А? Ухопіць кавалачак і тут жа ўбок. І перш чым клюнуць, сем разоў азірнецца. І ад чаго так стала з сініцамі? Заўсёды насцярожаныя.

Кудасаў. Таму, што кошка недзе побач. Ці яшчэ які свой — у такіх жа пер'ях — драпежнік. *(Асяніла.)* Ясна, Фёдар Паўлавіч, усё. Перш чым разок клюнуць, трэба сем разоў азірнуцца. Прасвяцілі! Якая кніжачка!

Ухватаў даўно ўжо заўважыў, што Кудасава вельмі зацікавіла чырвоная кніжачка на акне.

Ухватаў *(бярэ кніжачку, гартае)*. Гэта жонка любіць перапісваць з кніг розныя выказванні і вытрымкі. Паэтаў розных. Пралетарскіх асабліва. А потым і мне дакладвае. Вот. *(Чытае.)* «Некалькі наводных пытанняў аб паслядоўнасці з'яў і часу». Та-ак... «Адыходзячы на спачын, запытай сябе. Сам. Што ты зрабіў? Сёння. Падвядзі вынікі. Справам тваім. Можа, чужое проса вытаптаў? Пакрыўдзіў каго? Аблаяў? Пакараў? Звольніў з работы? Ці асудзіў? Каго? За што? Ці справядліва? Чым гэта павернецца для цябе, для людзей заўтра? Праз год? Праз дзесяць год?

А праз дваццаць год? Успомніць аб гэтым не сорамна будзе табе? Перад сабой. Перад сынамі. І перад унукамі. Што ты зрабіў? Сёння?»

К у д а с а ў *(крычыць, апраўдваецца).* Нічога такога я не зрабіў! Мура нейкая. Яшчэ допыты самому сабе? «Спытай сябе...» Ёсць каму допыты рабіць. Мура, і ўсё. Глупства! Выцяжкі няма. Во давайце вып'ем і закусім. Яшчэ і пракурорам над сабой будзь. *(Плюецца. І зноў запявае.)* «На-алей! Вып'ем, яй-богу, яшчэ!..» *(Налівае.)*

Нечаканы стук у дзверы. Хведар Паўлавіч і Кудасаў струсілі.

Р а я *(прыбягае з кухні).* Я ж гаварыла! Федзя!

У х в а т а ў. Прыбраць!!!

Прыбіраюць шклянкі, хаваюць бутэльку. Кудасаў у паніцы хавае ў кішэнь нават відэльцы і нажы. Выхапіў з партфеля газету і ўголас чытае загаловак артыкула: «Вялікая перамога металургаў. Першы савецкі блюмінг перакрыў праектную магутнасць...»

Р а я. Ну во, я ж казала, я ж казала...

У х в а т а ў. Ну хопіць! *(Перадражнівае.)* «Казала, казала».

Рая адчыняе дзверы. На парозе з'яўляецца Б у с ь к о з кошыкам і чамаданам, якія ён ставіць каля парога.

Р а я. Калі ласка!

У х в а т а ў *(нібы і ўзрадаваўся).* А-а! Цэ ты?

Б у с ь к о. Я! Здароў!

У х в а т а ў. Здароў!

Б у с ь к о *(абдымаюцца, паляпваюць адзін аднаго па спіне).* Хведзька! А цэ твая баба?

У х в а т а ў. Яна.

Б у с ь к о *(здзіўляецца).* Така малюпасэнька! Х-ха-ха! Така кнопачка? *(Хацеў шлёпнуць Раю ніжэй паясніцы.)*

Р а я. Федзя! Што за фамільярнасць?

У х в а т а ў. Бусько! Асцярожней!

Б у с ь к о. Не шкляная. От ты, брат Хведзька, хітры, выбраў собі... Таку ж і прокорміць і одзягнуць — раз плюнуць, не тое шо мою... Штоб обгарнуць толькі кузаў, тры метры мадэпаламу трэба. *(Паказвае на Кудасава.)* А о цэ хто?

У х в а т а ў. Мая правая рука. *(Кудасаву на Бусько.)* А гэта — разам на цагельні гліну мясілі. Потым яго высунулі. У заготжывёлу.

Б у с ь к о. Дык гэта я высунуўся? Не ўспамінай. А вы што? З самага ранку за газету? А што б вы прыпухлі! А я

ехаў до тэбэ і думаў: можа, адрас памяпяў. Напісаў пісьмо, а адказу няма. А ты ўсё яшчэ тут. Цеснавата. З маёй бабай тут і не размінуўся б.

К у д а с а ў. О-о! Напомніў! Хведар Паўлавіч! Гэта я ўжо на сябе бяру. Кватэру вам я падрыхтую.

Р а я. А якую кватэру? А гэта?

К у д а с а ў. Хіба гэта кватэра? Гэта ж — каземат. Тут была кантора купца Япішкіна. І склады: сядзёлкі тут, гужы, хамуты. Вы ж не сядзёлкі... А купец будаваўся сур'ёзна, гад.

Р а я. А да чаго тут сядзёлкі і хамуты?

К у д а с а ў. Я і кажу: вы не хамуты. Вы — людзі. А сюды мы вернем якую-небудзь кантору, а вам пяць пакояў. *(Шэпча Ухватаву нешта на вуха.)*

У х в а т а ў. Не спяшайся. Пасля такой катастрофы...

К у д а с а ў. Іх ужо там няма. Збеглі. І потым, каму катастрофа, а каму... Нельга ж усім пры катастрофе.

Р а я. А навошта нам пяць пакояў? Федзя!

К у д а с а ў. Ну, а як жыў? Гаспадар горада! Вось госць прыехаў. Дзе вы яго прыстроіце ў такой цеснаце? Дый не такіх гасцей давядзецца прымаць. Так што, Раіса Якаўлеўна, у вас цяпер іншыя маштабы. І ніякія катаклізмы не павінны замінаць.

Б у с ь к о. А я, брат, у графскім іменні на этажах жыву. Такія пакоі — калі па чарцы возьмем з бабай — у чахарду гуляем.

К у д а с а ў. Вось бачыце. Ну, выбачайце, я пайду, а вы не турбуйцеся. Хведар Паўлавіч, можа, «эмку» прыслаць? Можа, праехаць куды?

У х в а т а ў *(не адразу)*. Н-не, не трэба.

К у д а с а ў. Можа, Раісе Якаўлеўне трэба? Шафёр усё роўна дзяжурыць.

У х в а т а ў. Я сёння нікуды. Усю ноч не спаў.

Р а я *(яна, здаецца, крыху ап'янела)*. Калі ўжо так можна, Федзя, я хачу трошкі...

У х в а т а ў. Пакрасавацца перад мамачкай?

Р а я. Федзя! Яна так рада будзе! Я на адну хвілінач-ку. І да сястры... Можа, на рынак — таксама па адну хвілінач-ку.

К у д а с а ў. А чаму нельга? Усе так робяць. Усе жонкі. Не па сабе ж цягаць.

У х в а т а ў. Ну, ладна, хай паедзе.

К у д а с а ў. Тады адпачывайце. Усяго добрага.

У х в а т а ў. Чакай! Нажы і відэльцы не знясі.

К у д а с а ў. Ага, даруйце. *(Выкладае нажы і відэльцы.)* Бывайце здаровы! *(Каля парога перад багажом Бусько спыніўся, прынюхаўся раз, другі, трэці.)* Кумпяк. Капчоны. Леташні... І сыр. Сялянскі. З корачкай. Падсмажаны на масле.

Бусько ашаломлены.

Б у с ь к о. Ён што, калдун?

У х в а т а ў. Цябе, Кудасаў, нюх пачынае падводзіць. А калі паляўнічага сабаку падводзіць нюх і ён заместа дзічыны ганяецца за жабай, то... Што з такім сабакам рабяць? У лепшым выпадку прагоняць са двара. Гэта я ад паляўнічых чуў. Матай на вус.

К у д а с а ў. Усё. Жабы няхай не хвалююцца. Ганяць іх не будуць. Усяго найлепшага! *(Выходзіць.)*

Р а я. Федзя! З ім гэтак нельга.

Б у с ь к о. Ну, брат, і ўюн! Ён табе і гэта, ён табе і «эмку», і катаклізму... Слухай, Хведзька, што такое катаклізма?

У х в а т а ў. Гэта, разумееш... Калі разбушуецца прырода, дзікая стыхія і ніхто з ёй саўладаць не можа. Бачыў, колькі руін у горадзе? Такое і з чалавекам часам бывае, калі дзікасць прабудзіцца.

Б у с ь к о. Бачыў. А ведаеш, і да нас гэтая граза дайшла. Але ў вас нашкодзіла больш. У нас толькі царкву здорава труханула. А так, толькі некаторыя страху нацярпеліся. А некаторыя... як мышы пад венікам. Кажуць, у вас багата людзей пад абломкамі прапала?

У х в а т а ў. Пытаеш!.. Такая катастрофа! Стыхія!

Б у с ь к о. І пасады, канечне, вакантныя... А? А я ўсе чысткі, брат, усе праверкі прайшоў...

У х в а т а ў. Ну, дык чым жа ты недавольны?

Б у с ь к о. Так што ж мені ў тым балоце і сядзець, у глухамані, аж покі рак не свісне? Мая Горпіна выгнала і сказала: «Шукай другое месца! Не хачу жыць у балоце! Адцвітаць!»

У х в а т а ў. У якім жа балоце? У наш час! Адцвітаць?

Р а я. Занялі пакоі графа і адцвітаць.

У х в а т а ў. У графскіх пакоях з жонкай у чахарду гуляе і — адцвітаць!

Б у с ь к о. А пасада якая? Заготжывёла! Цьфу! Та што ж — мені людзей нельга даверыць? Шо, мой бацька ўсю грамадзянскую вайну прайшоў, каб я — сын яго — ізноў хвасты круціў бугаям? *(Проста, але катэгарычна.)*

Мені трэба ўлада над людзьмі! О так! А не райзаготжывёла! Мені соромно!!!

Ухватаў. Так-так...

Бусько. Хведзька! Ты толькі глянь на мене! Шо я, не магу быць фігурай у другім маштабе? *(Дэманструе сябе.)* Слухай, будзь другам! Пагавары тут з кім трэба, выцягні мяне з глухамані. Век помніць буду! Га? Хведзька!

Ухватаў. Гм... Выцягні... А якая мне радасць?

Бусько *(страсна)*. Хведзька!.. Ды я... Ды мая Горпіна... Ды мы... Эх, Хведзя, якім я другам буду!!!

Ухватаў *(думае)*. А куды ж цябе?.. Ну, куды?

Бусько. Цяпер жа, кажуць, пустых кабінетаў многа. Самы мамент якую-небудзь свабодную пасаду...

Ухватаў. Ведаючы твае таленты, ну куды ж цябе?

Бусько. Ну... Таку... шо б штат буў! Ну... Намеснік, памочнік... Шо б було кому команду даць! Таку... Культурную пасаду...

Ухватаў. Эць, якія замашкі! Ых-ых-ых... От куды меціць!.. Абавязкова ў атаманы!

Бусько. Ну пойми, Хведзя! Абрыдла з гэтымі рагулямі, козамі. Ме-е, бе-е, му-у! Цьфу! Па культуры занудзіўся.

Ухватаў. Дык што, можа, цябе дырэктарам тэатра?

Бусько. Гэта што? Я сам буду морду крывіць перад публікай? Дурыкі строіць? Не, брат, ты прыдумай штонебудзь другое. Гор-топ, гор-буд, дор-орс, гор-прод, горпром... Што-небудзь галантарэйнае.

Ухватаў. Можа, гор-хап?

Бусько. Ха-ха-ха! Калі ёсць гор-хап, давай гор-хап. Падзелімся! Слухай, Хведзька, ён правільна вынюхаў: тут мая Горпіна два кумпякі капчоныя загарнула. Адзін — табе, а другі — каму-небудзь, сам знаеш, для знаёмства...

Ухватаў *(з пагрозай)*. Ну-у, гэта ты дарэмна! Гэта... Як гэта называецца?

Бусько. А што я, з пустымі рукамі прыехаў бы?

Ухватаў. Значыць, хабар прывёз?

Бусько. Які ж цэ хабар? Цэ ўзаемная дапамога.

Ухватаў. Так-так... *(Звоніць па тэлефоне.)* Цэнтральная?.. Дайце, калі ласка, пракурора горада.

Бусько *(спалохаўся)*. Хведзька! Хведар Паўлавіч! Ды ты што? Я... Я чыстасардэчна! Цэ не хабар! Цэ ж смычка сяла і горада! Цэ брацкі саюз рабочага класа і сялянства... Ты хто? Горад! А я хто? Сяло! Трудавое сялянства!



Іван Шамякін, Міхась Калачынскі, Андрэй Макаёнак, Янка Брыль.
1957 год.

Сябры. Прафесар Канстанцін Мікалаевіч Саннікаў, народны артыст БССР, галоўны рэжысёр Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы, народная артыстка БССР Стэфанія Міхайлаўна Станюта і драматург Андрэй Ягоравіч Макаёнак.
1959 год.



Значыць, што? Не хабар, а саюз! Смычка! Узаемадапамога!

**Ухватаў** *(у тэлефон)*. Пракурор? Здароў, Іван Міхайлавіч! Гэта я, Ухватаў... А-а, дзякую, дзякую за віншаванне!

**Рая** *(з парога кухні)*. Ухватаў! Не дурэй! Чалавек, можа, к табе ад усяе душы, а ты...

**Ухватаў** *(Раі)*. Не твая справа. Сядзі на кухні! *(У трубку.)* Слухай, Іван Міхайлавіч, як там у цябе, яшчэ не закончылі рамонт?.. Вот разгільдзяі!.. Гэта табе, пракурору, цэлы месяц рамантуюць, а прыкінь цяпер, як яны робяць звычайнаму рабочаму ці служачаму... Табе не здаецца, што варта было б памяняць таго-сяго ў гэтай шарашкінай жылканторы? А?.. Думаю... Ну, вядома! Калі што, дык ты падтрымай... Ну, будзь здароў!

**Бусько** *(выцірае з лысіны халодны пот)*. Пранясло!..

**Рая.** Слухай, Федзя! Трэба забраць у яго абодва гэтыя кумпякі, а то ўліпне чалавек... Падсуне каму-небудзь такому...

**Ухватаў.** Хіба толькі шкадуючы яго.

**Рая.** Ён жа харошы чалавек. *(Толькі хацела прыбраць кумпякі, і раптам на дварэ прасігналіла машына. Рая выцерла рукі і адступілася ад кумпякоў.)*

**Ухватаў.** Ты датумкай, Бусько. Выпадак мяне прывёў да ўлады, выпадак. Такі ж выпадак можа і скавырнуць мяне. О, воля выпадку! А таму мне трэба ўмацавацца. Я павінен акружыць сябе вернымі, надзейнымі кадрамі. Кадрамі, якім я патрэбен пазарэз, больш, чым яны мне. Тады я буду «восседаць» не па волі выпадку, а як на слупах. Узразумеў?

**Бусько.** Хіба могуць быць больш надзейныя за нас? Каму ты больш трэба, як нам. Хіба я — не слуп? Няма на што абаперціся?

**Ухватаў.** А не захочаш узвысіцца па-над мною?

**Бусько.** Каб я з гэтага месца не ўстаў! Я ж вышыні баюся. Я нават на возе не ездзіў ад страху вышыні.

На дварэ сігналіць машына.

**Ухватаў** *(выглянуў у акно)*. Гаспадыня! Шафёр «эмку» падагнаў.

**Рая.** Я гатова. Я зараз. *(Замітусілася.)*

**Ухватаў.** Доўга не затрымлівайся.

**Рая.** Не, не, я хуценька!

**Бусько.** Я пакуль што нічога не змікіціў. Гаспадар

горада? Як цэ зразумець? Легкавая? «Эмка»? Шафёр у цябе?

Ухватаў *(пасміхваецца)*. Кумекай! Спасцігай!

Бусько. Значыць, ты... *(Паказвае пальцам на неба.)* Значыць, ты праклюнуўся, прарос? *(Увінціў палец угору.)*

Рая. Учора прызначылі. Сёння ноччу.

Бусько. Хведзька! Цэ праўда? Ура-а! Ура-а-а! Наша бяроць!!! О, тэпэр усэ гаразд! Хведзька! Дарагі! Дай я тэбэ поцілую!

Рая. Не «Хведзька», а Хведар Паўлавіч! Ясна? Трэба адвыкаць.

Бусько *(на краі шчасця)*. Хве-едар Па-аўлавіч!.. *(Закахана.)* Бяры мяне! Я ўвесь твой! Куды хочаш!

Ухватаў *(Раі)*. А ты казала: «Дзе тыя кадры?» Вось ён — другі кадр!

Рая выходзіць з дачкой на руках.

Бусько. Не, Хведар Паўлавіч! Другі там. На чарзе. Я — першы. Мы на палку браліся. Кон выпаў — мне першаму. А ён стаіць там. *(Падыходзіць да акна, крычыць.)* Эй, ваша вялікасць! Топай сюды!

Ухватаў. Што за ваша вялікасць?

Бусько. Бельгійскі кароль.

Ухватаў. Кароль?

Бусько. Пацеха. Зараз раскажу. Гэта Сілан.

Ухватаў. Сілан? *(Успамінае.)*

Бусько. Ну так, Сілан...

Ухватаў. А-а, той самы? Сілан?

Бусько. Той самы — Клёпкін. У рэвалюцыю ў Піцеры быў. Нават аднойчы «Аўрору» сам бачыў.

Ухватаў. А-а! Помню. Ён заўсёды гэтым хваліўся.

Бусько. Затуркаў усіх у раёне. Абы толькі якая нарада, ці сход, ці там пасяджэнне якое, дык ён абавязкова сакаго-небудзь ды папраўляе. Лічыцца толькі з першым сакратаром ды яшчэ НКВД не папраўляе. А то заўсёды, як толькі што, ён: «А ў Смольным бы не так рашалі...» Але нарваўся на аднаго...

Уваходзіць Сілан Клёпкін.

Сілан. Компрывет!

Ухватаў. Здароў, здароў, Сілан! А чаму ж ты на вуліцы стаяў?

Сілан. Мне заўсёды так выпадае. Як рэвалюцыю ра-

біць, дык Сілан. А як што да чаго, то пастой, Сілан, на вуліцы. Мая чарга — апошняя.

Ухватаў. Якую ты там рэвалюцыю рабіў? Ты ж казаў, што дрывяны склад вартаваў.

Сілан. У Піцеры! Тады! Гэта не цяпер! Што тады азначалі дровы? У Піцеры? Дзе бушавала полымя рэвалюцыі? Дровы тады былі — галоўнае! Не проста — ёлкі-палкі!

Бусько. Значыць, недарма цябе цяпер хацелі прызначыць каралём у Бельгію. А ты яшчэ недавольны.

Сілан. От то-та ж і яно!

Бусько. Ты во хоць раскажы Хведару Паўлавічу, як усё было. *(Па-змоўніцку падміргвае Сілану.)*

Сілан. Хе, дурня знайшлі! Гэта ўсё разумнік гэты, Кузьмянок. Ну, што інструктарам райкома ў нас быў. Прыехаў і выклікае мяне ў сельсавет. Так і так, кажа, вельмі сур'ёзная справа да цябе. Усіх з сельсавета выправадзіў, кажа: «Сакрэтная справа». Асталіся мы ўдвух, ён і кажа: «Учора да самага рання бюро райкома засядала. Ламалі галаву, кажа, і рашылі — толькі ты, Сілан, можаш справіцца. Дзела такое, што... у Бельгіі кароль, кажа, памёр. Але бельгійцы пакуль што пра гэта не ведаюць. У тайне дзяржыцца. Ёсць магчымасць, кажа, падсунуць ім свайго, вернага чалавека. І вот мы на бюро выбралі цябе. Чалавек ты, кажа, стойкі, правераны, рэвалюцыю ў Піцеры рабіў, дый цяпер — калектывізацыю правёў. І — галоўнае, кажа,— з твару ты вельмі змахваеш на таго Леапольда».

Ухватаў. Ну, а ты што?

Сілан. А я пытаю: «А як жа вы мяне туды прыстроіце?»

Бусько. Ну, а він шо?

Сілан. У-у, кажа, там жа камуністы таксама ёсць. А яны, брат, такія хлопцы, што любую добрую аперацыю правернуць.

Ухватаў. Ну, а ты што?

Сілан. Ну, думаю, і праўда. Але ж, кажу, каралева можа не прызнаць.

Ухватаў. Ну, а ён што?

Сілан. Гэта, кажа, не твой клопат. Ты — мужчына яшчэ крэпкі, а той Леапольд быў гнілы, хліпкі. Кажа, каралева нават давольна будзе. Выручай, кажа. Для міравой рэвалюцыі вельмі важна паслаць туды свайго чалавека.

Ухватаў. А ты што?

Сілан (*ну і хітры Сілан! Сабе наўме. Бачыць, што расказ яго падабаецца Хведару Паўлавічу, ён і стараецца пацешыць. Ён згодзен і прастачком прыкінуцца!*). Я падумаў трохі дый кажу: «Справа сур'ёзная, канечне, але як жа з маёй Пархвенаўнай? Дый двое дзецюкоў у мяне».— «Камсамольцы?» — пытае. «Камсамольцы»,— кажу. «Ну, то зразумеюць хлопцы!» — «Не,— кажу,— трэба ўсё-ткі з Пархвенаўнай пагаварыць».

Бусько. Ні ў якім разе,— кажа!

Сілан. Верна! «Ні ў якім разе! — кажа.— Гэта ж сакрэтная справа, і бабе ўводзіць у вушы такое дзела нельга!» Я кажу: «Мая сакрэтаў не выдасць. Каторы год жыву, ведаю. Раскулачванне праводзілі, таксама — тайна, але ж не прагаварылася. Праверапая баба». Прыйшоў гэта я дадому, расказаў сваёй. Ну, канечне, агітацыю правёў. «Заданне,— кажу,— паручэнне атвесцвеннае». Ну, а жонка мая — бітая баба. Кажа: «Зноў дурня шукаюць. Як учора рызінавыя боты прывезлі ў сельпо, дык размеркавалі не табе. А як каралём у Бельгію, дык цябе знайшлі. Як затычку. Пад усе бочкі шпунт». Падумалі, дый...

Ухватаў. І што? Адмовіўся?

Сілан. Пайшоў і сказаў: «Не, не пайду каралём!» Дый яно і праўда. Як што, дык мяне, а калі што мне, дык — пастой, Сілан, на вуліцы...

Ухватаў. Ну, а калі б далі рызінавыя боты, пайшоў бы каралём? Для вялікай мэты?

Сілан. А чаго ж? І пайшоў бы. Папрацаваў бы трохі заправадыром. Каб толькі дакументы афармілі, што па заданню райкома. Каб потым не прыдзіраліся. А то... у анкеце запоўніш, а... сам ведаеш, як цяпер... Калі без матывіроўкі.

Бусько. Ось, Хведзя! Якія ў нас кадры! Дысцыпліна яка! У агонь і воду!!!

Ухватаў. Ну, брат, насмяшыў! Мастак! У пісьменнікі табе трэба падавацца. Цяпер ізноў, кажуць, на камедыі дэфіцыт. А тут жывая камедыя. Ты ж талент, артыст, сатырыст!

Бусько. Была пацеха! Мужыкі і цяпер аж за жываты бяруцца.

Ухватаў. Дык чаго ты хочаш? Ад мяне?

Сілан. Нехарашо пасмяяліся. Праходу няма. Нават ад дзетвары. Аўтарытэт саўсем прапаў. Перацягні мяне ў горад. А? Праўдзі.

**У х в а т а ў.** І што ты тут будзеш рабіць?

**С і л а н.** Што загадаеш, тое і буду.

**Б у с ь к о.** Будзе верны, свой чалавек.

**У х в а т а ў.** Дык ён жа не падкаваны...

**С і л а н.** Я? Як гэта не падкаваны? На ўсе чатыры.

**У х в а т а ў.** Што такое ён? Хто ён такі? Інжынер? Прафесар? Спецыяліст? Дэгустатар? Дэзінфектар?

**С і л а н.** Ды мне такіх пасад і не трэба.

**Б у с ь к о.** Затое — ідэйны. Ух, які ідэйны!

**С і л а н.** Кіраваць папрабую. Як выдзвіжэнец. Ёсць у мяне на гэта спрыт. Другія ж кіруюць, спраўляюцца.

**У х в а т а ў.** І ты кіраваць? А я што буду рабіць?

**С і л а н.** Таксама кіраваць.

**Б у с ь к о.** Ты, Хведзька, Хведар Паўлавіч, будзеш намі кіраваць, а мы — другімі!.. Пад тваім кіраўніцтвам. Будзем выконваць тваю жалезную волю і ўказанні.

**У х в а т а ў.** Дык ён жа будзе мяне павучаць... А?

**Б у с ь к о** *(Сілану)*. Будзеш?

**С і л а н.** Другіх буду...

**Б у с ь к о.** Без цього нэ можэ!

**С і л а н.** А цябе... Язык адкушу і выплюну.

**Б у с ь к о.** І не пікнем! Ты знаеш, якога прынцыпу мы зараз трымацца будзем? Па дарозе сюды інтэлігент падказаў. Галава! Акулярчыкі проста на носе прыляпіў: Кажа: «Цяпер, кажа, не думай. Падумаў? Маўчы, не гавары. Сказаў? То не пішы. А калі напісаў, то хоць не падпісвай. А падпісаў? То тут жа бяжы і сам кайся, прызнавай памылкі». Так што, калі што якое — прыбяжым. Калі выпадак які.

**У х в а т а ў.** Ніякіх выпадкаў не прызнаю.

**Б у с ь к о.** Ясна?

**С і л а н.** Строга!

**У х в а т а ў.** Курыш?

**С і л а н.** Куру.

**У х в а т а ў.** Кінеш?

**С і л а н.** А навошта?

**Б у с ь к о.** Кіне!

**С і л а н.** Кіну!

**У х в а т а ў.** П'еш?

**С і л а н.** П-п-п'ю... Неахвотна!

**У х в а т а ў.** Кінеш?

**С і л а н.** Калі будзе такое ўказанне...

**У х в а т а ў.** Баб чужых любіш? Толькі не хлусі.

**С і л а н.** Пархвенаўна не дазваляе...

Б у с ь к о. Маральна ўстойлівы элемент.

У х в а т а ў. У гурток па вывучэнню...

С і л а н *(перапыняе)*. Хадзіў, хадзіў. А як жа. Не толькі сам, нават Пархвенаўна назубок цэлымі лістамі па памяці чытае. Праўда, апошнім часам карасіну не хапала...

У х в а т а ў. Ну куды ж цябе? *(Доўга разглядае Сілана, як бы ацэньваючы яго вартасці.)*

С і л а н. А ўжо куды хочаш, куды пашлеш. Старшым куды пашлеш. Буду старацца.

А далей адбываецца такая пантаміма. Хведар Паўлавіч ходзіць па пакоі і мысліць. Раіцца з самім сабой. Зробіць некалькі крокаў і спыняецца. За ім следуюць Бусько і Сілан.
Нарэшце Хведар Паўлавіч спыніўся, азірнуўся на іх, суровы, сярдзіты. Бусько і Сілан жэстамі супакойваюць яго. Хведар Паўлавіч махнуў рукой — загадаў — сядзьце! Яны паслухмяна селі. Як школьнікі.

У х в а т а ў *(ацаніўшы паслухмянасць)*. Выканаўцы! Глядзіце ў мяне!!!

Б у с ь к о. Хведар Паўлавіч! Будзьце ўпэўнены!

С і л а н. Не сумнявайся!

Вярнулася Р а я. Радасная, узрушаная.

Р а я. Федзя! Ты не знаеш, які фурор! Паглядзеў бы ты на Фаню! Якія ў яе былі вочы! Во! Такія вочы! Там на нашым двары быў цэлы мітынг. Яны ўсе хацелі сюды прыехаць. Толькі мама... Ты не знаеш нашу маму? Яна сказала: «І чаго вы паднялі такі вэрхал? Я так і знала: мая Рая радзілася пад зоркай. Ну і што?»

У х в а т а ў. Пад якой зоркай?

Р а я. Адкуль я ведаю. Яна так сказала. Што ты хочаш? Гэта ж мая мама. Відаць, пад чырвонай. Яны так рады. Усе.

У х в а т а ў. А дачка дзе?

Р а я. Яны не аддалі мне Свету. Яны чуць не падзялілі яе на шматкі. Яны ўсе яе так палюбілі!

У х в а т а ў. Цяпер нас будуць любіць!.. *(Бярэ схаваную паўлітэрку, налівае ў шклянку. Звяртаецца да Бусько і Сілана.)* Будзеце?

С і л а н. Як загадаеце.

Б у с ь к о. Да гроба.

У х в а т а ў. Што? Любіць ці піць?

Б у с ь к о. І піць, і любіць! Да гроба.

У х в а т а ў. Да гроба дык да гроба! А там — наплюваць!

Б у с ь к о. Малавата...

У х в а т а ў. Сваю трэба насіць.

Б у с ь к о. Ёсць! Носім! *(Падміргнуў Сілану, і той дастае з шафеты бутэльку.)*

С і л а н. Учора самагоншчыка застукалі. Рэквізавалі. Акт саставілі і... *(Усміхаецца.)* Разбілі... вось.

Б у с ь к о. Хай не спекулююць, гады!

Наліваюць, п'юць. Рая прыносіць капчонае на закусь.

Р а я. Федзя, а шафёр чакае твайго загаду на вуліцы.

У х в а т а ў. Кліч яго!

Б у с ь к о *(выглянуў праз акно)*. Ну і машына! Аж блішчыць! А шафёр — грамацей. Сядзіць і кніжку чытае. *(Крычыць.)* Эй! Прафесар кіслых шчэй! Завуць!

У х в а т а ў. Ну, яшчэ па адной і... *(Жэстам як бы змёў са стала і прысвіснуў.)*

С і л а н *(заспяваў)*. «По рюмочке, по маленькой, чем поят лошадей...»

Р а я. Ой, што вы, што вы!!!

У х в а т а ў. Без мастацкага свісту і танцаў! Пахаваем паціху. *(Выпівае.)*

Б у с ь к о *(ціхенька)*. Вечна-а-я-я памяць. *(Таксама перакуліў чарку.)*

С і л а н *(уздыхнуў)*. Амін. *(Выліў чарку, як у халяву.)*

Уваходзіць ш а ф ё р.

А л ё ш а. Я вас слухаю, Хведар Паўлавіч.

У х в а т а ў. Значыць, чытаеш? Вучышся?

А л ё ш а. Канчаю рабфак. Вячэрні.

У х в а т а ў. А потым?

А л ё ш а. Паспрабую паступіць у інстытут.

Р а я. І куды пастапаеш?

А л ё ш а. У архітэктурна-будаўнічы. Параілі...

Б у с ь к о. Ну і што з цябе будзе?

А л ё ш а. Можна будзе не толькі рулём кіраваць...

Б у с ь к о. О, намі хочаш кіраваць...

А л ё ш а *(Бусько, па сакрэту)*. Не, трохі разумнейшымі.

Б у с ь к о. О даёць! О даёць!

У х в а т а ў. Слухай, Алёша! А што, калі я цябе на добрую пасаду пастаўлю?

А л ё ш а. Не выгадна.

У х в а т а ў. Чаму не выгадна?

А л ё ш а. Пасадзіць можна, толькі наўрад ці доўга

ўседзіш. Вы ж самі ведаеце, якія ў нас планы. Паслухайце, які звон па ўсёй краіне! Грохат які! Колькі заводаў будуецца, электрастанцый! Разгортваецца такая гаспадарка, што... Граматныя людзі трэба, адукаваныя. Вы мяне пасадзіце, а праз некалькі гадоў прыйдзе адукаваны, разумны, у акулярах і скажа: «Ну-тка, пасунься, хамут малаграматны...» Дык навошта, каб гэта мне гаварылі, калі ўжо лепей... я сам... Прыйдзе час, невукаў папруць, мякка кажучы.

У х в а т а ў. Ну, што ж, вучыся, вучыся. Дурням гэта на карысць.

А л ё ш а. Толькі не ўсе яны ведаюць гэта.

У х в а т а ў. Востра. Ізноў які-небудзь намёк? «Папруць».

А л ё ш а. Ды не. Не намёк. Закон дыялектыкі.

У х в а т а ў. Нахапаўся ўжо? А гэта яшчэ — які такі закон?

С і л а н. А-а-а!.. Зараз растлумачу. Дакладчык з абкома прыязджаў, дык ён мне гадзіны дзве талкаваў... Цяпер магу сам.

Б у с ь к о. Сілан такі... Сілан можа.

С і л а н. Значыцца, так... Да прыкладу, ты, Хведар Паўлавіч, зярно. І цябе нехта пасеяў... Не, напрыклад, вось мы, я і Бусько,— зярняты. Ты нас пасеяў. Вырасце з нас куст. А потым каласы. Ну, значыць, у каласах — новыя зярняты для пасеву. А ад нас што астаецца? Карэнні, што ў зямлі, згніюць, і салома, якая толькі і гадзіцца на подсціл... карове там, авечкам ці свінням. У гной, значыцца. На ферму, на подсціл. І ўся тут дыялектыка.

У х в а т а ў. Контррэвалюцыя гэта, а не дыялектыка! *(Шафёру.)* А сёння пакуль што такі загад: завязі іх дамоў. *(Са здзекам.)* Зярняткі! Каласкі!

А л ё ш а. Добра, Хведар Паўлавіч, завязу. *(Выходзіць.)*

У х в а т а ў. А ты, Сілан, не мудруй. Не забывай, што на тваю дыялектыку ёсць адпаведныя органы, якія яшчэ разбяруцца, што да чаго. І не паўтарай, як папугай, чужых слоў.

Б у с ь к о *(Сілану)*. Ясна?

С і л а н. Дайшло. Усё! Кляп!

У х в а т а ў. А праз тыдзень... *(Надакучлівая муха атакуе Хведара Паўлавіча. Ён адмахваецца.)* Праз тыдзень... *(Муха зноў прыстае. Хведар Паўлавіч сочыць за ёй, чакае, пакуль яна ўсядзецца. Села на нос. Ён хацеў яе*

*прыхлопнуць, але муха трапілася вёрткая.)* Злавіць! *(Гэта прагучала як загад. Бусько і Сілан пераглянуліся, не разумеючы — жарт гэта ці загад?)* Жыўцом! *(Бусько і Сілан спачатку неяк нясмела, адчуваючы сябе няёмка, сталі ганяцца за мухай. Яны яе акружалі, бралі ў абцугі, рабілі на яе засаду. Увайшлі ў азарт і перамогу атрымалі. Яны ўзялі яе ў палон жыўцом і даставілі Хведару Паўлавічу — адзін за адно крылца, а другі — за другое.)*

Бусько. Вось яна!

Сілан. Насякомае, а... на нос лезе... і каму?

Ухватаў разглядае муху ў іх руках, а потым хапае яе і заціскае ў сваім кулаку. А тады падносіць кулак Сілану пад нос.

Ухватаў. Што гэта?

Сілан. Муха. *(Упэўнены, што не журавель.)* Муха! Яй-богу!

Ухватаў. Дурак! *(Падносіць кулак пад нос Бусько.)* Што тут?

Бусько. Чэснае слова, муха! Не сысці мне з гэтага месца!

Ухватаў. Балты! Ненарэзаныя. Тут сіла. Улада! *(Расціскае муху ў кулаку.)* В-во! *(Паказвае.)* Муха? А? І звання няма. І трухі не астаецца, калі трапляе ў кулак. Вы ўсё зразумелі?

Бусько і Сілан пераглядаюцца, становяцца навыцяжку, смірнеюць.

Сілан. Як не зразумець?

Бусько. Цяпер, канечне, усё ясна.

Ухватаў. То-та ж, мухаловы!

Ухватаў вымае папяросу «Казбек», кладзецца на канапу. Бусько і Сілан стараюцца апярэдзіць адзін аднаго, падносяць запалкі. Ухватаў прыкурвае, выпускае дымок. Скрыжаваўшы па грудзях рукі з папяроскай між пальцаў, любуецца струменьчыкам дыму. Бусько і Сілан стаяць за канапкай над Ухватавым, як у ганаровым караўле, схіліўшы гаротна галовы — адзін управа, другі ўлева.

Бусько. Зразумеў, Сілан? Гарыць.

Сілан. Зразумеў. Гарым? А?

Абодва набіраюць поўныя грудзі паветра і сінхронна ўздыхаюць.

Ухватаў. А чаго вы ўздыхаеце, як апоеныя коні? Праз тыдзень каб тут былі! А цяпер — па хатах.

Бусько і Сілана быццам ветрам вымела.

Паслухмяныя... Насенны фонд! Зярняткі. Каласкі... Я вам пакажу дыялектыку!

Праз хвіліну Ухватаў паднімаецца, падыходзіць да акна, аукае. З вуліцы басам і тэнарам адгукаюцца працяглым воем Бусько і Сілан. Цудоўны дуэт пад заслону.

## ЭПІЛОГ

### Зноў ад аўтара

Кажуць, нібыта людзі заўсёды думалі. Самі. Нібыта такая ўжо ўласцівасць чалавека. І я так мяркую. Думаць можна. Думаць трэба.

«Гумар — прыкмета сталасці і здароўя грамадства» — нехта разумны сказаў. Не падумаўшы, такога не скажаш.

«Мы всех зовем, чтобы в лоб, а не пятясь, критика дрянь косила. И это лучшее из доказательств нашей чистоты и силы».— Падумаў, напісаў і падпісаўся: Маякоўскі.

«Чалавецтва, смеючыся, расстаецца са сваім мінулым».— Карл Маркс напісаў. Мудра сказана. У гэтым аптымізм нашага прагрэсу.

Варта ўспомніць і такую карысную параду Уладзіміра Ільіча Леніна: «Вучыцца ў урокаў гісторыі, не хавацца ад адказнасці, не адмахвацца ад іх».

Каму адрасаваны гэты напамінак? І нам! І нашым дзецям! І ўнукам!

Калі грамадзяне смяюцца са сваіх учарашніх промахаў, заган — значыць, яны вышэй тых заган, яны маральна здаровыя, чыстыя. Хвала і таму грамадству, якое выхавала пачуццё гумару ў сваіх грамадзян.

...Человек проходит, как хозяин
Необъятной Родины своей...

А калі чалавек адчувае сябе ў доме пастаянным гаспадаром, а не кватарантам, не часовым жыхаром, ці выпадковым госцем, то ён і клапоціцца пра свой дом. Ён не пройдзе безуважна міма шчыліны ў акне, у сцяне, у фундаменце і нават у даху. Ён наладзіць, паправіць, закапапаціць, каб не дзьмула, каб не было сыра, каб не цягнула скразняком, каб не біў азноб. Каб утульна жылося ў любую пару года.

Калі сатырык гаворыць пра недахопы, шчыліны ці якія іншыя заганы ў сваім доме, то яму не трэба нікому даказваць, што ён харошы, што ён наш, свой. Ніхто ў гэтым не сумняваецца. І пацвярджэннем гэтаму з'яўляецца свежая дырэктыва аб неабходнасці развіцця сатыры ў наш час.

А таму, акрыленыя гэтым, рынемся ў эпілог. Пашукаем Ухватава і яго сяброў.

Лагічнае завяршэнне лёсу Ухватава і яго ўзаемаадносін з падапечнымі прыйшло гадоў праз дваццаць. Калі не больш. Зараз дакладна не прыпомню, таму што і гэта здарылася даўно. Дый

важна — што і як здарылася, а не калі, пасля тых драматычных падзей.

Не склалася між імі ні палкая любоў, ні моцная дружба. Фёдар Паўлавіч — чалавек быў трудны, прагнуў пашаны і таму заўсёды чакаў асобай да сябе павагі, уладалюбівы, круты і, як гаворыцца, любіў праехаць вярхом са шпорамі.

Па службовай лесвіцы ніхто з іх не падняўся. А Фёдар Паўлавіч апынуўся нават пад лесвіцай. Усе яны пастарэлі; ад страху сталі асцярожнымі, ад зайздрасці — злымі; інстынкт самазахавання навучыў іх лагодненька ўсміхацца. Ага, яшчэ! Набылі ўласцівасць жывога срэбра. Рассыпле іх жыццё, а глядзіш — пакатаюцца, пакатаюцца дый збяруцца, зліпнуцца.

Так і апынуліся яны разам перад фіналам Ухватава. Па іроніі лёсу і сабраліся яны ў тым жа доме, у тым жа пакоі, каля той жа старой купецкай груваасткай шафы. У былой кватэры Ухватава ў хуткім часе пасля стыхійнага бедства размясцілася і надоўга ўкаранілася ўстанова, каторую ўзначальвае Антон Сцяпанавіч Бусько.

У прыёмнай — сакратар-машыністка Стэла — чароўная дзяўчына, якая імкнецца перагнаць прагрэс ва ўсім. Каля яе ўецца малады чалавек. Яны ў нечым вельмі падобныя. Яна натура чуллівая. У калідоры нешта грохнула і разбілася. На дробныя звонкія асколкі. І Стэла спалохалася, войкнула і прыпала да Гарыка.

Стэла. Ой! Нешта ўдрузг... На дробныя асколкі!

Гарык *(гладзіць яе па галоўцы, супакойвае)*. Ты не палохайся. Лягчэй падбіраць будзе. Ты лепш паслухай. Вершы гэтыя — табе. Персанальна.

Стэла. Ды ну! Як цікава!

Гарык. Друкуй! *(Чытае.)*

Ночью я испытывал истому,
Когда вы являлись мне во сне,
Просыпался, выбегал из дома,
Динозавром выл я при луне.

Ваши беломраморные руки,
Вашу белокаменную грудь
Буду целовать, испытывая муки,
Жадно... вечерком... когда-нибудь.

Стэла. Не прапусцяць. Не надрукуюць.

Гарык *(плюе цераз левае плячо)*. Стэла, ты і на гэты раз накаркаеш! *(Дыктуе далей.)*

Эта ваша грудь и ваши руки
Не дают покоя в жизни мне...
Знала б ты, что от любовной муки
Я сгорю, как мотылек, в огне.

Нет. Лучше так:

Я не раз кончал с собой. Во сне.

С т э л а. Гарык! Гэта ж — няпраўда! Гэта не сацыялістычны рэалізм. Гэта нейкі дапатопны натуралізм!

Г а р ы к. Гэта — лірыка. Сексуальная. Мая школа. Па Фрэйду. Я шчыра і адкрыта ўскрываю сутнасць любоўнай лірыкі. Я супроць падтэксту, за якім скрывалі сваё ханжанства класікі.

С т э л а. Хоць іх і не надрукуюць, але... дай я цябе пацалую. Каб не гас твой творчы аганёк, не гасла твая творчая іскра.

Цалуюцца.

Вось такія творчыя іскры пагражаюць нашай планеце перанасяленнем.

Г а р ы к *(млее)*. Могуць не друкаваць. Я свой ганарар атрымаў. Амаль па самай высокай стаўцы.

С т э л а *(папраўляе прычоску)*. Афрыканец ты!

Г а р ы к. Стэла! Ты ведаеш, які сёння дзень?

С т э л а. Сёння? Чацвер!

Г а р ы к *(драматычна)*. Сёння — апошні дзень майго месячнага выпрабавальнага тэрміну ў гэтай канторы.

С т э л а *(разумеючы небяспечнасць яго становішча)*. Так-так — так-так...

Г а р ы к. Я ізноў на нерэгулюемым перакрыжаванні шляхоў. Без указання дарогі ў заўтрашні дзень. А мне так хацелася замацавацца ў гэтым чароўным, ціхім, утульным гняздзечку!

С т э л а. Але ж ты, спадзяюся, нешта прыдумаў? Не драмаў жа ўвесь гэты месяц?

Г а р ы к. Як жа! Увесь гэты месяц стараўся ўпадабацца ўсім тут. У першую чаргу — табе. Нават цёці Гарпіне. Няўжо не дасяг? У цябе, напрыклад?

С т э л а. У гэтай справе галоўная фігура не я, а цётка Гарпіна.

Г а р ы к *(філасофствуе)*. Разумееш, Стэла, у чым складанасць сучаснага моманту? У свінні дзесяць саскоў, а нарадзіла яна адзінаццаць парасят. І адзінаццаты якраз — я! І вось яны сасуць, а пра мяне і клопату мала. Яны нават не падазраюць, што я астаўся без цыцкі, што я з віскам бегаю кругом. Але нічога! Я расштурхаю! Я навіпен некага адпіснуць! І ўжо калі я дабяруся да саска, то ўжо ніхто мяне не адарве, не адпісне! Не адцягне! Буду заўсёды помніць, што недзе непадалёку бегае адзінаццаты.

С т э л а. Вельмі дасціпна! Я гатова табе памагчы.

Г а р ы к. Дарвацца да саска? Тады рыхтуй загад! Па-

старайся адзначыць дзелавыя якасці, якія я праявіў за месяц.

С т э л а. Дысцыплінаваны... Гарыць на рабоце.

Г а р ы к. Не, гарэць не хачу. Небяспечна. Можна стаць пагарэльцам. Чулы і ўважлівы...

С т э л а. Паслухмяны і ініцыятыўны... У калектыве карыстаецца аўтарытэтам.

Г а р ы к. Карыстаюся бескарысліва.

С т э л а. Шкада, што беспартыйны.

Г а р ы к. Не падпускаюць, а то б... Прымаюць толькі з мазалямі.

С т э л а. А ці падпіша Бусько такі загад? Ты яго прасіў?

Г а р ы к. Цётку Гарпіну прасіў. Яна яму павінна даць дырэктыву. Бачыш, позніцца на працу. Відаць, усвойвае яе рад цэнных указанняў.

Звоніць тэлефон. Стэла бярэ трубку.

С т э л а *(у тэлефонную трубку)*. Прыёмная. Добры дзень, Хведар Паўлавіч... Не, яшчэ не прыйшоў... Таксама яшчэ няма... Павінны быць... Добра, Хведар Паўлавіч, абавязкова скажу. Я зараз запішу і пакладу яму на стол. *(Кладзе трубку.)* Ну і надакучлівы гэты Ухватаў!

Г а р ы к. Пенсіянер гэты? А што яму трэба?

С т э л а. З кватэрай нешта. *(Запісаўшы нешта на шматку паперы, выходзіць у кабінет Бусько і хутка вяртаецца.)*

Г а р ы к *(праводзіць вачыма)*. Вот адшліфавала яе прырода!..

Уваходзіць Н а т а л л я  М і к а л а е ў н а.

Н а т а л л я  М і к а л а е ў н а. Добры дзень. Скажыце, малады чалавек, да каго мне тут звярнуцца, хто мне тут паможа?

С т э л а. А па якой вы справе, бабуся?

Н а т а л л я  М і к а л а е ў н а. А ў мяне справа маленькая, дробязь.

Г а р ы к *(засмучона)*. Калі дробязь, то да мяне. Я тут, бабуся, самы галоўны начальнік па дробязях.

Н а т а л л я  М і к а л а е ў н а. Такі дробненькі начальнік? Можа, і да цябе. Я тут заяўку напісала. Пра кватэру. *(Аддае паперку.)*

Г а р ы к *(не чытаючы)*. На кватэру? Вы першы раз тут?

Наталля Мікалаеўна. Першы.

Гарык. І ў чарзе не стаялі?

Наталля Мікалаеўна. Не стаяла.

Гарык *(спагадліва)*. Ай-яй-яй! Як жа позна вы прыйшлі! А вы аптымістка, бабуся.

Наталля Мікалаеўна. Я заўсёды была аптымісткай.

Гарык. Колькі вам гадоў, бабуся? Калі не сакрэт.

Наталля Мікалаеўна. Ці не закахаўся ты ў мяне?

Гарык. Стэла, ты паглядзі, якая вясёлая бабуся. Мора гумару. Я цікаўлюся вашым узростам толькі таму... Ці варта вам пачынаць такую клопатную справу. Для гэтага, відаць, трэба спачатку абмаладзіцца. Каб атрымаць кватэру...

Наталля Мікалаеўна. Я хачу аддаць кватэру.

Гарык. Здаць?

Наталля Мікалаеўна. Здаць.

Гарык. Не разумею. У тым сэнсе, што... вы хочаце ўзяць да сябе кватарантаў?

Наталля Мікалаеўна. Галубок! Ты хіба недачуваеш трохі? Я паеду да дачкі. Буду няньчыць унукаў. У Маскву паеду. Вось і прашу прыняць ад мяне кватэру.

Гарык. Бабуся! Мілая бабуся. З якой вы казкі? Дайце вашу заяву. Я ўсё аформлю. У вас адзін пакой? Асобны?

Наталля Мікалаеўна. Адзін. Асобны.

Гарык. І вы жывяце адна?

Наталля Мікалаеўна. Цяпер адна. Дачка замуж выйшла. У Маскву.

Гарык. Стэла! Ты чуеш? Гэта бабуся можа прынесці мне шчасце. Бабуся! Вазьміце мяне да сябе.

Наталля Мікалаеўна. У Маскву?

Гарык. Не, тут. Да вашага ад'езду я пажыву ў вас: у каморцы, на антрэсолях, на кухні, пад палавічком, што пад дзвярыма, у бакавушцы, дзе вашы старыя атопкі.

Наталля Мікалаеўна. У прымы? Жаніхом? Ай-яй-яй... Як ты спазніўся. Вельмі ж малады мне...

Гарык. Я таксама адзінокі. Я сірата. Я ў дзядзькі жыву.

Наталля Мікалаеўна. І ў чарзе не стаяў?

Гарык. Не стаяў.

Наталля Мікалаеўна. А ты аптыміст.

Гарык. Я заўсёды аптыміст.

Стэла. Гарык! Кватэру атрымаць не так проста.

Г а р ы к. Бабуся! Вы толькі не спяшайцеся. Я прашу вас! Дайце вашу заяву. Я... Зайдзіце праз гадзінку, паўтары, дзве. Калі ласка.

Н а т а л л я М і к а л а е ў н а. Калі ўжо так просіш... Добра. *(Выходзіць.)*

Г а р ы к. Стэла! Гэта, здаецца,— аблігацыя! Выйгрыш! *(Цалуе Стэлу.)*

С т э л а. Афрыканец! *(Вырываецца. Хаваецца ў кабінет Бусько.)*

Уваходзіць К у д а с а ў.

К у д а с а ў. Добры дзень, Гарык.

Г а р ы к. Добры дзень, таварыш Кудасаў.

К у д а с а ў *(вітаецца за руку і, апынуўшыся ззаду, абнюхвае Гарыка)*. Ніяк не магу ўгадаць... *(Прынюхваецца яшчэ раз.)* Ясна. Сёння ў Стэлы духі «Космас». Правільна я сказаў?

Г а р ы к. Коні абнюхваюцца спераду, а сабакі ззаду.

К у д а с а ў. Грубіян. Гэта ўжо хамства. Не так?

Г а р ы к. Н-не ведаю.

К у д а с а ў. А я ведаю. Хаміш! Абнімаўся? Было?

Г а р ы к. Н-не, што вы! Я толькі што прыйшоў.

К у д а с а ў. Нехарашо... Нехарашо маніць старэйшым. *(Зазірнуў у аркуш паперы на машынцы. Чытае.)* «Жадно... вечерком... когда-нибудь...» Паддаецца? Клюе?

Г а р ы к. Ну што вы, таварыш Кудасаў! Я зусім...

К у д а с а ў. Клюне, клюне. Толькі не адступай. Настойлівым будзь.

З кабінета выходзіць С т э л а.

С т э л а. Добры дзень, таварыш Кудасаў.

К у д а с а ў. Добры дзень, Стэлачка. Бусько тут?

С т э л а. Не, яшчэ няма.

К у д а с а ў *(заглядае ў кабінет Бусько)*. Правільна, няма яшчэ. Позніцца, а дарэмна. Ёсць непрыемная навіна. Нашу кантору ліквідуюць.

Г а р ы к. Як — ліквідуюць? А выпрабавальны тэрмін? Кату пад хвост?

С т э л а. А мы куды?

Г а р ы к. Гарым?

К у д а с а ў. А вы — цалуйцеся, абдымайцеся. Вось так. Працягвайце перад самым крахам. *(Выходзіць.)*

С т э л а. Што гэта ён?

Г а р ы к. У цябе якія духі? «Космас»?

С т э л а. «Космас». Ён цябе абнюхаў?

Г а р ы к. Геній! Шэрлак Холмс!

С т э л а. Ну і напляваць! Пляткар твой геній.

Г а р ы к. Стэла! Ён жа даў указанне працягваць. *(Абдымае Стэлу. Яна вяла супраціўляецца.)*

І трэба ж на тое ліха ўвайсці Б у с ь к о.

Б у с ь к о. Так-та! Гарнэнько!

С т э л а *(адштурхоўвае Гарыка)*. Гарык! Не прыставай!

Б у с ь к о. Та-ак, пляменнічак!.. Ты хто тут такі?

Г а р ы к *(патупіў вочы)*. А што?

Б у с ь к о. Не, ты скажы, скажы! Якая ў цябе пасада! Хто ты такі?

Г а р ы к. Інжынер па бягучым рамонце.

Б у с ь к о. А што ж ты тут робіш?

Г а р ы к. Нічога я не раблю.

Б у с ь к о. Чэсна. Правільна. Нічагусенькі. Скажы, інжынер, а па спецыяльнасці ты хто? Ну? Хто ты?

Г а р ы к *(неахвотна)*. Заатэхнік.

Б у с ь к о. А дакладней? Які ты спец?

Гарык маўчыць.

Спец па штучным асемяненні? Так?

Г а р ы к. Ну, так...

Б у с ь к о. Як жэ воно так? Што ты — спец па штучным асемяненні, а займаеш пасаду інжынера па бягучым рамонце? А можа, у цябе ёсць яшчэ і дыплом будаўніка, інжынера? Га? Шо маўчыш? Я — твой дыплом! Чаму я цябе сюды ўзяў? За што?

Г а р ы к. За стыль. Прамовы і адказы за вас пісаць. Цётка Гарпіна загадала вам узяць.

Б у с ь к о. Правільна. Загадала. Каб ты не здзекаваўся з цёлак, авечак, свінаматак. Кім ты быў і кім ты стаў? Быў штучным бугаём, штучным бараном, штучным кныром. А стаў інжынерам! Дык ты ўсё-такі не кідаеш сваёй прафесіі? Разлагаеш мне апарата? Мой апарат?

Г а р ы к. Я яшчэ нікога не разлажыў.

Б у с ь к о. І не разложыш! Не дам! Не мылься, галіцца не будзеш! Не дапушчу!

С т э л а. Антон Сцяпанавіч! Дарэмна вы яго... Ён нічога такога... Тут нічога не было...

Б у с ь к о. Не было, бо не паспеў. Можа быць. Я яго ведаю. *(Гарыку.)* Пракурору кватэру адрамантавалі?

Г а р ы к. Заўтра канчаем.

Б у с ь к о. Канчай.

Г а р ы к. Канчаем.

Б у с ь к о. Ты што крычыш? Ты ў мяне будзеш цішэй вады, ніжэй травы. Запомні! Ясна? Ідзі!

Г а р ы к выходзіць у свой кабінет.

Так, Стэла... І яго спакушаеш?

С т э л а *(какетліва)*. Што вы, Антон Сцяпанавіч. Чэснае слова, тут нічога не было. Вы мне ўжо не верыце?

Б у с ь к о *(уздыхнуўшы)*. Ладна, паверу. Яшчэ адзін раз.

С т э л а. Антон Сцяпанавіч! Званіў Хведар Паўлавіч. Сказаў, што ізноў прыйдзе. Учора прыходзіў, вельмі лаяўся. Сярдзіты...

Б у с ь к о. Нават лаяўся?

С т э л а. Кажа: «Я ім не абы-хто!» І сёння прыйдзе.

Б у с ь к о. Ну і што? Хай прыходзіць. Ён цяпер хто? Ніхто. Пенсіянер. Яму цяпер няма чаго рабіць, вось хай і ходзіць. Быў час, хадзілі да яго, а цяпер хай і ён паходзіць. Не ўсё кату масленіца. Папакруціў ён з мяне вяроўкі. А цяпер...

С т э л а. Сказаў, што ў гарком будзе скардзіцца.

Б у с ь к о. На каго? На мяне? Хто? Ён? Шо, яго там не знаюць? А вымову ён дзе адхапіў? Не там? За сваю дачу. А цяпер хоча і за абмен кватэры? Ён пагарэў, а я не хачу. Мэні вымова не трэба, мэні пенсія трэба. Персанальная. Сам палучыў? Дай і мне! *(Падумаўшы.)* І нікуды ён скардзіцца не пойдзе. Мы яму ласкава, ветліва, душэўна... нічога не зробім... Як і ён умеў. Па яго метаду. Культурненька. І ты з ім культурненька... далікатненька... *(Хацеў пагладзіць Стэлу, але спахапіўся.)* Пошта ёсць?

С т э л а. Ёсць.

Б у с ь к о. Прынясі. *(Выходзіць у свой кабінет.)*

С т э л а. Стары лавелас. Пошта яму трэба...

Г а р ы к *(паяўляецца ў дзвярах)*. Катапульціраван!

С т э л а. І што цяпер?

Г а р ы к. Пайду да дружкоў. Хай памагаюць. З маёй адукацыяй цяпер адно — шукаць шчасця ў ведамстве Міністэрства культуры ці... каля кінастудыі.

С т э л а. А там, думаеш, няма адзінаццатых?

Г а р ы к. Ёсць. Мяне чакае ўнутрывідавая барацьба за існаванне. Буду мацней за другіх вішчаць. Учора на вак-

зале я пазнаёміўся з адным паэтам. У рэстаране. Пасядзелі. Паэт — во!

Стэла. Хто? Хто ён? Ты мяне пазнаёміш з ім? Не, не, не думай! Я за цябе буду прасіць. *(Какетліва.)* А я ўмею так прасіць, што мне не адмовяць.

Гарык. Прыходзь-ка ты сёння ў рэстаран «Спутнік». Творчую сустрэчу сёння правядзём там. Толькі для гэтага трэба мець...

Стэла. Талент?

Гарык. Не, квіткі на каньяк. Давядзецца клянчыць у цёткі. Крэдыт. У растэрміноўку.

Стэла. Чакай! Можа, яшчэ не ўсё страчана...

Звініць званок. Гэта Бусько званком выклікае да сябе Стэлу.

Гарык. Цябе выклікае.

Стэла. Чую. Дык вось, я зараз пайду туды. А ты пакараўуль тут. І як толькі пачуеш такі званок, адразу заходзь да яго ў кабінет.

Гарык. Даўно яго не бачыў? Чорта лысага.

Зноў звініць званок.

Стэла. Гарык! Для цябе стараюся! Як толькі пачуеш такі сігнал, заходзь! *(Заходзіць у кабінет да Бусько.)*

Гарык. Жмот няшчасны! Хамло! Фараон егіпецкі! Культаўскі асколак! Ён мне вочы коле, што ўзяў сюды. Ты індык! А я... Пачакай! Я яшчэ пра цябе такую сатырычную паэму адгрохаю, што... у «Кракадзіл».

Уваходзіць Сілан Данілавіч з вялізным партфелем.

Сілан. Здароў, Гарык!

Гарык. Салют, Сілан Данілавіч. Салют! Яшчэ раз салют!!!

Сілан *(спалохаўся)*. Ты што? Ты што?

Гарык. А што?

Сілан *(паспакайней)*. Укусіў цябе хто, ці што?

Гарык. Пагрыз, пажаваў ды выплюнуў.

Сілан. Хто? Ён? *(Паказвае на кабінет Бусько.)*

Гарык. Ён.

Сілан. Ён можа.

Гарык. Сцеражыцеся і вы, Сілан Данілавіч. А навошта вы такі вялізны партфель з сабою цягаеце? І дома працуеце?

Сілан. Сёння з Пархвенаўнай усю ноч сядзелі. Шукалі юрыдычнае основаніе.

Г а р ы к. Дзе?

С і л а н. Вот тут. *(Паказвае на партфель.)* Тут усе законы і палажэнні. Інструкцыі таксама. А основаніе не знайшлі.

Г а р ы к. Якое основаніе?

С і л а н. Для Хведара Паўлавіча... Таму што ў мяне могуць спытаць: «А на каком основаніі?»

Г а р ы к. Правільна, Сілан Данілавіч. Ён *(паказаў на кабінет Бусько)* толькі і чакае таго моманту, каб вы падпісалі што-небудзь без основанія. А тады...

С і л а н. Ну-у, я помню правілы каравульнай службы. «Часовой должен бдительно охранять и стойко оборонять свой пост...» Вось як!

На стале Стэлы рэзкія званкі, нібы сігнал «SOS».

Г а р ы к. Гэта мне! *(Ідзе да дзвярэй кабінета Бусько.)*

* * *

Вось нарэшце і кабінет Бусько. С т э л а прыстроілася на ўлонні ў А н т о н а С ц я п а н а в і ч а і ласкава гладзіць ручкай яго нябрытую шчочку. Антон Сцяпанавіч ажно зажмурыўся ад такой пяшчоты. А Стэла тым часам скінула чаравічак, дацягнулася ножкай да званка на стале і падае сігнал Гарыку.

С т э л а *(з папрокам).* А вы падумалі... Навошта ён мне? Ён яшчэ саплівы.

І ў гэтую хвіліну на парозе кабінета з'яўляецца Г а р ы к. Ён ажно ў далоні запляскаў.

Г а р ы к *(у захапленні).* Ну, браткі, геній. Так, так!.. Гарнэнька...

Б у с ь к о *(спачатку разгубіўся, але тут жа знайшоў як выкруціцца).* Ты чаго стаіш? Падай вады! Ёй нехарашо стала!

Г а р ы к. Нехарашо-о?

С т э л а *(млява).* Не, Антон Сцяпанавіч, мне вельмі хораша... Выбачайце, Антон Сцяпанавіч. *(Вылузваецца з абдымкаў і накіроўваецца да выхаду.)*

Г а р ы к. Ты геній, Стэла! *(Адвешвае ёй зямны паклон.)*

С т э л а з гонарам выходзіць з кабінета.

Б у с ь к о. Ты не падумай... Т-ты...

Г а р ы к. Значыць я — штучны бугай, я — штучны баран, я — штучны кныр?

Бусько. Я на яе накрычаў, і яна самлела.

Гарык. Самлела? А навошта так крычаць? А што будзе, калі даведаецца цётка Гарпіна, што вы так крычыцё на сваю сакратарку? Бедная, аж самлела... у вас на каленях. А?

Бусько. Ты, Гарык, не жартуй!

Гарык. Якія тут жарты? Тут смаленым пахне! Гарэлым!

Бусько. І Гарпіна тут ні пры чым.

Гарык. Ёй відней.

Бусько. Заткніська!

Гарык. Не крычыце! Хоць яна і ваша жонка, але ж, як-ніяк, яна — мая любімая цётка.

Бусько. Гарык! Раю табе трымаць язык за зубамі. Чуеш?

Гарык. Але ж цётка Гарпіна, калі пераводзіла мяне сюды на працу, паставіла ўмову, што я буду абсалютна чэсны. Крышталына! І я даў слова.

Бусько. Слова? Ты даў слова?

Адчыняюцца дзверы, паказваецца Стэла.

Стэла. Антон Сцяпанавіч! Прыйшоў Хведар Паўлавіч. Да вас. І вось яшчэ — загад. Трэба падпісаць. *(Кладзе перад ім паперку.)*

Бусько *(сярдзіта)*. Заняты я.

Гарык. Ён яшчэ пакуль што не вызваліўся. *(Падміргнуў Стэле, і яна знікае за дзвярыма.)*

Бусько *(прачытаўшы вачыма загад)*. Дык, кажаш, слова даў?

Гарык. Даў чэснае слова.

Бусько. А ты ведаеш, што сёння канчаецца твой месячны выпрабавальны тэрмін?

Гарык. Ведаю. Вось загад аб залічэнні на сталую працу.

Бусько *(зларадна)*. А я не падпішу.

Гарык *(ласкава)*. Трэба падпісаць. Пасеяць. У грунт.

Бусько. Не ўжо, выбачай, але не магу. Вырасце пустазелле, бур'ян.

Гарык. Дзядзя! Я ж — сірата.

Бусько. Па вачах сірата, а... на баб разбойнік.

Гарык. Увесь у дзядзю ўдаўся. І кроплі пабраў.

Бусько *(строга)*. Не падпішу!

Гарык. Не настойваю. Толькі... вам цераз год на пенсію. І вы спадзяваліся на персанальную. А тут такая за-

кавыка маральна-бытавая. І без гэтага надзея на валаску, а калі ўжо...

Б у с ь к о *(доўга думае, жуе аловак, а потым падпісвае)*. Перакапаў, гад!

Г а р ы к *(абражаны, з гонарам)*. Ах, так? *(Не прымае загаду.)* Такая ласка мне не трэба.

Б у с ь к о. Бяры, пакуль не перадумаў.

Г а р ы к. Не, навошта гада прызначаць?

Б у с ь к о *(лагодна)*. Вось што, Гарык, мы з табой мужчыны і... сам разумееш, павінны...

Г а р ы к. Я не злапомны. І я ўсё разумею. Але... я сёння ў цёткі Гарпіны буду пазычаць трыццаць рублёў. Як жа мне ёй у вочы глядзець? Яна па вачах здагадаецца...

Б у с ь к о. Трыццаць?

Г а р ы к. Трыццаць.

Б у с ь к о. Хопіць і пятнаццаць.

Г а р ы к. Трыццаць.

Б у с ь к о. Ну, добра, абыдзешся і дваццаткай.

Г а р ы к. Трыццаць.

Б у с ь к о. Ты што? Акрамя трыццаці, другіх лічбаў не знаеш?

Г а р ы к. Трыццаць. Знаю і другія. Толькі яны большыя.

Б у с ь к о. Хабарнік! Дваццаць пяць! І даволі!

Г а р ы к. Калі без аддачы...

Б у с ь к о. Ты хацеў пазычыць.

Г а р ы к. Калі пазычыць, то ў цёткі.

Уваходзіць У х в а т а ў.

У х в а т а ў. Ты што, Бусько? Мяне не хочаш прыняць? *(Трымаецца ён важна, з гонарам, як начальнік з падначаленым, нібы ён і не пенсіянер. Інерцыя — вялікая сіла.)*

Б у с ь к о. Я вельмі заняты.

Г а р ы к. І справа важная. Тэрміновая і нават — сакрэтная.

Б у с ь к о. А ты памаўчы. Не з табой размова.

Г а р ы к *(пагражае)*. Я магу пайсці.

Б у с ь к о. Пасядзі!

Г а р ы к. У вас тут старыя справы і, відаць, надоўга... Пайду.

Б у с ь к о. Сядзі, табе кажуць!

Г а р ы к. Але ж я магу спазніцца, і закрыецца каса.

Б у с ь к о. Ну, добра, трыццаць! Сядзь! Я зараз. *(Да*

*Хведара Паўлавіча.)* Дык ты, Хведар Паўлавіч, усё па той жа справе?

Ухватаў *(з папрокам).* Усё па той жа. Ужо трэці раз прыйшоў. Валакітчыкі!

Бусько. Не трэба сердзіцца. Во-от бяда. Лішні раз прыйшоў! А што б ты рабіў? Ты ж цяпер на пенсіі. Так сказаць, з кірмашу едзеш.

Ухватаў. Та-ак, на пенсіі. Цяпер бы толькі здароўе.

Бусько. Вот-вот — здароўе трэба берагчы. Не хвалявацца з-за пусцяковін. Прайшоў. Прагуляўся. З людзьмі хоць пагамоніш... Дык, кажаш, з зяцем не паладзіў?

Ухватаў. Хай пажыве самастойна.

Бусько. Правільна. Хай і кватэру шукае самастойна, без нянек.

Ухватаў. Не, тут трэба ўступіць. І жонка, і дачка насядаюць. Пакуль яшчэ мяне не забылі і ўсюды свае хлопцы яшчэ сядзяць.

Бусько. А дарэмна. Хай бы самастойна. Каб цаніў. Толькі б на карысць... *(Сярдзіты.)* А то звыклі на чужой спіне ў рай. *(Зыркнуў на Гарыка.)* Цяпер усе яны такія!

Гарык. Дык я свабодны?

Бусько. Сядзі, кажу! *(Хведару Паўлавічу.)* А як жа твая дача? Стаіць?

Ухватаў. Стаіць дача.

Бусько. Так-так. Памагалі, памагалі ставіць. Ну і колькі ж яна табе каштавала? Дорага?

Ухватаў. Дорага, інфаркт і...

Бусько. А-а, і суровая вымова. Дарагавата...

Ухватаў *(з папрокам).* Таксама памагалі...

Бусько. Не я, не я... Калі помніш, я сам ледзь не пагарэў тады...

Ухватаў. Ну, ліха з ёй. Не ўспамінай. Лепей скажы: як жа з маёй справай?

Бусько *(нібы не чуў).* І клубнічка расце на дачы?

Ухватаў. Ды пасадзілі трохі. Падпісана паперка, ці?..

Бусько. І ягадка маліна ёсць? Ах, люблю малінку!

Ухватаў. Усяго патроху ёсць. Ды жонка не хоча калупацца на гародзе.

Бусько. Не прывыкла. Ну, вядома. *(Па-свойску, нязласліва.)* Заўсёды чужой хапае. А свежанькая клубнічка ха-ра-ша!..

Ухватаў. Дык што? Не падпісана яшчэ?

Бусько. Свежанькая... з сахаркам... А можна і з ма-

лачком. Люблю!!! А варэнне? А-а-ах!.. *(Аж зацмокаў.)* Ц-ц-ц...

Ухватаў. Калі ўжо ты так любіш, то я магу... Колькі табе?

Гарык *(нечакана)*. Трыццаць.

Ухватаў. Што трыццаць?

Гарык. Я не вам, я яму.

Бусько. Зараз? У мяне з сабой няма.

Гарык стаіць за спіной у Хведара Паўлавіча і паказвае пальцам на яго.

Гарык. Паглядзіце, паглядзіце ў кішэні. Павінна быць...

Бусько. От жук! Табе так прыспічыла? Так тэрмінова? *(Лезе ў кішэню, вымае кашалёк і, хаваючыся, падлічвае фінансы.)* Толькі дзесяць. Хведар Паўлавіч, можа, у цябе ёсць? То пазыч. Да зарэзу трэба.

Ухватаў. І рад бы, ды не нашу з сабой. Жонка чысціць кішэні перад тым, як выпусціць мяне ў горад.

Бусько. Шкада цябе. Значыць, жонка захапіла ўладу? А чалавек без улады — не чалавек. Так, пустое месца... Пераканаешся.

Гарык. Абсалютная ісціна: імпатэнт.

Бусько *(Ухватаву)*. А ты ж у свой час мог прыстроіць мяне і на лепшае месца. Мог! Дык жа не! Запіхнуў мяне ў гэты стары галёш. Хіба гэта — установа? Я кожны дзень жду — прыйдзе бульдозер і к чорту зграбе разам са мной. Што я тут значу? Прыйшла каза да ваза? Трэба было глядзець наперад, у глыбіню вякоў!

Ухватаў. Ну падумай сам: а куды я мог з тваімі талентамі? Толькі выгляд. Вот бюстам ты мог служыць, каб толькі не раскрываў рот. І пачот, і павага, і ніякага клопату. Хатнім ідалам.

Бусько. Дык вось Хведар Паўлавіч, тваю справу я даручыў Кудасаву. Зайдзі да яго, ён усё і вырашыць.

Ухватаў *(насцярожыўся)*. Слухай, Бусько, калі ты запускаеш мяне на кругавую арбіту, то ты так і скажы, не валаводзь.

Бусько *(смяецца)*. Ну, што ты, Хведар Паўлавіч!

Хведар Паўлавіч выходзіць.

Гарык. Быццам бы не знаеце, што без вашага подпісу, без вашай рэзалюцыі там нічога не будзе.

Бусько. Я-то знаю, а ён не знае. А трэба, каб і ён

знаў. Знай сваіх! А кругавую арбіту ён сам і прыдумаў. Яшчэ да пенсіі.

Абодва смяюцца, аж захлiпаюцца.

Г а р ы к *(раптам сціх, пацірае пальцамі, напамінаючы пра грошы)*. Антон Сцяпанавіч! Смех смехам, а... ясак ясаком.

Б у с ь к о *(спахмурнеў, трагічна)*. За што?! *(Вымае з кішэні пяцёрку, падае Гарыку, той круціць галавой. Дастае з другой, трэцяй і так з шасці кішэняў па пяцёрцы.)* За што?!

Г а р ы к *(прыняў заслужаны ганарар)*. За навуку. Штраф. Кантрыбуцыя за павышэнне голасу на сваіх падначаленых... І вось яшчэ — паперка на кватэру. Каб меней дома дакучаць... Стэлу пужаць нельга. *(Выходзіць.)*

Б у с ь к о. Ну, пачакай, брандыхлыст!

* * *

Прыёмная. З кабінета Бусько ўваходзіць Г а р ы к — гэткім Аляксандрам Македонскім.

Г а р ы к. Экспрапрыяцыя экспрапрыятараў! Арабы нацыяналізуюць буйную ўласнасць! Чабаны стрыгуць авечак! Няверныя прававерным плацяць дань! Ты — геній, Стэла!!!

С т э л а. Я табе падабаюся? Вельмі?

Г а р ы к *(пад Левітана)*. Сёння вечарам а восьмай гадзіне ў касмічным рэстаране «Спутнік» адбудзецца стыкоўка ракеты і ракетапасіцеля. Прыблізна ў дваццаць тры нуль-нуль дэманструецца выхад з карабля ў стане невясомасці! *(Абдымае Стэлу.)*

Адчыняюцца дзверы ■ кабінета Кудасава.

К у д а с а ў *(з дзвярэй)*. Стэла! Зайдзіце!

Г а р ы к *(праводзячы яе вачыма, дэкламуе з налётам жалю)*.

Ваши беломраморные руки,
Вашу белокаменную грудь
Загребу я в собственные руки...

Кабінет Кудасава. Цяпер гэтыя кабінеты будуць круціцца па крузе. А Хведар Паўлавіч будзе напамінаць вавёрку ў барабане. У кабінеце К у д а с а ў і Х в е д а р П а ў л а в і ч. Уваходзіць С т э л а.

С т э л а. Я вас слухаю.

К у д а с а ў. Стэла! Мы ўчора з Бусько абмяркоўвалі просьбу Хведара Паўлавіча. Дзе гэтая паперка?

С т э л а. Я перадала Сілану Данілавічу. Учора ж.

К у д а с а ў. Ну, малайчына. Яна ў нас вельмі акуратная, аператыўная. Дзякую, Стэла. Значыць, усё ў парадку, Хведар Паўлавіч.

С т э л а выходзіць.

У х в а т а ў *(недаверліва)*. Думаеш — усё ў парадку?

К у д а с а ў. І не сумнявайцеся. Ён у нас пунктуальны, законнік, юрыст, так сказаць.

У х в а т а ў. Што ж, зайду да яго.

К у д а с а ў. Навошта? Навошта вам хадзіць? Ён усё зробіць, аформіць, узгодніць, падпіша і па старому знаёмству сам прынясе вам дамоў. А вы яму чарачку паставіце. Ён чарачку любіць. Сам прынясе.

У х в а т а ў *(недаверліва)*. Ой, ці не тады, калі рак свісне.

К у д а с а ў *(з лёгкім папрокам)*. Хведар Паўлавіч! Для вас? Ай, як нехарашо вы пра нас думаеце. Спакойна ідзіце дахаты, адпачывайце. Уключыце тэлевізар ці пачытайце «Неделю». І не турбуйцеся. Каб Сілан ды не зрабіў для вас? Ай-яй-яй, Хведар Паўлавіч, Хведар Паўлавіч!.. Вы ж для яго богам былі, ідалам, ён жа пакланяўся вам.

У х в а т а ў. А Бусько сказаў, што ты будзеш вырашаць гэту справу.

К у д а с а ў. А хіба я сказаў што-небудзь супроць? Мы з ім узгаднілі, абгаварылі, парэкамендавалі. *(Абышоў вакол крэсла, на якім сядзіць Хведар Паўлавіч, і ўсё-такі не ўтрымаўся, абнюхаў яго ззаду. Развёў рукамі — нічым не пахне.)*

У х в а т а ў. Глядзі ж, Кудасаў, я на цябе спадзяюся. А то вы тут насабачыліся.

К у д а с а ў. Як на каменную гару.

У х в а т а ў. Ты ж, калі на кілбасе гарэў, помніш? Я, дурань, цябе выручыў. Табе і цяпер яшчэ, пэўна, гарэлым пахне: Смаленым.

К у д а с а ў. Вы мяне ўратавалі, а я вас не выдаў. Гарэлі б мы разам. Значыць — квіты! Усё! Не напамінайце пра смаленае. Мне праз год пенсію прасіць.

У х в а т а ў. Ну, глядзі, Кудасаў! Бывай! *(Выходзіць.)*

К у д а с а ў. Бывайце! Усяго добрага! *(Зачыніўшы за ім дзверы.)* Ну, скажы ты, якая сіла — гэта прывычка! Ніяк сябе пераламаць не магу. Ну, хто ён? Ну, што ён?

Ніхто! Нішто! Нават нічым не пахне!.. Проста ўчарашні дзень, а... а перад ім распраміцца не магу. Нібы ў яго нейкія фітанцыды ўлады. Няма на вачах, дык гатоў яму гадасць якую-небудзь, пакасць зрабіць. А пападзе на вочы — што тая цыбуля — раз'ядае вочы да слёз... Вось што значыць дрэсіроўка, інерцыя, умоўны рэфлекс. І каторы ўжо раз на гэтым сябе лаўлю. Прыйдзе, так і хочацца гаркнуць на яго, зарычаць акі леў, тупнуць, па стале грукнуць, а... духу не хапае. Інерцыя...

* * *

На кругавой арбіце — кабінет Сілана Данілавіча. На стале — фартыфікацыйныя збудаванні з кніг, папак, даведнікаў, інструкцый, палажэнняў, кодэксаў, прэс-пап'е, карандашоў і аўтаматычных ручак, сучасных, падобных да ракет «Зямля — паветра».

Адна горка кніг вельмі нагадвае танк з башняй — прэс-пап'е. На другой — нібы па ўзгорку зенітная ўстаноўка з аўтаручак. (Карацей кажучы, мастаку задача пастаўлена. А цяпер — была б толькі ў яго фантазія.)

Сілан Данілавіч за сталом — нібы ў засадзе. Ён насцярожаны, пільны, у руцэ трымае карандаш, як пісталет. Уваходзіць Ухватаў.

Ухватаў. Здароў, Сілан!

Сілан. А-а-а! Хведар Паўлавіч!.. Салют!

Ухватаў. Ух ты! Якая фартыфікацыя! Настроіў барыкад.

Сілан. Правільна, Хведар Паўлавіч, барыкады. А я іначай і не магу. Такі мой участак фронту — кватэрны. Каб адбіць атаку, трэба мець пад рукой увесь гэты арсенал... Як правіла, праціўнік мой — напорысты, упарты, ведае, за што ваюе, на штурм ідзе грудзьмі. Во як!

Ухватаў. Значыць — акапаўся?

Сілан. У абароне.

Ухватаў. А можа, у засадзе?

Сілан. Калі хто незаконна, то...

Ухватаў. А я, напрыклад?

Сілан. Што ты?

Ухватаў. Законна?

Сілан. Вот якое дзела, Хведар Паўлавіч... Я сёння ўсю ноч сядзеў з Пархвенаўнаі. Перагортваў усе гэтыя інструкцыі. Шукаў законного основанія...

Ухватаў. Ну і што? Знайшоў?

Сілан *(уздыхнуў, развёў рукамі)*. Не прадугледжана.

Ухватаў. Гэта ў пісаных законах не прадугледжана...

С і л а н *(спалохаўся)*. Э-э, Хведар Паўлавіч... А на нямісаныя... цяпер не тыя часы: народны кантроль прыдумалі. Раней яго не было. *(Уздыхнуў.)*

У х в а т а ў. Слухаї, Сілан! Ты хоць прачытаў маю заяву? Зразумеў, чаго я хачу?

С і л а н. Чаго ж там не зразумець? Дзве кватэры хочаш.

У х в а т а ў. Правільна. Па два пакоі. Але ж я аддаю на абмен...

С і л а н. Адну кватэру.

У х в а т а ў. Правільна. Але з пяці пакояў. Вам жа выгадна, дзяржаве выгадна.

С і л а н. А-а, пра дзяржаву клопаты. Але якая ж выгада? Бярэш дзве кватэры, а аддаеш адну.

У х в а т а ў. Ды ты хоць разбіраеш, што больш — чатыры ці пяць?

С і л а н. Разбіраюся. Дзве — больш, як адна.

У х в а т а ў. Ды ты што, галава два вухі?

С і л а н. Не бачу выгады.

У х в а т а ў *(як малому)*. Слухай... Напрыклад, такі размен: я даю табе пяць рублёў, а ты мне чатыры. Ёсць табе выгада?

С і л а н. Не. Няма. Скажуць, што хабар бяру. А калі дойдзе да народнага кантролю, дык *(адмахваецца)*... ого-го...

У х в а т а ў. Дык я ж табе не даю хабар.

С і л а н. А калі не даеш, то якая мне выгада?

У х в а т а ў. Я пра пяць пакояў.

С і л а н. А я пра дзве кватэры.

У х в а т а ў. Сілан! Што ты выломваешся? Я быў у Бусько, у Кудасава. Яны згодны. І паслалі да цябе.

С і л а н. І я цябе пашлю.

У х в а т а ў. Ку-ды?

С і л а н. Да іх.

У х в а т а ў *(раздзельна)*. Яны... сказалі... што ты...

С і л а н *(перапыняе)*. Сказалі? А не напісалі? Слова не падшыеш. Слова не мае юрыдычнай сілы. Толькі подпіс...

У х в а т а ў. Значыць, не прадугледжана?

С і л а н *(разводзіць рукамі)*. Не прадугледжана.

У х в а т а ў. Дык вось ты як... *(З горкім папрокам.)* Аддзячыў! Ты хоць падумаў бы, хоць бы ўспомніў... Цябе хацелі зрабіць бельгійскім каралём, а я, дурань, цябе зра-

біў чалавекам. А ты!.. Так аддзячыў? Ах ты, папяровы ты тыгр!

Сілан. Ты, Хведар... Ты кінь гэтыя штучкі!

Ухватаў *(са злосцю)*. Ды вас усіх тут разагнаць трэба! Усіх вас... трэба... *(Вельмі раззлаваны, пакідае кабінет.)*

* * *

Зноў кабінет Кудасава. Урываецца Хведар Паўлавіч.

Ухватаў. Вы што? Здзекуецеся з мяне? Хлопчыка знайшлі? Клоун я для вас?

Кудасаў. Хто? Я?

Ухватаў. Гэты дуб, гэты пень, бачыце, не знайшоў юрыдычнага *(перадражнівае)* «основанія»...

Кудасаў. Не знайшоў? Сілан Данілавіч не знайшоў?

Ухватаў. Ах ты, ахламон! *(Іранізуе.)* Юрыст! Юрыста знайшлі, выкапалі.

Кудасаў. Не мы знайшлі. Вы знайшлі. Вы, Хведар Паўлавіч, выкапалі.

Ухватаў. І ты туды ж? А? І ты?

Кудасаў *(збаяўся)*. Хведар Паўлавіч, я не... я нічога... Я, Хведар Паўлавіч... Гэта Бусько, гэта Антон Сцяпанавіч. А я... *(Прыбядняецца.)* Я што?.. Вы яму... Ён у нас...

Ухватаў. Ах, ён? Ё-ён у вас? Хунзузы! Башы-бузукі!!! Я ж яму!

Кудасаў. Правільна, Хведар Паўлавіч! Правільна! Вот яму вы...

Хведар Паўлавіч выходзіць з кабінета. Кудасаў напявае: «Торреадор, смелее и бой! Торреадор, торреадор!»

* * *

Кабінет Бусько. Урываецца раз'юшаны Хведар Паўлавіч.

Ухватаў. Ах ты нягоднік! Дык ты так са мной? Ты? Мне? За ўсё маё добрае?

Бусько. Не махай, не махай рукамі. У мяне ў кабінеце мух няма.

Ухватаў. Ды як ты смееш? Як ты смееш?

Бусько. І не тупаці. Тут не стайня.

Ухватаў. Падумаць толькі! Па-ду-маць!.. Як ён са мною гаворыць! Ты забыўся, забыўся?.. Я ж цябе, чорта кудлатага, выцягнуў з балота...

Бусько. А цяпер я лысы. Я цяпер — лысы. Што было, тое прайшло. І мемуары твае нікому непатрэбны.

Ухватаў. Прыгрэў. Прыстроіў. Ты ж кляўся мне... Ты ж колькі гадоў быў як у бога за пазухай...

Бусько.Ываліўся з-за пазухі.

Ухватаў. Колькі гадоў ты лізаў мне...

Бусько *(нібы яго шылам пырнулі)*. Надаела! Не ўспамінай мемуараў! Ты думаў — мне гэта было прыемна? О-о! Табе было прыемна! Хопіць! Мінулася! *(Прыгадаў.)* Муха! Беспакоіць мяне муха! *(Загадвае, паказвае на муху.)* Я табе лавіў? Лаві мне маю!

Ухватаў. О-о! О-го-го! Ён зубкі паказаў! *(Смяецца.)* Ты ж не ад злосці? А? Бывае, што і сабака кусаецца не ад злосці, а ад заліхвацкасці.

Бусько. Што? Не падабаецца? А ты як рабіў? Не так? Та-ак! А людзі цярпелі. Колькі ты патаптаўся па мне. І я ўсё сцярпеў. *(Скрозь слёзы.)* Муху лавіў!.. Эх, Хведзька, Хведзька...

Ухватаў. Хведар Паўлавіч!!!

Бусько. Та ні! Хведзька! Апамятайся! Не Хведар Паўлавіч ужо. Хвядот, ды не тот! Пара зразумець ужо. Ну, шо ты крычыш? Шо крычыш? Перад кім ты крычыш? Перад імі? *(Паказаў на залу.)* Быццам ты — цаца, а я — бяка. Ты думаеш, яны цябе не ведаюць? Ведаюць як аблупленага. Спытай у іх, які ты харошы. Ну, спытай, спытай! Баішся? Яны, брат, даўно цябе раскусілі. Як і я. А прыйшлі яны сюды не для таго, каб на цябе падзівіцца. Чорта лысага! Ты ім і так надакучыў. Яны, бач, і цяпер моршчацца, быццам аскоміна ў іх на зубах. Я ўпэўнены, што яны радуюцца, калі бачаць, як я цябе тут проці шэрсці, проці шэрсці... О-о, я іх ведаю! Яны так любяць пазубаскаліць з такіх, як ты, «былых». Анекдоты выдумляюць. Змікіціў?? Народ — такі! Можаш зарплату не падвышаць, але дай яму на зуб «былога». Дык вось — раю табе: ціхенька сядзі! Не шумі! Ці-іхе-енька! Атрымаў пенсію і скажы дзякуй. І я ціхенька буду сядзець да пенсіі. Мы з табой асколкі адной пасудзіны. Разбітай. Зразумеў? Так што, не трэба шуму і гвалту ўздымаць. Немэтазгодна! Нават — наадварот!

Ухватаў. Ну, нарэшце ты раскалоўся. А я цябе за дурачка лічыў.

Бусько. Дарэмна! Не цаніў! Крыўдна! Разумееш? Крыўдна! Мне!

Ухватаў. Ацаню! Не-е! Будзе табе пераацэнка!

Што-што, а насаліць табе я яшчэ магу. Гарэлага дам панюхаць.

Б у с ь к о. Не пужай! Не пужа-ай! Бачыў я такіх.

У х в а т а ў. Адплацілі! Аддзячылі! Не-е, я на вас аброцьку знайду. Я табе такую кару егіпецкую зараз прынясу, на ўсё жыццё табе хопіць! Да смерці будзеш насіць, як язву, як праказу! Я табе такую кару, такія мукі ўстрою... Пачакай!.. Я табе... Будзеш помніць!

Х в е д а р П а ў л а в і ч выходзіць у прыёмную. А там С т э л а і Г а р ы к. Ухватаў нібы спрасонку ці п'янаваты ідзе да выхаду. На парозе сутыкаецца з Н а т а л л я й М і к а л а е ў н а й.

Б у с ь к о *(расчыняе дзверы ў прыёмны пакой, загадвае)*. Не прымаць! Нікога не прымаць! А тым больш яго! Толькі цераз твой труп! *(Гарыку.)* І цераз твой! *(Ляпнуў дзвярыма, шчоўкнуў замком.)*

Г а р ы к. Максімаліст! Толькі цераз мой пуп. І цераз твой, Стэла.

Н а т а л л я М і к а л а е ў н а. А што гэта з імі? Нейкія вельмі ўстрывожаныя. Асабліва той — Хведар Паўлавіч. Што з ім?

Г а р ы к. Тонка падмецілі, бабуся. Устрывожаны. Чалавек апынуўся ў непрывычных абставінах. Бачыце, у свой час ён высока лётаў. У маштабах горада. За аблакамі. Ну, як бы вам сказаць? Для параўнання... На арбіце быў. У космасе. І раптамываліўся з карабля. Выкаліўся на хаду. З дзяржаўнага карабля. І підзе ніякай апоры. У невясомасці. Страціў вагу. А вагу ён меў. Груз!

Н а т а л л я М і к а л а е ў н а. Знала я яго. Цяжкі быў. Праўда. Свінцовы.

Звоніць тэлефон.

С т э л а *(бярэ трубку)*. Вас слухаюць. Так. Так. Яго няма. Што перадаць? Добра. Калі? Добра. Я пастараюся яго знайсці. Не. Ён нікуды не паехаў. Добра. Перадам. *(Кладзе трубку, стукае ў дзверы Бусько.)* Антон Сцяпанавіч! Толькі што званіў Аляксей Аляксеевіч. Прыедзе да вас.

Б у с ь к о. Аляксей Аляксеевіч?

С т э л а. Прасіў, каб вы былі на месцы. Яны хутка будуць.

Б у с ь к о з'яўляецца на парозе свайго кабінета.

Б у с ь к о *(да Наталлі Мікалаеўны)*. А вы пачакайце пакуль у калідоры.

Н а т а л л я  М і к а л а е ў н а выходзіць.

*(Стэле).* Не магла сказаць, што мяне няма тут?

С т э л а. Як заўсёды, я так і сказала. Ён загадаў знайсці вас.

Б у с ь к о. Дык вось — ты мяне не знайшла. Мяне няма. І не будзе. Я не магу. Хай Кудасаў сустрэне. Дзе ён? *(Гарыку.)* Пакліч!

Г а р ы к знікае.

А прыедзе Аляксей Аляксеевіч, скажы: мяне выклікалі... у гэта...

Цікаўнасць не адпускае Г а р ы к а. У калідоры ён пасоўвае абгорнуты грубай паперай нейкі бюст на самы край шафы, любуецца яго няўстойлівасцю, бо шафа з падломанай ножкай. Гэтым заняткам ён маскіруе сваю ўвагу да гутаркі шэфа.

С т э л а. Куды вас выклікалі?

Б у с ь к о. Ну... у гэта... у кіраўніцтва...

С т э л а. Якое?

Б у с ь к о. Ну ў гэта, як яго... Гэта што? Допыт? У кіраўніцтва, і ўсё. Тэрмінова. *(Вяртаецца ў свой кабінет.)*

Г а р ы к *(адчыніўшы дзверы Кудасава).* Вас кліча шэф. Неадкладна! Зараз жа!

З кабінета выходзіць К у д а с а ў і таропка накіроўваецца ў прыёмны пакой Бусько. Спяшаючыся, ён спатыкнуўся, зачапіў шафу, шафа хістанулася, і скрутак грохнуўся вобзем. Забрынчалі асколкі.

К у д а с а ў. Фу ты, чорт!

Г а р ы к. Гэта не чорт. Вы знаеце, каго вы ўранілі?

К у д а с а ў. Не каго, а што.

Г а р ы к. Не-е,— каго. Бюст!

К у д а с а ў. Не я. Гэта вы мяне піхнулі.

Г а р ы к. Вы не толькі ўранілі, вы яго разбілі. А ён яшчэ не спісаны.

З кабінета выходзіць Б у с ь к о.

Б у с ь к о. Што тут за грохат?

Г а р ы к. Ды вось тут...

К у д а с а ў *(апярэджвае).* Гарык разбіў бюст.

Г а р ы к. Таварыш Кудасаў!..

Б у с ь к о. Ладна! Прыбярыце гэтыя чарапкі! Калі трэба — разбяромся. А цяпер... Кудасаў! Прыедзе Аляксей Аляксеевіч... А помніш, кім ён быў?

Г а р ы к выносіць разбіты бюст.

К у д а с а ў. А як жа,— вадзіцель. Вырас.

**Бусько.** Дык вось, пагавары з ім замест мяне. А я... Мяне к начальству выклікаюць. Тэрмінова. Дый не магу я... Быў шафёрам, а я цяпер павінен яго ўказанні...

**Кудасаў.** І верна — замнога гонару.

**Бусько.** Усё. Я пайшоў. *(Ідзе і закрываецца ў кабінеце.)*

**Кудасаў** *(шкрабае патыліцу)*. Стэла! А Сілан тут?

**Стэла.** Тут.

**Кудасаў.** Заві!

Стэла выходзіць і праз хвіліну вяртаецца з Сіланам.

**Сілан.** Каму я трэба?

**Кудасаў.** Дык вось, Сілан, адказнае табе заданне. Бусько даручыў табе сустрэць Аляксея Аляксеевіча і пагаварыць з ім. За яго. Замяніць яго.

**Сілан.** Аб чым пагаварыць?

**Кудасаў.** Аб тым, аб чым захоча гаварыць Аляксей Аляксеевіч.

**Сілан.** А што яму сказаць?

**Кудасаў.** Не гавары ні да, ні не. І не пярэч, і не згаджайся. Дзе паддакні, а дзе — у дробязях — выкажы сумненне. Асцярожна. А дзе не ведаеш, што сказаць — перапытай. Хай ён скажа. Сам. А ты паабяцай дalaжыць, паведаміць, праінфармаваць. Усё жыццё вучу цябе, а ты...

**Сілан.** Дык гэта я спасціг.

**Кудасаў.** Спасціг? Ну во, будзеш даўгавечным. Незамянімым. А я... У мяне тэрміновая справа. *(Паспешна выходзіць.)*

**Сілан.** Мудры бес. Як павук.

Уваходзіць Аляксей Аляксеевіч.

**Аляксей Аляксеевіч.** Добры дзень. *(Вітаецца з усімі за руку. Некалькі затрымаў руку Сілана, але не ўспомніў яго.)* А што гэта за ўстанова такая? Гэта што? Адростак гаржылупраўлення? Апендзікс?

**Гарык.** А вам не здаецца, што, называючы нашу ўстанову апендзіксам, вы абражаеце нас? Крыўдна і сорамна!

**Аляксей Аляксеевіч.** О-о! Вяртаю гонар. А хто кіраўнік вашай канторы?

**Гарык.** Во, ён замяняе.

**Аляксей Аляксеевіч.** Намеснік?

**Гарык.** Не. Замяніцель. Эрзац. Замяняе Бусько.

Аляксей Аляксеевіч. Ён яшчэ не на пенсіі?

Гарык. Пакуль княжыць. А чаго яму спяшацца на пенсію. Цяпер гэта не модна. Таму што — пенсія меншая за зарплату. А спраў у яго... у пенсіянера больш дзялоў.

Аляксей Аляксеевіч. Ці не меціце вы ў яго крэсла?

Гарык. Мне хоць бы на сваім утрымацца.

Аляксей Аляксеевіч. Дык вось — зносім вас.

Сілан. Як — зносім? Чаму?

Стэла. Як — зносім?

Гарык. Як так — зносім?

Аляксей Аляксеевіч. Проста. Разбурым сцены бабай, зграбём абломкі бульдозерам, расчысцім месца і трохі вышэй збудуем быткамбінат «Новы мір». Па генеральнаму плану.

Сілан. Такую крэпасць — бабай? Будавалі навечна і раптам... бабай.

Аляксей Аляксеевіч. А ў помнікі старыны — не прыгадзілася. І гістарычныя асобы не ўдастоілі гэты склеп сваёй прысутнасцю. Ні Грышка Атрэп'еў, ні Мазепа, ні цар Пётр.

Сілан. А мы?

Гарык. А мы? А мы куды?

Аляксей Аляксеевіч. Па спецыяльнасці.

Гарык. Як? І вы? Вот прывязаліся да маёй спецыяльнасці. Няма яе ў мяне! Няма!!!

Аляксей Аляксеевіч. Тады ідзіце да нас на будоўлю. Авалодайце бульдозерам ці бабай. Рушце сцены да аснавання, а затым — мы наш, мы новы мір збудуем...

Гарык. Хто быў нікім, той стане ўсім?

Сілан. Са мной гэта ўжо было. Я нешта не саўсім... Не зразумеў. Вы растлумачце.

Аляксей Аляксеевіч. А што тут незразумелага?

Сілан *(бянтэжыцца)*. Так-так. Ясна... Усё ясна. Я, канечне, далажу, я праінфармірую. Я далажу Бусько.

Аляксей Аляксеевіч. Перадайце яму, хай рыхтуецца на бюро гаркома. Бывайце здаровы. *(Выходзіць.)*

Сілан праводзіць Аляксея Аляксеевіча.

Стэла. Злазь, прыехалі.

Уваходзіць Наталля Мікалаеўна.

Гарык. Любая бабуся! Пачакайце два-тры дні. Маё

шчасце ў вашых руках. Я аформлю прапіску. Пачакайце. Не спяшайцеся. А то — як ліквідуюць нашу кантору — я прапаў. Вы — мой апошні шанец... Не спяшайцеся!

Наталля Мікалаеўна. А я спяшаюся. Дачка чакае. Унукі чакаюць.

Гарык. О, што за век дваццаты! У выніку нашай спешкі я магу астацца беспрытульным. Я заўтра да вас прыйду. Я прыеду! Я прылячу. Я вам усё растлумачу.

Наталля Мікалаеўна. А вось ты не спяшайся. Не спяшайся, галубок. *(Збіраецца пайсці.)* Так і галаву дзе-небудзь згубіш.

Гарык. Ды мне зараз ваша кватэра больш патрэбна, чым галава.

Гарык памагае Наталлі Мікалаеўне падняцца, бярэ яе пад руку і стараецца падабацца старой сваім далікатным абыходжаннем. З грукатам і шумам урываецца ўзлахмачаны, ваяўнічы, узрушаны Ухватаў.

Ухватаў. Дзе ён? Дзе гэты падлюга? Я яму зараз... Пусціце мяне! *(Спрабуе штурмам прарваць абарону — адпіхнуць Гарыка і Стэлу, якія загарадзілі дзверы к шэфу.)* Пусціце мяне туды! Пусціце, вам кажуць!

Гарык і Стэла. Нельга! Прыём закрыт! Загадана не прымаць! Грамадзянін! Грамадзянін! Я дружыннікаў паклічу! Загадана не пускаць!

Ухватаў. Каго? Мяне? Мяне не прымуць? Ах, ён падлюка! Ды я яго... Божа, як павярнулася?! *(Заплакаў.)* Ды калі я ўладу меў, яны ж былі — такімі вернымі, паслухмянымі, адданымі. І я для іх богам быў! Аднаго позірку баяліся. Богам для іх! Гэта ж я іх вывеў! Я сатварыў! А цяпер... *(Плача.)*

Гарык *(чытае па памяці біблію)*. «І сатварыў бог чалавека па вобразу і падобію свайму, мужчыну і жанчыну сатварыў. І благаславіў іх бог, і сказаў ім: пладзіцеся і размнажайцеся, і папаўняйце зямлю, і валодайце ёю, і ўладарце над рыбамі марскімі, і над звярамі, і над птахамі нябеснымі, і над усякім скатом, і над усёю зямлёю, і над усякімі жывёламі, і над усімі гадамі паўзучымі па зямлі... І ўбачыў бог усё, што ён стварыў, і вот, хораша вельмі. І быў вечар, і быў ранак: дзень шосты».

Ухватаў *(слухаў, слухаў і раптам)*. Сапляк! Парасёнак!

Гарык. «Хораша вельмі»,— пакуль бог не пайшоў на пенсію. А стаў пенсіянерам, спаткаўся са сваім падобіем і... харкнуў ад агіды на сваё падобіе няўдзячнае.

Ухватаў *(нібы яго падагрэлі, ідзе на штурм)*. Пусці мяне да яго. Пусці-і-іце!!! Я павінен! Гэта мой доўг!

Але Гарык і Стэла, як верныя вартавыя, адціснулі Хведара Паўлавіча ў калідор, дзе ўжо даўно сочаць за падзеямі Сілан і Кудасаў.

Наталля Мікалаеўна. А ён верна сказаў: па вобразу і падобію...

Ухватаў. А ты... А ты... *(Задыхаецца.)* Не суй нос!..

Кудасаў. Не хаміце, Хведар Паўлавіч, не хаміце. Не тыя часы.

Ухватаў. А-а, і ты, нюхала! Д'ябал ты! Нячыстая сіла! Д'яблы вы! Усе вы д'яблы!!

Гарык. Усё лагічна. Сатварыўшы бога, чалавек вымушаны быў сатварыць і д'ябла. Іначай ідэя бога траціць усякі сэнс. *(Хоча выправадзіць усіх прысутных.)* Пакіньце бога ў спакоі. У адзіноце.

Усе разыходзяцца спакойна і раўнадушна. Толькі Наталля Мікалаеўна нібы прадчувае бяду, затрымліваецца каля дзвярэй. Ухватаў, адчуўшы сябе, як тхор у пастцы, кінуўся да адных дзвярэй, да другіх. Раптам заўважыў дзверы, загароджаныя старой канцылярскай шафай, запоўненай архіўнымі папкамі.

Ухватаў. Не! Не! Не!!! Я ўсё роўна дабяруся да цябе! Я дастану цябе! Запасныя дзверы як забарыкадзіраваў! Не, не! Не-е! Я цябе выкалупаю! Упярод! На барыкады! *(Натужваецца, адсоўвае шафу ад дзвярэй. Робіць гэта з апошніх сіл. Ледзь-ледзь адсунуўшы шафу, ён заўважае на дзвярах бронзавую галаву льва з кальцом. Ухватаў са злосцю хапаецца за кальцо, ірвануў к сабе дзверы, але тыя не паддаюцца. Яшчэ спроба, і ў руках Хведара Паўлавіча — вырванае з зубамі з пашчы льва кальцо. Раптам Ухватаў хапаецца за сэрца і з дзікім перадсмяротным крыкам падае перад дзвярыма бяздыханым.)*

Наталля Мікалаеўна. Людзі! Памажыце! Дзе вы?

На яе кліч з'яўляюцца ўсе служкі гэтай установы.

Званіце ў «Хуткую дапамогу»! Хутчэй! Ратаваць трэба! Яму нехарашо!

Сілан падышоў, прыгледзеўся да Хведара Паўлавіча, патрымаў за руку, правяраючы пульс, уздыхнуў і заявіў.

Сілан. Не, яму зараз ужо харашо...

Кудасаў. Здаецца, у нас пахне смаленым...

У суседнім пакоі Стэла выклікае «хуткую дапамогу».

Стэла. «Хуткая»! «Хуткая»!.. Калі ласка, як можна хутчэй, тут чалавек памёр, прасіцель! Хутчэй!

Наталля Мікалаеўна. У яго ў руках кніжачка...

Кудасаў. Паглядзіце. Гэта, відаць, яго егіпецкая кара.

Наталля Мікалаеўна *(нахіляецца, вымае з рукі Ухватава чырвоную запісную кніжачку, чытае).* «Некалькі навадзяшчых пытанняў аб сувязі часоў і з'яў... Ідучы на спачын, запытай сябе сам: што ты зрабіў сёння?» *(Адрываецца ад запісной кніжкі.)* Божа мой! Божа мой! Гэта ж мужа майго кніжачка. А я яе столькі гадоў шукала, столькі гадоў... Гэта ж яго, мужа майго, запавет, апошняе слова яго. *(Чытае далей.)* «Ідучы на спачын, запытай сябе сам: што ты зрабіў сёння? Падвядзі вынікі справам тваім. Можа, чужое проса вытаптаў? Пакрыўдзіў каго? Аблаяў? Пакараў? Звольніў з работы? Ці асудзіў? Каго? За што? Ці справядліва? Чым гэта павернецца для цябе, для людзей заўтра? Праз год? Праз дзесяць гадоў? А праз дваццаць год? Успомніць аб гэтым не сорамна будзе табе? Перад сабой. Перад сынамі. І перад унукамі. Што ты зрабіў сёння? Дрэва пасадзіў? Проса пасеяў? Прыласкаў каго? Падахвоціў каго? Пасаду даў — уладу над людзьмі ўручыў? Каму? Дастойнаму? Справядліва? Чым гэта павернецца для цябе, для людзей заўтра? Праз год? Праз дзесяць гадоў? А праз дваццаць? Успомніць аб гэтым не сорамна будзе табе? Перад сабой. Перад сынамі. І перад унукамі.

Падводзячы вынікі справам тваім, жыццю свайму, каяцца не будзеш?

Адыходзячы на спачын, спытай сябе сам: што ты зрабіў сёння?..»

Наталля Мікалаеўна падыходзіць к рампе і яснымі ласкавымі вачыма шукае сустрэчы з вачыма кожнага ў зале гледача. А недзе рэха, затухаючы, паўтарае: «Спытай сябе сам! Спытай сябе сам!»

*Канец.*

*1967—1980 гг.*

# ВЕРАЧКА

СЕНТЫМЕНТАЛЬНЫ ФЕЛЬЕТОН
У ДЗВЮХ ЧАСТКАХ

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Арына Радзівонаўна — бабка.
Верачка — унучка.
Тамара Паўлаўна — ткачыха.
Маня — суседка маладая.
Ганна Ісакаўна — суседка старая.
Прокусаў Васіль Міхайлавіч — намеснік старшыні.
Участковы міліцыянер.

## АД АЎТАРА

У наш суровы век стала асабліва адчувацца патрэба ў такіх чалавечых якасцях, як чуласць, дабрыня, сардэчнасць, спагадлівасць, таварыская падтрымка, брацкая гатоўнасць дапамагчы бліжняму, уважлівасць, далікатнасць і душэўная цеплыня. Выхаванне такіх маральных вартасцей стала ў нашай краіне справай дзяржаўнай, справай партыйнай.

Зберагчы ў чалавеку дзіцячую чысціню, далікатнасць, ласкавасць, добразычлівасць і сердаболле — справа нялёгкая і не менш важная, чым, скажам, узвядзенне новых карпусоў заводаў ці запуск спутнікаў у космас.

Стварэнне новага чалавека, чалавека камуністычнага грамадства, пачынаецца з малога — з ветлівасці, шанавання старэйшых, павагі калектыўных інтарэсаў і гэтак далей. Вось чаму нам трэба быць вельмі пільнымі і прынцыповымі, калі ў жыцці сустракаем факты непавагі да чалавека, бяздушнасці, грубасці, чэрствасці, якая крыўдзіць і маральна раніць чалавека.

Парушэнне маральнага кодэкса часта бывае шкодным для грамадства гэтак жа як і парушэнне Крымінальнага кодэкса.

Такой тэме і прысвечана п'еса.

Аўтар

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

У горадзе N. на праспекце Міру ў новым доме на трэцім паверсе ў аднапакаёвай кватэры плошчаю ў семнаццаць з палавінай квадратных метраў жыла-была бабуся. І звалі яе Арынай Радзівонаўнай.

Мысленна завітаем да яе.

Пакойчык светлы, чысты, акуратна дагледжаны, з недарагой абстаноўкай: ложак, канапа, невялікі стол, пара крэслаў, лазовая каталка, невялічкая, з той жа лазы этажэрка з дзюжынай кніжак, просценькая радыёкропка і жывыя кветкі.

Ранак. Толькі што ўзышло сонейка, і яго промні весела ўварваліся ў пакой праз шырокае акно.

Новы дзень радыё пачынае пазыўнымі на матыў: «Люблю мой край, старонку гэту...»

Арына Радзівонаўна прачнулася, нібы спазнілася ці яе разбудзіў хто. Старэнькая бабулька, сямідзесяці чатырох год, сівенькая, ветлівая, з ласкавым голасам, добрая такая і светлая, сядзіць на ложку і смешна, як лялька, лыпае яснымі вочкамі. Лагодная. Смірная. Не так даўно яна перанесла інфаркт міякарда, аднак спакойна і мудра глядзіць на свой заўтрашні дзень. Во што значыць усведамленне неабходнасці. Яна лагодная і смірная. Вот каб толькі не гэты кляты радыкуліт: ні нагнуцца, ні прысесці, ні заслаць пасцель. Арына Радзівонаўна, ладкуючы сваю няхітрую прычоску, падыходзіць да акна, расчыняе яго і любуецца надвор'ем.

Арына Радзівонаўна. І яшчэ адзін дзянёк падарыў мне бог. Ды які дзянёчак! Будні, а як на свята. Ну, каму ахвота расставацца з такім хараством? Во, верабейкі счапіліся. Не падзялілі нечага. Во, забіякі! Як тыя... Ну і забіякі! Пачакайце, я вас паміру зараз. Сыпану якіх крошак... *(Сыпанула за акно крошкі.)* Ну, во, ці багата вам трэба? І памірыліся.

Старая падышла да люстра, паказала сабе язык, паспрабавала пакрасавацца, ды не тая паваротлівасць у целе, паківала галавой і зняважліва махнула рукой на сваё адлюстраванне.

Нібы ўспомніўшы нешта, старая, хуценька шморгаючы тапачкамі, схавалася за запаветнымі дзвярыма. Звініць меладычны званок у прыхожай.

Хто там?.. У такую рань?..

І зноў званок. Чуваць, як у туалеце спускаецца вада. І з'яўляецца зноў бабуся. Але ўжо не так заклапочаная, нават радасная, гарэзлівая.

Зноў звініць званок.

Зараз, зараз! Каму там не церпіцца? Во толькі знайду ключык.

Старая знаходзіць ключ і ідзе адмыкаць дзверы, ды раптам раняе ключык; хацела падняць яго, але кляты радыкуліт не дае нагнуцца. Ледзь распрамілася. Арына Радзівонаўна падцягвае крэсла, абапіраючыся на яго, спрабуе нагнуцца і падняць ключ, аднак боль у паясніцы і блізка не падпускае. Старая плюхнулася ў крэсла і звяртаецца да ключа.

Ну, што, лайдак? Ляжыш? Не даешся! А без мяне не можаш адчыніць дзверы?

Званок звініць настойліва.

Ну хто там? Пачакай. Зараз.

Голас за дзвярыма. Міліцыя! Участковы. Прашу адчыніць.

Арына Радзівонаўна. А божа! Яшчэ чаго не хапала. *(Трымаючыся за крэсла, прысядае, не згінаючыся ў поясе, нарэшце дастае ключык і... не можа выпраміцца.)* А мой жа ты радзікуліцік! А каб ты спрах! Як жа ты мне надакучыў! *(Асцярожна выпростваецца, нібы на галаве ў яе поўная чаша, якую баіцца расплёскаць.)* Чалавек падумае, што наўмысна не хачу ўпусціць, хаваю нешта. *(Пасмейваецца.)*

Ідзе, адмыкае дзверы і ўпускае ўчастковага міліцыянера.

Міліцыянер. Добрай раніцы, бабушка!

Арына Радзівонаўна. Добрай раніцы, саколік!

Міліцыянер. Чаму так доўга не адчынялі?

Арына Радзівонаўна. Ды во, ключык ураніла.

Міліцыянер. Я вас не разбудзіў? Выбачайце, калі патрывожыў.

Арына Радзівонаўна. Ды не, я ўжо не спала.

Міліцыянер. Яшчэ раз — выбачайце.

Арына Радзівонаўна. А нічога. Толькі чаму ты так рана з-пад коўдры вылузнуўся?

Міліцыянер. Служба, бабушка, служба.

Арына Радзівонаўна. І ка мне па службе?

Міліцыянер. І к вам па службе, бабушка. *(Азіраецца.)*

Арына Радзівонаўна. Шукаеш каго, ці што?

Міліцыянер. Шукаю, бабушка, шукаю. У вашай кватэры апроч вас, бабушка, яшчэ хто-небудзь ёсць?

Арына Радзівонаўна *(падумаўшы)*. Ёсць, саколік, ёсць.

Міліцыянер. Хто? Дзе?

Арына Радзівонаўна. А ты пашукай. Знойдзеш.

Міліцыянер *(пашукаўшы)*. Дзе? Хто?

Арына Радзівонаўна *(радуецца)*. Вот і не знайшоў!

Міліцыянер. Схавала?

Арына Радзівонаўна. Не-а.

Паўза.
Пільна прыглядаюцца ў вочы адно аднаму.

Міліцыянер *(строга)*. Бабушка!

Арына Радзівонаўна. Э-э, які нездагадлівы. Апроч мяне ў кватэры... ты.

Міліцыянер. Тта-ак... Значыць, жартуеце? Так-так. *(Афіцыйна.)* Скажыце, у вас пражывае хто-небудзь без прапіскі, грамадзянка Арына Радзівонаўна?

Арына Радзівонаўна. Так бы і сказаў. *(Маўчыць.)*

Міліцыянер *(перачакаўшы)*. Я так і сказаў. Ну? Пражывае? Хто?

Арына Радзівонаўна. А начальніку свайму скажаш?

Міліцыянер. Я павінен далажыць. Ён і паслаў мяне сюды...

Арына Радзівонаўна. А-а, тады не скажу.

Міліцыянер. А калі не далажу?

Арына Радзівонаўна. Тады скажу. А не абманіш?

Міліцыянер. Хто?

Арына Радзівонаўна. Дзе?

Міліцыянер. Тут.

Арына Радзівонаўна. Калі?

Міліцыянер. Амаль пастаянна. *(Давярыцельна.)* Я ж ведаю.

Арына Радзівонаўна. Прытуліла я тут...

Міліцыянер. Каго?
Арына Радзівонаўна. Ой, баюся я...
Міліцыянер. А вы не бойцеся. Каго?
Арына Радзівонаўна. Пашкадавала... брадзягу. Сіямскага ката.
Міліцыянер. Бабушка! Тут пахне штрафам. Папярэджваю. Вашы жартачкі пахнуць...
Арына Радзівонаўна. Не чую. *(Прынюхваецца.)* Мне не пахне.
Міліцыянер. Іменна вам пахне. Вясёлая бабка. Проста шкада штрафаваць. Люблю вясёлых. А прыйдзецца.
Арына Радзівонаўна. Каго штрафаваць? За што?
Міліцыянер. За тое, што ў вас незаконна, без прапіскі пражывае...
Арына Радзівонаўна. Хто?
Міліцыянер. Не знаю.
Арына Радзівонаўна. Дзе? *(Паказвае па хаце.)*
Міліцыянер. Не ведаю.
Арына Радзівонаўна. Ну во! Не знае хто, не ведае дзе, а грозіць штрафам.
Міліцыянер. Не гражу, а папярэджваю. А трэба будзе, знайду хто, знайду — дзе. Не сёння, то заўтра. Я заўтра раней прыйду.
Арына Радзівонаўна. А ты, саколік, прыходзь нанач. Калі жонка адпусціць.
Міліцыянер. Бабушка! І чаму вам хочацца раззлаваць мяне? Навошта нам з самага ранку псаваць адзін другому добры настрой? Псаваць нашы адносіны?
Арына Радзівонаўна. Залаты мой, любы мой! *(Круціць яму гузікі.)* А ці ж я да цябе прыйшла ў такую рань псаваць табе добры настрой? А можа, ты сам прыйшоў псаваць нашы адносіны?
Міліцыянер. Я не сам. Мне загадана. Праверыць сігнал.
Арына Радзівонаўна. Скажы, саколік, а хто ж гэта данёс? Хто прасігналіў?
Міліцыянер. Няважна хто. Быў сігнал.
Арына Радзівонаўна. Ах, сто ліхаў яго матары.
Міліцыянер. Каму?
Арына Радзівонаўна. Таму, сіваму каню.

Міліцыянер. Бабушка! Арына Радзівонаўна! Самі не прызнаецеся — высачу. А высачу — злей буду.

Арына Радзівонаўна. І злых не баюся. Будзеш злым — сабе ж горай. Ты добрым будзь, спагадлівым. І табе лягчэй, і людзям прыемней. Ты па-добраму.

Міліцыянер. Ох, гэта дабрата! А вы знаеце, хто можа пакарыстацца вашай дабратой?

Арына Радзівонаўна. Ну хто? Ну, пакарыстайся і ты. Людзям жа дабраты і не хапае. Дэфіцыт. І імпартную не прывязеш. Сваю трэба гадаваць. Вот і ты па-добраму з людзьмі. Ты думаеш — гэта так цяжка быць добрым? Ты толькі захаці.

Міліцыянер. А вы ж па-добраму не хочаце? А? А мне строгі загад: выясніць і далажыць. І тэрмінова. А што я далажу?

Арына Радзівонаўна. А тое, што ўбачыў. Ніхто не пражывае.

Міліцыянер. Але ж нехта пражывае? За плату?

Арына Радзівонаўна. Як табе не сорамна? Дзе пражывае?

Міліцыянер. Тут.

Арына Радзівонаўна. Хто пражывае?

Міліцыянер. Не ведаю.

Арына Радзівонаўна. Ну, во, з чаго пачалі, тым і завяршылі. Сокал мой ясны! І таму ты так рана падняўся? Відаць, і не паснедаў яшчэ? Можа, табе кубачак кавы згатаваць?

Міліцыянер. Бабушка! Кавы? А можа, чарку? А? Гарэлкі ці віна?

Арына Радзівонаўна *(унюхаўшы нейкі пах)*. Не, унучак, дзякую. Я не п'ю. І табе не раю так рана. Няхай яе на сухі лес, гар тую.

Міліцыянер. Ну, вясёлая бабуля! Аж зайздросна. Дык што? Расходзімся з нічэйным лікам? А? Нуль-нуль?

Арына Радзівонаўна. Нуль-нуль.

Міліцыянер. Значыць, вы адна?

Арына Радзівонаўна. Адна.

Міліцыянер. Сумнавата адной.

Арына Радзівонаўна. А што зробіш? Праўда, я пісала заяву, прасіла, каб далі дазвол на прапіску...

Міліцыянер. Не далі дазвол?

Арына Радзівонаўна. Не далі.

Міліцыянер. Значыць, самавольна парушаеце?

Арына Радзівонаўна. Ну, а... як мне? Адна

я... Ты ведаеш, што такое — адзінота? Калі адна... саўсім... А?

Міліцыянер. Ну... прыкладна, ведаю. А як жа?

Арына Радзівонаўна. Не саколік, не ведаеш. І дай бог... каб доля твая абмінула гэта... у абход правяла. Кожынны раз — ці ўдзень, ці ўначы — у сенях ляпне хто-небудзь і мяне — як токам. Устрапянуся і — чакаю... Я ўсё жыццё чакаю. Надзеюся і чакаю. А ўжо апошнімі гадамі і не надзеюся, а чакаю, што вот прыйдзе ён... хоць хто-небудзь з іх увойдзе ў хату і — прынясе мне шчасце і радасць... Не, не прынясе, а ён будзе і радасцю, і супакаеннем. Хай сабе паранены, хай сабе калека, хай нават хворы!.. А — не прыходзіць. І ўжо многа, многа год. Нехта ўваходзіць, выходзіць, ляпаюць дзвярыма, а не ён... Толькі трывожаць. І ведаю ўжо, і знаю, што ніхто не прыйдзе, цуда не будзе... Ах, як шкада, што цуда не бывае!.. А іншы раз ляпнуць дзверы... тыя, уваходныя... Асабліва ноччу... І мне здаецца: пайшоў! Ён выйшаў! Назаўсёды! І ніколі не вернецца... Як жа гэта я? Праваронiла? Праспала? Пакрыўдзіла яго няўвагай, слепатой сваёй! Не заўважыла! Не прыгалубіла! А ён жа быў! Прыходзіў! І пайшоў! І так журботна, так сумна, такая крыўда на сябе, на дурніцу, на сляпую. Быў і пайшоў. І не прыйдзе. Ты разумееш, саколік, што такое — калі адна? Што такое адзінота?

Міліцыянер *(спасцігае яе сітуацыю)*. Бабушка! Што вы ў мяне пытаеце?! Такіх пытанняў мне... ні на якіх экзаменах не задавалі. Закон — ёсць закон. І кропка. І я павінен... Бывайце здаровы, бабушка! *(Пайшоў да дзвярэй.)*

Арына Радзівонаўна. Бывай здароў, саколік.

Міліцыянер *(вяртаецца)*. Я вам не нагрубіў?

Арына Радзівонаўна. Не.

Міліцыянер. Я вас не пакрыўдзіў?

Арына Радзівонаўна. Не. І я табе хабар не давала.

Міліцыянер. Не. Кава — не хабар?

Арына Радзівонаўна. Я ж і кавы не дала.

Міліцыянер. Службовы абавязак не дазваляе.

Арына Радзівонаўна. Значыцца, нуль-нуль.

Міліцыянер. Нуль-нуль. *(Казырае.)* Жадаю здраўстваваць!

Арына Радзівонаўна. Будзь шчаслівы. *(Праводзіць участковага за дзверы.)* А настрой усё-такі сапсаваў. *(Пасміхаецца.)* І не такі ён ужо злы. А што правіль-

ны, дык... Яшчэ не адзеравянеў. Закон і чалавека часам можа зрабіць дышлам:.. а то і аглаблёй.

Рэзкі званок у дзвярах.

Ну хто там? Не замкнёна, заходзь.

Уваходзіць суседка Маня.

Маня. О-о, Арына Радзівонаўна на нагах. Добрай ранічкі вам! Вы такая светленькая, свежанькая, толькі крышку невясёленькая. Гэта ён у вас быў?

Арына Радзівонаўна. Хто?

Маня. Участковы.

Арына Радзівонаўна. Быў.

Маня. Чаго?

Арына Радзівонаўна. Хто яго ведае. Прыйшоў, паглядзеў, пайшоў.

Маня. А ў мяне дапытваўся. Во тут, на ступеньках, сустрэліся.

Арына Радзівонаўна. Пра што?

Маня. Пытаецца: хто жыве з Арынай Радзівонаўнай?

Арына Радзівонаўна. А ты?

Маня. Не ведаю, кажу. Можа, і ніхто. Яна ўжо старая для такой справы.

Арына Радзівонаўна. Распусніца! А ён?

Маня. Суседка, кажа, павінна знаць. А я яму: а ты чаму дапытваешся? Можа, кажу, сам хочаш клінкі падбіць да старой? Маладыя ўжо прыеліся?

Арына Радзівонаўна. Як табе не сорамна? Так і сказала?

Маня. Так і сказала. Сказала: ты б да мяне падлабуніўся. Ці баішся мужа? Ён у мяне баксёр.

Арына Радзівонаўна. Самадайка ты!

Маня. А ўсіх іншых, думаеце, гвалцяць, насільнічаюць? А ён: не спакушай, кажа. А то і да граха недалёка. Нахабнік! Недарма, кажа, пра цябе гавораць: самадайка. І рвануў цераз тры ступенькі, галёкаючы. Во, нахал! А? *(Смяецца.)* Ну — нахабнік! *(Аж заліваецца.)*

Арына Радзівонаўна *(таксама смяецца)*. Абое рабое.

Маня *(раптам)*. Гэта ён праўяраў — ці жыве ў вас Верка.

Арына Радзівонаўна. А ты здагадлівая.

Маня. Нехта ж вот накапаў, настукаў. Ён другі раз сюды прыходзіць.

Кароткі званок. Ляпнулі дзверы. У пакой упырхнула пташкай Верачка, бадзёрая, рухавая.

Верачка. Вот і я. Бабуся! Ну, як ты тут? Зараз памераем ціск. А потым укольчык. Добрай раніцы, бабуся! *(Цалуе бабусю ў шчочку.)* Салют, Маня!

Маня. Салют!

Верачка заносіць на кухню авоську з хлебам і яшчэ нейкімі прыпасамі.

Арына Радзівонаўна. Маня! *(Строга.)* Ты пры ёй не прагаварыся пра міліцыю. Хай не ведае. Будзе думаць толькі. А ў яе зноў экзамены. Трэці раз паступае на медыцынскі.

Маня. Во, упартая. Во, ужо доктар будзе!

Арына Радзівонаўна. Не гавары ёй. Пасля дзяжурства хай паспіць трохі, дый за кнігі. Не гавары.

Маня. Ну што вы, Арына Радзівонаўна?! Не разумею хіба.

Арына Радзівонаўна. Ёй светлая галоўка трэба.

Маня. Ну, я пабегла. Дачка адна. Мусіць, прачнулася ўжо. Верачка! Перадаю табе бабусю з рук у рукі свежанькую, вясёленькую і спраўную: нідзе не гуркоча, не буркоча.

З кухні прыходзіць Верачка.

Верачка. Зараз праверым, ці спраўная. Праверым ціск.

Маня выходзіць. Верачка мерае ціск.

Арына Радзівонаўна. Ну, як твая «хуткая» сёння? Нікуды не спазніліся? Ці — «сама рэжа, сама давіць, сама памач падае».

Верачка. Бабуся! Пакрыўджуся! Ну, дапякаюць нам гэтыя старыя. Сёння выклікае адна такая вот старушэнцыя ні свет ні зара. Прыязджаем, званім, званім, ніхто не адкрывае. А ведаем: адна жыве. Ну, думаем — спазніліся. Я з усяе сілы па званок. Аж у вокнах шыбы дзынкаюць. Прыслухаліся. Чуем: шлёп-шлёп. Адчыняюцца дзверы, і на парозе заспаная старушэнцыя. «Што вам так рана трэба?» — «Ды вы ж выклікалі «неатложку».— «Я ж думала: добра, калі вы прыедзеце к адзінаццаці»,— і за-

крывае дзверы. «Але ж вы самі вызывалі!..» — «Нічога, прыедзеце к адзінаццаці. Я для вас рэвалюцыю рабіла, а вы мне выспацца не дасцё?» І перад носам захлопнула дзверы. Ну?

Арына Радзівонаўна. Што — ну? Цара спіхнуўшы, не вам жа патураць. Гадоў пад дзевяноста? Персанальная?

Верачка. Ымгу... *(І раптам радасна.)* Бабуся! Ты ў нас ма-ла-дзец! Ты ў нас арол сцяпной, казак ліхой! У цябе ціск сто трыццаць пяць на дзевяноста. У тваім узросце гэта... Тэмпература? Нармальная. Тварык бадзёранькі, у вочках чорцікі гуляюць. Ты — Сценька Разін!

Арына Радзівонаўна. А дзе ж мая папаха, шабля і баявы конь?

Верачка. Папаха твая вось! *(Тыцнула ў рог падушкі кулачком і надзела бабусі «напалеонаўскую трохвуголку»).* Шабля твая вось! *(Імгненна прыносіць з кухні вялізны кухонны нож.)* А вось табе конь баявы!.. Не, гэта не конь, а распісны човен. *(Садзіць бабусю ў крэсла і гушкае яе, а потым, гарэза, пяе.)*

На пярэднім Сценька Разін... Топай-топай!
З маладой сядзіць княжной... К верху попай!
Пазадзі іх чуцен ропат... Топай-топай!
Нас на бабу прамяняў... К верху попай!..

Арына Радзівонаўна *(шлёпае ўнучку па мяккаму месцу).* Ах ты грубіянка! Ах ты хуліганка! Во табе!..

Верачка. А чаго ж ты плачаш, бабуся?

Арына Радзівонаўна. Ад таго, што ты такая... Ад таго, што ты са мной... Як бы я ды без цябе?..

Верачка. А я без цябе як? Як, а? Так жа, як і ты без мяне!

Бабуся лашчыць унучку і нібы казку баіць.

Арына Радзівонаўна. Вось стрэнецца табе добры моладзец... Возьме ён цябе ў жоначкі... І ты будзеш любіць яго... а ён — цябе. Народзіце вы сабе многа дзетак і будзеце шчаслівымі... Ласкавымі... Вясёлымі... А я...

Верачка. Як у казцы. І ты з намі. А чаму многа дзетак? Цесна будзе. Кватэры цяпер невялікія будуюць. *(Уздыхнула.)*

Арына Радзівонаўна. Таму што... *(Сур'ёзна.)* Трэба многа дзетачак, Верачка. Таму што... Лепей у цеснаце, чым у адзіноце. Вот у мяне было тры сыны і дзве

дачкі. А прыйшла вайна і пабрала сыноў. Зграбла... Я і апомніцца не паспела. Паўлуша пад Курскам галовачку злажыў. Ездзіла я туды на магілку. Пад зорачкай ляжыць. Перад школай. А Сцяпана пад Будапештам пахавалі ў брацкай магіле. За граніцай. Не з'ездзіла я туды. Хай даруе мне сынок.

Верачка. Не трэба плакаць, бабуся, а то расхвалюешся — ціск падскочыць. А табе пасля інфаркту лішні ціск — гэта прадмет раскошы, бабуся. *(Выцірае старой вочы.)* Не трэба. *(Строга.)* Ты павінна мяне слухаць. Не плач!

Арына Радзівонаўна. Ну не буду, не буду. А Васёк хоць і вярнуўся з вайны, ды скалечаны. Прамучыўся нябога. Колькі гадоў лячыўся, лячыўся ўсё...

Верачка. Ну, бабуся! Ізноў?

Арына Радзівонаўна. Я ж не плачу, Верачка. І ў шпіталях, і ў санаторыях. Не памагло. Памёр. А надзеяўся папраўіцца, падужэць. Не дождалася я... Не падужэў. У санаторыі і памёр.

Верачка. Бабуся! Ты ўсё гэта мне ўжо расказвала. Я ўсё гэта ведаю, мне не нова.

Арына Радзівонаўна. А мне нова, а мне свежа ўсё. І ўсё не верыцца мне. Быдта сон...

Верачка. Бабу-уся!

Арына Радзівонаўна. Я ж не плачу. Ну, паглядзі. Я ж не плачу? Не плачу.

Верачка. А душа плача. Я ж чую. І вочы паўнюткія. Толькі ты не пускаеш: ты слязу дзяржыш. Дай я выцалую слёзы твае.

Арына Радзівонаўна. Ласачка ты мая.

Верачка. Бабуся! Бабуся! *(Хоча адвесці старую ад горкіх успамінаў.)* А ты знаеш, колькі я нараджаю? Ты знаеш? Штук восем хлопцаў.

Арына Радзівонаўна. І дочкі таксама трэба.

Верачка. Дачок? Штукі тры хопіць? І то — калі добрыя будуць. Адкуль жа возьмуцца бабусі, калі без іх? Такія добрыя, як ты.

Арына Радзівонаўна. Ах ты, шчодрая мая! Ах ты, душэўная мая! Аж восем штук! Ну, дай бог!..

Верачка. Бабуся! На бога спадзявайся, ды сама не варонь!

Верачка выходзіць на кухню.
Развесяліліся старое і малое. Ды ўсмешка з твару Арыны Радзівонаўны паволі сціраецца, і ўзнікае трывога.

Арына Радзівонаўна. Верачка! Верачка!

Вяртаецца Верачка з двума кубкамі малака.

Верачка. Бабуся! *(Спалохалася.)* Што з табой?

Арына Радзівонаўна. Верачка, хто ён?

Верачка. Хто?

Арына Радзівонаўна. Ён.

Верачка. Ты пра што, бабуся?

Арына Радзівонаўна. Унучачка! Родная мая! Ты ж не таіся. Не трэба. Ад мяне не ўтоіш. Ён ёсць!

Верачка *(ніяк не асмеліцца прызнацца)*. Н-ну, бабуся...

Арына Радзівонаўна. Бачу — ёсць.

Верачка. Хто?

Арына Радзівонаўна. Ён.

Верачка. Ён? *(Патупіла вочы.)* А як ты дагадалася?

Арына Радзівонаўна. А так вот — асяніла. Галубка ты мая! Ясачка, павачка, ластавачка ты мая! Як жа тут не дагадацца? Гэта ж трэба так некага пакахаць, так палюбіць яго, каб захацець аж восем сыноў і тры дачкі!

Верачка. Бабуся! Але ж ты сама сказала, што трэба многа сыноў.

Арына Радзівонаўна. Любая мая! Але да гэтага яшчэ не дайшло. Трэба напачатак хоць бы замуж выйсці, а тады ўжо.

Верачка. Дык ён і просіцца, каб я выйшла... замуж.

Арына Радзівонаўна. Верачка! Ты што? Сур'ёзна?

Верачка. Я жартую, я кожны раз кажу яму: заўтра. А ён... а ён... *(Стрымала слязу.)* А ён вельмі сур'ёзна. А што я яму скажу? Я ніяк не асмелюся. Я баюся. І наогул... баюся я...

Арына Радзівонаўна. Ну, канечне. Бедненькая...

Уваходзіць Ганна Ісакаўна без званка.

Ганна Ісакаўна. О! А яны зноў сядзяць, як курыцы. І нічога не ведаюць. Да нашай суседкі, да Мані, прыходзіла міліцыя. Вы не ведаеце чаго? Нешта набедакурвіла?

Верачка. Набедакурыла.

Г а н н а  І с а к а ў н а. Я правільна сказала. Я ведаю, што я гавару. Я ж бачыла сама. Ён дапытваў яе ў клетцы ў лесвічнай. Яна яшчэ яму ў твар хах-ха-хакала. Яна такая.

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а. Не, міліцыянер да нас прыходзіў. Да Верачкі. Малады! Убачыў яе і...

Г а н н а  І с а к а ў н а. О-о! А-а-а... Але навошта вам іменна міліцыянер?

В е р а ч к а *(смяецца)*. Для смеласці. Усё-такі з пісталетам.

Г а н н а  І с а к а ў н а. З пісталетам? У яго ствол заткнуты анучкай з маслам. Гэта сказаў мой Яфім. А ён ведае, калі кажа. Калі да вас, то я спакойна. Але, Верачка, я хачу папрасіць цябе зноў. Дай майму Яфіму зноў таблетку соды. Толькі зноў скажы, што гэта новы прэпарат і швейцарскі. Ён верыць, і яму памагае. А доктарка сказала, што аніякіх лекаў яму даваць нельга — у яго алергія. Але ён не можа без таблетак. Так прыйдзеш? Ён табе верыць. Як мне. Нават болей. Я яму інагды маню, і ён верыць гэта. А ты для яго аўтарытэт. Як прафесар. Мы трошкі дзіўныя людзі, але мы людзі.

В е р а ч к а. Добра. Прыйду. Трошкі пазней.

Г а н н а  І с а к а ў н а. Дык Маня яму проста ў твар нахабна смяецца. А? Ну — не дзіва? Проста так — ха-ха-ха. Ад яе гэта... Не, нешта не тое. *(Выходзіць.)*

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а *(разглядае Верачку)*. А я? Старая варона! Як жа я празявала?! І даўно ты яго ведаеш? Даўно вы страчаецеся? Распранайся, ляж паспі пасля дзяжурства.

В е р а ч к а *(ківае галавой)*. Даўно. Ужо трыццаць восем дзён! *(Уздыхнула.)* Даўно ўжо! *(Распранаецца. Здымае з вешалкі халат.)*

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а. Трыццаць восем дзён?! *(Аж рукамі пляснула.)* Ды гэта цэлая вечнасць! І толькі ўчора рашыў ажаніцца? Ну, маруда! Ну, разявень! Цяляпень нейкі! Толькі ўчора? А?!

В е р а ч к а. Не ўчора, а ўжо шосты дзень. І не ў тым справа. *(Пакрыўдзілася.)* Бабуся! Ты ўсё думаеш, што я маленькая дзевачка, што я з дзетсада. А я ўжо дарослая. Я — нявеста. Паглядзі. *(Падыходзіць да люстэрка, красуецца, дэманструе свае жаноцкія вартасці.)* Я — жанчына! Спелая!

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а. Верачка! Бог з табой! Што ты гаворыш? Якая жанчына? Як ты смееш?!

В е р а ч к а *(спалохалася за бабку)*. Бабуся! Ну што ты? Я не ў тым сэнсе. Я ў тым, што... Ну сама паглядзі, як я аформілася. *(Зноў какетнічае перад люстэркам.)* І валасы доўгія, і розум кароткі, і ўсё астатняе, што ў жанчыны павінна быць. А ты бог ведае што падумала. І ноздрыкі аж запыхкалі. О! Дай-ка твой пульс. *(Бярэ руку бабусі і падлічвае пульс.)* Ну вось! Дзевяноста шэсць. Ах, бабуся ты, бабуся. Ці ж так можна хваляваца? Па пусцяку? Вот я табе зараз укол шпырну. Вот я цябе зараз забадаю, забадаю, забадаю...

А р ы н а Р а д з і в о н а ў н а. Які ж гэта пусцяк? Унучачка, галубка! Замуства — не пусцяк. Гэта ж на ўсё жыццё — або шчаслівая, або няшчасная. Несур'ёзны ён. Які ж ён жаніх? Месячны ўхажор і... жаніцца? Вертапрах нейкі. З ветрыкам.

В е р а ч к а. Не, бабуся, ён сур'ёзны!

А р ы н а Р а д з і в о н а ў н а. Несур'ёзны!

В е р а ч к а *(настойліва)*. Вельмі сур'ёзны! Самастойны. Удумлівы. Футболам і хакеем не захапляецца. Не курыць. Кінуў ужо.

А р ы н а Р а д з і в о н а ў н а. Ён старэй за цябе?

В е р а ч к а. Старэй. На чатыры гады і дваццаць восем дзён.

А р ы н а Р а д з і в о н а ў н а. А як наконт гэтага? *(Бабуся шчоўкнула сябе па шыі.)*

В е р а ч к а. Не п'е. Але ты яго навучыш.

А р ы н а Р а д з і в о н а ў н а. Ну, не злуйся, не злуйся. Навучу. Не цяжка. Але скажы мне: то куды ён так спяшаецца, жаніх твой?

В е р а ч к а. Не ведаеш куды? За пазуху.

А р ы н а Р а д з і в о н а ў н а. Ах ты, блудлівая ты каза! Я думала, што мая ўнучка — недатрога, а яна во што — хлопцы пасуцца ў яе за пазухай.

В е р а ч к а *(з жахам)*. Не, бабуся, не! Што ты?! Што ты гаворыш? Як у цябе язык павярнуўся? Якія хлопцы?

А р ы н а Р а д з і в о н а ў н а. Ды ты ж сама сказала, куды ён спяшаецца. Значыць, нешта было? А?

В е р а ч к а *(сарамліва)*. Бабуся! Адзін-адзіны разочак ён паткнуўся... і то — каб... Мне самой так захацелася адчуць яго руку... тут... На адну секундачку. Клянусь табе, бабуся. Я яму тут жа па руках надавала. Ён прасіў прабачэння, ён слова даў... больш не чапаць без... Бабуся, любая, ты верыш мне? Адзін, толькі адзін разочак...

Арына Радзівонаўна. Веру, веру, пакутніца ты мая, бедненькая. Ці ж я сама не млела?.. *(Падыходзіць да люстэрка і паспрабавала пакрасавацца, як толькі што рабіла гэта ўнучка. Ды толькі ўздыхнула.)*

Верачка. А рукі ў яго... *(Успомніла.)* Бабуся! Ты ведаеш? У яго залатыя рукі! Ён у канструктарскім бюро робіць. І калі трэба вытачыць самыя тонкія, мудроныя дэталі — яму даручаюць. У яго такі аўтарытэт! Не кожны інжынер сумее так, як ён. На ювелірную работу яго рукі здатныя. Вот!

Арына Радзівонаўна. І такія рукі ты не пускаеш за пазуху?

Верачка. Вот ты, бабуся, несур'ёзны чалавек. І нават распутная.

Арына Радзівонаўна. А з віду ён хоць...

Верачка. О-о! Бабуся! Калі ён заходзіць на танцы, у залі аж хруст: у дзяўчат скручваюцца шыйныя пазванкі. А ён нікога не заўважае, наўпраасткі, цераз увесь зал — ка мне. Усе дзяўчаты так зайздросцяць мне. Яны аж сікаюць за ім. А ён... *(Паказвае, з якой пагардай хлопец абмінае дзяўчат і злева, і справа.)*

Арына Радзівонаўна. Так нікога і не заўважае?

Верачка. Апроч мяне — нікога.

Арына Радзівонаўна. Або дзяўчаты — замухрышкі, альбо ён — ганарысты парсюк.

Верачка. Я не пагляджу, што ты Арына Радзівонаўна. За яго... За абразу — на дуэль!

Арына Радзівонаўна. Верачка! Няўжо ты за нейкага там... паднімеш на мяне пісталет?

Верачка. Я зубамі, зубамі, бабуся! У мяне яны вострыя. А танцуем, дык... бабуся! А ты мяне недаацэньваеш. Ты паглядзі, паглядзі — ёсць жа да каго імкнуцца! Цераз увесь зал. А?

Верачка. А калі пойдзем з ім танцаваць...

І Верачка паказала, колькі страсці, колькі какецтва, колькі жаноцкасці яна ўкладвае ў танец. Які жар, якую пылкасць можа выклікаць яе маладое, гібкае, прыгожае цела, колькі тамлення, жадання, чакання выказвае яна танцам.

Арына Радзівонаўна *(налюбаваўшыся)*. І я была маладая... *(Ах, як прыемна ўспомніць маладосць. Хацела пакрасавацца разам з унучкай перад люстэркам, ды...)* А цяпер — старая малпа. Верачка! Гэта ж не-

прыстойна! Хіба можна так? Так жа сорамна. Гэта што? І ўсе так танцуюць?

Верачка. Чаго захацела — усе. Куды там усім...

Арына Радзівонаўна. Але ж гэта адкравенна — зазываеш. Так выгінацца? Ды калі б я не ведала цябе, то бог знае што можна пра цябе падумаць...

Верачка. А для чаго танцы? Такія танцы рыхтуюць дзяўчыну для выканання сваёй жаночай павіннасці... у пасцелі.

Верачка. Замужам трэба быць паваротлівай... Эластычнай!..

Арына Радзівонаўна. Вот цяпер я ўжо веру — ты пераспела...

Верачка. Бабуся! Ты пра мяне не думай блага. Я харошая, я — чыстая.

Паўза.

Арына Радзівонаўна. Ну і што ж нам цяпер? А? Як нам цяпер?

Паўза.

Арына Радзівонаўна прытуліла ўнучку да грудзей, лашчыць яе. А потым ціха заспявала. Ёй хораша ўторыць Верачка. Відаць, што яны даўно спеліся.

Сладку ягоду брали вместе...
горьку ягоду я одна...

Верачка. І як нам цяпер? Не ведаю, бабуся. Я толькі... Вот не было яго, не ведала яго — ці мне весела, ці плакала я, лашчыла ты мяне, ці мяне крыўдзіў хто — ты была для маёй душы прытулак, бабуся. Вот з мамай я не магу так, а табе ўсё расказваю... Ты ўсё, усё разумееш. І я цябе.

Арына Радзівонаўна. Ну, канечне, разумею. Я разумею цябе, Верачка! Ну, расказвай. А цяпер як? Калі яго спазнала. *(Не скрываючы трывогу.)* Скажы мне, ясачка.

Верачка. Вот расказваю пра яго, і мне не сорамна. А? Бабуся! А сама млею. Вот нібы я са снегу і я таю. І страшэнна баюся — растаю ўся да вечара і яго не пабачу. Я заўсёды першая прыбягаю на спатканне. Нехарашо ж гэта? Праўда? Бабуся! Я і сама знаю. Вот знаю, а бягу. Сама. Прыбягу, і сэрца аж замірае: вот растану ўся. Ён прыйдзе, а мяне няма. Толькі сырое месцейка. А? Жах які! Ты падумай, які ў яго жах будзе, калі на яго вачах я — растаяла. Толькі туманок... і няма.

Арына Радзівонаўна. А ён ведае, што ты так?

Верачка. Ён? Не знаю. Ён прыйдзе, возьме руку, губу кусае, а ў вачах радасці столькі... ласкі столькі, і... здаецца — ну, вот-вот сляза пакоціцца... Не, бабуся, ты не думай, што ён які-небудзь хліпкі. Ён знаеш які? У плячах — во! Ростам я яму, можа, толькі па плячо і то — на дыбачках. Я на яго во так гляджу. *(Задзірае галоўку ўгору і замілавана глядзіць. Арына Радзівонаўна любуецца ўнучкай.)* Я яго вельмі люблю, бабуся. Да слёз. Што ты маўчыш, бабуся? Скажы, што сорамна так прызнавацца.

Арына Радзівонаўна. Ну і хвала богу. Родненькая ты мая! Дай бог табе шчасцейка!..

Верачка. Канечне, сорамна так... прызнавацца, ды... Ну я так перапоўнена, што мне трэба выплеснуць, а то лопну. А каму? Толькі табе. Ты — мая лепшая падруга. Ты — мая спавядальніца. Ты — мая скарбонка, шкатулка для самых дарагіх рэчаў.

Арына Радзівонаўна. Ну дзякуй, мілая ты мая!

Верачка. З мамай у мяне не так. Не, яна не благая. Яна толькі затурканая... І наш бацька п'е. Яна неяк... Ёй неяк не хапае часу выслухаць уважліва. І так усё жыццё: усё спяшаецца некуды, усё не да таго ёй. Учора я паспрабавала сказаць ёй...

Арына Радзівонаўна. Пра моладца?

Верачка. Пра моладца. Ой, бабуся! Я цяпер так і буду яго зваць: мой моладзец! *(Прымярае гэтае слова да свайго каханка.)* Мой моладзец... Моладзец... Ой!..

Арына Радзівонаўна. Ну і што ж табе мама?

Верачка. Я не ўсур'ёз. *(Па-змоўніцку.)* Я пакуль што нібы жартам. Учора я забегла дамоў. А там сабралася ўся наша сямейка. Цесната-а... Я нават сказала: «Не хата, а вігвам. Не сям'я, а племя. Ну племя папуасаў! Усе ў зборы!» Адзінаццаць чалавек у хаце. Шум, гармідар, цесната. Маці жаліцца — галава баліць. Кажа: «Хоць ты падпалі гэтую клапоўню ўласную. Хоць бы разбрыліся. Можа, далі б па кватэры». А бацька: «І падпалю,— кажа.— Надаела,— кажа,— у канец агарода бегаць. Асабліва пасля піва». Ну, я ім і падкінула: «Я магу вам памагчы. Як адзін рэбэ раіў. Прывяду вам у хату яшчэ аднаго казла. Замуж выйду і прывяду. Ды такога, каб ад яго вам цясней стала: во такеннага! Ды з поравам! Ды курца!» І знаеш, бабуся, усе адразу... прыціхлі. Толькі адзін на другога пазіраюць. «А праз паўгода,— кажу,— гэтага казла выпхну, і

вы адразу адчуеце: не такая ўжо ў вас і цесната цяпер». А мама: «Ты глядзі, дачушка, гэтым не жартуй. Трэба падаждаць. Дадуць жа некалі Валерыю кватэру. Колькі ж можна ў такой загародцы чацвярым? А баця сваё: «Трэба ждаць, дочка. А каб не сумна было ждаць, збегай за паўлітэркай». Не пайшла я. Сюды пабегла. Па дарозе слязу выцерла. А для іх усё маё трапятанне — толькі жарт. Так жартам і засталося.

Арына Радзівонаўна. Сумны жарт. Трэба ждаць.

Верачка *(весела)*. Бабуся! А куды нам спяшацца?

Арына Радзівонаўна. Калі ўзяла такія павышаныя сацабязацельствы — на трох дачок і восем сыноў, то трэба тэмпы, тэмпы, тэмпы. Адклад не ідзе на лад. А што ён думае? Калі ён моладзец, то нешта ж павінен прыдумаць. Я так дагадваюся — ён таксама, як верабей, пад чужым дахам.

Верачка. У заводскім інтэрнаце пакой на трох хлопцаў. Ён жа дзетдомавец.

Арына Радзівонаўна. Ён сірата?

Верачка *(смяецца)*. Ён — сірата? Ён — моладзец! Ён ніякіх цяжкасцей не баіцца. Ён заве мяне на БАМ! У Сібір! На Камчатку! Хоць к чорту лысаму ў зубы! Не прападзём, кажа. Мы самі кавалі сваёй долі! А ты — «сірата»... Бабуся! А што, калі і праўда — паеду з ім хоць куды? А там, як толькі ўладкуемся, спачатку ён паедзе, знойдзе куток, а потым і я, а потым і цябе забяром. А? *(Сумна.)* Не, бабуся, цябе і на адзін дзень нельга пакідаць. Ой! Табе ж укол трэба рабіць. Доктар заругае. Яна строгая ў нас.

Арына Радзівонаўна. Галубка мая, ты на мяне не глядзі, рабі так, каб табе лепей. У цябе ўсё наперадзе, а я ўжо як-небудзь. Я табе не стану памехай. Я і так табе дзякую, роднае ты маё зернетка. Толькі ж ты прыгледзься да яго. Не ныряй з кручы, ясачка. Паказала б ты мне яго, а то душа неспакойная будзе... Ягадка ты мая, сунічка ты мая. А?

Верачка. Ой, што ты, бабуся? Так адразу?

Арына Радзівонаўна. А што? Замуж адразу можна, а паказаць нельга? У Сібір гатова, а запрасіць у госці — баішся? Ну, значыць, не такі ён, як ты размалявала. Вахлак які-небудзь, галабурда, целяпень, ды яшчэ рыжы, напэўна.

Верачка. Які рыжы? Які вахлак? Бабуся! Ты што?

Ды ён такі... Ён нават лепшы... Я нават апасаюся паказаць яго табе. Адаб'еш. Знаю я гэтых мацярэй-адзіночак...

Арына Радзівонаўна *(падыгрывае)*. Не бойся! Я ж ужо бабулька-адзіночка. Не стану я тваёй разлучніцай.

Верачка. А цяпер пайшлі такія бабулькі, што пальца ў рот не кладзі. Аб'ягораць, і азірнуцца не паспееш. З іх вопытам. Бабуся! Ідзі-тка кіпяці шпрыц, а я мігам у аптэку. Табе тут выпісалі цэлы патранташ ампул.

Арына Радзівонаўна. Во, кіпяці... А ў нас жа запалкі выйшлі.

Верачка. Куды?

Арына Радзівонаўна. Твайго суджанага шукаць. Збегай, у суседа папрасі, у курца.

Верачка *(спахмурнела)*. Ну яго... Не пайду я. Я лепей у магазін збегаю.

Арына Радзівонаўна. Нешта ты неўзлюбіла іх. А з суседзямі трэба ладзіць. Мала што...

Верачка. А што мне з імі ладзіць?

Тэлефонны званок. Бабуся паднімае трубку.

Арына Радзівонаўна. Я слухаю... Ало... Ало! Калі з аўтамата, то... Ало... Верачку? Можна. Так бы адразу... а то маўчыць. Нейкі нясмелы. Цябе. *(Перадае трубку ўнучцы.)*

Верачка. Ну я слухаю. Я. А-а, гэта ты. Ну, прывет. Прывет, добры моладзец! Ты — добры моладзец. Толькі нясмелы. І несур'ёзны. І ветраны. І спяшаешся. Я ведаю куды. Мая найлепшая падруга так сказала. Вот ведае. І не бачыла, а ведае. Не, яна сур'ёзная. Як ты смееш? Яна разумная. Ну што ты? Яна не ветраная. Харошая. Ласкавая. Добрая. Яна вельмі хоча пазнаёміцца з табой. Мала, што... Ты павінен... абавязкова. А я хачу. Яна табе не трэба? Ну, знаеш... Таму, што яна — самая ісцінная, самая верная, самая шчырая. А што? Ну і што? Што-што? Ну дык што? Не. Не-не. Не-а, што ты?! Не-а. Не-а. Не! Сёння. Калі не сёння, то... Тады ўбачыш што. Гэта яна сказала, што ты моладзец. Вот і праверым. Запомні: яна — адзіная, на ўсё жыццё. Такой у мяне больш ніколі не будзе. Ну тота ж. Глядзі — не пазніся! Роўна-роўна. Жду. Ждзём. Тэлеграму? Якую тэлеграму?

Арына Радзівонаўна. А што — не? Прыйдзе?

Верачка. Апасаецца. Бабуся! Калі дзяўчына ка-

жа — не, то гэта азначае — магчыма. Калі яна кажа — магчыма, азначае — згода.

Арына Радзівонаўна. Фу! Балаболка! Дзе ты набралася такога? І не сорамна?

Званок. Верачка ўпускае суседку Маню.

Маня. Ой, Арына Радзівонаўна! Добры дзень. *(Ліслівa.)* Вы так добра выглядаеце. Ну проста — бабка-ягадка свежанькая. *(Да Верачкі.)* А ты сёння не на рабоце?

Верачка. Я толькі што з дзяжурства.

Маня. А мяне падруга просіць, каб я за яе паўзмены аддзяжурыла.

Арына Радзівонаўна. І зноў падруга?

Маня. Чэснае слова, падруга. Я і так, і гэтак аднеквалася, а яна прыстала. Пашыць нешта хоча, а там жывая чарга. У камбінаце бытабслугі.

Арына Радзівонаўна. Пакуль яна ў чарзе, мне за дачкой тваёй прыглядзець?

Маня. Ну, то Верачка можа...

Верачка. Не, не, Маня! Я не... Я... баюся я. Не магу!

Маня *(смяецца)*. Верачка! Ты не бойся! Ты нічога не бойся. Я павыганяла чарцей. Аж мутарна ім стала.

Верачка *(папярэджвае)*. Маня! *(Раздзельна.)* Я не ма-гу! Твая малышка мяне не слухаецца. Ясна? А пра чарцей — ні гу-гу. А то бабуся стане баяцца. Ты чуеш, Маня? А я ў аптэку, бабуся. Я хуценька. *(Выходзіць.)*

Арына Радзівонаўна. Якіх чарцей? Яна чарцей баіцца? А мне ніколі не гаварыла.

Маня *(смяецца)*. Не гаварыла, бо саромеецца. Вырасла, а ўсё... Можна ўжо і смялей з чарцямі тымі.

Арына Радзівонаўна. Вот забудзе запалкі купіць... *(Выглянула ў акно.)* Далёка ўжо, не пачуе.

Маня. Я пазычу, не бяда. Арына Радзівонаўна, родненькая, зрабі ласку! Яна ж мяне выручала не раз. Падружка мая. Трэба ж і мне. Ну так яна просіць. Вот і добра ў розныя змены з мужыком: дзіця з рук у рукі перадаём. А бывае — прыспічыць, трэба адлучыцца, а прывязана.

Арына Радзівонаўна. То і добра, што прывязаная. О-о, дай табе волю...

Маня. Бабуся! Любая мая! Прыйдзе і мой час вось так сядзець, як вы.

Арына Радзівонаўна. Значыць, не падруга.

Маня. Чэснае слова, падруга.

Арына Радзівонаўна. А навошта нафуфырылася? І плацце з выразам, і з ліфчыка ўсё наружу — дрыжыць, як заліўное, і накрэмілася. На дзяжурства?

Маня. Арына Радзівонаўна, ну як вам не... За гэта ж можна і пакрыўдзіцца. Я ж — маладая. І цяпер — усе ходзяць на работу акуратнымі. А што? Хай моль есць гэта дабро?

Арына Радзівонаўна. Моль нейлона не есць.

Маня. То з моды выйдзе. *(Красуецца.)* А шкада... такому тавару прападаць.

Арына Радзівонаўна. Глядзі, Маня! Не круці! Дазнаецца твой, то... І што ты ў ім ганіш? Мужык ён, здаецца, харошы. Не шукай лепшага.

Маня. Бабуся! А вам адкуль знаць, што ён — мужык харошы? *(Жартуе.)* Я ж магу прыраўнаваць.

Арына Радзівонаўна. Маня! Не гняві бога!. У цябе чалавек ветлівы, добры, спакойны, ціхі.

Маня. У ціхім балоце чэрці водзяцца. А на што мне ціхі? Мне буян трэба. Каб аж костачкі хрусцелі. Дый не такі ён і добры. *(Усміхнулася.)* Убачылі вы мужыка... Лепшыя мужыкі ёсць. Бабуся! Павер мне — ёсць лепшыя мужыкі! Я перад вамі, як перад святой — уся на далоні. Скараспелы ён: чык-брык і гатоў.

Арына Радзівонаўна. Маня... *(Павучае.)* А ты пачакай, пацярпі, ён і мужыком стане спраўным. Пачакай. Ласкавей будзь. Не спяшайся. Бывае і так, што не адразу раскрываецца мужык, а пасля... Яшчэ такім разбойнікам становіцца, ну чысты Сценька Разін. Пацярпі і ласкавей будзь.

Маня. А калі не церпіцца, тады што? А тут такія пеўнікі крылом чыркаюць. Ды яшчэ на зернетка шакаладнае падзывае, сам не клюе...

Арына Радзівонаўна. Эх, ты! Грахаводніца! Сораму ў цябе няма. Навошта ж ты добрага чалавека крыўдзіш? Бацьку дачкі тваёй. Ну, дазнаецца — бяда ў хату ўваліцца.

Маня. Дазнаецца, то хай даруе, калі ён і праўда добры. Дый не дазнаецца ён. Вы ж добрая, не накапаеце яму на мазгі.

Арына Радзівонаўна. Ён жа цябе любіць? Што табе яшчэ трэба?

Маня. Любіць? *(Кісла ўсміхнулася.)* Ну, калі і праўда — любіць, то... Хай любіць мяне такую, якая я ёсць...

Арына Радзівонаўна. Тады сядзі дома. Сама глядзі малую. Я не... Нечага круціць хвастом.

Маня. Ну во! Я перад вамі як на споведзі, я вам усю сваю... усю дасаду, а вы... І чэснае слова, падругу падмяніць. Не круціць я...

Званок. Шустрая Маня адчыняе дзверы, упускае Тамару Паўлаўну.

Тамара Паўлаўна. Добры дзень! Я не памылілася? Арына Радзівонаўна тут жыве?

Маня. Тут, тут. Заходзьце, калі ласка. Вот Арына Радзівонаўна, а я... Ой! Тама-ара Па-аўлаўна! Вот не чакалі вас... Арына Радзівонаўна, гэта ж наша... Вы мяне помніце, Тамара Паўлаўна? Вы мяне не забылі? З ПТВ на практыку к вам я трапіла.

Тамара Паўлаўна. Як можна? Забыць такую вяртлявую... Маня? На тонкасуконны збегла? Наскандаліла ты тады...

Маня. Ат, не памінайце таго скандалу. Чэснае слова, не я спаіла. Хлопцы спаілі іх і мяне. Ну, праўда, у маім пакоі і... Я іх сазвала... Толькі і віна...

Тамара Паўлаўна. Ну, ліха з імі, з хлопцамі. А я да вас, Арына Радзівонаўна. Па вашаму пісьму.

Арына Радзівонаўна. Праходзьце. Сядайце. Рады будзем.

Маня. Ну, канечне, рады. Калі вас выбіралі дэпутаткай, я так радавалася і ўсім хвалілася: гэта вы да станка прывучалі мяне. І вот — вас у Вярхоўны Савет.

Арына Радзівонаўна. Вот тараторка. Не дае і слова ўставіць.

Тамара Паўлаўна. Пісьмо мне прынёс пазаўчора шафёр вашай раённай бальніцы... Як яго...

Арына Радзівонаўна. А-а, Федзя. Гэта Федзя. Дружок сына майго. Усё клапоціцца, усё клапоціцца. Як свой.

Маня. Ну то я пайшла. У вас тут справы. Арына Радзівонаўна! Дык вы ўжо, калі ласка, паглядзіце за малой. Яна цяпер каля тэлевізара прывязана. Там рабятам аб звяратах. А тады... Я яе замкну, а ключык вам... Вось ён. Бабуся! Мілая! Вы ж у нас выручалачка. Вы ж у нас добрая. Без вас мы — як без рук. *(Цалуе старую.)* Я памчалась.

Арына Радзівонаўна. Ой, ліса! От ліса!

Маня вертанула падолам і знікла. Вярнулася.

Маня. А мой прыйдзе, хай сам... Абед я згатавала. Вы яго не адпускайце, а то і ён захоча адпрасіцца. Хай дома сядзіць. Бабуся! Спакойна! Спакойна. *(Выходзіць.)*

Тамара Паўлаўна. Суседка?

Арына Радзівонаўна. Суседка.

Тамара Паўлаўна. Часта дакучае?

Арына Радзівонаўна *(пасміхаецца)*. Як засвярбіць, дык і...

Тамара Паўлаўна. Як гэта?

Арына Радзівонаўна. Маладая яна. Яшчэ з ветрыкам. Часта падэшвы свярбяць, на танцы хочацца.

Тамара Паўлаўна. Без мужа?

Арына Радзівонаўна. Бывае — з мужам, а часцей і так... сама. Сёння яна за падругу паўзмены робіць... Калі не маніць.

Тамара Паўлаўна. А калі маніць?

Арына Радзівонаўна. Хто ж яе ведае. А калі — не маніць? Можна ж пакрыўдзіць жанчыну. На ўсякі выпадак я паківала пальцам.

Тамара Паўлаўна. Вы добрая. *(І чамусьці ўздыхнула.)* Спагадлівая.

Арына Радзівонаўна. Мне ўжо і час быць добрай. А то... і не ўспомняць людзі. Усе мы ў людзях жывём, у іх памяці. Добрымі ці нядобрымі. А чаму вы ўздыхнулі?

Тамара Паўлаўна. Не так лёгка быць добрай. Аднаму падможаш — яму на дабро, а другому падмога ліхам становіцца. Прывыкае, а тады і глядзіць, каб другі за яго мазалі націраў.

Арына Радзівонаўна. І ліха помніцца, а дабро век не забудзецца. Вот і выбірай.

Тамара Паўлаўна. Дык што? Вас пакрыўдзілі?

Арына Радзівонаўна. Мяне? Хто? Дзе?

Тамара Паўлаўна. Пісьмо мне перадалі ваша. Шафёр вашай раённай бальніцы. *(Вымае з сумкі пісьмо.)*

Арына Радзівонаўна *(спахмурнела)*. А-а... Не дазволілі мне прапісаць унучку. А я адна засталася. Во, як перст. Пакрыўдзілі. Спачатку бог, а потым і людзі. Галубка мая, няма горшага лёсу, як перажыць сваіх дзяцей. У старасці застацца адной. *(Устае, падыходзіць да акна — ці выглянуць на вуліцу, ці выцерці слязу.)*

Тамара Паўлаўна. Вы адна жывяце?

Арына Радзівонаўна. І адна, і не адна. Унучка ў мяне жыве. Падпольна.

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. Сынава?

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а. Не, Лізкіна. Старэйшай дачкі, прыёмнай. А сыноў маіх... нежанатых... забілі...

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. Трох?

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а. Трох. Усіх, колькі было. Яшчэ малодшая дачка ў мяне. У Комі недзе, на поўначы. Мужыка яе, шофера, засудзілі. Збіў ён чалавека. Дык яна і з'ехала за ім. Там і прыжыліся. Хочуць назад, ды... Пяцёра іх у мяне было. Замуж я выходзіла за ўдаўца з двума сынамі і дачкой. Васемнаццаць гадкоў мне было. У нашага бацькі аж сем дзевак, нявесты адна за другой. Разарылі яго на пасаг. Ну і... Чалавек мой хоць і ўдавец, а мужчына відны быў, і гаспадарка ў яго... А работы я не баялася. І так мне хацелася прыгожа адзецца... Маладая была. Прыжылі мы з ім яшчэ сына і дачку. Вот і пяцёра. Толькі век яму дастаўся кароткі. Захварэў. Завязла яго ў Мінск. Аперацыю яму зрабілі. А назаўтра — вайна. Разбамбілі там усё. Дабраўся ён неяк дамоў... І не доўга ўжо ён... Самі падумайце: у жываце аперацыю, а тут без лекаў і перавязаць некаму. А харошы быў...

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. Вы супакойцеся. Не трэба...

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а. І не хочаш, а ўспамінаецца. Ды што, калі не вярнуць. *(Нарэшце адважылася.)* Вот... Калі вы ўжо прыйшлі, то... пра жывое трэба. Галубка, любая, пра Верачку маю давайце падумаем. Ну чым я ёй адплачу? Чым аддзякую за яе дабрату, за яе душу ласкавую? Пакуль яе няма. А то прыйдзе,— яна ж не дасць нам пагаварыць. А яе ж выручаць неяк трэба.

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. А што за бяда ў яе?

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а. Хлопец у яе. Закахалася яна. А ён у інтэрнаце. На заводзе робіць. Жаніцца хоча. А дзе жыць?.. Сам з дзетдома, а ў яе... Калі ў чаргу на кватэру, то сем гадоў чакаць... У кааператыў — адкуль жа ў нас грошы? Дый таксама годы чакаць трэба. На БАМ... У Сібір кліча,— з нуля пачынаць на новабудоўлі. А яна ў медыцынскі рвецца. Трэці раз паступае. Ну, і як нам?

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. Ён у Сібір кліча, а яна?

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а. Яна за ім на край свету. Толькі ж я... поперак дарогі ёй. Не кіне яна мяне. Хоць ты памры ўжо, ці што... Усім я памеха. І ёй... Не паедзе яна. Не кіне мяне. Памажыце!

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. А калі прапісаць, то яны...

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а. Прытулак жа нейкі будзе. Не сем жа гадоў чакаць. І мяне дагледзяць... І калі

наступіць... Ну, калі папраўдзе, калі чэсна... За яе клопаты чым я ёй адплачу? Ашчаднай кніжкі няма. Не накапіла. Якія ж тады заробкі былі ў калгасе? Рабіла, пакуль сіла была. А цяпер... Пенсію во — трыццаць два рублі даюць. Шкада мне яе. Яна ж як хрусталік... Сцяблінка. Не надламілася б...

Кляцнуў замок, ляпнулі дзверы: гэта з'явілася Верачка. Не заглянуўшы ў пакой, крычыць з прыхожай.

Верачка. Бабуся! Агаляй попу! Я табе зараз такога шмяля пасаджу; з такімі джаламі... Папаверын з ношпай. Загаляйся!

Арына Радзівонаўна. Верачка! Грубіянка! Як не сорамна? Тут жа людзі!

Верачка *(уваходзіць)*. Ой! Я ж не ведала... Добры дзень! Бабуся! А шпрыц кіпяціла?

Арына Радзівонаўна. Паспее твой шпрыц. Во пазнаёмся: гэта Тамара Паўлаўна — дэпутат Вярхоўнага Савета. Федзя ўсё-такі напісаў пра нас. Вот — прыйшлі...

Верачка. Ну і Федзя! Напісаў усё-такі!

Арына Радзівонаўна. Ты ж не напішаш.

Верачка. Ну і Федзя! Ну і Федзя! Настырны! А? Дзядзя Федзя з'еў мядзведзя. А на пасху? З'еў каўбаску. А на пост? Пакінуў хвост? *(Прыглядаецца да дэпутаткі, нібы моўчкі пытаецца: а ці не дарэмна ён зацеяў?)*

Тамара Паўлаўна. Вот будзем разбірацца. Да вас сёння ніхто не заходзіў, з райвыканкома?

Арына Радзівонаўна. Не, не было нікога.

Тамара Паўлаўна. Павінен прыйсці Прокусаў — намеснік старшыні... *(Глянула на гадзіннік.)* Позніцца.

Арына Радзівонаўна. Вот гэты Федзя! Калі ўжо ўваб'е што ў галаву... І вам вот дакука. Назаляў вам?

Тамара Паўлаўна. Н-не, не вельмі. Ён даволі мякка... А да вас ён вельмі спагадлівы... Сам прынёс пісьмо.

Верачка. Жаласліва напісаў? Са слязой? І Прокусаў гэты, можа, плача дзе-небудзь за вуглом. А Федзя ў нас і сам плаксун... Калі вып'е.

Тамара Паўлаўна. Ён п'е?

Арына Радзівонаўна. Як табе не сорамна? Верачка! Ці ты яго паіла? Ён жа цябе жалее, любіць, а ты...

Верачка. І я люблю дзядзю Федзю. А што я сказала? Сентыментальны ён.

Арына Радзівонаўна *(тлумачыць дэпутату)*. Кожны год у дзень Перамогі — гэта ўжо як закон,— ён прыходзіць да нас.

Верачка. Вясёленькі і з бутэлькай шампанскага для бабусі.

Арына Радзівонаўна. Калі ўсе святкуюць, каб і я... Каб і мне... Каб скрасіць і мне гэты дзень.

Верачка. Бутэльку апарожняць, а потым спяваюць.

Арына Радзівонаўна. І ты!

Верачка. І я. А потым паплачуць дружна, выціраючы адно аднаму слязу. Яшчэ ні разу не разышліся без слёз.

Арына Радзівонаўна. І ты!

Верачка. І я. Гледзячы на вас. Заразіцельна вы спяваеце.

Тамара Паўлаўна. Гэты Федзя — дружбак вашых сыноў?

Арына Радзівонаўна. Малодшага. Васі майго. З вайны ён прыйшоў пакалечаны. У галаву паранены. Федзя не адхіснуўся, дружыў. Хоць Вася... Які ён яму таварыш? Ні на пагулянку, ні... ні куды, і ажаніўся Федзя, а хадзіў да яго... І... І пахаваў ён дружка свайго. У хібарцы мы тады жылі. Каля бальніцы. І сюды ён памог мне пераехаць. Ён памагае мне. Кватэру гэту мне далі, калі трыццаціголдзе святкавалі. Перамогі. Добрая кватэра. Цёплая. Не давялося сынку пагрэцца. Не дажыў.

Верачка. Бабуся! Давай-ка шпрыц! Я цябе зараз уколю! Давай, давай!

Старая выходзіць на кухню, перамігнуўшыся з дэпутаткай.

Арына Радзівонаўна *(з кухні)*. Ты з мяне друшляк зрабіла.

Верачка *(да Тамары Паўлаўны, стараючыся быць як мага далікатнай)*. Калі ласка, Тамара Паўлаўна, не трэба болей пра сыноў. Гэта ў яе балявое месца. Нервы ў яе агалёныя, нібы здзёрта скура. Не дакрануцца. А паўгода назад у яе быў абшырны інфаркт. Дык вы ўжо, калі ласка...

Тамара Паўлаўна. Добра, Верачка, добра. Не буду пра сыноў.

Верачка. І яшчэ. Я пра гэта... Аб прапісцы... *(Па сакратару.)* Нам адмовілі ўжо. Камісія была. Наўрад ці паможаце вы. Афіцыйна паведамілі — не законна. Так што вы даруйце...

Тамара Паўлаўна. Я не магу вам цвёрда абяцаць. Але я таксама настырная, па-рабочаму. Канечне, не я адна буду вырашаць... Каб я пячатку ставіла, то...

Верачка. Ну, во. Яна ўжо трохі супакоілася пасля той камісіі, а мы зноў яе растрывожым, абнадзеім. Наша бабулька, як дзіця — даверлівая. І потым цяжка перажывае крыўду. І знаеце як? Пяе і плача. Дзіўная яна. Праўда? І я, гледзячы на яе.

Тамара Паўлаўна. Ну, што ты, Верачка? Я не думаю яе крыўдзіць. Наадварот.

Арына Радзівонаўна *(прыносіць стэрылізатар)*. Ну, унучка! Калі! Бадай!

Верачка рыхтуе шпрыц. Пакой паварочваецца акном да залы. Верачка робіць укол — чаго мы не бачым. Але пачулі, як старая войкнула і заўсміхалася, хаваючы боль.

Верачка. Што? Укусіла пчолка? Цяпер, пасля ўколу, адпачніце крышку.

Старая аблакацілася на падаконнік.

*Заслона.*

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Званок у дзверы. Верачка ўпускае ў кватэру Васіля Міхайлавіча Прокусава, прыветлівага, ласкавага, нават радаснага.

Прокусаў. Добры дзень вам у хату! О, Тамара Паўлаўна ўжо тут?

Верачка. Добры дзень.

Тамара Паўлаўна. Дзень добры. Я ўжо даўно тут чакаю. У мяне ўжо і часу мала; сёння — дзень прыёму. Каб не спазніцца.

Прокусаў. Паспееце. Мая машына вас падкіне. Калі што, я вас адпушчу, а тут я і сам разбяруся. Важны сам факт: вы тут самі пабывалі.

Тамара Паўлаўна. Верачка! Ідзі паглядзі, як там бабуся пасля ўколу.

Верачка выходзіць у кухню.

Прокусаў. А чаму вы тут чакалі? Мы ж дамовіліся выехаць па просьбе на перапраціску.

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. Я і прыехала сюды, да бабкі, да Арыны Радзівонаўны.

П р о к у с а ў. А перапрапісацца хоча Верачка, як вы яе назвалі. Яна што? Ваша даўняя знаёмая ці, можа, сваячка?

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. Не, якая там сваячка? Я вот толькі сёння ўпершыню бачу іх.

П р о к у с а ў *(ласкава гаворыць, здаецца, нібы ён свае думкі чытае па складах)*. І таму мы павінны перш за ўсё высветліць — дзе яна зараз прапісана? Які ў яе ўласны дом? Ці ёсць у яе падставы на перапрапіску? Вы ж там не пабывалі?

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. Але ў гэтай справе найбольш зацікаўлена Арына Радзівонаўна, а не ўнучка яе. Наш клопат патрэбен старой. Яна зараз у такім становішчы, што... *(Тамара Паўлаўна пераймае ў Прокусава манеру гаварыць па складах і заглядвае ў пісьмо, як у шпаргалку.)* Мы павінны праявіць да яе чуласць, чалавечнасць, спагаду, душэўнасць, спачуванне. Хаця б так, як той шафёр, чужы чалавек. А яе прапіска — фармальная старана справы. Што нам трэба? Нам трэба — дапамагчы старой, каб яе, адзінокую, пад старасць дагледзеў нехта з далікатнай душой.

Прокусаў любуецца дэпутатам і ласкава пасмейваецца.

П р о к у с а ў. Мілая Тамара Паўлаўна! Вы — чулая, спагадлівая, адзыўчывая жанчына, і я вельмі рад, што гэтая скарга звязала нас тут, пазнаёміла нас тут. У вас столькі шчырасці, душэўнай цеплыні, сердаболля, што вы і мяне заражаеце бацькавай даверлівасці да ўсіх людзей, і мне хочацца распахнуць душу зусім насцеж. Вы знаеце, я зайздрошчу вашаму мужу. Шчаслівы ён чалавек!

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. А вы мужу гэта можаце сказаць? Ён у мяне каваль.

П р о к у с а ў. А які рэзон мне гаварыць вашаму мужу? Вам я сказаў шчыра і з вялікай прыемнасцю, а яму саўсім неабавязкова нават і ведаць пра гэта.

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. А вы так спакушаеце, як той Дон-Кіхот. Умееце абгарнуць бабу, як закройшчык, шоўкам. Ну, канечне, жанчыны наогул падкія на салодкія словы і ласку. Асабліва калі дома з гэтым скупа. Верна?

П р о к у с а ў. Вам відней. Толькі не Дон-Кіхот. Вы хацелі сказаць Дон-Жуан. *(Самадавольна пасмейваецца.)*

Т а м а р а  П а ў л а ў н а *(хваліць)*. Адразу відаць,

што вы вопытны мужчына. Скажыце, і часта на такую прыманку ловяцца?

Прокусаў *(западозрыўшы падвох)*. Ну што вы?! Як можна? У мяне двое дзяцей і жонка. І знаеце, на што, на што, а на словы яна не скупая.

Тамара Паўлаўна. Ну то даруйце! А то мне пачулася, нібы ты... вы... Я няправільна вас зразумела. У вас вырвалася гэта шчырасць да жанчын ад спагады да старой, ад жадання дапамагчы ёй...

Прокусаў *(з палёгкай)*. Правільна. *(Падхапіў тэзіс.)* Але, каб дапамагчы ёй надзейна, нельга ігнараваць і фармальную, як вы кажаце, старану. Ад нас патрабуюць і фармальнай вернасці. Нам трэба вынесці гэта пытанне на выканком так, каб і камар носа не падтачыў.

Тамара Паўлаўна. А ў вас на выканкоме і камары засядаюць?

Прокусаў *(пасмейваецца)*. І камары, і восы, і шэршні.

Тамара Паўлаўна. А тут усё проста і ясна. І нам, і камарам, і шэршням.

Прокусаў *(зноў пасмейваецца)*. Даверлівая вы, Тамара Паўлаўна. Адкрытая вы душа. Вы, відаць, упершыню сутыкаецеся з такой бытавой праблемай?

Тамара Паўлаўна. Ды не-е. Я і сама насутыкалася, пакуль кватэру далі. Таму і іх разумею. Нагледзелася.

Прокусаў *(спагадліва)*. Я ж бачу. Вы не крыўдуйце. А я ўжо зубы з'еў на такіх арэхах. І не адзін раз кухталямі частавалі за паспешлівасць.

Тамара Паўлаўна. Але ж тут...

Прокусаў. І тут ёсць арэшак. Вот, пазнаёмцеся. *(Азірнуўшыся на кухню, чытае, смакуючы.)* «Эта распутная внучка медсестра хочет завладеть бабушкиной квартирой. Когда старушку отправили при смерти от разрыва сердца в больницу, эта медичка-птичка приводила сюда своего хахаля и, полагаю, показывала ему свою будущую квартиру. Она делала это двухкратно. Мы не можем спокойно наблюдать и это терпеть, чтобы в нашем доме свилось гнездо распусты и аморали. Дурной пример другим наука. Учтите это». І падпісана: «Суседи. Очень возмущенные».

Тамара Паўлаўна. Ананімка?

Прокусаў. А цяпер рэдка хто ставіць сваё прозвішча. Суседзі. Можна высветліць. Гэта я вазьму на сябе.

Ёсць вопыт. Знаеце, такімі фактамі... Такія факты часценька здараюцца. Спачатку задобраць старушэнцыю, прапішуцца, а потым учыняюць такія садомы і гаморы, што бабуся жыўцом на неба просіцца. О-о, сярод нашай моладзі такія ілюзіяністы трапляюцца, што... Цыркачы!

Тамара Паўлаўна. А чаму такое ж кляймо...

Прокусаў. На Верачку? Пцічку-медзічку? *(Папраўляецца.)* На ўсіх нельга, але такім, каторыя на такое здольны, трэба. Кляймо на лоб! Таму што такія мярзотнікі вымушаюць не давяраць чэсным, правяраць усіх, вымушаюць асцярожнічаць. А таму справы марудна разглядаюцца ўстановамі. Наш галоўны клопат — аб старой. І не дай бог, мы паспасобствуем няўгодным ліцам, а ахвярай стане нявінная бабуся. А? Во-от! Во ізбежаніе чего.

Тамара Паўлаўна *(нясмела)*. Знаеце, я тут... Ну, колькі я тут пабыла? А пагаварыла, паглядзела... як тут бабка і ўнучка... Тут такая ўзаемнасць, такая душэўнасць, што я не думаю, каб тут мог быць які-небудзь падвох ці злы ўмысел, махінацыя. *(Больш упэўнена.)* Вот нутром адчуваю, што тут харошыя людзі... і ім трэба падмога.

Прокусаў. Але ж вот — пісьмо.

Стук у сценку. Чуваць прыглушаны крык дзіцяці.

Арына Радзівонаўна *(выходзячы з кухні)*. Вы даруйце, гэта Маніна дзяўчо. Нешта натварыла. Вы пабудзьце, я зараз. Верачка! А можа, ты сходзіш?

Верачка *(таксама выходзіць з кухні)*. Не, бабуся, лепей ты. Схадзі сама. А тут... Лепей я тут за цябе...

Арына Радзівонаўна выходзіць.

Прокусаў. Вера! Можна вас на мінутку? Мы прыйшлі па вашай просьбе і просьбе вашай бабусі — Арыны Радзівонаўны. Па вашаму пісьму.

Верачка. Па пісьму дзядзі Федзі. Я знаю.

Прокусаў. Мы павінны высветліць некаторыя дэталі. Скажыце, вы ўжо выбралі сабе жаніха?

Верачка *(зардзелася)*. А што?

Прокусаў. Ці яшчэ выбіраеце?

Верачка *(саромеецца)*. А што?.. Выбіраю.

Прокусаў. І якія кандыдаты?

Верачка. А нашто вам?

Тамара Паўлаўна. У Верачкі адзін кандыдат. І надзейны. Так, Верачка? Ты не саромся.

П р о к у с а ў. Ты даруй нам, але гэта не абывацельская цікаўнасць, а... для высвятлення справы. Ён — бесквотэрны?

Верачка маўчыць.

Т а м а р а П а ў л а ў н а. Ён жыве ў інтэрнаце?

П р о к у с а ў. Ён прыходзіць да вас?

В е р а ч к а. Не, не прыходзіць.

П р о к у с а ў. Арына Радзівонаўна ведае яго? Знаёма з ім?

В е р а ч к а. Пакуль што — не.

П р о к у с а ў. А калі Арына Радзівонаўна ляжала ў больніцы... У яе інфаркт міякарда быў?

В е р а ч к а. Інфаркт.

П р о к у с а ў. Ён прыходзіў сюды аглядаць кватэру бабушкі?

В е р а ч к а. Не прыходзіў аглядаць кватэру.

П р о к у с а ў. Ён наведваўся сюды да вас двойчы?..

В е р а ч к а. Ну і што? Ну і што? Якая вам справа — хто прыходзіць сюды ці не прыходзіць?

П р о к у с а ў. Вы самі яго прыводзілі? Раніцой? Днём ці вечарам?

В е р а ч к а. Якое вы маеце права? Ён не такі! *(Аж захліпнулася ад здагадкі.)* Ён днём прыходзіў! Каб набіць морду аднаму мярзотніку. І не лезце, куды вас не просяць!

Т а м а р а П а ў л а ў н а. Таварыш Прокусаў!

В е р а ч к а ў слязах выбягае з кватэры.

П р о к у с а ў. Нават морду прыходзіў біць. А калі пасяліцца тут? Што тады будзе?

Т а м а р а П а ў л а ў н а. Вы пакрыўдзілі дзяўчыну.

П р о к у с а ў. Якім чынам?

Т а м а р а П а ў л а ў н а. Сваім падазрэннем.

П р о к у с а ў. Але ж яна салгала? То — не прыходзіў, то — прыходзіў нават морду біць.

Запыхаўшыся, у кватэру прыбягае М а н я з букетам палявых кветак.

М а н я *(перапалоханая)*. Што такое? Што здарылася? Што з бабусяй? Дзе яна? Што з ёй?

Т а м а р а П а ў л а ў н а. Ваша дачка там нешта... паклікала. Бабуся к вам пайшла. Нічога з ёй.

М а н я. Божа мой! А я ўжо чортведама што падумала.

Ізноў інфаркт ці яшчэ якая зараза. А чаму ж тады Верачка пабегла ўся ў слязах? Пазвала, не аглянулася. *(Прысела каля парога.)*

Прокусаў. Вы — суседка Арыны Радзівонаўны?

Маня. Суседка. *(Раптам прыглядаецца і пазнае Прокусава.)* О-ой... Ва-ася!.. Проста не верыцца. Знайшоў мяне. Шукаў мяне... Проста сон...

Прокусаў *(тушуецца)*. Дазвольце, дазвольце. Вы памыліліся. Я не... Я н-н-не...

Маня. Не пазнаеш? Маня я! Маня! Ну? Санаторый... Прафсаюзны... У Сачах. Ну? *(Здзіўляецца.)* Ва-ася!

Прокусаў *(рашыў успомніць)*. А-а-а-а... Так-так-так. *(Тлумачыць Тамары Паўлаўне.)* Інгаляцыю разам прымалі. Ну, як жа?

Маня. Якую інгаляцыю?

Прокусаў. Ну, розную там... *(Паказвае, як удыхалі. Тыцкае пальцам у рот.)*

Маня *(смяецца)*. А-а... І масандра-партвейн, і балгарскае такое белае... Назва такая смешная — цыцка. *(Смяецца, аж залiваецца.)* Прыдумаюць жа!.. Ну і балгары!

Прокусаў. Я не шукаў, я тут па службовай справе. Мы тут вось... Пазнаёмцеся з дэпутатам Вярхоўнага Савета... І як у вас з суседкай? Лады?

Маня. Лады? Не тое слова. Што ты! Ды без яе я — як без рук.

Прокусаў. А ўнучка як сябе паводзіць?

Тамара Паўлаўна *(перапыняе, як бы папярэджвае)*. Таварыш Прокусаў!.. Тут жывуць людзі як людзі. І старая, і ўнучка — добрыя людзі.

Маня. Добрыя? Не тое слова!

Прокусаў. А вот жа нехта напісаў, што... І мы павінны высветліць. А як жа? Павінны апытаць суседзяў.

Тамара Паўлаўна. Але ж гэта ананімка!

Маня. Пра каго напісаў? Пра іх? Ды яны ж у мяне як на далоні. А што, калі не сакрэт? Што напісана? Пра каго?

Прокусаў. Пра ўнучку.

Маня. Пра Верачку?

Прокусаў. Пра Верачку. Пра «пцічку-медзічку».

Маня. Што-о-о?! «Пцічку-медзічку»? А што ён напісаў?

Прокусаў. Хто?

Маня. Ён.

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. Ды тут...

П р о к у с а ў. Не вельмі пахвальнае.

М а н я. Пакажыце!

П р о к у с а ў. Пачакайце!

М а н я. Што — пачакайце? Што пачакайце?! *(Выхапіла з рук Прокусава пісьмо, чытае.)* Ну — гад!.. Ну, нягоднік!.. Ну, мярзотнік!.. Паскуда!.. Я ж табе пакажу!

П р о к у с а ў. Вы што? Угадалі почырк?

М а н я *(аж захліпаецца)*. Ай-яй-яй-яй! Сволач!

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. Вы ведаеце, хто напісаў?

М а н я. Ах ты, падла! Гэта ж ён, ён сам... Ведаеце, калі Арыны Радзівонаўны не было, яна ў бальніцы ляжала, дык ён да Верачкі прыставаў. А Верачка мне сказала... Паўчуба выдрала. А ён жа кляўся, што пажартаваў. А яно во як?! А-а, ну я ж яму дам! А-а-а... Бедненькая ж яго галовачка! Родненькія! Міленькія! Толькі ж вы бабусі нічога не гаварыце. Яна ж хворая. Інфаркт у яе. І яна ж бачыцца будзе. А ёй жа хвалявацца нельга. Я сама разбяруся! Дык вы гэта Верачцы прачыталі? А-а, во чаму слёзы! Ну, падла! Ну, сса-та-ана! Хрыстапрадавец! *(Ідзе да дзвярэй.)*

П р о к у с а ў. Пачакайце, пачакайце! Дайце сюды пісьмо!

М а н я. Пісьмо? Я яму рукі паперабіваю! Я яму паадсякаю іх!

П р о к у с а ў. Вярніце мне пісьмо! Яно лічыцца на мне. Яно на кантролі! На мне запісана. Дай сюды! Гэта дакумент.

М а н я. Я і табе дам! Я табе дам дакумент! *(Выходзіць.)*

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. Пісьмо пайшло на рэагаванне. Так і растлумачце таму, хто вас на кантролі дзяржыць.

П р о к у с а ў. Самому сабе растлумачыць? На кантролі я сябе сам дзяржу.

Т а м а р а  П а ў л а ў н а *(смяецца)*. Самадзержац, значыцца?

П р о к у с а ў. Трымаць сябе пад кантролем — гэта саўсім нават не смешна. А вельмі карысна. Бескантрольна жывуць толькі дэбілы і хуліганы.

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. Вы на яе не крыўдуйце.

П р о к у с а ў. Шалёная баба! Вы хоць што-небудзь зразумелі?

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. Ды тое-сёе... Гэта пісьмо напісаў яе муж.

П р о к у с а ў *(нібы ў горле нешта застрала)*. Вунь яно

што! *(Аж прысвіснуў.)* Так-так-так... Які ж вывад? Якое рэзюме?

Тамара Паўлаўна. А каб ваша жонка дазналася пра інгаляцыю, якое было б рэ-зю-ме? Вот і яна зараз пакажа яму дзе ракі зімуюць. Можна паспачуваць чалавеку. Будзе яму інгаляцыя.

Прокусаў. Гэта іх сямейная справа. А нам... Тут мы людзі дзяржаўныя. Нам трэба знайсці выхад з такой далікатнай сітуацыі, знайсці саламонава рашэнне.

Тамара Паўлаўна. Бедная Арына Радзівонаўна.

Прокусаў. Што да, то да. Калі ён праў, то прапісваць сюды ўнучку — амаральна.

Тамара Паўлаўна. Вы ж самі бачыце, што ён — хлус, паклёпнік і пад чужыя спадніцы заглядвае.

Прокусаў. Дапускаю. Але, калі і яна права, то зноў жа прапісваць сюды гэту пцічку-медзічку — таксама нельга. Амаральна. Тут — і вы самі бачыце — каша заварылася крутая. У перспектыве — мардабой, скандалы, сваркі, грызня. А ўсё гэта будзе ўплываць на вытворчасць працы, у кожнага на сваім месцы. Вот вам і будзе кампраметацыя развітога грамадства. Падключацца прафкомы, мясцкомы... А нам зноў давядзецца калупацца ў скаргах, даносах, ананімках і іншых амаральных бытавых памыях. Ой, што тут можа быць?! *(Зразумеў, што занясло на мель.)* У некаторых жыллёвых кангламератах падобнае бывала. І таму мы павінны ўсё прадугледзець, каб забяспечыць тут спакой і нраўственнасць. Рэўнасць, азлобленасць, недавер'е, грубасць — параджаюць безнраўственныя ўчынкі. Мы павінны паклапаціцца аб здаровым маральным мікраклімаце для жыхароў гэтага дома. Нраўственнасць, маральны фактар...

Тамара Паўлаўна *(не дае дасказаць)*. Дык во яно што? Значыць, каб захаваць маральнасць, зберагчы «нраўственнасць», нам трэба заказаць сюды дарогу ўнучцы, каб тут, не дай бог, не ўзнікла «безнраўственнасць»? Хворая бабуся хай сабе як хоча, але «нравственность соблюдаем»? Так? А ці не будзе гэта самай заскарузлай безнраўственнасцю? Што ж палучаецца? Мы крыўдзім старэнькую хворую жанчыну, каб улагодзіць подлага кабяля? Ананімшчыка? Ён жа гэтага дамагаўся. І мы ідзём яму насустрач. Яму! А не добраму чалавеку, якому і трэба наша забота. А фактар маралі?.. Вот вам: я чытала пра жаночыя манастыры. Самымі строгімі маралістамі і нават

ігуменнямі станавіліся тыя, каторыя ў маладосці найбольш грашылі і распутнічалі.

Пракусаў. Гэта вы мне адрасуеце?

Тамара Паўлаўна. Не. Гэта я Мані і яе мужу.

Пракусаў. Ясна. Першы экземпляр ім, а копія — мне, і за тое дзякуй.

Тамара Паўлаўна. А як будзе жыць старая? Адна.

Пракусаў. Тамара Паўлаўна! Усё роўна не мы будзем канчаткова рашаць гэта закавырыстае пытанне, а выканком. Наша справа — аб'ектыўна, абстаяцельна, падрабязна далажыць. А яны хай мудра ўзважаць і ўлічаць інтарэсы ўсіх зацікаўленых старон. Вы, Тамара Паўлаўна... Мы з вамі не можам кіравацца толькі сваімі эмоцыямі. Для нас, людзей дзяржаўных, для ўлады наогул — не эмоцыі, не боль, спагада, слёзы, жаласць, а параграф, артыкул, буква закона — вось наш крытэрый. Не намі заведзена, не нам і мяняць.

Тамара Паўлаўна. У кожным параграфе, у кожнай букаўцы павінны быць і жаласць, і спагада, і ласка, і справядлівасць. Калі з душой чытаць закон. А калі ў законе гэтага няма, абыдзі закон і зрабі так, як сумленне табе падкажа. Аснова ўсякага закона — сумленне. І справядлівасць.

Пракусаў. Эх, Тамара Паўлаўна, Тамара Паўлаўна! Абысці закон я не магу і не прывучаны. А калі што, то... Нават бог не роўна дзеліць. А мы — не богі.

Тамара Паўлаўна. Мы — не богі. Але мы — рабочыя! Я не ведаю, як там твае параграфы... А я пайду заraз у цэх і параюся са сваёй брыгадай, з рабочымі. Я ім усё далажу, і як яны рашаць, як ім сумленне падкажа — так таму і быць. І параграфы, і артыкулы, і законы ў нас — рабочыя! І дзяржава наша — рабочая, народная. І дэпутат я — ад народа. І сама я — рабочая. І сумленне ў мяне павінна быць рабочае. І служыць я павінна не параграфу, а чалавеку і па рабочаму сумленню. Вот мой закон і канстытуцыя! Я не юрыст.

Пракусаў. Смела! Адважна!

Тамара Паўлаўна. А што тут смелага? Гэта вы баіцеся, а мне... Я — ткачыха. Знаю сваё месца і... Чаго мне баяцца? Ты мой станок не захопіш. Мой трон падзейны. І сяджу я ў ім, як казак у сядле.

Пракусаў. Багіня!! І ўсё ж мы не падзелім роўна. Нам хоць бы ўціхамірыць, супакоіць, абнадзеіць, і ўсё.

І мы пайшлі. А яны хай сядзяць і чакаюць... Рашэння. Выканкома.

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. Не можа старая чакаць. Ваша рашэнне, ваша забота аб чалавеку можа спазніцца. А яе сыны галовы паклалі за тое, каб між людзьмі дабрата была. Галовы! А вы шкадуеце нейкую інструкцыю... Ах... Неяк няёмка атрымалася: мы прыйшлі, а гаспадары... Сядзім у чужым доме...

П р о к у с а ў. Што да, то да. Не гасцінна нас прымаюць.

Т а м а р а  П а ў л а ў н а *(глянула на гадзіннік)*. А я спазніцца магу...

П р о к у с а ў. Вы можаце ехаць. Мой шафёр падкіне вас. А я тым часам пацікаўлюся ў другіх суседзяў. Высняць, дык высняць да дэталяў. Тщацельна.

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. Таварыш Прокусаў! Не трэба гэтага рабіць. Пойдуць толькі лішнія плёткі. Хіба вам не ўсё ясна? Не трэба роспытаў.

Уваходзіць М а н я і за руку вядзе за сабой В е р а ч к у.

М а н я *(Прокусаву)*. Вот што, мілы мой, харошы! Ці не па сабе ты раўняеш людзей? Чаму ты крыўдзіш Верачку рознымі сваімі здагадкамі? Яна дзяўчына чыстая. І я не дазволю!..

В е р а ч к а. Маня! Нельга так! Яны прыйшлі, каб... Ён не сам. Нехта... наюдзіў.

М а н я. Вот я і кажу: не дам цапаць бруднымі лапамі... А гэтаму «нехта» бокам вылезе ўсё... *(Весела.)* Ах, які вечар самадзейнасці будзе! Слухай, Вася! Ты ж у Сачах назваўся марскім капітанам па плаванню ў аддаленыя мясты. Дак што? Няўжо на сушу спісалі?

В е р а ч к а *(папраўляе Маню)*. Дальняга плавання.

П р о к у с а ў. Ну, вот што, мілая грамадзяначка, да вас больш пытанняў няма. Дзякуй вам за карысную інфармацыю. Вы свабодны. Толькі аддайце мне, калі ласка, пісьмо.

М а н я. Пісьма зараз я вам не дам. Я потым прынясу яго вам. Скажыце толькі куды. Будзьце любезны.

Т а м а р а  П а ў л а ў н а. У райвыканком. Намесніку старшыні таварышу Прокусаву Васілю Міхайлавічу. Яму.

М а н я *(уражаная)*. Ва-ася! Дык вы — шышка?

Уваходзіць А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а.

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а. Вы ўжо даруйце мне. Бачыце? Я там з дзіцем, вас пакінула, а яна во — гулі гу-

ляе. Ну, нацярпелася я страху з тваёй малой. А гэта што за венік?

Маня. Кветкі. Палявыя. Вам. Спецыяльна.

Арына Радзівонаўна. Мне? Калі ж ты паспела? І паўзмены, і палявыя кветкі? Ты знаеш, ты мужу іх занясі. Венік гэты.

Маня. А што там мая малая адчыбучыла?

Арына Радзівонаўна. Малышка хацела прыкалоць брошку вашаму сіямскаму кату, а кот падрапаў ёй рукі і ўцёк. Яна пагналася за катом, а кот — на балкон, а адтуль — на карніз. А твая за ім, прасунула галоўку ў агradцы і ўжо сама — туды. Я ахнула. Ад страху аж калені падкасіліся. Не помню, як да яе падышла. І ніяк не магу вынуць яе з етай агароджы. То вушкі не даюць, то бародка. Так павернеш — вушкі, а так — бародка не пускае. І як яна туды працiснулася?

Маня. А божа мой!..

Арына Радзівонаўна. За грахі твае бог і карае. І кінуць баюся, каб пазваць некага. Хоць плач. А ты тут, балаболка, язык чэшаш. Вот я табе...

Маня. І што? Яна і цяпер на балконе?

Арына Радзівонаўна. Вылузнулі. Твой прыйшоў памог. Ідзі, ідзі дамоў. Букет вазьмі. Падары свайму. І скажы, дзе ты нарвала яго.

Маня. Ах, дык ён ужо дома? То я пайшла! *(Выходзіць.)*

Арына Радзівонаўна. Вы ўжо даруйце мне...

Прокусаў. Вы ж ратавалі дзіця. Праўда, Тамара Паўлаўна позніцца... Але нічога, яшчэ якраз паспееце. Пойдзем, Тамара Паўлаўна, я адпраўлю вас на сваёй машыне. *(Старой.)* Я зараз вярнуся. Мы пагутарым.

Тамара Паўлаўна. Бывайце, Арына Радзівонаўна. Я спадзяюся, што райвыканком вашу просьбу ўважыць. Думаю, што і наш капітан дальняга плавання падтрымае нас. Чалавек чалавеку друг, таварыш і брат.

Прокусаў. Гэта правільна. Увогуле. Так сказаць, прынцып. Вообще. А канкрэтна — будзем кіравацца адпаведнымі артыкуламі, параграфамі і законапалажэннямі.

Тамара Паўлаўна *(вяртаецца ад дзвярэй)*. Чакайце! Вы згодны, што Арына Радзівонаўна адна жыць не можа?

Прокусаў. Згодзен.

Прокусаў зараз вельмі лагодны, уступчывы, ласкавы, мяккі. Хоць у вуха яго кладзі.

Тамара Паўлаўна. Што ёй патрэбен дагляд. Згодны?

Прокусаў. Тамара Паўлаўна. Ну, вядома, згодзен.

Тамара Паўлаўна. Ёй патрэбна наша чуласць.

Прокусаў. Не чуласць. Гэта ўсё словы, эфір, адэкалон. А канкрэтна — ёй трэба апякун.

Тамара Паўлаўна. Ну, во! Нарэшце!

Прокусаў. Для гэтага. Яна. Павінна. Напісаць. Другую заяву. Просьбу. Аб назначэнні а-пе-ку-на. Мы складзём камісію. Яна праверыць, даложыць. Прымем рашэнне. Гэта не такая простая справа. Не так скора робіцца.

Тамара Паўлаўна. Пройдуць месяцы. Але ж ёй помач трэба сёння.

Прокусаў. Правільна. Хіба я пярэчу?

Тамара Паўлаўна. Вот і прызначайце ўнучку.

Прокусаў. Як? Проста так? Чырк-чырк і гатова? Будзе не-за-кон-на. Пракурор адменіць. Плошча не дазваляе.

Арына Радзівонаўна. А там у бацькі па чатыры з палавінай метры.

Прокусаў. Прыватнае домаўладанне. Самі будавалі і дрэнна планавалі. Трэба было ці плошчу адпаведна колькасці дзяцей, ці колькасць дзяцей адпаведна плошчы.

Тамара Паўлаўна. За такі жарт...

Паўза.

Васіль Міхайлавіч! У вас душа ёсць?

Прокусаў. Не матэрыялістычна.

Тамара Паўлаўна *(вельмі мякка)*. Вы ж бачыце — яна хворая. Старэнькая.

Прокусаў *(адводзіць Тамару Паўлаўну ўбок)*. Тамара Паўлаўна! Мы амаладжэннем не займаемся.

Тамара Паўлаўна. Ах, так? Арына Радзівонаўна, я паеду, а вы не перажывайце. Я буду помніць аб вашай просьбе. Будзьце здаровенькі, усяго добрага. Верачка! Усяго добрага!

Верачка *(паяўляецца з кухні)*. Усяго добрага, Тамара Паўлаўна.

Арына Радзівонаўна. Шчаслівенька! Заходзьце калі... Я — дамаседка. *(Праводзіць Тамару Паўлаўну да дзвярэй.)*

Прокусаў. Я не развітваюся. Я зараз вярнуся.

Тамара Паўлаўна і Прокусаў выходзяць.

Верачка. А чаго ён яшчэ вернецца? Я яго не пушчу!

Арына Радзівонаўна. Ну што ты, Верачка?! Чалавек па службе правярае. Ну і хай. А што ён табе.

Верачка. Не хачу, каб ён правяраў. Плахі ён чалавек. Злы. Не трэба, каб ён нам памагаў.

Арына Радзівонаўна. Ну што ты на яго так? Ты ж яго саўсім не ведаеш.

Верачка. У яго на лбе напісана. Не бачыла? Метка такая — на самым лбе! Высечана, як на дубе!

Арына Радзівонаўна. Нельга так, Верачка. Ні з таго ні з сяго — кляймо на лоб чалавеку. Ты сёння нейкая... Ты сама злая. А табе нельга быць злой. Ты медыцынскі работнік. Табе дабрата болей, як каму, трэба. А ты... *(Уздыхнула.)*

Верачка. Ну, не буду, не буду. Я ўжо добрая. Бабуся мая! Я заўсёды буду такая, як ты. Добрая. Даверлівая. І буду падстаўляць табе то правую, то левую шчаку.

Арына Радзівонаўна. Ну во. Ты з усімі так. Не толькі са мной. Ты ўсім будзь добрай. Усе свае.

Верачка. А вот жа...

Арына Радзівонаўна. Ты памаўчы! І такіх трэба дабратой лячыць. Дзеткі ж усе добрыя. А потым... дарослыя заражаюцца нечым. Бацылай нейкай. А лячыць дабратой трэба.

Верачка. А мой моладзец кажа: «Добро должно быть с кулаками».

Арына Радзівонаўна. Ну, прыйдзе, я яму пакажу кулакі. Ужо вечарэе, а яго няма. Моладца твайго. Прыйдзе?

Верачка. Павінен. Я яму загадала, каб прыйшоў на агледзіны. Бабуся, кажу, патрабуе.

Арына Радзівонаўна. Во, дурненькая. Навошта ты так? Ну, канечне, не прыйдзе.

Верачка. Ён званіў з вакзала. Сказаў, каб я прыйшла праводзіць яго. У Сібір. На камсамольскую будоўлю.

Арына Радзівонаўна. Ён не прыйдзе? Ён паедзе? Верачка!!

Верачка. Ён прыйдзе. Ён пажартаваў так. Я задумала. Калі не прыйдзе ці хоць спозніцца, то...

Без званка ўваходзіць Ганна Ісакаўна.

Ганна Ісакаўна. Вы чуеце? Вы нічога не чуеце! А там забіваюць чалавека!

Арына Радзівонаўна. Хто? Каго?

Ганна Ісакаўна. Маня свайго мужыка.

Арына Радзівонаўна. Можа, наадварот? Ён яе?

Ганна Ісакаўна. Не, не наадварот, яна яго. І ўжо саўсім прыбіла.

Верачка. Ну, гэта ў іх часта бывае.

Ганна Ісакаўна. У тым і фокус, што часта. Ён ужо саўсім ляжыць і не варушыцца.

Арына Радзівонаўна. Прытаіўся?

Ганна Ісакаўна. Я думала, што ён гатоў! А яна паслухала, паслухала і чуе — ён яшчэ дыша. Дык яна яму яшчэ злей. Ды знаеце? Венікам, венікам. І не мяккім, а другім канцом. Ды па руках, па руках і па галаве. А?

Арына Радзівонаўна. Чаму ж вы не абаранілі?

Ганна Ісакаўна. Не, я ўжо ўмяшалася ва ўнутраныя справы. «Што ж ты, кажу, робіш? Ён жа яшчэ спатрэбіцца. З ім жа яшчэ жыць можна!» Уратавала. Во, бачыце, што ў нас робіцца? Гэта культура? Гэта дваццаты век? Гэта ж — джунглі! Гэта — заапарк, звярынец. Ну што ён такое зрабіў? Яна яго так падсініла... Ён жа фіялетавы стаў. Пайду раскажу майму Яфіму. Ён усяму гэтаму не верыць. Кажа — плёткі. А гэта — плёткі? Верачка! Ты потым прыйдзеш і пацвердзіш яму, што гэта такі — праўда. Вы чуеце? Чуеце? Стогн. Гэта стогн! Гэта Маніп муж. Чуеце? Так жаласліва стогне. А? Ну, што гэта за рэжым? Якое яна мае права, каб чалавек так стагнаў. Жывы чалавек! Цяпер жа ствараюць таварыства па ахове жывёл, дзікіх. А ён жа пакуль што — не жывёла!

Верачка. А скацінка зброддівая! Даруй, бабуся!

Ганна Ісакаўна. Але ж ён стогне.

Верачка. Не хоча пець, хай стогне. Яго справа.

Ганна Ісакаўна. Верачка! Ты заўсёды была сердабольнай.

Званок у дзвярах. Яшчэ званок.

Арына Радзівонаўна. Гэта ён? Ну, вось і прыйшоў. Ідзі сустракай.

Ганна Ісакаўна. Хто — ён?

Арына Радзівонаўна. Добры моладзец.

Ганна Ісакаўна. Добры моладзец? *(Заўважыўшы збянтэжанасць і паніку Верачкі, дагадалася.)* О-о-о!

Тады я... пайду. Я не так прычэсана. У мяне такі відзік — проста канфуз. Пайду. Мой Яфім ужо сумуе без мяне.

Верачка праводзіць Ганну Ісакаўну і вяртаецца з Прокусавым. Наступае працяглая няёмкая паўза. Усе нібы чакаюць, хто першы загаворыць. Прокусаў чамусьці пасміхаецца.

Прокусаў. Ах, як яна гаварыла! Як прыгожа яна гаварыла! Што значыць — забяспечаны тылы, цвёрда сядзіць на сваім месцы. Свабода. Што хачу, што думаю, тое і гавару. Незалежная! Не тое, што наш брат. Нават калі ў гневе і то — азірніся ў гневе. Ах, якое гэта дабро — незалежнасць! Самастойнасць! Свой гонар! А падумаць — хто яна? Звычайная, радавая, ткачыха! Далі волю — во дзе сакрэт! Яна вам радня?

Бабка і ўнучка маўчаць.

А там стогне — сусед? Перапіў? Перабраў?

Арына Радзівонаўна. Жонка пачаставала.

Прокусаў. Бывае. Ну вось, падвядзём вынікі. Што мы маем і на што мы можам спадзявацца? Значыць, так. Вы адзінокая, і вам трэба...

Арына Радзівонаўна. Чаму — адзінокая? Кругом людзі. І ўнучка во са мной.

Прокусаў. ...і вам трэба апякун. Гэта справа нялёгкая, і пройдзе нямала часу, але... Кватэру вам даў...

Арына Радзівонаўна. Дзяржава дала. К трыццацігоддзю.

Прокусаў. Наш райвыканком.

Арына Радзівонаўна *(удакладняе)*. Акцябрскі.

Прокусаў. Вы атрымліваеце пенсію?

Арына Радзівонаўна. Трыццаць два рублі.

Прокусаў. Правільна. За сыноў?

Арына Радзівонаўна. У мяне калгасная пенсія.

Прокусаў. А дзе вы жылі, калі вам давалі гэтую кватэру?

Арына Радзівонаўна. У дачкі... у прыёмнай. Во — у яе маці.

Прокусаў. А чаму ў вас калгасная пенсія?

Арына Радзівонаўна. Рабіла там. Жыла там... пакуль сын жыў быў. А потым во яе маці забрала мяне з больніцы. Пасля таго як Васю пахавала. І яго Васілём звалі.

Пільна прыглядзеўся да старой Прокусаў і ледзь прыкметна крутнуў галавой.

П р о к у с а ў. У вас і дом свой быў?

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а. Які там дом? Развалюха.

П р о к у с а ў. Прадала?

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а. Прадала. На дровы.

П р о к у с а ў. На кніжку паклалі?

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а. Пражыла даўно. Якую ж я пенсію палучаю?

П р о к у с а ў. А чаму дочкі не памагаюць?

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а. У іх жа ўжо і свае сем'і бальшыя.

П р о к у с а ў. Я вам памагу. Цераз суд. Хай памагаюць.

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а. Гасподзь з табой! Які суд? Яны і так мне памагаюць. Вот і ўнучка неадступна пры мне. І жыве тут.

П р о к у с а ў. Без прапіскі?

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а. Хачу прапісаць. Хачу, каб законна.

П р о к у с а ў. Гарадская прапіска ў яе ёсць. А ў вас хай так. Я пазваню ў міліцыю, каб яе не чапалі. Нават і заходзіць не будуць. Не патрывожаць.

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а. Яны і так не трывожаць. Адзін раз толькі і то... ветлівы такі.

П р о к у с а ў. А ў такім разе чаму вы хочаце прапісаць яе? Думаеце, што потым ваша кватэра дастанецца ёй? Гэта яна настайвае.

В е р а ч к а *(нарэшце ўзарвалася)*. Нічога я не настайваю! Таварыш начальнік!

П р о к у с а ў. Я не начальнік. Я намеснік старшыні.

В е р а ч к а. Дык вось, таварыш намеснік, не трэба вашай аніякай дапамогі. І нічога больш не высняйце! Не трэба вашых допытаў. Ідзіце вы і... пакіньце бабусю ў спакоі! Ідзіце! Спісаны капітан дальняга плавання.

П р о к у с а ў. Тады напішыце заяўку, што вы адмаўляецеся ад сваёй просьбы аб прапісцы.

А р ы н а  Р а д з і в о н а ў н а. Нічога мы пісаць не будзем. І адмаўляцца не будзем. І крыўдзіць нас не трэба. Нам дапаможа дэпутатка. Яна сказала...

П р о к у с а ў. Яна сказала? Сказала, не ведаючы законаў. А я хіба вас пакрыўдзіў? Хіба я вам нагрубіў? *(Зашпільвае свой партфель.)* Пасяджэнне будзе ў пятніцу. За рэзультатам прыйдзеце да мяне ў панядзелак. Пакой сто дванаццаты.

А р ы н а Р а д з і в о н а ў н а. Да вас я не пайду. Не магу. Старая. І хворая.

П р о к у с а ў. Хай унучка прыйдзе.

А р ы н а Р а д з і в о н а ў н а. І ўнучка не прыйдзе. Яна занятая.

П р о к у с а ў. Дык што? Я павінен к вам прыйсці?

А р ы н а Р а д з і в о н а ў н а. І ты не прыходзь. Не трэба. К нам прыйдзе... Чалавек... Дэпутатка. Пачакаем.

П р о к у с а ў. Ну чакайце. Справа ваша. Толькі ведайце — у нас на кватэры такая чарга, што... і на вашу кватэру. І перадаць яе, як спадчыну...

А р ы н а Р а д з і в о н а ў н а. На маю кватэру чарга? Вы... ета... Вы жартачкі ўбок... Не да жартаў. Я ж яшчэ жывая. Жывая я, а вы чаргу?..

В е р а ч к а. Як вам не сорамна? Як вы смееце так? Я не дазволю так размаўляць з бабусяй! Яна хворы чалавек. Яна — чалавек! А вы... Я прашу вас — ідзіце!

П р о к у с а ў. Не грубіце! Ты яшчэ молада. Бач, якая лоўкая. Там людзі гадамі кватэру чакаюць, а яна... ні села ні пала, дай куме сала. Не так скора. Пачакай! Хочаш прапісацца, каб потым захапіць яе кватэру? Не-е, не выйдзе. Закон не дазволіць. Бывайце здаровы! *(Паказаў дзяжурную ўсмешку і пайшоў.)*

А р ы н а Р а д з і в о н а ў н а. Якая ў яго ўсмешка... А ты, Верачка, не хвалюйся. Маладая, а такая ўспыльчывая. Не нервуйся. Усё будзе добра. Усё будзе ладна. Бачыш, нават ён сказаў: пачакай. Ну і што? Пачакаем. Не гарыць жа. Усё роўна будзем разам. Будзем ладам. Будзем у згодзе. Я надзеюся на дэпутатку.

В е р а ч к а. А ты чаго нервуешся? А ты? Бабу-уся! Чаго ты хвалюешся? Дай-ка твой пульс... Зачасціў, зачасціў. Я табе зараз тразікорчыку ці лепей валакардзіну. Супакойся. Толькі што сама сказала: усё будзе добра. Пачакаем, мы — цярплівыя.

А р ы н а Р а д з і в о н а ў н а. А што мы можам? Цярпець і ждаць. І ўсё. У гэтым наша сіла. У цярплівасці. Таму мы і жывучыя.

В е р а ч к а. Не-не. Не па-камсамольску гэта — цярпець і ждаць. На што надзея?

А р ы н а Р а д з і в о н а ў н а. На добрых людзей надзея. Ёсць жа дабрата, ёсць яна!

Верачка капае ў чарку валакардзін, разбаўляе вадой, дае Арыне Радзівонаўне.

В е р а ч к а. Вазьмі, выпі.

Арына Радзівонаўна *(нечакана бадзёра)*. Ну, будзь здарова, унучка! З табой не прападзём.

Верачка. На здароўе, бабуся! Не прападзём!

Арына Радзівонаўна *(выпіла, кракнула)*. Ну, выпіла, а цяпер і заспяваць можна. Давай маю любімую.

Бабка і ўнучка абняліся і так суладна заспявалі, што абедзвюх прашыбла сляза.

Пахне чабарком, пахне чабарком.
Кветкай медуніцай,
Цёплым вечарком, цёплым вечарком
Свеціць зарніца.

Месячык на небе выплыў і не зойдзе,
Шчасце наша прыйдзе, міма нас не пройдзе.

Верачка. Прыйдзе?

Арына Радзівонаўна. Канечне, прыйдзе.

Верачка. Добрая ты ў мяне. Ты такая добрая.

Ціхенька трава, ціхенька трава
З ветрыкам гуляе,
Кружыць галава, кружыць галава,
Сэрца замірае.

Арына Радзівонаўна *(выглянуўшы ў акно)*. Ідзе.

Верачка. Хто?

Арына Радзівонаўна. Дождж.

Пахне муравой, пахне муравой,
Кветкай медуніцай,
Свеціць нам з табой, свеціць нам з табой
Зорка-зараніца *.

Верачка. Не перастаў дождж?

Арына Радзівонаўна. Ідзе. Фанары загарэліся. Ідзе! Гэта ён! Пад дажджом ідзе. Спяшаецца.

Верачка *(нават не паднімаецца з крэсла)*. Высокі?

Арына Радзівонаўна. Вярзіла! У плашчы.

Верачка. Шэрым?

Арына Радзівонаўна. Цёмным. Мокрым. Бліш-чыць. З капюшонам.

Верачка. З капюшонам? Можа, і ён.

Арына Радзівонаўна. Бяжыць. Ужо ў пад'ездзе.

Верачка. Позніцца. І намнога... Ну, я яму!..

---

* Словы і музыка Аўяр'яна Дзеружынскага.

Арына Радзівонаўна. А чаго ты радуешся? Ён жа позніцца. Значыць — не любіць.

Верачка. Бабуся! А ён жа пад дажджом! І ідзе! А? Што? *(Цалуе бабусю.)*

Доўгі званок. Верачка адчыняе дзверы. Уваходзіць участковы міліцыянер.

Міліцыянер. Добры вечар, бабуся! Я ж казаў, што прыйду. Вот — прыйшоў. Бабуся! Раніцой вы абяцалі мне кубачак кавы. Стаўце на стол.

Арына Радзівонаўна. Верачка! Згатуй!

Верачка выходзіць на кухню. Міліцыянер праводзіць яе вокам.

Міліцыянер. Унучка?

Арына Радзівонаўна. Унучка.

Міліцыянер. У вас жыве?

Арына Радзівонаўна. Жыве.

Міліцыянер. Харошая?

Арына Радзівонаўна. Дай бог табе такіх дзетак.

Міліцыянер. Спачатку жонку трэба.

Арына Радзівонаўна. Дай бог табе і жонку такую.

Міліцыянер. Вашай гадоўлі? Пароды вашай?

Арына Радзівонаўна. Маёй. На адным ложку спалі. Пакуль не падрасла. У цеснаце.

Міліцыянер. З гумарам? Вясёлая?

Арына Радзівонаўна. Вясёлая.

Міліцыянер. Не будзе вас крыўдзіць?

Арына Радзівонаўна. Грэх і думаць так.

Міліцыянер. Вось вам форма нумар пятнаццаць.

Арына Радзівонаўна. Гэта што? Штраф?

Міліцыянер. Не, бабуся. Са штрафам я б так не спяшаўся да вас. А то, бачыце, вечарам і пад дажджом... Я вас абрадую, бабуся...

Арына Радзівонаўна. Чым?

Міліцыянер. Уласна кажучы, і не я, а Тамара Паўлаўна, дэпутат наш. Прыехала ў райаддзел, начальніка за рукаў і ў Вярхоўны Савет. А там яму строгі наказ — прапісаць! Без ніякіх! Тэрмінова! Вось! Начальнік уручыў мне форму нумар пятнаццаць і загадаў самому ўсё афарміць. А? Гарэлку не п'ю, а каву — стаўце! *(Заўважае ў Верачкі слёзы.)* А чаму сляза? Выбачайце...

Працяглы званок.
Бабуся і ўнучка пераглянуліся.

Арына Радзівонаўна ідзе ў прыхожую і хутка вяртаецца.

Арына Радзівонаўна. Тэлеграма. «Чакаў. Еду. Сібір. Уладкуюся, напішу. Любіш, прыедзеш. Прывітанне бабусі! Добры моладзец!»

Міліцыянер. Я буду да вас наведвацца. Можна? На адведкі, а?

Арына Радзівонаўна. Цяпер дазвол ёсць...

Міліцыянер *(зразумеў у сваю выгаду)*. Ну, дзякуй вам! Не журыся, Верачка!

Міліцыянер выходзіць.

Верачка выходзіць на балкон, падстаўляе далоні пад дождж, а потым і твар. Выцірае твар рукамі, зноў ловіць кроплі дажджу, цягнецца рукамі вышэй, вышэй... да хмар, за струменьчыкамі дажджу.

На балкон выходзіць Арына Радзівонаўна. Спагадліва пазірае, як унучка дожджыкам абмывае сваё першае гора...

*Канец.*

*1976 г.*

# ДЫХАЙЦЕ ЭКАНОМНА!..

КАЛІ ГЭТА ФАРС,
ДЫК ШТО Ж ТАДЫ РЭАЛЬНАСЦЬ?
У ДЗВЮХ ДЗЕЯХ,
ВАСЬМІ КАРЦІНАХ З ПРАЛОГАМ

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Бім.
Крошка.
Кейт.
Анджэла.
Прэзідэнт.
Святчэннік.
Ісак.
Леанора.
Адольф.
Людовік.
Аўгуст.
Фарыд.
Хіра Сіта.
Сіньёра Фанфані.
Антоніо.
Вудро.
Аліса.
Філосаф.
Ахова, мушкецёры, легіянеры, воіны, танцоўшчыцы, спявачкі.

## ПРАЛОГ

Набярэжная ноччу. У цёмнай чорна-сіняй вадзе адлюстроўваецца вуліца процілеглага берага. Уражанне такое, нібы агромністы горад перавернуты ўніз дахамі.

Мігцяць рознакаляровыя агні рэкламы. Гэтыя агні ствараюць зарава палахліва-трывожнае, фантастычнае. На фоне зарава ў цёмных і таму таямнічых небаскробах, якія нагадваюць падмагільныя абеліскі, толькі там-сям свецяцца вокны. Пэўна, людзі спяць. Але наўрад ці спакойны іх сон. Час трывожны, наш час.

Своеасаблівае жыццё цячэ між гэтых камяніц: мурашамі снуюць аўтамабілі, зрэдку чуваць іх меладычныя гудкі, а то раптам разарве цішу зычная, рэзкая сірэна пажарнай машыны. І зноў цішыня. Нечакана недзе за вуглом стрэл і следам адчайны ўскрык, як апавяшчэнне аб нечай бядзе ў джунглях каменных вуліц. Панічна прасвірчэў свісток паліцэйскага і заціх, нібы патануў у цёмных глыбінях ракі.

Па набярэжнай праходзіць і спыняецца каля парапета стомлены, пахмурны, задуменны містэр К е й т. Гэта яго кароткая начная прагулка.

За парапетам нехта ўключае транзістарны прыёмнік. Гучыць музыка. Нечакана музыка перапыняецца голасам радыёдыктара.

Г о л а с д ы к т а р а. Слухайце экстраннае паведамленне з канцылярыі прэзідэнта. Наш флот на поўных парах ідзе да вострава Васкрасення наперарэз караблям варожай армады. Па разліках спецыялістаў да крытычнага моманту, да сутычкі застаецца не больш чатырох гадзін сарака мінут.

Г о л а с д з я ў ч ы н ы *(знізу за парапетам)*. К чарцям! Заглушы гэты пракляты транзістар! Хай не капае нам на мазгі хоць гэту апошнюю ноч.

Г о л а с Б і м а. Кінь транзістар у ваду! Утапі яго! Разам з прэзідэнтам. І супакойся.

Знізу з-за парапета выходзяць Б і м і яго К р о ш к а. У руках у дзяўчыны партатыўны прыёмнік. Гучыць амерыканская песенька «Перад пагібеллю». Маладыя прысаджваюцца на лаўцы і — няяс-

на — ці то яны мілуюцца, галубяцца, ці расстаюцца, развітваюцца. Кейту гэта не вельмі падабаецца, але потым, пільна прыглядзеўшыся, пазнае хлопца.

Кейт. Бім! Гэта ты?

Бім *(пазнае Кейта)*. О, сэр! Пачакайце... *(Дзяўчына затуляе яму рот пацалункам.)* Мы спяшаемся. *(Зноў пацалунак.)* Заўтра будзе позна.

Дзяўчына, абхапіўшы галаву хлопца, прытуляе яе да грудзей, нібы хлопцу нешта пагражае, нібы яго хочуць адабраць у яе. А хлопец смяецца.

Крошка. Бім, я саромлюся перад ім. Дай яму па акулярах. Гэта ён!

Бім. Ён.

Кейт. Ты ў ёй бачыш сэнс жыцця, Бім? Ты на яе прамяняў мой навукова-тэхнічны цэнтр? Маю лабараторыю?

Бім *(далікатна вызваляецца з абдымкаў)*. Сэр! Я яе ні па што не прамяняю. Яна як новенькі долар. Сонца таксама падобна на манету, але ж — неразменнае. Яна — як сонца. Неразменная.

Кейт. Кінь пустое, Бім! Пагаворым.

Бім. У нас так мала часу. Мы даражым кожным імгненнем. Спыніся, імгненне! *(Цалуе дзяўчыну.)* Бо заўтра ўжо нічога не будзе.

Кейт. Бім, яна загубіць цябе, твой талент, тваё жыццё! Яна прынесла табе зло.

Бім *(горача, шчыра)*. Не, сэр, не! Яна дзівосная! Фантастычная чарадзейка! Яна адкрыла мне агромністы свет шчасця, радасці... Яна напоўніла мяне, маё жыццё такім захапленнем, што я... проста задыхаюся. Гэта — каханне! Я дзякую неба за такую асалоду!

Кейт. Якое захапленне? Самападман! Якое каханне! Няма гэтага ў прыродзе! Ёсць толькі палавая спакуса! Цяга! І ты, Бім, ты паддаўся звычайнаму жывёльнаму інстынкту? Бім!

Крошка. Бім! Чаму гэты джэнтльмен гаворыць непрыстойнасці?

Бім. Крошка, гэты джэнтльмен *(шэпча ёй)* — няшчасны чалавек. Ён не спазнаў кахання. Не крыўдуй на яго.

Крошка *(падазрае)*. Ён нехарошы. *(Упэўнена.)* Ён злы!

Кейт. Ты ў тумане экстазу, Бім. Яна табе здрадзіць.

К р о ш к а. Ён крыўдзіць мяне, Бім.

Б і м. А ты даруй яму, Крошка. Пашкадуй яго.

К е й т. Мне трэба таленавіты памочнік. Мне патрэбен наследнік, Бім. Маім ідэям. Мы адкрыем з табой такі фантастычны свет, дзе ты спазнаеш радасць валадара магутных сіл прыроды. Ты адкрыеш для сябе прыгажосць і хараство сілы.

Б і м. Сэр! А прыгажосць ласкі, пекнаты, міласці? Крошка! Пакажы сябе! *(Паднімае і ставіць яе на лаўку.)* Паглядзіце, сэр! Вось пачатак усіх пачаткаў! Пачатак жыцця! Аснова. Вось яна — найвялікшая сіла прыроды. Сама прырода! Вось яна — прыгажосць, чыстая, празрыстая, як каляровая вясёлка. Яна мой ідэал, мая рэлігія.

К е й т. Час развее гэта, як вясёлку, як туман. А я клічу цябе да вечнага.

К р о ш к а *(агледзела Кейта)*. Ён дурны, Бім?

Б і м. Ён геній, Крошка. Ён вялікі маэстра. Ён — усемагутны, як бог.

К р о ш к а *(насцярожылася)*. Калі ён табе... Калі ваша навука, вашы ідэі даражэй табе... Калі табе трэба з ім, я адпушчу цябе. Для цябе я... Хочаш быць свабодным? Я зараз жа кінуся туды. У вір!

Б і м. Не, Крошка! Ты ж ведаеш, што я тут жа нырну следам ратаваць цябе, ратаваць цябе на гэтыя кароткія чатыры гадзіны.

К р о ш к а. Вот! *(У паядынку з Кейтам яна адчула сябе пераможцай.)* Гэта самападман? Для яго я — жыццё. Я ўсе яго мукі-пакуты вазьму сабе і буду шчаслівай. *(Тлумачыць, як тупому дзіцяці.)* Вось гэта і ёсць каханне.

К е й т. Пустаслоўе гэта! Абстракцыя! Гэтага не бывае! Не было! Гэта выдумка паэтаў!

Б і м. Сэр! А я? Абстракцыя? Я — ёсць. І яна ёсць. Яна рэальная. Можаце абмацаць... Мяне!! Значыць — бывае! Вы ўпершыню бачыце такое дзіва? А можа, нас толькі двое, Крошка? Нават і тады, калі б нас было толькі двое з пяці мільярдаў, толькі двое шчаслівых, то і тады богу варта было стварыць гэты свет. Нават калі нас толькі двое!

Г о л а с д ы к т а р а. Канцылярыя прэзідэнта паведамляе: камандаванне нашага ваенна-марскога флоту патрабуе ад варожай армады спыніць набліжэнне да вострава Васкрасення. Аднак караблі гэтай армады ігнаруюць загад нашага ваенна-марскога міністра. Астаюцца

лічаныя гадзіны... Маліцеся аб літасці богавай. Ядзерная вайна на парозе вашага дома.

Б і м *(у трывозе)*. Крошка! Расінка мая! Мой сусвет!

К е й т. Не веру. Самападман. Сон.

Праціраe акуляры. Тым часам х л о п е ц і д з я ў ч ы н а знікаюць. Прыходзіць А н д ж э л а.

А н д ж э л а. Сэр. Вас тэрмінова запрашае прэзідэнт.

К е й т. Тэрмінова? Пэўна, прабіла гадзіна, Ангел...

А н д ж э л а. Прабіла палавіну другой.

К е й т. Не, дарагі мой, не другой, а, напэўна, апошняй. Ну, Ангел, бывай.

А н д ж э л а. Я з вамі, сэр.

К е й т. А можа, застанешся? Аставайся. Ідзі ў бар. Там стрыптыз. Заўтра яго не будзе.

А н д ж э л а. Не, сэр, там кожны дзень. Без выхадных.

К е й т. Было... Кожны дзень было. Сёння апошні дзень.

А н д ж э л а. А гэтая пара... Вы сказалі — «наследнік», не вашы? Гэтыя двое?

К е й т. На жаль! Пара... На жаль, іх толькі двое. *(Успамінае.)* «Нават, калі нас толькі двое...»

Раптам гасне святло. У высі ледзь прыкметна мігцяць зоркі Вялікай Мядзведзіцы.

*Зацямненне.*

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Пасля любоўных уцех самка забівае самца і пажырае.

*(З жыцця скарпіёнаў)*

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ

З цемры, аднекуль здалёк, быццам з нябесных міжзорных прастораў, чуецца трывожная, трагічная мелодыя. Дзіўныя, няведамыя інструменты ствараюць грозную, страшную музыку, і яна набліжаецца, нарастае, грыміць, як хваля цунамі, і адыходзіць. Толькі рэха паўтарае абрыўкі драматычнай мелодыі. Музыка абрываецца. Цішыня. Раптам цішыню парушае панічна-трывожны голас радыёдыктара.

Голас дыктара. Увага! Увага! Слухайце эстраннае паведамленне. Увага! Увага! *(Цікае хранометр.)* Праз некалькі мінут слухайце важнае пасланне прэзідэнта народам свету. Увага... *(Цікае хранометр.)* Увага! Перадаём зварот прэзідэнта да ўрадаў і народаў усіх краін нашай планеты. *(Цікае хранометр.)* Слухайце мемарандум прэзідэнта.

У пачатку выступлення ў голасе прэзідэнта чуецца трагічны надлом і глыбокае хваляванне. А потым праяўляюцца ноткі ўзбуджанасці, нейкага азарту, амаль трыумфу. Пад канец ён адчуў у сабе сілу, усемагутнасць бога. Не тварца, а разбуральніка. Разгневанага, помслівага. Бязлітаснага.

Голас прэзідэнта. Грамадзяне свету! Будзьце мужнымі! Надышла гістарычная ракавая гадзіна. Супярэчнасці паміж намі і чырвонымі дасягнулі крытычнага напружання. І ў нас, і ў нашага праціўніка накапілася такая колькасць зброі масавага знішчэння — хімічнай, бактэрыялагічнай, атамнай, тэрмаядзернай і нейтроннай, якой ужо даволі, каб напоўніць рот попелам кожнаму, хто жыве на нашай планеце. Настала цяжкая, ліхая хвіліна рашыцца: альбо мы, альбо яны. Было б неразумным не апраўдаць надзеі, веры і спадзяванняў падаткаплацельшчыкаў. Мы праславімся ашуканцамі і марнатраўцамі, калі не выкарыстаем па-гаспадарску іх шматгадовыя ахвяраванні на нашу справу. Мы абавязаны, нарэшце, вярнуць сабе здаровы сэнс, волю і цвёрды дух. Мы прывялі сябе і ўсё чалавецтва да трагедыі не сваёй цвёрдасцю, а хістаннем, не ўпэўненасцю і рашучасцю, а няўпэўненасцю і нерашучасцю, не сваёй дзейнасцю, а бяздзейнасцю. Быў час, калі, назіраючы, як па глобусе распаўзаецца чырвоны колер, у нас задрыжала не рука з мячом, а душа. Дык не будзем зноў імпульсіўнымі, даваючы кожнаму абяцанню аб міры, якое даюць ворагі міру, і адхіляць, як небяспечную, кожную прапанову прыхільнікаў міру праявіць сілу. Наш народ не хоча мець нічога агульнага з вайной, але наш народ гэтак жа не хоча мець нічога агульнага і са згодніцтвам. У гэтым усе мы аднадушныя. Хай за рубяжом не думаюць, што акіян — перашкода нашай аднадушнасці. Зараз няма вайны. Але няма і міру! Усе людзі ненавідзяць вайну. Але вельмі часта нашы людзі яшчэ больш ненавідзяць дысцыпліну, свой абавязак. Мы павінны зразумець, спасцігнуць, засвоіць простую ісціну: доўгачаканы мір настае пасля вайны, і таму, каб гаварыць пра мір, неабход-

на, каб спачатку была нейкая вайна. А яе няма. Я ўпэўнены, што сучаснае пакаленне маіх суайчыннікаў з гатоўнасцю сустрэне суровае патрабаванне такой неабходнасці ў інтарэсах міру, дзеля ўсеагульнага спакою і цішыні. З поўным усведамленнем гэтай неабходнасці мы націснулі на ўсе пускавыя кнопкі нашых ракетна-ядзерных установак, і ў гэтую мінуту нашы ракеты ўжо набліжаюцца да намечаных цэляў у стане праціўніка. Будзьце мужнымі і вы! Хай паможа вам бог. *(Прэзідэнт з палёгкаю ўдыхнуў і ўжо пры святле закончыў.)* Калі ён зможа каму-небудзь памагчы.

Асвятляецца прасторны хол у рэзідэнцыі першага валадара падземнага царства. Не, гэта не тое прымітыўнае атамнае сховішча, пра якое мы мелі магчымасць чытаць нямала банальных фантастычных гісторый аб гібелі цывілізацыі ў ядзернай вайне. Не, гэта падзямелле — ідэальнае збудаванне эпохі апошняга росквіту буржуазнай дэмакратыі, яе навукі і тэхнікі.

Сюды сабрана эліта дзелавых людзей з усяго свету: бізнесмены, прадпрыемцы, гаспадары буйнейшых манаполій, нацыянальных і міжнацыянальных карпарацый, банкіры і віднейшыя палітыканы сучаснасці. Гэта тыя ананімы, якія скрывалі свае імёны, маскіруючыся тэрмінамі «ваенна-прамысловы комплекс» і «транснацыянальныя карпарацыі».

Некаторыя з іх усхваляваны недахопам інфармацыі, другія ўрачыста манументальныя, як на малітве, бо залішне інфармаваны і дакладна ведаюць, на які трагічны рубеж яны прывялі чалавецтва. Зараз яны ўсе застылі, як на фатаграфіі: Кейт, Адольф, Людовік, Аўгуст, Фарыд, Хіра Сіта, сіньёра Фанфані з унукам Антоніо, Вудро з пляменніцай Алісай, святчэннік, філосаф, а потым падыходзіць Леанора і іншыя. З'яўляецца Прэзідэнт. Ён ашаломлены, ідзе крадучыся і насцярожана прыглядаецца то да аднаго, то да другога, нібы шукае сведку, які пацвердзіў бы, што злачынства, толькі што зробленае ім, зроблена не па сваёй волі, а пад гнётам неадольнага лёсу і службовага абавязку. Спыняецца, прыслухоўваецца.

Доўгая паўза. Нарэшце ўсе заварушыліся, фатаграфія ажывае.

Прэзідэнт. Ну, вось, панове, усё! Усё! Канец.

Вудро. А можа, пачатак?

Прэзідэнт. Так. Новы пачатак. Вялікі пачатак. *(Свяшчэнніку.)* Блаславіце, ойча.

Свяшчэннік. Бог блаславіць. *(Перахрысціў прэзідэнта.)* Пан прэзідэнт! Што гэта — чарговая вучэбная трывога?

Адольф. Камедыю разыгрываеце?

Прэзідэнт. Панове! Будзьце мужнымі. Гэта не камедыя.

Сіньёра Фанфані. Зноў генеральскія жартачкі.

П р э з і д э н т. Якія жартачкі? Там зараз клякоча атамная вайна! Там зараз гіне чалавецтва! Руйнуецца цывілізацыя! Панове! Там катастрофа!

І с а к. Задуманую, падрыхтаваную і арганізаваную аперацыю не называюць катастрофай. Называюць удалай альбо няўдалай. Чаго вам яшчэ хочацца?

С в я ш ч э н н і к. Сіньёр прэзідэнт, пры атамнай вайне ўсе павінны загінуць, а мы, як бачыце, жывыя. Вы хацелі настрашыць нас?

С і н ь ё р а Ф а н ф а н і. Растлумачце, калі ласка, усім сваім уласнымі словамі, як мы ўцалелі?

П р э з і д э н т. Так, вы ўцалелі. Панове! Вас я сабраў... А дакладней, наша Тайная Дума мне даручыла і я склікаў вас усіх, каторыя павінны ўцалець, як самая чыстая парода... высокая, знатная, лепшая частка прадстаўнікоў вялікага бізнесу і палітыкі, а таксама паўнацэнныя гаспадары транснацыянальных карпарацый, фінансісты, нафтавыя каралі, блізкія да іх генералы і некаторыя вельмі паважаныя дамы. Так сказаць — эліта... Паперкі няма? *(Зразумеў, што давядзецца выкручвацца без шпаргалкі.)* Лад жыцця ў нас будзе такі: строга і няўхільна ўсе павінны прытрымлівацца нашага галоўнага прынцыпу — недатыкальнасці прыватнай уласнасці і, як святую святых, захоўваць і аберагаць наш прынцып — святое права свабоды прадпрымальніцтва і асабістай ініцыятывы. Мы спынілі цывілізацыю на гэтым месцы і не дазволім нікому зрушыць нас ва векі вякоў. Той, хто намерыцца парушыць нашы прынцыпы, будзе асуджаны на скормліванне там, у ніжнім ярусе — самкам і самцам.

Паўза.

А л і с а. А скажыце, калі ласка, як доўга вы намераны трымаць усіх нас тут, у гэтым падвале?

Л ю д о в і к. Пакуль не састарышся.

П р э з і д э н т. Мы вымушаны жыць тут, пакуль там *(жэст угору)* не скончыцца так званая радыяцыя. Пройдзе прыблізна дваццаць пяць гадоў. А магчыма, і яшчэ больш. Ці не так, містэр Кейт?

К е й т. Магчыма, і яшчэ болей.

Чуваць галасы нездаволеных.

Л е а н о р а. Дваццаць пяць? Гэта ж кашмар!

А ў г у с т. Та-ак, сумна да слёз.

Л ю д о в і к. Добраахвотная пажыццёвая турма.

Свяшчэннік. Святы божа! Пашкадуй і злітуйся! Які жах!

Адольф. Вось гэта дэзін-фек-цыя!

Аліса. Дваццаць пяць? Гэта ж... Я сапраўды састаруся. Жахліва.

Прэзідэнт. Шаноўныя! Што жахліва? Вам страшна жыць? Чаму кашмар? Дзе кашмар? Там — вы думаеце — саладзей? Вам захавалі жыццё! А там зараз гіне ўсё чалавецтва! Усю планету кінулі ў касцёр, вам у ахвяру! Кашмар, пекла зараз там! А вы... Кейт! Дайце ім паслухаць, што творыцца зараз там. Хай зразумеюць.

Кейт уключае радыёапаратуру. Чуецца аглушальны грукат, выбухі, скрыгат металу, звон разбітага шкла, выццё сірэн, дзікі чалавечы лямант, іржуць коні, мыкаюць каровы, нястрымна плача грудное дзіця, зноў грукат, звон, скрыгат, ашалела мяўкае кошка, кудахчуць перапалоханыя куры, бляюць авечкі і козы, вые вецер, плешчацца хваля. І раптам цішыня. Толькі дождж, лівень. Эліта прыціхла, насцярожылася.

Леанора. Як жудасна! Бр-р-р...

Сіньёра Фанфані. Ім не пазайздросціш. Лепей ужо...

Аўгуст. Што лепш? Гэта ж гнюснейшае злачынства!

Адольф *(у захапленні)*. Нават маю фантазію абскакалі!

Філосаф. Вар'яцтва! Шаленства! Дзікасць!

Свяшчэннік. Хто на такое адважыўся? Хто асмеліўся на такі грэх?

Леанора. Прэзідэнт нам аб'явіў. Вы хіба не чулі?

Свяшчэннік. Гэта ж бесчалавечна!

Аліса. Ад гэтага можна з глузду з'ехаць.

Людовік. Калі ён ёсць...

Філосаф. Не жартуйце! Гэта ж найвялікшае злачынства перад чалавецтвам! Судзіць яго міжнародным трыбуналам!

Людовік. Адкуль возьмеш міжнародны трыбунал? Народаў жа няма?!

Антоніо. Расцерці на парашок і развеяць па ветры.

Сіньёра Фанфані. Сядзь! Не твая справа. Дзе тут знойдзеш вецер?

Аўгуст. Каб зняць віну з нас— судзіць!

Сіньёра Фанфані. Перад богам мы ўсе вінаватыя... Але за нас ён можа папакутаваць і скупіць нашу віну. Сам бог за нас цярпеў?

П р э з і д э н т *(спалохаўся).* Лэдзі і джэнтльмены! Я ж толькі выканаў вашу волю! Я ж пачаў гэта, каб выратаваць вас! Вы што? Не разумееце? Не пайшоў бы я на такое, вы страцілі б там усё, усе вашы багацці. Вам пагражала нацыяналізацыя!.. Экспрапрыяцыя! Вось перад якой перспектывай вы апынуліся. *(Паўзачка.)* А грамадзянская вайна абяцала вам фізічнае небыццё. Вы гэтага хацелі? Для вас ёсць рэчы горшыя за ядзерную вайну. І важнейшыя за мір. Мы стаялі перад выбарам: мы ці яны. Я выканаў свой абавязак.

Х і р а  С і т а. Выканаў? Харашо! Злачынства зрабіў? Пагана. Адказваць трэба. Гісторыя запытае... у мяне запытае: ён рабіў пагана, а ты дзе быў? Чаму не перашкодзіў? Значыць, быў напарнікам? Га? А я скажу: «Не-е, суд быў. Прыгавор быў. Строга пакараць. Скарміць!» Усё правільна. А як жа? Я сказаў.

Паўза.

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Судзіць! *(Апускае вочы.)*

Паўза.

А ў г у с т. Пакараць! Ён ведаў, на што ішоў...

Паўза.

Ф а р ы д *(змрочны).* Рас-пяць!

Х і р а  С і т а. Нашто — пяць? Раз хопіць.

Паўза.

Л ю д о в і к. Пакараць. *(З пахвалой.).* Ён гэтага заслужыў...

С в я ш ч э н н і к. Уздаць! У святым пісанні сказана: «Мне отмщение и аз воздам».

Ф і л о с а ф. На навуку патомкам — караць публічна!

П р э з і д э н т *(зразумеў, што тут не жартуюць).* Ды вы што, панове? Ды я ж... Вы думаеце, мне лёгка было адважыцца на такое? Ды ў мяне і цяпер яшчэ дрыжаць калені. Ды я... Ды мяне... Быццам я не чалавек? Гэта неверагодна! Дарагія! Зразумейце, як мне цяжка было, калі я... да канца жыцця мне будзе гудзець у вушах, стаяць перад вачамі... Я ўжо гэтым пакараны. Я ж выканаў волю Тайнай Думы.

Некаторыя зжахнуліся, прытаіліся, чакаюць.

Ф а р ы д. Гэта святатацтва! Каціць бочку на Тайную Думу?!

І с а к. Кашчунства, канечне! Такое — ніхто не даруе.

Л ю д о в і к. Цяпер не чакай літасці.

А д о л ь ф. Ніякай літасці! Гэты хлюпік недастойны нашага новага грамадства! Мы будзем непрымірымымі! Будзем бязлітаснымі! Прэч з дарогі! Далоў яго! Хіба можна давяраць яму ўладу? Не, ён недастойны!

І с а к. Але і без улады ніяк нельга. Анархія? Бязладдзе? Нам трэба парадак.

А д о л ь ф. А таму — уладу бяру я! Ну? Хто супраць? Супраць няма. Хто за? *(Правярае, хто падняў руку.)* Супраць няма. Хто за?

Удзельнікі такога дзіўнага галасавання заўважаюць, што ўсе выхады ўжо заняты людзьмі ў эсэсаўскай форме, а таму сталі галасаваць з большым энтузіязмам.

Апусціце. Хто за? *(Паднятых рук болей.)* Хто за? Не апускайце. Хто за? Хто за?..

Пасля кожнага пытання ўсё больш і больш рук шчацініцца, і не галасуючы ўжо, а вітаючы дыктатара.

Ф і л о с а ф. Дык гэта ж насмешка над дэмакратыяй!! Грамадзяне! Вы што? Без памяці? Усё забылі? Каго вы зноў дапускаеце да ўлады?!

А д о л ь ф. А ты хто? Ты як сюды трапіў?

А н д ж э л а. Ён інтэлігент. Ён — філосаф.

А д о л ь ф. А-а, мысліцель? Многа есць і доўга думае? І не проста думае, а прыблізна. Эй, служба аховы! Шаноўнага філосафа ў камфартабельную камеру. Газавую! Узяць яго!!!

А н д ж э л а. Усё жыццё маўчаў, і вось за адну фразу...

Ф і л о с а ф а выводзяць, і яго лямант заглушае стук жалезных дзвярэй.

Л е а н о р а *(у захапленні)*. Вось гэта мужчына! Прыйшоў, убачыў, перамог! Сапраўдны ўладар! Дазвольце, я папраўлю прычоску.

Леанора прычэсвае Адольфа, і ўсе тут жа пазнаюць у ім славутага фюрэра.

А н д ж э л а. Мой фюрэр! А з гэтым, з былым прэзідэнтам?

Адольф. Гэта ўжо палітычны труп. Я яго знішчыў. Ён смярдзіць *(абнюхаў прэзідэнта)*. Фу-у! На памыйку яго! На сметнік гісторыі!

Анджэла. Гэта што? У крэматорый?

Прэзідэнт. Мой фюрэр! Што ж вы так? Захавайце мне жыццё! Для гісторыі. Для музеяў. Для мемуараў. Як горкі прыклад іншым. Я ж многа чаго ведаю. Мно-ога...

Сіньёра Фанфані. Аддайце яго мне. Я яго... купляю. Калі што — я яго скармлю.

Адольф. Яго ўжо не раз куплялі... І прадавалі. Бяры!

Леанора *(спагадліва)*. Мой бедны фюрэр. Ён так стаміўся...

Адольф. Так, я стаміўся. І мне трэба ласка. А ты хто?

Леанора. Я — Леанора. Я ўсё жыццё верна служыла ў адміністрацыі. Я дакладна выконвала ўсё, што мне даручалі. Прэзідэнты мяняліся, а я... Вопытная адміністрацыя — фундамент улады.

Адольф. Мудра. У такім разе, Леанора, ты будзеш маёй адміністрацыяй. Так, я стаміўся. Вядзі мяне ў маё логава.

Фюрэр цягне Леанору па прыступках у нішу, усаджваецца ў тронападобнае крэсла, а яе садзіць на падлакотнік і тут жа засынае. Зрэдку крыху адкрывае адно вока для кантролю. Леанора папраўляе фюрэру прычоску і паціху спявае яму сентыментальную калыханку — «По разным странам я бродил...».

Прэзідэнт. Дзякую вам, сіньёра! Гісторыя ацэніць ваш...

Сіньёра Фанфані. Ты цяпер — мая ўласнасць, мой раб. Прысядзь па кукішкі там, на запятках. Што вачамі лыпаеш? Анджэла! Прывучы яго!

Не паспеў Анджэла зрабіць і двух крокаў, як прэзідэнт-раб сам паслухмяна выканаў яго загад.

Леанора *(заціскае пальчыкам вусны)*. Тс-с... Задрамаў. *(Закрывае шырмай working соннага валадара.)* А цяпер ўсе паціху выйдзіце. Ціха. *(Яе шэпт загіпнатызаваў усіх, і яны — вельмі важныя персоны — адыходзяць да выхаду на дыбачках.)* А ты, Антоніо, застанься.

Сіньёра Фанфані. Не бойся яе, унучак. Застанься.

Усе выйшлі. Засталіся двое.

Антоніо. Я і не баюся. А калі і счэпімся, то нічога страшнага, апроч дзяцей, не будзе.

Леанора. Тс-с. *(Заціскае яму рот.)* Не хамі. Я ж люблю цябе, люблю. Ты і сам заўважыў. Што, не? Але чаму ты пазбягаеш?

Антоніо. Так раптам? Вось гэта атака! За што любіш, кошачка?

Леанора. Ты такі складны, такі стройны. У цябе адкрыты твар, ясныя вочы, чыстыя, добрыя. Ты добры. Ты яшчэ не сапсаваны.

Антоніо. А ты?

Леанора *(сумелася)*. Я? Я горшая за цябе, таму што... Таму, што ўсе людзі горшыя за цябе. І я таксама горшая.

Антоніо. І я так падумаў. Мяне любіш, а яго за пазуху пускаеш. Ды ты не толькі мяне... Расказваюць пра цябе такое...

Леанора. Не гавары болей. Нічога не гавары! Ты мяне не ведаеш. Я — няшчасная, але не паганая. Я пакрыўджаная. Вельмі пакрыўджаная. Страшэнна! Жахліва! Я сцярпела, я вынесла і паразумнела. У мяне хапіла сілы волі. Ты ўбачыш, ты пераканаешся. І я для цябе ўсё магу зрабіць. Я ўсё магу! Толькі паправіць мінулае не магу. Сваё мінулае. Але пакуль што ты мне нічога не гавары. Добра?

Антоніо. Я і не збіраюся гаварыць табе што-небудзь.

Леанора. Я кахаю цябе. Я павінна любіць некага. Ёсць жа ў мяне душа! Не магу я больш так. Не гані мяне. Я дабрату шукала. Бог паслаў мне цябе. Я пакутую і радуюся ад кахання да цябе. Не гані мяне. Навошта мне тады і жыць? Я шчырая перад табой...

Антоніо. Вам, такім, не чалавек, а цацка трэба, забава, жывая лялька — во што вам трэба.

Леанора. Божа мой! Якая ж ты лялька! Такі здаравенны!

Антоніо. Вам пацешыцца, юрлівасць сваю задаволіць, капрыз, і гэты капрыз вы называеце пакутамі кахання.

Леанора. Пачакай! Пастой! Не пакідай. Не спяшайся...

З-за шырмы выглядвае Адольф.

Антоніо. А я і не спяшаюся. *(Лянiва выходзіць.)*

Андрэй Макаёнак, Уладзімір Дубоўка і Пятро Васілеўскі.
1959 год.



Сцэна са спектакля «Каб людзі не журыліся». У ролі Самасева — народны артыст СССР Глеб Паўлавіч Глебаў, у ролі Кавальчука — народны артыст СССР Барыс Віктаравіч Платонаў. 1959 год.



Адольф. Хто гэта? Загаворшчык?

Леанора. Не, не, гэта мой жаніх.

Адольф. Жаніх? А навошта табе жаніх? Для чаго?

Леанора. Для прэстыжу. Каб не падумалі пра вас блага.

Адольф. А ведаеш, мне зараз прыснілася, нібыта на Маскву забыліся паслаць ракеты. Га? Забыліся!! Дайтка мне гэтага... карыфея. Ніякай інфармацыі. *(Азіраецца.)* А-а... А дзе публіка? Дзе мой народ? Кліч народ!

Леанора склікае народ званочкам. Каля дзвярэй з'яўляюцца эсэсаўцы і прапускаюць абарыгенаў падзямелля.

Леанора. Вось і народ. Народ у нас паслухмяны.

Сіньёра Фанфані. Хоць бы плёткі якія. Дзе голас Амерыкі?

Ісак. Своечасовая інфармацыя — маці бізнесу.

Леанора *(націскае клавіш на шчытку прыбораў)*. Маэстра Кейта.

На адным з тэлеэкранаў з'яўляецца Кейт.

Адольф. Тэрмінова інфармацыю аб планеце: сённяшнія віды Берліна, Лондана, Масквы, Парыжа, Пекіна, Дэлі, Вашынгтона і Токіо. І наогул, што новага ў атмасферы? Там. *(Пакарыстаўшыся насоўкаю, сцірае ёю з экрана Кейта.)* А цяпер — новы парадак патрабуе ад вас, ад улады дзеянняў. Патрэбны смелыя планы, дакладныя арганізацыя і чысціня расы. Анджэла!

Анджэла. Слухаю, мой фюрэр.

Адольф. Пастроіць усіх!

Паслухмяны Анджэла акуратна выконвае загад фюрэра.

Памераць ім чарапкі, ілбы, насы і гэтак далей. Хто ёсць хто? Непаўнацэнных выбракаваць. *(Залажыўшы рукі за спіну, Адольф імкліва ходзіць перад шарэнгай.)* Леанора, фіксуй! *(Аўгусту.)* Ты хто?

Аўгуст. Цэзар я.

Адольф. Юлій? Чыё патомства?

Аўгуст. Фіятава. Аўгуст я.

Адольф. А-а, арыец, але з прымессю. *(Людовіку.)* Ты хто?

Людовік. Прашу не тыкаць. Я Людовік. Фірма «Міраж».

Адольф. Людовік? Каторы? На Францыі вас было столькі, як на сабаку блох. Людовік лянівы — не твой прадзед? Той, што памёр бяздзетным ад ляноты?

Людовік. Як жа бяздзетным, калі вось я — яго праправнук.

Адольф. Ну-у, экселенц! Прабабкі ўмелі гэта без дзеда...

Людовік. Калі б не французы, ваша нацыя даўно б вымерла.

Адольф. Міраж! Пладзіся. *(Ідзе да Хіра Сіты.)* Эскімос? Папуас? Ці японец? *(Не дачакаўшыся адказу.)* А, азіят. Дзікун. *(Ідзе да сіньёры Фанфані.)* Мадам?

Хіра Сіта *(намагаецца растлумачыць, шэпча)*. Медыкаменты! Таблеткі і біялагічныя сродкі... Гэтыя... Мошкі-букашкі...

Адольф. Вошы, блохі, маскіты?

Хіра Сіта. І яшчэ меншыя ёсць: бактэрыі ёсць, вірусы ёсць.

Адольф. Яго ліквідаваць, а бактэрыі пакінуць. Мадам?

Сіньёра Фанфані. Сіньёра Фанфані.

Адольф. А гэты, вялы — хто?

Сіньёра Фанфані *(з гонарам)*. Мой унук!

Леанора. Антоніо.

Адольф *(ацаніў)*. Прыгожы, а на што гожы? *(Да Леаноры.)* Ты яго знаеш? Будзь асцярожней. Спакуснік. *(Вудро.)* Англасакс? Шэкспір?

Вудро. Я — Вудро. ЮАР. Алмазы і наёмнікі... І яшчэ...

Адольф. А-а, дэсантныя караблі? Танкі? Утыльсыравіна. А яна?

Вудро. Пляменніца. Яшчэ і віскі — наперабой стэлічнай.

Адольф. А хто піць будзе? Ён? *(Ісаку.)* Нацыянальнасць?

Ісак. Пры чым тут нацыянальнасць? У мяне кіслаpод. Паветра.

Адольф. Ах, паветра? Газы? Так? Без колеру і паху? Га? Я табе дам паветра! Я цябе ў газавую камеру. Без чаргі. Анджэла! На заметку!

Ісак. Гэта называецца класавы мір. Гэта называецца — эліта. Бяскласавая. Зноў паўтараецца. Колькі ж можна? Навошта вам мая канфрантацыя? Мы вам усё забылі...

На тэлеэкране з'яўляецца Кейт.

Кейт. Інфармацыйнае паведамленне «Сёння на планеце». Лондана няма. Парыжа няма. Пекіна няма. Маск-

вы няма. Токіо няма. Дэлі няма. Вашынгтона няма. Нью-Йорка няма. Ніводная радыёстанцыя планеты не працуе. Мы ўлавілі толькі некалькі маласільных армейскіх радыёперадатчыкаў. Усе просяць дапамогі. Уцалелыя вельмі пакутуюць ад радыяцыі. Падзеі разгортваюцца адпаведна плану. Дзякую за ўвагу. Чарговае паведамленне ў дваццаць два дваццаць.

Экран пагас. Кейт знік. Адольф у задуменнасці шпацыруе то туды то сюды.

Адольф. Абскакалі! Мая філасофія ўзяла верх! Чулі? *(Адыходзіць на сярэдзіну.)* А дзе рабочы клас? Хто працаваць будзе? Дзе рабы? Вось гэтая шваль?

Людовік. Шаноўны! Вы каго маеце на ўвазе? *(Хапаецца за шпагу, якой няма ў яго.)* Прашу асцярожней. Зноў абражаеш наш гонар!

Адольф. Француз! Мне здаецца: ты рвешся на барыкады? *(Усім.)* Хто планаваў? Дзе рабочыя? Дзе палонныя? Дзе рабы? Хто будзе аднаўляць прамысловасць? Хто падніме з руін і попелу ўсё разбуранае?

Ісак. Мадам Фанфані, растлумачце яму. Будзьце ласкавы.

Сіньёра Фанфані. Мой фюрэр! Напладзіць рабочы клас — гэты клопат ляжыць на мяне. Вось так.

Ісак. Ну што вы так пагядаеце? Нічога смешнага. У яе там, у ніжнім ярусе, адсаджана дзевяць тысяч дзяўчатак. Падабраны яны па спадчыннаму прынцыпу: у каго мацеры, бабулі раджалі па двойні, тройні і больш. Самцы таксама. Эліксір росту таксама ёсць.

Адольф. А чаму ты за яе дакладваеш? Ты хто? Самец?

Сіньёра Фанфані. Як толькі выйдзем наверх, усё наладзім вельмі хутка. Ён не самец. Ён, як вам сказаць, падаў ідэю.

Ісак. Ну які я самец? Хіба на мяне гэта падобна? Але я маю акцыі гэтага прадпрыемства. І ўсё. Параіць, як гэта рабіць, канечне, я маю права. Але... які з мяне самец? Нават мне смешна.

Адольф. Я хачу сам, асабіста праверыць і пераканацца. У наш час усюды бессаромна злоўжываюць фальшывымі акцыямі. У дакладных адно, а ў натуры — фікцыя, фікцыя! Падман! Брак!

Сіньёра Фанфані. Мой фюрэр, нельга. Ёсць строгая забарона Тайнай Думы: ніхто з мужчын ні пад

якім відам пад страхам смерці не павінен паказвацца там. Да таго часу, пакуль не выйдзем наверх. Дазваляецца, як выключэнне, толькі пасля кастрацыі.

Адольф. Значыць, мне можна.

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

У келлі Ісак, Хіра Сіта, сіньёра Фанфані і Людовік.

Ісак. І як вам фюрэр? Га? Мне саўсім не падабаецца яго максімалізм, яго нецярплівасць да неарыйцаў. Ён можа даваць пагром. Я знаю. Ён каварны, гэты авантурыст.

Хіра Сіта. Зусім нехарошы чалавек! Як так можна? Азіят — дзікун... Ну, можа, папуас, можа, эскімос. Але чаму і япошка дзікун? Япошкі — культурная нацыя. Не-е, ён авантурыст, ён можа даваць нам нечаканасці. Ён небяспечны, як зімні воўк.

Ісак. Нам не дыктатар трэба, а дырэктар. У нас саўсім іншая расстаноўка класавых сіл. Мы ўсе свае!

Сіньёра Фанфані. І адкуль ён узнік, гэты узурпатар?

Ісак. Яна пытаецца — адкуль. З нашага мыслення. Мы ніяк не пазбавімся ад старых, банальных стэрэатыпаў, ад парахні былога свету, не можам тупнуць так, каб стрэсці з нашых ног усё гэта і пачаць жыць нанава. Мы прывязаліся да так званай дэмакратыі, да выбараў, да парламентаў. Ну, добра, ну, там мы трацілі мільёны, каб выбраць прэзідэнтам свайго чалавека. Там зразумела: масы, атары, класы, пралетарыят. Адным словам — статак. Але тут жа іх няма! Тут чыстае грамадства! Аднароднае! Так сказаць, элітнае насенне для новага пачатку! І вось табе на! З'яўляецца гэты нахабнік, карыстаецца нашым цюхцяйствам, хапае ў свае рукі ўладу і яшчэ пытае: «А ты хто?» Нацыянальнасць яму трэба. Гэта называецца — яго выбралі! Гэты хуліган, хам, бандыт сеў нам на шыю і кіруе. Ён камандуе. Ён пагражае! І ён такое можа натварыць. Але хто будзе гэта цярпець? Ён, гэты недавучка, гэты неданосак, маляр, здзекуецца з арыстакратаў, з Людовіка, пад... патомка каралеўскай крыві, з карыфея, з нас. А мы не ведаем, як ад яго пазбавіцца.

Хіра Сіта. Мала-мала бензіну трэба. Пасыпаць яго

бензінам, а потым даць яму сігарэту з аганьком. Прыкурыць.

Людовік. Даверце мне гэтага бязвусага таракана! Я з ім...

Прыходзіць Леанора.

Ісак. Ну, Леанора, што ён там?

Леанора *(муляецца)*. Сэр...

Людовік. Гэтая сінічка не давярае мне, а яго баіцца.

Ісак. Гэтая сінічка, ваша вялікасць, давярае вам больш, як сабе.

Леанора *(здзівілася)*. Ваша вялікасць? *(З папрокам.)* Ваша вялікасць?! Ён там... патрабуе ўрачыстасці, усенароднага свята. У такі час. Сусветная паніхіда, а ён — давай лікаванне! Здаецца, ён таго...

Ісак. Саўсім наадварот. Ён хоча ўрачыстасці, ён хоча адсвяткаваць, ён хоча ўліць у нас бадзёрасць, напоўніць аптымізмам. Ён хоча музыкі! Гэта называецца, усё гэта называецца — каранацыя.

Людовік. Ён хоча каранацыі?

Ісак. Слухай, Леанора! Тут дзе-небудзь не заваляласся якая-небудзь карона?

Леанора. Я пашукаю.

Ісак. Што значыць — пашукаю? Ты знайдзі!

Леанора. Я знайду!

Ісак. І прыхавай яе пры сабе... Пад падол, ці што. А я потым маргну табе, каму паднесці. Нічога не пытай. Я табе сам скажу, калі час прыйдзе. Ён хоча з музыкай? Будзе з музыкай.

Людовік. Сэр! Вы гэтага не зробіце!

Ісак. Я — не. А яна можа. Хіба я сам што-небудзь рабіў!

Леанора. Ён такі насцярожаны, нервозны. У яго хірамант сядзіць. А варожыць на картах.

Ісак. На картах? Здрабнеў? Ён так любіў глобус. Знаеце, патрымаць у руках цэлую планету, а потым даць ёй выспятка. Да-а... Хто на картах, хто на глобусе... Мы — на прагнозах. Гараскоп — больш надзейна.

З'яўляецца раз'юшаны Адольф.

Адольф. Дзе яна? Дзе гэтая, чорт яе вазьмі?! *(Заўважае Леанору.)* А-а, ты тут? Гэта што? Загавор мяцежнікаў? І ты з імі? Загаворшчыца?

Ісак. Што так, дык гэтак. Яна загаворвала зубы вось яму — Людовіку. Маладьі, прыгожы, разумны, вясёлы і халасцяк — жывое пра жывое.

Адольф. Француз! Ён зноў мне ўпоперак! *(Да Леаноры.)* Дзе народ? Дзе музыка? Дзе моладзь? Дзе індустрыя адпачынку? Дзе літаратура і мастацтва? Балет, акрабаты? Ілюзіяністы? Хакеісты?! Дзе?

Леанора. Усё гатова. Усе чакаюць вашай каманды. Прашу вас. *(Вядзе Адольфа да тронападобнага крэсла.)*

Ісак *(шэпча нешта Людовіку, таямніча азіраецца)*. Ідзі. І мушкецёры каб... Анджэлу пераапрані. Шпагі каб... Спектакль каб... Ступай, ваша вялікасць. Ні пуху ні пер'я!

Людовік. Дзе мой Мальер? А шкада — такая камедыя!..

Людовік выходзіць.

Гучаць фанфары. Адкрываецца заслона, і на экране, на фоне яркага, маляўнічага пейзажу, пачынаецца шоу. Шарэнгі дзяўчат прыгожых, з ледзь прыкрытым сорамам, у бліскучых боцікаў капіруюць вайсковы парад — зладжана, тэхнічна, рытмічна і бяздушна. Змрочны Адольф, седзячы на сваім троне, зрэдку апладзіруе паасобным нумарам паўбалета, паўпарада, паўакрабатыкі, паўмастацтва. Касцюмы артыстаў шоу паступова замяняюцца модамі мінулых стагоддзяў. Нарэшце пераважаюць касцюмы часоў Людовіка апошняга. Хол запаўняецца абарыгенамі падзямелля. Леанора шукае некага, нарэшце знаходзіць, твар яе святлее, і яна падыходзіць да Антоніо гэткай пантэрай — пластычна-эластычнай, абаяльнай.

Леанора. Антоніо! Чаму ты хаваешся, пазбягаеш мяне?

Антоніо. Вунь скапец твой азіраецца, да яго ідзі!

Леанора. Ты раўнуеш? Мілы дурань... Я так рада! Я шчаслівая...

Ісак дае нейкі знак Леаноры, і яна, як чараўніца, махнула белай ручкай, спыніла шоу: танцоўшчыцы, не закончыўшы па, заміраюць на месцы. Усе ўваходы і выхады займае варта з алебардамі. Потым з гікам урываюцца мушкецёры са шпагамі, акружаюць Адольфа, прыстаўляюць шпагі да грудзей, спіны, бакоў і паднімаюць яго з трона.

Мушкецёры *(дружна, хорам)*. Дыктатару капут! Няхай жыве кароль! Дыктатару капут! Няхай жыве кароль!! *(Скідаюць Адольфа.)*

Анджэла ў форме капітана мушкецёраў і свяшчэннік уводзяць Людовіка і ўсаджваюць яго на вызвалены трон.

Людовік. Па якому праву гэты гістарычны выкідыш стаў камандаваць намі? Па якому праву ён узурпі-

раваў уладу? Ён — плебей! І асмельваецца таптаць наш гонар, зневажаць каралеўскую кроў! Па-хамску, беспардонна! Не! Па волі ўсявышняга я вярну справядлівасць. Я правярну рэвалюцыю наадварот! Я рэстаўрырую сябе! Я мадэрнізую сябе на новай тэхнічнай базе! З гэтай хвіліны я — кароль! Ваша вялікасць Людовік!.. Які? Людовік Міражны. Апошні. Пасля мяне ўжо не будзе ніводнага.

Ісак падае знак Леаноры, яна падыходзіць да святара, вымае з-пад падола карону, уручае яму, а той надзявае Людовіку.

Святар. Благаслаўляю на царства! *(Адыходзіць.)*

Людовік. Усім вам я абяцаю росквіт. *(Паказвае на Адольфа.)* А яго на гільяціну!!

Мушкецёры выштурхоўваюць Адольфа вон, і праз хвіліну чуецца яго дзікі лямант. Бразнула гільяціна. На імгненне ва ўсіх пацямнела ў вачах. А як пасвятлела, мушкецёры хорам грымнулі:

Мушкецёры. Дыктатар памёр!

Сведкі маланкавага дварцовага перавароту дружна ўсклікнулі:

Усе. Няхай жыве кароль!..

— Дыктатар памёр! — *радасна апавяшчаюць мушкецёры.*

Ісак. Ну вось і ўсё. Цяпер спі спакойна, дарагі дружа, і не думай, што будзе заўтра. А то да паўночы круцішся з боку на бок і ўсё думаеш: аб чым жа ён думае і што ён можа прыдумаць на заўтра? Гэта ж трэба вылічыць. Адкуль жа возьмецца здароўе? Вы думаеце — гэта проста хаханькі. А цяпер можна спаць спакойна, таму што яму ўжо няма чым думаць. І ўсё! Праўда, гэтыя французы — таксама ненадзейны народ. То сацыялісты, то ўтапісты. Хісткі, ненадзейны. Але ж не нацысты. *(І раптам.)* Няхай жыве кароль!!

— Няхай жыве кароль! — *ахвотна падтрымалі абарыгены.*

Людовік. На тварах маіх падданых бачу я шчырую радасць. А таму святкуйце, гуляйце, піце, ешце ўдосталь! *(Спахмурнеў.)* Гільяціну спаліць. А труп таго выкінуць сабакам!

Сіньёра Фанфані. Якім сабакам! Іх няма! Я куплю яго.

Людовік. Ёй прадаць, а ім прапіць! А гільяціну ўсё-ткі спаліць! Леанора! Пішы закон! Каб ні ў кога не

ўзнікала благіх намераў. Пішы! Тэрарызм супраць царственных асоб забараніць! Суды над імі адмяніць! Пра выбары забыць! Мушкецёры! Атрымайце ўзнагароды. Анджэла! Атрымай дзве ўзнагароды! За вернасць каралю сёння і ў будучым.

Мушкецёры. Няхай жыве кароль!

Зноў паюць фанфары. Урачыстае святкаванне працягваецца. Такая вакханалія магчыма толькі пры Людовіку.

Ісак. Як лёгка кіраваць такім народам. Спачатку ствары невыносную гнюсную абстаноўку, а потым толькі ў шчылінку пакажы маленькую надзею — і народ трыумфуе. Кароль памёр — значыць, скінулі прыгнёт. Няхай жыве кароль! — значыць, радзілася маленькая мадэмуазель надзея.

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Там працягваюць святкаваць шумна, весела, з віскатам і песнямі. А тут сабраліся Аўгуст, Фарыд, Хіра Сіта, Ісак і Фанфані.

Сіньёра Фанфані. Ну-у, сіньёр Аўгуст, вы так дагадзілі гасцям яго вялікасці. Такі банкет у гонар пяцідзесяцігадовага юбілею караля! Га? Ікра чорная, ікра чырвоная, сёмга і асятрына... Як вы дадумаліся? Усе накінуліся. Нават я. Толькі крыху саленаватая.

Аўгуст. Няхай святкуюць. Народ свят.

Ісак. Святыя святкуюць, а нам трэба працаваць. Тайная Дума даручыла нам клапаціцца аб яго будучыні. Заўтра народ прачнецца і стане думаць, абавязкова задумаецца. А мы і павінны падрыхтаваць яму якую-небудзь галапагоскую чарапаху.

Аўгуст. Юбілей — не абы-што. Юбілеі — яны таксама адцягваюць увагу ад нас і нашых праблем. Прывучаюць ісці наперад, павярнуўшыся тварам назад — да мінулага.

Сіньёра Фанфані. Ах, ці не ўсё роўна — задам наперад ці перадам назад!

Хіра Сіта. Дзела няма — нудна будзе. А калі нудна, чалавек піць хоча, віскі піць. А потым п'яны галава бывае сапсем дурны. А што можа натварыць дурны галава? Наперад трэба думаць.

Ісак. Якраз аб гэтым мой клопат. Я думаю аб галоўным — аб стымуле. З самых старадаўніх часоў галоўнай

рухаючай сілай развіцця грамадства і розных промыслаў была выгада, прыбытак. Але ў нас няма вытворчасці. Мы часова вымушаны спыніць усе промыслы. Але ж мы людзі дзелавыя. Каб дзейнічаць, трэба мэта, нейкая карысць, інтарэс. А дзе ён? Што нам замяніць у нашых агідна спакойных умовах той усемагутны стымул — канкурэнцыю, пагоню за прыбыткам і звышпрыбыткамі. Без яго мы пакрыемся плесняю ў гэтым падвале. Што? Я пытаюся ў сябе.

Сіньёра Фанфані. А гандаль цэннымі паперамі?

Ісак. Ад гэтага мы будзем мець толькі шорах папер. А што за тымі паперамі?

Леанора. Стымул ёсць. Даруйце, сэр. Я не мела права...

Ісак. Ну, дзяўчынка, калі не сакрэт, які ж гэты стымул? Мы заўсёды цэнім вынаходлівы жаночы розум, здольны на нечаканыя адкрыцці.

Леанора. Стымул гэты сёння пачне дзейнічаць. Так, Аўгуст?

Аўгуст. Ты раскрыеш наш сакрэт, калі ўбачыш мяне на гэтым экране. *(Выходзіць.)*

Сіньёра Фанфані. Ад вашых загадак у мяне перасохла ў роце. *(Бярэ адзін сіфон — ён пусты, другі — таксама.)*

Ісак. Падайце мадам Фанфані вады! Эй, хто там! *(Да Леаноры.)* Ну, дзяўчынка мая, дык які ж гэты сакрэт?

Леанора. Штучны дэфіцыт. Дэфіцыт — вялікі стымул. Гэта ён развівае чалавечую кемлівасць. Калі ў працэсе эвалюцыі спатрэбілася некалькі мільёнаў гадоў, каб чалавек абзавёўся паўдзесяткам звілін у мозгу, то ў наш час дэфіцыт патрабуе столькі звілін за тыдзень. А што такое дэфіцыт? Гэта, калі не хапае. Усім вельмі чаго-небудзь хочацца, а гэтага «чаго-небудзь» няма, не хапае. І трэба не купляць, а даставаць. Ці на чорным рынку, ці з-пад прылаўка. Усе бегаюць. Усе пытаюцца. А — няма, і ўсё тут. Попыт ёсць, а прапановы няма. Тады можна і павышаць цэны. Вот. Дзеля гэтага тапілі ў моры кофе, палілі ў топках пшаніцу, скарачалі продаж бензіну на бензакалонках. Дэфіцыт, арганізаваны дэфіцыт узбагачае лепш, чым поўны дастатак «чаго-небудзь». А то — павышай вытворчасць працы, зніжай сабекошт, скарачай рабочую сілу, а яны — баставаць, а яны — па-

вышай зарплату. Лепей меней, ды даражэй. Не колькасцю браць, а цаной. Га? Што? Не? Дэфіцыт абяцае вялікія прыбыткі!

Сіньёра Фанфані. Але ў нас усяго даволі, усяго хапае.

Ісак. Ты мудрая, Леанора. Празорлівая. Я ганаруся.

Хіра Сіта. Вельмі правільна сказала. Га? У цябе разумныя продкі былі.

Нечакана з'яўляецца Людовік пад аховай верных мушкецёраў.

Людовік. Гэта што? Тайная змова? Загавор? Ужо супраць мяне?

Ісак. Да чаго ж недаверлівыя гэтыя дыктатары і самадзержцы! Ваша вялікасць! Мы заклапочаны ўмацаваннем дзяржавы, вашай улады. Для таго і сабраліся ў маёй келлі. *(Расшаркваецца перад каралём мудрагелістым сярэдневяковым рэверансам.)*

Людовік. Пахвальна! Я веру вам, веру. Асабліва мадэмуазель Леаноры. Якія ў яе чыстыя, ясныя, адданыя вочы! Адданыя ўсім. Га? Як можна пра вас дрэннае падумаць? Ну, вядома ж, ніякага загавору няма. Але, панове! Будзем шчырымі і праўдзівымі. Усе мы свае. Усе ў душы даўно сумуюць па моцнай уладзе. Асабістай уладзе. Кожнаму з вас не цярпіцца залезці, ускараскацца на трон. І ўсе вы — дастойныя кандыдаты ў дыктатары. Кожны з вас у патэнцыі кароль, цэзар, фараон. І я не раўную, не апасаюся. Наадварот. Я вітаю вас, будучых самадзержцаў і валадароў. Зараз я — кароль. Я царствую. Але ў такой кампаніі я не магу сказаць: «Пасля мяне хоць патоп».

Сіньёра Фанфані. Які патоп, калі няма нават глытка вады! Я паміраю ад смагі.

Людовік. Вось бачыце? Ад прагі ўлады. Вось чаму, панове, я нават не саджуся на трон. Я баюся да яго прывыкнуць. Я толькі хаджу вакол яго і ўздыхаю. А чаму? Можна так да яго прысохнуць, што потым, каб адарваць ад яго караля, спачатку адрываюць каралю галаву. А каб такога не здарылася, я аб'яўляю вам: я верны вам, як вы мне. І пакуль я царствую — смела гуляйце, піце, весяліцеся, жывіце ў асалоду, хто як можа. Усё вам дазволена. Адчувайце сябе вольнымі птахамі. Толькі не рабіце супраць мяне тайных змоў, загавораў. Не трэба! Прашу вас. А калі ўжо я надакучу вам ці хоць каму-небудзь з вас, то падыдзіце ка мне і шапніце на вуха. Я тут жа

ўступлю свой трон. Ну, канечне, за невялікую — проста сімвалічную плату. Без катавасіі.

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Якога ката? Васі? Ён што? Звар'яцеў?

Ф а р ы д. Не, чаму? Ён ратуе сябе сам.

І с а к. Смела, арыгінальна і рэалістычна. Толькі трохі легкадумна, што ўласціва французу. Ох, гэтыя французы! Неймаверныя арыгіналы. Рэвалюцыянеры! То Парыжскую камуну прыдумаюць, то гільяціну, то... Стрыптыз хіба не вы прыдумалі? Аднак, панове, ідэя яго вартая нашай увагі. І вельмі адпавядае вашай, Леанора, тэорыі аб дэфіцыце. Трон адзін, а прэтэндэнтаў многа. Вось і спаборнічайце навыперадкі. Толькі не так легкадумна, як гэта прапануе нам яго вялікасць Людовік Апошні. Гэта бізнес, паўтараю — бізнес. А бізнес трэба весці салідна і чэсна. У гэта крэсла можа сесці самы разумны, самы талковы. Хто? І як? Без торгу не абысціся. Ёсць грошы? Купляй. Можаш адолець канкурэнта? Адольвай! Значыць, ты самы талковы, гаршчок варыць. Але арандаваць гэту мэблю, выбачайце, трон толькі на пэўны тэрмін. Купіў, пасядзеў, пакарыстаўся і злазь. Дай другому. Пацарствуе «Слон», а потым «Асла» на яго месца. Хай і ён паспытае ўлады над намі свае чатыры гады. Хіба гэта эксперымент? Гэта ўжо вывeрана. А як іначай? Дайце вады. У горле перасохла.

Х і р а  С і т а. Вельмі мудра атрымліваецца. Усе маюць надзею. Перспектыва будзе. Сіла ёсць — ламі салому. Такое правіла будзе. І мне, аднак, піць хочацца. Чаму вады няма? Дзе сіфоны?

Пэўна, усіх ужо мучыць смага.

Ф а р ы д. Якая фірма падстроіла нам засуху?

Л е а н о р а. Тая фірма, што частавала вас ціхаакіянскім селядцом.

Паўза.
Пакуль што не ўсе ўцямілі.

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Эй, прэзідэнт! Прынясі вады!

П р э з і д э н т. Няма вады.

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Што значыць — няма? Прынясі!!

П р э з і д э н т. Нідзе няма вады.

Ф а р ы д. Зусім?

П р э з і д э н т. Зусім.

Хіра Сіта. Гэта што? Аварыя? А можа, сапсем канец вады прыйшоў? Га? Ці паломка?

Прэзідэнт. Не.

Ісак. То ў чым справа? Растлумачце людзям.

Прэзідэнт. Перападлік. Перарэгістрацыя.

Сіньёра Фанфані. Які перападлік? Якая перарэгістрацыя?

Прэзідэнт. Усе краны толькі хрыпяць, а пад кранамі суха. Крызіс.

Людовік. Перападлік вады? Звычайнай вады?

З экрана тэлевізара яхідна пасміхаецца Аўгуст.

Аўгуст. Прэснай, ваша вялікасць. І не перападлік, а пераацэнка.

Сіньёра Фанфані. Як — пераацэнка?

Фарыд. Вы што? Звар'яцелі? Што за самавольства? Грабеж!

Аўгуст. Ваша грубасць вам дорага стане.

Ісак. Леанора! Цябе асяніла боская воля?

Леанора. Ваша воля, сэр. Дэфіцыт, як бачыце, ужо разварушыў нас крыху. Вы хочаце піць? *(Выходзіць.)*

Людовік. Але каралеўскім указам забаронена павышэнне цэн.

Аўгуст. Правільна, ваша вялікасць, на ўсё, што можна паражоўваць. А вада там не ўпамянута. Яе жаваць не трэба.

Хіра Сіта. Які хітры, аднак! Учора карміў, калі ласка, колькі хочаш салёнай рыбай, а сёння піць хочацца. Грошы траціць? Га? Дорага возьмеш? Га?

Аўгуст. Шклянка вады — унцыя золата.

Фарыд. Вы дракон! Пірат! Грабіцель! Мафіёзі!

Аўгуст. А табе і за тры не прадам! З цябе чатыры унцыі. Я цябе дагала раздзену. Як у песенцы: «Гані, манету. Манеты нет — давай пінжак...»

У тэлевізары поруч з Аўгустам і Леанора — яго кампаньёнка. Бярэ пару бутэлек кока-колы і знікае.

Сіньёра Фанфані. Божа! Я так піць хачу. Проста паміраю.

Людовік. Анджэла! У маёй спальні, здаецца, са ўчарашняга засталася. Ідзі прынясі! Зараз, мадам.

Аўгуст. Будзьце ашчадным, ваша вялікасць! Калі яна засталася, прыберажыце сабе. Унцыя золата за шклянку — гэта першая цана пакуль.

У другіх тэлевізарах лямантуюць ад смагі: «Дзе вада? Чаму вады няма? Вады! Піць! Так і памерці можна!»

А ў г у с т. А-а-а! Хочаш піць — плаці грошы! Калі жыццём даражыш. А як вы думалі?

Х і р а С і т а. Аднак мне таксама піць хочацца.

Леанора частуе напіткам Ісака і сіньёру Фанфані.

Л е а н о р а. Калі ласка, сэр! Калі ласка, сіньёра!

С і н ь ё р а Ф а н ф а н і. Вы чараўніца, мілая!

А н д ж э л а прыносіць графін з вадой і ўручае каралю. Людовік абдымае графін, прыціскае яго да грудзей і з трывогаю паглядае на тых, каго мучыць смага.

А ў г у с т. Ваша вялікасць! Вы не гневайцеся, не спапяляйце мяне сваім грозным паглядам. Тут жа нічога надзвычайнага не адбылося. Прыгадайце: арабы павысілі цану на нафту і разбагацелі. Чаму я павінен быць дурней за араба?

Л ю д о в і к. Вы мой падданы! Вы гэтым хістаеце мой трон!

А ў г у с т. Вада, ваша вялікасць, вялікая сіла! Яна разбурае магутныя плаціны, не толькі трон. А вада — мая ўласнасць. Што захачу, тое і паварачу! Свабода прыватнай ініцыятывы. Мы можам заключыць кантракт. Я вас пажыццёва забяспечваю ўдосталь чыстай вадой, а вы... Не гневайцеся, ваша вялікасць, а вы мне сваю карону і гэты стульчык.

Л ю д о в і к. Трон?

А ў г у с т. Ну, так, трон. І каралеўскую пячатку, і... як гэта называецца? Што ў руцэ вось так трымаюць.. Дзяржаву.

Л ю д о в і к. Адным словам, ты хочаш стаць каралём?

А ў г у с т. Не. Я іду далей, у глыбіню вякоў. Цэзарам буду. Такія мае ўмовы. Сёння! Заўтра я, хутчэй за ўсё, папрашу ў прыдачу і палавіну вашай казны. Спяшайцеся! *(Усім.)* Я з вас сухафрукты зраблю!

У тэлевізарах крычаць: «Вады-ы! Піць! Што за беспарадак?! Што думае кароль? На мыла караля! Вады-ы!!!»

Ф а р ы д. Аўгуст — варвар! Аўгуст — люты звер! Ён канібал!

А ў г у с т. Ах, так? Ну, тады вы заенчыце яшчэ галасней, яшчэ жаласлівей. Хорам! На ўсе галасы. Гэта ў вас толькі прэлюдыя.

Людовік, ацаніўшы пагрозу цэзара, падыходзіць да трона, усаджваецца там, каб апошні раз адчуць сваім азадкам усю ўтульнасць царскага седала.

Л ю д о в і к. Ёмкае крэсла, утульнае. Гэта для азадка так пастараліся. Але доўга заседжвацца ў ім не варта, дарагая мая задніца. А то зазяваешся і атрымаеш выспятак. *(Знімае з галавы карону.)* А гэта для галавы. Таксама ёмкая штучка. Колькі лбоў яна вянчала! Адным яна даставалася ў спадчыну, другім жа — разам з чужой упартай галавой, калі яна працівілася перадаць гэтую пасудзіну. Бывала — вылузнуць з яе галаву, як гнілы арэх,— і на сметнік. І карона красуецца на другой галаве і вабіць трэцюю. Спакушае. Ну, што ж, ідзі шукай іншую лысіну, больш удалую. *(Доўга разглядвае карону, на развітанне цалуе яе і, сумны, нясе яе Аўгусту.)* Быў каралём, і вось... умыкнулі трон. Нібыта па згодзе — мірным шляхам! Але не скажу, што бяскроўным. Колькі там палягло, каб тут перакідваць гэту цацку з рук у рукі. Сімвал гнюснай улады над сваім сабратам... На!

З'яўляецца А ў г у с т ва ўбранні цэзараў Старажытнага Рыма. Яго суправаджаюць адпаведна экіпіраваныя в о і н ы. Людовік пачціва кланяецца, перадае карону і адступае ў цень гісторыі.

*Заслона.*

# ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Мы спазнаём, нарэшце, шлях арла ў небе, шлях кіта ў акіяне, шлях тыгра ў джунглях. Там мы зноў знойдзем нашу роднасць з жывёльным светам, страта якой з'яўляецца адной з самых горкіх для сучаснага чалавека.

*Англійскі фантаст Артур Кларк*
*«Рысы будучыні»*

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Святкуе падзямелле. Святкуе цэзар А ў г у с т. Ён урачыста адзначае чарговую гадавіну свайго царавання. Вось ужо каторы год працягваюцца шумныя выпіўкі ў гонар узнясення. Грыміць музыка, гучаць песні, часта іх заглушаюць усплёскі дзявочага смеху і любоўнага віскату. Звіняць бакалы, віно льецца ракой. Уся гэта

вакханалія пакуль што недзе там, воддаль. Але сам цэзар прысутнічае ўсюды ў форме велічных статуй і бюстаў з суровымі тварамі. Ваўчком круціцца А л і с а, стараецца не трапіць у абдымкі Л ю д о в і к а. Яму нібыта і не па гадах ганяцца так за юнай грацыяй, але што зробіш? Запозненая страсць здольна загнаць чалавека і ў... морг. Ох, гэтыя страсці... калі сіл мала!..

Л ю д о в і к. Аліса! Любая! Пастой! Не круціся ты...

А л і с а. Дагані, дзядзечка, будзеш мой.

Л ю д о в і к. Ды як жа я даганю? Табе ж лягчэй... Ну падыдзі...

А л і с а. А, лягчэй! А калі каралём быў, тады не заўважаў нават.

Л ю д о в і к. Ды я і цяпер кароль!

А л і с а. Бы-ылы-ы!

Л ю д о в і к. Ну і што, што былы! Абы чалавек харошы.

А л і с а. Ну і ідзі, харошы, да Леаноры. Ты ж тады абажаў яе.

Л ю д о в і к. Яна здрадзіла мне. Цэзар яе спакусіў.

А л і с а *(раўніва)*. З ім у яе дзелавыя сувязі. І толькі.

Л ю д о в і к. А гэтыя сувязі з кім? Не можа таго быць, каб яна ялаўкай хадзіла. Нічога больш брыдкага няма, як дзелавая жанчына.

А л і с а. А я таксама дзелавая. Тут усе дзелавыя.

Уваходзіць устрывожаная с і н ь ё р а  Ф а н ф а н і.

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Аліса, любая, ты не бачыла Антоніо? Прапаў недзе, загуляў. Двое сутак ужо не начуе дома.

А л і с а. Я і сама хацела яго пабачыць, ды... Цэзар раўнуе.

Правярае — які эфект стварыла гэта паведамленне на старую.

На ўрачыстасцях Антоніо не было. Можа, Леанора яго звяла куды?

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Яна сама ў паніцы, шукае яго.

Л ю д о в і к. У карты недзе гуляе.

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Дзе гуляе? З кім?

Х і р а  С і т а валачэ А н т о н і о, той ледзьве ногі перастаўляе.

Х і р а  С і т а. Такі здаравенны малчык, а сілы сапсем няма. Бальшой упадак сіл. *(Звальвае Антоніо ў крэсла.)*

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Божа мой! Што з табой?

Хлопчык мой! Я цябе шукала... Цябе ўкралі? Хацелі выкуп?

Антоніо. Не, бабуся.

Людовік *(выпытвае па сакрэту)*. Прайграўся?

Антоніо. Не, выйграў. Але... дайграўся. *(Кісла пасміхаецца.)*

Аліса. Ой, пайду Леаноры раскажу. *(Выходзіць.)*

Сіньёра Фанфані. Ты галодны? Што з табой? Захварэў?

Антоніо. Я хачу спаць. Бай-бай хачу.

Сіньёра Фанфані. Я апасалася, што цэзар у свой гарэм цябе, мой хлопчык. О-о, ён такі...

Прыбягае Леанора.

Леанора. Дзе ён? Што з ім? Ты захварэў. Ты ў цэзара не быў?

Хіра Сіта. Сапсем слаб стаў. Бальшой упадак сіл.

Леанора. Мілы, дзе ты гуляў? З кім? *(Лашчыць яго.)*

Хіра Сіта. Яму тонік трэба. Яму жэньшэнь нада.

Антоніо. Ніякіх жанчын! Хопіць!

Хіра Сіта. Не жанчын, а жэньшэнь! Табе сіла нада.

Антоніо. Я дамоў хачу. Бай-бай. Спаць пакладзіце вы мяне...

Сіньёра Фанфані. Родны мой! Зараз, зараз пойдзем дахаты. Леанора, дапамажы!

Не паспелі сіньёра Фанфані і Леанора вывесці Антоніо, як увалілася ватага падпіўшых мужчын і дзяўчат. Яны цягнуць яго ў сваё кола. З'яўляецца і цэзар у насілках, як і належыць валадару.

А бог мой! Адчапіцеся вы ад яго! Ён жа зусім хворы.

Аўгуст. А што за хвароба? Мы яго зараз вылечым.

Антоніо. Я хачу спаць.

Аўгуст. З кім? Выбірай!

Сіньёра Фанфані. Я вам яго не дам! Ён са мной будзе!

Выбух рогату.

Вудро. Аліса! Галубка мая! Хадзі сюды. Вярніся дадому.

Аўгуст. Стары! Ты думаеш, што са мной ёй горш?

Вудро. Цэзар! Не бяры грэх на душу. Вярні мне яе.

Ірына Фларыянаўна Ждановіч, Барыс Віктаравіч Платонаў
і Андрэй Ягоравіч Макаёнак.
1961 год.



Андрэй Макаёнак і Іван Мележ.
1962 год.



А ў г у с т. Навошта яна табе? Навошта ты ёй? Запытай у яе.

А л і с а. Не хачу дамоў. Мне сумна там, у той келлі. Я ж нічагусенькі не ведала! Во дурненькая была! Не-е, ні за што!! Я з цэзарам!

А ў г у с т. Чуў?

В у д р о. Ты спакушаеш маю дзяўчынку! Нявінную дзяўчынку! Да чаго давёў?! Распуснік! Гвалтаўнік!

А ў г у с т. Я? Ды як ты смееш кідаць мне такое абвінавачванне? Публічна! Я — гвалтаўнік? Ды я цябе... У трыбунал яго, паклёпніка! Гэта яна мяне спакусіла і разбэсціла! Аліса! Скажы яму! Хто каго?

А л і с а *(бесцырымонна)*. Так! Гэта я яго спакусіла! Гэта я сёння яго навучыла ўсяму, чаму ён мяне навучыў учора.

А ў г у с т. Бачыш? Яна мяне пад абцасам трымае.

А л і с а. Я яго пад абцасам трымаю. Вось! *(Наступае на цэзара.)*

А ў г у с т. Паклёпніка пад трыбунал! Маёмасць канфіскаваць! І перадаць... у маё карыстанне.

Л е г і я н е р ы выводзяць В у д р о.

А л і с а. Канфіскаваць і мне аддаць. Усё-ўсё!

А ў г у с т. Падзелімся, мілая. Не пакрыўджу. А яго скарміць пацукам. Раздзець і галодным пацукам. Шкада, што няма львоў.

С і н ь ё р а Ф а н ф а н і. Чаму пацукам? Мне яго прадайце.

А ў г у с т. А аб'едкі табе. Задарма. *(Заўважае Фарыда.)* Ты яшчэ жывы? Піць хочаш? Хто цябе поіць? Ну, дазнаюся, прымушу і яго піць уласную мачу. А можа, ты ўтаіў свае брыльянцікі, а ў мяне ў доўг бярэш?

Ф а р ы д. О, вялікі цэзар! Шлунак мой сухі, як Сахара.

А ў г у с т. Знікні, раб!

Ф а р ы д хаваецца за спіны іншых, знікае.

Х і р а С і т а. Нехарашо так, цэзар. Тэрмін твайго царавання ўжо канчаецца, а ты так крыўдзіш людзей. Га? Што потым будзе? Ты падумаў? Бяда будзе. Табе. Падумай. Я табе дабра жадаю.

А ў г у с т. Дзякуй, дарагі! *(Абдымае Хіра Сіта.)* Дзякую за тое, што нагадаў. Тэрмін канчаецца, а я і не

заўважыў. Кароткі тэрмін. Хачу яшчэ. Жадаю! Ідзі знайдзі Тайную Думу... Я знаю, што ты там... *(Бярэ яго за каўнер і падцягвае к носу.)* І ты... там... унясеш прапанову: за выключныя заслугі цэзара павялічыць яму тэрмін яшчэ на два тэрміны.

Адпускае Хіра Сіта і, ідучы да насілак, па-салдацку груба цапае Леанору ніжэй спіны.

Леанора! Кампаньёнка мая! Русалачка! Вадзяная прынцэса! Якой страсцю я загараюся, калі думаю пра цябе! Рыхтуйся! *(Заржаў.)*

Сіньёра Фанфані. Падзенне самых магутных імперый пачыналася з маральнага разлажэння. Амаральнасць, страта сумлення, сораму, распуста, бескантрольнасць нізкіх інстынктаў — вось на чым саслізгвала цывілізацыя з занятых вышынь.

Аўгуст. Вы яшчэ разважаеце аб маральных вышынях пасля таго, як увагналі планету ў тэрмаядзерную вайну? Вы ўжо саслізнуліся ў прорву, адкуль нікому ўжо не выбрацца. Вы цудам уцалелі — пакуль што. Усе мы аднолькавыя. Як сказаў паэт: пад адзежкай усе мы голенькія.

Займае месца ў насілках, і ўся кавалькада спявачак, танцоўшчыц і п'яных мужчын з песнямі, жартамі, смехам і музыкай выходзіць следам за цэзарам.

Хіра Сіта. Чула, сіньёра Фанфані? Чула? Што гэта? Га?

Сіньёра Фанфані. Саўсім ашалеў. Не-е, такое больш дараваць нельга. Так жыць нельга! Гэта ж неарэалізм! Як так можна?!

Хіра Сіта. Да. Сур'ёзная справа. Пойдзем думаць. Які такі, нейкі план трэба?.. Пераварот нада.

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Каля апусцелага тропа з'яўляюцца Ісак, Леанора і Фарыд.

Ісак. У рымскай гісторыі быў такі выпадак: нейкі Каціліна заблытаўся ў даўгах, потым рызыкнуў — узначаліў загавор, скінуў цэзара і сам стаў цэзарам. Леанора! Як там размешчаны зоркі?

Леанора. Удачна, шчасліва.

Ісак. На каго паказваюць зоркі?

Леанора. На фараона.

Ісак. Імя яго?

Леанора. Фарыд Эль Махмуд Хаддам Задэ. У гісторыі будзе вядомы як Віктар Рамзес трынаццаты.

Ісак. Трынаццаты ўжо быў. Ён — чатырнаццаты. *(Фарыду.)* О, богу роўны! О, сонцападобны наш валадар Фарыд эль Махмуд Хаддам Задэ! Бог Ра меў ласку вызначыць табе вялікую перамену ў жыцці: перакупіць і заняць трон фараона.

Ісак і Леанора падаюць ніц перад Фарыдам. Ён ашаломлены. Вядома — не верыць. Нават жартам Ісак не мог стаць на калені.

Фарыд. Тут нейкая памылка. Я ж бедны, жабрак! За які такі хрэн я перакуплю трон? Гэта што? Насмешка?

Ісак. Зрабі ласку! Выслухай слова вуснаў маіх! О, свет вачэй нашых! Богу падобны ўладар наш! Віктар Рамзес чатырнаццаты! Звярні свой позірк на папірусы, што ляжаць на прыступках перад тронам. Словы, запісаныя там, замацуй уласнаручным подпісам і аддай папірусы мне. А сабе вазьмі памочніцай вялікую жрыцу Леанору, якая валодае запаветнымі тайнамі зямнымі і нябеснымі. Паўстань духам! Узніміся над намі і валодай усімі і ўся. Трон, як бачыш, свабодны.

Фарыд. Але чаму вы самі не занялі?

Ісак. Гэтая мэбля мне не падабаецца. А табе... Вазьмі як падарунак.

Фарыд ідзе да трона, бярэ з прыступак папірусы, чытае і не верыць сваім вачам. Размашыста падпісваецца і раптам мяняецца сам — адкуль што бярэцца: вялікасная пастава, цвёрды поступ і суровы пагляд сапраўднага фараона. А калі з усіх бакоў з'яўляюцца слугі і апранаюць яго ў царскія рызы, уручаюць яму жазло, меч у ножнах, упрыгожаных бліскучымі алмазамі, а на галаву надзяваюць каўпак з залатой змяёй — сімвал мудрасці *(своеасаблівую карону)*, то і зусім дзіву даешся: адкуль і як выявілася столькі пыхі і фанабэрыі, ідавочнай тупасці і пагарды ў гэтага нікчэмнага пяць мінут назад раба.

З'яўляецца і свяшчэннік з крыжам. Ісак нешта нашаптаў яму на вуха. Свяшчэннік згодна ківае галавой, потым урачыста набліжаецца да Фарыда.

Свяшчэннік. Па волі госпада бога нашага вянчаецца на царства сын боскі Фарыд Эль *(запнуўся)*.

Леанора *(падказвае)*. Махмуд Хаддам Задэ...

Свяшчэннік. Махмуд Хаддам Задэ і наракаецца імператарам.

Л е а н о р а. Фараонам Віктарам Рамзесам чатырнаццатым.

С в я ш ч э н н і к. Фараонам Віктарам Рамзесам чатырнаццатым.

Л е а н о р а. Богу роўны і богападобны.

С в я ш ч э н н і к *(запнуўся)*. А калі ты богу роўны і богападобны, то гасподзь бог і блаславіць цябе. Яно-то так: бог сатварыў чалавека па вобразу і падабенству свайму, то пэўна ж — ты ісцінна богападобны. Царствуй і нас, божых служак, не забывай.

Ф а р ы д. О, усемагутны бог Ра! *(Свяшчэнніку.)* У мяне свой бог. Твая непамерная міласць і ласка да мяне недаступна майму... маленькаму... у параўнанні з тваім, розуму. О, вялікая жрыца! Ушчыкні мяне — ці не сон гэта? *(Леанора балюча ўшчыкнула Фарыда.)* Не, гэта не сон! Але ўсё гэта трэба ўсвядоміць. Трэба пабыць аднаму. Уразумець. Уцяміць.

С в я ш ч э н н і к і І с а к адыходзяць задам. Фарыд займае трон, абмацвае сябе, сваю амуніцыю, сваю галаву і... задумваецца.

Л е а н о р а. Ну, уцяміў? Уразумеў?

Ф а р ы д. Не! Не магу. Чаму ўсё адбываецца вось так, тайна, а не публічна, яўна, пры ўсіх, як цэзара, як Людовіка? Чаму тайна?

Л е а н о р а. Звычайна, як правіла, такое вяршыцца тайна. А потым яўна. А рашаецца тайна. Тайнай Думай. Уцяміў? Думаць трэба, думаць. Ты ж — фараон! А не таўкачык для ступкі.

Ф а р ы д. Э! Э! Я — фараон! І каму гэта прыйшло ў галаву? Не, тут нейкі цуд. Нейкае чараўніцтва... Я — фараон? Казка!

Л е а н о р а. Перад кім ты ў неаплатным даўгу?

Ф а р ы д. Перад цэзарам. Ён мяне разарыў да галечы. Перад ім...

Л е а н о р а. Вас нарадзіў Ісак! Ісак вас спарадзіў.

Ф а р ы д. Ісак нарадзіў Якава, а я — Фарыд.

Л е а н о р а. Во каму вы абавязаны. Яму пакланіцеся ў ножкі.

Ф а р ы д. Фараон нікому не кланяецца! Фараон можа ўзнагародзіць.

Л е а н о р а. А з цэзарам... Ідзіце і авалодвайце вентылямі. Такой улады над людзьмі яшчэ нікому не давалі. Вы зараз і на векі самы магутны ўладар. Ідзіце і мацуйце сваю ўладу эканомікай.

Фарыд. Да-а! Э-э! У-у! Зараз я вам учыню сауну... турэцкую! Ухопіце гарачанькага! Гэта вам не вадзічка! Паперхняцеся!

Леанора. Вазьміце ключы. *(Аддае ключы.)* А схемы там.

Фарыд *(раптам спалохаўся)*. Цэзар! З легіянерамі! *(Саскочыў з трона.)* Ён жа сатрэ мяне на парашок, калі ўбачыць гэтую дэкарацыю!

Леанора. Спакойна! Ідзіце і запрыцеся ў раздатачнай камеры. А цэзара я затрымаю. Я зачыню яго ў келлі. Ён сам замкнецца.

Фарыд. Затрымай яго на хвіліну! Дай бог ногі! *(Уцякае.)*

З'яўляецца цэзар з вартай. Ён, як заўсёды, п'яны.

Аўгуст. А гэта што за пудзіла гарохавае пабегла? О-о? Ягадка, малінка мая, раскошная Леанора! Дабрадзейка мая! Як я хачу табе аддзячыць! Я прагну! Я млею! Я ўжо растаяў ад пачуццяў.

Леанора. Вялікі цэзар! А я пільнавала тут вас, каб папярэдзіць аб смяртэльнай небяспецы. Раскрыт загавор супраць вас.

Аўгуст *(працверазеў)*. Хто? Хто асмеліўся?

Леанора. Персоны вельмі важныя. Хітрыя. Скрытныя. Вам трэба спешна знікнуць, схавацца ў надзейным месцы.

Аўгуст. Я? Схавацца? Ды я іх падушу, як блох!

Леанора. Блох спачатку трэба злавіць, а потым душыць. Злавіць трэба. Змоўшчыкі праз гадзіну збяруцца ў адным месцы. Я яшчэ не ведаю — дзе. Але, як толькі даведаюся, данясу вам. А вы тую ж хвіліну пашліце туды сваіх легіянераў, і... блохі вашы!

Аўгуст. А ты, выпадкова, не ў загаворы?

Леанора *(пакрыўдзілася)*. Цэ-эзар! Хто ўзвёў вас на царства?

Аўгуст. Верна. Але цэзар павінен быць абачлівым і пільным. Варта! За мной! Варон не лавіць! *(Выходзіць у акружэнні варты.)*

Чуваць нейкае шыпенне. З'яўляецца сіньёра Фанфані ў суправаджэнні былога прэзідэнта.

Сіньёра Фанфані. Мілая, мне чамусьці вельмі кепска. Галавакружэнне і... Задыхаюся. І сэрца трапечацца, як матылёк.

Леанора. Перахваляваліся за ўнука. Вы сябе беражыце.

Прэзідэнт. І ў мяне задышка, нібы на гару ўзбіраюся.

Сіньёра Фанфані. Унук спіць як пшаніцу прадаўшы...

З'яўляюцца Людовік, Хіра Сіта, Вудро і Аліса з дзяўчатамі.

Вудро. Нешта няможацца мне. Ну, вядома — такі стрэс...

Людовік. Можа, атмасферны ціск падае? На вас. Га? *(Смяецца.)*

Хіра Сіта. Аднак і я, як рыбіна на пяску.

Сіньёра Фанфані. Нешта шыпіць, быццам змяя якая...

Вудро *(да Хіра Сіта)*. Знаеце, сэрца трымціць... Канечне, канечне, у кожнага сваё...

Хіра Сіта. Нада быстра дамоў. Тут нешта не так. Нечага не хапае. Тут нешта не тое. *(Выходзіць.)*

Аліса. А я, дзевачкі, саўсім ап'янела. Галава так і кружыцца.

Вудро. Аліса, дзяўчынка, галубка мая! Пойдзем дамоў, любая.

Аліса. Не ўжо! Я вырвалася на волю! І цэзар мне забараніў дамоў. Цябе памілаваў, а мяне ў залог. Дазволіць — прыйду дамоў. Я таксама паспаць хачу... адна.

Сіньёра Фанфані. Леанора, мілая, завядзі мяне дамоў. Я нешта саўсім расклеілася.

Аліса. Людовік! Не прыставай!

Леанора. Зараз, сіньёра, правяду. А пакуль што ўдыхніце з гэтага апараціка. *(Падстаўляе да твару старой маску.)* Глыбей, глыбей. Ну, лепш?

Сіньёра Фанфані. Дзякую, мілая.

Людовік. Што гэта з намі? З перапою, ці што? Няўжо ўсе?

Высвечваецца адзін экран. З экрана пасміхаецца Фарыд.

Фарыд. Не, панове, не! Гэта ад КаГэ. Расшыфроўка. Бывае каньячнае галаданне, а гэта ад кіслароднага галадання. Не хапае кіслароду. Няма нормы. Урэзалі!

Вудро. Як — урэзалі?

Фарыд. Проста. Як там урэзалі нафту? Забыліся? Вось так я ўрэзаў кісларод. Дэ-фі-цыт!

Людовік. Не, гэта чорт ведае што тут творыцца!

Высвечваецца другі экран.
Там скрыўлены злосцю твар цэзара.

Аўгуст. Эй, хто там?! Не хапае паветра! Нешта сапсавалася. Эй!

Фарыд. А-а! І табе нечага не хапае?! Што глядзіш, як певень на сонейка. Чаго прыжмурыўся? Не пазнаеш?

Аўгуст. Што-о-о?!

Сіньёра Фанфані. Ты ж — цэзар, загадай паправіць. Тут усе мучацца. Укажы! О-о, табе горш за ўсіх будзе.

Фарыд. Панове! Эканомна дыхайце! Дыхайце эканомна! *(Рагоча.)*

На трэцім экране Ісак. Яму таксама не хапае кіслароду.

Ісак. Вар'яцкая твая галава! Ты і мне? Зараз жа прыбаў! Чуеш? Аб цане спрачацца не будзем.

Фарыд. Выбачайце! Гэта не наўмысна. Зараз прыбаўлю. Бачыце? Чалавек гатоў плаціць. Не таргуецца. Сам здагадаўся. А вы? А вы? Абавязкова падказаць трэба? Га?

Ісак. Аб чым тут гаварыць? Дзякую! *(Глыбока ўдыхнуў і знік.)*

Фарыд. Намёк дайшоў? Гані манету! Прышлю рахункі — здзіўляцца не варта. І плаціце без спазненняў. Паветра таксама мае цану. Там вы яго псавалі без агляд-кі. А тут я вас прымушу ацаніць. Кожны ўдых вам дорага стане.

Леанора выводзіць сіньёру Фанфані.
З'яўляецца Анджэла ўжо з воінамі фараона і разганяе ўсіх па сваіх келлях.

Анджэла. Больш аднаго не збірацца! *(Камандуе.)* Па келлях!

Зноў на экране цэзар.

Аўгуст. Прыбаў, гад! Дай дыхнуць! *(Задыхаецца.)*

Фарыд. Вярні мае вэксалі. Ты мяне вадой змыў, а я цябе паветрам здую.

Аўгуст. Вярну. Толькі дай глыток. *(Цяжка дыхае.)*

Фарыд. Не спяшайся. Я табе хто? Га? Я табе — фараон, уладар! І звяртайся адпаведна! Ты на Эверэсце быў? Вот зараз пабываеш.

А ў г у с т. Прыбаў! З носа кроў... Дай! *(Дыхае натужліва.)*

Ф а р ы д. А ты эканомней, эканомней дыхай! *(Пасміхаецца.)*

А ў г у с т. Хопіць! Даволі! Больш не магу. *(Хрыпіць.)* Што табе?

Ф а р ы д. Трон. І ўсе атрыбуты. Пячатка ёсць?

А ў г у с т. Вазьмі...

Ф а р ы д. Вазьму. І ўласнасць тваю я купляю. За павет-ра!

А ў г у с т. Драпежнік! Удаў! Кракадзіл!

Ф а р ы д. Ты! Распуснік! Разбэшчаны насільнік! Калі табе хапае кіслароду, пакінь сабе тваё багацце. Кожны купляе тое, чаго яму не хапае. На, дыхні ў доўг, напавер.

А ў г у с т *(удыхнуўшы)*. Ну, добра, што ты хочаш?

Ф а р ы д. Я цяпер усё хачу! Усё магу! *(Строга.)* Пішы дароўную на імя фараона Віктара Рамзеса Фарыда аль Махмуд Хаддам Задэ. Усё падары! А я табе жыццё. Рабом будзеш! Прывілеяваным рабом! Піраміду будзеш будаваць. Імя сваё на камені сам выдзеўбеш. А цяпер я аб'яўляю вялікія ўрачыстасці і гульні... маладзёжныя. Усім весяліцца да слёз. Грошы ёсць — дыхай уволю, а няма — дыхай эканомна!

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

С і н ь ё р а Ф а н ф а н і ў сваёй келлі раскладвае карты.

С і н ь ё р а Ф а н ф а н і. Для дома: нечаканыя весці. Для сэрца — прыкрасць. Што было? Пустыя клопаты светлага караля. Што будзе? Непрыемныя размовы і... удар да смерці. З чаго б гэта раптам? Можа, захварэю? Чым усё скончыцца? Нейкая прапанова і... перамены ў жыцці. Чым сэрца супакою? Сабой. Ну, вядома, кім яшчэ?

Прыходзіць А л і с а.

А л і с а. Сіньёра Фанфані. Даруйце мне, але я вымушана прынесці вам такую непрыемную вестку.

С і н ь ё р а Ф а н ф а н і. Ну, во, пачынаецца. Што там такое?

А л і с а. Урачэбная камісія выявіла там... восемдзесят вашых нявінных дзевачак...

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Ну, што? Не цягні? Захварэлі?

А л і с а. Цяжарныя.

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Што-о? Як так? Якім чынам?

А л і с а *(проста)*. Звычайным. Так-так, звычайным. Яны прызналіся. І віноўнік адзін. Але імя яго не выдалі. Знаюць, што яму пагражае. Самаахвярна скрываюць імя. Такая вернасць у наш час. Проста дзіва!

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Хто пасмеў?! Як ён туды прабраўся? Хто гэты злодзей? Гэта мая ўласнасць! Хто гэты амаральны тып? Хто?

А л і с а. Пакуль што невядома. Але спадзяёмся злавіць. *(Сакрэтна.)* На яго паставілі пастку.

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і *(раз'юшана)*. Я яго!.. Ды за гэта... Я яму такое зраблю, што ад жудасці пасівеюць усе жанчыны на свеце!

А л і с а. Даруйце, о мудрэйшая. Аб гэтай прыгодзе я павінна далажыць богападобнаму.

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. І папярэдзь: я буду бязлітаснай!

А л і с а. Ён таксама. Не сумнявайцеся.

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Ды гэта ж катастрофа! Калі яны пачнуць пладзіцца раней часу... Прадукты канчаюцца, а наперадзе яшчэ пяць гадоў! І так уразаем пайкі. Гэта ж дыверсія! Восемдзесят! Аж восемдзесят! Калі ж ён справіўся? Дзе мой прэзідэнт?

А л і с а. Выбачайце. У мяне справы. *(Выходзіць.)*

З'яўляецца п р э з і д э н т. Ён, відаць, недзе паблізу дрэмаў.

П р э з і д э н т. Я заўсёды пад рукой.

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. А чаму гэта праваронiў?

П р э з і д э н т. Я не праваронiў, сіньёра Фанфані. Я думаю, што гэта звычайная рэч. Што гэта натуральна...

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Што натуральна? Цяжарныя дзяўчаткі? Там? Ты ашалеў?

П р э з і д э н т. А-а. Натуральна. Уявіце сабе: маладога здаровага чалавека столькі гадоў у бяздзейнасці, у самоце, нудзе, а ў жылах кроў племяннай пароды... І тут жа паблізу млеюць ад страсці юныя земфіры... Канечне, непазбежны кантакт, абдымкі і... Ніякімі путамі не стрыножыш. Любыя ланцугі парвуць. Натуральна.

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Што-што-што? Натуральна? Якой пароды? Га? Дык, можа, і ты там туляўся? Га? Стары кот?!

Прэзідэнт. Ну што вы! У маім узросце? Я слабы на такі подзвіг. Я толькі і магу... у шчылінку паглядзець... Ха-ха...

Сіньёра Фанфані. Мярзотнік! Скармлю! Я з цябе булён звару для іх! Булён!

З'яўляецца Аліса. Яна чула пра булён.

Аліса. Сіньёра Фанфані! Вас кліча фараон. Не забудзьце зноў пра рытуал.

## КАРЦІНА СЁМАЯ

Сіньёра Фанфані на карачках паўзе да фараона.

Фарыд. Для булёну ён хай ногі памые. Вы так усхваляваны?

Сіньёра Фанфані. Ды вы разумееце, што здарылася?

Фарыд. Я ўсё ведаю. І магу вас абрадаваць. Вінoўніка злавілі. Сядзіць у пастцы.

Сіньёра Фанфані. А-а-а, папаўся трус! Хто ён? Я дагадваюся — Людовік! Ён з маленства бабнік. Стары, а як малы цягнецца да цыцкі.

Фарыд. Не, не ён. Але за парушэнне свяшчэннага права ўласнасці і нашых непарушных прынцыпаў будзем караць самым суровым... Якую кару вы назначыце, так таму і быць! Ваша права і ваша воля.

Сіньёра Фанфані. Вылушчыць яму ўсё гэта і вывесіць на страх іншым! А самога скарміць! Там! Ім! Гэтым!

Фарыд. Аліса! Чула? Падрыхтуй указ! Яе прыгавор адмене не падлягае. Выкананне правесці публічна ва ўрачыстай абстаноўцы! Вы — вялікая жрыца! Я ў захапленні ад вашай справядлівасці і вашай вернасці нашым прынцыпам.

Сіньёра Фанфані. Дзе ён? Хто ён?

Фарыд. Яшчэ раз абрадую вас. Гэта ваш унук. Прынясіце яго!

Прыносяць Антоніо ў своеасаблівай пастцы.

Сіньёра Фанфані. Няшчасны! Дык гэта ты? О, жах які! Як жа ты папаўся?

Антоніо. Гэта яна высачыла, Аліса. Яна ад зайздрасці...

Сіньёра Фанфані. О, бажаство, бласлаўлёны

богам Ра вялікі і мудрэйшы Віктар Рамзес, адмяні прыгавор! Пачуй маленне з вуснаў маіх! Ён жа мой адзіны наследнік, мая надзея. Злітуйся!

Ф а р ы д. О, вялікая жрыца! Бог Ра можа паразіць мяне радыяцыяй і белакроўем, калі я адмяню твой прыгавор. Я магу толькі адкласці яго выкананне. Але гэтым прадоўжу я яго і вашы мукі. Трон мой трымаецца на цвёрдым слове. Слова фараона павінна пераважыць яго самога. Вось чаму маё слова нязменна, пакуль я жывы і здаровы.

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Тады адкладзі, о богападобны.

П р э з і д э н т *(сам сабе)*. Сам падкінуў апасную ідэю.

Ф а р ы д. На тыдзень.

П р э з і д э н т *(сабе)*. Які непрадбачлівы!

А н т о н і о. Хоць бы на год, га?

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Прымі падзяку, о богападобны! А ты змоўкні, распуснік!

Ф а р ы д. Іменна! Усе мы дваццаць гадоў цярпелі, а ён, нахабнік...

А н т о н і о. Усе? А яна цярпела? *(Паказвае на Алісу.)* А цэзар? У іх пупоў ужо няма. Сцерліся! А Леанора?

Ф а р ы д. Няма? А-а, праўда няма. І не было! Яна не радзілася, яе стварыў бог. Адкуль у яе пуп? Стоп! А табе адкуль вядома, што ў яе ёсць, а чаго няма? Ты і тут паспеў? Га? Прызнавайся!

А н т о н і о. Ну што вы? Я — грэблівы.

А л і с а *(зняважаная)*. Не трэба адкладваць, о богападобны.

Ф а р ы д. Адкладзём! Але з пасткі не выпускаць! Усё! Прэч! Усё!

Усе выпаўзаюць на карачках задам наперад. Толькі В у д р о забыў аб рытуале, паўзе наперад галавой.

Сто-оп! Вудро! Ты што ж гэта? Забыў цырыманіял? Анджэла!

А н д ж э л а. Слухаю, о богу роўны!

Ф а р ы д. Зрэзаць галаву з плеч і прышыць да задніцы! Каб не забываў, дзе павінна быць галава, калі выходзіць ад фараона.

В у д р о. Але ж там публіка! Таксама — шаноўная! Непрыстойна. Я ж інтэлігентны! А яны — таксама, як быццам культурныя.

Ф а р ы д. Безгаловых гэта публіка болей любіць. Выконваць!

А н д ж э л а. Будзе зроблена, о богападобны. Перапіцуем.

В у д р о. Не спяшайцеся, богу роўны! Пачакайце! Мы старгуемся...

Ф а р ы д *(падумаўшы)*. Таксама на тыдзень адкладзём.

Тронную залу з фараонам скрывае жалезная заслона.

С і н ь ё р а Ф а н ф а н і. Што ж рабіць?

В у д р о. Ён усіх нас па адным...

А н т о н і о. Бабуся! Мне нядобра. Мяне нудзіць, у мяне рвота... адтуль...

С і н ь ё р а Ф а н ф а н і. Што? Са страху? Прашу вас, Анджэла, вынесіце яго.

А н д ж э л а з в о і н а м і, заціскаючы насы, выносяць у н у к а.

В у д р о. О божа! Нарэшце я шчыра ўспомніў цябе! Дапамажы!

С і н ь ё р а Ф а н ф а н і. Дзе мой саветнік? Дзе прэзідэнт?

П р э з і д э н т. Я тут.

С і н ь ё р а Ф а н ф а н і. А, якая з цябе карысць? Ты мне ніводнай слушнай парады не даў. Навошта ты? Нікчамушні. Слухай! А што, калі мы падменім яго табой? Га?

Уваходзіць А н д ж э л а.

А н д ж э л а. О вялікая жрыца! Яму саўсім кепска. Яго лячыць трэба. Ён кроўю... гэта... ну... харкае... Яго шлунак перуном грыміць.

С і н ь ё р а Ф а н ф а н і. О божа, мой божа! Саветнік! Прэзідэнт! Ідзі да пана Хіра Сіта, хай ратуе. Уладзь.

Былы п р э з і д э н т знікае.

А н д ж э л а. Калі будзем перашываць галаву да задніцы, містэр Вудро? *(Зарагатаўшы, выходзіць.)*

В у д р о. Як усё мяняецца? Мы з вамі, сіньёра Фанфані, кантынентамі валодалі! А цяпер? Божа мой! Сабраліся сюды аднадумцамі, а вот жа... Ну, там камуністы экспрапрыіравалі, пралетарыі. Там ясна. А тут — свой свайго! Як жа далей?

З'яўляюцца п р э з і д э н т і Х і р а С і т а.

Хіра Сіта. Сіньёра Фанфані! У вашага ўнука амёбная дызентэрыя. Ён паміраць будзе. У страшных пакутах, непрыгожа, у непрыемным выглядзе. Яго трэба крэпка лячыць. Дызентэрыя апасная і паскудная хвароба. Сільная таблетка трэба. Я сказаў.

Сіньёра Фанфані. Якая дызентэрыя? Адкуль яна? Га? Ну? Няма яе! Гэта ў яго ад страху. Ад таго ўсё.

Хіра Сіта. Не, у яго страх ад гэтага, а не гэта ад страху.

Сіньёра Фанфані. Дык лячыце! Чаго ж вы марудзіце?

Хіра Сіта. А куды мне спяшацца? Прыйшоў мой час. Шаноўная сіньёра Фанфані, гэта вельмі дорага будзе вам каштаваць. З мяне дралі за ваду, мяне як ліпку абадралі за кісларод. За паветра! Цяпер я пакажу, чаго вам усім будзе каштаваць яго дызентэрыя! *(Летуценна.)* Здаецца, мая таблетка стане даражэй за брыльянт. Толькі так вы яго выратуеце.

Сіньёра Фанфані. Я і не думаю яго ратаваць. Для чаго? Праз шэсць дзён яго пакараюць смерцю. Вы бачылі, дзе ён сядзіць?

Хіра Сіта. Так-так. У клетцы. У пастцы.

Сіньёра Фанфані. Ну, вось. Днём раней, днём пазней...

Хіра Сіта. Не, чаму? Днём пазней — лепей. Усё-такі...

Сіньёра Фанфані. Каб даўжэй пакутаваў? Мучыўся?

Хіра Сіта. Так-то яно так. Але ж вельмі шкада, жаласна.

Сіньёра Фанфані. Ужо лепей даць яму цыяністы калій. Карацей пакуты. І меней клопату. І для ўсіх спакайней. Усё-такі — зараза.

Хіра Сіта. Вы што? Бессардэчная! Ён жа ваш унук! Я люблю яго.

Сіньёра Фанфані *(са слязой)*. Так яму наканавана. Богам.

Хіра Сіта. Так-так-так... Стоп. З кожнага становішча ёсць два выхады. Адзін — вам ясна. А другі? Мы з вамі можам заключыць пагадненне. Здзелку.

Сіньёра Фанфані. Сіньёр Хіра Сіта, прадайце мне свае таблеткі. Трэба, каб перад богам мой унук з'явіўся чыстым. Нельга ў рай заносіць інфекцыю. Непрыстойна.

Прэзідэнт. Мудрэйшая! Вы празорлівая! Я ўсё вразумеў.

Сіньёра Фанфані. Вялікая мудрасць — своечасова прыкусіць язык.

Хіра Сіта. Мае акцыі растуць! Трэба здзелка — я вам таблеткі колькі трэба, а вы мне дызентэрыю. Яна ваша ўласнасць. Я сказаў.

Сіньёра Фанфані. Кантракт?.. Падумаем да заўтра. Унук да раніцы выжыве?

Хіра Сіта. Суткі выжыве. Але багата енчыць будзе. І доўгая сляза будзе.

Сіньёра Фанфані. А цяпер мне трэба мінута з богам пагаварыць. Ідзіце. *(Прэзідэнту.)* Прасачы, каб ніводнай кроплі, ні грама, каб не разбазарылі гэтае... ну... адрыжкі і ўсё такое. Я ўсё прадам яму за таблеткі. Уцяміў? Бізнес ёсць бізнес!

Прэзідэнт выходзіць.

Хіра Сіта. Доўга думаць — таблетка даражэй стане. *(Выходзіць.)*

Сіньёра Фанфані *(развважае)*. Слова фараона нязменнае, пакуль ён жывы... Уразумела. Няўстойлівасць улады фараона ў ненадзейнасці яго слова. А языкатасць, ваша вялікасць, выяўляе граніцы вашай дурасці. Агаляе вашу ахілесаву пяту.

Уваходзіць Леанора.

Леанора. Дрэнь нашы справы. Мала надзеі. Ісак адвярнуўся... абазваў мяне амаральнай курыцай. Беспрынцыповай.

Сіньёра Фанфані. Шкада мне цябе. І яго.

Леанора. Вы ж яго прыгаварылі. А цяпер...

Сіньёра Фанфані. Ці ж я ведала, што гэта ён? Ідзі, любая, развітайся з ім.

Леанора. Ён абразіць, пакрыўдзіць мяне. Ён грэблівы, раўнівы...

Сіньёра Фанфані. О-о, ён раўнівы! Як Атэла. Але няма па свеце мужчыны, каторы ўстаяў бы перад словам далікатным, пяшчотным, ласкавым, сардэчным. Ідзі, пашкадуй яго, скажы яму словы жалю і любві. Аглушы яго, апаламі дабратой, спагадай, гатоўнасцю перажыць з ім разам яго гора-бяду. Назаві яго сокалам, ясным месяцам, чараўніком, казкай сваёй назаві, марай, надзеяй. Шчаслівай доляй сваёй і салодкай мукай назаві, верным рыцарам...

Л е а н о р а. Але ж ён і... восемдзесят вашых гэтых...

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Восемдзесят? Гэта ўсё роўна, што ніводнай! За кожнае яго грубае слова ты ласкай, пяшчотай, захапленнем, радасцю, весялосцю плаці.

Л е а н о р а. Божа, адкуль у вас столькі страснасці? У вашыя гады? Хто б мог паверыць?

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Ідзі, мілая, выканай свой жаночы абавязак. Толькі будзь разумнай. Не таргуйся. Не папракай. Не выстаўляй умоў. Ты раскрый сваю душу, ты прабіся ў яго сэрца тонкай жаночай стралой з ядам ласкі. Ідзі! Ён стане праганяць цябе, але з любоўю. А ты лезь, шчаміся да яго ў пастку. У шчылінку лезь!

Л е а н о р а. Я, праўда, кахаю яго... Я ўсё для яго... На ўсё гатова. Я пайду да яго з раскрытым халатам. Калі ён нічога не ўбачыць, я яму выдзеру вочы.

С і н ь ё р а  Ф а н ф а н і. Ён будзе цябе пужаць, гарадзіць усякія брыдоты пра сябе, прыкідвацца хворым, заразным, але ты не адступайся. Ён ацэніць. А потым пойдзеш да фараона і выпрасіш у яго майго ўнука. Мы выкупім яго!

Л е а н о р а  ўздыхнула, настроілася, пайшла. Як на подзвіг.

## КАРЦІНА ВОСЬМАЯ

Тронная зала ф а р а о н а. Варта. Перад тронам на каленях Л е а н о р а.

А н д ж э л а  трымае яе, закруціўшы на руку яе доўгую касу.

Ф а р ы д *(раз'юшаны)*. Як ты пасмела?! Мярзотніца! Ты зняважыла царскія пакоі, мой ложак дзеля гэтага смярдзючага сабакі? Ты шчамілася да яго ў пастку! Распусная! Дзе былі твае вочы бессаромныя?!

Л е а н о р а. О богападобны! О горды сокал мой! Голуб шызакрылы! Ненаглядны месяц мой ясны!

Ф а р ы д. Не смей! Я цар! А ты паўшая!

Л е а н о р а. О міласэрны, богападобны ўладар мой! Я выпадкова там апынулася. Проста жаночая цікаўнасць завяла мяне туды, каб потым табе расказаць, ласкавы мой. Пяшчотны, добры, магутны. Як ты мог падумаць?

Ф а р ы д. Ты гэткія ж словы гаварыла яму! Мярзотніца!

Л е а н о р а. Я аб табе гэтыя словы гаварыла яму. На зло яму. Я ж прыйшла да цябе, гасудар. Ад яго да цябе! Я верная табе. Не верыш? Я ж усю ноч з табой... чысціла апельсіны...

Ф а р ы д *(абышоў вакол яе, ацаніў, злітаваўся)*. Адпусці яе. А ты... Ачысці мне яшчэ апельсін. Павер вам. Усе вы аднолькавыя. Перада мной нявінная, непрыступная, толькі апельсіны. Лежачы ў пасцелі з адным, круціць галавой, выглядае наступнага. Во якая ты! Усе вы такія!!

На карачках паўзе Х і р а  С і т а.

Л е а н о р а. Колькі не выглядай — няма далікатнейшага за цябе. Няма дастойнейшага, няма мужнейшага! Ты маё дыханне, ты маё шчасце, ты мая радасць, мая казка! Вазьмі маё жыццё, і я буду дзякаваць богу Ра.

Ф а р а о н раптам саскочыў з трона, падтрымліваючы штаны, бяжыць за шырму. Бяжыць так, нібы ў яго між каленяў заціснуты пятак і фараон баіцца згубіць яго.

Ф а р ы д *(з-за шырмы)*. А брэшаш! Усё-такі маніш? Га?

Л е а н о р а. А ты правер. Вось... *(Нібы толькі зараз яе асяніла.)* Падары мне гэтага, што ў пастцы. Аддай яго мне рабом. Ты ўбачыш, як можа жанчына катаваць, мучыць, зневажаць, абражаць, насміхацца, здзекавацца, таптаць у гразі нягоднага мужчыну. Аддай яго мне, і гэта будзе яму самая цяжкая кара! *(Схапілася за жывот.)*

Фараон стогне.

Х і р а  С і т а. О богападобны! Ты, пэўна, захварэў ужо.

Ф а р ы д *(з'яўляецца вельмі засмучаны)*. Чаму ты тут? Хто падаслаў?

Х і р а  С і т а. О валадар! У сне прызваў мяне бог Ра і сказаў: ідзі, лячы, памажы богападобнаму. У яго, кажа, жывот сапсаваўся. Вось. Ён падаслаў. У яе таксама баліць вакол пупа.

Ф а р ы д. Няма ў яе пупа!!

Л е а н о р а выбягае за шырму і гэтак жа, як фараон, баіцца згубіць пятак, заціснуты між каленяў.

Л е а н о р а. П-падары мне яго! Д-дай мне яго! О-о, б-бо-жа!

Х і р а  С і т а. Навошта ёй? Мне прадай. Я цябе лячыць буду. Я табе здароўе вярнуць буду. Табе хараша стане. Я на ім лякарства правяраць буду. Табе лякарства. У яго таксама твая хвароба. Калі не аддасі яго мне — памрэш. Бог Ра мне сказаў. Я табе сказаў.

Леанора *(за шырмай)*. П-пам-міраю! Божа літасцівы, памажы!

Хіра Сіта. Вось, цар, яна памірае. І ты паміраць станеш. Што дасі — лячыць буду. Цуд-таблеткі маю. Га? Што?

Фарыд. Д-дай сюды! Анджэла! Адбяры ў яго!

Хіра Сіта. Нельга адбіраць! Мая гэта! Святая святых! Прыватная ўласнасць!! За што бальшую вайну рабілі? Усю планету псавалі!

Фарыд. Аддай, гад! Паміраю...

Хіра Сіта. Правільна, паміраць будзеш. А ёсць таблетка. Цуд! Што дасі!

Фарыд. А што табе трэба?

Хіра Сіта. Мне трон трэба. Мне адрачэнне тваё трэба. Памрэш — нашто табе трон тады? Аддай мне — жывы будзеш. Шустры будзеш. Бегаць за бабай будзеш.

Фарыд. Анджэла! Забі яго! Адбяры! Рэквізуй!

Анджэла пасунуўся да Хіра Сіта.

Хіра Сіта *(крычыць)*. Я царом буду! Ты ахоўваць мяне павінен! А калі не, то таксама паміраць будзеш! А таблеткі я во зараз праглыну, і ўсё. Вам смерць з гарантыяй. Цар! Аддай трон! А то позна будзе.

Фарыд. Не руш трон! Не чапай! Рукі прэч ад трона!!

З-за шырмы ўваходзіць вялая Леанора.

Леанора. Нічога мне не трэба... Паміраю... праз любоў.

Хіра Сіта. Правільна. Табе во такая таблетка нада. Вось глядзі, фараон, назірай эксперымент. *(Дае Леаноры таблетку.)* Жуй! І глытай! Во-ось, а цяпер запіць нада. Анджэла! Дай пепсі-кола!

Леанора жуе таблетку, глытае, запівае.

Вось, а цяпер глядзі, глядзі... Зараз яна шчаслівая будзе. Глядзі, глядзі! Га? Што? Я сказаў! Так будзе!

Фарыд *(зрываецца з трона і бяжыць за шырму)*. Не руш трон!!

Леанора на вачах папраўляецца: святлее твар, з'яўляецца жывасць, бляск у вачах, гулівасць. Цуд, дый годзе!

Леанора *(Хіра Сіта)*. О ўсемагутны! О чарадзей! Богу роўны!

Хіра Сіта вымае з-пад палы халата галаўны ўбор з пёрамі, як у папуасаў ці індзейцаў, скідае з сябе белы халат і паўстае ў харастве і велічы важака дзікага племя. Увесь у татуіроўках і шрамах. За спіной у яго тут жа ўзнікаюць целаахоўнікі з коп'ямі і тамагаўкамі.

Хіра Сіта *(Анджэлу)*. Узвядзі мяне на трон, воін!

Анджэла вядзе Хіра Сіта на трон.

Ну, во! Шыкоўнае месца! Мякка. Не рыпіць. І дарагое. Зручнае, халера.

Леанора *(какетнічае)*. О богу роўны! О ўсемагутны!

Хіра Сіта. Не, не-е! Богу роўных няма. Мой бог — агонь!

З-за шырмы, ледзь перасоўваючы ногі, вяртаецца фараон; ён усё яшчэ падтрымлівае рукамі штаны.

Фарыд. Ты ўжо там?

Хіра Сіта. Так. Я ўжо на сваім месцы. Ну, фараон, пішы адрачэнне па ўласнаму жаданню і атрымлівай таблетку. Падпісвай, падпісвай! Я ж бачу — жыць, аднак, хочаш. А жыццё тваё — у гэтай таблетцы.

Фараон падпісвае адрачэнне і бярэ таблетку.

Фарыд. О бог Ра! Як абясцэніўся ў нашу эпоху трон! За нейкую таблетку — трон.

Хіра Сіта. Прадзешавіў, думаеш! А я табе ў прыдачу дам, як выйдзем наверх, персанальную пенсію. Ну, добра, яшчэ і казённую машыну. Сам вадзіць умееш? Ну, тады асла з сядлом. Га?

Гром грыміць. Зямля трасецца. Хіра Сіта і яго варта падаюць ніц.

Леанора. О святая Марыя! Што гэта?

Хіра Сіта. Гэта мой бог. *(Таямніча.)* Бог агонь! Ён так дае мне салют. І яшчэ ён патрабуе ахвяру. *(Голасна.)* Дзе ўсе? Сабраць у мой вігвам старэйшын! Савет племя! Засядаць будзем.

І адразу затрашчалі барабаны. Трывожна. Грозна. Ваяўніча. Спешна сходзяцца на раду сіньёра Фанфані, Ісак, Вудро, Людовік, Аўгуст і Фарыд — усе былыя і цяперашнія. Яны пачціва кланяюцца, вітаючы новага ўладара. Не смеюць падняць на яго вочы.

Вудро. Бог мой! Ужо дакаціліся да пер'я.

Хіра Сіта. Пасяджэнне савета племя адкрываю я, і я — старшыня!

Анджэла. Апладысменты!!

Хіра Сіта. Першае пытанне... Але гэта ўжо не пытанне! Фараон Віктар Рамзес чатырнаццаты па ўласнаму жаданню і ў сувязі з благім здароўем напісаў адрачэнне і пайшоў... у туалет. Там яго законнае месца. Ён прамяняў трон на таблетку. Я купіў трон. Нам трэба дастойны правадыр! Правядзём рэферэндум. Так рабілі нашы продкі. Другія кандыдатуры ёсць? Няма.

Людовік. А хто першая?

Леанора. Не чуў? Прачысці вушы.

Хіра Сіта. Хто сумняваецца? Анджэла? Правер! Будзь ласкавы.

Анджэла *(абходзіць усіх, уважліва ўглядаецца кожнаму ў вочы)*. Сумненняў ні ў кога няма.

Хіра Сіта. Анджэла! Раздаць бюлетэні! Галасаваць будзем так: атрымай бюлетэнь, без мітусні прайдзі паўз сцяну да машыны галасавання, тайна прагаласуй, і ўсё.

Усе вяла выконваюць устаноўленае правіла, пасля чаго Хіра Сіта вытрасае з машыны бюлетэні, фармальна, абыякава праглядае іх і аб'яўляе вынікі.

Панове! Вы мяне выбралі аднагалосна. Такі рэферэндум. Дзякуй за веру ў мяне. Вы — харошы народ. З вамі можна кашу варыць. Міністраў сапсем не будзе. Гаспадарка невялікая — сам спраўлюся. Цяпер слухаем пытанне нумар два. Гаспадарчае пытанне: куды дзяваць дзеці? Восемдзесят жанчын хутка будуць раджаць залпамі. А чым карміць?

Вудро. Хто вінаваты? Хто стварыў крызісную сітуацыю?

Фарыд. Віноўнік ёсць!

Хіра Сіта *(паспешна)*. Няма яго! Сапсем не было.

Людовік. А як жа так тыя бабы?.. Як успузырыліся?

Хіра Сіта *(наіўна)*. А вот так — самі. Так пеяк. Самі.

Вудро. Не можа таго быць!

Хіра Сіта. А чаму не можа? Дзве тысячы гадоў назад можа быць, а цяпер не можа. Чаму так? Ваш бог можа, а мой не можа? Мой бог усё можа! Што мы — горшыя, ці што? Гэта бог папрацаваў. Га? Вы — няверуючыя? Вы фарысеі, ці што?

Фарыд. Пакрывае дзяржаўнага злачынца! Ды твой жа бог — агонь. А смаленым нібыта і не пахне.

Хіра Сіта. Зараз запахне. Мой бог просіць прынесці цябе на касцёр у ахвяру. Я не магу адмовіць яму. Вось і запахне. Гарэлым. Смаленым.

Фарыд. Але ж віноўнік ужо быў! Яго злавілі! Ён папаўся ў пастку! Я яго злавіў.

Сіньёра Фанфані. А свабода прадпрымальніцтва? Ён павялічыў сабе рабочую сілу. Свой капітал!

Хіра Сіта. Што ёсць пралетарыят? Асноўная крыніца прыбыткаў. Ён павялічыў сваю крыніцу. У яго крыніцы — яго капітал! У яго вы будзеце купляць гэтую рабочую сілу.

Людовік. А чым цяпер карміць гэтую сілу? Гэтую плойму?

Фарыд. А нам яшчэ тужэй зацягнуць паясы?!

Усе павярнуліся да Ісака, чакаюць парады.

Ісак. Паны! Гэта пагражае нам эканамічнай катастрофай. Так-так.

Аўгуст. Пакараць яго, абсемяніцеля! Самы суровы прыгавор!

Хіра Сіта, заклаўшы ў рот чатыры пальцы абедзвюх рук, пранэзліва свіснуў. Так ён уціхамірыў гоман незадаволеных.

Хіра Сіта. Навошта крычаць? Нехарашо крычаць! Я буду раіцца з маімі продкамі. Яны ўсё ведаюць. Як скажуць, так рашаць будзем. Я сказаў. Усё. З гэтым пытаннем. Адпачыць трошкі трэба. Раіцца з продкамі трэба. Бальшую справу правярнуў. А вы пашуміце трошкі. Мне продка пабачыць трэба.

Спадае заслона і адгароджвае тронную залу ад усіх.

Сіньёра Фанфані. Ён надзеў гэтае пер'е дзякуючы ўнуку. Не можа ён караць сурова! Ён жа абяцаў...

Людовік. Спрадвеку перад выбарамі ўсе абяцалі, а потым... потым мянялі апярэнне.

Аўгуст. Калі ён парушыць закон — раздзенем, здзяром з яго скуру з татуіроўкамі і... на таршэр!

Раптам грымнуў гром.

Сіньёра Фанфані. Вось — прадвесце! Трэба мяняць уладу! Улада, не цвёрдая на слова,— нетрывалая ўлада.

Нечакана з'яўляецца Хіра Сіта.

Хіра Сіта. Нельга часта мяняць уладу. Улада павінна быць стабільная. На доўгі час. Тады яна трывалая. Аўтарытэтная.

Ісак. Што продкі сказалі?

Хіра Сіта. Правільна сказалі. Мудра сказалі.

Ісак. Пакараць?

Хіра Сіта. Правільна. Адкуль ведаеш? Пакараць, сказалі. Нельга парушаць галоўны закон. Не шуміце! Вы гэтага хацелі.

Сіньёра Фанфані. А слова? Улада мацуецца цвёрдым словам.

Хіра Сіта. Правільна. І продкі так сказалі.

Фарыд. То як жа ўсё-такі, пакараць ці памілаваць?

Хіра Сіта. Пакараць і памілаваць.

Ісак. А што спачатку?

Хіра Сіта. Усё спачатку.

Сіньёра Фанфані. Як гэта — усё спачатку?

Хіра Сіта. Як ты захочаш. Можна пакараць, а потым памілаваць. Можна памілаваць, а потым пакараць. Як ты хочаш?

Ісак. Мудры твой продак. Як Саламон.

Аўгуст. Геніяльна! Гуманна і справядліва. І каза цэлая, і ваўкі сытыя.

Сіньёра Фанфані. А як жа ўнук? Мой наследнік?

Хіра Сіта. І ты будзеш задаволена. *(Выправаджае ўсіх.)* Ідзіце! Трэба ба-альшой касцёр! Рыхтуйце! Паліць будзем. Смаліць...

Усе разыходзяцца.

Сіньёра Фанфані. Божа літасцівы! Змілуйся!

Хіра Сіта *(грозіць пальцам Антоніо.)* Эй ты, балаўнік! Ай, распуснік! Сам балаваўся, а мяне не зваў? Га? І ты, бабуся, не бойся. Мой продак разумны. Вельмі мудры.

Сіньёра Фанфані. Ты ўратуй яму жыццё. Ён жа адзін у мяне. Адзін наследнік. Выратуй яго.

Хіра Сіта. А завяшчанне яму напісала? А-а, тады парадак. *(Цешыцца сваёй уладай і мудрасцю.)* Ну, вядома! Мой продак так сказаў: рабі, як іспанцы. Калі цяжка, калі небяспека, то мяняй імя. Бяры саўсім новае імя. І пашпарт новы. Хуан-Марыя-Раберто-Дзіяс-Антуан-Хозе. Га? А на касцёр зробім чучала. Тваё. Вечарам ставім і палім-смалім. Усе трыумфуюць. Усе рады. І ты рад.

І сама бабуся рада. У тваім старым пашпарце адзнаку робім — памёр. Пакаралі смерцю. А ты — жывы. Га? Сапсем жывы? *(Пляскае ў далоні, і ў той жа час з'яўляецца Анджэла.)* Давай пашпарт Хуан-Марыя-Раберто-Дзіяс-Антуан-Хозэ. Фота ёсць? Ёсць.

Антоніо *(з клеткі).* Адамкніце кайданы, дайце мне волю!

Хіра Сіта. Анджэла! Адчыні клетку. Ну, у цябе цяпер усё чыстае — і пашпарт, і тваё мінулае. Бяры новы дакумент, давай стары і ідзі гуляй. Усё пачынаеш нанава.

Сіньёра Фанфані. О мудрэйшы! Я яго на ланцуг!

Антоніо. Прымі падзяку, о вялікі правадыр! Я буду вельмі рад, калі цябе пасадзяць у клетку! Я буду рады вызваліць цябе з клеткі.

Сіньёра Фанфані. Каб табе язык адсох! Што ты мелеш?

Сіньёра Фанфані паспешна выходзіць, выштурхоўваючы перад сабой унука. Зноў грыміць гром.

Хіра Сіта. А чаму гром? Які такі гром? Хто дазволіў? Дзе навука? Чаму навука не тлумачыць нашых беспарадкаў? Анджэла! Цягні сюды навуку і тэхніку! Ну што ў вас за акадэмія навук? Ніякіх навуковых тлумачэнняў. Дзе абгрунтаванне беспарадку? Га?

Анджэла. Філосафа з'елі. А тэхнакраты маўчаць. Разбалаваліся.

Анджэла выходзіць. Яшчэ мацней грыміць гром. Перапалоханыя жыхары падзямелля, нібы кураняты, збягаюцца ў прыёмную.

Галасы. Божа літасцівы!.. Уратуй і памілуй!.. Што ў нас творыцца?.. Кара нябесная!.. І ніякай інфармацыі!.. А правадыр? Чаму ён маўчыць?!.

Хіра Сіта. Хто маўчыць? Я маўчу? *(Крычыць.)* Анджэла! Цягні сюды навуку! За валасы цягні! Ці яшчэ за што!

Анджэла прыводзіць Кейта.

Адкуль такі грукат? Чаму шум? Якія-такія непаладкі? Чаму паніка? Чаму навука не высвятляе? Га? Я пытаюся!!

Кейт. Што вы так крычыце на навуку. Крычыце на свайго бога.

Хіра Сіта. Паслухайце, людзі добрыя! На яго не-

льга крычаць? Га? Яны вытвараюць, што захочуць, выдумваюць абы-што, чорт ведае што, а на іх не крыкні. Чаму гром? Гэта што? Катаклізм! Землетрасенне? Га? Хто павінен высветліць? Што гэта?! Хто грыміць? І на каго?!

Кейт. Гэта не гром. І не землетрасенне. Гэта, верагодней за ўсё, вынік масіраваных выбухаў і тэрмаядзерных бомб. Напэўна, пачалася ланцуговая рэакцыя. Напэўна, атам азоту не вытрымаў... Пачаўся распад, разбурэнне нашай планеты.

Хіра Сіта. Спыніце! Спыніце, пакуль не позна!!

Кейт. Позна. І крыкам не спыніць. І не крычыце, а ціхенька маліцеся. Вам пра душу клапаціцца трэба. І рыхтавацца да сустрэчы з продкамі. Што табе яшчэ высветліць?

Хіра Сіта. Слухай, ты, шаноўны! Я правадыр ці ты? Хто на каго крычаць павінен? Хто вінаваты, што планета руйнуецца? Ушчэнт. Не навука? Хто прыдумаў атам? Хто выдумаў тэрмаядзерную рэакцыю і атамную бомбу? Га? Хто заварыў гэтую кашу? Га? Не навука?

Аўгуст. На касцёр навуку! Пад нож яе! На кол навуку!

Хіра Сіта. Гэта ўсё вы — алхімікі! Уран-37, Уран-39, плутоній ды нейтроній. Даплутоніліся? Га? Правільна ў сярэдневякоўе вас на кастрах смажылі! Падпякалі. А цяпер на навуку не крычы? Га? Што з табой рабіць? Га? Сам скажы: што!

Фарыд. На касцёр лабатых!

Хіра Сіта. Мы столькі сродкаў давалі вам. А цяпер нам жа пагібель? Так? Чаму не прадбачыў? Чаму тэхніку бяспек не запланаваў? Эканоміў? Прафсаюза на вас няма! Вось! Усіх згрунтоўвае, яднае нянавісць да навукі.

Ісак. Гэта называецца фондааддача.

Аўгуст. Скажы, мы ўсе загінем? Усяму капец?

Кейт. Не. Абалонка, сцены... ну — сфера нашага сховішча зроблена з такога матэрыялу, які можа супрацьстаяць сілам ядзернага распаду. Знешнія ядзерныя працэсы не крануць нашай шкарлупіны. Наш арэшак моцны. Калі нават уся планета Зямля распадзецца, то наша ячэйка стане самастойнай планетай у Сусвеце. А з цягам часу будзем спадзявацца, што знойдзе нас якая-небудзь цывілізацыя.

Ісак. То гэта іншая размова. Усё-такі не канец. Будзем аптымістамі. Нам трэба самім шукаць якую-небудзь цывілізацыю.

Аліса. Я буду жыць? Так?

Людовік. З кім? Вось пытанне...

Сіньёра Фанфані. Зноў сварка? Радавацца трэба, а вы. Літасцівая маці боская пашкадавала нас, прадоўжыла дні нашы...

Людовік. Дні вашы? Ненадоўга.

Аўгуст. Вялікая хвала богу! Слава жыццю! Жыві, пакуль жывецца!

Стрэсавы стан спадае з усіх. Усе становяцца самімі сабой: вяртаецца фанабэрыя, нахабства, зларадпасць, насцярожанасць, гатоўнасць да нападу і самаабароны. Дружная група распадаецца на самастойныя, незалежныя, анархічныя адзінкі.

Кейт. Але для таго, каб жыць, трэба вырашыць праблему: чым харчавацца? Запасы нашы невялікія.

Фарыд. Толькі не эканоміць на харчах!

Аўгуст. А тут яшчэ восемдзесят цяжарных жанчын прынясуць лішніх паўтары сотні ратоў.

Фарыд. Ні гэтыя паўтары сотні дзіцятак, ні цяжарныя, ні юныя некранутыя спакусніцы нам болей не спатрэбяцца. Планета разбурыцца?! Шахт і заводаў не будзе — каму і навошта тады пралетар'ят?

Леанора. Лагічна — скараціць штаты. Гэтыя штаты...

Ісак. Я чытаў кнігу аднаго амерыканскага прафесара. Ён раіў азіятам: Кітаю і Індыі пазбавіцца ў гэтых краінах ад голаду адным спосабам: з'ядаць малалетніх і нованароджаных. Іх мяса нібыта чалавечы страўнік засвойвае лепш за іншую страву. Толькі так,— падказваў ён,— можна скараціць народанасельніцтва і не дапусціць голад. Ён так раіў.

Паўза.

Хіра Сіта. У нас няма іншага выхаду... А што вы параіце?

Аліса *(перахапіўшы на сабе пажадлівыя позіркі)*. Не! Не! Не!

Прэзідэнт. Ніжні ярус з'ядае нашы запасы. Тых — з ніжняга яруса — трэба цяпер пачынаць кансерваваць.

Сіньёра Фанфані. Ты — раб мой! З цябе і пачнём!

Фарыд. Але і тых... Яны аб'ядаюць нас! І іх неадкладна пад нож і ў буфет.

Сіньёра Фанфані. Хто пасмее замахнуцца на

маю ўласнасць? Ну! *(Выхапіла з-пад падола два маўзеры.)* Гэта што? Рэвалюцыя? Я хутчэй сама разбуру і спусташу к чортавай мацеры гэта наша гняздо, чым уступлю каму-небудзь сваю ўласнасць! Можаце толькі купіць маю маёмасць! Ану! Не варушыся!!

Ісак. Ну, канечне, за выкуп! А хто гаворыць, што за так! Ніхто так не гаворыць.

Хіра Сіта. Навошта рэвалюцыя? Калі ёсць грошы, можна старгавацца. Законна трэба. Такі закон. Дай — на!

Зноў грыміць гром. Дрыжаць сцены.

Леанора. Мой уладар. Вызвалі майго жаніха. Ён заслужыў не пакаранне, а ўзнагароду. Ён павялічыў нашы запасы. А вы даруйце яму жыццё.

Хіра Сіта. Вось так, усё цячэ, усё мяняецца. Што было грахом, стала дабром. Ён ужо вызвалены. Вядома, скарачаць штаты прыйдзецца, нявыкрутка. Лэдзі і джэнтльмены! Каб выжыць вам. Паколькі мы становімся новай планетай і ўсім нам у падарунак — жыццё, з такой радасці я запрашаю вас на ўрачыстую вячэру каля рытуальнага кастра. Там будуць вясёлыя гульні з выпіўкай і закускай. За мой кошт. Я сказаў!

Воклічы: «Брава! Віват! Хвала Хіра Сіта!» Воіны пачынаюць дзікі рытуальны танец вакол свайго важака. Але раптам пасля сакрушальнага грукату, грому, землетрасення абрушваецца столь.

Сіньёра Фанфані. Навука ашукала нас! Ён зманіў!

Ісак. Кейт ашукаў нас! Здрадзіў нам! На коп'і яго!

Фарыд. Ён павінен памерці раней за нас!!

Хіра Сіта. Воіны! На коп'і яго!!

Сіньёра Фанфані. Сіньёры! Будзьце хрысціянамі! Дайце яму паспавядацца перад канчынай!

Прыходзіць святар.

Святар *(Кейту).* Неабавязкова прылюдна, сын мой.

Кейт. Хачу публічна! Ты — прадстаўнік бога? А што ты зрабіў яго іменем? Спыніў каго? Прызваў да сумлення? Ты моўчкі суіснуеш побач з грахом, з кашчунствам, з агіднасцю, з дзікунскай азвярэласцю і не толькі не асудзіў іх боскім іменем, ты благаслаўляў іх. Кожнага. На трон узводзіў! Іменем бога! Няўжо і цябе купілі! Няўжо і цябе адвучылі ад боскіх запаветаў. Калі ты не мог узвы-

сіць голас свой супраць іх д'ябальскіх учынкаў, то і ты разам з імі ўвяз у грахах! Яны моляцца, яны хрысцяцца, богава імя марна паўтараюць. Прызаві іх апамятацца! Застраш іх страшным судом богавым і суровай карай! Маўчыш? А ў цябе самаго няма жадання пакаяцца, паспавядацца? Га?

Свяшчэннік. Усё, што бачыш ты, аб чым гаворыш ты, чым папракаеш мяне — хіба гэта не богава кара? Не па богавай волі? Усе мы ў грахах, ад якіх не адмыцца, не ачысціцца. І не выпрасіць у бога літасці. Няма нам ні памілавання, ні ратунку. А таму і маўчу. І роля мая бясслоўная. Хіба ім бог патрэбен? Усім тут правіць сатана.

Хіра Сіта. Воіны! Абодвух на коп'і! Падкінуць і злавіць!!

Здзічэлыя воіны спрабуюць падняць Кейта да столі на коп'ях, да той праломіны, што ўтварылася ў выніку грому і землятрусу. Але, о цуд! У праломе з'яўляюцца Бім і Крошка.

Бім *(крычыць)*. Сто-оп! Спыніцеся! Крошка, знімі ў іх агрэсіўнасць!

Крошка накіроўвае на раз'юшаных воінаў яркі прамень — сямікалерны, вясёлкавы, і воіны нібы вянуць, твары ў іх дабрэюць, а затым заўважаецца сарамлівасць і нават вінаватасць.

Бім. Вы? За што яны вас? Містэр Кейт?!

Кейт. За вас. За гэтую праломіну. Для іх гэта — катастрофа!

Хіра Сіта. Вы хто? Вы адкуль? *(Строга.)* Вы чаму тут?!

Бім. Ух ты-ы, які певень!

Прэзідэнт. Гэта не певень. Ён галава дзяржавы! Ён прэзідэнт. Правадыр!

Бім. Пастой, пастой... Знаёмы твар... Вы?

Крошка. Ды гэта ж прэзідэнт, той, што знік няведама куды разам са сваёй элітай.

Бім. І праўда, ён! Намерыўся ядзерную вайну пачаць, ды, ратуючы свой азадак у падзямеллі, у паніцы забыўся на кнопкі націснуць.

Кейт. У апошні момант я перарэзаў правадкі да тых кнопак.

Бім. І вы хацелі знішчыць усё чалавецтва? Прэзідэнт!

Прэзідэнт. Я не прэзідэнт. Я яе раб. Я і тады... Я ніколі не быў прэзідэнтам.

Прыбягае Антоніо.

Антоніо. Я чую скразняк! Я чую вецер! Я чую свежае паветра!

Леанора. І сонца! Любы мой! І неба! Мы вырата-ваны!

Сіньёра Фанфані. А як жа ўсё наша?

Ісак. Імення! А як мы?

Бім. Вашы банкі, вашы прадпрыемствы, кінутыя на волю лёсу, вашы палацы мы нацыяналізавалі.

Ісак. Прыватную ўласнасць? Маю?

Хіра Сіта *(Біму).* Ідзіце адсюль! Пакіньце! Закрыйце! Яшчэ не прыйшоў час! Усе таблеткі засталіся...

Сіньёра Фанфані. Вы — чырвоныя? Вы — камуністы?

Хіра Сіта. Чырвоныя вас заваявалі? Яны перамаглі?

Бім. Не.

Ісак. Вы перамаглі?

Бім. Перамогі не было.

Хіра Сіта. Прымірыліся, ці што?

Крошка. Ніколі! Ідзе зацятая бітва! Другі год засядае міжнародная канферэнцыя. Там такі паядынак! На гэтым турніры змагаюцца лепшыя прамоўцы. Мы ніколі не ўступім ім права называць жанчыну проста «таварыш!». Мілэдзі! Сіньёра! Васпані, нарэшце, але не мужчынскае — «таварыш!».

Ісак. О, хвала ўсявышняму! Яшчэ не ўсё страчана. Для пачатку добра паспрачацца за «таварыш», а потым...

Бім. Без вас мы ліквідавалі ваенныя бюджэты, распусцілі арміі. На нашай планеце ўжо няма пустынь, няма бедных і галодных, няма прыніжаных і недатыкальных. Усюды ўстанавілі трохгадзінны рабочы дзень. Праца стала радаснай, а вольны час людзей, іх адпачынак — самым цяжкім клопатам дзяржавы. Самае загружанае міністэрства — гэта міністэрства адпачынку, затым міністэрства культуры і абрадаў. Праца строга нарміравана для ўсіх. Толькі пісьменнікі заўсёды начамі пішуць нешта. І ўсюды ўсё цвіце, красуе! А ўсе людзі свабодна, вольна дыхаюць колькі хочуць. Планета стала ўзорна-паказальнай!

Крошка. А вось ён *(паказвае на Хіра Сіта).* Не прадаў нейкіх таблетак і хоча расстыкавацца.

Хіра Сіта. Так! Расстыкавацца!!! Яны хай самі па сабе, а мы самі па сабе. Нашто стыкоўка? Не хачу такой стыкоўкі! Рана яшчэ!

Ісак. Не-е, пакуль не позна, пакуль яшчэ ёсць спрэчка, ёсць супярэчнасці — не ўсё страчана.

Сіньёра Фанфані. Звар'яцець можна! Я ўвесь капітал убухала на тых самак, і раптам... Яны ж нікому непатрэбны?! А іх у мяне дзевяць тысяч!!

Людовік. І восемдзесят сапсаваных...

Сіньёра Фанфані. Не-не-не!!! Я назад! Ваяваць! А не — я ўсё ўзарву!! Я ў пыл раструшчу! Давай вайну! Крыж вашай мацеры!

Кейт. Не! Не дапусцім! Нават калі на планеце *(паказвае на Біма і Крошку)* іх было б толькі двое, то і тады варта ратаваць мір!

*Заслона.*

*1982 г.*

# ВОРАГІ

П'ЕСА
У ЧАТЫРОХ ДЗЕЯХ

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Камандзір партызанскага атрада.
Віктар Іванавіч — камісар атрада, 45 год.
Таня — яго дачка, 20 год.
Начальнік штаба атрада, 27 год.
Антон — партызан-разведчык, 23 гады.
Маёр Келлер — гестапавец.
Лейтэнант Штраўбе — нямецкі камендант раёна.
Сліваштын — гарбун год пад 50.
Цопке — немец, салдат.
Радыст — партызан.
Днявальны — партызан.
Лёнька — хлопчык 13 год.
Партызаны:
Першы партызан.
Другі партызан.
Трэці партызан.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Кабінет каменданта Штраўбе. Злева стаіць пісьмовы стол, на якім акуратна раскладзены паперы, стаяць чарнільны прыбор, настольны тэлефон. Побач са сталом — канапа. На сцяне вісіць карта Савецкага Саюза. Над картай партрэт Гітлера. У пакоі некалькі прыгожых крэслаў, але не аднаго стылю. Дзверы з правага боку.

На сцэне камендант Штраўбе і яфрэйтар Цопке.

Дзея адбываецца ў канцы лета 1942 года.

Штраўбе. Зараз павінен прыйсці пан Келлер. Пакуль я буду яму дакладваць, ты ідзі арганізоўвай яму вячэру, ды, ведаеш, каб усё было. Разумееш? Усё! Пан Келлер — шэф гестапа. Разумееш — гестапа.

Цопке. Так точна, разумею!

Штраўбе. Дык глядзі ж! Ідзі ўсё на ногі пастаў. Дзейнічай ад майго імя, маўляў, камендант загадаў. Ясна?

Цопке. Так точна!

Штраўбе. Дык глядзі ж! Я тут пастараюся яго затрымаць, а ты паспяшы. Ідзі!

Цопке выходзіць.

Штраўбе. Ох, гэта гестапа!.. Калі гестапа на сцэну з'явілася,— добрага нічога не будзе. Беражы, Генрых, галаву! Калі ад партызан уцалела, дык гестапа пастараецца адкруціць. І адкуль гэта на маю шыю? *(Паўза.)* Які ён, гэты Келлер, хто яго ведае? Што ён любіць? Чаго не любіць, чым дагадзіць? Бяда на маю галаву. Дай бог, каб усё добра абышлося.

Штраўбе раскладвае на стале паперы, пераглядае іх. З'яўляецца Келлер. Штраўбе падхапіўся і выцягнуўся ў струнку.

Келлер. Хайль Гітлер!

Штраўбе. Хайль! Як адпачылі з дарогі, пан Келлер?

Келлер. Добра, дзякую. Дакладваць падрыхтаваліся?

Штраўбе. Так точна, пан Келлер, падрыхтаваўся!

Келлер. Я толькі хачу папярэдзіць вас, пан Штраўбе, што я прыехаў сюды невыпадкова. Важныя абставіны прымусілі мяне прыехаць. У бліжэйшым часе на тэрыторыі вашага раёна будуць праводзіцца важныя масавыя перавозкі для фронту. Я прыехаў, каб забяспечыць гэтыя воінскія эшалоны ад аварый і бандыцкіх налётаў. Пагэтаму мне хацелася б, каб вы ўвялі мяне ў абстаноўку больш падрабязна і больш дакладна. Паўтараю — дакладна, без упрыгожвання. Гэта і для вас лепш, тым болей што я тут працаваць буду доўгі час.

Штраўбе. Ёсць, пан гаўптман!

Келлер. Н-ну, дык расказвайце аб становішчы ў вашым раёне.

Штраўбе. Наогул становішча ў маім раёне, пан маёр, можна сказаць, нармальнае, калі не лічыць некаторых здарэнняў.

На вуліцы чуваць некалькі стрэлаў. Келлер запытальна глядзіць на Штраўбе.

Келлер. Гэта што яшчэ?

Штраўбе. Не магу ведаць, пан гаўптман... *(Здагадаўся.)* Пэўна, балуюцца нашы.

Келлер. Прадаўжайце.

Штраўбе. Нягледзячы на тое, што насельніцтва да нас адносіцца непрыязна, нават варожа, мы здолелі адправіць для арміі і фатэрлянда зададзеную колькасць збожжа, жывёлы і людзей для работы ў Германіі. Нашаму невялікаму гарнізону ўдалося сабраць у раёне 600 тон хлеба, 1700 кароў, 2150 свіней, 1480 коней і іншае; выслана ў Германію 738 чалавек дабраякасных, здаровых работнікаў...

Келлер. Усё гэта добра, але мяне раней за ўсё цікавіць, колькі ў вас выпадкаў тэрарыстычных і дыверсійных актаў, ці ёсць партызаны і якія меры прыняты супроць іх і бальшавіцкіх пасобнікаў? Колькі ў вас сакрэтных агентаў, якія дапамагаюць вам? Што зроблена з яўна нядобранадзейнымі людзьмі, хто ў вас працуе старастамі? Вось аб чым я жадаю паслухаць.

Штраўбе. Зразумела, пан маёр. У апошні час у

раёне ўсё часцей і часцей здараюцца выпадкі дыверсій, якія ўчыняюцца некалькімі невядомымі асобамі. Калі дазволіце, я пералічу гэтыя выпадкі.

Келлер. Так.

Штраўбе *(чытае)*. «10 ліпеня на шасейнай дарозе паміж вёскамі Пухава і Забалоцце забіты матацыкліст. Дакументы і зброя зніклі, 14 ліпеня абстраляна машына маёра Штольца, якога паранілі. 16 ліпеня зарэзалі вартавых ля моста на дарозе на Гомель. Мост узарваны. 20 і 24 ліпеня на мінах узарваліся вайсковыя эшалоны. 1 жніўня бандыты напалі на канвой, што суправаджаў людзей, якіх мы адпраўлялі ў Германію. Амаль увесь канвой перабіты...»

Келлер *(гнеўна)*. Досыць! Забіты, узарваны, перабіты... А якія меры вы прынялі?

Штраўбе. З мэтай спынення дыверсійных актаў мной згодна з загадам камандавання былі прыняты наступныя меры: па-першае, за аднаго забітага нашага салдата мы расстрэльвалі... *(Настойліва звоніць тэлефон.)* ...Пяцьдзесят мясцовых жыхароў. Па-другое...

Келлер здымае тэлефонную трубку, слухае і жэстам спыняе Штраўбе.

Келлер. Так! Так-так... Што?! Калі? Ахвяры ёсць? Што-о? А дзе ж вы былі? Карнікаў паслалі? Дык чаго ж вы седзіцё, чорт вас пабяры?! Зараз жа выслаць, балван! Што-о? Не разважаць! *(Грозна і мнагазначна.)* Гаворыць маёр Келлер! Праз паўгадзіны далажыце! *(Келлер кладзе трубку, знішчальна глядзіць на Штраўбе.)* На перагоне 15-ты раз'езд — Лясная дзве гадзіны таму назад пад адхон сышоў вайсковы эшалон, ёсць ахвяры. Дзе вашы вочы?!

Штраўбе. Дык гэта ж не на маёй тэрыторыі. Гэта якраз на граніцы з суседнім.

Келлер *(іранічна)*. Мілае апраўданне! Супакоілі. *(Рэзка.)* Вас павінна хваляваць усякая падобная падзея на тэрыторыі ўсёй Расіі, і вы павінны рабіць вывады, што падобныя выпадкі — гэта вынік вашай бяззубасці!.. Дакладвайце далей аб мерах.

Штраўбе. Мы ўзялі на ўлік усіх актывістаў і служачых савецкіх устаноў, і нашы агенты сочаць за іх дзейнасцю. Мной распаўсюджаны строгі загад аб пакаранні аж да расстрэлу за парушэнне правіл, устаноўленых нашымі ваеннымі ўладамі.

Келлер *(раздражнёна)*. Пан Штраўбе! Вас сюды

паставілі гувернёрам, выхавальнікам, нянькай ці пакарацелем, выканаўцам прамых дырэктыў? Вы чыталі «Майн кампф»? Вы чыталі загад Герынга? Нарэшце, вы ведаеце, за што вядзе вайну Германія?

Ш т р а ў б е. Так точна, ведаю!

К е л л е р. Тым горш. Значыць, вы свядома не выконваеце праграмных палажэнняў нацыянал-сацыялістаў. Трэба памятаць — Германія хоча сусветнага панавання. Яна можа і павінна гэтага дасягнуць. Шлях да сусветнага панавання ляжыць праз Расію. Каб дасягнуць гэтай мэты, трэба змяншаць колькасць сваіх ворагаў, трэба знішчаць славян, трэба за-бі-ваць! Кожнага рускага, украінца, беларуса, паляка... Аб гэтым павінен памятаць кожны германскі салдат і тым больш вы! Сентыментальнасць патрэбна адкінуць прэч. А вы займаецеся выхаваннем. Вы зразумелі свой недахоп?

Ш т р а ў б е. Пан Келлер, я не абмяжоўваюся, як вы называеце, выхаваўчымі мерамі. Мы расстрэльвалі амаль кожнага бадзягу пад відам ваеннапалонных, павешана тры партызаны і шэсць іх пасобнікаў. Палова сямей камуністаў выслана ў канцлагеры. Расстраляна 8 чалавек, якіх падазравалі ў пасобніцтве партызанам.

К е л л е р. Так... добра... Але гэта недастаткова. Трэба падобныя меры праводзіць масавым парадкам, нават цэлымі вёскамі, каб не заставаліся родзічы, якія безумоўна будуць настроены да нас крайне варожа. Прадаўжайце.

Ш т р а ў б е. Нядаўна ў нашым раёне з'явіўся невялікі партызанскі атрад.

К е л л е р. Вы дакладна не ведаеце, колькі чалавек ён налічвае?

Ш т р а ў б е. Дакладна ўстанавіць пакуль што не паспелі, але па звестках у гэтай бандзе да сотні чалавек.

К е л л е р. Ого! А вы не спрабавалі заслаць свайго агента ў гэту банду?

Ш т р а ў б е. Гэта не так лёгка зрабіць. Вельмі цяжка знайсці чалавека, на якога можна было б спадзявацца. Але не так даўно я падшукаў адпаведнага чалавека. Ён зараз тут, чакае ў прыёмнай.

К е л л е р. Што ён з сябе ўяўляе?

Ш т р а ў б е. Былы кулак, у калгасе працаваў садоўнікам. Гарбун, урод, прагны. Сам напрасіўся. Прозвішча — Слівяшын.

К е л л е р. Урод, кажаце? Яны заўсёды злыя ў гэтай справе. А ў насельніцтва давер'ем карыстаецца?

Ш т р а ў б е. О-о! Ён майстра сваёй справы.

К е л л е р. Калі так, выбар нядрэнны. *(Закурвае.)* Банда партызан, кажаце, з'явілася нядаўна?

Ш т р а ў б е. Але.

К е л л е р. Трэба неадкладна заслаць агента і ў бліжэйшы час знішчыць яе. Знішчыць у самым зародку, бо пасля не абярэмся клопатаў. Дзейнасць іх вельмі заразлівая. Да таго ж, гэта неабходна зрабіць зараз жа, бо ў хуткім часе прадстаяць важныя перавозкі па чыгунцы і, калі мы не здолеем іх знішчыць, шмат у чым будзем рызыкаваць, нават асабіста вы і я. *(Паўза.)* Да-а... цяжкавата прыйдзецца нам у Расіі...

Ш т р а ў б е. Але пасля гэтых цяжкасцей мы — гаспадары свету. Я думаю, што партызаны хутка кончацца. Гэтаму будуць спрыяць, па-першае, нашы жорсткія меры, а па-другое, чым паспяховей нашы справы на фронце, тым меншая падзея ў партызан, кожны зразумее бессэнсоўнасць супраціўлення.

К е л л е р. Не спяшайцеся рабіць вывады. Не забывайце, што гэта не захад, гэта — Расія.

Ш т р а ў б е. Так, але...

К е л л е р. Так, і справу маеце з рускім народам і бальшавікамі. Я рускага добра ведаю, вельмі добра... Упарты і непакорны... Ён яшчэ доўга будзе ваўком глядзець на нас... І наша задача, задача камендантаў Штраўбе і... Келлераў угамаваць, забрытаць яго, зрабіць яго паслухмяным, як сабака свайму гаспадару. Мы абавязаны гэтага дасягнуць, хаця б нам прыйшлося пераступіць праз мільёны трупаў. І спачатку нам нялёгка прыйдзецца.

Ш т р а ў б е. Нічога, як-небудзь ды справімся.

К е л л е р. Справімся? Так, мы справімся пры ўмове, што хутка вызваліцца ад фронту армія і франтавікі возьмуцца наводзіць тут парадкі, пры ўмове, што ў бліжэйшы час мы кан-ч-чат-кова знішчым Чырвоную Армію! Поўнасцю знішчым яе! А інакш не, не так хутка мы справімся. Пры дапамозе паліцаяў не скора справімся. Трэба прызнаць — партызаны куды лепей ваююць. Дзе там! Ніякага параўнання. Паліцаі — гэта ж шкурнікі і трусы. Вы думаеце, яны да нас на службу пайшлі таму, што наша ідэя — іх ідэя, або таму, што яны нам сімпатызуюць занадта? Не-е! Далёка не так. Яны бачаць, што мы сіла і мы сёння ім выгадней. Вы паглядзіце — колькі іх к вам прыйшло? Глупства! Дробязь! Вось гэта мяне і палохае — нават такіх мала.

Штраўбе. А як вы думаеце, ці скора мы пакончым з Чырвонай Арміяй? Калі мы развяжам рукі, каб тут наводзіць парадкі?

Келлер. Калі пакончым з Чырвонай Арміяй? Хутка, лейтэнант, вельмі хутка, вы і не падазраеце, як хутка. *(Абодва падыходзяць да карты.)* Нам летась не ўдалося ўзяць Маскву. Але глядзі, што робіцца сёлета. Які поспех! Нябачаны прарыў. Заўваж, гэты поспех не леташні. Ён грунтуецца не на нечаканасці. У гэтым годзе мы маем справу ўжо з ваюючай арміяй. Не нечаканасць, неспадзяванасць, а сіла, розум!

Штраўбе. Але ў мінулым годзе мы наступалі на ўсіх франтах, а сёлета на адным участку...

Келлер. Нам і непатрэбна наступаць па ўсяму фронту. Глядзі, як мы будзем браць Маскву. *(Паказвае на карце.)* Яшчэ тыдзень, два, і Баку ў нашых руках. Разумееш — Баку! Гэта значыць,— Каўказ адрэзаны. Праз некалькі дзён мы на Волзе. Ты бачыш, Масква ўжо страціла ўсё, што яе карміла,— Украіну, Данбас, Кубань — багацейшыя прамысловыя цэнтры. Зараз траціць Каўказ, Баку. Нафта — гэта кроў у гэтай вайне. Масква траціць Сталінград — ключ канца гэтай вайне. У яе застаецца яшчэ Урал. Але ў тым жа і геніяльнасць нашага плана. Мы фарсіруем ля Царыцына Волгу, рухаемся на поўнач, адр-р-разаем Урал ад Масквы! Такім чынам мы рэжам апошнюю артэрыю, якая забяспечвае савецкія арміі. Мы будзем браць Маскву з усходу. У Сібіры нам ваяваць непатрэбна. Возьмем Маскву — мы возьмем Расію.

Штраўбе. Але як скора гэта будзе?

Келлер. Як скора? Вось яшчэ некалькі дзён, і мы ў Царыцыне, потым паварот на Поўнач, пару тыдняў, ад сілы месяц, і мы за Масквой — і Расія ля нашых ног! Разумець трэба, лейтэнант, у які час жывеш. Гэта ж паварот сусветнай гісторыі! Хіба можна параўнаць Напалеона з фюрэрам? Ён здаецца бездапаможным дзіцянём перад фюрэрам. *(Патэтычна.)* Адольф Гітлер!! Гэта ж волат думкі!! *(Абодва з утрапеннем глядзяць на партрэт.)*

Штраўбе. Да-а... пан маёр...

Келлер. Кожны немец павінен імкнуцца быць вартым гэтага вялікага часу, жыць у пачатку вялікай эпохі... Паклічце сюды агента.

Штраўбе адкрывае дзверы і кіўком галавы дазваляе некаму ўвайсці. Уваходзіць агент Слівяшын.

Ш т р а ў б е. Вось і той самы агент Сліяшын, пра якога я вам дакладваў, пан гаўптман.

С л і в я ш ы н *(кланяючыся)*. Здравія жадаю, вашаства! Здравія жадаю!

Ш т р а ў б е *(знаёміць)*. Пан гаўптман, па-вашаму маёр фон Келлер — шэф гестапа.

С л і в я ш ы н. Вельмі прыемна, вельмі прыемна...

Сліяшын падыходзіць і працягвае руку, але Келлер адну руку засунуў у кішэню, а другой паказвае, куды садзіцца.

С л і в я ш ы н. Вельмі рад...

К е л л е р. Прывет, прывет, пан Сліяшын. Чуў пра вас, хваляць за шчырасць... Будзем мець на ўвазе.

С л і в я ш ы н. Дзякую-с... рад старацца-с... Ды што вы... Я-с... нічога-с... як загадаеце-с... вашаства.

К е л л е р. Сядайце. А што гэта такое «вашаства»?

Сліяшын нясмела садзіцца на ўскраек крэсла амаль пасярод пакоя; яго шустрыя вочкі абшарылі кабінет і з чаканнем упіліся ў Келлера.

С л і в я ш ы н. Іэтак раней гаварылі на паважаных асоб.

К е л л е р. Пры бальшавіках, здаецца, так звяртацца было не ў модзе?

С л і в я ш ы н. Сапраўды, сапраўды, вашаства.

К е л л е р. Значыць, вы яшчэ добра памятаеце старыну?

С л і в я ш ы н. Ды і як жа яе забыць, добрую старую часінку, грэх забыць.

К е л л е р. Так-так... Ну, расказвайце, як жыццё?

С л і в я ш ы н *(хутка прыўстаў)*. Дзякую вам... вельмі добра... лепей, чым пры саветах.

К е л л е р. Нічога, нічога, сядзіце. Ну, а што новага маеце сказаць?

С л і в я ш ы н *(садзіцца)*. Я б вам пра ўсё на паперачку, ды не паспеў перапісаць, пан...

Ш т р а ў б е *(падказвае)*. Пан гаўптман.

С л і в я ш ы н. ...Пан гаўптман.

Ш т р а ў б е. У вас, здаецца, запісная кніжка ёсць, дык вы па ёй раскажыце.

С л і в я ш ы н *(дастае запісную кніжку)*. Магу-с... Вось, пан камендант прасілі мяне...

К е л л е р. Мабыць, загадваў?

С л і в я ш ы н. Так-так, загадвалі, каб я прыглядаў за некаторымі сямейкамі... вось хоць бы і за Кулічовымі. Вы

ведаеце, пан маёр, што гэта за сямейка? Самыя заўзятыя камуністы. Дык вось у Кулічыхі быў сын — Віктар Кулічоў. Хвала богу, яго тут няма, а то такі партызан быў бы, што о-о-о! Бывала, калі хто крыху лепей жыў, дык ён праходу не даваў. «Ты, кажа, чужой працай карыстаўся, батракоў трымаў, ты, кажа, эксплуататар, міраед, вампір», а які я вампір, калі я...

Келлер *(перабівае)*. Вы бліжэй да справы. Дык што вы заўважылі за яго сям'ёй?

Слівяшын. Віктар-та на фронт пайшоў, жонка з вывадкам уцякла, выехала *(таямніча)*, а вось дачка яго, Таня, кажуць, тут засталася; бачылі, кажуць, у партызанах. Старая Кулічыха таксама тут, і яна перадае ўсё партызанам. Вельмі часта да яе прыязджаюць мужыкі нейкія, быццам бы на базар, а на самай справе, пэўна, лазутчыкі партызанскія.

Келлер. Так-так... добра... Цікава, а якія ў вас узаемаадносіны з гэтай старой?

Слівяшын. Якія могуць быць узаемаадносіны ў мяне з ёй? Што вы, пан маёр, божа збаў.

Келлер. Значыць, дрэнныя?

Слівяшын. Гэта ж ворагі, ворагі спрадвечныя.

Келлер. Та-ак... няўдала... Ці ведаеце вы, для чаго мы вас паклікалі?

Слівяшын. Не яшчэ, пан гаўптман.

Келлер. Вам прадстаіць значная справа... *(Пытліва глядзіць на Слівяшына.)* Цікава, як вы гледзіцё на будучае?

Слівяшын. Як загадаеце зразумець?

Келлер. Як зразумець? А вось як: вы далі згоду працаваць на нас... душой і целам быць адданым нам... верна служыць нам, як гаспадару... *(хацеў сказаць «яго верны пёс»)* як гаспадару. А верна служыць нам, гэта значыць,— весці непрымірымую барацьбу з савецкімі людзьмі... рускімі..., якія настроены супроць нас. Я спадзяюся, што вы гэта разумееце?

Слівяшын. Як жа-с... разумеем...

Келлер. Дык вось, мяне цікавіць пытанне: чаму вы пайшлі на гэта? На што вы разлічваеце ў будучым? Чаго вы жадаеце дабіцца?

Слівяшын *(уздыхнуўшы)*. Чаму?

Келлер. Так, чаму? Толькі ад душы, гэта вам не пашкодзіць.

Слівяшын. А навошта мне хлусіць?.. Я скажу...

Пры бальшавіках, пры саветах былі калгасы... косткай у горле яны мне сталі! Скажыце, у калгасе быў я гаспадаром, сапраўдным гаспадаром? Не! А да калгасаў я быў гаспадаром. Ды яшчэ якім гаспадаром! Уся ваколіца зайздросціла... Хоць бы ўзяць такую штуку. Трэба мне куды паехаць, дык у калгасе не свой конь, трэба прасіць, кланяцца. А раней я меў іх сем і куды захацеў, туды паехаў, ніхто мне не ўказ. Сам сабе гаспадар: хачу прадам, хачу аддам... абпаіў, закульгаў — ні перад кім не адказваю — мая справа... Сам пасеяў, сам пажаў, абмалаціў і зноў — сам гаспадар, калі пажадаў — узяў, захацеў — прадаў, не чакаў размеркавання.

Ды галоўнае тое, што раней — то мне і працаваць не трэба было,— усё людзі рабілі. Толькі пагляддвай, каб не кралі... І ўсяго ў мяне поўна было... Толькі гаспадарскае вока май. А зараз камуністаў няма, калгасы разагналі... Самы час гаспадаром стаць. Зямлі-та у-у колькі! Зямля гаспадара кліча. А сад які!.. Ды калі б мне яго... І ўсё ў вашых руках: і людзі, і зямля; вы даруеце, вы і караеце... А я зноў хачу быць гаспадаром! Вось чаму я да вас пайшоў. І пайду, пайду на ўсё, а свайго даб'юся, а гаспадаром стану! *(Апусціўшы вочы.)* На споведзі гэтага не сказаў бы, а вам сказаў.

Келлер. Так-та-ак... Ты разважыў правільна. Мы сюды прыйшлі гаспадарыць. Мы караем, мы і даруем. Ты сказаў, што хочаш стаць гаспадаром?..

Слівяшын. Вось іменна.

Келлер. Гэта дарма не даецца, трэба заслужыць.

Слівяшын. Я і стараюся.

Келлер. Дык вось, мы паклікалі вас сюды, каб даць вам адно адказнае заданне. Выканаеце — атрымаеце ўсё. Атрымаеце зямлю, людзей, якія будуць апрацоўваць вам яе... сад. Вы будзеце гаспадаром, панам Слівяшыным, а не якімсьці калгасным садоўнікам. Апрача таго, да вас будуць зусім іншыя адносіны нашых улад, а гэта немалаважна.

Слівяшын. Я гатоў... слухаю-с.

Келлер. Нам вядома, што ў вашых лясах з'явіліся партызаны-бандыты. Дык вось, вы павінны дапамагчы нам вылавіць іх, знішчыць. Гэта небяспечныя ворагі і нашы, і вашы.

Слівяшын. Выкурым іх, выкурым!..

Келлер. А для таго, каб гэта зрабіць адным махам і як мага хутчэй, патрэбна мець сярод іх свайго чалавека.

Ш т р а ў б е. Каб сачыць за імі, знайсці і паведаміць у зручны момант для таго, каб іх накрыць.

С л і в я ш ы н. Разумею... разумею... А калі яны даведаюцца?

К е л л е р. Не даведаюцца. Трэба рабіць так, каб не ведалі. Пастарайцеся зблізіцца, падружыцца з гэтай старой або другімі пасобнікамі, увайдзіце ў давер'е, забярыцеся ў атрад, а там ужо справа наша. Ну, дык згодны? Не так ужо гэта і цяжка, як вам здаецца. Я не патрабую адказу зараз, вы падумайце... але *(шматзначна)* памятайце — вы жадаеце стаць гаспадаром, а гэта магчыма толькі так.

С л і в я ш ы н *(павольна)*. Д-добра... й-я-а... згодзен.

К е л л е р. Ну вось і ўсё. Аб астатнім дамовімся заўтра. *(Заўважыў запісную кніжку.)* А вось запісную кніжку пры такой справе трымаць пры сабе нельга. Гэту пакіньце тут і наперад прывыкайце без яе.

К е л л е р і С л і в я ш ы н выходзяць.

Ш т р а ў б е. Цопке!

Ц о п к е паказваецца ў дзвярах.

Ц о п к е. Слухаю, пан камендант!

Ш т р а ў б е. Вячэра гатова?

Ц о п к е. Вядома гатова, пан камендант.

Ш т р а ў б е. Малайчына! Зараз ідзём. Усё.

Ц о п к е пры выхадзе сутыкаецца з К е л л е р а м.

К е л л е р. Лепшай кандыдатуры і жадаць не трэба.

Ш т р а ў б е. Я сяк-так у людзях, пан маёр, кемлю. Гэты гарбун гатоў родную маці за грош прадаць.

К е л л е р. Сярод рускіх такіх цяжка знайсці. *(Паўза.)* У гэтай Расіі, чорт бы яе забраў, з якімі толькі людзьмі не спаткаешся. Вы, лейтэнант, пад Брэстам былі ў сорак першым?

Ш т р а ў б е. Як жа, я тады быў ад'ютантам нябожчыка генерала Крэйнца.

К е л л е р. Вы памятаеце апошніх абаронцаў Брэсцкай крэпасці? Можна было здзіўляцца іх стойкасці. Амаль усіх перабілі, р-р-раздавілі, але не зламалі... Да апошняга патрона... Некалькі чалавек усё ж узялі ў палон. Ні сярод раненых, ні сярод палонных ні афіцэраў, ні камісараў не знайшлі. «Загінулі»,— кажуць. Палкоўнік — мой начальнік, не верыў. «Пераапрануліся»,— кажа. Прывялі

двух на допыт. Адмаўляюць: «Няма». Жыццё абяцаў, расстрэлам пагражаў — не дапамагло. Палкоўнік не сцярпеў і ўдарыў аднаго п-па мордзе. Дык другі кінуўся на палкоўніка і ўчапіўся зубамі ў горла яму... Ледзь адарвалі. Збілі, зрэзалі на кавалкі, а не сказалі, ш-шэльмы...

Ш т р а ў б е. А палкоўнік?

К е л л е р. Памёр... пасля... гангрэна. *(Паўза.)*

Ш т р а ў б е. Да-а... Цяжкі народ... Але нічога, гэты дапаможа.

К е л л е р. Хто?

Ш т р а ў б е. Ды гэты гарбун.

К е л л е р. А-а! Старт далі, паглядзім, які будзе фініш.

Ш т р а ў б е. Можа, пойдзем адпачнём, павячэраем, пан гаўптман?

К е л л е р. Бадай што можна.

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Зямлянка камандзіра партызанскага атрада. Нары, невялікі стол, на якім стаіць ліхтар «лятучая мыш». Пасярод зямлянкі жалезная печка.

У зямлянцы к а м а н д з і р атрада, к а м і с а р, н а ч а л ь н і к ш т а б а і С а л а ў ё ў. У апошняга ў руках гармонь.

Н а ч а л ь н і к ш т а б а. Разведка паведамляе, што немцы ўзмацняюць чыгуначныя гарнізоны і патрульныя пікеты на лініі, пасылаючы частку салдат і паліцаяў з сельскіх гарнізонаў і з варты шасейных мастоў.

К а м а н д з і р. Значыць, старая праўду сказала, што немцы збіраюцца, рыхтуюцца да важных перавозак па чыгунцы?

Н а ч а л ь н і к ш т а б а. Выходзіць так.

К а м і с а р. Цікава, рух аўтатранспарта па шасейных дарогах не зменшыўся?

Н а ч а л ь н і к ш т а б а. Наадварот. Колькасць аўтамашын, якія ідуць на ўсход, з кожным днём павялічваецца.

К а м і с а р. Значыць, па чыгунцы перавозкі вельмі важныя.

К а м а н д з і р. Я думаю. Недарма ж яны прымаюць

такія меры. Ну што ж, яны рыхтуюцца, і мы таксама не будзем у шапку спаць. Трэба ўсю сваю ўвагу пераключыць на чыгунку.

Камісар. Безумоўна.

Начальнік штаба. А мне здаецца, не зусім так, не літаральна. У мяне зарадзіўся такі планік... Як вы думаеце, таварыш камандзір?

Камандзір. Ну-ну, давай.

Начальнік штаба. Немцы зараз амаль агалілі шашу. А што, калі мы цяпер рванём шасейныя масты? Ды к таму ж важнейшыя... Ахова малая... Мы гэтым дасягаем дзвюх мэт: рвём масты і ўскладняем рух аўтатранспарту — раз і, па-другое — гэтым мы адцягваем частку сіл ад чыгункі. І вось тады вайна рэйкам. А?

Камандзір. Варта падумаць... Бадай што верна. Лоўка! Далібог, верна, а, камісар?

Камісар. Н-да-а... здаецца, трэба згадзіцца. Рана ці позна, а шашу таксама трывожыць трэба. Ну, а зараз зручна, ды і пакуль што па чыгунцы немцы не распачалі... Правільна.

Камандзір. Ну і начштаба ў нас! Яму б дзе-небудзь у штабе фронту.

Начальнік штаба. Швейцарам.

Камандзір. Ну-ну! Ты не збівай мне цану. Якніяк, ты ў мяне начштабам. І я таксама пуп не пуп, а на купіну падобен. На роўным месцы спатыкнуцца можна. *(Смяюцца.)*

Камісар. Дык, кажаш, прыехаў нейкі з гестапа спецыяльна па падрыхтоўцы аховы чыгункі?

Начальнік штаба. Але, маёр Келлер.

Камандзір. Ну што ж, яны рыхтуюцца, падрыхтуемся і мы. Ты, Васіль Міхайлавіч, распрацуй падрабязней план аперацыі на шашу, а я з Віктарам Іванавічам возьмем на сябе жалезку. Ясна?

Начальнік штаба. Ёсць!

Уваходзіць Слівяшын. Ён прыносіць вячэру.

Слівяшын. Калі ласка частавацца, таварыш камандзір. Смачненькае, цёпленькае, толькі з жару.

Камандзір. Рыхтуйся, Антон, каб правесці ўдала гэткую аперацыю, разведцы трэба многа папрацаваць.

Антон. За разведчыкамі справа не пастаіць.

Слівяшын. А што за аперацыя мае быць, таварыш камандзір?

Камандзір. Пакуль што рана ведаць. Прыйдзе час — даведаешся. Ну дык што, перакусім, хлопцы? Сядай і ты, Антон, калі хочаш.

Антон. Нічога не зробіш... калі запрашаюць, адмаўляцца непрыстойна.

Камандзір. Віктар Іванавіч, можа, па маленькай... а?

Камісар. І калі ўжо я цябе адвучу ад гэтага?

Камандзір. Я тут ні пры чым: жонка, брат, вінавата — яна прывучыла. Калі на шаўковай працаваў, яна заўсёды к сняданню чарачку, перад абедам чарачку, ну, а на вячэру само сабой. Разумеецца — нанач, каб весялей было і ёй і мне.

Слівяшын. Ну, а зараз наша справа такая — партызанская, пакуль жывы — пі на здароўе. Як той казаў — пі пакуль тут, на тым свеце не дадуць.

Камісар. Шкодная пагаворка. Калі б так партызаны рабілі, то да гэтага часу ўжо ні аднаго б не было. *(Камандзір налівае па чарцы, п'юць і закусваюць.)*

Антон. А ўсё-такі нямецкі шнапс не дрэнны. *(Паўза.)*

Слівяшын. І калі гэта мы на адным месцы спынімся? Надакучыла ўжо вандраваць. 2—3 дні пастаім і зноў на новае месца. Горш цыган.

Камандзір. Нічога не зробіш... Абстаноўка прымушае. Калі б немцы дзейнічалі па прынцыпу — ляжачага не біць, не можна было б на адным месцы жыць.

Слівяшын. Э-э, па іх можна месяцамі жыць, і яны ведаць не будуць.

Камісар. Дарэмна вы так разважаеце. Паспрабуй пажыві тыдзень-другі, і карнікі тут як тут.

Слівяшын. Ды ну-у!..

Начальнік штаба. Ні да, ні ну. Камандзір ведае, што робіць.

Камісар. І кожны партызан павінен гэта ведаць.

Слівяшын. Яно, канешне... хіба я што супраць? Я ж разумею... Я толькі кажу, што нязручна.

Камандзір. На вайне не да гэтага. Раз ваяваць, значыць, трэба мірыцца з усялякімі ўмовамі.

Слівяшын. Правільна, таварыш камандзір. Калі ваяваць, дык ваяваць. *(Паўза.)* У мяне вось просьба да вас, таварыш камандзір.

Камандзір. Ну-ну, слухаю.

Слівяшын. Я ж таксама ваяваць прыйшоў, а на-

вошта мяне прывязалі да кухні? Прымусілі мяне кашаварыць, дровы калоць, ваду вазіць. А мне якраз немцам галовы калоць.

Камісар. Але ты ж быў задаволены, калі цябе прызначалі туды? Здаецца, так?

Слівяшын. Так-то яно так, але я думаў, што калінікалі можна будзе і схадзіць куды-небудзь.

Камісар. А куды табе хадзіць?

Слівяшын. Ну на аперацыю ці ў разведку. *(Горача.)* Залічыце мяне ў разведку.

Антон. Цябе?.. У разведку?..

Камісар. Пачакай трохі. Яшчэ паспееш, надакучыць нават. На кухні дапамагаць — тая ж баявая работа і не менш важная.

Слівяшын. Э-э, што калі яна ні розуму, ні сэрцу.

Камандзір. Нічога, прывыкаць трэба... Так што з просьбай нічога не будзе.

Слівяшын. Ну, што ж, на тое вы і камандзір наш, вам відней.

Слівяшын выходзіць.

Камісар. Не падабаецца мне гэты суб'ект. Выгоддзя ўсё шукае. Тое яму не так, гэта яму не падабаецца, быццам для кагосьці служыць.

Камандзір. Гэта табе так здаецца. Асабліва калі да чалавека адчуваеш антыпатыю, то заўсёды за ім заўважаеш кучу недахопаў.

Камісар. Не, брат, я яго даўно ведаю.

Камандзір. Але трэба памятаць галоўнае — ён таксама прыйшоў з той жа мэтай, што і мы, значыць, асабістым антыпатыям месца не павінна быць. Праўда, ён не так верна ацэньвае абстаноўку, дык трэба ж рабіць скідку на яго мала245развітасць.

Камісар. Дзякую, перакапаў.

Камандзір. Вось так! Верна, Антон?

Антон. Не згодзен я. За тое, што ён зажадаў перавесціся ў разведку, я б яго прымусіў вожыка жыўём праглынуць. Ён думае, што разведчыкам можа быць кожная курыца.

Камандзір. Не фанабэрся, Антон. Сабе цану набаўляеш, а гэта непрыгожа.

Антон. Я не фанабэруся, але і ён няхай не ў свае сані не садзіцца... Разведчык...

Антон бярэ гармонік і ціха наігрывае песню «Там вдали, за рекой...».

Пры паўтарэнні куплета камандзір паціху падпявае; затым да яго далучацца начальнік штаба, а ўслед і камісар.

У час спеваў у зямлянку ўваходзіць Таня, якая таксама ўключаецца ў хор.

Усе спяваюць.

Там вдали, за рекой загорались огни,
в небе ясном заря догорала.
Сотня юных бойцов из буденновских войск
на разведку в поля ускакала.

Они ехали молча в ночной тишине
по широкой украинской степи;
вдруг вблизи, у реки засверкали штыки —
это белогвардейские цепи.

И бесстрашно отряд наскочил на врага,
завязалась кровавая битва;
вдруг боец молодой, он поник головой,
сердце молодца пулей пробито.

Он упал на траву между ног у коня
и закрыл свои карие очи.
«Ты, конек вороной, передай, дорогой,
что я честно погиб за рабочих».

Антон павольна заканчвае песню на гармоніку.

Камандзір. Эх, і люблю ж я песню... Перад вайной у нас такі калектыў інжынераў падабраўся — цудоўныя хлопцы!.. Моладзь, толькі што з інстытутаў, яшчэ са студэнцкімі замашкамі, жэняцца, весяляцца. Бывала, у выхадны дзень збярэмся мы, і — на Дняпро... і давай песні... А то пасядаем на лодкі і ўніз па цячэнню.

Камандзір спявае:

Плыви, мой челн, по воле волн,
Куда тебя влечет судьба...

Камандзір. Хораша!.. Вясёлы народ, студэнты...

Камісар. Да-а... Залатая пара — студэнцкія годы. Быў і я калісьці студэнтам... Хоць трохі, але пакаштаваў. Памятаю, тады ў нас у модзе была песенька «От зари до зари». Па суседству з намі жыў свяшчэннік айцец Гаўрыла, дык мы яму, бывала, часта пад вокнамі спявалі, а ён страх як не любіў.

Антон. Віктар Іванавіч, праспявайце-ка нам.

Камісар. Э-э, не магу ўжо, не тыя годы.

Таня. Можа, можа, ды не хоча.

Камандзір. Не скромнічай, Віктар Іванавіч, давай-ка, а мы паможам, як зможам.

Камісар запявае, а астатнія нясмела ўключаюцца ў хор.

От зари и до зари, лишь зажгутся фонари,
Вереницею студенты тут шатаются...

Вера, чудная моя, Вера, чудная моя,
Ах, Вера, чудная моя,— все шатаются!

И всю ночь напролет они песенки поют
И рассвету-свету улыбаются.

Вера, чудная моя, Вера, чудная моя,
Ах, Вера, чудная моя,— улыбаются!..

Усе апладзіруюць.
Крыкі: — Брава!..
— Цікава!..
— Ого-го!..

Антон. А дзе вы вучыліся, Віктар Іванавіч? Што скончылі?

Камісар. Не ўдалася мне скончыць. Рэвалюцыя... Чырвоная гвардыя... і давучваўся на франтах грамадзянскай вайны. Мне прыйшлося вучыцца зусім не ў тых умовах, як нашай моладзі... і то прыемна ўспомніць.

Начальнік штаба. А як сталі жыць перад вайной — люба-міла. Пі, еш, чаго жадаеш. Кіно, тэатры, школы, інстытуты — вучыся, колькі ўлезе. А колькі новых заводаў, фабрык? Выбірай любую спецыяльнасць, працуй толькі. Курорты, санаторыі, экскурсіі — усё для цябе, калі ласка! Не верыцца, што так жылі.

Камандзір *(як бы прадаўжае)*. І раптам усё гэта немец хоча адабраць. Ну ўсё, усё! І школу, і завод, і... песню нават... Маю шоўкавую фабрыку ўжо знішчыў, гад печаны. Не-е! Дурыш, сукін сын, не выйдзе! Той, хто выпіў тую чашу, не так лёгка паддаецца табе. Мы з табой, немец, ворагі насмерць. У грамадзянскую не так прыходзілася, і то выстаялі. Выстаім і цяпер. Дарма, што ты да Сталінграда дапёр. Выстаім, хлопцы?

Камісар. Пра такія рэчы не пытаюць.

Камандзір. Успомнілі добрае, а зараз давайце за справу. Ты, Віктар Іванавіч, ідзі к хлопцам, пагамані, а Антон што-небудзь сыграе. А мы з Васілём Міхайлавічам пойдзем падумаем над аперацыяй, каб немцы на сваёй шкуры адчувалі, што мы яшчэ жывыя, што «ёсць яшчэ порах у парахаўніцах», як той Тарас казаў.

Усе разыходзяцца, затрымліваюцца толькі Антон і Таня.

Таня. Ох і будзе нам, як дазнаецца бацька.

Антон. А ты думаеш, што ён нічога не ведае?

Т а н я. А што, ведае?

А н т о н. Зразумела, ведае. Сёння сустрэў мяне і кажа: «Глядзі, Антон, буду лаяцца». Я пытаю: «За што, Віктар Іванавіч?» Кажа: «Бачу, бачу, што ты цэлішся да мяне ў зяці». Я і ахнуў. «Глядзі, кажа, пакуль з немцамі не кончым, аб гэтым думаць рана...» і пайшоў.

Т а н я. Ну, а ты?

А н т о н. А я што? Астаўся, вушы развесіўшы.

Т а н я. Ой! А як мне цяпер быць?

А н т о н. А табе ён яшчэ нічога не казаў?

Т а н я. Не.

А н т о н. Вось аб гэтым я табе і хацеў сказаць. Але, ціха: ідзе храбры разведчык, што пасля кожнага стрэлу штаны мяняе!

Уваходзіць С л і в я ш ы н і збірае на стале посуд.

А н т о н. Эй, ты, бравы афіцыянт! Што, у разведку захацеў? Каб я больш аб гэтым не чуў! Ясна? Ты ведаеш, што такое разведка? Дык я табе зараз растлумачу. Чытаў я адну разумную кніжку, дык у ёй напісана: у Індыі ёсць такая птушка — татвалі завецца. Дык яна, калі няма чаго есці, косці глытае, але перш чым праглынуць, яна пад хвост прымервае, на выпадак, калі страўнік не пераварыць, то каб магла выйсці назад. Дык вось і табе трэба так рабіць, як гэта птушка. Ты ведаеш, што такое разведка? Ды калі цябе звадзіць на адну сапраўдную, то назад лысым прыйдзеш і з парокам сэрца.

С л і в я ш ы н. Я таксама табе скажу. Я таксама бачыў кніжку. Не ведаю, разумная яна ці не, не чытаў, але назва разумная — «Смяецца той, хто смяецца апошнім».

А н т о н. Я і першым смяюся і апошнім буду. А пра разведку забудзь. Памятай!

А н т о н і Т а н я выходзяць.

С л і в я ш ы н. Пачакай яшчэ, галубок, пабачым, хто лепшы разведчык. Аб гэтым я цябе спытаю, калі табе на шыю будуць пятлю надзяваць.

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Партызанскі лагер у лесе. Злева шалаш. Пасярод сцэны прымітыўны столік на козлах. Некалькі пнёў. На сцэне камісар атрада і трое партызан.

1-шы партызан. Ну і рызыковы хлопец наш Антон! Сярод белага дня ў самае зяўло нямецкае палез.

2-гі партызан. На тое ён і партызанскі разведчык. У разведцы, брат, заўсёды самыя адважныя, самыя рызыковыя.

Камісар. Каб быць такім смелым, як ён, трэба ўмець гэтак жа ненавідзець немцаў, як ён іх ненавідзіць. Ён ужо пакаштаваў пачым фунт ліха ў немцаў. Два месяцы пабыць у лагеры ваеннапалонных — не жарты. Два месяцы праваляцца раненым за калючым дротам у гразі, пад дажджом, харчавацца дохлай канінай, бачыць, як штодня паміраюць сотні людзей, ляжаць сярод трупаў і чакаць, што не сёння-заўтра прыйдзе і твая чарга — усё гэта будзеш доўга памятаць. Гэта, брат, вялікая школа нянавісці.

1-шы партызан. У якім гэта ён лагеры быў?

Камісар. На Украіне дзесьці. Ды гэта ў іх хоць у якім лагеры. У іх адзін парадак па ўсёй Еўропе.

2-гі партызан. Падумаць толькі, што яны, гады, робяць з нашымі людзьмі, жудасна становіцца.

3-ці партызан. За апошні тыдзень пяць партызанскіх сям'яў спалілі.

2-гі партызан. А вёску Рыскоў таксама спалілі з людзьмі. Колькі там засталося? Дзяцей і тых у агонь пакідалі.

3-ці партызан. Я гэтага ўжо не лічу. Я толькі пра сем'і партызан нашага атрада.

Камісар. Як гэта не лічу? Усё падлічым. За ўсё яны адкажуць... у дзесяцікратным размеры. Усе гэтыя Келлеры і Штраўбе ўласнымі галовамі расплоцяцца. Мы ў даўгу не астанемся. Усе нашы баявыя аперацыі — гэта ўжо расплата. За апошні месяц толькі наш атрад падняў у паветра восем шашэйных мастоў, а яшчэ спалілі трыццаць аўтамашын, пусцілі пад адкос адзінаццаць эшалонаў — гэта значыць тысячы чатыры немцаў адкамандзіравалі на той свет. І гэта яшчэ не ўсё. Усё яшчэ наперадзе.

З'яўляецца Слівяшын.

1-шы партызан. Антон пакляўся з Келлерам асабіста разлічыцца.

2-гі партызан. І ён гэта зробіць.

3-ці партызан. Незайздроснае становішча Келлера.

1-шы партызан. Але як жа так немцы натыкаюцца якраз на сем'і партызанаў нашага атрада?

2-гі партызан. Нейкая шэльма выдала. Няўжо да нас пралез хто-небудзь? Як вы мяркуеце, таварыш камісар?

1-шы партызан. Эх, дазнаўся б я, хто гэта шэльма...

Камісар. Нічога, прыйдзе час — дазнаемся. Над гэтым ужо думаюць людзі. Будзьце ўпэўнены — праведаюць.

1-шы партызан. Ёсць жа яшчэ падлюкі, якія не вераць, што наша возьме, вось і перамахнулі да немца.

Камісар. Мала таго, што не вераць. У тых людзей душа ў гразі, мазгі абкураны ядавітым дымам. Яны не тое што не вераць, а не хочуць верыць. Яны хочуць якраз адваротнага.

2-гі партызан. Што ж яны сабе думаюць? Гэта ж сляпым трэба быць, каб не бачыць, што немцу тут не быць, калі ўвесь народ узварухнуўся, як тыя пчолы з патрывожанага вулля. Кожная стараецца ўджаліць. Выганім жа злодзея, няпраўда, хоць і вунь куды запёрся.

3-ці партызан. Нялёгкая гэта справа, але, як ты кажаш, калі ўсе возьмуцца, то хутка назад патурым.

1-шы партызан. Вось каб Англія ды Амерыка ўзяліся ды падмаглі, весялей бы справа пайшла.

Слівяшын. Э-э, браток, ты іх не чапай. На іх і спадзявацца нечага. Яны любяць чужымі рукамі жар заграбаць. Прывыклі яйкі ачышчанымі глытаць.

2-гі партызан. Глядзі, каб замест яек ды не праглынулі... чаго другога.

3-ці партызан. Дай бог. А пакуль што Англія і Амерыка дапамагаюць, як у той байцы: наняліся двое работнікаў дровы калоць. Адзін коле, а другі хакае — памагае.

2-гі партызан. Дык і атрымалі ж яны — адзін грошы, а другі — грашовы звон.

1-шы партызан. Э-э, ды што гаварыць. Англію дзякуй за дагавор, а сам закасай рукавы ды лупі немца, вось тады твая праўда будзе.

Камісар. Правільна, правільна. Калі справа датычыцца немца — праўда ў моцным кулаку.

3-ці партызан. Таварыш камісар, а як там на фронце? Ад Сталінграда не паперлі нашы немца?

Сліввяшын. На фронце, як заўсёды. *(Насміхаючыся.)* Пакідаюць гарады і займаюць раней падрыхтаваныя пазіцыі.

Камісар. Так, таварышы, вайна не без таго. Немец меў, ды пакуль што і зараз мае некаторыя перавагі, але з гэтага не трэба рабіць няправільныя вывады, не трэба быць скептыкамі. Барацьба яшчэ наперадзе. Нельга лічыць наша становішча ахаўскім. Успомніце 18-ты год.

Сліввяшын. Э-э, то быў зусім другі час, а зараз... *(тужліва)* што дзень,то горшаюць нашы справы.

2-гі партызан. Пачакай, пачакай... Яшчэ не тое... Вось ты мне скажы, хто мацнейшы, ты ці Іван? *(Паказвае на 3-га партызана.)*

Сліввяшын. Ну, вядома, Іван.

2-гі партызан. А, дапусцім, гэты Іван стаіць і спадзяецца, што ў цябе няма каменя за пазухай, а ты аказаўся шэльмай і знянацку, ззаду напаў на яго. Хто спярша будзе перамагаць? Зразумела, ты. Але ж гэта не значыць, што ты ўжо перамог. Ён жа ўсё-такі вывернецца і ўжо так табе ўправіць мазгі, што твой кацялок трэсне.

Камісар. Хоць грубавата, але правільна. У 18-м годзе людзі змагаліся за новае жыццё, і не кожны яскрава ўяўляў сабе, што гэта за новае жыццё, а зараз кожны ведае, што такое свая ўлада, савецкая, што такое добрае жыццё, і таму б'юцца ўдвая злей за гэта жыццё. Ды і нельга раўняць Расію 18-га года і Расію цяперашнюю. Немца ўжо спынілі, хоць і наступае ён, але не прасоўваецца — значыць, ужо выдыхаецца. Сталінград не здалі і не здадуць. Ніколі не здадуць нашы Сталінград. А немец намнога слабей стаў. І памятайце, што сказаў таварыш Сталін: хутка немцы пераканаюцца ў нашай сіле. А Сталін на вецер слоў не кідае.

3-ці партызан. Можна спадзявацца. Хто-хто, а ён слова сваё стрымае, недарма Сталіным завецца.

Уваходзіць камандзір.

Камандзір. Давайце на абед, хлопцы, абед гатоў. Віктар Іванавіч, я думаю, што і нам не лішне перакусіць. Сліввяшын, прынясіце нам сюды абед.

**Усе выходзяць, апрача камандзіра і камісара.**

Здаецца, усё падрыхтавана, прадугледжана. Як думаеш, камісар, справімся сёння з мастом?

Камісар. Камандзір не павінен задаваць такія пытанні. Ён вядзе за сабой людзей, і ў яго ўпэўненасці павінна быць больш, чым у каго другога, тады поспех забяспечаны.

Камандзір. Пераканаў, дзякую. Табе б толькі ў ваеннай акадэміі генералаў навучаць. *(Смяюцца.)*

Камісар. Значыць, ты павінен лічыць за гонар, калі я цябе навучаю.

Камандзір *(глядзіць на гадзіннік)*. Цікава, што прынясе Антон з разведкі. Калі перамен ніякіх не будзе, эх і часанём сёння фрыцаў. Нядрэнны сюрпрыз паднясем Келлеру.

Камісар. Вось пагляджу я на цябе, Павел Мікалаевіч, і думаю: ты гэтак зжыўся з баявой абстаноўкай, што здаецца, і ніякі ты не інжынер, а проста салдат, быццам ты ўсё жыццё толькі і ведаў, што ваяваў, партызаніў. А мо ты сапраўды парашыў перакваліфікавацца і пасля вайны падацца ў армію?

Камандзір. Што ты, што ты?! Бог з табой! Гэта табе толькі здаецца, а мо хто па злосці нагаварыў. Прафесію я сабе выбраў адну і на ўсё жыццё. А не гавару пра яе цяпер таму, што лічу гэта простай балбатнёй, пакуль немцы тут. Вось выганім іх, закончым вайну, абавязкова пайду толькі на сваю шоўкавую фабрыку. Ты сабе не ўяўляеш, што за цікавая штука наша фабрыка... Толькі туды... Ты не ведаеш, Віктар, якое ў мяне зло на немцаў і асабліва за сваю фабрыку. Толькі за яе адну я б усіх іх перастраляў. Такую махіну адбудавалі! Гэтулькі працы затрацілі, колькі непакоіліся, турбаваліся, трывожыліся, начэй не спалі, пакуль у ход пусцілі, а яны адным махам яе ў паветра. А? Гэта не гады? Ты ведаеш, я плакаў тады, як трохгадовы хлапчук... *(Паўза.)* Пакуль немцы тут, мая справа — справа салдацкая. І ведаеш, у мяне нейкае дзіўнае ўяўленне аб гэтай вайне. Быццам бы гэта не вайна, а барацьба са стыхійным няшчасцем, страшным стыхійным няшчасцем, ну нейк накшталт навадненне ці ў гэтым родзе... што ўсё гэта пройдзе, толькі трэба прыкласці максімум намаганняў, каб выратаваць краіну. Трэба больш знішчаць немцаў, як мага больш, каб хутчэй зменшыць сілу нападу гэтай бруды, заліваючай зямлю... І выходзіць — ваюю я, каб не даць затапіць сваю зямлю і самому не затапіцца... значыць, гэ-

та мая асабістая неабходнасць... не вайна, а барацьба за жыццё...

Камісар. Цікава. Зусім нейк не па-ваеннаму, а нават паэтычна, але правільна. У тым-та і сіла наша, што інтарэсы дзяржавы ў цэлым выражаюцца асабістымі інтарэсамі кожнага чалавека паасобку. *(Паўза.)* Чаму ж гэта Тані маёй няма яшчэ? Сёння ж яна павінна была вярнуцца.

Камандзір. Ці мала якая затрымка магла выйсці. Прыйдзе.

З'яўляецца радыст з навушнікамі на галаве.

Радыст *(радасна)*. Таварыш камандзір! Таварыш камандзір! Па радыё перадаюць загад Сталіна. Пад Сталінградам немцам капут! Б'юць! Б'юць нашы! Эх і б'юць! Нашы перайшлі ў наступленне, немцы ў паніцы бягуць... Хадзіце самі паслухайце, зараз будуць яшчэ перадаваць. Хутчэй толькі. Эх і кашу натварылі!

Камісар. Няўжо?! Нарэшце-та!

Камандзір. Паспяшым, Віктар Іванавіч.

Камандзір і камісар выходзяць.
Некаторы час сцэна пустая.
Уваходзіць Слівяшын. Ён прынёс камандзіру і камісару абед і паставіў на стол.

Слівяшын *(задуменна разважае)*. Што рабіць?.. Як быць?.. Калі не паведаміць аб гэтай аперацыі, то ад Келлера нічога добрага не чакай. Не, брат, мала таго, ён самога тады павесіць... і прападуць мае патугі... *(Рашуча.)* Трэба паведаміць, інакш іх не вылавіш. Яны ж ніколі на месцы не сядзяць: сёння тут, а заўтра там... Злаві іх... І ўсё рвуць, усё рвуць... Пячонку яны ў мяне рвуць... Келлер за гэта душу з мяне выматае. Скажа — чаму своечасова не паведаміў?! А д'ябал іх ведае. *(Паўза.)* Не, сёння ж данясу! Трэба паведаміць, бо і для мяне тут ёсць рызыка... Ды і чаго я буду рызыкаваць? Не дай бог, выявіцца, што я... Калі гэта шэльма, камісар, узяўся, то заставацца тут небяспека. Трэба ўцякаць, пакуль не позна... Эге, ледзь не забыў... Калі ігра падыходзіць да канца — бі апошнім козырам. *(Вымае з кішэні парашок і сыпле ў ежу.)* Увесь ці шмат будзе? *(Дастае лыжкай ежу, нюхае, спрабуе на язык, сплёўвае.)* Нічога не чуваць. *(Высыпае ўвесь парашок.)* Ну, дарагія, паглядзім, які від вы будзеце мець заўтра... Гэткай дозай можна двух вярблюдаў атруціць, не тое, што... Ну, дай бог ногі!..

Уваходзяць двое партызан. Падпіўшыя.

1-шы партызан. Чаго бурчыш пад нос, чалавек з рэстарана ці, прабач, галоўны кухонны вадавоз?

Сліваш ын *(спачатку спужаўся, але потым адчувае сябе спакойна)*. Як жа не бурчэць? Прынёс абед камандзіру, прастыў зусім, а іх няма. Непакойся цяпер. Эх, вайна гэта, душу яна з мяне выматала. Калі б не вайна гэта, пакарпаўся б дзянёк у садзе, сонца на заход,— сам дадому... папіў чайку і адпачывай сабе спакойна...а то лазіш, бадзяешся па лясах, балотах, губіш здароўе...

2-гі партызан. А хто ж цябе прасіў сюды? Сядзеў бы дома, папіваў чаёк і адпачываў спакойна, трымаючыся за бабіну пазуху. *(Смяюцца.)*

Слівяшын. Смяешся ўсё? Жартуеш?

2-гі партызан. Ніколькі.

Слівяшын. Як жа дома сядзець, калі кругом такая каніцель? Усе з немцам ваююць, а я дома сядзець? Ды і немец сядзець спакойна не дае.

1-шы партызан. Ну дык і бурчэць нечага. Калі ўзяўся за гуж, не кажы, што не дуж.

Слівяшын. Ат, што з табой...

Слівяшын выходзіць.

2-гі партызан. Бач ты яго, далікатная натура... Не падабаецца яму па лясах і балотах...

1-шы партызан *(мацае кацялок з ядой)*. Во бестыя гарбатая, прынёс камандзіру абед зусім халодны, паставіў і пайшоў. Я б яму за гэта сутак пяць губы.

2-гі партызан. А мы можам справу паправіць.

1-шы партызан. Ну?

2-гі партызан. Дзе твая рэшта?

1-шы партызан. Тут.

2-гі партызан. Даставай.

1-шы партызан вымае з кішэні флягу з самагонам.

2-гі партызан *(спявае)*. Дык налівай сусед суседу!
Сусед твой любіць піць віно-о!..
...Вып'ем і закусім! А камандзіру свежае варыва прынясем...

1-шы партызан. І то праўда. *(Налівае, п'юць, закусваюць.)*

2-гі партызан. А-ах! *(Крэкнуў.)* До-обрая!

1-шы партызан. Мая цешча майстра гнаць.

2-гі партызан. Язык ледзь не праглынуў. Ану-ка яшчэ па адзінай. Малайчына твая цешча. *(П'юць.)*

1-шы партызан. О-о, золата!.. ПерАслала і кажа: «Восень ужо, холадна, каб сагрэцца... па маленькай».

2-гі партызан. ...па адзінай. *(Вымае са сваёй кішэні бутэльку.)* А мяне жонка таксама не забывае. *(Налівае. Партызаны п'юць. Другі партызан спявае «Налей пауней бакалы...»)*

Уваходзіць Камандзір.

Камандзір. Гэта што такое?!

2-гі партызан. Вінават, таварыш камандзір, мы з'елі ваш абед, ён зусім прастыў, мы зараз свежы прынясем...

Камандзір *(паказвае на самагон)*. Я пытаю — што гэта такое?!

2-гі партызан. Вінават, таварыш камандзір, гэта жонка і цешча прыслалі...

1-шы партызан. ...ну і мы па маленькай...

2-гі партызан. ... па адзінай...

Камандзір. Па двое... сутак арышту! Ідзіце і далажыце начальніку каравула! Ясна? *(Паказвае на самагон.)* А гэта — выліць!

2-гі партызан *(умольна)*. Таварыш камандзір...

Камандзір. Вам ясна?!

2-гі партызан *(з жалем вылівае самагон)*. Ёсць, таварыш камандзір!

Партызаны выходзяць.
За сцэнай чуваць гоман.
Уваходзіць Камісар, за ім — партызаны. Яны ўзрушаны пачутай па радыё весткай.
Знекуль з'яўляецца гарманіст. Наігрывае частушку.
Камандзір і Камісар убаку аб нечым раяцца.
Адзін з партызан запявае прыпеўку, складзеную на хаду:

Гітлер Паульсу сказаў:
«Забяры-ка Сталінград!»
Мы ж яго ад Сталінграда
працягнулі голым задам...
па камнях!..

Хорам:
Голым задам па камнях!..
Ты не суйся, немец, к нам,
Бо дамо мы па мардам!..
Я це дам!

Гітлер ў Берліне сядзеў,
зырка на Усход глядзеў.
На Усходзе пыл клубом —
там Паульс бегае кругом...
вакол катла!..

Хорам:

Фрыц бяжыць,
пуза дрыжыць,
ад яго дужа смярдзіць...
Ф-фу! Смярдзіць.

2-гі партызан. Увага, таварышы! Я толькі што яшчэ адну навіну падслухаў па радыё.

Галасы: Што такое?

— Цікава, цікава!

— Чаго цягнеш, як мёртвага цялёнка за хвост?

— Давай гавары!

Партызан. Я падслухаў малітву Гітлера ў сувязі з падзеямі пад Сталінградам, перадаю даслоўна:

Ох! госпадзі.
Святому угодніку Мікалаю
сваю малітву пасылаю
і вельмі жадаю,
каб з-пад Сталінграда
майго войска стада
вывеў з акружэння
і пазбаў крушэння
ты мой план бліцкрыга,
каб я больш не рыгаў.

Зжалься ты над імі,
немцамі маімі,
беднымі маімі,
ах, беднымі маімі.
Каб не разбілі,
не акружылі,
не паланілі,
не захапілі,
каб воўкам не вылі.

Ад страху,
ад жаху,
ад перапалоху
дам водачкі троху.

Дык тады Міколік,
мілы мой саколік,
свечачку, як колік,
за труды пастаўлю
і цябе услаўлю.

Памажы,
зберажы,
перашкодзь акружыць
і не дай ім зрабіць
з трыццаці трох дывізій блін.
Амін.

Смех, апладысменты, воклічы: «Ну і дзівак!»
«Малайчына!»
«Лоўка ён яго!»

Камісар. Дарагія сябры! Мы толькі што пачулі па радыё вялікую радасную вестку. Немцы не толькі спынены, але і пакаціліся назад. Чырвоная Армія з поспехам наступае. Сябры! Каб не застацца ў даўгу перад героямі Сталінграда, мы павінны сённяшнюю аперацыю правесці так, як гэта робяць нашы воіны пад Сталінградам. У адказ на гераічнае наступленне пад Сталінградам знішчым дашчэнту нямецкія гарнізоны. Гэта будзе наш падарунак фронту.

Крыкі: Ура!

Наперад!

За Сталіна!

Смерць нямецкім захопнікам!..

Камандзір. Камандзірам падраздзяленняў пастроіць атрад па баявой трывозе!

Каманды: «Трэцяя рота — ў ружжо!»
«Першы ўзвод — строіцца!»
«Чацвёртае аддзяленне — да аружжа!»
Усе хутка разыходзяцца.

Камісар. Колькі бадзёрасці, колькі сілы ўліла гэта перамога, а?! Ды з гэтым народам зараз можна чорту галаву адкруціць!

Камандзір. І адкруцім!..

Уваходзіць партызан.

Партызан. Таварыш камісар, гэтыя, каторых пасадзілі пад арышт, ну, двое п'яных, крычаць вельмі. Проста на сцены дзяруцца ад крыку.

Камандзір. Што яны, ачумелі ці, можа, двух сутак мала?

Партызан. Не, таварыш камандзір, яны кажуць, што атручаны. Яны ўжо зусім не п'яныя. У кожнага з рота пена ідзе.

Камісар. Што такое?! Урача выклікалі?

Партызан. Ёсць выклікаць урача!

Камісар. Схаджу пагляджу, што там такое.

Камісар і партызан выходзяць.

Камандзір. Не мела баба клопату — купіла парася. Эге! Здаецца, Антон ідзе...

Уваходзіць Антон.

Антон. Таварыш камандзір, ваша заданне выканана...

Камандзір. Пагадзі, не спяшы, сядай.

Антон. Таварыш камандзір, не магу сядзець. Разведка праведзена ўдала. У гарнізоне перамен няма. *(Усхвалявана.)* Таварыш камандзір, дзе гэтая шэльма? Дзе Сліяшын?

Камандзір. Што такое? У чым справа?

Антон. Ён — шэльма, гад, здраднік, шпіёнская морда!

Камандзір. Пачакай! Ты толкам кажы, што такое?

Антон. Бабка Кіліна, што працуе прыбіральшчыцай у каменданта, вось што знайшла — запісная кніжка Сліяшына, вось — данос. Во праз каго расстраляны і замучаны нашы сем'і. Ён выдаваў, падлюка.

Камандзір *(паглядзеўшы ў запісную)*. У-у-х, гадзюка! Гэй, днявальны, сюды! Ах, змяя падкалодная! Сваіх прадаваць?! Немцу служыць?! У мяне ў атрадзе?!

Уваходзіць днявальны.

Днявальны. Я вас слухаю, таварыш камандзір.

Камандзір. Неадкладна знайсці Сліяшына! Жывога ці мёртвага! Даставіць яго да мяне! Зараз жа! Перадаць сакрэтам — нікога з лагера не выпускаць!

Днявальны. Ёсць!

Днявальны выходзіць. Уваходзіць начальнік штаба.

Антон. Таварыш камандзір. Таня вярнулася з разведкі?

Камандзір. Не яшчэ. Чамусьці затрымліваецца.

Антон. Як жа так? Да гэтага часу?.. Можа... яе?.. Там я чуў, быццам нейкую дзяўчыну немцы затрымалі...

Камандзір. Не турбуйся, Антон, прыйдзе наша Таня. Можна спадзявацца, што яна не зявака.

Антон. Так-то яно так, але ведаеце, усё можа здарыцца. Яна ж яшчэ ўчора павінна была вярнуцца, а яна заўсёды была акуратнай.

Камандзір. Ці мала што можа затрымаць. *(Да начальніка штаба.)* Чуў? Аказваецца, Сліяшын быў падасланы гестапа...

Начальнік штаба. Няўжо?!.

Камандзір. Як бачыш. *(Дае запісную кніжку.)*

За сцэнай чуваць конскі тупат, крык «тпрру-у-у!».

З'яўляецца Л ё н ь к а.

Л ё н ь к а. Дзядзька, дзядзька! Дзе Віктар Іванавіч?

К а м а н д з і р. Што такое спешнае? Зараз ён прыйдзе.

Л ё н ь к а. Таню паліцаі схапілі... Павязалі...

А н т о н. Што-о? Таню? Якую Таню?!. Калі?!.

Антон схапіў хлопчыка і з нецярпеннем глядзіць яму ў вочы.

Л ё н ь к а. Ну, Таню... Віктара Іванавіча...

А н т о н. Калі?!. Дзе?!. Ну, хутчэй гавары!

Л ё н ь к а. Бабуля мяне паслала сюды... Яна сама бачыла. Кажа: «Яна немца забіла, і яе злавілі... Сёння ноччу...» Бабуля сама бачыла.

А н т о н. А дзе ж яна зараз?

Л ё н ь к а. Дома, вядома. Бабуля зараз дома.

А н т о н. Таня дзе?

Л ё н ь к а. Павязлі яе туды... У паліцыю ці гестапа...

А н т о н. Таварыш камандзір! Што ж мы стаім?!. Таварыш камандзір! Ратаваць жа трэба! А?

К а м а н д з і р. Пачакай, Антон. Не гарачыся. Пагадзі. Вось яшчэ бяда...

Н а ч а л ь н і к ш т а б а. Бедны бацька! Якое гора!..

Уваходзіць д н я в а л ь н ы.

Д н я в а л ь н ы. Таварыш камандзір! Сліяшына нідзе няма. Кухар кажа, што Сліяшын гадзіну таму назад паехаў кудысьці на кані. Верхам...

К а м а н д з і р. Ах, шэльма! Уцёк!.. Усе карты пераблытаў, гадзюка! Усё кулём...

Уваходзіць К а м і с а р. Лёнька парываецца да яго...

Л ё н ь к а. Віктар Іванавіч!

К а м а н д з і р *(стрымліваючы Лёньку)*. Цыц, Лёня!..

К а м і с а р. А як жа ты сюды забраўся, Лёнька? О-о, і заяц з'явіўся.

Л ё н ь к а *(па-піянерску салютуе)*. Прыехаў, Віктар Іванавіч!

К а м і с а р *(да камандзіра)*. Так, брат, гэтыя двое атручаны. Наўрад ці выратуе ўрач. Яны кажуць, што атруціліся абедам нашым.

К а м а н д з і р. Нашым абедам?

К а м і с а р. Так... што Сліяшын прыносіў.

Н а ч а л ь н і к ш т а б а. Ах, падлюка, што надумаў!

К а м а н д з і р. Усё ясна! Справа ў тым, Віктар Іванавіч, что Сліяшына да нас падаслала гестапа... і крыў-

дна тое, што ён ужо паспеў уцячы. Вось бачыш, апроч атручэння яшчэ адзін доказ, Антон прынёс *(перадае яму кніжку)*.

Паўза.

Камандзір. Віктар Іванавіч, у нас, браток, вялікае няшчасце... ты толькі не хвалюйся... бачыш ты... вось прыехаў хлопчык і... прывёз нядобрую...

Камісар *(нецярпліва)*. Ну, што ты цягнеш, я не разумею...

Лёнька. Віктар Іванавіч, вашу Таню схапілі паліцаі...

Камандзір. Так... вось... ён... *(Паказвае на Лёньку, быццам ён віноўнік усяго, што здарылася.)*

Камісар. Што ты кажаш? Як?.. Таню?! Маю Таню?!..

Антон. Віктар Іванавіч, таварыш камандзір, чаго ж мы стаім? Чаго ж мы чакаем? А?

Камісар. Гэтага быць не можа!.. Гэтага не можа быць!.. *(Выходзячы.)* Гэтага не можа быць!..

Камісар выходзіць.

Начальнік штаба. Гэта яго даканае. Адзіная дачка!.. Усё, што засталося ад сям'і...

Начальнік штаба выходзіць.

Антон. Таварыш камандзір! Ратаваць трэба! Заб'юць яе, замучаюць!

Камандзір. Я разумею тваю трывогу, Антон. Але ж трэба абдумаць усё гэта. Бачыш, у якім мы становішчы. Слівяшын ужо там. Ён жа ведае, што значыць яна ў нас у атрадзе. Яны могуць падрыхтавацца, значыць, не падумаўшы, лезці напралом нельга. Ведаеш пагаворку: паспяшыш — людзей насмяшыш? А тут калі паспяшыш — плакаць будзеш. Мы можам і людзей пагубіць і без толку. Зараз трэба спакойна, нетаропка абдумаць кожны ход. Ты разумееш мяне? Згодзен?

Антон. Я на ўсё згодзен, толькі трэба яе выратаваць.

Камандзір. Пачакай. Мы зараз з начальнікам штаба абмяркуем. Ты лепш ідзі адпачні. Усё будзе добра.

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Той жа пакой, што і ў першай дзеі — кабінет каменданта Штраўбе. На сцэне адзін К е л л е р; ён страшэнна злосны. Вечар.

К е л л е р. Ах, Штраўбе, Штраўбе! Як не шанцуе ў гэтай краіне! Кашмар! Кашмар! Гэта пекла. *(Паўза.)* Дзейнічаць! Трэба дзейнічаць!.. Запомняць яны смерць каменданта Штраўбе! Твае хаўтуры я зраблю знамянальнымі. Заўтра ты, пан Штраўбе, па дарозе на магільнік будзеш прымаць парад шыбенікаў. Я ім пакажу, што значыць забіць афіцэра германскай арміі! Вешаць! Паліць! Знішчаць! Зніш-ш-шчаць!..

З'яўляецца Ц о п к е.

Ц о п к е. Пан гаўптман! Там затрыманы стары чалавек.

К е л л е р. На шыбеніцу!

Ц о п к е выходзіць.

К е л л е р. Гэта ж правал! Паўнейшы правал! Я, кадравы афіцэр, не сумеў пакончыць з гэтымі бандытамі. З кожным днём яны становяцца больш дзёрзкімі. З кожным днём іх усё болей і болей. Растуць як грыбы! Яны ўжо да глоткі дабіраюцца... душаць, душаць! Гэта ж катастрофа!.. Катастрофа маёй кар'еры. Усё жыццё, усе старанні пайшлі прахам. Я не забяспечыў безаварыйнага руху цягнікоў. Штодня крушэнні. Я не выканаў загад. Ка-та-стро-фа! Горш!.. Але я сябе апраўдаю. Ніхто не пасмее мяне абвінаваціць у дабрадушных паводзінах. Я дакажу, што абыходзіўся з сваімі ворагамі, як падабае сапраўднаму немцу. За кожнае крушэнне — вёска, крушэнне — вёска. Агонь і жалеза вытравяць з іх бальшавіцкі дух!.. Яны хочуць сёння ўзарваць мост... *(Глядзіць на гадзіннік.)* Цопке! Дайце сюды гэтага, як яго... Слівяшына!..

Ц о п к е *(з дзвярэй)*. Ёсць!

К е л л е р *(звоніць па тэлефоне)*. Мюллер? На мост адправілі? Ужо? Засады расставілі? Так, як я загадаў? Добра. Цяпер едзьце самі туды і... Так! І падтрымлівайце сувязь са мной. Ясна? *(Кладзе трубку.)*

Уваходзіць С л і в я ш ы н.

С л і в я ш ы н. Рад служыць, пан гаўптман!

К е л л е р. Ты ўжо заслужыў таго, каб цябе павесіць. Хаця б за тое, што ты не папярэдзіў, што рыхтуецца за-

бойства Штраўбе. За тое, што быў сярод бандытаў, аднак мы іх не толькі не вылавілі, але мелі масу непрыемнасцей.

С л і в я ш ы н. Вінават-с... Ніяк не можна-с было...

К е л л е р. Маўчаць! Ты слухай, калі з табой гавораць. Май на ўвазе, калі няпраўда, што партызаны збіраюцца ўзарваць мост, заўтра ж ты будзеш сушыцца на шыбеніцы.

С л і в я ш ы н. Як можна-с? Абавязкова прыйдуць!

К е л л е р. А чаму не паведаміў, што рыхтуюцца забіць Штраўбе?

С л і в я ш ы н. Не ведаў, пан маёр, а то безумоўна данёс бы. Я вось толькі гэтага не ведаў, а галоўнае — яны хочуць мост чыгуначны праз Дняпро ўзарваць.

К е л л е р. Што-о? Галоўнае? А гэта не галоўнае? Што для яго можа быць важней жыцця? Балван! Жы-ы-цця-а! Для яго ўжо няма галоўнага! Галоўнае ён згубіў — загінуў. Што для мяне можа быць важней жыцця? Мне цяпер галоўнае — ж ы ц ь! Там нашы ўжо перамогуць. Можа, яшчэ там шмат хто загіне, а мне, мне зараз галоўнае — жыць! Сёння галоўнае — жыць, заўтра жыць. Вы-ы-жыць! А там я буду жыць, там я для вас недаступны, зразумела?

С л і в я ш ы н. Правільна, правільна, пан Келлер, але яны хочуць...

К е л л е р. Я ведаю, што яны хочуць... Я ведаю — яны хочуць і мяне гэтак жа, як Штраўбе і ўсіх нас... усіх. Я ведаю, яны хочуць па ўсёй Расіі нас *(жэстам паказвае «знішчыць», «змясці»)*... Але мы таксама з зубамі. Мы таксама сумеем *(паўтарае той жа жэст)*, і я ўпэўнены, што мы, мы гэта зробім!

С л і в я ш ы н. Разумеецца, разумеецца, мы іх выкарчуем.

К е л л е р. Цопке! Прывядзіце сюды забойцу. Мы затрымалі забойцу Штраўбе — гэта не з вашага атрада?

С л і в я ш ы н. Пабачым-с.

К е л л е р. Што за людзі? Што за псіхалогія? Што за фанатызм? Мы яе білі... бі-і-лі — маўчыць... ні слова... Гэта не жанчына, а д'ябал. Салдат гэтага не перанёс бы, што яна перанесла... Адкуль гэты фанатызм? Адкуль гэта ўпартасць?

С л і в я ш ы н. Бальшавікі, бальшавікі, пан гаўптман.

К е л л е р. А бальшавікі не людзі, што яны — жалезныя?

С л і в я ш ы н. Жалезныя не жалезныя, ды такімі ўпартымі параджаюцца...

К е л л е р. Не-е, я ўпартасць выб'ю з яе!

Ц о п к е прыводзіць Т а н ю. Таня змучана, вопратка на ёй парваная, ды дзяўчына трымаецца цвёрда. Кідае мімалётны збянтэжаны позірк у бок Сліяшына.

К е л л е р. Ну, што, бандытка, пазнаеш яго?

Т а н я. Не, я гэтага чалавека не ведаю.

К е л л е р *(Сліўяшыну)*. А вы?

С л і в я ш ы н. Як жа не ведаць? Ведаю, ведаю, пане гаўптман. Гэта ж дачка партызанскага камісара.

Т а н я *(з агідаю)*. Ах ты, вур-да-лак!

К е л л е р. Усё-ткі пазналі?

С л і в я ш ы н. Як жа не так? Вядома, і яна пазнала. Ай, Таня, Танюша, непрыгожа так. Як жа так не прызнаваць свайго партызана? А? Не прыгожа, зусім не гожа. Я ж не таюся?

Т а н я. Брэшаш, гадзюка! Я цябе не ведаю і ведаць не хачу.

С л і в я ш ы н. Супакойся, супакойся... Я затое цябе добра ведаю. Адважная разведчыца, дачка камісара... Так, так, пан Келлер, яна — дачка камісара.

К е л л е р *(здзіўлена)*. Вось яно як?

С л і в я ш ы н. Так, так! Дзе ж яна прызнаецца. Яна ж ведае, што вы камісараў не любіце. Баіцца.

Т а н я. Не з твайго дзесятка. Так, я — дачка камісара, я — партызанка, і я ганаруся гэтым! Не баюся прызнацца і не збіраюся ў вас прасіць літасці. Я ведаю — можа быць, праз гадзіну вы мяне расстраляеце, але я перад вамі не ў даўгу. Я ўжо адплаціла... І яшчэ вам за мяне адплоцяць! У сто разоў вы заплоціце сваімі паганымі шкурамі! *(Падыходзіць да Сліяшына.)* І табе, гад, не будзе месца на роднай зямлі, не будзе насіць яна гэткую погань! І праха твайго не застанецца! Груганы расцягнуць твае косці. І ўсім вам, душагубы, адзін канец — віселья. Усіх вас перадушаць, як паразітаў. Я ведаю — я загіну. Але такіх, як я, застануцца тысячы, мільёны. Яны дабяруцца да вас, яны закончаць маю справу. Я ўпэўнена! І нікольк і я не баюся ні вас, ні смерці. Усіх не перастраляеце!

К е л л е р. Так? Не, барышня, вы памыліліся. Будзьце спакойны, мы і не збіраемся вас расстрэльваць. Вы надта малодзенькая яшчэ, вы надта харошанькая, каб страляць *(падыходзіць да яе)*, вы вельмі прыгожанькая...

Т а н я *(плюе яму ў твар)*. Вось табе, паскуда!

К е л л е р *(выціраецца хустачкай)*. Успакойцеся... не хвалюйцеся... *(Адыходзіць.)* Вас прыстойней павесіць... Вельмі наглядная карцінка. А за некультурнасць *(загадвае салдату)* забраць! Дваццаць пяць шомпалаў!

С а л д а т выводзіць Т а н ю. Звоніць тэлефон.

К е л л е р *(па тэлефоне)*. Так... Я! Напалі? Многа? Ну як, справіцеся? Так... так... так-так... Добра. Я зараз пашлю ўзвод Адлера ім у тыл. Трымайцеся!.. Добра. Часцей звані... *(Кладзе трубку.)*

С л і в я ш ы н. Што? На мост? Партызаны?

К е л л е р. А вы што?.. Давольны? Рады?

С л і в я ш ы н. Не... Што вы... гэта я... вы думалі, быццам я ашукаў... дык вось... Я... не ашукаў... праўда.

К е л л е р *(звоніць па тэлефоне)*. Алё! Адлер? Бандыты напалі на ахову чыгуначнага моста. Мюллер там вядзе бой. Забярыце свой узвод і паспяшыце на дапамогу Мюллеру. Трэба зайсці з боку вёскі Добры Дуб з такім разлікам, каб аказацца ў тыле партызан. Калі Мюллер асноўнымі сіламі пойдзе ў контратаку, вы пастарайцеся закрыць выхад з разлікам поўнага акружэння і знішчэння. Ясна? Не затрымлівайцеся, выступайце зараз жа. Што?.. Можна ўзяць і паліцэйскіх. Так... Усё! *(Кладзе трубку.)* Мы ім падробім сёння лазню. *(Слівяшыну.)* Прынясіце мне шклянку кавы. Я ўжо чорт ведае калі еў.

С л і в я ш ы н. Калі ласка...

С л і в я ш ы н выходзіць.

К е л л е р. Пакуль што ідзе ўсё як трэба... Паглядзім, як будзе далей... Злавіць бы мне верхаводаў гэтай банды... Я б з імі па-га-ма-ніў. Пабачым, як яны сёння сумеюць... Усё з рук сыходзіла, пакуль яны карысталіся нечаканасцю. Сёння вы ў дурнях. *(Звоніць тэлефон.)* Так... Я... Што-о? Не смець! Не смець адыходзіць! Зараз жа перайсці ў контратаку! Адлер ударыць па іх з тылу. Што-о? Загадваю контратакаваць. *(На вуліцы чуваць страляніна.)* А што вы думаеце, іх дывізія? Няма ў мяне больш каго пасылаць. Апошніх з Адлерам адправіў. Так... Так, так... Контратакуйце! *(Страляніна ўзмацняецца і набліжаецца: бліжэй і бліжэй. Келлер кладзе трубку і прыслухоўваецца.)* Што за д'ябальшчына?!

За сцэнай раздаецца істэрычны крык Цопке:
— Парты-ы-ыза-а-аны-ы-ы!
На сцэну выбягае перапалоханы Ц о п к е.

Ц о п к е *(крычыць)*. Пан гаўптман! Пан гаўптман! Бандыты! Бандыты ўжо тут!.. Вось!..

З-за сцэны даносіцца тупат многіх ног.
Вылятае С л і в я ш ы н. Ён таксама збянтэжаны. У руках трымае шклянку, з якой выплёскваецца кава.

С л і в я ш ы н. Дык што гэта?.. Пан Келлер?!.

К е л л е р *(крычыць)*. Гад! Нягоднік! Падвёў!..

За сцэнай зноў узмацняецца тупат.

К е л л е р *(вымае з кабуры пісталет)*. Дзверы!..

У дзверы ўрываецца А н т о н. За ім — К а м і с а р, п а р т ы з а н ы. Келлер страляе з пісталета і раніць аднаго з партызан. Антон кідаецца да Келлера і абяззбройвае яго.
Цопке падхоплівае ўгору рукі, слупянее і шэпча, як папугай:

Ц о п к е. Гітлер капут! Гітлер капут!.. Гітлер капут!..

К а м і с а р *(заўважыўшы Слівяшына)*. А-а, і ты тут, каінава душа? У адным гняздзе, выродкі! Адна асіна па вас плача. Дзе Таня?! Таня дзе?! *(Камісар звяртаецца да Келлера, а Келлер маўчыць.)* Дзе Таня?!

С л і в я ш ы н. Я скажу... Там... Сядзіць... Жывая, таварыш камісар...

К а м і с а р. Тава-а-рыш? Юда ты! Змяя падкалодная табе таварыш! Вядзі, прыхвасцень, паказвай!

К а м і с а р і С л і в я ш ы н выходзяць.

А н т о н *(падыходзіць да Келлера, бярэ яго за грудзі)*. Вось калі нарэшце дабраўся я да цябе, паскуда! Вось калі падвядзём рахунак тваім справам, шыбенік! Што, шэльма, не чакаў? Не спадзяваўся? Напіўся чалавечай крыві, ваўкалак? Я ў цябе за ўсё спытаю. За ўсё! *(Звоніць тэлефон. Антон бярэ трубку. Слухае.)* Што брэшаш?.. Што пырскаеш?.. Прыпёрла?.. Туга?.. Зараз і да цябе дабяромся! Чакай! *(Кідае трубку.)* Да ўсіх дабяромся! Ачысцім нашу святую зямлю ад фашысцкай бруды! Выражам гэты гнайнік! Запомні, нацыст, за зуб — сківіцу выვернем! Кроўю заплаціце за кожную загубленую душу. Унукі і праўнукі вашы і праз дзвесце год будуць помніць, як нас, савецкіх людзей, чапаць! Запомняць яны нашу дабрыню і справядлівую помсту!

*Заслона.*

*1947 г.*

# ВЫЙГРЫШ

ДРАМА
У ЧАТЫРОХ ДЗЕЯХ

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Л і з а — маладая калгасніца, звеннявая.
Т а м а р а — яе сяброўка.
Н і ч ы п а р — яе бацька, брыгадзір.
А ў л а с — малады калгаснік.
А ў д о ц ц я — яго маці.
Ю р к а — камсамольскі сакратар.
Л е а н і д, С ц я п а н, К о с ц я — маладыя калгаснікі.
К у з ь м а — конюх.
П у з і к а ў — рахункавод.
Д з е д А р х і п.
К л а д а ў ш ч ы к.
К а л г а с н і к і, к а л г а с н і ц ы.

Дзея адбываецца ў пасляваеннай беларускай вёсцы.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Дзея адбываецца перад калгасным клубам. Пасярод сцэны відаць алейка, якая вядзе да клуба. Абапал алеі стаяць лаўкі, за імі кусты, кветкі. Прыкметны клапатлівы догляд дзявочых рук. Справа — дошка аб'яў. На ёй афіша:

«Сёння ў клубе вечар мастацкай самадзейнасці.
Вялікая праграма:
танцы, песні, частушкі на мясцовыя тэмы, акардэон, скетчы і мастацкае чытанне.
Пачатак у 9 гадзін вечара».

Злева — Дошка гонару з фатаграфіямі лепшых людзей калгаса.
Сярод іх — Леанід і Ліза.
Час дзеяння — вясна.
Вечарэе.
У канцы дзеі ў клубе і перад клубам загараецца электрычнасць.
На сцэне каля афішы Тамара і Ліза.
Уваходзіць Косця.

Косця. Правал! Поўны правал! Катастрофа!

Тамара. У чым справа? Што здарылася?

Косця. Аварыя! Сцяпан загінуў!

Ліза. Як загінуў?

Тамара. Дзе загінуў?

Косця. Ай-яй-яй-яй!.. Які правал! Столькі афіш расклеілі, вушы ўсім пратрубілі пра гэты вечар, і раптам такое няшчасце!..

Тамара. Ды кажы ты толкам, дзе Сцяпан? Як загінуў?

Косця. Загінуў, і ўсё. Бевіна распрагаў, а той яго як брыкануў, што быў Сцяпан — і няма Сцяпана. Подлая худобіна!

Ліза. А дзе ж ён цяпер?

Косця. Ды дзе яму быць? Стаіць, падла, на стайні.

Тамара. Сцяпан — дзе?

Косця. Дамоў пайшоў.

Т а м а р а. Цьфу ты, перапалохаў толькі!

Л і з а. Я думала, сапраўды што здарылася. А то — «загінуў».

К о с ц я. Вядомая справа, загінуў. Як баяніста яго на сённяшні дзень няма? Няма! І трэба ж так — акурат па руцэ. Усё к д'яблу зрываецца.

Т а м а р а. Чаму зрываецца? Што зрываецца?

К о с ц я. Як, што зрываецца? Афішы зрываюцца, вечар зрываецца! Усё кулём ляціць.

Уваходзяць Л е а н і д, Ю р к а.

Л е а н і д. Ну, дык што рабіць будзем? Сцяпан іграць не можа, відаць, пералом касці.

Паўза.

Т а м а р а. А можа, Аўласа папросім?

Л е а н і д. Аўласа?.. Не, гэта ўжо не прынцыпова. Калі байкот, то байкот. Нечага да абібокі на паклон хадзіць.

Т а м а р а. Дык жа вечар зрываецца.

К о с ц я. А можа, і праўда Аўласа. Толькі сёння, каб не сарваць вечар.

Ю р к а. Таварышы! Мы рашылі аднагалосна. Да гультая і абібокі на паклон не хадзіць, на кожным кроку ўшчуваць яго, пакуль не стане працаваць як след.

Л е а н і д. Каб зразумеў, што на яго і глядзець ніхто не хоча, не тое што гаварыць.

К о с ц я. Правільна, я згодзен, толькі вечар, вечар зрываецца. Можа, сёння перадышку зробім. А заўтра я першы пачну труціць яго. Чэснае слова.

Т а м а р а. Косця такі праўду кажа. Гэта ж не для яго мы просім, а для нас, для агульнай справы.

Паўза.

Ю р к а. А як ты, Ліза, думаеш?

Л і з а. Я што, вы самі рашайце.

Л е а н і д. Можа, сапраўды сёння скідку зробім, а, Юрка?

Ю р к а. Не хочацца мне...

К о с ц я. Мала што не хочацца, дык жа сарвецца вечар.

Т а м а р а. Ды яго яшчэ паспрабуй дапрасіцца.

К о с ц я. Ціха, вунь ён ідзе. Аўлас! Зайдзі на хвілінку, справа ёсць.

Уваходзіць А ў л а с.

А ў л а с. Да мяне справа? Цікава. То байкот, блакада, а то раптам справа.

Л е а н і д. Не вельмі ты нос задзірай. Калі б не бяда, то... *(Косця штурхае Леаніда пад бок.)*

А ў л а с. Чуў пра вашу бяду. Значыцца, з бяды выручаць Аўласа шукаеце?

К о с ц я. Справа не ў тым. Хочаш удзельнічаць у вечары?

А ў л а с. Не, асаблівай ахвоты не маю.

К о с ц я. Справа ў тым, што Сцяпан...

А ў л а с. Чуў пра Сцяпана, ведаю.

К о с ц я. Дык, можа, пайграеш нам?

А ў л а с. А што я з гэтага буду мець?

Л е а н і д. Бач ты яго?

Ю р к а. А што табе трэба?

К о с ц я. Ну ў кіно будзеш бясплатна хадзіць.

А ў л а с. Мне такіх падачак не трэба. Я не без грошай. Магу купіць білет.

Л е а н і д. Што ты ламаешся, калі цябе просяць?

К о с ц я. Нібы нявеста.

А ў л а с. Ці ж так просяць? Мая гармонь ласку любіць... Ласку з паперачкамі. *(Паціраe пальцамі.)*

Ю р к а. Чуў, кум, сонца, бачыў гром?

Т а м а р а. А калі цябе добра папросяць?

А ў л а с. Хто?

Л е а н і д. Ну хоць бы я.

А ў л а с. Ты? Ну калі ты, то прыйдзецца вам... чырвонцы па два дабавіць.

Ю р к а. Эх ты, скнара!

К о с ц я. Сумленне трэба мець.

А ў л а с. Пры чым тут скнара? Пры чым тут сумленне? Гэта толькі знак асобай павагі да яго, знак асаблівай сімпатыі. Для дарагога чалавека — дарагі і пачастунак.

К о с ц я. Дык ты на гэтым хочаш грошы зарабляць?

А ў л а с. Неяк жа трэба жыць.

Л е а н і д. Трэба ў калгасе працаваць. З плугам зарабляць.

А ў л а с. У кожнага свой густ. Ты з плугам, а я з гармонікам.

Ю р к а. Што вы з ім гаворыце? Ці ж яго дапросішся.

А ў л а с. Калі б хто другі папрасіў, дык не адмовіў бы. Ну, ды мне некалі. *(Выходзячы.)* А калі вельмі прыпячэ, то вы ведаеце, дзе мая хата.

Аўлас пайшоў.

Леанід. Ну і агіднае ж стварэнне!

Юрка. Што вы хочаце ад лайдака. Цэлымі днямі лынды б'е, нічога не робіць, распух са сну.

Леанід. А тут зарабіць хоча.

Тамара. Гэта ж ён ведаеце, чаго хацеў? Хацеў, каб Ліза яго папрасіла.

Ліза. Тамара!

Косця. І сапраўды, ён на яе паглядвае, нібы кот на сала.

Леанід. Шанцуе ёй на гарманістаў. І Сцёпка ад яе галаву згубіў.

Тамара. Абы яна на іх не глядзела.

Косця. Гэта — пакуль. Не знайшла яшчэ на кім выбар спыніць.

Ліза. Няма чаго вам зубаскаліць!

Леанід. Мы пра цябе нічога не гаворым. Гэта ж у Аўласа — вока бачыць ды зуб не йме.

Косця. Ну ды нічога, бокам вылезуць мудрыкі яго. Мы яму дапячэм. Я ўжо нарыхтаваў да вечара.

Юрка. Што, новую казку?

Косця. Не, частушкі. Пра музейную рэдкасць калгаса, усім вядомага Аўласа.

Па калгасу ходзе Аўлас —
Першакласны лавелас —
Днямі спіць ды лынды б'е,
Вечарамі водку п'е.

На вечары пачуеце. Эх, і добра было б, каб і сам падыгрываў. А вам трэба будзе так рагатаць, каб месяц яму ў вушах звінеў гэты смех.

Тамара. Смех-то смех, а вечар зрываецца.

Косця. Ліза! Усё-ткі прыйдзецца табе прасіць яго.

Ліза. І не думайце! Прасіць не стану.

Юрка. А калі мы табе даручым, абавяжам?

Ліза. Усё роўна нічога не будзе.

Косця. Не, Ліза, гэта нікуды не варта. Дзеля агульнай справы самалюбства трэба ў бачок.

Тамара. Падумаеш, ну што з табой станецца, калі ты скажаш яму пару слоў.

Ліза. Ай, Тамара, ты нічога не ведаеш.

Тамара. Усё я ведаю.

Юрка. Я таксама з Лізай згодзен, але каб не сарваць вечар, прыйдзецца адступіць.

Косця. Во-во! Трэба быць тонкімі дыпламатамі.

Л і з а. Добра! Так таму і быць. Кліч яго.

К о с ц я. Я мігам. На адной назе.

К о с ц я выбягае.

Т а м а р а. А ведаеце што, хлопцы, ці не дрэнна мы робім з Аўласам? На кожным кроку зневажаем яго...

Ю р к а. За тое, што ён лайдак?

Т а м а р а. Хай сабе лайдак. Але ж усё-ткі ён такса-ма чалавек. А мы яго адпіхнулі ад сябе.

Л е а н і д. Які ён чалавек? Я яго і не лічу за чала-века. Вось калі яго буду бачыць разам з сабою на полі, калі стане працаваць, тады і да людзей яго прыпішам. А пакуль што ён не чалавек, а жывёліна. Толькі без хваста.

Ю р к а. Ты ж чытала, «толькі праца зрабіла чалаве-ка чалавекам».

Т а м а р а. Ён жа адзічэе ў адзіноце, як воўк. Скора поўсцю абрасце.

Л е а н і д. Выць пачне.

Ю р к а. І хвост вырасце.

Т а м а р а. Вам смешна, а я сур'ёзна кажу.

Л е а н і д. Што ты загадаеш? Цалавацца з ім ці няньку да яго прыставіць?

Ю р к а. Хай зразумее, што добрага слова ад нас не пачуе, пакуль не стане працаваць, як чэсны калгаснік.

Т а м а р а. І ўсё-такі я з вамі не згодна. Ён жа як наровісты конь, адной пугай не падгоніш.

Ю р к а. А што ты прапануеш? Каля вачэй клок сена прывязаць?

Уваходзіць С ц я п а н з перавязанай рукой.

С ц я п а н. Каму гэта вы збіраецеся клок сена пры-вязваць?

Л е а н і д. Тамара прапануе Аўласу.

Т а м а р а. Ну, што ў цябе з рукой?

С ц я п а н. Як бачыш. Ляльку прыдбаў сабе. Тыдні са два прыйдзецца панасіцца.

Л і з а. Як жа ты так?..

С ц я п а н. Чорт яго ведае. Зусім неяк неспадзявана трахнуў д'ябал і якраз па кісці.

Л е а н і д. Ведаеш, за што ён цябе ўбрыкнуў? За тое, што Бевіным яго назваў.

Ю р к а. Каняка і пакрыўдзіўся.

Л і з а. У доктара быў?

Сцяпан. Сказала, што палому няма.

Ліза. Ну і вязе нашаму звяну. Самая гарачая пара пачынаецца, а ты... Паспрабуй цяпер спаборнічаць з ім. *(Паказвае на Леаніда.)*

Леанід. Не бядуй, мы дапаможам.

Ліза. Дзякую. Мы і самі як-небудзь справімся.

Леанід. Як хочаш. Я не навязваюся.

Юрка. Пайшлі, хлопцы, сцэну рыхтаваць. Ліза! Дык ты глядзі, мы на цябе спадзяемся.

Сцяпан, Юрка, Леанід заходзяць у клуб.

Ліза. Я згодна з табой, Тамара: Аўласа так не выправіш...

Тамара. Ну, вядома. Яны прывыклі з-за пляча сячы, а ён хлопец такі, што самога сябе любіць. *(Паўза.)* А ведаеш, Ліза, што я падумала? Чэснае слова, мы яго хутчэй на дарогу направім. Вярней сказаць, не мы, а ты магла б.

Ліза. Як гэта?

Тамара. Ты ж бачыш, што ён да цябе адносіцца неяк не так... Можа, нават і кахае.

Ліза. Ціпун табе на язык.

Тамара. Ну чаго ты.

Ліза. Трэба мне яго каханне, як табе мыліцы.

Тамара. Ты пачакай, не гарачыся. Ты паслухай перш. Мы яго каханне і павернем супроць яго. Ты выкарыстай яго адносіны да цябе. Пакажы, што ты таксама магла б пакахаць яго, каб ён толькі працаваць стаў, як добрыя людзі.

Ліза. Ды ты што, учадзела?

Тамара. Якая ты нездагадлівая. Ну жартам, жартам. А ён хай думае, што ўсур'ёз. Напрыклад, прапануй яму ў сваё звяно запісацца.

Ліза. А потым гора не абярэшся.

Тамара. А ты яму выпрабавальны тэрмін вызнач. Тыдні два. Ды пакамандуй ім, а там убачыш, на што ён варты.

Ліза. Хіба пакуль у Сцяпана рука зажыве?..

Тамара. Ну во. І я ўпэўнена, што ён у цябе малінавым стане. Ты толькі пастарайся яму так галаву закружыць, каб ён перад табой на дыбачках хадзіў.

Ліза смяецца.

Ліза. А гэта такі сапраўды дасціпна.

Т а м а р а. Астраумна гэта адно, а галоўнае — чалавека на дарогу выведзем.

Л і з а. А хлопцы падумаюць, што я сапраўды ўлялякалася.

Т а м а р а. Не бойся. Я ж ведаю, што ўсё гэта жартамі.

Л і з а. Дык гэта ты.

Т а м а р а. Я раскажу аб нашым плане Юрку, як сакратару камсамольскай арганізацыі. А для ўсіх астатніх пакуль што гэта будзе тайнай.

Л і з а. Ну, добра. Хай так і будзе. Толькі глядзі, каб ты потым мяне не падвяла.

Т а м а р а. Ну, што ты, смяешся? Ага, вунь ён ідзе. Глядзі ж!.. Не спасуй.

Л і з а. Добра, добра.

Уваходзяць К о с ц я і А ў л а с.

К о с ц я. Ну, брат, Ліза, цябе ён паважае, як нікога. Не паспеў сказаць, і ён гатоў — тут як тут.

А ў л а с. Ты мяне клікала, Ліза?

Л і з а. Клікала.

Т а м а р а. Пойдзем, Косця, дапаможам хлопцам сцэну ўпарадкаваць.

Т а м а р а, падміргнуўшы Лізе, выходзіць.

А ў л а с. Можаш загадваць, я слухаю.

Л і з а. Бач, які рыцар! *(Загадвае.)* Сёння будзеш іграць на вечары. Ідзі бяры свой акардэон.

А ў л а с. Згодзен толькі таму, што ты мяне просіш.

Л і з а. І не думала прасіць.

А ў л а с. Нават? Ну, усё роўна. Толькі дзеля цябе буду іграць.

Л і з а. Дзеля мяне можаш зусім не іграць.

А ў л а с. Ліза, чаму ты не хочаш зразумець мяне? Ты ж бачыш, ты ж ведаеш, што я... што ты... для мяне... А ты нават... быццам мяне зусім няма.

Л і з а. Перастань!

А ў л а с. Не перастану, не магу я...

Л і з а. Я ўсё бачу, я ўсё ведаю, а ты... ты. Нічога ты не ведаеш...

А ў л а с *(усхвалявана)*. А што, Ліза? А што? Скажы!

Л і з а. Тс-с! Маўчы! Нічога я табе больш не скажу! Ідзі, ідзі!

А ў л а с. Ліза, я прашу цябе, ну скажы!

Л і з а. Ідзі, ідзі ад мяне, ідзі зараз.

А ў л а с. Ну добра. Я зараз пайду. А вечарам мы пагамонім. Так? Добра? Вечарам мы сустрэнемся. Так? Ліза!

Л і з а. Мы з табой не сустрэнемся!

А ў л а с. Чаму, Ліза? Я прашу цябе!

Л і з а. Ну, слухай. *(Робіць выгляд, што хвалюецца.)*

А ў л а с. Я слухаю. *(Спрабуе ўзяць яе за руку.)*

Л і з а. Я табе сказала: слухай, а ты ўжо цапаць. *(Б'е яго па руках. Злосна, амаль шэптам.)* Мне сорамна з табой сустракацца.

А ў л а с *(разгублена, спалохана)*. Чаму, Ліза?

Л і з а *(сярдзіта)*. Таму, што ты адкалоўся ад людзей, таму што за табой такая слава ходзіць, што... мне непрыемна нават гаварыць табе. Чаму ты не працуеш? Чаму ты не такі, як другія хлопцы? Чаму ты не ў звяне? Як жа я магу з табой сустракацца? Мяне ж бацька з хаты выгане.

Аўлас маўчыць.

Што маўчыш? І гаварыць няма чаго?

А ў л а с *(даверліва, апусціўшы галаву)*. Правільна, Ліза. Спачатку я дрэнна рабіў, не хацеў... працаваць, а потым... а цяпер жа ніхто не хоча ў кампанію прыняць. Вось і застаўся адзін... і назло...

Л і з а. Каму назло?

А ў л а с. Усім назло... і сабе.

Л і з а. Ну і дурань! Пойдзеш да мяне ў звяно?

А ў л а с. Пайду!

Л і з а. Не проста пайду, а працаваць трэба, ды не абы-як.

А ў л а с. А што я, зломак які, ці што?

Л і з а. Ну глядзі! Каб з мяне не смяяліся! Два тыдні тэрмін даю, праверу.

Уваходзіць Н і ч ы п а р і, заўважыўшы дачку, спыніўся, прыслухоўваецца.

А ў л а с. Не бойся, не падвяду.

Л і з а. Мне баяцца нечага. Ну, ідзі.

А ў л а с. А вечарам?..

Л і з а. Добра, добра, ідзі...

А ў л а с пайшоў дадому.

Л і з а. Ну, я табе ўжо закручу!..

Н і ч ы п а р. Глядзі, каб сама не закруцілася.

Ліза спалохана агледзелася.

Ты што гэта закручваць яму надумала?

Л і з а. ...гайкі.

Н і ч ы п а р. Гайкі? *(Строга.)* Ты аб чым гутарыла з гэтым лайдаком? Якія ў цябе справы могуць быць з ім?

Л і з а *(адчуваючы сябе нялоўка)*. Гэта камсамольская арганізацыя рашыла, каб я яго ў сваё звяно ўзяла. Пакуль у Сцяпана рука зажыве.

Н і ч ы п а р. Што-о? Гэтага абібока? Ты што, захацела перад людзьмі асароміцца? З Аўласам думаеш Лёньку абагнаць? Ураджаю дабівацца?

Л і з а. Мы на вытрымку рашылі.

Н і ч ы п а р. Хто гэта рашыў? Паслухае ён вас. Калі мяне, брыгадзіра, і то прызнаваць не жадае, то цябе і подаўну.

Л і з а. А можа...

Н і ч ы п а р. Што, можа? Нічога не можа!

Л і з а. Усё-ткі арганізацыя...

Н і ч ы п а р. Ой, дзеўка, глядзі ты ў мяне! Калі што якое, то ў зубы табе не пагляджу! Дарма, што ты ў мяне адна дачка.

Л і з а *(апусціўшы галаву)*. Ну што вы, тата!..

Н і ч ы п а р. Глядзі-і, крый бог... то і дадому не прыходзь. Ну, ідзі, ідзі, арганіза-ацыя.

Л і з а пайшла ў клуб.

Н і ч ы п а р. У звяно-о!.. З такім рэкорды не заваюеш! Абібок! У яго ж да зямлі і рукі не ляжаць. А зямля, яна што баба... без ласкі не родзіць, а калі і родзіць, дык такое, што і самому агідна глядзець.

Уваходзіць А ў д о ц ц я.

А ў д о ц ц я. Ты з кім тут размаўляеш, Нічыпар Сяргеевіч?

Н і ч ы п а р. Ды вось, пра сына твайго...

А ў д о ц ц я. А што?

Н і ч ы п а р. Бачыш ты, захацелася яму да маёй Лізкі ў звяно.

А ў д о ц ц я. Ну і дай бог.

Н і ч ы п а р. Ну і... не дай бог. З такімі, як твой сын, кашы не зварыш.

А ў д о ц ц я. А што мой сын, у бога цялятка ўкраў?

Н і ч ы п а р. То-та што ўкраў. Выгадавала бугая, што ні ў плуг, ні ў калёсы. Хочаш крыўдзіся, хочаш не, толькі я табе ў вочы скажу — сама вінавата, змалку не прывучыла да работы.

А ў д о ц ц я *(уздыхнула)*. Ды ўжо ж. Напраўду грэх скрыўдзіцца. Вінавата, Нічыпарка, вінавата. І самой сорамна. Ды што ж ты хочаш, без бацькі гадаваўся і ўлады над сабой не чуў. А я што, баба і ёсць баба. Ды і адзін ён у мяне. Ну і шкадавала яго.

Н і ч ы п а р. Шкадавала... на сваю галаву. У мяне вунь таксама адна, але я не даваў ёй сваволіць. Затое цяпер і перад людзьмі не сорам.

А ў д о ц ц я. На тое ж ты і бацька. А я што,— удава. А ўдаве, як кажуць, і бяды дзве. Не слухае ён мяне.

Н і ч ы п а р. Папаўся б ён у мае рукі, я б яго хутка вышкаліў.

А ў д о ц ц я. Нічыпарка, вазьміся ты за яго, век дзякаваць буду.

Н і ч ы п а р. Позна надумалася. Бач, вырас бэйбус, дзе яму цяпер укажаш.

А ў д о ц ц я. Ды ўсё-ткі ты ж мужчына, ён цябе скарэй паслухае. А жаніць буду, табе першую чарку паднясу.

Н і ч ы п а р *(адкашліваецца)*. Справа не ў чарцы.

А ў д о ц ц я. Ды гэта ўжо к таму гаворыцца.

Н і ч ы п а р. Ну, ды паглядзім. Пайду, некалі мне.

Н і ч ы п а р пайшоў.

А ў д о ц ц я *(адна)*. Ну, няпраўда, з абодвума з вамі я саўладаю. Я цябе буду гнуць, а ты яго. Хоць бог бабе сілы не даў, затое хітрасцю не абдзяліў. А ўжо хахол калі завяжу, то завяжу. *(Крычыць.)* Тамара! Тамара, а, Тамара! Хадзі сюды, я ў цябе нешта спытаю. Хадзі!

Голас Тамары з клуба:
— Зараз іду, цётка Аўдоцця!..
Уваходзіць Т а м а р а.

А ў д о ц ц я. Тамарачка, ну, ты гаварыла з Лізай?

Т а м а р а. Гаварыла.

А ў д о ц ц я. Ну што? Прыме?

Т а м а р а. Не турбуйцеся, цётка Аўдоцця, калі мы ўзяліся за справу, то ўсё будзе добра.

А ў д о ц ц я. Дай жа бог. Глядзі ж, Тамарачка, глядзі, даражэнькая, я на цябе спадзяюся. Дапамажы ўжо, дзіцятка, забрытаць гэтага неслуха.

Ідзе А ў л а с з акардэонам, наігрывае.

Што, зноў за гармонік? Ну ды дабяруся я да яго. Калі-небудзь печку падпалю гэтымі цацкамі.

Т а м а р а. Не, цётка Аўдоцця, гэта мы яго папрасілі пайграць.

А ў д о ц ц я *(Аўласу)*. Ну, толькі калі папрасілі. Ідзі, ідзі, ды каб па-людску.

А ў л а с. Мамаша! Калі вы перастанеце камандаваць? Ніяк вас не адвучыць.

А ў д о ц ц я. Гэта ж цябе ніяк не прывучыць. І ў салдатах жа быў.

А ў л а с. І там я не любіў, каб залішне мной камандавалі. Нядарам за два гады сто дваццаць сутак на губе адседзеў.

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Калгасны двор. Злева канюшня брыгады Нічыпара. У глыбіні сцэны калодзеж з жураўлём, за ім адна канюшня. Справа сад, агароджаны частаколам.

У цэнтры сцэны дошка паказчыкаў, каля яе дзве лаўкі і бочка з вадой — месца для курэння. Вароты канюшні крыху прыадчынены, падпёрты віламі. Каля дошкі паказчыкаў слуп з электралямпачкай.

Жнівень месяц; ясны, сонечны дзень.

З канюшні выходзіць К у з ь м а, глянуў на сонца — хутка абед; прысеў на лавачцы. Рамантуе нешта — ці сядзёлку, ці аброць.

К у з ь м а. Скора пачнуць злятацца... *(Напявае.)*
Конь вара-аны, з паходным уюкам;
Ай конь іржэць, чагой-та ждзёць...
*(Паспрабаваў, ці моцна прышыў, дзёрнуў, а яно і парвалася.)*
Э-эх, ты! Нікчэмная! Цьфу! Не, трэба ўжо новую збрую спраўляць... Нечага тут эканомію наводзіць. Адслужыла сваё, і хопіць. А не, дык хай сам паспрабуе шылам пароць. *(Зноў напявае: «Конь вараны».)*

Уваходзіць С ц я п а н. Злосны.

К у з ь м а. А, пляменнічак! Чаму такі злосны?

С ц я п а н. Ат!.. І не кажы, дзядзька Кузьма...

К у з ь м а. А ў чым справа?

С ц я п а н. Усё роўна вы нічога не зразумееце і не дапаможаце...

К у з ь м а. Э-э, пляменнічак! Вось тут ты памыляешся. Хто ж табе паможа, калі не дзядзька родны!

С ц я п а н. Нічога вы не ведаеце.

К у з ь м а. А вось і няпраўда! Можаш не казаць, толькі я ўсё і так ведаю, бачу...

С ц я п а н. Што вы ведаеце? Што вы бачыце?

К у з ь м а. Дарагі мой! Я ўжо пяцьдзесят два гады пражыў, так што час навучыцца бачыць, у каго што на душы ляжыць. Ды вось ужо дваццаць год пры канюшне басастаю, і кожны дзень сюды людзі ходзяць. Так што бачу, хто што думае, хто што гаворыць і хто што скажа. Пажыві з маё.

С ц я п а н. Ну, што вы бачыце?

К у з ь м а. Э-эх, ты! Што? Не клеіцца? Не вяжацца? А?

С ц я п а н. Што не вяжацца?

К у з ь м а. Ведаю, ведаю... Сам быў такім... Эх, ты... Молада-зелена. Думаеш, мне не даводзілася так? Яшчэ як даводзілася...

С ц я п а н. Дык вы ўсё ведаеце?

К у з ь м а. Вядома, ведаю. Чаму ж не ведаць.

С ц я п а н. Дык парайце, што мне рабіць?

К у з ь м а. Я вось толькі не ведаю, з чаго пачаць...

С ц я п а н. Чаму яна на мяне нават не глядзіць?

К у з ь м а. Нават не глядзіць? А наогул яна на каго-небудзь глядзіць?

С ц я п а н. Вядома, на Аўласа!..

К у з ь м а. Значыць, яна на Аўласа глядзіць?

С ц я п а н. Нібыта я горшы за яго!..

К у з ь м а. Гледзячы для чаго...

С ц я п а н. Да сябе ў звяно ўзяла, а цяпер яшчэ хваліцца.

К у з ь м а. Дык гэта, аказваецца, Ліза?

С ц я п а н. Вы ж сказалі, што ўсё ведаеце.

К у з ь м а. Цяпер, канечне, ведаю. Ты ж сам расказаў.

Сцяпан хацеў раззлавацца, затым засмяяўся.

С ц я п а н. Ох і пракурор жа з вас выйшаў бы, дзядзька!

К у з ь м а. Быццам конюх горш за пракурора. Ну і што ж ты вырашыў рабіць?

С ц я п а н *(хмура)*. Заспець яго ў цёмным вуглу і морду яму скурожыць.

Кузьма. Э-э, не тое, не тое. Ці бачыш, чалавек — гэта такая штука... Калі яму скажаш, што гэта забаронена, то ён галаву скруціць, а туды палезе. І Аўлас такі. Гэта адно. А другое,— калі яна даведаецца, што хлопец з-за яе пацярпеў, яна яшчэ бліжэй да яго стане. Тут боем не возьмеш. Ён можа ў азарт увайсці. А трэба хітрасцю ўзяць.

Сцяпан. Як гэта?

Кузьма. Вось пабачыш, дапамагу. Хуліганства, дружок, зараз не ў модзе. Трэба геройствам браць, пашанай. А пашана зараз — гэта праца. Вось ты і зрабі так, каб на цябе глядзелі ўсе, здзіўляліся... І яна-а!.. А ты на яе паменей паглядвай. Гэта яе за жывое і закране. Вось тут ты кручок з прыманкай і закідвай. Рыбка твая будзе. А Аўласа я спалохаю, не ты. Як — гэта мая справа. А з цябе ўжо чарка належыць. Ён сам ад яе адмовіцца.

Сцяпан. Не веру я...

Кузьма. Калі сабе не верыш, гэта ўжо дрэнна.

Сцяпан пайшоў. Кузьма глядзіць яму ўслед, круціць галавой і зноў бярэцца за рамонт. Мурлыкае: «конь вороной». Уваходзіць рахункавод Пузікаў.

Пузікаў. Добры дзень, дзядзька Кузьма! Вось пачытайце раённую газетку. Якраз пакуль на абед стануць з'язджацца, вы і прачытаеце. Хоць газетка невялічкая, затое літары буйныя.

Кузьма. Нецікавая яна... Завёўся ў іх нейкі «Белта», дык ён усю газету і піша. Усё кружыць недзе наўкола, а каб пра свой калгас што напісаў, дык не... Нават і вока не пакажа.

Пузікаў. Не, дзядзька Кузьма, на гэты раз вы памыліліся,— і пра наш калгас напісана. Вы паглядзіце. *(Аддае газетку і на дошцы паказчыкаў запісвае крэйдай вынікі.)*

Кузьма. Гм... Пра Аўласа... Гэта, відаць, нехта са зла.

Пузікаў. А чаму са зла?

Кузьма. Хлопец пачаў выпраўляцца, а яго хутчэй хваліць... Так і глядзі, што зноў стане неба носам араць.

Пузікаў. Ці ж увесь час крытыкаваць. Калі заслужыў, то і пахваліць можна.

Уваходзіць Аўлас з пугай у руцэ.

А калі стане лайдачыць, то мы Аўласу новы рэцэпт выпішам: двайную порцыю крытыкі.

Кузьма. Натурлівага каня не трэба паняверыць... А пра коней, бач, нічога не напісалі... *(Пакрыўджана.)* А-ат, я ж кажу...

Аўлас. Прымайце коней.

Кузьма. На абед ужо?

Аўлас. Ды падкармліваць трэба лепш, а то апошнія дні слабавата цягнуць.

Кузьма. Чаго гэта яны слабавата цягнуць?

Аўлас. Не ад гульні... Штодня з хамута не вылазяць.

Кузьма пайшоў у хлеў.

Аўлас *(да Пузікава)*. А ты што тут анцімонію разводзіш?

Пузікаў. Не анцімонію, а вынікі падводзім.

Аўлас. Жывот бы табе падвяло.

Пузікаў. А ты чаго злуеш? Ты лепш падыдзі ды паглядзі, што напісана.

Аўлас. Напісана... Падумаеш, Пушкін завёўся.

Пузікаў. Справа не ў тым, што Пушкін ці не Пушкін, а выдатна пастаўлены ўлік дзейнічае на адстаючых так, як палын на блох. Нездарма ж ты стаў у людзі выбівацца.

Аўлас *(іранічна)*. Відаць, што ты падзейнічаў.

Пузікаў *(мнагазначна)*. Выдатна пастаўлены ўлік. Да пабачэння.

Пузікаў пайшоў. Аўлас закурвае і скоса паглядае на дошку паказчыкаў. З канюшні выходзіць Кузьма.

Кузьма. Пасля абеду паедзеш?

Аўлас. Не, коням трэба адпачыць.

Кузьма. Добрая ў цябе душа, невыпадкова любяць цябе коні. І, як відно, толькі коні? А?

Аўлас. Не турбуйцеся, не толькі коні.

Кузьма. Няўжо і дзяўчаты?

Аўлас. Пачакайце, вось паклічу ўсіх на вяселле, а вы тут у канюшні і застанецеся.

Кузьма. Э-э-э, калі так, то дружбу псаваць не будзем. На вось, пачытай, як цябе хваляць. *(Кузьма дае Аўласу газету, а сам зноў ідзе ў канюшню.)*

Кузьма выходзіць. На сцэну выбягае Ліза з мяхамі.

Л і з а. Аўлас? Ты ўжо на абед прыехаў? Ну, добра... *(Разглядае дошку.)* Малайчына. Ты ўсё забаранаваў?

А ў л а с *(з ёй размаўляе больш лагодна)*. Не яшчэ, крыху засталося.

Л і з а. Многа?

А ў л а с. Ды там лапічак гектары са два. Заўтра закончу.

Л і з а. А чаму заўтра? А пасля абеду?

А ў л а с. Я хацеў, каб... коням, трэба даць адпачынак.

Л і з а. Я табе дам «коням»! Бач ты яго! «Коням»! Ты за іх не турбуйся. Апрача цябе ёсць каму папакоіцца. Вунь дзядзька Кузьма дагледзіць. Каб пасля абеду закончыў. І не чакай, пакуль я табе другі раз буду гаварыць.

А ў л а с. Ну, ну, забарaную, ты толькі не сярдуй.

Л і з а. Ды глядзі ў мяне, каб па-гаспадарску.

А ў л а с. У гэтым не сумнявайся. Забаранаваў так, што зямелька мякчэй, чым твая пярына.

Л і з а *(калюча)*. Ты на маіх пярынах яшчэ не спаў.

А ў л а с *(спрабуючы абняць яе)*. Дасць бог і гэта не за гарамі.

Л і з а. Пакуль бог дасць, дык ад мяне трымай! *(Ударыла па шчацэ.)* Гэта табе для заахвочвання, каб пасля абеду весялей працавалася.

Л і з а пабегла.
З канюшні даносіцца голас Кузьмы:
— Добра ж яна цябе заахвочвае...
На сцэну павольна выходзіць К у з ь м а.

А ў л а с. Ды гэта жартамі.

К у з ь м а. Жартамі, кажаш? Глядзі, Аўлас, каб з коньмі так не жартаваў, а то скура ўсхлупне. Дай-ка твайго. *(Закурвае ў Аўласа.)* А яна такі цябе до-обра забрытала.

А ў л а с. Хто? Каго?

К у з ь м а. Ды Лізка. *(Скручваючы цыгарку, пальцам паказвае на Аўласа.)* Забрытала, асядлала. *(Языком склеіў цыгарку.)* Ды яшчэ і прышпорвае.

А ў л а с. Каго прышпорвае?

К у з ь м а. Ну, як жа? То пасля абеду не паеду, то паеду.

А ў л а с. Таму што сам ведаю — трэба. *(Іранічна.)* «Прышпорвае». А калі не схочу, то мяне ніхто не прымусіць.

К у з ь м а. Ой, не! Бачу, трусіш ты перад ёй.

А ў л а с. Эх, дзядзька Кузьма! Думаеце, калі я перад ёй так, то... Гэта ж я для далікатнасці.

К у з ь м а. Ну калі для далікатнасці, то справа іншая. Вунь яна яшчэ нечага бяжыць. Можа, мне лепей схавацца, а то яна яшчэ раз дзеля далікатнасці плясне па мордзе. А пры староніх не зусім да твару атрымаць па твары, а?..

К у з ь м а пайшоў у канюшню.

Л і з а. Ты яшчэ тут? Ледзь не забыла табе сказаць: адразу пасля работы прыходзь у клуб. Зразумеў? Аграном МТС прыедзе, заняткі будуць.

А ў л а с. Добра, добра.

Л і з а. І каб не пазніўся. Чуеш?

А ў л а с. Ну, чую, чую. Але чаму ты да мяне такая няласкавая, Ліза?

Л і з а. Таму, што які з цябе мужык выйдзе, калі цябе зараз чалавекам не зрабіць.

А ў л а с. Ці ж я табе калі не ўгадзіў?

У канюшні голас Кузьмы: «Тпру! А то дзеля далікатнасці пугаўём перацягну».

Л і з а. Я не прашу, каб ты мне гадзіў. Ты рабі так, як трэба. *(Цёпла.)* Можа, ты пакрыўдзіўся, што я цябе... ударыла? Ты не крыўдуй, гэта ж у мяне ласка такая. *(Ліза хоча ісці.)*

А ў л а с. Ліза, адну хвілінку. Ну, ты падумала?

Л і з а. *(Размова ў цёплых танах.)* Што?

А ў л а с. Як што? Тое, аб чым мы гаварылі.

Паўза.

Л і з а *(патупіла вочы.)* Я думала...

А ў л а с. Ну і...

Л і з а. Не ведаю, што табе сказаць...

А ў л а с. А ты скажы тое, што на сэрцы маеш.

Л і з а. Я-то нічога не маю, а вось бацька мой... ён будзе супроць.

А ў л а с. Чаму?

Л і з а. Не любіць ён цябе.

А ў л а с. За што?

Л і з а. Сам ведаеш — за што, за мінулае.

А ў л а с. Я і сам сябе не люблю за гэта мінулае. А цяпер жа... Ты падвядзі да гэтай дошкі, хай паглядзіць, ці... вось дай яму пачытаць гэтую газетку. *(Ліза разглядае газетку.)*

Л і з а. Ну добра, вечарам мы пагутарым. Зараз некалі. Зерне насыпаць трэба. Закончылі абмалот свайго ўчастка. Як ты думаеш, няўжо ў Лёнькавым звяне болей выйдзе? А? Няўжо мы падкачалі?

А ў л а с. Не, не можа быць.

Л і з а. Ну добра, пабачым. Дык глядзі, пасля абеду забарапаваць — раз! А вечарам на заняткі — два! Чуеш, Аўлас? Чуеш? Не забудзь!..

Л і з а выбягае.

А ў л а с. Добра, не забуду.

К у з ь м а выходзіць з канюшні.

К у з ь м а. І ўсё-такі яна цябе забрытала. От дзяўчына! Любіць камандаваць. А справы твае кепскія, Аўлас.

А ў л а с. Чаму так?

К у з ь м а. А таму, што калі яна цяпер так камандуе табой, то што яна з цябе зробіць, калі ты ажэнішся? Заездзіць цябе, братка, зусім заездзіць.

А ў л а с. Яшчэ пабачым, хто каго заездзіць. Што тады будзе, яшчэ бабулька надвое гадала.

К у з ь м а. Не ўжо, братка, яно цяпер відаць. Ты ж супроць яе пакуль што права голаса не маеш. Яна стаханаўка, звеннявая. *(Жэст: во-о!)* А ты! Яно і выходзіць так, што быццам бы ты і ў даўгу перад ёй. А баба, брат, яна такая сатана, што калі возьме над чым верх, то пішы — прапала, заездзіць, і каюк... Сядзе на шыю і ножкі звесіць! Не будзе табе самастойнага жыцця. А перагнаць такую — жылістым трэба быць. А ў цябе, бачу — жылка непрывычная, каб абганяць. Так што ты падумай, ці пад сілу яна табе. Я ж усё чуў.

А ў л а с. А падслухоўваць старому чалавеку непрыгожа.

К у з ь м а. Не я прыйшоў да цябе падслухоўваць, а ты да мяне на канюшню сватацца. А калі на тое пайшло, то для сваіх любоўных спраў другое месца знайдзі, і нечага мне тут коней разбэшчваць. *(Чуваць іржанне коней у канюшні.)*

А ў л а с *(пакрыўджана)*. Я б вам сказаў што-небудзь, калі б вы крыху маладзейшым былі...

А ў л а с выйшаў.

К у з ь м а. Бач ты яго, а! Нібы перцу ўхапіў на язык... а? *(Круціць галавой, усміхаецца.)* Не-е, брат, ка-

лі на такую дзяўчыну зубы вострыш, то характар свой прыйдзецца ламаць.

Уваходзіць Н і ч ы п а р.

К у з ь м а. А-а-а, Нічыпар Сяргеевіч! Дык што ж гэта ты, а? А яшчэ сусед!

Н і ч ы п а р. Чаго гэта ты?

К у з ь м а. Не думаў я, што ты такі... Ад суседа хавацца? Да вяселля рыхтуецца, а мне ні слова, ні паўслова, а? Хоць бы падарунак які-небудзь нарыхтаваў ці пасагу...

Н і ч ы п а р. Аб якім вяселлі ты пляцеш?

К у з ь м а. Ды Лізку ж ты выдаеш?

Н і ч ы п а р. Да ты што, з глузду з'ехаў? І ў сне не снілася.

К у з ь м а *(здзіўлена)*. Як не снілася?.. *(Паўза.)* Э-э-э! Ты ўжо мне нечага... нечага... Мне Аўлас усё расказаў.

Н і ч ы п а р. Што?

К у з ь м а. А-а-а! Значыць, праўда?! А расказаў, што бярэ Лізку, што ўжо і змовіны былі... і што ўжо таго-сяго на вяселле клікаў.

Н і ч ы п а р *(нібы чаго гарачага сербануў)*. Ды ты... ды я табе... ды ты каго знайшоў?! Што я табе?

К у з ь м а. А, братка мой, чаго ж ты на мяне? Ды я ж тут ні пры чым.

Н і ч ы п а р. Ты мне кінь! Я табе не хлапчук! Не на таго напаў, каб жартаваць.

К у з ь м а. А, братка мой, ды каб я ведаў такое, то лепей і не гаварыў. Я ж думаў... Ну як не паверыць хлопцу? Разам з Лізкай працуе заадно. Бачу, і ты за яго бярэшся, ну і думаў, што зяцем думаеш зрабіць яго. Ды і сам бачыў, што і Лізка да яго туліцца.

Н і ч ы п а р. Лізка? Ды я ёй так прытулюся, што і сесці не на чым будзе. Як табе не сорам думаць гэтак! Знайшоў зяця! Аўласа! Абібока такога, што і свет не бачыў. Не бачыць яму Лізку як сваіх вушэй. Ды мая Лізка!.. Ды я за сваю Лізку!..

К у з ь м а. Ну што ты за сваю Лізку міністра высватаеш?

Н і ч ы п а р. Ну і Аўласу ў мяне зяцем не быць.

К у з ь м а. Не такі ён ужо і дрэнны хлопец. Праўда, былі грахі, ды ў каго іх не бывае? А цяпер жа глядзі, і ў перадавікі выбіўся. Нават газетка пісала пра яго.

**Нічыпар.** А-а! Дык вось к чаму яна газетку падсунула мне! Я ж ёй пакажу газетку. *(Сабіраецца ісці.)*

**Кузьма.** Чакай, ды ты ж нечага прыходзіў. Можа, што сказаць хацеў?

**Нічыпар** *(спыніўся).* Ты вось што, парку коней падрыхтуй, пасля абеду з гумна зерне вазіць будзем.

**Кузьма.** Можа, з Лізкінага ўчастка?

**Нічыпар.** Не, з Аўласавага.

Уваходзіць Аўдоцця.

**Аўдоцця.** Яно ўсё роўна што з Лізкінага, што з Аўласавага. Яны ж у адным звяне. Дзень добры, сваток!

**Нічыпар** *(нібы яго ўджаліла).* Які я табе сваток? Каго гэта мы з табой сваталі? *(Уедліва.)* «Сва-аццяя-я»!

**Аўдоцця.** А мой жа ты Нічыпарка, а што ж гэта з табой? Ці не ўкусіла цябе што?

**Кузьма** *(смяецца).* Ды не, гэта жонка яго гарачым баршчом пачаставала, апёкся.

**Нічыпар.** Глядзі, таннай будзеш, калі сама ў сваццці набівацца станеш.

**Аўдоцця.** А Нічыпарка, няўжо з табой і пажартаваць нельга? Я ж цябе падзякаваць хацела за сына. Чалавекам ты яго зрабіў. Не горш за людзей стаў, як ты за яго ўзяўся.

**Нічыпар.** Я за яго яшчэ не так вазьмуся.

Нічыпар пайшоў.

**Аўдоцця.** І ўсё-такі быць бычку на вяровачцы.

**Кузьма.** Глядзі, каб не парвалася вяровачка твая.

**Аўдоцця.** Нічога, калі я завяжу, то ўжо не парвецца: бабскім вузлом.

**Кузьма.** Глядзі, не абмахніся. Нічыпар — цяля ўпартае.

Уваходзіць Лёнька.

**Лёнька.** Дзядзька Кузьма, хадзіце коней прымаць.

**Кузьма.** Іду, іду.

Лёнька і Кузьма выходзяць.

**Аўдоцця.** Бач ты яго, не спадабалася яму, што я сватам назвала, а? Быў бы хоць чын які вялікі альбо анцілігент, а то ж брыгадзір звычайны, а нос дзярэ, што не прыступіцца. Э-э, ды не-е, нічога не будзе. Я калгасніца, і ты калгаснік, і дачка твая не паненка, аднаго поля ягад-

ка. А сказана ўжо: яблык ад яблыні далёка не адкоціцца. У Маскву жаніхоў не паедзеш шукаць. І свой знойдзецца.

Уваходзіць Т а м а р а.

Т а м а р а. Вы што тут, нібы на малітве?

А ў д о ц ц я. А-а, Тамарачка! Маё ж ты дзіцятка, мая ж ты кветачка, ты ўсё прыгажэеш, ты ўсё харашэеш. І чырвоненькая, як сунічка.

Т а м а р а *(саромеецца)*. Ой, ну што вы, цётка! Нагаварылі, што і сорамна стала, нібы і праўда такая. *(Глядзіцца ў люстэрка.)*

А ў д о ц ц я. І, далібог жа, такая, далібог, міленькая. І калі б я не ведала, што ў цябе дружочак Лёнька, далібог жа, кажу, прымусіла б свайго Аўласа да твайго бацькі ў сваты ісці.

Т а м а р а. А няўжо вам Лізка не падабаецца?

А ў д о ц ц я. Ой, што ты, што ты, такая дзяўчына ды не падабаецца?! І работніца, і гаспадыня, і чысцёха, і прыгажуня. А праспяваць — дык праспявае і станцаваць — станцуе. *(Паўшэптам.)* Дык жа я не ведаю, як у іх там. Ці думаюць яны што, ці не? Тамарачка, я ўжо прасіць цябе буду, галубка, праведай ты, як там у іх. Хочацца ўжо, каб і ўнучка паняньчыць.

Т а м а р а. Добра, добра, цётка, я праведаю. Толькі я тут нікога ўгаварваць не буду. Гэта іх уласная справа.

А ў д о ц ц я. Не, не, дзіцятка, ты толькі спытай. Я і не ведаю, як табе аддзякаваць.

Т а м а р а. Ну што вы, за што мяне дзякаваць.

А ў д о ц ц я. Ой, не, не! Як за што? Гэта ж дапамагла Аўласа пераламаць. І ведаеш, другім хлопец стаў. Проста не пазнаць. І дома гаспадарлівы стаў, і на работу штодня ходзіць, і паслухмяны, і ласкавы, хоць у вуха кладзі, ну проста нібы падмянілі хлопца. А то ж быў, як дзед калючы. Гэта ўжо ты, малодка, ты, вумніца, дапамагла.

Т а м а р а. Ну што вы, цётка?!

А ў д о ц ц я. Ой, не, не! І не кажы, галубка. Вялікае табе дзякуй. Дык ты ўжо, дзіцятка, праведай.

Т а м а р а. Добра, добра, я пастараюся.

А ў д о ц ц я. Ну дык я пайшла. І чаго ж гэта я хацела?.. А?.. Во, старая ўжо, і забылася, чаго прыходзіла. Ну, дык бог з ім. Вунь якраз і Ліза ідзе, дык ты ўжо распытай.

А ў д о ц ц я пайшла.

Т а м а р а. Ох, і хітрая ж цётка!

Уваходзіць Л і з а.

Л і з а. Пра што гэта вы гаманілі тут?

Т а м а р а. Якраз пра цябе.

Л і з а. Пра мяне?

Т а м а р а. І пра Аўласа. Не пахваліцца ім. Дзякавала і мяне і цябе.

Л і з а. За што?

Т а м а р а. Дужа добрым стаў. Прасіла, каб я праведала, як у вас з Аўласам. Хоча, каб ты нявесткай стала.

Л і з а. Ой, Тамара, што мне рабіць? Галава закруцілася ад думак!

Т а м а р а. А ў чым справа?

Л і з а. А ўсё праз цябе.

Т а м а р а. А што такое?

Л і з а. Як што? Гэта ж ты мяне падгаварыла з Аўласам блытаніну гэту завесці. А мне цяпер расхлёбвайся.

Т а м а р а. Ды кажы ты ладам, у чым справа, што такое?

Л і з а. Тамарачка, ты ж абяцала выручыць, вось і выручай.

Т а м а р а. Ну, што, што?

Л і з а. Аўлас мне ўжо трэці раз прапанову робіць, каб я выйшла за яго...

Т а м а р а. Ну-у???

Л і з а. Чэснае слова. І сёння напомніў.

Т а м а р а. І што ты яму сказала?

Л і з а. Нічога не сказала і не ведаю, што сказаць. Вечарам павінна адказ даць.

Т а м а р а. Дык гэта і ўсё?

Л і з а. Усё!

Т а м а р а. Ну і дзівачка ж ты! Ёсць аб чым думаць! Дык гэта ж лягчэй лёгкага. А ты яму так і скажы, ласкава, па-добраму, што нічога між намі не было, я цябе не кахала, а ўсё гэта было жартамі.

Л і з а. Ага, якая ты лёгкая! Добрыя жарты!

Т а м а р а. А што?

Л і з а. Што ён, не чалавек? Шкада мне яго.

Т а м а р а. Мала што шкада. Можа, мне дзядзьку Кузьму шкада? Дык што ты мне загадаеш за яго замуж выйсці.

Л і з а. Што ты разумееш!

Падыходзіць А ў л а с. У гэты час за сцяной сярдзіты вокліч Нічыпара, які, відаць, сочыць за дачкой.

Голас Нічыпара. *Ліза! Лізка! Зараз жа ідзі дадому! Чуеш?*

Ліза. Зараз, тата.

Голас Нічыпара. *Лізка! Каму я кажу?!*

Ліза пабегла.

Тамара. Эх ты, дзівачка! Калі сама не можаш, то я цябе выручу, дапамагу.

Уваходзіць Аўлас.

Аўлас. Каму ты надумала дапамагаць?

Тамара. Каму? Лізе... і табе.

Аўлас. Мне памочнікі не патрэбны.

Тамара. Не, брэшаш. Ведаеш, што, Аўласік?

Аўлас. Ну?

Тамара. Мяне Ліза папрасіла з табой пагаманіць.

Аўлас. Калі ласка, я слухаю.

Тамара. Яна мне ўсё расказала. І тое, што ты ёй прапанову зрабіў. Зрабіў? Так?

Аўлас. Ну-у? Ну, ну!

Тамара. Не паганяй, не запрагаў. І сёння вечарам яна табе павінна адказ даць. Так?

Аўлас. Ну, далей.

Тамара. Чакай, не спяшайся. Дык яна табе нічога не сказала і не скажа. А папрасіла, каб я табе што перадала. Па-першае, яна цябе не кахала і не кахае — гэта раз. Па-другое, усё гэта было прыдумана жартамі, каб ты працаваць стаў — гэта два. А па-трэцяе, яна табе нічога дрэннага не зрабіла, так што крыўдзіцца няма за што — гэта тры. Ну і чацвёртае, каб ты болей да яе не вязаўся і ўсякую жаніцьбу з Лізай выкінь з галавы. Вось табе і чатыры.

Аўлас *(гэта яго ашаламіла)*. Ты з глузду з'ехала!

Тамара. З глузду мне ехаць нечага, а ты як хочаш.

Аўлас. Ты што гэта, усур'ёз?

Тамара. Жартаваць я з табой і не думала. Я перадала тое, аб чым мяне папрасіла Ліза, і ўсё. На гэтым канец.

Аўлас. Канец? Усё? Не, так не выйдзе! На гэтым не канец! Яшчэ не ўсё тут!

Тамара. А што, ты біцца будзеш?

Аўлас. Не, я яе прымушу ў вочы паглядзець! Сама хай скажа, дзе навучылася яна так шчыра лгаць. Дзе яе сумленне, скажа хай.

Т а м а р а. Аўлас, дальбог, ты захварэў. Ты ж вершыкамі гаварыць пачаў.

А ў л а с *(крычыць)*. Насмешкі строіць? Жартачкі? Дык я ёй цацка? Ванька-ўстанька? Не, пачакай!

Убягае Л е а н і д. Падскочыў пеўнем да Аўласа.

Л ё н ь к а. А ты чаго крычыш? Не, ты скажы, ты на каго крычыш? Ты што? Хто яна табе, што ты на яе крычыш?

Т а м а р а. Ды ты не гарачыся, певень! Ты пачакай.

Л ё н ь к а. Пастой! *(Аўласу.)* Ты што крычыш?

А ў л а с *(Леаніду)*. Ідзі ты...

Л ё н ь к а *(Аўласу)*. Ідзі ты!.. Ты што-о-о!..

З'яўляюцца хлопцы: С ц я п а н і К о с ц я.

К о с ц я. Што за бойка без крыві?

Т а м а р а. Ніякай бойкі. Я сказала, што на Лізкіным участку пшаніцы меней намалацілі, чым на Лёнькавым, а ён і загарэўся як порах.

Л е а н і д. Ну, гэта мы яшчэ пабачым. А рукамі махаць нечага.

К о с ц я. На полі трэба было махаць рукамі, а не тут.

Т а м а р а. А вы таксама носа не задзірайце: яшчэ невядома, у каго болей.

Заходзіць К у з ь м а.

С ц я п а н. Дзядзька Кузьма, вы на майго Бевіна супоню добрую падрыхтуйце, а то старая лопнула.

Заходзіць Ю р к а.

Ю р к а. І Аўласавым коням двайную порцыю аўса. Сёння яны папрацавалі як трэба!

К у з ь м а. Ты б языком меней працаваў.

Заходзіць А ў д о ц ц я.

А ў д о ц ц я. Во, успомніла. Прыходзіла да цябе, Кузьма, ды тады і з галавы вылецела: Ці няма ў цябе якой шкворкі непатрэбнай ад старой збруі? Мне каб цялятка навязаць, а то ад каровы адняла, дык рады не даць!

Ю р к а. А вы яго на ферму аддайце.

А ў д о ц ц я. Э-э-э, саколік, ты мяне не вучы. На ферму трэба аддаць такога, каб ніхто не папракнуў. Вось падгадую як мае быць, тады і аддам. А цяпер яшчэ рана.

Кузьма. Зараз што-небудзь пашукаю.

Кузьма пайшоў.

Аўдоцця *(да Аўласа)*. Пойдзем-ка дадому, сынок, абедаць пара.

Аўлас. Не хачу.

Юрка. У яго апетыту няма.

Аўдоцця. Ты не хочаш, дык цялё трэба напаіць. Яно ўжо змарнела за дзень. Дапаможаш напаіць.

Косця. Вось табе, Аўлас, і новая пасада — цялячая нянька.

Агульны смех.

Сцяпан. Гэта ўжо не хлапецкая справа.

Леанід. Вы, можа, яго і курэй мацаць прымушаеце?

Аўдоцця. А няхай жэніцца. Мусіць, ён у мяне і хлеб пекчы, і бялізну праць, і карову даіць будзе. Во тады ён у мяне ажэніцца. Хопіць ужо бугаём па вёсцы хадзіць.

Аўлас. Мама!

Раззлаваны, Аўлас пайшоў.

Косця *(наўздагон)*. Глядзі, цяля не абпаі!

Аўдоцця. Не хоча і слухаць, калі яму пра жаніцьбу кажу. І не блізка нават.

З канюшні выходзіць Кузьма.

Кузьма. Ды ён яшчэ не ведае, што з жонкай рабіць.

Агульны смех.

Аўдоцця. А што з жонкамі робяць? Не турбуйся, без справы сядзець не будзе. Яна задасць такую работу, што толькі спраўляйся дагадзіць яе капрызам. Э-э-э! А калі нечага рабіць будзе, то хоць палаюцца, і то весялей будзе ў хаце. Чаго, чаго, а справы знойдуцца. Я ўжо старэю, дапамагаць будзе мне...

Аўдоцця ўзяла вяроўку і выйшла.
Кузьма з вядром пайшоў да калодзежа.

Леанід. Ну, хлопцы, пайшлі абедаць.

Тамара. А пасля абеду вызначайце прадстаўнікоў Лізкіну пшаніцу важыць.

Косця. Даўно ўжо вызначаны — Лёнька і Юрка.

Ю р к а. Адну хвілінку, таварышы. Я хачу мець афіцыяльную размову.

К о с ц я *(жартуе)*. Паседжанне лічу адкрытым.

С ц я п а н *(у тон Косці)*. У рабочы прэзідыум прапаную...

Ю р к а. Таварышы, я сур'ёзна.

Л е а н і д. Ну, хопіць, хлопцы, можа, што сапраўды вартае ёсць.

Ю р к а. Я, таварышы, аднойчы ўжо на сходзе афіцыйна ставіў пытанне, і мы, здаецца, тады рашылі змяніць адносіны да Аўласа.

К о с ц я. І ў пратаколе запісалі: штодня гладзіць яго па галаве.

Т а м а р а. А ты заўсёды выскачыш. Юрка праў. Чым ён горш за цябе? Працуе чэсна і... ты паглядзі на дошку паказчыкаў.

Ю р к а. Таварышы! Прашу не перабіваць. Дык вось што па гэтаму пытанню. Мы ўжо перагінаем палку ў адносінах да Аўласа. Справа ў тым, што... Правільна, былі грахі за ім, былі дробнабуржуазныя перажыткі і ў адносінах да працы. І зусім правільна мы тады стварылі для яго нецярплівыя ўмовы. Але зараз, калі ён пачаў выпраўляцца і нават — можам мы зараз сказаць — выправіўся, элементы варожасці і непрыхільнасці могуць прывесці да нежаданых вынікаў.

Заходзіць Л і з а.

Ю р к а *(працягвае)*. Гэтым мы можам адштурхнуць яго ад калектыву.

К о с ц я. Вось дык даў! Нібы па газеце прачытаў.

Т а м а р а. Па газеце не па газеце, а Юрка праў. Таму што крыўдна хлопцу. Працуе добрасумленна, а яго яшчэ і шпігуюць.

Л е а н і д. Юрка што праў то праў. Толькі чаго ты так заступаешся за яго.

Чуваць, як у канюшні грызуцца коні. Даносіцца іх іржанне, стукат. Х л о п ц ы кінуліся ў канюшню.

Ю р к а. На гэтым і парашылі.

На сцэне Л і з а і Т а м а р а.

Л і з а *(узрушаная)*. Ой, Тамарачка, што мне рабіць? Што рабіць? Дай рады!

Т а м а р а. Нічога ўжо рабіць не трэба. Усё зроблена.

Л і з а. Нічога ты не ведаеш. Бацька на мяне, як ліха ліхое.

Т а м а р а. За што?

Л і з а. За Аўласа. Дачуўся неяк, што ён мне прапанову зрабіў.

Т а м а р а. Ну і што?

Л і з а. Калі б ты толькі пачула, што ён мне нагаварыў. І ў хату не пушчу, і з двара праганю, і больш ты мне не дачка, калі... І нагамі тупае і рукамі махае... ой, ой, ой, ой...

Т а м а р а. А ты яму што сказала?

Л і з а. А што я яму скажу...

Т а м а р а. Сказала б, што гэта няпраўда, што ты і не думала ніколі, што гэта толькі так, абы да работы хлопца прывучыць, што гэта жа-артамі.

Л і з а. Якія ж тут жарты, калі я яго... кахаю...

Т а м а р а *(ад нечаканасці аж села)*. Ой!..

Л і з а. А што? Ты не ведаеш, які ён добры хлопец. І ласкавы і паслухмяны... Ён жа ніводнага слова мне супроць не сказаў... Ён жа такі шчыры...

Т а м а р а. Ой, што ж я нарабіла!

Л і з а. Што?..

Т а м а р а. Лізачка, даражэнькая мая, прабач мне. Я ж, дурніца, нічога не ведала. Я ж яму ўсё расказала.

Л і з а. Што?

Т а м а р а. Што ты яго не кахала, што ты яго не кахаеш, што ўсё гэта было жартамі, што дарэмна ён спадзяецца.

Л і з а *(ад нечаканасці і яна села)*. Ой! Што ж ты нарабіла! Адной бяды мала, нá табе другая.

Т а м а р а. Лізачка, даражэнькая мая, прабач. Я ж яму як сказала, дык ён аж пабялеў.

З канюшні выходзяць х л о п ц ы.
З другога боку ўбягае рахункавод П у з і к а ў з газетамі, узрушаны.

П у з і к а ў. Хлопцы, атрымайце свежанькія газеты. Навіна! Навіна! Калі б вы ведалі, якая навіна!

Ю р к а. Што такое?

У с е. Што?

Дзе?

Якая?

П у з і к а ў. Бачыце, табліца выйгрышаў? Я толькі што праверыў па спіску ўсе нумары аблігацый, і ведае-

це што? На адзін нумар выйшаў выйгрыш у 25 тысяч рублёў.

У с е. Ну-у?

Ды што ты?

Каму ж гэта?

П у з і к а ў. І каму б вы думалі?

Усе прыціхлі.

Т а м а р а. Ну кажы хутчэй.

П у з і к а ў. Аўласу!

Паўза.

Л і з а. Ой, нешта будзе. Нешта будзе.

К у з ь м а ўваходзіць з вядром вады.

К у з ь м а. Вяселле будзе, вяселле!..

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Дзея адбываецца на вуліцы каля калгаснага амбара.
Час дзеі — той жа дзень, пасля абеду.
З амбара выходзіць к л а д а ў ш ч ы к, пазяхае.
Па вуліцы ідзе д з е д А р х і п з падвязанай шчакой.

К л а д а ў ш ч ы к. Нешта ты, дзед Архіп, цэлую сядзёлку на шчаку прывязаў. Што з табой такое?

Д з е д А р х і п. І не гавары, голубе; акаянны зуб замучыў. Адзін застаўся на ўвесь рот і той спакою не дае.

К л а д а ў ш ч ы к. Лячыць трэба, дзядок.

Д з е д А р х і п. Ды я ўжо і лячыў яго, не памагло. Я туды і соль засыпаў, і порах, і галоўку ад запалкі, а ён, акаянны, і не думае сціхаць.

К л а д а ў ш ч ы к. Дык ці так жа лечаць? Ты б да доктара схадзіў.

Д з е д А р х і п. Ат, што тыя дактары ведаюць. Нічога яны, голубе, не ведаюць. Напхаюць у рот усякай дрэні, і толькі.

К л а д а ў ш ч ы к *(закурвае)*. Ты закуры, дзядуня, можа, лягчэй стане.

Дзед Архіп. Не, я даўно ўжо не куру. Адвык. Гэта яшчэ калі твой бацька-нябожчык жыў быў... Была ў нас тады баба, Верушкай яе звалі, з усіх навакольных вёсак да яе людзі хадзілі, знатная шаптуха была. Дык яна мне параіла з табакай выкурыць мышынага памёту. Дык я з тых пор і не куру. Тры дні рвала мяне. Усе нутранасці ледзь не вывернула. Дык жа і век мой такі доўгі.

Кладаўшчык. А колькі ж табе гадоў, дзядок?

Дзед Архіп. А во, лічы, у семнаццатым, калі Міколку спіхнулі, мне а-а... шэсцьдзесят адзін год было. А цяпер відаць а-а... пад дзевяноста будзе.

Кладаўшчык. Ужо за дзевяноста пераваліла.

Дзед Архіп. Во-во, голубе. Чуе мая душа, што смерць за плячыма ходзіць. *(Уздыхнуў.)*

Кладаўшчык. А паміраць усё-ткі не хочацца?

Дзед Архіп. Не хочацца, голубе, каму яно хочацца. Мне б хоць а-а... да сотні дацягнуць.

Кладаўшчык. Ну ўжо не так многа засталося.

Дзед Архіп. Мне хацелася б нанава сваё жыццё пераджыць. Не так трэба было жыць. У рэвалюцыю, помню, баяўся... баяўся, голубе, без цара. А яно і лепей... Пажыў хоць пад старасць. Калгасаў баяўся,— цемната, голубе. А немцы прыходзілі, яшчэ горш баяўся, ну, думаў,— каюк, хоць пад печку лезь. А яго і прагналі і зноў за жыццё ўчапіліся. А я і зноў баюся. Смерці баюся. Так увесь век і баяўся...

Кладаўшчык. Баяцца не трэба.

Дзед Архіп. Во-во, голубе. Перад смерцю і я зразумеў, што не трэба баяцца... Смела трэба жыць. Толькі мне ўжо... гады да зямлі прыгнулі, ды і зуб вось... Ох, смертухна мая. Вось і шкадую, што не так я пражыў.

Кладаўшчык. Не бядуй, дзядок, во газеткі пісалі, што вучоныя прыдумалі такое, што старых маладзіць можна.

Дзед Архіп *(жвава)*. Як, як ты сказаў?

Кладаўшчык. Не ведаю як. Пра гэта ўжо вучоныя ведаюць.

Кладаўшчык выходзіць. Дзед Архіп не адстае ад яго, пытаючы на хаду:

Дзед Архіп. Дык гэта ты праўду кажаш? А? Ты растлумач!..

Кладаўшчык і дзед Архіп пайшлі.
Злева ўваходзіць Аўлас, апрануты ў новы гарнітур, пад гальштукам. Справа ўваходзіць Ліза з пугай.

Л і з а *(у здзіўленні спынілася).* Ты куды гэта прыбраўся так?!

А ў л а с. А вам якая справа?

Л і з а. Як гэта якая справа? Ты чаму на поле не паехаў?

А ў л а с. Яшчэ раз пытаю: вам якая справа да гэтага?

Л і з а *(загадвае).* Зараз жа сабірайся на поле і каб да вечара забаранаваў.

А ў л а с. Прашу не камандаваць. Ты мне не старшыня, і я табе не яфрэйтар.

Л і з а. Ах, вунь яно што-о? Выйгрышу рады? Дык табе зараз і на работу напляваць, і на звяно? Як ты смееў з прапановай да мяне лезці?

А ў л а с *(спакойна).* Прашу не крычаць, тут не глухія. А цацкай для цябе больш не жадаю быць! Хопіць! І так, дурань, верыў.

Л і з а. Ты гэта што?

А ў л а с. А тое, што больш камандаваць мной не будзеш. А калі хочаш, то давай ролямі памяняемся. Я буду камандаваць.

Л і з а. Мной? Камандаваць? Ты-ы?!

А ў л а с *(смяецца).* Ты хацела нада мной пасмяяцца — моў, кінула. А цяпер людзі скажуць, што не ты мяне кінула, а я цябе. Аўлас цябе кінуў. Выйгрыш атрымаў, а Лізу кінуў.

Л і з а *(крычыць).* Ах!.. Так?! Кінуў?! Падбяры, нягоднік!

А ў л а с. Тут крычаць не трэба, а ціха, па-добраму папрасіць.

Л і з а. Я? Прасіць цябе?

А ў л а с. А ты думала, што мне можна толькі загадваць? Думала, што я не такі, як другія? Думала, што можна як з цацкай пагуляць, а потым і выкінуць, як нягодную рэч? Не-е! *(Смяецца.)*

Л і з а. Не спяшы смяяцца! Гэты смех табе слязамі адальецца. Пачакай! «І ўкленчаны будзеш поўзаць, глядзець у вочы, знак маёй волі ў іх чытаць!» Яшчэ пабачым!

Л і з а дэманстратыўна выйшла.

А ў л а с. Запомні, жартаваць з каханнем небяспечна! *(Паўза. Уздыхнуў.)* Эх ты, бяда мая!.. А я думаў, а я спадзяваўся... *(Яшчэ раз уздыхнуў.)* «Выйгрыш...» Не ашук-

вала б ты мяне,— не трэба мне і выйгрыш... Э-эх, Аўлас, Аўлас! Пойдзем мы з табою, ды з гора!..

Напяваючы «по рюмочке, по маленькой, чем поят лошадей», Аўлас пайшоў.

Уваходзіць кладаўшчык, за ім і дзед Архіп.

Кладаўшчык. А браткі мае, во як скасабочыла хлопца, а?

Дзед Архіп. Голубе, чагой-та яны крычалі так?

Кладаўшчык. Звіхнуўся хлопец...

Дзед Архіп. Гэта, здаецца, Аўдоццін сын?

Кладаўшчык. Ён.

Дзед Архіп. А праўда, што ён вялікія грошы атрымаў?

Кладаўшчык. Праўда, 25 тысяч выйграў на абліганцыю.

Дзед Архіп. Ай-яй-яй-яй, гэта ж мяшок грошай.

Кладаўшчык. Яшчэ не атрымаў, а ўжо павяло, павяло яго ў балота.

Дзед Архіп. Бывае, голубе, бывае. Пляснецца чалавек знячэўку і вывіхне што-небудзь. А тут жа мяшок грошай на галаву зваліўся. Ай-яй-яй-яй. А што ж ён купляць на іх будзе?

Кладаўшчык. Прап'е, як відаць.

Дзед Архіп. Ай-яй-яй-яй! Прап'е, кажаш? Ай-яй-яй-яй! Не трэба даваць яму гэтулькі, а то пад старасць каяцца будзе, ой як будзе каяцца. Ой, зуб, зуб!.. Каб на яго ліха.

Кладаўшчык. А ты вось папрасі яго, дзядок, ён табе залатыя ўставіць.

Дзед Архіп. Такі глядзі, што апошні выб'е. Калі ўжо прасіць, то вучоных тых... Няўжо калі абмаладзяць, дык і зубы новыя вырастуць?

Кладаўшчык. Не зубы, а клыкі вырастуць.

Уваходзіць Аўдоцця.

Аўдоцця. Дык дзе гэта мы сарціраваць будзем? Нічыпар сказаў, што пасля абеду ля амбара.

Кладаўшчык. Вунь да таго амбара пойдзем.

Кладаўшчык пайшоў.

Аўдоцця. А мой жа ты дзядок! А што ж гэта з табой?

Дзед Архіп. Ай, галубка, зуб замучыў, зуб акаянны.

А ў д о ц ц я. Пакажы, пакажы. *(Разглядае.)* Ай-яй-яй-яй, адзін сіротка, на ўвесь рот.

Д з е д А р х і п. І што я туды ні клаў, не дапамагае.

А ў д о ц ц я. А што ж ты да мяне не зайшоў, я б табе дала паласканне, яно і прайшло б. А то мучышся, бедны дзядок! У мяне ж ёсць лякарства.

Д з е д А р х і п. Мая галубка, каб жа знаццё. Дай рады.

Уваходзіць Н і ч ы п а р.

Н і ч ы п а р *(ветліва).* А-а, і Аўдоцця ўжо тут. Так, так, давай, сваццейка, падпажмём сёння, каб заўтра поўнасцю з хлебанарыхтоўкамі разлічыцца. *(Нібы па сакрэту.)* Першынство можам заваяваць. Трэба пастарацца.

Аўдоцця паглядзела на яго і ганарліва адвярнулася.

Ці заганарылася ўжо? А, сваццця?

А ў д о ц ц я. Сам сказаў: на тых, хто сам набіваецца, цана нізкая.

Н і ч ы п а р. А ты і пакрыўдзілася.

А ў д о ц ц я. Як жа не пакрыўдзіцца.

Н і ч ы п а р. Ну, во! Ці мала што бывае. Ну раззлаваўся я, а ты пад гарачую руку і трапіла. Здаецца, мы адзін другому нічога ліхога не зрабілі.

А ў д о ц ц я. Калі ж ты занадта заганарыўся сваёй дачкой.

Н і ч ы п а р. А чаму мне сваёй дачкой не ганарыцца. Ёсць за што. А вось ты сваім сынам заганарылася, дык няма за што, пані Аўдоцця.

А ў д о ц ц я. А што мой сын? Горш за другіх? Ці дрэнна працуе?

Н і ч ы п а р. Ды і не лепей за другіх.

А ў д о ц ц я. А чаму ж ты такі добры да мяне? *(Быццам здагадалася.)* А-а-а!.. Не ведала я, Нічыпарка, што ты такі прагны. На выйгрыш пакваліўся?

Н і ч ы п а р. Ды ты... ды... ды... цьфу! На твой выйгрыш! Сказана — баба дурная. Ды я пасля гэтага і на цябе, і на твайго сына з выйгрышам глядзець не хачу! Цьфу! Які сын, такая і матка.

А ў д о ц ц я. А чаго ж ты такі ласкавы стаў?

Н і ч ы п а р. Ласкавы? Я ж табе пакажу «ласкавы», пагадзі-і! А ў вашым роду, як відаць, такі праўда дурная кроў цячэ, «выйгрыш»! Ты не вельмі радуйся яму! Што

твой выйгрыш? Знаходка, і ўсё. Што ён гэтыя грошы рукамі сваімі зарабіў, мазалём сваім? Гэта ж дурныя грошы і не таму папалі, каму трэба. «Вы-ыйгрыш»!.. А я сабе не шукаю зяця з выйгрышам, не турбуйся! Я з рукамі знайду ды з галавой. Я і на працадні атрымаю не менш твайго выйгрыша.

Аўдоцця. Дык што ты лічыш, што мой сын без галавы? Ці без рук? Не бойся, на яго пальцамі ўжо не тыцкаюць.

Нічыпар. Даўно перасталі тыцкаць! Хто яго такім зрабіў?

Аўдоцця. А хто цябе ведае!

Нічыпар. Дык хто?

Аўдоцця. А ты ж і ўспыльчывы, што той порах. І як з табой жонка жыве?

Нічыпар. Мая жонка не такая, як ты, таму і жыве.

Аўдоцця *(злосна)*. А... *(Лагодней.)* Вось мы і зноў можам палаяцца нізашто. Што праўда, то праўда, табе дзякаваць трэба і Лізку тваю. Як узяўся ты за яго, зусім перамяніўся хлопец. Хоць куды стаў. І Лізка твая малодпка. Чаго граха таіць, закахаўся ён у яе. Як прыйдзе з поля, толькі пра яе і гутарка ў хаце.

Нічыпар. То-та я бачу, што і яна яго хваліць. Я даўно падазраваў, што і яна да яго туліцца, ды ўсё маўчаў. А сёння сказаў, дык яна і зачырванелася.

Аўдоцця. Што ты хочаш,— дзяўчына, чаму ж не сароміцца? У добрай сям'і расла, таму і сорам мае.

Нічыпар. Таму — у руках трымаю.

Аўдоцця. Яно па ўсім відаць. Дзяўчына — люба глянуць. Шчыра скажу табе, Нічыпарка, я ўсё жыццё марыла такую нявестку сабе займець.

Нічыпар. Не-е ўжо. Пра гэта пагаворым іншым часам. А то падумаеш, што за тваім выйгрышам пагнаўся.

Аўдоцця. Ой, не! Кахаюць яны адно другога.

Дзед Архіп. Праўда, галубка, праўда — кахаюць. Толькі што сам чуў, як яны, галубкі, буркаталі.

Нічыпар *(Аўдоцці)*. Дык ты ідзі туды, на сарціроўку.

Дзед Архіп. Галубка мая, як бы мне... а-а... паласканне...

Аўдоцця. Нічыпарка, дык я зараз. Трэба дапамагчы старому.

Пайшла па паласканне Аўдоцця.

Нічыпар. А ты чаго тут, стары, сядзіш? Залез бы на печ ды ляжаў бы сабе.

Дзед Архіп. І рад бы, голуб, ды зуб не пускае.

Нічыпар. Няўжо ж у цябе яшчэ зубы ёсць?

Дзед Архіп. Якія там зубы... Адзін, і той спакою не дае.

Прыходзіць кладаўшчык, адмыкае клецць.
Леанід, Юрка прывозяць мяшкі з зернем.

Юрка. Нічыпар Сяргеевіч! Будзем узважваць працу Лізы.

Кладаўшчык *(з клеці)*. Зносьце, хлопцы, мяшкі!

Уваходзіць Аўдоцця, дае дзеду Архіпу бутэлечку з паласканнем.

Аўдоцця. Вось, дзядуля, табе паласканне. Набяры ў рот і трымай на зубе.

Дзед Архіп. Дзякуй табе, галубка, дзякуй. Можа, і паможа... А ў ім ліхога зелля няма?

Аўдоцця. Няма, няма, дзядуля, не бойся.

Аўдоцця пайшла да другой клеці.
Леанід і Юрка зносяць з вазоў мяшкі ў клець. Ім дапамагае Нічыпар.

Нічыпар. Вы, таго, асцярожна, каб не рассыпаць.

Леанід. Нічога, Нічыпар Сяргеевіч, гэтым ужо не надточым.

Юрка *(падміргнуў Леаніду)*. Пабойваецеся, каб у Лізы не аказалася менш, чым у Леаніда?

Леанід. Па сто сорак пудоў з гектара ў яе не набярэцца. Так што я спакойны. *(Міргнуў Юрку.)*

Нічыпар. А ты, не пераскочыўшы, не крычы гоп. Далёка табе яшчэ да Лізы. Нясі, нясі!

Дзед Архіп. Э-э, голубе! Глянь жа, якое тут лякарства напісана.

Юрка *(чытае на бутэлечцы)*. Спірытус віні рэкцыфікаці.

Дзед Архіп. А? Як?

Юрка. Ды гэта ж звычайны чысты спірт.

Дзед Архіп. Бач ты... А я гляджу — усё нутро абпаліла.

Уваходзіць Аўлас. Прыкметна на падпітку.

Аўлас. Та-ак, грузі, Гаўрыла!

Леанід. Ідзі памагай! Зерне з участка Лізы.

Юрка. Гэта ж і яго ўчастак. Нешта ты расфуфыраны?

Аўлас. А што мне? Можа, у цябе трэба было спытацца?

Юрка. Э-э, ды ты, бачу, таго!..

Аўлас. Таго... А табе што?

Леанід. Выйгрыш замачыў і сам размяк.

Аўлас. Выйгрыш... вось ён. *(Выцягвае з кішэні аблігацыю.)* Нуль, нуль, семнаццаць, трыццаць чатыры — серыя, нумар — трынаццаць.

Дзед Архіп. Нешчаслівы нумар.

Аўлас. А-а, дзядуля! Ты чаму, дзядуля, не дапамагаеш ім мяшкі зносіць?

Дзед Архіп. Э-э, голубе, хто гэта цябе стукнуў?

Аўлас. Калі, дзе, чым?

Дзед Архіп. Ды ці не пыльным мяшком з-за вугла.

Хлопцы смяюцца.

Аўлас. Толькі шануючы тваю бараду, дзядок, нічога не скажу.

Юрка *(Леаніду)*. Што ты на яго глядзіш, не бачыш — набраўся, як...

Аўлас. Што набраўся? Ты мне скажы, што набраўся? *(Кладзе ў кішэню аблігацыю і губляе яе.)*

Леанід. Адыдзі, а то...

Аўлас. Што «а то»?.. Не, што «а то»?..

Юрка. Ты што, біцца захацеў? Дык можаш галавой аб вугал.

У дзвярах амбара паяўляецца Нічыпар.

Нічыпар. Гэта што тут такое? Мяшкі нясіце!

Юрка. Вось палюбуйцеся, набраўся, як...

Дзед Архіп. Зяцёк твой буяніць.

Нічыпар. Ты чаго тут? Чаму не на полі?

Аўлас. Не крычыце, дзядзька Нічыпар.

Нічыпар. Што-о?

Заходзіць конюх Кузьма.

Кузьма. Во ён дзе! Ах ты, каб табе ні вугла ні прытулку. Дык праз цябе коні павінны паўдня ў хляве стаяць?

Аўлас. Дзядзька Кузьма, сёння свята для іх.

Кузьма. Свята?

Аўлас. Выходны дзень, і вы павінны арганізаваць

ім культурны адпачынак. Газетку ім дай з тыражом выйгрышаў.

Кузьма не знаходзіць, што сказаць.

Н і ч ы п а р. Ах, дык ты зноў за сваё, абібок?! Выйгрыш атрымаў!

А ў л а с. Дзядзька Нічыпар! Не выйгрыш... А дачка твая нехарошы чалавек. Вось што. Сёння яна мяне атруціла і ўсё дагары нагамі паставіла. Не выйгрыш... На чорта ён мне здаўся. Я вам магу яго аддаць.

Н і ч ы п а р. Цыц, нягоднік! Дачка мая вінавата!

К у з ь м а *(іранічна)*. Яна ж гарэлкай яго напаіла.

Л е а н і д. Гарбатага магіла выпраміць.

А ў л а с. Бачу, што я лішні тут. І жыцця мне з вамі не будзе. Ну, што ж! Бывайце!

Ю р к а. Не будзь лайдаком і п'яніцам.

А ў л а с *(з пагардай)*. Эх, ты!!

Н і ч ы п а р. Выбірайся адсюль зараз жа! Ідзі праспіся!

А ў л а с. Дзядзька Нічыпар, я вас паважаю, але вы на мяне не крычыце сёння, таму — я злы.

Н і ч ы п а р. Я за цябе заўтра вазьмуся, я табе пакажу злы.

А ў л а с. Заўтра позна, а сёння... Сёння ў мяне... Э-эх! «Бога нет, царя не надо, никого не признаю: провались земля и небо, я на кочке проживу!»

А ў л а с пайшоў.

К у з ь м а. Ну, скажы, што хлопец не звіхнуўся?

Д з е д А р х і п. Гэтак мы спявалі ў пятым годзе, калі пана свайго трусілі.

Ю р к а. Рэзалюцыю прыйдзецца адмяніць.

Н і ч ы п а р. Ну, чаго раты разявілі? Паехалі за зернем.

К л а д а ў ш ч ы к *(з амбара)*. Нічыпар! Запішы сабе — тысяча сто трыццаць кілаграмаў.

К у з ь м а і Н і ч ы п а р пайшлі.
Лёнька заўважыў на зямлі Аўласаву аблігацыю і падняў яе.

Л ё н ь к а. Юрка, глядзі *(амаль шэптам)*, аблігацыя. Ці не Аўласава? Серыя ноль-ноль, семнаццаць, трыццаць чатыры, трынаццаць. Яна!

Ю р к а. Ша! Маўчы! Схавай! Нікому ні слова! Пайшлі!

Ю р к а і Л ё н ь к а пайшлі.

Д з е д А р х і п *(устае, хістаецца).* Э-э-э! Дык я, здаецца, напаласкаўся. Закусіць бы цяпер чым-небудзь. А зуб, глядзі ты, суняўся. Хітрая штука гэтая шпрынтус вініс.

Д з е д А р х і п пайшоў.

Праз хвіліну з'яўляецца А ў л а с. Ён агледзеў, што аблігацыя згублена. Шукае ў кішэнях, на зямлі.

А ў л а с. Толькі што была... 001734... 13... 001734... А?.. *(Паўза. Уздыхнуў, спахмурнеў.)* Эх, Аўлас, Аўлас! Блытаешся ты пад нагамі, як лішняя непатрэбная рэч. Сыдзі з дарогі! *(Памацаў яшчэ раз у кішэнях аблігацыю і махнуў рукой.)* Э-э, чорт з ёй... Паехаць табе на завод куды і на гэтым канцы ў ваду. Карэту мне, карэту!

А ў л а с павольна пайшоў са сцэны.

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Вечарэе.
Сцэна тая ж, што і ў першай дзеі.
Загараюцца электралямпачкі.
На дошцы аб'яў: «Сёння, 15 жніўня, у клубе адбудуцца заняткі агратэхгуртка.
Заняткі праводзіць аграном МТС т. Анішчук».
На сцэну заходзяць Л е а н і д, Ю р к а, К о с ц я.

Ю р к а *(Леаніду).* Так што ты духам не падай. Во прачытай *(чытае на дошцы гонару).* «Сацыялістычнае спаборніцтва гаворыць: адны працуюць добра, другія лепш. Даганяй лепшых і дабівайся агульнага пад'ёму». У мінулым годзе ты першынства заваяваў, а ў гэтым годзе, відаць, Ліза лепш папрацавала. Так што крыўдзіцца няма на каго.

Л е а н і д. Я і не крыўджуся.

Ю р к а. І духам нечага падаць. Ты, як камсамолец, павінен, наадварот, радавацца, што ў нас яшчэ адно звяно вырасла. Гэта ж і ёсць агульны пад'ём.

Л е а н і д. Што ты мяне агітуеш? Я і сам гэта даўно ведаю.

К о с ц я. А каму ахвота першынства ўступаць?

Л е а н і д. Справа не ў першынстве.

Ю р к а. А ў чым тады?

Л е а н і д. Ты разумееш, я быў упэўнен, што... сто сорак пудоў яна не дасць.

К о с ц я. А дала сто пяцьдзесят два.

Ю р к а. Вось гэтак і перашкаджае нам залішняя самаўпэўненасць.

Л е а н і д. Ды яшчэ і не тое. Выходзіць, што і Аўлас нос падцёр. Аўлас!

К о с ц я. А што Аўлас, зломак?

Ю р к а. Ну, пра Аўласа нечага гаварыць.

На сцэну ўбягае А ў д о ц ц я, узрушаная.

А ў д о ц ц я. Хлопчыкі, можа, вы дзе майго Аўласа бачылі? Гэта ж як паабедаў, дык яшчэ і дома яго не было. Прыйшоў, кажа, нешта напісаў, паглядзеў па хаце і пайшоў... А куды?.. Хто яго ведае!.. І ніхто яго не бачыў... Каб чаго не здарылася...

Л е а н і д. Мы таксама яго не бачылі.

Ю р к а. Не бойся, нічога не здарыцца.

К о с ц я. Нідзе не дзенецца, праспіцца і прыйдзе.

А ў д о ц ц я. Ой, не, дзеткі! Ён жа ў мяне такі, што...

А ў д о ц ц я пайшла.

Л е а н і д. Набраўся, як... А цяпер, відаць, валяецца недзе ў кустах, адсыпаецца...

К о с ц я. І сніцца яму сон... Выйгрыш атрымаў... І ён загрэбае грошы ў мяшок... А на твары-ы...

Ю р к а. І раптам вецер як шугане! Былі грошы, а застаўся толькі дзіравы мяшок... А на твары...

Л е а н і д. А мы ўжо радавацца пачалі, што Аўлас выправіўся. А яно во табе як.

К о с ц я. І ўсё выйгрыш... пройгрыш. Не чалавек, а хворы зуб. Папала салодкае, і зноў баліць.

Ю р к а. Не, гэта, відаць, гнілы зуб, які ўжо лячэнню не паддаецца.

К о с ц я. А апошнія месяцы працаваў, дык люба глядзець.

Убягае Т а м а р а, усхваляваная.

Л е а н і д. Хто гэта за табой гоніцца?

Т а м а р а. Дзе? *(Агледзелася.)*

Л е а н і д. А чаго ты так ляціш?

Т а м а р а. Хлопцы! Трэба нешта рабіць. Каб чаго не здарылася, трэба Аўласа знайсці.

Л е а н і д. Нешта ты пасля абеду ўсё за Аўласам бегаеш. Ці не выйгрыш цябе спакусіў?

Т а м а р а. Ты дурнейшага нічога не мог прыдумаць? Як спляце, дык аж нялюба слухаць.

Ю р к а. А навошта ён табе спатрэбіўся?

К о с ц я. Ён выйгрыш атрымаў і цяпер па сёмым небе і прызнаваць нікога не хоча.

Т а м а р а. Вы ж нічагусенькі не ведаеце. Вы думаеце, што вось атрымаў выйгрыш і хлопец скасабочыўся. Зусім тут не ў выйгрышы справа.

Ю р к а. А ў чым?

Т а м а р а. Хлопец страціў надзею. І ўсё я вінавата, усё я нарабіла. Вы ж ведаеце — ён Лізку кахае і зрабіў ёй прапанову. Ну і спадзяваўся. Гэта мне Ліза расказала. А ты ж, Юрка, ведаеш нашу ўмову. Я надумала выручыць Лізу і сказала яму, што дарма спадзяецца. І расказала яму, быццам Ліза мяне папрасіла, каб я яму перадала, што ўсё гэта было жартам. Я ўпэўнена, што кожнага з вас гэтак бы за жывое ўзяло. Зусім тут не выйгрыш.

Ю р к а. Вось гэтага я не ўлічыў.

Т а м а р а. А, аказваецца, Ліза яго таксама кахае.

Л е а н і д. Што-о?

К о с ц я. Ліза-а?

Т а м а р а. А што? Чэснае слова, яна сама сказала. Вы не смейцеся, не горшы ён за вас.

К о с ц я *(імітуе непрытомнасць.)* Лёня, вады!..

Т а м а р а. Ты не блазнуй. А хлопцу рукі адсеклі. Бач, якую запіску Лізе напісаў.

Ю р к а *(чытае)*. «Ну, што ж... я цябе не разумеў... Як відаць, у цябе талент ёсць, можаш станавіцца артысткай... Відаць, мы з табой не ўбачымся. Сёння ж думаю ехаць. Не памінай ліхам. Пакрыўдзіла ты мяне, як ніхто і ніколі. Аўлас, якога ўжо няма». Хлопцы, дык тут сур'ёзная справа. Аўласа трэба знайсці.

К о с ц я. Калі так, трэба хлопцу дапамагчы. Чаго ж выпускаць з рук такога баяніста.

Л е а н і д. Во табе і Ліза. Хто б мог падумаць?

Т а м а р а. А ўсё я вінавата. Дык, хлопцы, трэба яго знайсці. Можа, ён паехаў ужо?

К о с ц я. Дык мы зараз яго вернем. Да станцыі дванаццаць кіламетраў. На клубны матацыкл — і дАганю яго.

Л е а н і д. Нікога не трэба даганяць. Нікуды яшчэ ён не паехаў.

Т а м а р а. Думаеш, ён такі, як ты? Гэта цябе дык ніяк вось не праганю, а ён — хлопец з гонарам.

Ю р к а. Справа не ў тым. Ён жа аблігацыю сваю згубіў, а мы знайшлі. Так, аблігацыя яго затрымае.

Л е а н і д. Вось яна. *(Паказвае аблігацыю.)*

Т а м а р а. Дык дзе ж ён дзеўся тады? Не, ты, Косця, па ўсякі выпадак сядзь на матацыкл і праедзь.

Ю р к а. Запяткі сарвём толькі.

К о с ц я. Мы папросім агранома гадзіну пачакаць.

Т а м а р а. Ну, ну, хлопчыкі, а я да Лізкі пабегла.

Усе разышліся.
З кустоў з-пад лаўкі павольна высоўваюцца ногі.
Відаць, што чалавек пацягваецца пасля сну.
З кустоў паяўляецца А ў л а с; твар заспаны. Праціраe вочы. Садзіцца, аблакаціўшыся, на лаўку. Пазяхае, фыркае і трасе галавой.

А ў л а с. Ці гэта мне ў сне здалося, ці то праўда, быццам тут гаманілі?.. А галава, як барабан. Ну вось, праспаўся, і канец. Цяпер больш няма ранейшага Аўласа. Трэба за розум брацца... Эх, Аўлас, Аўлас... Мала цябе сцёбалі па адпаведных мясцінах і ў адпаведны час... А трэба было выбіваць дурасць... Шкада ўсё-ткі расставацца з Лізай... Не думаў я, што так выйдзе... і аблігацыю згубіў... Усё згубіў... *(Павольна.)* Дурню закон не пісаны...

За сцэнай голас Тамары. Аўлас хаваецца ў кусты.
Голас Тамары:
— Нічога, Лізачка, не бядуй! Мы яго знойдзем. Нічога з ім не здарылася...
Уваходзяць Л і з а і Т а м а р а.

Т а м а р а. Не паспеў ён яшчэ паехаць.

Л і з а. Хай бы сабе ехаў, абы толькі праўду ён ведаў, што я яго не падманвала. А можа, яму сапраўды выйгрыш галаву закружыў?

Т а м а р а. Не, што ты!

Л і з а. Ніяк не магу табе даравааць. Паднёс цябе чорт.

Т а м а р а. Прабач мяне, Лізачка. Чэснае слова, каб я ведала, што ты яго кахаеш, а то ж... і пацягнуў мяне чорт за язык.

Л і з а. І ён жа такі вар'ят. Хоць бы са мной пагаварыў, дык не, фанабэрыя не дазволіла.

Т а м а р а. Лізачка, і яго вініць нельга. Я ж яго да жывога дастала. Усё гэта я натварыла.

Л і з а. Бацька во толькі што з работы прыйшоў. На-

дзьмуўся, пытае: «Ты што гэта з Аўласам не падзяліла? Нешта ён на цябе крыўдзіўся». *(Уздыхнула.)*

Т а м а р а. Ну во... *(Села на лаўку.)*

Л і з а. А дзе ж хлопцы? Трэба знайсці яго.

Т а м а р а. Ой!! *(Падскочыла, спалоханая,— яе ўшчыкнуў Аўлас. Ён вылазіць з кустоў.)* Цьфу, цьфу, цьфу на цябе. Каб ты не дачдаў!

Л і з а. Аўлас!! *(Памкнулася да яго, а потым роблена злосна, а скрозь яе «злосць» адчуваецца, што яна рада.)* Нягоднік! Плут! Машэннік! Сыдзі з маіх вачэй!

А ў л а с. Лізачка! Нікуды цяпер я не пайду! *(Набліжаецца да яе.)*

Л і з а. Не падыходзь! Заб'ю!

А ў л а с. Забі, толькі не праганяй! Ты мяне не прагоніш. Я ўсё ведаю, я ўсё чуў.

Л і з а. Ах, так? Ты забыў ужо, што мне днём гаварыў? Дык я не забыла.

А ў л а с. Лізачка, даруй! Пагарачыўшыся я... Чэснае слова, ад крыўды. Яна вінаватая *(паказвае на Тамару)*.

Л і з а. На каленях прасі прабачэння.

А ў л а с. На тваіх?

З клуба выходзяць Ю р к а, Л е а н і д, К о с ц я.

Л і з а. Дык ты яшчэ жартаваць?!

А ў л а с. Лізачка, даруй! *(Становіцца на калені.)* Толькі я не ведаю, за што прабачэння прасіць.

Л і з а. Што ты гаварыў пра выйгрыш? Каго кінуў?

Т а м а р а. Няма ў яго выйгрышу, ён жа згубіў сваю аблігацыю.

А ў л а с. Няпраўда! Ёсць выйгрыш! *(Лізе.)* Ты ж — мой выйгрыш!

Падыходзіць Л е а н і д, Аўлас хуценька падымаецца.

Л е а н і д. Вось твая аблігацыя. Забяры!

Аўлас хоча ўзяць.

Л і з а. Не чапай!

Аўлас хавае рукі за спіну.

Л і з а. Гэта не твая аблігацыя!

А ў л а с. Не, не! І не было яе ў мяне!

Л е а н і д. Твая, мы знайшлі.

Аўлас глядзіць на Лізу, што яна скажа.

Л і з а. Вазьмі! *(Аўлас узяў.)* Давай сюды! *(Аўлас паслухмяна аддае.)* Атрымаеш яе тады, калі заслужыш яе чэснай працай. Зразумеў?

А ў л а с. Усё да крапелькі.

Л і з а. Палова гэтай аблігацыі пойдзе...

А ў л а с. Пойдзе табе.

Л і з а. Гэта другая палова. А першая палова на клуб.

А ў л а с. Ты ў мяне і касір, ты ў мяне і рахункавод.

Л і з а. Я ў цябе і старшыня.

А ў л а с. А дэмакратыя? Раўнапраўе?

Л і з а. Я табе яшчэ пакажу раўнапраўе! Ты мне яшчэ дай адказ, чаму не паехаў баранаваць?

Заходзіць А ў д о ц ц я.

А ў л а с. Лізачка! Хочаш, зараз жа паеду?! Да раніцы забараную не тое, што на конях, а пальцамі!

К о с ц я. Беражы пальцы для акардэона.

Л і з а *(з палёгкай уздыхнула)*. Ну глядзі ты ў мяне.

Ю р к а. Ну, пайшлі на заняткі.

А ў л а с. Так і быць, Косця, палову выйгрыша на клуб, а другую палову...

К о с ц я. На вяселле.

Л і з а. Не спяшайцеся з вяселлем. Яшчэ паглядзім на цябе.

М о л а д з ь пайшла ў клуб.

А ў д о ц ц я. Так, ліхадзей! Не-е, быць бычку на лычку! Не так за цябе ўзяліся.

*Канец.*

*1948 г.*

# КАМЕНТАРЫІ

Другі том Збору твораў Андрэя Макаёнка склалі такія шырока вядомыя творы драматурга, як камедыя-рэпартаж «Таблетку пад язык», трагікамедыі «Кашмар» і «Пагарэльцы», камедыя-сентыментальны фельетон «Верачка». Сюды ж уключана трагікамедыя «Дыхайце эканомна», апошняя п'еса пісьменніка, якая друкавалася толькі ў перыёдыцы. П'есы «Ворагі» і «Выйгрыш» ніколі не ставіліся і не публікаваліся.

## ТАБЛЕТКУ ПАД ЯЗЫК (с. 5—58)

Камедыя напісана ў 1972 годзе. Упершыню надрукавана ў газеце «Звязда» (1972, 9, 13, 14, 26 лістапада, 1, 5, 8, 10, 12, 14 снежня), друкавалася таксама ў часопісе «Полымя» (1973, № 1). Неаднаразова выдавалася на рускай мове. Першыя публікацыі: «Театр» (1973, № 4) і «Молодежная эстрада» (1974, № 1). На ўкраінскай мове выдавалася ў перакладзе Г. Лягушчанкі. Перакладалася на мовы іншых братніх рэспублік СССР.

Драматург прызнаваўся, што задума п'есы акрэслілася яшчэ ў канцы 60-х гадоў. Аднак праца над трагікамедыямі «Зацюканы апостал» і «Трыбунал» на пэўны час адсунула рэалізацыю гэтай задумы, хоць яна і супадала з пажаданнямі, запатрабаваннямі грамадскасці. У прыватнасці, тэатральная грамадскасць скіроўвала ўвагу пісьменніка на асэнсаванне сучасных сацыяльна-эканамічных праблем вёскі, у тым ліку і дэмаграфічных.

«У пошуках п'есы да 50-годдзя Савецкай дзяржавы,— згадваў у артыкуле «Сэнс гэтых мінут» В. Плучак,— мы звярнуліся да беларускага пісьменніка Андрэя Макаёнка.

Чаму менавіта да яго? Ды таму, што ён — выпрабаваны сябра Тэатра сатыры і ў нас з ім даўнія і добрыя творчыя сувязі.

Першай ужо сваёй п'есай «Камяні ў печані» Макаёнак зарэкамендаваў сябе як сапраўдны баец сатырычнага фронту, які ярасна змагаўся з тым, што перашкаджае нашаму грамадству быць на ўзроўні патрабаванняў часу і народа.

Новая п'еса драматурга «Таблетку пад язык» стваралася ў сумеснай працы з тэатрам. Аўтар, які сам нарадзіўся і вырас у беларускай вёсцы, ваяваў на роднай зямлі з фашысцкімі захопнікамі, ніколі не парываў сувязі з сялом, добра ведае сучаснае ся-

лянства, у яго п'есе ярка адчуваецца праўда жыцця. Прататыпы ўсіх герояў п'есы — людзі, якія рэальна існуюць, з кожным з іх аўтар блізка знаёмы» («Театральная жизнь», 1973, № 11, с. 16).

Сапраўды, пры стварэнні п'есы драматург правёў вялізную падрыхтоўчую работу. В. Плучак не робіць ніякіх нацяжак, калі сцвярджае, што «Таблетку пад язык» пісалася ў сумеснай працы з тэатрам. Але тут патрэбны некаторыя ўдакладненні: сумесна з Маскоўскім тэатрам сатыры пісаўся варыянт п'есы менавіта для гэтага тэатра. Летам 1972 года, калі В. Плучак прыязджаў на Беларусь знаёміцца з жыццём вёскі, п'еса ўжо была цалкам завершана. Успамінае былы першы сакратар Бярозаўскага райкома партыі П. Лебедзеў: «Калі ён (А. Макаёнак.— *С. Л.*) закончыў работу над камедыяй «Таблетку пад язык» і п'еса рыхтавалася да пастаноўкі ў Маскоўскім тэатры сатыры, Андрэй Ягоравіч пазваніў мне на кватэру і папрасіў дазволу прыехаць на некалькі дзён разам з галоўным рэжысёрам гэтага тэатра Валянцінам Мікалаевіча Плучакам, яго жонкай Зінаідай Пятроўнай і загадчыцай літаратурнай часткі гэтага ж тэатра Мартай Якаўлеўнай Ліпецкай. Я з радасцю згадзіўся прыняць іх...

Валянціну Мікалаевічу хацелася за гэтыя дні да дробязей вывучыць жыццё на Палессі, пранікнуць у самыя патаемныя дэталі, спасцігнуць псіхалогію палешука, зазірнуць у яго душу і побыт. І мы пабывалі ў многіх калгасах і саўгасах, спыняліся ў брыгадах і на фермах, наведвалі самыя аддаленыя вёскі і хутары, заглядвалі туды, дзе і бог баяўся пабываць. Плучак і Макаёнак перагаварылі з дзесяткамі людзей розных узростаў і прафесій». (Цытуецца па машынапісу ўспамінаў.)

Сам А. Макаёнак бываў на Бярозаўшчыне і раней, наведваў ён і іншыя раёны рэспублікі. Пра гэты час драматург пісаў: «У мяне нарадзілася задума камедыі, галоўным персанажам якой будзе энергічны, напорысты і разам з тым дасціпны старшыня калгаса. Прататыпам галоўнага героя паслужыў адзін мой добры знаёмы, а дакладней — сябра дзяцінства, зараз Герой Сацыялістычнай Працы. Я часта бываю ў яго, ён — у мяне. Вось толькі, пакуль ён сам не дазволіць, прозвішча яго не назаву» («Литературная газета», 1971, 7 красавіка). Гаворка ішла пра старшыню калгаса «Новае Палессе» Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці У. А. Сцепчанку, які крыху пазней прызнаваўся:

«Творчасць Андрэя Макаёнка я ведаю даволі добра. Больш таго, са мною, як са сваім былым аднакласнікам і земляком, драматург іншы раз дзеліцца творчымі планамі. Пры стварэнні, напрыклад, «Таблетку пад язык» ён па многіх момантах раіўся, зачытваў чарнавыя накіды і варыянты» («Звязда», 1973, 25.10.).

Адразу ж пасля выхаду п'есы з друку вакол яе праблем і вывадаў узгарэліся заўзятыя спрэчкі. Праўда, вяліся яны часцей за ўсё на розных нарадах, канферэнцыях і з'ездах. У друку абмеркаванне п'есы вялося больш спакойна.

«П'еса слухае жыццё,— пісала, напрыклад, крытык Р. Крэчатава ў артыкуле «Скрозь прызму народнага вопыту»,— спяшаецца прыняць удзел у ім, яго зафіксаваць і адначасова ўмяшацца. Можна, вядома, сказаць, што ёсць у гэтай п'есе залішняя рэпартажная паспешлівасць і нешта недасказана, нешта да канца не раскрыта. Але інакш і быць не магло, таму што драматург не шукаў для камедыі залізанай завершанасці. Ён імкнуўся да іншага — схапіць і вынесці на сцэну працэс (менавіта працэс, не

іначай) сённяшняга пераўтварэння вёскі, перадаць яго імклівасць, шматмернасць, яго супярэчнасці, праблемы, тэндэнцыі.

Адсюль свабода ў пабудове п'есы, спалучэнне ў ёй элементаў розных мастацкіх радоў: тут і імгненна, адным штрыхом дакладна намечаны вобраз, і спрэчка адкрыта публіцыстычная, і сітуацыя, даведзеная ледзь не да цыркавой буфанады, і жорсткі сатырычны выпад, і раптоўная, глыбокая, як бы крыху сарамлівая лірыка, і патэтычная палымянасць фіналу» («Советская культура», 1973, 19 студзеня).

Крытыкі В. Плотнікаў і А. Харытонава таксама высока ацанілі мастацкія вартасці камедыі «Таблетку пад язык». З асаблівай цеплынёй адгукнуліся яны на жыццёвую актуальнасць, падзённасць праблематыкі твора, на майстэрства абмалёўкі вобразаў.

«У п'есе шмат цікавых, як бы ўзятых з самога жыцця вобразаў. Гэта — запаволена-стомлены, магчыма, нават залішне сур'ёзны для камедыі старшыня калгаса Каравай, які па-чалавечы зразумелы і выклікае спачуванне. Гэта дзед Цыбулька, хаця і традыцыйны для спектакляў з сельскай тэмай, але які ад гэтага не згубіў сваёй прывабнасці, добры, слаўны вясковы дзед з яго пералачкай і палітэканоміяй, засвойваемай каля ўнука Юркі. Гэта маладзенькая бібліятэкарка, якая адкрыта разгнявана грубасцю і рашуча паўстае супраць гэтай грубасці. Гэта жывыя людзі, якім верыш, з якімі згаджаешся і якім у нечым супрацьстаіш» («Сельская жизнь», 1973, 21 сакавіка).

Вялікі поспех спаткаў п'есу на сцэнах тэатраў Савецкага Саюза. І адной з самых лепшых крытыка называла пастаноўку яе рэжысёрам В. Плучакам у Маскоўскім тэатры сатыры. Нават праз некалькі гадоў інтэнсіўнага «пракату» спектакль карыстаўся вялізнай папулярнасцю. І. Вішнеўская пісала:

«Якасць спектакля Тэатра сатыры «Таблетку пад язык» аказалася высокай. Гледачы проста-такі асаджаюць шкляныя дзверы тэатра кожны раз, калі ідзе камедыя (тэатразнаўца расказвае пра спектакль, які адбыўся ў лістападзе 1976 года.— *С. Л.*).

Але, магчыма, лепшая рэкамендацыя п'есы і спектакля — тое, што шостага лістапада яшчэ задоўга да шкляных дзвярэй, якія вядуць да Тэатра сатыры, яшчэ ў глыбінях метро «Маякоўская», пыталіся «лішніх білецікаў» — на «калгасную» камедыю Макаёнка. Не ў аперэту, не ў канцэртныя залы, не на эстрадныя прадстаўленні,— на спектакль, дзе з запалам, весела, па-макаёнкаўску задзірліва, але гаварылася пра рэчы сур'ёзныя, супярэчнасці важныя, характары сучасныя.

Гледачу падабалася, гледача прываблівала многае.

Падабалася, што драматург, як правіла, не карыстаецца ўжо ўстаялымі канфліктнымі структурамі, ужо знаёмай расстаноўкай камедыйных сіл: добрыя — кепскія, кепскія — смешныя, добрыя — чопарна-дабрачынныя, нібыта жывуць у іншай жанравай атмасферы, у атмасферы некамедыйнай» (Вишневская И. Комедия на орбите. М., 1979, с. 158—159).

Пра добрае ўзаемаразуменне паміж драматургам і тэатрам пісаў таксама крытык А. Віслоў, які, высока ацэньваючы ігру Г. Менглета ў ролі старшыні калгаса Каравая, А. Папанава — дзеда Цыбулькі, бачыў прычыну поспеху спектакля ў нетрадыцыйнасці мастацкай трактоўкі праблем.

«Вопыт Тэатра сатыры цікавы тым, што на перакрыжаванні старых традыцый і новых пошукаў узнікае складанейшая і ціка-

вейшая задача зліцця камізму і публіцыстыкі — тое, што так прываблівала ў свой час У. Маякоўскага...

Калі параўнаць «Таблетку пад язык» з ранейшымі работамі А. Макаёнка (трагікамедыі «Трыбунал» і «Зацюканы апостал»), то можна заўважыць у ёй новую якасць. У трагікамедыях — не бытавыя становішчы наогул, а старанна распрацаваная бытавая дэталізацыя вобраза, напоўненасць яго нязначнымі, дробнымі (а па сутнасці — рашаючымі, калі гаварыць пра жыццёвую верагоднасць) дэталямі, штрыхамі і падрабязнасцямі, прыватнымі, адзінкавымі прыкметамі» («Театр», 1973, № 6, с. 49).

Большасць рэцэнзентаў схілялася да думкі, што цікавасць гледачоў падтрымлівалася вастрынёй праблем, якія асэнсоўваліся ў камедыі. Н. Бабачкіна ў артыкуле «Не толькі смешна» пісала:

«Нягледзячы на тое, што ў глядзельнай зале ўвесь час успыхвае смех, нягледзячы на мноства смешных і недарэчных сітуацый, многа сумнага адбываецца на сцэне. На самай справе — людзей у калгасе не хапае, а тут яшчэ з яго імкнуцца збегчы, і не толькі такія, як Іван Швед (А. Міронаў) — няўмека і балбатун, але і правая рука старшыні, камсамольскі сакратар Юрка — унук-завочнік дзеда Цыбулькі, і Тамара, сам Цыбулька гаворыць, што не супраць махнуць у горад...

Вострая складаная калізія паўстае за падзеямі, што паказаў Макаёнак. Так, канечне, рух сельскага насельніцтва ў горад — з'ява, якая не зараз узнікла і, канечне, прадукцыйнасць працы павінна павышацца пастаянна, навукова-тэхнічная рэвалюцыя павінна прыйсці на дапамогу сельскай гаспадарцы. Усё гэта бясспрэчна. Аднак жа хлеб зараз — сёння, заўтра, паслязаўтра — трэба сеяць і ўбіраць, трэба карміць і пеставаць зямлю, а калі кінуць яе безадказна, што ж будзе?» («Тэатральная жизнь», 1973, № 8, с. 9).

Крыху пазней А. Сабалеўскі, аналізуючы спектакль Тэатра сатыры, выказваўся ў такім жа плане.

«Рэжысёр В. Плучак, які паставіўся да п'есы з вялікай беражлівасцю, захоўвае ў спектаклі рэпартажную форму, але і не палікідае па-за ўвагай ніводнай узнятай аўтарам тэмы. Разам з тым, пазбягаючы вонкавага камізму, падкрэслівання смешных сітуацый, настойліва, цвёрдай рукою скіроўвае спектакль у сферу праблемнасці. Прытым з шэрагу праблем паслядоўна праводзіць адну, робячы яе галоўнай,— пытанне міграцыі моладзі з вёскі ў горад і прычыны гэтай міграцыі. Таму асобныя моманты ў п'есе, зусім не насуперак яе замыслу, набываюць нечаканае асвятленне» («Маладосць», 1977, № 10, с. 185).

В. Плучак недарэмна так настойліва вывучаў жыццёвыя праявы, якія абумовілі з'яўленне камедыі «Таблетку пад язык». Наведванні шматлікіх калгасаў, даверлівыя гутаркі з працаўнікамі сельскагаспадарчай вытворчасці, кансультацыі з эканамістамі ўзброілі яго канкрэтным веданнем матэрыялу з аднаго боку і грамадзянскім жаданнем дапамагчы вырашэнню некаторых праблем — з другога. Характэрнай асаблівасцю яго мастакоўскай пазіцыі пры пастаноўцы п'есы была аб'ектыўнасць. Менавіта таму ён не імкнуўся надаваць «становішча найлепшага спрыяння» ні аднаму з герояў. У кожнага свая праўда. І сваё права выказацца, паспрабаваць даказаць жыццёвасць уласнай пазіцыі. Сімпатычны ты сваімі грамадзянскімі патэнцыямі ці не, а дыскрымінацыі ў спрэчках можаш не баяцца.

Усеагульнае прызнанне ў спектаклі Тэатра сатыры атрымала работа Г. Менглета над вобразам Каравая. Знакаміты акцёр так ужыўся ў сваю ролю, што гледачы міжвольна ўспрымалі яго рэальным старшынёй калгаса, чалавекам яркім, самабытным, бязмежнага душэўнага багацця і дабрыні. Праўда, не ўсе акцёры цалкам зразумелі сутнасць п'есы, таму не здолелі падтрымаць той узровень сцэнічнага яе прачытання, які прапанаваў Г. Менглет.

«Ансамблевасць спектакля,— пісаў А. Саладоўнікаў,— галоўны доказ творчага разумення калектывам п'есы, а таксама вобразнай паэтыкі тэатра і драматургіі братняга народа.

Мне здаецца, што стройнасць ансамбля і паслядоўнасць акцёрскага ўвасаблення ідэі спектакля «Таблетку пад язык» А. Макаёнка парушаны і ў Маскоўскім тэатры сатыры. Што нажыта ў гэтым спектаклі глыбокім і тонкім выкананнем Г. Менглета ў галоўнай ролі Каравая, то з нейкай цыркавой бесшабашнасцю разбураецца эксцэнтрыядай С. Мішуліна, які іграе зусім не цэнтральную ролю раённага парыхтоўшчыка Скаромнага» («Театр», 1974, № 3, с. 8).

Цікава прачыталі «Таблетку пад язык» у тэатрах імя Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Рэжысёру Б. Луцэнку ўдалося стварыць дастаткова яркі спектакль, які зацікавіў гледача і акцёрскімі работамі і прафесіяналізмам раскрыцця мастацкіх асаблівасцей п'есы. Праўда, многія тэатразнаўцы лічылі, што ў коласаўцаў камедыя «Таблетку пад язык» прачытана больш пранікліва. Ставіў п'есу на сцэне тэатра імя Якуба Коласа рэжысёр А. Смелякоў.

Поспеху спектакля на віцебскай сцэне не магло не садзейнічаць тое, што А. Смелякоў, як і В. Плучак, доўга вывучаў побыт сучаснай вёскі, знаёміўся з яе людзьмі і іх праблемамі. Гэтае знаёмства пераканала, што п'еса А. Макаёнка актуальная, зрабіўшы ўсю пастановачную групу гарачымі саюзнікамі аўтара.

У артыкуле «І пасля закрыцця заслоны» тэатразнаўца У. Стэльмах пранікліва зазначыў: «Камедыя прывабіла акцёраў тэатра і яго маладога рэжысёра А. Смелякова і мастака А. Салаўёва не толькі тэмай, а і жывымі канфліктамі, яркімі вобразамі нашых сучаснікаў, людзей сённяшняй вёскі. У новай камедыі асноўныя драматургічныя падзеі нараджаюцца не з існуючых жанравых канонаў, а з самога жыцця. П'еса сагрэта жывым подыхам сучаснасці, насычана аптымізмам, любоўю да чалавека, да працы, якой ён жыве.

У сваёй рабоце над п'есай рэжысёр і асобныя акцёры былі дастойнымі сааўтарамі А. Макаёнка, узбагацілі вобразы драматурга сваёй творчасцю, зрабілі іх яркімі і пераканаўчымі. І заслуга ў гэтым перш-наперш асноўных выканаўцаў спектакля. Народны артыст БССР Ф. Шмакаў стварыў праўдзівы вобраз старшыні калгаса Каравая. Так, гэта сапраўдны кіраўнік калгаса, улюбёны ў сваю справу, а галоўнае — у людзей. Артыст пераканаўча і ў той жа час тонка, яскрава і самабытна раскрывае характар свайго героя...

Дастойным спадарожнікам і партнёрам старшыні з'яўляецца дзед Цыбулька. Ён, у выкананні народнага артыста БССР Я. Матусевіча,— вялікая ўдача спектакля і артыста» («Звязда», 1973, 8 чэрвеня).

Выкананне ролі дзеда Цыбулькі народным артыстам рэспублікі Іосіфам Антонавічам Матусевічам высока ацэнена і гледача-

мі, і тэатразнаўцамі. Сам аўтар п'есы лічыў віцебскага дзеда Цыбульку найлепшым з бачаных ім у тэатрах СССР.

«Глядзіш на гэтага каржакаватага дзеда,— піша А. Сабалеўскі,— якога доўгія гады і штодзённая нялёгкая праца прыгнулі да зямлі, сочыш за рухам натруджаных, мазолістых рук, за некалькі запаволенай размеранай паходкай, за яго пабляклымі ад часу, але па-маладому жывымі, дапытлівымі вачыма, і забываешся, што перад табой сцэнічны персанаж, больш таго, забываешся, што ты знаходзішся ў тэатры. І не можаш адарваць позірку — сцэнічны вобраз Матусевіча нібы прываражвае, поўнасцю прыкоўвае да сябе ўвагу...

З вялікім поспехам камедыя «Таблетку пад язык» прайшла на сцэнах многіх тэатраў братніх рэспублік. На Украіне адной з лепшых атрымалася пастаноўка ў Харкаўскім украінскім драматычным тэатры імя Т. Шаўчэнкі. Народны артыст СССР А. Сярдзюк адзначаны ў гэтым спектаклі Ганаровым дыпломам і прэміяй за ўзорнае выкананне ролі Уладзіміра Каравая. Ставіў спектакль рэжысёр П. Маразоўскі.

Сярод пастановак п'есы на сцэнах тэатраў народаў СССР крытыка адзначала таксама спектакль рэжысёра Абунаваса Гусейнава ў Аварскім музычна-драматычным тэатры імя Гамзата Цадасы. Гэта была першая сустрэча аварцаў з беларускай драматургіяй. Расул Гамзатаў высока ацаніў работу і драматурга, і тэатра. Ён, у прыватнасці, сказаў:

«Я ўважліва сачу за творчасцю вядомага беларускага драматурга. Яго камедыі «Трыбунал», «Зацюканы апостал», «Лявоніха на арбіце», «Таблетку пад язык» падабаюцца мне вастрынёй сюжэту, грамадскім гучаннем, каларытнасцю персанажаў. Спектакль мяне цалкам захапіў, і я шчыра радуюся поспеху Андрэя Макаёнка» («Звязда», 1976, 27 красавіка).

У 1974 годзе камедыя «Таблетку пад язык» была адзначана Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Якуба Коласа.

## КАШМАР (с. 59—110)

Камедыя напісана ў 1974 годзе. Упершыню пад назвай «Святая прастата» надрукавана ў часопісе «Полымя» (1976, № 2). На рускай мове публікавалася ў часопісе «Театр» (1976, № 4), выходзіла асобным выданнем (М., ВААП, 1976).

Хоць кожнай сваёй п'есай А. Макаёнак прывучаў крытыкаў, літаратуразнаўцаў, тэатразнаўцаў, шырокае кола чытачоў чакаць усё новых і новых мастацкіх эксперыментаў, аднак камедыя «Кашмар» многімі была прынята як нечаканасць, ледзь не сенсацыя. Ад драматурга, які прытрымліваўся жыццёвай верагоднасці, не спадзяваліся атрымаць п'есу з элементамі ірэальнасці. Непадобнасць творчай манеры нават у параўнанні з нетрадыцыйнымі п'есамі «Трыбунал» і «Зацюканы апостал» была відавочнай.

«Непадобнасць гэтая,— зазначала І. Шостак,— у выразна намечаным адыходзе ад бытавой манеры, у паступовай, але пэўнай канцэнтрацыі дзеяння вакол адной асноўнай фігуры героя, так што п'еса пры ўсіх яе адгаліноўваннях пачынае нагадваць монадраму.

Непадобнасць гэтая абумоўлена і выразна намечанай зменай праблематыкі драматургіі А. Макаёнка, асноўнай інтанацыі твор-

часці. Драматург усё больш падыходзіць да праблем філасофскіх, маральных, што маюць глабальнае значэнне.

Я зусім не хачу гэтым сказаць, што ўсё напісанае А. Макаёнкам да «Святой прастаты» менш значнае і цікавае. Зусім не. І «Трыбунал», і «Таблетку пад язык» — творы, у канчатковым выніку прысвечаныя праблемам філасофскім і маральным. Проста ў новай п'есе гэта відно больш выразна, больш ярка. І герой яе — Стары, які нечым нагадвае Цярэшку і дзеда Цыбульку, ужо іншы. Ён інакш глядзіць на свет, і іншыя праблемы ў ім яго займаюць. Ён хварэе душой не за штосьці сваё, асабістае, а за лёс чалавецтва, які стаў для яго асабістай бядой і душэўным горам. Як міфічны Атлас, што трымае на сваіх плячах увесь зямны шар, бярэ макаёнкаўскі Стары адказнасць за лёс чалавецтва і спрабуе паўплываць на будучыню. Як Праметэй даў людзям боскі агонь, герой п'есы спрабуе даць чалавецтву ў дарунак святую прастату наіўнай мудрасці для вырашэння самай складанай праблемы — збаўлення ад войнаў» («Полымя», 1976, № 11, с. 186).

Незвычайнасць камедыі адразу ж прыцягнула да яе ўвагу. Праўда, рэцэнзент «Литературной газеты» В. Панамароў сілу п'есы бачыў у яе традыцыйнасці. «Верны сабе,— пісаў ён,— Андрэй Макаёнак у «Святой прастаце» яшчэ раз прадэманстраваў сваю зайздросную здольнасць сумяшчаць даступную старому і малому, часам, магчыма, і занадта крута пасоленую бытавую гаворку сучаснай вёскі з бескампрамісна аголеным і глыбокім аналізам светлых і цёмных жыццёвых з'яў і праблем» («Литературная газета», 1976, 21 ліпеня).

Затое на чытачоўскіх канферэнцыях аўтару давялося выслухаць нямала гарачых слоў пахвалы менавіта за наватарства, менавіта за непрывычнасць мастацкай формы адлюстравання надзённых праблем сучаснасці. Побач з гэтым была і крытыка за залішнюю смеласць, вольнасць эксперыментатарства. У друку гэта палеміка адбілася слаба. Аўтарскую задуму крытыка бачыла ў выкрыцці імперыялістычнай ідэалогіі. «Цэнтральная ідэя п'есы «Кашмар», яе асноўны пафас,— чытаем мы ў Я. Усікава,— бязлітаснае выкрыццё ашалелай мілітарысцкай палітыкі імперыялістычных дзяржаў, сцвярджэнне міру і дружбы між народамі. Твор публіцыстычна завостран на асвятленні самай актуальнай праблемы сучаснасці — неабходнасці прадухілення тэрмаядзернай вайны, якая пагражае самому існаванню чалавецтва, знішчэнню жыцця на Зямлі» (Усікаў Якуб. Андрэй Макаёнак. Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1984, с. 102—103). Сам драматург прызнаваўся, што яму вельмі імпанавала крытычная трактоўка яго п'есы, зробленая тэатразнаўцай І. Вішнеўскай. «Зігзаг гратэска,— пісала яна,— мільгне і ў сатырычнай камедыі «Святая прастата». Маленькае беларускае сяло, сцэна дзеяння гэтай камедыі, раптоўна сыдзе з поля нашага зроку. Сяло сыдзе і замяніцца новай арэнай — самой планетай, самім зямным шарам, які стане круціцца пад нагамі не адных толькі герояў п'есы Макаёнка, але ўсяго чалавецтва. Праўдападобнасць зноў-такі парушыцца, але яна ўзнаўляецца ўсё тым жа ўнутраным сэнсам, да якога імкнецца сатырык Макаёнак. А ўнутраны сэнс камедыі будзе такі: усё, што здарылася ў маленькім беларускім сяле, мае непасрэдныя адносіны да ўсяго, што робіцца на неагляднай планеце. І наадварот — усё, што робіцца на неагляднай планеце, мае непасрэдныя адносіны да таго, што здарылася ў маленькім беларускім сяле. Неаглядная

наша планета стала цяпер куды меншай, зпікае яе неагляднасць, усё відаць паўсюдна, беларускія калгаснікі, стоячы на сваіх палях, бачаць, што робіцца і ў Ліване, і ў Чылі, і ў Аргенціне. Звузілася планета. Але расшырыліся сувязі людзей, і менавіта ў гэтым складаецца глыбінная ўнутраная праўдападобнасць фантасмагарычнай камедыі «Святая прастата» (Вишневская И. Комедия на орбите, с. 177—178). У 1976 годзе камедыя была пастаўлена тэатрам імя Янкі Купалы. Ставіў спектакль рэжысёр В. Раеўскі.

Спектакль купалаўцаў не ўзняўся да ўзроўню самой п'есы. Рэжысёрскі пралік быў абумоўлены аднабаковасцю сцэнічнага прачытання структурна і сэнсава вельмі складанага твора. «Насцярожанасць да сатыры,— разважаў крыху раней А. Макаёнак,— адбываецца ад няправільнага разумення функцый мастацтва, у тым ліку камедыі. Людзі хочуць бачыць у кожным творы мастацтва інструкцыю — любі тое, не рабі таго. А ў мастацтва ж зусім іншае прызначэнне» («Известия», 1973, 7 мая). На ўзроўні такога разумення і працавала пастановачная група ў тэатры імя Янкі Купалы, таму спектакль атрымаўся не так філасафічным, як дыдактычным. Дыдактычнасць жа адсутнічае ў п'есе.

Крытыка даволі стрымана ўспрыняла пастаноўку «Святой прастаты» ў купалаўцаў, пярэчачы супраць заземленасці трактоўкі вобразаў і сітуацый. Мела рацыю І. Вішнеўская, калі крытыкавала купалаўцаў за адсутнасць гратэсковасці. Сапраўды, у спектаклях па п'есе, у якой простыя савецкія калгаснікі становяцца прэзідэнтамі буйных капіталістычных краін, а сабакі ператвараюцца ў людзей, патрэбна адпаведная стылістыка.

У артыкуле «Не так усё проста» тэатразнавец Ю. Сохар разважаў: «Чаму застаецца пачуццё незадаволенасці, чаму «штосьці» ў спектаклі выклікае жаданне паспрачацца з рэжысурай? Справа вось у чым. Некалі А. Макаёнак нечакана вызначыў жанр «Трыбунала» наступным чынам: «трагікамедыя — лубок». Часцей за ўсё тэатры ўсё ж ігралі і іграюць трагікамедыю. «Лубок» не зусім арганічна і толькі ў асобных элементах пранікаў у рэжысёрскую палітру розных пастановак. «Святая прастата» ў аўтарскім вызначэнні «лубка» не прадугледжвае. Між тым, у сцэнах «сну» Старога акурат і адчуваеш усе прыкметы сацыяльна востарга, па-роднаму сакавітага лубка, палітычнага гратэску. А купалаўцы пераважна карыстаюцца прыёмамі звычайнай камедыі, трымаюцца за бытавое праўдападабенства нават у сатырычна завостраных партрэтах і сітуацыях. Часта міжволі думаеш: а магло ж здарыцца наадварот — Прэзідэнт сасніў бы, што ён стаў... Старым,— ці давялося б тады В. Раеўскаму і выканаўцам штосьці рашуча мяняць у спектаклі? Не вельмі многа! Жанравага дакладна вызначанага кірунку, на мой погляд, і не стае цяперашняй пастаноўцы «Святой прастаты» на сцэне купалаўцаў» («Літаратура і мастацтва», 1976, 3 снежня). Арэал пастановак камедыі не такі шырокі, як у папярэдніх творах А. Макаёнка, але яна з поспехам ішла на Украіне, у іншых саюзных рэспубліках. Удалай прызнавала крытыка пастаноўку «Святой прастаты» ў Калмыцкім тэатры імя Б. Басангава (рэжысёр В. Хатаншаў). Ролю Старога перакана́ўча выконваў А. Сасыскаў. «Стары-Прэзідэнт,— пісаў крытык Н. Ліджыеў,— адчувае сваю бездапаможнасць, ён поўны адчаю і смутку... У гэтым свеце, разумее ён, або трэба жыць па-воўчы, або трэба мяняць не прэзідэнтаў і міністраў, а ўсю сістэму, пабудаваную на эксплуатацыі чалавека чалавекам...

Гратэск, сарказм, гіпербала, якія паспяхова прымяняюцца рэжысёрам, мастаком і акцёрам, у так званым снабачанні Старо-га, дасягаюць прамой мэты — агаляюць глебу, на якой прара-стаюць прага нажывы, нянавісць і зло, прыгнечанне чалавека. А менавіта супраць гэтага і накіраваны спектакль Калмыцкага тэатра» («Театральное обозрение», 1978, № 2, с. 13).

«Кашмар» пісьменнік меркаваў дапрацоўваць. У гутарцы з карэспандэнтам «Литературной газеты» А. Казловічам ён гава-рыў: «Пакуль пісалася і рэпеціравалася п'еса «Святая прастата», на зямлі здарылася жахлівая падзея — з'явілася нейтронная бом-ба, самая вытанчаная прылада фізічнага знішчэння чалавека і ўсяго жывога. Несумненна, героі маёй п'есы, даведаўшыся пра нейтронную бомбу, крылатыя ракеты, павінны стаць больш палы-мянымі ў сваіх учынках, больш незгінальнымі перад вялікай бя-дой, якою пагражае ўзмоцненне гонкі ўзбраенняў. Вось гэта я і хачу зафіксаваць у новым варыянце п'есы» («Литературная газе-та», 1978, 25 студзеня).

## ПАГАРЭЛЬЦЫ (с. 111—164)

Трагікамедыя пісалася працяглы час. Прынамсі, першы яе варыянт, які называўся «З кірмашу», быў завершаны яшчэ ў 1967 годзе. Новую назву п'еса атрымала падчас рэпетыцый у тэатры імя Янкі Купалы. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (1980, № 2). Датуецца годам апублікавання. У скарочa-ным варыянце друкавалася ў часопісе «Беларусь» (1980, № 2). На рускай мове апублікавана ў часопісе «Театр» (1980, № 2).

Ацэнка ўсіх без выключэння твораў А. Макаёнка ніколі не была аднадушнай. Асабліва ж рэзка разышліся думкі аб трагі-камедыі «Пагарэльцы». Гэта выявілася ўжо на прыёмцы спектак-ля мастацкім саветам у тэатры імя Янкі Купалы. Праўда, Іван Шамякін не вельмі дакладны, калі піша: «Прыгадваю мастацкі савет Купалаўскага тэатра, які прымаў спектакль «Пагарэльцы». Усе таленавітыя акцёры, усе драматургі выказаліся за спектакль, безумоўна, з канструктыўнымі заўвагамі, парадамі. Група крыты-каў наладзіла «суд» над п'есай, спектаклем, аўтарам. Баючыся за Андрэя, за яго крывяны ціск і сэрца, я не адзін раз, што, па майму характару, мне не ўласціва, недалікатна перапыняў гэтых крытыкаў. Шкадую, што не вялася стэнаграма таго шасцігадзін-нага абмеркавання. Самая канфліктная драма нашага часу! Па-стаўленая на сцэне нават у скарочаным выглядзе, яна мела б грандыёзны поспех» («Маладосць», 1974, № 1, с. 43).

Сапраўды, абмеркаванне было надзвычай гарачым, і з яго магла атрымацца някепская п'еса-дыспут (дарэчы, выступленні пратакаліраваліся). Недакладны І. Шамякін тады, калі «заганяе» крытыкаў у адну «групу». Па-першае, літаратурныя крытыкі на гэтым мастацкім савеце горача падтрымалі і спектакль, і п'есу. Па-другое, і тэатральныя крытыкі не ішлі адзіным фронтам. Г. Колас, напрыклад, у сваім выступленні аднёс спектакль да най-лепшых работ купалаўцаў апошніх пяці год, а п'есу — да прын-цыповых удач усёй беларускай драматургіі.

Высокая ацэнка трагікамедыі неаднаразова гучала і са старо-нак друку. Літаратуразнавец Я. Усікаў пісаў: «Пагарэльцы» — вострая сатырычная камедыя, у якой, бадай, з найбольшай сілай

раскрыўся драматургічны талент А. Макаёнка. Твор выкрывае загапную антыграмадскую з'яву, якая заўважалася ў мінулым. З лёгкай рукі А. Макаёнка ў беларускай літаратуры яе ахрысцілі ўхватаўшчынай — па імені галоўнага сатырычнага персанажа п'есы Ухватава.

Напісанне твора, як і асэнсаванне маштабаў дзейнасці і ступені актыўнасці ўхватавых у жыцці, стала магчымым дзякуючы XX з'езду КПСС (1956), на якім была прынята пастанова «Аб пераадоленні культу асобы і яго вынікаў». П'еса А. Макаёнка стала, такім чынам, сацыяльным заказам часу: павінна была садзейнічаць пераадоленню ў жыцці часовых цяжкасцей, няўдач, памылак, што прынёс з сабой культ асобы, якія, аднак, «не змянілі прыроду сацыялізму» (БелСЭ, т. 6, с. 189). Сваім творам драматург сцвярджае: ухватаўшчына аджыла свой век, з яе можна цяпер удосталь пасмяяцца» (Усікаў Якуб. Андрэй Макаёнак. Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1984, с. 110—111).

З гэтым меркаваннем Я. Усікава можна цалкам пагадзіцца ў яго характарыстычнай частцы. А вось рэзюме патрабуе ўдакладнення. А. Макаёнак ніколі не ўзяўся б за напісанне п'есы, калі б ведаў, што «ўхватаўшчына аджыла свой век». Навошта? Толькі дзеля таго, што «можна цяпер удосталь пасмяяцца» з яе? А які ў тым сэнс? Смех дзеля смеху ніколі не прываблівау драматурга. Макаёнкаўскую сатыру якраз і цанілі за тое, што яна атакавала недахопы, перажыткі і з'явы рэальныя, з непасрэднай, канкрэтнай — менавіта для часу стварэння п'есы — шкоднай патэнцыяльнасцю.

Так, у фінале п'есы мы бачым Ухватава пенсіянерам. Абшарпаным, змізарнелым, нягледзячы на ўсе спробы захаваць годнасць, былую пыху. Як гукаеш, так і адгукваецца. Пакуль Хведар Паўлавіч быў на кані, яго хаўруснікі служылі верай і праўдай. Але настаў час, калі гэты конь павёз іншага, і Ухватаў напоўніцу сербануў бюракратычнай поліўкі, якую выварваў доўгія гады. Замест вырашэння ў прынцыпе дробязнага пытання абмену адной пяціпакаёвай кватэры на дзве двухпакаёвыя, якое былыя падначаленыя маглі б зняць адным росчыркам пяра, атрымаў здзеклівую адмову і — інфаркт.

Ды справа ў тым, што са смерцю хведараў паўлавічаў ухватаўшчына не знікла. І нас не павінны ўводзіць у зман той факт, што ў сённяшняй рэчаіснасці адсутнічаюць прадумовы для з'яўлення новых развалін і друзу, на якіх маглі б укараніцца новыя ўхватавы. Ухватаўшчына — з'ява пошасная. Сам-то ён звалены, як гаворыцца, пад корань, але ж ля струхлелага пня звычайна з'яўляюцца маладыя парасткі. Адной з ім «пароды», такога ж гатунку — з-пад асінавага пня бярозы не вырасце. Зрэшты, драматург у другой дзеі п'есы недвухсэнсоўна ўказвае на гэта. Выводзіць пад святло рампы і непасрэднага духоўнага пераемніка Ухватава: на гэты раз за калясніцу ўдачы спрабуе ўхапіцца нехта Гарык, пляменнік Бусько. І такі настыра ўхопіцца, уладкуецца ў жыцці з патрэбным яму камфортам, бо валодае здольнасцю, якой нават Ухватаў не меў,— на чужых плячах уязджаць у рай. Гэты ўжо не будзе чакаць шчаслівага выпадку, які вынесе яго на высокай хвалі жыццёвага поспеху. Хоць і працуе ён інжынерам-будаўнікам (дакладней, атрымлівае грошы за такую пасаду), аднак па адукацыі з'яўляецца заатэхнікам, таму ведае лёс адзінаццатага парасяці, якому не хапіла саска. Ведае і хапае...

Да гонару купалаўцаў, яны не сталі прыніжаць рэальнай небяспекі ўхватаўшчыны. І наогул спектакль у іх атрымаўся несумненна ўдалым. Яркім, сатырычна шматфарбным, эмацыянальна выбуховым, вострым у сваіх высновах. Ставіўся спектакль рэжысёрам Г. Уладамірскай пад кіраўніцтвам В. Раеўскага.

І публіка, і крытыка вельмі высока ацаніла бадай што ўсе акцёрскія работы ў спектаклі «Пагарэльцы». Многа цёплых слоў было сказана ў адрас Г. Гарбука і Г. Аўсяннікава. Асабліва ж уразіў усіх В. Тарасаў у ролі Ухватава.

«Пры першым з'яўленні Ухватава на сцэне (нават пры паўторных праглядах спектакля!) ловіш сябе на думцы,— пісаў рэцэнзент,— што не такім, у чымсьці іншым павінен быў выглядаць ён. Гэтае ўражанне, мусіць, ад папярэдняй характарыстыкі героя, якую дае яму жонка:

«Мой Федзя быў цішэй вады, ніжэй травы. Ні з кім не сварыўся, нікому дарогу не перайшоў. Ён сам баяўся крытыкі і нікога не крытыкаваў. Былі ўсякія дыскусіі і дыспуты, дык ён жа ўцякаў ад іх. Можа, я не тое кажу пра яго... Але ж якая ад яго шкода? Калі дзе-небудзь галасавалі, ён жа ніколі першы рукі не падымаў. Прыглядаўся: як усе, так і ён. З начальствам ніколі ў дыбкі не станавіўся. Нікому не пярэчыў. Ніякай хулы ад яго не чула. Нават цяпер, калі...— Уздыхае і маўчыць.— Увесь пасівеў».

Тут вельмі пэўная «заяўка» на вобраз. І калі на сцэну выходзіць гэтакі самаўпэўнены чыноўнік, з жалезным волевыяўленнем, то... За адну ноч людзі не мяняюцца. Ну, няхай Хведар Паўлавіч са сціплай пасады інструктара пераскочыў у крэсла старшыні гарвыканкома — усё роўна той, хто ўцякаў ад дыскусій, хто ніколі першы рукі не падымаў (калі толькі ён не ніцы хітрун), за адзіную ноч другую натуру набыць не мог. Аднак акцёр вельмі хутка пераконвае, што мог. Мог, бо не бывае безаблічных людзей, бываюць шматаблічныя. І мазахіста можна разглядаць як нявыспелага садыста, у ідалапаклонніку заўсёды тлее неўсвядомленая мара ўпадобіцца бажаству. І гора, калі ідалапаклоннік становіцца нават не богам, а бажком.

Акцёр добра разгледзеў «свінцовую» патэнцыяльнасць Ухватава.

Ёсць у спектаклі сцэна, якую, дарэчы, В. Тарасаў і Л. Давідовіч (жонка Ухватава — Раіса Якаўлеўна) праводзяць з бляскам. Ходзіць, мітусіцца на сцэне Хведар Паўлавіч і пакутліва думае, як яму ўгрунтавацца на новай пасадзе. Рознае мроіцца ў галаве. Быць яму бажком, але якім? Мысленна прымервае некалькі масак — якая падыдзе? Яго імкненне такое: «Цяпер мне толькі правільную лінію намацаць. (Устае, ходзіць на пакоі.) Правільны арыенцір знайсці... Я — хто? Старшыня выканаўчага камітэта. Вы-ка-наў-чага! Во дзе мой корань. Выканаўчы!.. Калі трэба, скажуць. Я ўсё перавярну дагары нагамі, я ўсё перавярну!..»

Такі пераверне... Толькі скажа яму начальства — і зробіць. Не папытаўшы. Не падумаўшы. У тэатры гэта сцэна спачатку ажыўляе залу — непамысна, па-блазенску паводзіць сябе ўсё ж гэты «выдзвіжэнец». Потым, пад канец сцэны, смех замярзае ў хола́дзе здагадкі: не, не смешны, а страшны чалавек гэты Хведар Паўлавіч. Вельмі не бяскрыўдная гатоўнасць яго бяздумна крышыць, варочаць усё, пра што скажуць» («Літаратура і мастацтва», 1982, 4 чэрвеня).

Г. Колас лічыць, што работа над вобразам Ухватава была для

В. Тарасава «эскізным подступам да гогалеўскай фантастычнасці», дапамагла яму неардынарна ўвасобіць Гараднічага ў «Рэвізоры». Адзначаючы майстэрства акцёра, крытык працягвае: «Самнамбула ператвараецца ў антычалавека. Так нас знаёміць са сваім Ухватавым Тарасаў, пачаўшы ролю з апагея ледзь не клінічнай эпатажнасці.

У эпілогу ён ужо на пенсіі. Прыйшоў у тую ж установу, якую ўзначальваў доўга-доўга, дзе пападсаджваў у крэслы сваіх хаўруснікаў. Ён прыйшоў па вельмі простаму пытанню, а хаўруснікі пускаюць ранейшага куміра разам з тым пытаннем на канвеер, праз які ад чалавека застаецца толькі гліна. У вачах Тарасава-Ухватава мы бачым жах: і стогн, і боль, і енк, і гнеў, і абурэнне. Як?! Чаму?! Чаму?! За што?! Ён будзе непрыгожы. Але разам з тым нам будзе крышачку шкада яго, Ухватава. Чаму — шкада? Бо так напісана Андрэем Макаёнкам: над паміраючым Ухватавым гучаць са спачувальным наракапнем і дакорам развітальныя пытанні, без адказу на якія чалавек не можа называцца Чалавекам, калі ён пражыў жыццё, не ставячы іх сам перад сабою, без іх пакутлівага покліччу: чым можа стацца кожны твой учынак для цябе, для тваіх дзяцей і ўнукаў, для людзей — назаўтра і праз дзесяць год, праз дваццаць, ці не будзе табе сорамна...» («Маладосць», 1984, № 1, с. 159—160).

Трагікамедыяй «Пагарэльцы» А. Макаёнак накрэсліваў новыя напрамкі пошукаў выразных, арыгінальных фармальна-выяўленчых драматургічных прыёмаў.

## ВЕРАЧКА (с. 165—211)

Камедыя напісана ў 1979 годзе. Упершыню ва ўрыўках друкавалася ў часопісе «Вожык» (1979, № 21). На рускай мове пад назвай «Не журыся, Верачка!» апублікавана ў часопісе «Неман» (1980, № 3), а таксама выходзіла асобным выданнем (М. ВААП-информ, 1980).

Пра задуму гэтай сваёй п'есы А. Макаёнак расказваў на старонках «Театральной жизни» наступнае. «Мне ў маёй новай п'есе «Верачка» хацелася расказаць сапраўдную гісторыю, у аснове якой ляжыць факт з маёй дэпутацкай практыкі. Некалькі гадоў назад я атрымаў пісьмо ад адной пажылой мінчанкі з просьбай прапісаць у яе кватэру ўнучку. Выпадак быў не просты. Для прапіскі не было законных падстаў, таму жанчыне і адмовілі ў просьбе. Але пісьмо мяне кранула. Лёс адзінокага старога чалавека — аўтара пісьма, які страціў на вайне трох сыноў, хваляваў і прымушаў ісці і шукаць ёй дапамогу. Менавіта тады я і падумаў: што ж гэта я сяджу, выдумляю, калі вось ён — канфлікт, маральная аснова якога — дэфіцыт дабрыні, спачування, ласкі» («Театральная жизнь», № 4, с. 21).

Гэта, бадай, самая «нечаканая» ў творчасці А. Макаёнка п'еса. Драматург свядома, падкрэслена пэўна ўзяў курс на паказ герояў, у аснове адносін якіх — «праўдзівыя, добрыя, сапраўдныя пачуцці», вывеўшы іх на сцэну без гучных слоў, яркіх дэкарацый. Нездарма ж нават у праграму спектакля ў тэатры імя Янкі Купалы былі ўнесены наступныя словы ад аўтара: «У наш суровы век стала асабліва адчувацца патрэба ў такіх чалавечых якасцях, як чуласць, дабрыня, сардэчнасць, спагадлівасць, душэўная цеплыня і брацкая гатоўнасць дапамагчы бліжняму.

Выхаванне такіх маральных вартасцей — няспынны клопат нашага грамадства.

Зберагчы ў чалавеку дзіцячую чысціню, далікатнасць, ласкавасць, добразычлівасць і міласэрнасць — справа нялёгкая і больш важная, чым, скажам, адкрыццё новых планет. Стварэнне новага чалавека, чалавека камуністычнага грамадства, пачынаецца з малога — насеву ў душы ветлівасці, скромнасці, шанавання старэйшых, павагі да калектыўных інтарэсаў, вернасці ідэалам справядлівасці — ідэалам нашых бацькоў».

Танальнасць усіх п'ес драматурга, як правіла, выбуховая, пафас — атакуючы, наступальны. А ў «Верачцы», асабліва ў пачатку камедыі, пануе сцішанасць, мудрая ўраўнаважанасць пачуццяў. Сапраўды, галоўная гераіня п'есы Арына Радзівонаўна са спакоем, уласцівым пажылым людзям, успрымае ўсе жыццёвыя нягоды. Часам нават здаецца, што яе цярплівасць перарасла ў цярпімасць. Але ўражанне гэта падманлівае. Няма ў гераіні фатальнай прымірэнасці з жыццём, а тым больш — талерантных адносін да негатыўных яго праяўленняў. Проста яе зброя — дабро. У канчатковым жа выніку аказваецца, што такая зброя не менш эфектыўная за іншыя. Дабром перамагае Арына Радзівонаўна і сваіх нядобразычліўцаў, і бюракратаў-кручкатвораў, і ўласную немач.

Аб'ектыўныя асаблівасці характару галоўнай гераіні абумовілі спецыфіку структуры канфлікту ў творы. Арына Радзівонаўна фармальна і рэальна звязвае, замыкае на сабе ўсе канфліктныя повязі, хоць асабіста ў рэзкія сутыкненні не ўступае. У папярэдніх творах драматурга канфлікт вырашаўся зусім панашаму. Гэтая акалічнасць напачатку і не дазволіла па справядлівасці ацаніць п'есу. У большасці першых крытычных водгуках прачытваецца яўная разгубленасць. Драматург Л. Караічаў, напрыклад, пісаў:

«Твор гэты ў многім не падобны на папярэднія п'есы драматурга. Тут няма ні вострага сюжэту, ні нечаканых паваротаў надзей, ні супярэчлівых сітуацый, якія б можна было трактаваць па-рознаму. Тут усё проста. Але не спрошчана. Ды і сам драматург, нібы апярэджваючы наступальны парыў розных папрокаў, вызначыў жанр твора як сентыментальны фельетон. А калі так, то і разглядаць п'есу і спектакль трэба з гэтай пазіцыі. Не шукаем жа мы ў фельетоне тое, што павінна быць у аповесці ці рамане» («Звязда», 1982, 16 красавіка).

Падобным чынам выказваліся і многія іншыя рэцэнзенты. У падтэксце гэтых выказванняў прачытвалася недаўменне: як гэта такі вопытны драматург, які заўсёды ўздымаў вялікія сацыяльныя тэмы, апусціўся да дробязных калізій прапіскі ў кватэру пенсіянеркі Арыны Радзівонаўны ўнучкі Верачкі? Толькі пазней спахапіліся: п'еса ж не пра гэта!

«У цэнтры ўвагі п'есы «Верачка»,— пісаў Я. Усікаў,— маральна-этычная праблематыка: пытанні дабра і зла ў іх сучасным разуменні. Маральна-этычнай накіраванасцю п'есы абумоўлены выбар сюжэта, сістэма вобразаў, кампазіцыя, моўна-выяўленчыя сродкі. Гэтай жа мэце падпарадкаваны і своеасаблівы лірыка-філасофскі пралог, слова ад аўтара...

Па зместу, па спосабах тыпізацыі, па жанравай адметнасці «Верачка» — лірычная камедыя са значным сатырычным элементам. Сінтэз лірыкі і сатыры — адна з істотных мастацкіх асаблі-

васцей твора. Адсюль такі нязвыклы, крыху нават парадаксальны падзагаловак: «Сентыментальны фельетон». Ён якраз і вызначае жанравую спецыфіку п'есы...

Драматург па-майстэрску, на высокім прафесійным узроўні выкарыстаў у «Верачцы» кольцавую кампазіцыю, у адпаведнасці з якой фінальная сцэна паўтарае, праўда, у новым варыянце, пачатак п'есы, развязка вар'іруе завязку. Нечаканым з'яўленнем міліцыянера, які імкнецца выявіць незаконна пражываючую асобу ў кватэры бабусі, пачынаецца камедыя, і прыходам таго ж міліцыянера, што прыносіць другую вестку пра дазвол на прапіску, заканчваецца камедыя» (Усікаў Якуб. Андрэй Макаёнак. Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1984, с. 122, 129, 130).

Упершыню камедыю «Верачка» паставіў Брэсцкі абласны драматычны тэатр імя ЛКСМБ. У гутарцы з карэспандэнтам газеты «Заря» галоўны рэжысёр тэатра заслужаны артыст БССР С. Яўдошанка сказаў:

«Так, гэта далёка не радавая падзея ў жыцці нашага калектыву — даць сцэнічнае жыццё новай камедыі такога вядомага і паважанага аўтара, як Андрэй Ягоравіч Макаёнак. Ён даверыў нам сваю арыгінальную п'есу «Верачка», і мы ў час работы над ёй пастаянна адчувалі яго ўвагу і падтрымку. Нам дапамагалі яго парады, вялікі вопыт, якім ён дзяліўся і з пастановачнай групай, і з акцёрамі, занятымі ў спектаклі, прысутнасць яго на рэпетыцыях, сустрэчы з калектывам... Рэжысёр спектакля Таісія Белічэнка. Сцэнаграфія — лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, заслужанага дзеяча мастацтваў Казахскай ССР Васіля Галубовіча, музычнае афармленне — Анатоля Куўшынава» («Заря», 1979, 2 лістапада).

Водгукі на спектаклі Брэсцкага драмтэатра ў асноўным былі станоўчымі. Гледача зацікавілі сюжэтныя перыпетыі п'есы, закрануў жыццёвы лёс яе герояў. Прывабнасць спектакля выводзілася з праўдзівасці драматургічнага матэрыялу, пакладзенага ў яго аснову. Рэцэнзент І. Аграноўскі пісаў:

«Цяжкі для сцэнічнага спасціжэння сам жанр п'есы, які вымагае творчага сінтэзу, каштоўнага сплаву, узаемапранікнення лірычнага і крытыка-сатырычнага ў п'есе, а значыць і ў спектаклі. Рэжысуры ўдалося ўвасобіць на сцэне гісторыю, якую расказаў аўтар.

Гісторыя гэта не такая ўжо рэдкая... Гэты выпадак не выдуманы. Ён узяты драматургам... проста з глыбінь штодзённасці. Нібыта элементарны выпадак робіцца прадметам сур'ёзнага сцэнічнага дыялогу з гледачом пра сэнс нашага быцця, пра лёс і характары нашых савецкіх людзей і ў першую чаргу пра цікавейшую дзяўчыну Верачку, загалоўную ролю якой іграе артыстка А. Сідарава...

Жыве ў спектаклі добрая думка пра высокія прынцыпы нашай камуністычнай маралі, няўхільных правілах нашага сацыялістычнага жыцця, светлых законах шчырага добрасуседства» («Заря», 1979, 24 лістапада).

У тэатры імя Янкі Купалы камедыю «Верачка» ставіў вядомы маскоўскі рэжысёр Яўген Радамысленскі, які ў свой час на сцэне Тэатра сатыры ажыццявіў бліскучую пастаноўку «Зацюканага апостала». Пра тое, чым зацікавіла яго камедыя «Верачка», рэжысёр сказаў наступнае:

«Няцяжка пераканацца, што кожная п'еса Макаёнка — гэта

пастаноўка вострых, злабадзённых пытанняў. Але пытанні гэтыя не вузкага, так сказаць, мясцовага значэння. Па сваіму гучанню, значнасці яны набліжаюцца да праблем часу, што хвалююць не асобнага чалавека, а многіх людзей. Не могуць не хваляваць, таму што драматург гаворыць пра тое, чым жывём мы. Адначасова ён падказвае, як трэба жыць, да чаго трэба імкнуцца.

А яшчэ — што таксама немалаважна — Андрэй Макаёнак любіць чалавека. Любіць, хоць многія яго героі далёка не станоўчыя і далёка не ідэальныя. Але любоў гэта таго асаблівага складу, калі драматург і недахопы ў паводзінах, характарах людзей раскрывае для таго, каб чалавек станавіўся лепшым. Каб імкнуўся ён да большага. Каб ніколі не замыкаўся ў коле толькі сваіх, асабістых інтарэсаў. Каб бачыў побач іншых людзей.

З Макаёнкам заўсёды вельмі цікава. Ён умее неяк адразу сваю энергію, сваю неўтаймавальнасць і заклапочанасць перадаць субяседніку. Да яго хочацца прыслухоўвацца, з ім хочацца раіцца («Вячэрні Мінск», 1982, 3 красавіка).

Ролі выконвалі: Арына Радзівонаўна — народная артыстка БССР С. М. Станюта; Верачка — А. Ю. Сідарава і А. Ф. Іваннікава; Тамара Паўлаўна — народная артыстка БССР М. Г. Захарэвіч і заслужаная артыстка БССР Т. І. Нікалаева; Маня — Г. Ф. Бальчэўская і Г. І. Фёдарава; Ганна Ісакаўна — заслужаная артыстка БССР Т. Н. Аляксеева і М. А. Громава; Прокусаў — народны артыст БССР Г. М. Гарбук і заслужаны артыст БССР У. М. Рагаўцоў; участковы міліцыянер — А. Ф. Гарцуеў і А. С. Лабуш.

Крытыка высока ацаніла спектакль купалаўцаў.

«Пры гэтым, у зале няма раўнадушных. Такога паяднання залы і сцэны, вядома ж, нельга было б дасягнуць, калі б п'еса выглядала газетным фельетонам. Якраз жа ёсць у ёй значная мастацкая патэнцыя, якая выяўляецца перш за ўсё праз вобразы, праз іх узаемадачыненні — Арына Радзівонаўна, вобраз якой хораша, натуральна, у арганічным суладдзі з індывідуальнымі асаблівасцямі характару сваёй гераіні ўвасабляе С. Станюта...

З глядзельнай залай актрыса наладжвае самы цесны кантакт і не губляе яго ад першай да апошняй сцэны. Глядач адразу ж робіцца саюзнікам гераіні С. Станюты. Ён смяецца, калі ёй весела, калі яна, бы малое дзіця, сваволіць з Верачкай... Уся яе істота нібы выпраменьвае добразычлівасць, спагаднасць, жаданне дапамагчы кожнаму, кожнага зразумець. А колькі паэзіі ў яе адносінах з Верачкай! Ці не гэтыя адносіны найбольш прываблівають эмацыянальную ўвагу гледача? Тым больш што ў асобе А. Сідаравай, дэбютанткі на купалаўскай сцэне, С. Станюта знайшла дастаткова ўмелага партнёра» («Літаратура і мастацтва», 1982, 4 чэрвеня).

В. Дзюбінская адзначала пастановачную культуру спектакля купалаўцаў, падрэсліваючы пры гэтым арыгінальнасць драматургічнай першакрыніцы. «Слова «сентыментальны», дададзенае аўтарам для ўдакладнення жанру «Верачкі»,— сцвярджала яна,— выбрана не без намеру. Яно для тых, хто прывык адносіцца да жыццёвых нягод, бытавых цяжкасцей,— калі, вядома, іх асабіста яны не датычацца — высакамерна. А. Макаёнак нібы спяшаецца апярэдзіць сваіх мяркуемых апанентаў і першым вымаўляе менавіта тое слова, якое яны для яго падрыхтавалі. Для тых, для каго «сентыментальны» — ледзь не лаянае слова, аўтар у прадмове да п'есы піша аб надзённай патрэбе «ў такіх чалавечых якасцях, як спагадлівасць, дабрыня, таварыская падтрымка, братняя гатоў-

насць дапамагчы бліжняму, уважлівасць, сардэчнасць, далікатнасць і душэўная цеплыня паміж людзьмі». Ён не баіцца паказацца сентыментальным — куды страшней бяздушнасць і абыякавасць» («Театр», 1982, № 6, с. 23.).

Крытык Г. Колас цаніў п'есу і спектакль за неардынарнасць мастацкага спасціжэння жыццёвага матэрыялу. У артыкуле «Дабро і гумар» ён пісаў:

«І бруд, і чысціня ў спектаклі паўстаюць не ў трафарэтных упакоўках папяровых уяўленняў, а струменяць, як крынічная вада, выносячы з сабою леташняе церушынне і не трацячы ад гэтага ні свежасці, ні смаку. Менавіта гэтую ўласцівасць і адчуў у п'есе заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР Я. Радамысленскі, якога запрасіў Купалаўскі тэатр на пастаноўку «Верачкі» (для рэжысёра гэта ўжо другая творчая сустрэча з Макаёнкам — у ягонай пастаноўцы на маскоўскай сцэне больш за дзесяць гадоў ідзе «Зацюканы апостал»). У катэгорыю дабра Я. Радамысленскі ўключае ўсе пералічаныя аўтарам ва ўступе да камедыі станоўчыя ўласцівасці: уважлівасць, сардэчнасць, чуласць, цеплыню, спагадлівасць і далікатнасць, «і гэтак далей», але ён разам з аўтарам сцвярджае, што стэрыльнага дабра не існуе, і не заўсёды тое, ад чаго мы можам атрымаць карысць,— дабро, а бескарыснае — нішто» («Беларусь», 1982, № 6, с. 26).

У 1985 годзе калектыў тэатра імя Янкі Купалы гастраліраваў у Сібіры, на Омшчыне. У гастрольнай афішы была і камедыя «Верачка», якая атрымала самы цёплы прыём у гледачоў-сібіракоў.

## ДЫХАЙЦЕ ЭКАНОМНА!.. (с. 212—268)

Трагікамедыя завершана ў 1982 годзе. Друкавалася ў часопісе «Беларусь» (1983, № 9—10). На рускай мове апублікавана ў альманаху «Современная драматургия» (1983, № 1).

Захавалася аўтарскае прызнанне аб задуме гэтай камедыі: «Нядаўна скончыў работу над п'есай ■ трохі дзіўнай назвай «Дыхайце эканомна!..». Нарадзілася яна такім чынам. У 1965 годзе я ў складзе беларускай дэлегацыі браў удзел у сесіі ААН у Нью-Йорку. У той самы час у сталіцы Злучаных Штатаў праходзіла гіганцкая прамысловая выстаўка, якая сваім размахам рабіла проста ашаламляльнае ўражанне.

Але больш за ўсё мяне зацікавіў адзін экспанат у амерыканскім сектары. Гэта было надземнае бамбасховішча на выпадак атамнай вайны коштам 1 мільён 220 тысяч долараў. Калі мы ішлі па прыступках уніз, я звярнуў увагу на белы лісток паперы, прымацаваны кнопкай да сцяны. «Дыхайце эканомна!..» — заклікаў нас лісток... Бамбасховішча ўяўляла сабой цудоўны дом, у якім мог размясціцца цэлы каледж. Запасаў прадуктаў і іншых жыццёвых рэсурсаў у гэтым доме было, як сказаў нам гід, разлічана на 20 год. Я пераходзіў з аднаго пакоя ў другі, за акном электрычнасць імітавала дзень, потым заход сонца, потым зорнае неба, і задума новай п'есы нараджалася літаральна на вачах. Тут у мяне з'явілася думка напісаць пра тое, як у час атамнай вайны ў такое ж самае бамбасховішча трапляе амерыканская эліта, якая і тут працягвае жыць на аснове прынцыпаў недатыкальнасці прыватнай уласнасці і свабоды прадпрымальніцтва. Наверсе, на зямлі, гіне чалавецтва, а тут, вядома, ідзе бойка за ўладу, развіццё цывілізацыі па спіралі паўзе ўніз...

П'еса мяне захапіла, і я стаў пісаць яе проста ў Нью-Йорку. Але потым, праз пэўны час, пачаўся працэс разрадкі, палепшыліся нашы адносіны з Амерыкай, і я вырашыў, што гэтая мая п'еса страціла актуальнасць. Але час, на жаль, мяняецца.

Свет зараз знаходзіцца на краі катастрофы. Сёння кожную мінуту на Захадзе на ўзбраенне ідзе 50 мільёнаў долараў. І за ўсім гэтым стаяць канкрэтныя людзі, чымі ўчынкамі кіруе імкненне да масавага знішчэння цэлых народаў. І мне здаецца, што вось пра гэтых людзей мы яшчэ мала гаворым і пішам, а больш за ўсё прыкрываемся агульнымі тэрмінамі «ваенна-прамысловы комплекс», «мілітарызм», «транснацыянальныя карпарацыі» і гэтак далей» («Літаратура і мастацтва», 1985, 5 ліпеня).

Вось гэтае ўменне разгледзець за агульнымі злавеснымі тэрмінамі «мілітарызм», «ваенна-прамысловы комплекс» і г. д. з'явілася асноўным каталізатарам мастацкасці, яўна публіцыстычны матэрыял п'есы драматург здолеў пераплавіць у змястоўныя, пераканаўча-верагодныя мастацкія вобразы. Задумваючыся над формамі эстэтычнай тыпізацыі ў трагікамедыі «Дыхайце эканомна!..», Іван Шамякін прыйшоў да заключэння:

«Ёсць два тыпы людзей: адны ад факта ідуць да высновы, вываду, узвышаюцца да абагульнення, іншыя ад агульнай думкі, часам чужой, запазычанай, спускаюцца асцярожна ці імкліва, як па лесвіцы ці па канату, уніз да факта. Па сваіх чалавечых якасцях і ў той і ў другой катэгорыі бываюць людзі самыя розныя, разумныя і не вельмі, добрыя і злыя.

Мне здаецца, Андрэй (ды і сам я), а магчыма, што і многія творчыя людзі, адносяцца да нейкага трэцяга тыпу, прамежкавага. У жыцці мы — адны, у творчасці — іншыя. У палітычных філасофскіх разважаннях Андрэй часцей за ўсё ішоў ад факта, эпізоду, здарэння. У творчасці — нярэдка ад філасофіі жыцця.

Часам мне здавалася, што замысел яго ідзе ад ідэі, якую ён колькі дзён назад развіваў, і сітуацыі адарваны ад рэальнай глебы. А пачне пісаць — і ўсё становіцца на трывалы грунт, нават такія, на першы позірк, «сачынёныя» рэчы, як «Святая прастата» ці апошняя камедыя «Дыхайце эканомна!..».

Здаралася і ў мяне, што «імпульсам» была агульная думка («напісаць бы вось пра гэта!»), але пасля я шукаў рэальную аснову — характары, асяроддзе, час, фон, «сачыняў» толькі сюжэт. Андрэй умеў сачыняць і герояў. Думаю, што гэта вышэйшая адзнака мастацкай натуры» («Маладосць», 1984, № 1, с. 17—18).

Сапраўды, у п'есе героі з'яўляюцца чыстым плёнам аўтарскай фантазіі. Праўда і тое, што ўсе яны не адарваны ад верагоднасці, стаяць на трывалым грунце рэалістычнай мастацкай тыпізацыі, а таму атрымаліся стэрэаскапічна выразнымі, сацыяльна пазнавальнымі. Як жа дасягаў драматург такога мастацкага эфекту? Ды справа ў тым, што «сачынёнасць» вобразаў трагікамедыі «Дыхайце эканомна!..» вельмі адносная. Не трэба быць залішне праніклівым, каб, прыняўшы аўтарскую ўмоўнасць, зразумець калізіі-паралелі гістарычнага зместу. Ужо сам спіс дзейных асоб беспамылкова арыентуе на накірункі аўтарскай задумы. Апрача Біма, Крошкі ды Кейта ўсе персанажы сімвалізуюць пэўную сацыяльна-гістарычную, палітычную ці эканамічную з'яву. Прэзідэнт, Святчэннік, Ісак, Леанора, Адольф, Людовік, Аўгуст, Фарыд, Хіра Сіта, сіньёра Фанфані, Антоніо, Вудро, Аліса, Філосаф — тут усё падабрана вельмі прадумана, уважліва. Сцэнічная «маса» таксама

не зусім безаблічная: ахова, мушкецёры, легіянеры, воіны, танцоўшчыцы, спявачкі. Патрэбна было, вядома, вялізнае майстэрства, каб знайсці контрапункт для ўсёй сюжэтнай шматпланавасці, эмацыянальнай і лагічнай «шматгалосіцы». У п'есе дзве завязкі — экспазіцыйная і ўласна падзейная. І абедзве яны атрыбутыўна неабходны: у першай акрэсліваецца мастацкая звышзадача твора, у другой — вызначаецца расстаноўка канфліктных сіл. У экспазіцыі, зрэшты, ужо «наклёўваецца» першы струменьчык завязкі. Менавіта сустрэча ўсемагутнага фізіка Кейта з Крошкай і Бімам прымусіла яго ў апошні момант перарэзаць правадкі да пускавых кнопак, прадухіліўшы тым самым тэрмаядзерную катастрофу. Пікіроўка з маладымі, закаханымі людзьмі прымусіла па-новаму паглядзець на сэнс і ўласнага жыцця, і чалавечага існавання наогул.

Гэтая сцэна толькі на першы погляд здаецца трывіяльнай. На самай жа справе ў ёй заключаны шматзначны сэнс. Вядома, без макаёнкаўскай насмешкі, кплівасці і тут не абышлося, адпак жа пераважае аўтарская горыч, несхаваная занепакоенасць: чалавецтва пачало губляць існасныя арыенціры, разумныя мэты свайго існавання. Гэтая сцэна спатрэбілася драматургу яшчэ і для таго, каб з большым кантрастам паказаць чарнату душ і помыслаў тых, хто гатовы дзеля захавання сваёй уласнасці спапяліць усю планету. Вось пасля фарысейскай прамовы Прэзідэнта, у якой ён «абгрунтаваў» неабходнасць ядзернага ўдару па чырвоных, асвятляецца прасторны хол у падземным сховішчы. Ды не звычайным сховішчы, а цэлым падземным царстве — ідэальным збудаванні эпохі апошняга росквіту буржуазнай дэмакратыі, яе навукі і тэхнікі.

«Сюды сабрана,— заўважае драматург у рэмарцы,— эліта дзелавых людзей з усяго свету: бізнесмены, прадпрыемцы, гаспадары буйнейшых манаполій, нацыянальных і міжнацыянальных карпарацый, банкіры і віднейшыя палітыканы сучаснасці. Гэта тыя ананімы, якія скрывалі свае імёны, маскіруючыся тэрмінамі «ваенна-прамысловы комплекс» і «транснацыянальныя карпарацыі».

Некаторыя з іх усхваляваны недахопам інфармацыі, другія ўрачыста манументальныя, як на малітве, бо залішне інфармаваны і дакладна ведаюць, на які трагічны рубеж яны прывялі чалавецтва».

Далейшыя падзеі разгортваюцца — аж да самага фіналу — толькі ў падзямеллі. Мікрацарства выбраных мусіла чвэрць стагоддзя чакаць, пакуль на паверхні скончыцца радыяцыя. Прынцыпы ўзаемаадносін вызначыла Тайная Дума: недатыкальнасць прыватнай уласнасці, права свабоды прадпрымальніцтва і асабістай ініцыятывы. І — закруцілася карусель непрадбачаных падзей. Тайная Дума, вырашыўшы адмежавацца ад злачынства Прэзідэнта, скрозь пальцы глядзела, як уладу ўзурпіраваў Адольф. За нецярпімасць да неарыйцаў таму давялося ўступіць трон Людовіку. Потым Свяшчэннік вянчаў на трон Аўгуста, Фарыда і нарэшце — Хіра Сіта, якога ахоўвалі воіны, упрыгожаныя пер'ямі і ўзброеныя тамагаўкамі. Драматург не рызыкнуў дазволіць сваім героям «прагрэсіраваць» у сацыяльным развіцці яшчэ далей, а дакладней, яшчэ глыбей. Думка яго і так была зразумелай, яе ж ілюстрацыі — наглядныімі і ўражлівымі. Калі цывілізацыя не хоча знікнуць, адкаціцца да стадыі дзікунства, дасягненні чалавечага розуму патрэбна пускаць не на ўдасканаленне сродкаў знішчэння,

а на павышэнне ўсебаковай камфортнасці існавання кожнай асобы. Самаізаляцыя капіталістычнай эліты пайшла чалавецтву на карысць. Калі пасля магутнага землятрусу рухнула столь схавішча, расчараваныя яго насельнікі пачулі ад Біма:

«Без вас мы ліквідавалі ваенныя бюджэты, распусцілі арміі. На нашай планеце ўжо няма пустынь: няма бедных і галодных, няма прыніжаных і недатыкальных. Усюды ўстанавілі трохгадзінны рабочы дзень. Праца стала радаснай, а вольны час людзей, іх адпачынак — самым цяжкім клопатам дзяржавы. Самае загружанае міністэрства адпачынку, затым міністэрства культуры і абрадаў. Праца строга нарміравана для ўсіх. Толькі пісьменнікі заўсёды начамі пішуць нешта. І ўсюды ўсё цвіце, красуе! А ўсе людзі свабодна, вольна дыхаюць колькі хочуць. Планета стала ўзорна-паказальнай!»

Трагікамедыя ўражвае не толькі сваёй палітычнай актуальнасцю, вастрынёй праблематыкі, але і майстэрствам абмалёўкі персанажаў. Кожная дзейная асоба ўспрымаецца ледзь не са скульптурнай выразнасцю. У пачатку 1982 года рэжысёр Б. Гла-голін прыступіў да пастаноўкі п'есы ў Рускім тэатры імя М. Горкага. Былі падрыхтаваны дэкарацыі, распрацаваны ролі. Але спектакль па не вельмі зразумелых прычынах не выйшаў.

П'еса «Дыхайце эканомна!..» была пастаўлена тэатрам імя Ленінскага камсамола Беларусі ў сакавіку 1987 года.

## ВОРАГІ (с. 269—303)

Драма «Ворагі» з'яўляецца першай шматактавай п'есай А. Макаёнка. Напісана яна ў пачатку 1947 года. Выбар тэмы быў абумоўлены перш за ўсё агульным для беларускай літаратуры імкненнем па гарачых слядах адлюстраваць грандыёзныя падзеі Вялікай Айчыннай вайны, паказаць веліч і хараство подзвігу савецкіх людзей у барацьбе з фашысцкімі акупантамі. Пазнаць будучага А. Макаёнка ў гэтай п'есе, вядома, можна, аднак зрабіць гэта не так і проста. Адсутнасць творчага вопыту не дазволіла маладому драматургу цалкам раскрыць свае магчымасці. Асноўным недахопам «Ворагаў» з'яўляецца тое, што драматург не здолеў стварыць паўнакроўныя сцэнічныя характары, цалкам паспадзяваўшыся на драматызм падзей. Героі па сутнасці «прывязаны» да сюжэтных знітаванняў, ім не дадзена магчымасць самараскрывацца; самаразвівацца, дзейнічаць у адпаведнасці з унутранай логікай сваіх характараў. Пабудаваная па ўзорах ваеннай драмы сярэдзіны 40-х гадоў, п'еса «Ворагі» вылучаецца хіба што толькі больш умелай кампаноўкай дэтэктыўна-прыгодніцкага сюжэту, зладжанай, цікавай інтрыгай. Са станоўчых якасцей варта яшчэ адзначыць імкненне аўтара адмовіцца ад стэрэатыпаў герояў, якія былі распаўсюджаны ў тагачаснай беларускай драматургіі. У лагеры фашыстаў у яго не адны толькі ёлупы ды паўдуркі, а сярод партызанаў ёсць і не зусім бездакорныя людзі. Зрэшты, і вобраз здрадніка Сліваншына атрымаўся досыць цікавым, хоць яго абмалёўка яўна грашыць «пераборам» дэманічных рысаў і фарбаў.

## ВЫЙГРЫШ (с. 304—345)

Завяршыў п'есу «Выйгрыш» А. Макаёнак на другім курсе Рэспубліканскай партыйнай школы пры ЦК КПБ — у 1948 годзе.

Аднаактовы яе варыянт пад назвай «Быць бычку на вяровачцы» (не захаваўся) планавалася паставіць сіламі аднакурснікаў (гл. прадмову да гэтага Збору твораў). У 1950 годзе драматург перапрацаваў п'есу, мяркуючы прапанаваць яе аднаму з прафесійных тэатраў, аднак менавіта ў гэты час яго захапіла задума напісання драмы «На досвітку», якая і не дазволіла яму давесці справу да канца. Зрэшты, прычыны аўтарскага занядбання п'есы «Выйгрыш» не вычэрпваюцца недахопам часу, новымі творчымі задумамі. Ёсць у драме сімптаматычная мясціна:

«Юрка *(Леаніду)*. Так што ты духам не падай. Во прачытай *(чытае на Дошцы гонару)*. «Сацыялістычнае спаборніцтва гаворыць: адны працуюць добра, другія лепш. Даганяй лепшых і дабівайся агульнага пад'ёму». У мінулым годзе ты першынства заваяваў, а ў гэтым годзе, відаць, Ліза лепш папрацавала. Так што крыўдзіцца няма на каго.

Леанід. Я і не крыўджуся.

Юрка. І духам нечага падаць. Ты, як камсамолец, павінен наадварот, радавацца, што ў нас яшчэ адно звяно вырасла. Гэта ж і ёсць агульны пад'ём.

Леанід. Што ты мяне агітуеш? Я і сам гэта даўно ведаю».

Ніякіх антаганізмаў, ніякіх больш-менш сур'ёзных супярэчнасцей! Адны працуюць добра, другія лепш. Адны героі добрыя, другія яшчэ лепшыя... Якраз па чыстых канонах «тэорыі» бесканфліктнасці. Вось тут, здаецца, і ёсць адгадка, чаму А. Макаёнак адцураўся ад намеру «прабіць» свой «Выйгрыш» на якую-небудзь сцэну, не паспрабаваў яго надрукаваць. Не тымі клопатамі жыў ён у пачатку 50-х гадоў, каб усур'ёз дабівацца сустрэчы з гледачом пры пасрэдніцтве менавіта такой п'есы — зграбнай па форме, але з фальшывінкай у змесце. Хто-хто, а А. Макаёнак настолькі ведаў праўду жыцця, што не мог цешыць сябе беспадстаўнымі надзеямі: твор атрымаўся лакіровачным — як большасць тагачасных нашых п'ес, прысвечаных паказу надзённай рэчаіснасці. І ўсё ж можна з упэўненасцю сцвярджаць, што без «Выйгрышу», без «Усходаў шчасця» не было б славутай сатырычнай камедыі «Выбачайце, калі ласка!». У мастацтве, як і ў навуцы, адмоўны вынік іншы раз больш плённа адгукнецца ў будучым, чым станоўчы. Дапусцім недапушчальнае: малады драматург, крыху завастрыўшы сітуацыі, падшліфаваўшы характары, захацеў і здолеў прабіцца на сцэну і ў друк. І — атрымаў станоўчыя водгукі. Сітуацыя, заўважым, зусім не фантастычная: хвалілі яшчэ і як хвалілі падобныя п'есы на парубежжы 40—50-х гадоў. Можна быць упэўненым — напісанне «Выбачайце, калі ласка!» абавязкова адклалася б на невядома які тэрмін. Адклалася б, такім чынам, і станаўленне буйнога драматургічнага таленту. Несумненна, Макаёнак, як гаворыцца, усё роўна стаў бы Макаёнкам. Зарукай таму — яго грамадзянскі тэмперамент, прыродная адоранасць, сацыяльная і палітычная закалка... І ўсё ж яму патрэбен урок «Выйгрышу», каб па-відавочнаму пераканацца ў творчай няздатнасці патрабаванняў «тэорыі» бесканфліктнасці. Усё, здаецца, зрабіў драматург, каб п'еса атрымалася, «адбылася»: і персанажы старанна абмалёўваў, і сітуацыі выбіраў цікавыя, і дзею ўсімі мерамі ажыўляў, дынамізаваў, але... Сапраўднага ўзрушэння ўсё ж дасягнуць не здолеў: чытачу вельмі нялёгка пранікнуцца трывогамі і клопатамі, якія даймаюць герояў п'есы. Сённяшні чытач дастаткова дасведчаны, каб зразумець, што ў сельскай рэчаіснасці першага пасляваеннага

пяцігоддзя было шмат больш важных надзённых праблем, чым праблема перавыхавання вельмі някепскага хлопца Аўласа, міма якіх малады драматург прайшоў з высакамернай няўвагай.

Творчыя пралікі драмы «Выйгрыш» відавочныя, аднак у параўнанні з «Ворагамі» гэта быў крок наперад. У «Выйгрышы» ўжо адчуваецца рука пісьменніка-прафесіянала. Самым жа важным аўтарскім набыткам варта лічыць тое, што ён навучыўся індывідуалізаваць псіхалагічную характарыстыку персанажаў, адшукваць спецыфічныя, непаўторныя рысы асобы, што ў творчасці для тэатра мае першаступеннае значэнне.

Драматург доўга шукаў назву для п'есы. У машынапісны яе тэкст, які захоўваецца ў архіве пісьменніка, устаўлены рукапісны аркуш паперы. На адным яго баку на ўсю старонку сінім алоўкам намалявапы пытальнік, а чарнільнай ручкай напісаны варыянты назваў: «Быць бычку на вяровачцы», «Хворы зуб», «Жартаваць каханнем небяспечна», «Не кахай жартуючы!». Пад спісам дзеючых асоб п'есы ў гэтым машынапісе ёсць і яшчэ адзін варыянт: «Быць бычку на лычку». Назва «Выйгрыш» узнікла пазней, калі паўстала пытанне аб уключэнні драмы ў Збор твораў. На адвароце згаданага вышэй аркуша акуратным каліграфічным почыркам пералічаны дзеючыя асобы. У ім адсутнічае толькі адна пазіцыя: «калгаснікі, калгасніцы» ды крыху адрозніваецца расстаноўка персанажаў. Праўда, дэфініцыі больш разгорнутыя, таму прывядзём гэты спіс цалкам:

1. Ліза — звеннявая — дзяўчына гадоў 19;
2. Нічыпар — яе бацька — брыгадзір — гадоў 45;
3. Тамара — сяброўка Лізы;
4. Аўлас — хлопец гадоў 24 — баяніст;
5. Аўдоцця — яго маці — гадоў 45;
6. Юрка — сакратар камсамольскай арганізацыі — 20 год;
7. Леанід — звеннявы — хлопец гадоў 20;
8. Сцяпан — хлопец гадоў 19 — баяніст;
9. Косця — аматар мастацкай самадзейнасці;
10. Кузьма — конюх у брыгадзе Нічыпара — год пад 50;
11. Пузікаў — памочнік рахункавода — хлопец год 18;
12. Кладаўшчык;
13. Дзед Архіп — гадоў 90.

П'еса нідзе не друкавалася і не ставілася. Публікуецца ўпершыню. Датуецца 1948 годам.

*Сцяпан Лаўшук*

# ЗМЕСТ

**Макаёнак А.**
М 15 Збор твораў. У 5 т. Т. 2: П'есы /Уклад. і камент. С. С. Лаўшука.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 367 с., 4 л. іл.

Творы народнага пісьменніка Беларусі Андрэя Ягоравіча Макаёнка неаднаразова выдаваліся і перавыдаваліся на беларускай, рускай мовах і мовах братніх рэспублік. Выходзілі і ў перакладах на мовы многіх краін свету. У другі том Збору твораў уключаны п'есы «Таблетку пад язык», «Камар», «Пагарэльцы», «Верачка», «Дыхайце эканомна!..» «Вогі», «Выйгрыш».

ББК 84Бел7

М $\frac{4702120200-142}{М\ 302(03)-87}$ 99—87

*Андрей Егорович Макаенок*

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ
В ПЯТИ ТОМАХ

Том 2

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *П. З. Шаўцоў*. Мастак *Ю. М. Цюрын*. Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін*. Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал*. Карэктар *Я. Ф. Харко*.

ІБ № 2575

Здадзена ў набор 02.12.86. Падп. да друку 14.09.87. АТ 07683. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 19,32+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 20,16. Ул.-выд. арк. 21,48. Тыраж 7000 экз. Зак. 3084. Цана 1 р. 70 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.